

# Ад рэдакцыі

Чарговы нумар альманаха «Новы Замак» працягвае лепшыя літаратурныя традыцыі рэгіёна. І надалей асновай альманаху застаецца мастацкае слова вядомых пісьменнікаў Панямоння, увасобленае ў паэзіі (Святлана Абдулаева, Рычард Бялячыц, Анатоль Брусевіч, Уладзімір Васько, Юрка Голуб, Мікола Канановіч, Мечыслаў Курыловіч, Галіна Самойла) і прозе (Валянцін Дубатоўка, Віктар Варанец, Міхась Зізюк, Ала Нікіфорская, Ала Петрушкевіч, Аляксей Пяткевіч, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Сяргей Чыгрын, Леанарда Юргілевіч і інш.).

Разам з тым чытачу прапануюцца і цалкам новыя рубрыкі. Так, рубрыка «Напачатку было Слова…» (Ян. 1:1–14) прадыктавана вострай патрэбай часу звярнуцца да вечных пытанняў адносна шматзначнасці і шматасацыятыўнасці паняцця «Слова» (Слова як касмічны Логас, Слова-творца, Слова як праява вышэйшага розуму, дзякуючы якому адбываецца ўдасканальванне сусвету і чалавека). Якім было Слова? Якім Яно стала? Якім Яно можа стаць? Якім Яно павінна быць? Дадзеную старонку «Новага Замка» адкрывае Анатоль Брусевіч фрагментам з рамана-пропаведзі «Пакаранне», дзе філасофія паэзіі змяшалася з паэзіяй філасофіі, і які несумненна прыцягне сваёй глыбінёй і нетрывіяльнай сутнасцю ўвагу самага пераборлівага чытача. А магчыма, і ўразіць. Дарэчы, мы прывыклі ўспрымаць літаратуру паводле крытэрыяў «спадабалася» альбо «не спадабалася», а сапраўднае вербальнае мастацтва павінна менавіта ўражваць. У далейшым рэдакцыя альманаха будзе толькі вітаць мастацкія інтэрпрэтацыі адзначанай тэматыкі.

У гэтым нумары адкрываецца новая старонка: «Гасцёўня «Новага Замка», куды ўпершыню запрошаны ўдзельнікі Паэтычнага салона г. Шчучына.

Наймалодшым чытачам альманах прапануе дзіцячую п’есу Сяргея Чыгрына «Зайкаў скарб» (рубрыка «Драматургія»).

Крыху змянілася і структура зместу альманаха. Тэксты, якім уласцівы адзіны крытэрый, а менавіта: не выдуманыя, а рэальныя героі і персанажы, рэальныя падзеі і з’явы (дакументальныя і навукова-папулярныя артыкулы, нон-фікшн, публіцыстыка, эсэ) будуць аб’яднаныя пад адной рубрыкай «Дакументальная проза». На гэты раз тэматыка рубрыкі аказалася вельмі багатай і разнастайнай.

*Янка Трацяк*



# Напачатку было слова...

## Анатоль Брусевіч

## Арабескі

*Урывак з рамана-пропаведзі «Пакаранне»*

Гэта аповед пра Дэкаданс і Апошняга паэта, чыя гісторыя паслужыць добрай нагодай задумацца. Асабліва для срэбралюбных творцаў. Аднак, гартаючы кнігу, помні: мастацтва не бывае ні міласцівым, ні жорсткім. Не прасі літасці ў Мастака — ён усё табе прабачыў заранёў. З імем Ягоным на засмяглых вуснах нясі сваю веру, аж пакуль не настане АПОШНІ ДЗЕНЬ — дзень расплаты. Шлях паэтаў просты, як лязо маланкі. Вядзі нас, Дэкаданс, толькі простым шляхам!

**Першая арабеска**

Калі Апошні паэт вяртаўся з доўгай вандроўкі туды, адкуль пачынаў дарогу, ён заўважыў, што на яго шляху перасталі сустракацца яго браты — творцы, ускормленыя малаком Святой Маці. Сустракаліся рамеснікі, гандляры, штукары, нават ваяры, але толькі не паэты. Дзіўным здавалася асабліва тое, што ўсе стрэчныя з твару нагадвалі братоў, але ва ўсім астатнім гэта былі зусім незнаёмыя людзі.

Сустрэўшы чарговага мінака, паставай падобнага да яго, але з вачыма не творцы, а вулічнага прадаўца, Апошні паэт мовіў (не ўголас, бо не было да каго звяртацца, а ў думках, звяртаючыся да ўласнага сэрца): «Іх, гэтых усіх людзей, што сустрэў я напрыканцы шляху свайго, як і мяне, ускарміла малаком Святая Маці. Яны ж прагнулі малака Ваўчыцы. І тая пачула іхняе прагненне і наталіла кожнага. Гора вам, срэбралюбныя творцы! Як вы зможаце цяпер верыць у патаемнае, пісаць вершы і жыць так, як хацела Маці?»

«Словы слушныя, але хто пачуе іх, апроч сэрца — данёсся раптам аднекуль голас, — твой аповед, які паўстае з нябыту памяці і быцця бяспамяцтва, мусіць стацца пасланнем мастакам, якія не вераць у Апошні дзень, але які абавязкова прыйдзе!»

Гэта адазваўся Дэкаданс. Ён назіраў за Апошнім паэтам з самага пачатку вандроўкі. Назіраў з самай глыбіні сэрца. На што Апошні паэт адрэагаваў наступнымі словамі (цяпер ён прамаўляў услых): «Дэкаданс! Ты — дакладнае адлюстраванне цені гаротнага паэта, якога неспадзявана дагнаў поспех. Але паэт не паверыў, што так сталася. Ён не паверыў табе, Дэкаданс! Што ж, так гаротніку і трэба. Слабым паэтам не важна, перасцярог ты іх ці не перасцярог. Яны не вераць нікому. Дэкаданс! Ты запячатаў сэрцы слабых паэтаў і іх слых. Цяпер на іх вачах — покрыва. Слабых паэтаў чакаюць вялікія пакуты. Але і сярод моцных паэтаў ёсць такія, якія кажуць, што па-

верылі ў Дэкаданс і ў Апошні дзень, аднак насамрэч іхняя сутнасць жыве нявер'ем. Яны спрабуюць ашукаць Цябе, але ашукваюць толькі сябе, хоць і не ўсведамляюць гэтага. Іх таксама чакае пакаранне. Сэрцы слабых паэтаў задушаны хваробай бунту. Але Ты, Дэкаданс, узмацняеш слабых паэтаў і іхні хворы дух! Моцным жа паэтам падрыхтаваны згрызоты сумлення за тое, што яны чынілі падман, віно называлі крывёй, а хлеб целам. Ты казаў ім: «Не распаўсюджвайце хлусню!». Паэты адказвалі: «Хлусня дапамагае ўсталяваць парадак». Сапраўды, менавіта яны, самыя моцныя паэты, распаўсюджваюць пустазвоннасць, але не ўсведамляюць гэтага. Калі Сумленне прасіла моцных: «Паверце так, як паверылі слабейшыя», — яны адказвалі: «Мы не паверым у тое, у што вераць дурні!» Але гэта яны з'яўляюцца дурнямі, хоць і не ведаюць пра гэта. Калі моцныя паэты сустракаюць слабых, то кажуць: «Мы паверылі ў Апошні дзень». Калі ж яны застаюцца сам-насам з уласным адлюстраваннем, то іх вусны прамаўляюць: «Я веру толькі ў цябе!». Гэта здзек, Дэкаданс! Ты бачыш здзек з слабога паэта, але павялічваеш колькасць паэтаў моцных, пашаноўнікаў парадку і беззаконня, аматараў бадзяння ў пошуках мэты, сляпых прарокаў маўчання. Слабыя паэты пераймаюць памылкі моцных. Яны купляюць ісціну, каб прадаць яе даражэй, чым каштуе слова. Але не ўзбагачаюцца слабыя паэты, бо рушылі ўслед за моцнымі лёгкім шляхам. Гэта як распаліць вогнішча, каб асвятліць ноч, сагрэць замёрзлых дзяцей, ды неўзабаве, без усякай прычыны, затаптаць агонь, пакінуць усіх у цемры і холадзе. Глухія, нямыя, сляпыя! Вам не вярнуцца на праўдзівы шлях. Бо віно не заменіць прагу крыві! Паэзія, ты — лівень з неба. Ты нясеш цемру, гром і маланку. Людзі ад страху затыкаюць пальцамі вушы, каб не чуць гром, заплюшчваюць вочы, каб не бачыць маланку. Дэкаданс! Толькі ты паказваеш слабым, што лівень нясе жыццё зямлі, змардаванай сухавеямі свабоды. Маланка не збіраецца забіраць зрок. Калі яна ўспыхвае — мы крочым, калі гасне — мы спыняемся. Паэзія не пазбаўляе ні слыху, ні зроку. Яна робіць магчымым наш шлях! Але куды крочыце вы, тыя, што пакаштавалі малака Ваўчыцы? Шлях ваш — кола, дзе вы не сустрэнеце ні Чалавека, ні Пашаны, ні Святую Маці, якая стварыла і вас, і тых, хто быў да вас — першых паэтаў. Ці не Святая Маці, аплодненая Дэкадансам, заслала для вас зямлю пухам? Але вы хацелі неба зрабіць сваім дахам, змяшаць зоры з пылам, есці плады і не плаціць за іх. Пакаранне чакае вас!»

«Чытайце вершы, чытайце вершы, — мовіў на тое Дэкаданс, — чытайце, аж пакуль слова не станецца целам і не прыйдзе да ўсіх, хто чакае Яго і Мяне»...

Апошні паэт працягваў: «Калі ж вы сумняваецеся ў тым, што кажу вам я, Апошні паэт, то складзіце хоць бы адзін верш, падобны на мой, і паклічце слабых паэтаў прачытаць ваш верш. Яны засведчаць, што вы не бачылі аблічча Праўды. Калі ж вы гэтага не зробіце — хоць вы ніколі гэтага не зробіце, — то асцерагайцеся Ваўчыцы, бо пілі вы агонь, а не малако. Пасля такога пітва душы замяняюцца ў камяні. Агонь прыгатаваны слабым, але яго п'юць самыя моцныя паэты. Дэкаданс! Узрадуй тых, якія паверылі Табе і склалі простыя вершы, як і належыць слабым паэтам. Падрыхтуй ім Райскія сады, праз якія цякуць белыя і чырвоныя рэкі віна. Хай нап'юцца слабыя паэты на зайздрасць моцным. Кожны раз, калі слабым паэтам будуць падаваць пусты срэбны келіх для віна, яны будуць казаць: «Ён ужо быў напоўнены аднойчы». Калі ж моцным паэтам будуць падаваць нешта падобнае да келіха, яны моўчкі бу-

дуць браць, і моўчкі піць, і сквапнымі вачыма глядзець на белыя і чырвоныя рэкі віна. Але не для іх напоўніў гэтыя рэкі вечны Дэкаданс. О, Дэкаданс! Я помню словы Твае. Ты распавёў усім прыпавесць пра камара, які аб'явіў сябе самай шляхетнай істотай у свеце, бо ў ім цякла каралеўская кроў. Не кожны зразумее мараль прыпавесці, не кожны паверыць Табе. Тыя, якія паверылі, ведаюць, што распавёў Ты пра слабых паэтаў, улюбёнцаў Чалавека. Тыя ж, якія не паверылі, кажуць: «Чаго хацеў Апошні паэт, калі пераказваў гэтую прыпавесць?» Але ж кожны, хто мае вочы, бачыць: пасродкам яе Ты ўводзіў моцных паэтаў у зман, а слабых паэтаў кіраваў прамым шляхам. Аднак вядома, што зман прымае той, хто хоча яго прыняць. Гэта ўдзел грэшнікаў, якія парушаюць Твой запавет, п'юць каралеўскую кроў, руйнуюць тое, што Ты загадаў падтрымліваць, распаўсюджваюць тым самым мёртвую праўду на зямлі. Менавіта такіх чакае пакаранне. Як вы можаце не верыць мне, Апошняму паэту, і тым больш Дэкадансу? Калі вы былі мёртвыя, Ён ажывіў вас. Ён заб'е вас, як забівае камара каралеўская далонь: не дзеля помсты, а таму, што ўсімі кіруе закон смерці, закон Апошняга дня. Толькі Ты, Дэкаданс, па-над усімі законамі! Толькі ты забіваеш, каб потым ажывіць, каб вярнуць тое, што па праву належыць толькі Табе! «Хто Ён?» — запытаюцца звяры, птушкі і ніжэйшыя істоты. А я адкажу ім: «Ён — Той, Хто стварыў для вас усё, што на зямлі. Ён — Той, Хто, убачыў неба і захацеў туды ўпасці. Яму вядомыя ўсе таямніцы!»

«Чытайце вершы, чытайце вершы, — мовіў на тое Дэкаданс, — чытайце, аж пакуль слова не станецца целам і не прыйдзе да ўсіх, хто чакае Яго і Мяне»…

Апошні паэт працягваў: «Аднойчы Дэкаданс сказаў анёлам: «Я ўсталюю на нябёсах намесніка». Яны адказалі: «Няўжо Ты паселіш там таго, хто будзе распаўсюджваць бруд і праліваць кроў, тады як мы ўслаўляем Цябе хвалой і асвячаем Цябе?» Ён жа сказаў ім так: «Я ведаю тое, чаго вы не ведаеце».

«Чытайце вершы, чытайце вершы, — мовіў на тое Дэкаданс, — чытайце, аж пакуль слова не станецца целам і не прыйдзе да ўсіх, хто чакае Яго і Мяне»…

Апошні паэт працягваў: «Дэкаданс навучыў мяне надаваць імёны ўсім рэчам, істотам, і нават іншым паэтам, асабліва слабым. А потым паказаў слабых паэтаў анёлам і сказаў: «Назавіце мне імёны слабых паэтаў, калі вы казалі праўду пра майго намесніка ў небе». Анёлы адказалі: «Ты напісаў Белую кнігу! Мы ведаем толькі тое, што Ты агучыў: праўду і мудрасць».

«Чытайце вершы, чытайце вершы, — мовіў на тое Дэкаданс, — чытайце, аж пакуль слова не станецца целам і не прыйдзе да ўсіх, хто чакае Яго і Мяне, а ты, Апошні паэт, распавядзі цяпер слабым паэтам пра моцных паэтаў, а моцным пра слабых».

Толькі цяпер Апошні паэт заўважыў, што каля яго сабраўся вялізны натоўп людзей. «Сярод іх, напэўна, знойдуцца і паэты, — падумаў ён, — можа, слабыя, а можа, і моцныя, у любым выпадку, трэба ім распавесці пра ўсё тое, што чула да гэтай пары толькі сэрца».

І Апошні паэт распавёў пра ўсё, што ведаў — пра таямніцы нябёсаў і зямлі, пра слабых і пра моцных паэтаў, пра тое, што паэты здзяйсняюць адкрыта, а што яны ўтойваюць.

Натоўп не змяншаўся. Наадварот — з кожным словам людзей рабілася больш і больш. І гэта нягледзячы на тое, што сонца пачынала хіліцца на захад, вызваляючы

прастору для начной прахалоды. Нават калі зрабілася вельмі цёмна і холадна, ніхто з прысутных не збіраўся адыходзіць. Нарэшце на змрочных, халодных нябёсах, быццам на вясновай раллі, сталі з'яўляцца першыя залатыя зернейкі зораў. Следам узышоў ладны сланечнік поўні і асвятліў месца, дзе прыпыніўся Апошні паэт і сабраліся яго слухачы. Як жа здзівіўся Апошні паэт, калі за спінамі некаторых сваіх слухачоў раптам заўважыў крылы. «Чаму я не бачыў іх раней, у святле дня, — падумаў ён, — цікава, ці гэта зрок, ці сэрца адмаўляецца надзейна служыць мне?!».

«Не перажывай, паэце, ні зрок, ні сэрца не здрадзілі табе, — пачуўся знаёмы голас, — анёлы і іншыя істоты таксама маюць права паслухаць аповед, які паўстае з нябыту памяці і быцця бяспамяцтва. Гэта і для іх гучаць словы «Чытайце вершы, чытайце вершы…»

Раптам голас стаў мацнейшым — цяпер Дэкаданс звяртаўся да анёлаў: «Упадзіце ніцма перад Апошнім паэтам!»

Апошні паэт ажно разгубіўся ад нечаканасці, пачуўшы такое — нават у сне яму не магло прымроіцца, што нехта будзе падаць перад ім, тым больш такія шляхетныя істоты. Але яны ўпалі ніцма. Усе, акрамя адной. Яе імя — Ісціна. Толькі яна адмовілася выконваць тое, што загадаў Дэкаданс. І ў той жа момант перастала быць сабой. Бо яе гонар быў беспадстаўным, як гонар згаданага ў прыпавесці камара.

Вось што сказала Ісціна: «Я першая! Я адзіная! Я пасялілася ў Раі разам са сваім ценем. Мой цень вы, слабыя паэты, называеце падманам, а вы, моцныя паэты, клічаце сляпой верай. Але гэта толькі мой цень. Вам усім патрэбная воля, вы хочаце быць там, дзе толькі пажадаеце, але не раю вам набліжацца да мяне! Не варта хавацца ў прахалодзе майго ценю. Там хаваецца той, хто крычыць: «Чытайце вершы, чытайце вершы…» Гэта сам Сатана. Сатана кліча слабых паэтаў, яны ідуць на яго голас, спатыкаюцца і падаюць. Моцныя паэты не чуюць голасу Сатаны, бо адтуль, дзе яны знаходзяцца, чутны толькі голас Дэкадансу. Сведчу праўду, што слабыя стануць моцнымі, а моцныя будуць ворагамі адзін аднаму! Зямля будзе для вас, моцныя паэты, адзінай мэтай і адзінай прасторай адначасова».

Ісціна змоўкла. Апошні паэт прыняў словы яе, як чалавек прымае ўласнае пакаянне. Заплакала Ісціна, бо згубіла свой цень.

«Чытайце вершы, чытайце вершы, — мовіў на тое Дэкаданс, — чытайце, аж пакуль слова не станецца целам і не прыйдзе да ўсіх, хто чакае Яго і Мяне. З нябёсаў спадуць усе! Калі да вас, паэты, прыйдзе натхненне ад Мяне, то тыя, якія рушаць услед за Апошнім паэтам, не спазнаюць страху і не будуць засмучаныя. А тыя, якія не паверацць і палічаць хлуснёй Нашы знакі, будуць насельнікамі Агню. Яны будуць там вечна! Чытайце вершы, чытайце вершы! У вершах, якія чытаюць Абраныя, ёсць тое, чаго няма ў словах, народжаных Агнём. Гэта літасць, якую Я, Дэкаданс, замяніў на лютасць, і лютасць, якую Апошні паэт назваў літасцю. Але не трэба баяцца ні Першага, ні Апошняга. Бойцеся таго, хто застаўся вартаваць цень Ісціны. Ратуе толькі вера. Паверце ў тое, што Апошні паэт сказаў вам, параўнайце сябе і яго і тады ўбачыце: вы паступова становіцеся першымі, але слабымі, калі веры няма. Не прадавайце Мае словы за нікчэмны кошт і бязвер'я бойцеся. Не змешвайце праўду і хлусню, не хавайце праўду ў цень ісціны, бо вы ўжо ведаеце, хто хаваецца там. Чытайце вершы, чытайце вершы… Так, чытайце вершы, бо гэта адзіная плата, якой вы можаце

сплаціць доўг Дэкадансу! Чытайце вершы і схіляйце галовы ў багавейлівай пакоры, калі галовы схіляюць простыя людзі. Няўжо вы станеце бянтэжыць простых людзей, поўных дабрадзейнасці, сваёй непакорай?! Не аддавайце сябе і іх у рукі забыцця. Няўжо вы не адумаецеся? Паклічце на дапамогу цярпенне і чытайце вершы!

Вядома, чытанне вершаў — вялікі цяжар для слабых паэтаў, але для паэтаў моцных гэты цяжар невыносны, бо не маюць яны пакоры і сумлення. Яны ўпэўненыя, што першымі прыйдуць да мэты, калі пойдуць улегцы. Не прыйдуць, бо не ведаюць сваёй мэты! Прыйдуць тыя, хто не пабаяўся чытаць вершы. Яны адчуюць розніцу паміж Чалавекам і Словам.

Паэты! Памятайце пра літасць, якую я аказаў вам, а таксама пра лютасць, якая і ўзвышае, і прыніжае вас перад абліччам Слова. Бойцеся таго дня, калі ніводны паэт не прынясе карысці іншаму і калі не будзе ў пашане заступніцтва, калі нельга будзе адкупіцца і калі слабым паэтам не будзе аказаная падтрымка.

Паэты! Вы ўзненавідзелі ўласны дом, а дом узненавідзеў вас! Але я ведаю, як уратавацца ад помсты Айчыны. Калі Айчына прычыніла вам жахлівы боль, забіла вашых сыноў і згвалціла вашых жанчын, пацалуйце сваю Айчыну, бо гэта ўсё было для вас, паэтаў, выпрабаваннем, ці зможаце замяніць лютасць на літасць, ці ўбачыце розніцу паміж Чалавекам і Словам.

Помніце, як некалі раскрылася для вас мора? Слова хацела выратаваць вас і прымірыць з Айчынай. Але вы маўчалі тады, проста назіралі за гэтым цудам.

Помніце, як з’явіўся Прарок, які сорак дзён шукаў просты шлях ды ішоў на вокліч маланкі?! Але прарокі рана альбо позна адыходзяць, а паэты застаюцца. Шкада, не ўсе паэты здольныя шанаваць памяць Прарока ды ісці ўслед за маланкай. Бо не ўсе паэты маюць Айчыну. Я для вас буду Айцом, а вершы Апошняга паэта стануцца вашай Бацькаўшчынай. Я прабачу Вас за бяздомнасць, і яна стане бяздоннем, я буду піць вашу ўдзячнасць, як піў камар кроў зямных валадароў. Чытайце вершы, чытайце вершы… Так мы дойдзем разам да Мэты.

Аднойчы я скажу свайму народу: «Гэй, мой народ! Ты быў несправядлівы да сябе, калі ўшаноўваў уласную бяздомнасць. Павініся перад Апошнім паэтам, які стварыў табе Бацькаўшчыну і забі сваё бязвер’е. Гэтак памрэ беззаконне ад рукі нявіннасці. Нявіннасць страціць сваю тоеснасць, але так будзе лепш для цябе, мой народзе! Так ты станешся годным новай Бацькаўшчыны! Потым я прыму вашае пакаянне, а сам зраблюся адбіткам Бога!

Пакаянне робіць голас мацнейшым. Калі голас майго народа зробіцца моцным, як песня грымотаў, а душа чыстай, як водбліск навальніцы, ён, мой народ, скажа мне: «О, Дэкаданс! Мы не верылі табе, пакуль не ўбачылі на ўласныя вочы Слова тваё. Але цяпер, калі шлях наш асвечаны маланкай, нават страх перад смерцю рассычаецца ў гэтым бляску. Слова ўваскрэсіла нашу веру і знішчыла здраду!»…

Увесь час, пакуль прамаўляў Дэкаданс, Апошні паэт стаяў, моцна заплюшчыўшы вочы, бо чамусьці яму здавалася, што толькі так не прапусціць ніводнага слова — твары людзей, анёлаў ды іншых істот могуць перашкодзіць правільна ацаніць пачутае — думаў ён, а калі нарэшце вызваліў зрок, то са здзіўленнем і нават абурэннем заўважыў: нікога побач не было.

«О, няўдзячныя! — гнеўна крыкнуў Апошні паэт, — Дэкаданс ахінуў вас аблокамі і даў вам крылы, але вы адышлі ў цемру, бо захацелі спазнаць смак ісціны. Смакуйце

цяпер здраду, бо яе нельга знішчыць нават словам. Калі вы раней не верылі мне, Апошняму паэту, то і вам няма веры! Гэй, слабыя паэты! Вы былі несправядлівыя ў адносінах да мяне, але я дарую вам гэты грэх! Але хто даруе вам вашу несправядлівасць у адносінах да сябе?!

Калі вы ўсё ж захочаце мець дараванне — люстэрка, у якое глядзіцца Смерць, слухайце, што кажа Пан! Калі прабачэнне вам не патрэбнае, слухайце спеў беззаконня. У гэтых спевах крыецца свабода, але яна не зробіцца вашай свабодай. Вы не бачыце слёз немаўлятаў, вы не чуеце плачу сіротак. У гэтым ваша слабасць. Вас чакае пакаранне: неба не ахіне вас аблокамі, і сонца спаліць вас і памяць пра ўсё, што было аднойчы прамоўленае вуснамі вашымі!»

У аксамітным небе тлелі апошнія зоры, залаты сланечнік закаціўся за край далёкага лесу, холад зрабіўся невыносным, а акрамя ўсяго вельмі хацелася спаць — доўгая начная размова давалася Апошняму паэту ў знакі. Трэба было шукаць месца для адпачынку. «Гэтая дарога, помніцца, вядзе ў горад, — разважаў Апошні паэт, — можа там удасца знайсці дах над галавой, адпачыць ад доўгай вандроўкі». Не прайшло і гадзіны, як з-за сіняй смугі і шэрага дарожнага пылу выплылі цагляныя муры і вежы горада.

І тут Апошні паэт выразна пачуў словы, якія даносіліся невядома адкуль, хутчэй за ўсё з тых жа глыбіняў, якія людзі завуць душой: «Увайдзі ў мой горад і жыві ў ім, колькі пажадаеш. Увайдзі ў браму, пакланіся і скажы: «Прабач мне!» Я прабачу твае грахі і прымножу багацце і славу тваю, і Слова станецца тваім домам...» Апошні паэт на ўсякі выпадак азірнуўся, але нікога не ўбачыў.

**Другая арабеска**

Горад спаткаў Апошняга паэта ранішняй цішынёй. Пустыя вуліцы яшчэ не паспелі напоўніцца жаднымі гукамі, таму ўсё вакол мела выгляд урачысты і разам з тым несапраўдны. «Так выглядаюць карціны вандроўных мастакоў — падумалася Апошняму паэту — нават вузкая брукаванка, якой я крочу, нейкая нежывая, як быццам бы яе вымасцілі толькі ўчора... Цікава, ці знойдуцца ў гэтым прывідным горадзе людзі, гатовыя выслухаць мяне, Апошняга паэта, ці тут жывуць толькі бяздушныя прывіды, чые вусны ніколі не смягнуць»? «А вось мае вусны засмяглі, — разважаў далей Апошні паэт — шкада, што я не Прарок, здольны адным ударам дарожнага кія выбіць ваду з каменя...»

— Няўжо не здольны? — пачуўся раптам голас.

Апошні паэт азірнуўся, але нікога не ўбачыў. А голас мовіў далей: «Аднойчы адзін Прарок захацеў напаіць свой народ, бо вусны людзей засмяглі ад пустых словаў. Прарок папрасіў дапамогі ў Творцы і пачуў: «Стукні дарожным кіем па камені». Калі Прарок зрабіў, як сказаў Творца, з каменя забруілі дванаццаць струменяў, і ўсе ўбачылі, хто ім дае паратунак. Гэтак і слабыя паэты няхай п’юць з тых крыніц, якія паказваеш ім ты, Апошні паэт. Тады словы іхнія пачуе сам Вечны Дэкаданс!»

Кожнае слова, прамоўленае невядома кім, то аддалялася ад Апошняга паэта, то набліжалася да яго, як быццам бы нябачны прамоўца спецыяльна вёў за сабой, жадаючы адкрыць нейкую таямніцу. І таямніца сапраўды адкрылася. Роўна праз шэсцьдзесят шэсць крокаў брукаванка вывела да галоўнага гарадскога пляца, у цэнтры якога стаяў каменны калодзеж.

«Дзякуй табе, нябачны дружа! — прамовіў Апошні паэт, — дзякуй, што прывёў мяне да гэтага калодзежа! Нарэшце я спатолю смагу».

— Бярыце і піце, грахі ўжо адпушчаны цемраю! — пачулася раптам з каменнага чэрава студні — і гэта быў зусім іншы голас, не той, што прывёў на пляц.

Унутры Апошняга паэта ўсё пахаладзела: так, голас быў не той, але ж вельмі знаёмы. І разам з тым такі чужы. Праз імгненне стала зразумела, што гэта быў яго ўласны голас. Гэта мовіў ён сам… Але ж ён тут, стаіць і маўчыць, засмяглыя вусны ссохліся і не адкрываюцца, а язык распух і не здольны варушыцца. А між тым голас яго гучыць з глыбіні студні: «Аднойчы вы скажаце мне: «Апошні паэце! Ты паказаў нам крыніцы. Цяпер вусны нашы не ведаюць смагі. Але мы не зможам вынесці аднастайную ежу, якую здабываем працай сваёй. Няхай Дэкаданс узгадуе для нас ежу, што расце не на зямлі, як звыклая гародніна, але такую, якой Першая жанчына частавала мужа свайго. Што адкажу я вам? Вось словы мае: «Няўжо вы просіце замяніць лепшае тым, што горшае для вас? Прыйдзіце ў любы горад, і там вы атрымаеце ўсё, пра што просіце ў мяне…»

«Да каго прамаўляе гэты дзіўны і страшны голас, які адначасова з’яўляецца і маім уласным і чужым, бо не з мяне сыходзіць, а з чорных глыбінь студні? — пранеслася думка ў галаве Апошняга паэта. — Ад усяго, што зараз адбываецца са мной тут, мне нават піць расхацелася. А раз так, то ўжо тады і паслухаю, што кажу я сам не сабе, альбо не сам самому сабе».

А голас між тым працягваў: «Многіх паэтаў спасцігла паняверка і беднасць. Яны наклікалі на сябе гнеў Нябёсаў. Дэкаданс моцна раззлаваўся на іх, бо не слухалі голас Апошняга паэта, не бачылі яго вачэй, не краналіся вуснамі пітва, якое прапанаваў ён. Паэты думалі, што вершы — люстэрка, у якім паказваецца свет. Але гэта свет глядзіцца ў адбітак паэзіі і поўніцца жыццём. Не забівайце пракокаў лязом самападману! Усё гэта, пра што кажу, адбылося таму, што большасць паэтаў — неслухі і пераступаюць межы дазволенага. Не пераступайце межы! Мяжа — малітва, якой навучылі вас уласныя маці. Можна маліцца Слову, Целу, Любові, Сонцу, але нельга маўчаць. Не маліцеся маўчанню! Маўчанне — шлях ад зачыненай брамы. Гэтым шляхам могуць пайсці толькі моцныя паэты, але і яны загінуць у пустэльні страху. Нават у моцных паэтаў няма зброі, якой валодаю я, Апошні паэт. Мая зброя — яе адсутнасць. Але хто ведае пра гэта? А хто і ведае, той не верыць мне, а калі верыць, то маўчыць…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы, — раптам нечакана для самога сябе прамовіў Апошні паэт, — чытайце, аж пакуль слова не станецца целам і не прыйдзе да ўсіх, хто чакае Яго і мяне…

Зрэшты, цяпер было ўжо немагчыма зразумець, хто тут прамаўляе і чыім голасам. Спачатку здавалася, што гэта ён тут — моўчкі стаіць і зазірае ў глыбокую студню, адкуль ягоным голасам прамаўляе Нехта. Ці можа ўсё наадварот: ён з глыбокай студні прамаўляе да знаёмага незнаёмца, які пазірае на яго аднекуль з вышыні? «Якое дзіўнае месца, — падумаў Апошні паэт, — калі яшчэ мне давядзецца ў адначассі быць сабой і не ў сабе, сачыць за глыбінёй з вышыні і за вышынёй з глыбіні?» Раптам яго ногі зрабіліся ватнымі, астатнія часткі цела таксама перасталі слухацца, вочы самі заплюшчыліся, і Апошні паэт перакуліўся цераз край калодзежа. Пачаў падаць… Увесь гэты час голас нават і не думаў, каб замаўчаць. Падзенне Апошняга паэта ад-

бывалася пад наступныя словы: «Слабыя паэты паабяцалі мне, што калі падымуцца разам са мной на вяршыню, не будуць смяяцца з тых, што засталіся каля падножжа гары. Але яны не стрымалі абяцання. Іхні звонкі смех не пачулі тыя, што засталіся. Смех пачуў Дэкаданс і абрынуў слабых паэтаў у прорву Вечнай Весялосці. Але на дне гэтай камяністай прорвы слабыя паэты заплакалі, бо зразумелі: Весялосць — старэйшая сястра Маўчання.

Моцныя паэты нічога нікому не абяцалі, бо не ўмеюць яны ні смяяцца, ні плакаць. Яны не пайшлі на вяршыню, але і не засталіся каля падножжа гары. Усе яны ператворацца ў камяні, падобныя да тых, што поўняць прастор Абсалютнай Весялосці. Аднак на тых камянях спачывае сама Вечнасць. Тыя камяні п'юць слёзы слабых паэтаў і нават часам размаўляюць з рэхам. Вы ж, моцныя паэты, станеце надмагільнымі камянямі, мёртвымі, бо маўклівымі. Так часам здараецца, што Літасць нараджае Лютасць. Але наадварот быць не можа. Лютасць бясплодная.

Гэй, нашчадкі подлых блазнаў! Вы парушылі запаветы не толькі Таго, хто ўвасабляе Літасць, але і Таго, хто стаіць па-над Лютасцю. Вы хацелі славы, але не заставаліся ў слове, і ўзняліся па-над ім. Ведаеце, хто вы? Вы больш не паэты, бо ні моцы, ні слабасці няма ў вашых вачах. Вы быццам малпы, якія нібыта падобныя да людзей, аднак нічога агульнага з чалавекам не маюць.

Пакаранне чакае слабых паэтаў, чакае пакаранне і моцных творцаў. Вас, нашчадкі подлых блазнаў, чакае пагарда будучых пакаленняў, але таксама і зайздрасць чалавекападобных малпаў».

Голас на нейкае імгненне замоўк, як быццам бы нехта нябачны набіраў поўныя лёгкія паветра, каб з яшчэ большай сілай, з падвойным імпэтам абрынуць на таго, хто слухае, усю моц сваёй думкі. Апошні паэт усё яшчэ падаў (хаця недзе ў глыбіні свядомасці, на самым-самым яго дне нараджалася падазрэнне: ці падае ён? Надта ж зацягнулася ўжо гэтае падзенне…), а голас неўзабаве распачаў іншую гісторыю: «Аднойчы Апошні паэт сказаў свайму народу: «Дэкаданс загадвае вам упасці ў неба». Тыя здзівіліся: «Няўжо ты кпіш з нас? Як мы можам упасці ў неба, калі яно вышэй за зямлю, на якой стаім?» Паэт узняў вочы да неба і выгукнуў: «Ты чуеш, Дэкаданс: яны думаюць, што ты не ведаеш, чаго хочаш! Маглі б, прынамсі, упасці ў лужыну, у якой люструецца неба. А што, каб гэтым людзям ты загадаў забіць уласную маці, якая падаравала ім жыццё, свабоду, надзею? Цікава, што б сказалі яны?»

І вось што яны сказалі: «Памаліся, Апошні паэт, за нас Першаму Чалавеку, каб той растлумачыў нам, як выглядае наша маці». Паэт адказаў: «Першы Чалавек кажа, што яна не старая і не маладая, не прыгажуня, але і не брыдкая, мае валасы сярэдняй даўжыні, а колер скуры яе не цёмны, аднак і не светлы. Колер вачэй ніхто не ведае, бо маці заўсёды з заплюшчанымі вачыма. Яна сляпая. Выканайце ж тое, што вам загадана!»

Яны сказалі: «Памаліся за нас свайму Чалавеку, каб Ён растлумачыў нам, чаму яна аслепла». Ён сказаў: «Першы Чалавек кажа, што аслепла маці ад слёз. Яна чакала сваіх дзяцей, а замест іх дачакалася забойцаў».

Яны сказалі: «Памаліся за нас свайму Чалавеку, каб Ён растлумачыў нам, як мы можам забіць тую, якая і так дачакалася забойцаў. Але калі Дэкаданс гэтага хоча, то мы рушым шляхам забойцаў».

Паэт чарговы раз узняў вочы да неба і выгукнуў: «Ты чуеш, Дэкаданс: яны думаюць, што ты не ведаеш, пра што гаворыш! А ты ўсяго хацеў сказаць, што жыццё і смерць — два берагі адной ракі!»

Ізноў Апошні паэт звярнуўся да людзей: «Глянь жа, народзе, у люстэрка гэтай ракі, пра якую я размаўляў з Дэкадансам! Каго там бачыш, народзе? Ці ў вірах ракі адбіваюцца аблічча людзей, ускормленых Святой Маці? Не? Успомніце: гэта вас карміла малаком Ваўчыца! Таму забойства — ваша пакліканне! Вы не ўмееце ні араць зямлю, ні пасвіць статак. Вы ўмееце толькі забіваць. Якую маці забіць — вырашайце самі. Адна маці мёртвая, але выглядае як жывая. Другая маці жывая, але яе жыццё ў смерці.

Людзі зрабілі свой выбар. Яны забілі чалавека, а самі пераўтварыліся ў ваўкалакаў.

Калі вы забілі чалавека, але не жадаеце прызнавацца ў забойстве, можаце не прызнавацца. Нікога і так не цікавіць, што на душы ў ваўкалака…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы, — адазваўся Апошні паэт, які звыкся з тым, што некуды ляціць. Тым болей, ён ужо і не разумеў, падае ўніз альбо ўверх. — Чытайце, аж пакуль слова не станецца целам і не прыйдзе да ўсіх, хто чакае Яго і мяне…

А голас працягваў сваё: «Ізноў Апошні паэт звярнуўся да людзей: «Вось перад вамі мёртвая маці і маці, жывая ў смерці. Дэкаданс дае вам права выбару: уваскрасіць мёртвую, альбо смерць паклікаць з улоння жыцця. Гэта мова знакаў, а не знакі мовы. Выбірайце!»

Пасля гэтых слоў сэрцы людзей зрабіліся цвёрдыя, як камяні, ці нават яшчэ цвярдзейшымі. Зрэшты, і сярод камянёў ёсць такія, з якіх можа неўзабаве забруіцца крыніца. Гэтак сярод паэтаў ёсць такія, якія расколваюцца і праліваюць ваду. Так робяць слабыя паэты. Сярод слабых паэтаў ёсць і такія, якія падаюць ад страху перад Дэкадансам. А Дэкаданс нават не ведае, што нехта можа яго баяцца. Аднак хто баіцца, той здольны і на нянавісць. А хто ненавідзіць, той можа пайсці на забойства. Забойца перастае быць паэтам.

А вы, паэты моцныя, няўжо з вас нехта спадзяецца, што людзі павераць вам? Многія з вас, хто чуў Слова, свядома змянілі яго сэнс. Але вы забыліся, што толькі вера з'яўляецца мерай вершаў. Свядома згублены сэнс — шлях да бязвер'я.

Калі вы сустрэнеце вернікаў, яны скажуць вам: «Мы верым!» Калі ж вернікі застаюцца сам-насам з уласным адбіткам у шэрых вірах ракі, пра якую згадаў Апошні паэт, то кажуць: «Мы не ведаем праўды, мы слабыя паэты, мы не разумеем, што адкрыў нам Дэкаданс, не адчуваем слова, не бачым нават цяню ад яго сэнсу. Вярніся, страчаная вера!»

Няўжо яны не ведаюць, што Апошняму паэту вядома ўсё, што яны хаваюць у сутарэннях сваіх гнілых думак?! Адзінае ім апраўданне, прынамсі, некаторым з іх, што сярод слабых паэтаў ёсць непісьменныя людзі, якія не ведаюць Белай кнігі, а толькі вераць пустым марам і робяць на гэтай падставе гэтакія ж пустыя высновы.

Гора тым, якія пішуць Белыя кнігі ўласнымі рукамі, а затым кажуць: «Гэта — ад Апошняга паэта». Каб прадаць падман за нікчэмныя грошы, шмат розуму не трэба! Гора тым, якія пішуць рукамі, а не сэрцам! Але найбольшае гора тым, хто ўсё гэта набудзе!

Нехта адкажа: «Агонь помсты палае лічаныя дні. Мы не паспеем згарэць». Не стамлюся паўтараць: «Не блытайце мову знакаў са знакамі мовы. Няўжо вы думаеце, што слова Апошняга паэта нараджаецца з веры ў Дэкаданс? Яно па-за быццём і нябытам, па-над верай і бязвер'ем, яно, слова Апошняга паэта, і ёсць тым адзіным, вечным, непадзельным Дэкадансам, святлом у цемры і цемрай у святле. Слова не аддзяляе веры ад ведаў і мары ад рэчаў, а злучае іх у адзінае цэлае. Агонь палае заўсёды. Той, хто вырабляе, прадае альбо набывае зло і тым самым акружае свет слабасцю і грахом, станецца насельнікам Агню. Агонь палае вечна. А той, хто мне паверыць, хто напіша хоць адзін радок, той упадзе ў неба і станецца яго насельнікам. Неба таксама вечнае».

— Чытайце вершы, чытайце вершы, — адазваўся Апошні паэт, які працягваў падаць — чытайце, аж пакуль слова не станецца целам і не прыйдзе да ўсіх, хто чакае Яго і мяне…

Голас працягваў: «І паклікаў Апошні паэт іншых паэтаў, сыноў і дачок зямлі, каб растлумачыць ім, дзе праходзіць мяжа паміж агнём і небам. І сказаў ён наступныя словы: «Паэты не павінны служыць нікому, толькі Дэкадансу; паэты не павінны спавядацца нікому, апроч сумлення; ваша радзіма — не толькі зямля, дзе жывуць бацькі, сваякі, дзе ходзяць сіроты і беднасць свеціцца шчырай удзячнасцю; ваша Бацькаўшчына там, дзе жыве сумленне, дзе людзі чуюць вашы вершы, сатканыя з неба і сонца, дзе дрэвы моляцца не агню і жалезу, а ціхім крыніцам і лагодным даждджам».

Але з агідай адвярнуліся сыны і дочкі зямлі, за выключэннем нешматлікіх паэтаў. Яны не захацелі ўбачыць мяжу паміж небам і пеклам, бо прагнулі бязмежжа. Іх чакае пакаранне: кветкі іхнія страцяць колеры і пахі, толькі ўласнай крывёй змогуць гэтыя людзі афарбаваць свае букеты.

Гора вам, аматары чырвані! Чырвоная ноч праглыне вашы душы! А свабода? Што станецца з вашай свабодай? Яна нап'ецца крыві і станецца пракляццем і турмой для вольных сэрцаў. Ваша радзіма згубіцца ў густым тумане эгаізму, клятвaадступніцтва, подласці і зайздрасці, зробіцца настолькі цеснай і няўтульнай, што вы пачнеце выганяць адно аднаго за яе межы. І так вы знойдзеце мяжу паміж небам і пеклам. Вы яе ўсё роўна ўбачыце!

Той, хто адвярнуўся ад Слова, здольны на забойства. Хто пачуў Слова, але не захацеў стацца рэхам, таксама здольны на забойства. І першыя, і другія пілі малако Ваўчыцы. Яны моцныя, яны могуць выганяць слабых з іх уласнага жылля, могуць упрыгожваць адно аднаго вянкамі з чырвоных кветак, частавацца грахом і несправядлівасцю.

Але іхняя моц — іхні палон, іхняя няволя. Калі яны, нявольнікі ўласных ілюзій, прыйдуць да вас, моцныя і слабыя паэты, выкупіце іх, хоць яны таго і не вартыя. Іхнія душы каштуюць роўна столькі, колькі разоў з вамі прамаўляла сумленне.

Сумленне прамаўляе не да кожнага. Таму ёсць багатыя паэты, а ёсць убогія. Багатыя вераць у Слова. Бедныя вераць Рэху. Багатыя жывуць памяццю. Бедныя жывуць забыццём. Багатыя баяцца ганьбы беднасці. Бедныя баяцца ганьбы багацця. Але і багатых, і бедных чакае Смерць. Усіх чакае Смерць! Паміраюць паэты, паміраюць звычайныя людзі, памірае каханне, памірае сяброўства, памірае свабода, памірае

мастацтва… Усё памірае… У гэтым свеце валадарыць Смерць. Яе цень кладзецца на аблічча маёй надзеі, маёй веры і маёй любові… Нічога няма. Толькі пустэча — халодная, бяскрайняя, вечная. На самым яе дне спачывае Дэкаданс. Плачу, смяюся, зноў плачу… Нічога няма. Ёсць толькі Смерць, мой ціхі прытулак, мая сапраўдная Бацькаўшчына… Апошні дзень станецца днём уваскрэсення. Дэкаданс чакае ўсіх. Але там, дзе стаілася Яго недасведчанасць, вашы вершы будуць сведчыць супраць вас! Толькі тады Слова станецца ценем Рэха, а памяць знікне ў промнях бяспамяцтва. Бо час стоміцца глядзець у каламутныя віры бясчасся…

Гэта словы Прарока. Дакладней, яны некалі належалі Прароку. Цяпер яны належаць усім, нават слабым паэтам. Вершы паэтаў адправіліся следам за восенню і захлынуліся ў вірах апалай бурштынавай лістоты. Так нарадзілася Любоў — цнатлівая, прыгожая, крохкая, як першародны грэх.

Няўжо кожны раз, калі вяртаецца восень, паэты будуць славіць Каханне замест таго, каб праслаўляць Любоў? Так, будуць. Але з кожным згубленым словам губляецца мова. Следам згубіцца маўчанне. І будуць паўсюль гучаць фанабэрыстасць, хлусня, подласць, зайздрасць, убоства. Такім будзе пераможны шлях Змроку.

Паэты сказалі: «Сэрцы нашы пакрыты змрокам». Але на самай справе ніякіх сэрцаў паэты не мелі. Галовы паэтаў былі перапоўнены ведамі. Яны ведалі, што неба — высокае, а віры страшаць глыбінёй. Сапраўды, няма горшага пакарання, чым стацца ахвярай гульні святла і ценяў.

Самае брыдкае, што можа зрабіць паэт — прадаць душу і купіць на атрыманыя грошы кавалачак чэрствай славы. Нельга насыціцца славай, калі няма душы. Шкада мне вас, гора-гандляры! Вы хацелі прадаць за грошы тое, што не мае цаны, хацелі купіць тое, чым не ўмееце карыстацца. Не забывайце: Дэкаданс падаруе сваю літасць толькі таму з паэтаў, хто не прагне жаднай славы, не прагне грошай і ўлады над іншымі. І прадаўцаў, і пакупнікоў душ чакае пакаранне: іх кроў змяшаецца з віном і станецца пітвом для дэманаў і ваўкалакаў. Гэта будзе самая зневажальная пакута — пахвала тых, якія прагнуць узвысіцца над небам, але найболей за ўсё прагнуць крыві і віна. Сапраўды кажу вам: пахвала з вуснаў раба горшая за непрыхільнасць пашаноўніка Свабоды.

Калі слабыя паэты чуюць: «Паверце ў тое, што абвясціў Апошні паэт», — яны адказваюць: «Мы верым у тое, што было абвешчана нам». Аднак калі ў іх запытацца, ці вераць яны ў праўдзівасць Цемры, якая існавала задоўга да Слова, слабыя паэты скажуць: «Усё, што з’явілася да Слова і пасля яго, — толькі цень Ісціны». Але ж голас таксама з’яўляецца не меншай праўдай, чым ідэя, якая яму папярэднічала. Гэтакай жа праўдай будзе рэха, якое гучыць праз стагоддзі і нагадвае пра веру і бязвер’е Першага паэта.

Першым паэтам стаўся чалавек, які забіў уласнага брата, але Дэкаданс дараваў яму смерць. Смерць у імя Любові можна дараваць. Аднак не варта забывацца, што права на літасць, як і на лютасць, мае толькі той, хто ўскормлены малаком Святой Маці, але не ваўчыцы. Сыны ваўчыцы прагнуць забіваць. Яны забілі многіх прарокаў. Бо тыя ніколі не былі ім братамі. Аднойчы Дэкаданс спытаўся ў аднаго забойцы: «Скажы, чаму ты забіваеш прарокаў, але называеш сябе вернікам?» Вось што адказаў прыёмны сын ваўчыцы: «Мая вера моцная толькі таму, што я не разумею

таемных знакаў, якія прарокі перадаюць людзям праз паэтаў. Неба вакол мяне, я дыхаю небам, але зямля трымае мяне. Зямля прыме мяне і ў веры, і ў бязвер'і. Калі б я зразумеў таемныя знакі, знікла б усё — і вера, і бязвер'е, праўда захлынулася б ад уласнай бездапаможнасці, а ўсе цноты згубілі б у адначассі сваю спрадвечную вартасць. Я буду і надалей забіваць прарокаў, каб таямніцы заставаліся таямніцамі, каб вера загартоўвалася ў бязвер'і, а цнота служыла апраўданнем для бездапаможных і слабых духам...»

— Чытайце вершы, чытайце вершы, — ізноў адазваўся Апошні паэт, які далей працягваў падаць, — чытайце, аж пакуль слова не станецца целам і не прыйдзе да ўсіх, хто чакае Яго і мяне...

Голас між тым не змаўкаў: «Не кожны прарок рыхтуецца да смерці. Большасць з іх рыхтуецца да жыцця. Бо жыццё непрадказальнае, а смерць, як вяршыня гары, з якой толькі адзін шлях — вяртанне назад, адкуль прыйшоў. Калі не рыхтавацца да смерці, можна не складаць тастамент. Калі не рыхтавацца да жыцця, можна не вярнуцца з вяршыні смерці, застацца паміж небам і словам.

Апошні паэт склаў тастамент для сваіх спадкаемцаў — слабых і моцных паэтаў, якія паселяцца на вяршыні часу, дзе няма ні вясны, ні восені. Паэты прачытаюць запавет, але не пачуюць рэха, бо іх вусны анямеюць ад холаду. Бедныя паэты! Гора вам! Вы прачытаеце Слова Апошняга паэта вачыма, але вочы падмануць вас. Вы скажаце: «Будзем слухаць і не паслухаемся». Што ж, кожны паэт мае права слухаць і ісці ўласным шляхам. Толькі не ўсе шляхі асветленыя маланкай і не кожнае сэрца чуе праўду. Сэрцы слабых паэтаў прасякнуліся падманнай любоўю да туманных вяршыняў жыцця, але яны забыліся, што да жыцця трэба рыхтавацца. Сэрцы моцных паэтаў прасякнуліся нянавісцю да вяршыняў смерці. Іх таксама чакае цемра падману. Бо нянавісць не ходзіць шляхамі, яна засцілае шляхі пылам бязвер'я. Як гэта брыдка — глытаць пыл нянавісці і лічыць сябе вернікам! Пакаранне чакае паэтаў, якія не слухаюць подых Дэкадансу. Бо ў гэтым подыху — і жыццё, і смерць, і вышыня, і глыбіня праўды.

Словы, якія Апошні паэт запісаў у свой тастамент, гучаць так: «Паэты прагнуць жыцця больш за звычайных людзей. Самы слабы паэт хацеў бы пражыць тысячу гадоў. Але нават самае доўгае жыццё не аддаліць паэта ад пакутаў. Дэкаданс бачыць, што паэты пішуць і што чытаюць. Паэты хацелі стаць анёламі, але сталі ворагамі неба. Неба зрынула іх, і падзенне не зрабілася палётам. Пакаранне чакае не за дзвярыма нашых сэрцаў, а ўнутры, у самым маленькім, цёмным пакойчыку душы, дзе няма вокнаў. Праз вокны мы бачым свет, але праўда і вера не стаяць пад нашымі вокнамі. Дык як іх убачыш? Анёлы хацелі зрабіцца паэтамі і напісаць вершы пра Бога. Але Богу не патрэбныя крылатыя творцы. Бог любіць тых, хто падае ў яго абдымкі. Дэкаданс, Ты вораг тым, хто не хоча быць сабой! Грэшныя ўсе! Усіх чакае пакаранне! І тых, хто меў веру, але страціў яе, і тых, хто знайшоў чужую страчаную веру! Зазірніце ў свае самыя цёмныя пакоі, дзе няма вокнаў. Што там? Там вы ўбачыце жывы жах — мільёны чарвякоў аплялі сцены вашых цёмных пакояў, сцены варушацца, паўзуць, праглынаюць веру і вершы. Што там? Крывавыя, перакрыўленыя твары пазіраюць сляпымі вачніцамі на вас. Бойцеся! Бо вашы пакоі маюць люстраныя сцены, якія павінны сімвалізаваць моц, а сталі сімвалам слабасці. Вы можаце ўзяць сякеру і пра-

секчы акно ў свет, але там паўсюль цемра, таму не ўбачыце сонца з вокнаў вашых! Вы чакалі прарокаў, але прарокі не прыходзяць да невідушчых. Прарокі прыходзяць да тых, хто іх не чакае. Так Бог жартуе з душаў, спустошаных адзінотай альбо напоўненых жарсцю. Але ўсё ж вазьміце сякеру, прасячыце вокны ў цемру, бо вашы жывыя адбіткі аднойчы захочуць памяняцца з вамі месцам. Так народзіцца Праўда. Так народзіцца Слова. Так памрэ Паэзія. Паэзія! Ты нараджаешся і паміраеш праз нявер'е слабых і самаўпэўненасць моцных! Ты нараджаешся, калі паэт выракаецца д'ябла, і паміраеш, калі паэт прагне пазнання. Ты нараджаешся, калі дом становіцца горадам, і паміраеш, калі горад становіцца домам».

Так сказаў Апошні паэт. Але гэта не былі словы навукі. Ніхто не навучае праўдзе. Навучаюць падманваць, зайздросціць, забіваць, выракацца, здраджваць. Спакуса — самы вялікі настаўнік. Спакуса вучыць: не верце нікому і станеце моцнымі. І мужчыны пакінулі сваіх жанчын, а жанчыны пакінулі ўласных дзяцей. І ўсе падумалі, што зрабіліся моцнымі. Але што яны набылі за срэбра дзіцячых слёз? Не моц, а толькі слабасць. І цяпер ніколі не прыйсці ім туды, дзе Святая Маці корміць малаком Чалавека, а Вечны Дэкаданс дорыць паэтам золата словаў…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы, — адгукнуўся Апошні паэт, які амаль забыўся пра ўласнае падзенне, бо зачаравана слухаў кожнае слова таемнага голасу, — чытайце, аж пакуль слова не станецца целам і не прыйдзе да ўсіх, хто чакае Яго і мяне…

А голас усё гучаў і гучаў: «Крок за крокам набліжаецца хвіліна самоты. Самота — лепшая ўзнагарода за слабасць. Але ніхто не ведае пра гэта. Нават слабыя паэты. Калі б яны толькі ведалі! Прасілі б тады прарокаў не клапаціцца пра іх, але назіраць за імі, назіраць і слухаць. Ніхто не ведае кошту самоты. Каб ведалі, то не маліліся б людзям, а толькі Чалавеку. Літасцівы Дэкаданс! Падары паэтам замест самоты маўчанне і слых замест голасу. Калі мы слухаем песню маўчання, то робімся роўныя Апошняму паэту. Калі ж прамаўляем да самоты, то спрабуем зраўняцца з Дэкадансам. Але хіба нам належыць улада над нябёсамі і зямлёй?

Не прамаўляйце да самоты! Не выпрабоўвайце веру прарокаў! Не кладзіце на адны шалі веру і бязвер'е! Нельга ў адначассі крочыць і на ўсход, і на захад.

О, Дэкаданс! Ты бачыш зайздрасць моцных і адчай слабых! Прабач і першых, і апошніх! Зайздрасць хоча адхіліць нас ад веры. Адчай не дазваляе быць велікадушным. Толькі Ты не даеш веры пакінуць нас, а душы згарнуцца да памераў сусвету…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы…

«…Падаць таксама трэба прыгожа. Бо толькі прыгажосць мае моц паклікаць паэта на неба, а яго падзенне зрабіць палётам.

Прыгажосць кажа: «Не ўвойдзе ў мой дом паэт, які не мае ўласнага жытла, начуе ў знаёмых і незнаёмцаў». Праўда ў тым, што Мара і Жаданне не дзве родныя сястры, а два супрацьлеглыя шляхі. Мара вядзе паэта камяністай сцежкай з дома бацькоў у дом Прыгажосці. З дарожных камянёў моцны паэт збудуе ўласны дом. Жаданне вядзе звілістай, пыльнай дарогай у Краіну Мёртвых Сноў, дзе няма ні самоты, ні свабоды, ні надзеі. Толькі пыл і Нішто стануцца спадарожнікамі тых, хто выбраў гэты шлях.

Крычаць слабыя паэты: «Нам патрэбны нейкі доказ таго, што вы кажаце праўду!» Праўды для вас няма! Ёсць вера і пакора. Хто верыць у Прыгажосць, той атрымае ўзнагароду ад Чалавека. Такія паэты не спазнаюць страху і ні што не засмуціць іх. Нават лёгкая свабода…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы…

«Бацькі кажуць: «Нашы дзеці не ходзяць простым шляхам — шляхам маланкі». Дзеці абураюцца: «Бацькі нашы сядзяць з зачыненымі вокнамі, баяцца навальніцы, яны нават не бачылі маланкі, таму не ведаюць, якім бывае яе шлях». Аднак усе яны чыталі на вуснах Апошняга паэта словы, звернутыя і да бацькоў, і да дзяцей: «Свабода павінна быць чыстай». Ніхто з іх не зразумеў сэнс гэтых словаў. Таму і няма згоды паміж імі. Бацькі выракліся ўласных дзяцей і не пускаюць іх у храмы продкаў. Дзеці, аслепленыя маланкай, не бачаць простага шляху — шляху да Прыгажосці. Страх стаўся панам і для другіх, і для першых. Ганьба сталася нечым звыклым. Бацькі сказалі: «Наш усход!». Дзеці сказалі: «Наш захад!». Але толькі аднаму Дэкадансу належаць усход і захад. Куды б вы ні павярнуліся, там будзе аблічча Дэкадансу. Сапраўды, Дэкаданс — усеабдымны.

Нехта кажа: «Дэкадансу не належыць гэты свет, бо аддадзены быў захад моцным паэтам, а ўсход слабым». Чыстая праўда! Аднак не забывайма, што слабыя набылі моц, а моцныя скаштавалі слабасць. Усё надалей належыць Яму: і тое, што на нябёсах, і тое, што на зямлі. Яму аднаму скарыцеся! Пакора не збавіць ад пакарання, але адкрые шлях да збаўлення. Ён — Творца нябёсаў і зямлі. Калі Ён прымае рашэнне, то варта Яму сказаць: «Так!» Так слова станецца целам, а верш — храмам.

Тыя, што абралі шлях самападману, кажуць: «Дэкаданс не размаўляе з намі, ды мы і не разумеем мовы знакаў». Такія ж словы казалі слабым паэтам іхнія настаўнікі. Гора і ім, і іхнім вучням, бо словы любові слухаюць сэрцам. А сэрца не любіць слабасці! Бо слабасць не мае глыбіні. Таму ў неба можна ўпасці, можна адчуць глыбіню свабоды. Пекла ж заўсёды ляжыць на паверхні. Як адбітак адмаўлення праўды.

Праўда адна: бацькі і дзеці не будуць задаволеныя сабой, пакуль вера не ўмацуе іх слабыя душы. Шлях душы — гэта прамы шлях. Калі ж дарога жыцця зрабілася пакручастай, гэта можа азначаць адно: вы збочылі, пайшлі за мімалётнымі жаданнямі і сумнеўнымі ведамі, і цяпер Дэкаданс не будзе вам ні заступнікам, ні памагатым.

Тыя, каму я, Апошні паэт, падараваў сваё слова, і хто чытае яго належным чынам, сапраўды павераць у яго. А тых, якія не павераць у яго, абавязкова чакае паверхня.

Гэй, сыны Дэкадансу! Памятайце пра літасць, якую я аказаў вам, а таксама пра тое, што я ўзвысіў вас над сусветам і дазволіў упасці ў неба!»

— Чытайце вершы, чытайце вершы…

«…Бойцеся дня, калі ніводны паэт не прынясе карысці іншаму і калі нельга будзе адкупіцца, калі нічым не дапаможа заступніцтва і калі слабым паэтам не будзе аказаная падтрымка.

Але не бойцеся выпрабаванняў. Яны робяць душу чыстай, а розум — светлым. Нашы святыя продкі хадзілі па лязе маланкі, і іхнія сэрцы свяціліся глыбінёй. Нашы нашчадкі не горшыя. Вядзі іх, Дэкаданс! Бо гэта Твае нашчадкі!

Аднойчы верш станецца Храмам, прыстанкам для людзей і бяспечным месцам — месцам малітвы. Але ў гэтым Храме, чыстым, як усмешка дзіцяці, нельга будзе кланяцца і падаць ніцма. Падзенне і пакора — розныя рэчы. Падзенне — моц, а не слабасць.

Вось малітва да Дэкадансу: «Пане! Зрабі горад паэтаў бяспечным і пачастуй пладамі яго жыхароў, якія паверылі ў Цябе і ў Апошні дзень».

Дэкаданс пачуе і прамовіць: «Нават няверным творцам Я дазволю карыстацца плёнам Слова Свайго, але нядоўгі час, а потым прымушу іх пакутаваць у Агні. Як жа гэта агідна заставацца на паверхні часу!»

Вось малітва да Апошняга паэта: «Паэт наш! Прымі ад нас вершы! Сапраўды, ты — той, які чуе, той, які ведае. Паэт наш! Зрабі нас тваімі пакорнымі адбіткамі, а з нашых нашчадкаў — брацтва, што скарылася табе. Падкажы нам словы глыбокай пашаны і прымі наша пакаянне. Сапраўды, Ты — той, хто прымае пакаянне і беражліва складае яго да ног Таго, чыё імя Дэкаданс. Паэт наш! Пашлі да слабых паэтаў прарока, каб слабыя паэты перасталі баяцца Чалавека, які чытае ім, слабым паэтам, твае вершы, навучае слабых паэтаў, як дачакацца Апошняга дня, навучае мудрасці, а слабасць ператварае ў магутнасць. Сапраўды, Магутнасць і Мудрасць неразлучныя…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы, — у чарговы раз выдыхнуў Апошні паэт, — чытайце, аж пакуль слова не станецца целам і не прыйдзе да ўсіх, хто чакае Яго і мяне…

Голас не змаўкаў, але, як падалося Апошняму паэту, пачаў крыху стамляцца, бо ўсё часцей узнікалі паўзы — нібыта спецыяльна для таго, каб у іх можна было ўставіць словы згоды. Не згаджацца неяк не выпадала: падчас падзення, нават такога незвычайнага, цяжка было настолькі засяродзіцца, каб урэшце высветліць, каму належыць голас — ці яму самому, ці Таму, хто і ў ім, і па-за ім. І Апошні паэт слухаў далей, устаўляючы ў новыя прагалы «чытайце вершы, чытайце вершы…» І вось што ён пачуў: «…Уцёкі ад веры — дарога ў камяністую пустэльню. З камянёў тых нельга збудаваць дом. Толькі дурні наважацца на такі ўчынак, бо кожны дурань лічыць сябе самым разумным, ледзь не прарокам. Аднак і да іх Дэкаданс будзе міласцівым: усе яны атрымаюць у дар бяспамяцтва. Ідзіце, пустэльня чакае вас, блудных сыноў сваіх! Хто спыніцца, таго чакае пакаранне…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы…

«…Аднойчы сказаў Дэкаданс Апошняму паэту: “Ніколі не скарайся перад іншым паэтам! Паэт можа скарыцца толькі перад Паэзіяй!..”»

— Чытайце вершы, чытайце вершы…

«…Апошні паэт некалі таксама быў слабым. Але яго слабасць мела надзейны падмурак — веру ў добрых людзей. З гэтай веры паўстаў Храм, дзе на алтары слова ўсё пераўтвараецца ў дым, нават Вечны Бог. Прыходзілі ў Храм людзі, і Апошні паэт казаў ім: «Сябры мае! Дэкаданс абраў для вас рэлігію. І памірайце няйначай, як будучы паэтамі. Чытанне вершаў — чытанне саміх сябе! Шануйце Слова гэтак, як вы шануеце смерць, але не больш за жыццё. Шануйце чалавека і яго слабасць. Тады станеце моцнымі. Шануйце свой народ. Нават тады шануйце яго, калі народ падобны да натоўпу. Людзі атрымаюць тое, што яны заслужылі, а вы атрымаеце тое, што вы заслужылі, і вы не будзеце адказваць за тое, што яны здзяйснялі. Вы можаце пайсці следам за бацькамі, але можаце рушыць і ўслед за дзецьмі. Адзінае, трэба крочыць прамым шляхам, бо толькі ён прывядзе да Вечнага, Адзінага Бога. Дым, які вы бачыце на маім алтары, — сімвал гэтага шляху. Няма насамрэч адрознення паміж слабасцю і сілай. Усіх яднае Дэкаданс. Калі вы паверыце мне, то і іншыя павераць у тое, у што паверылі вы, і рушаць услед прамым шляхам. Калі ж яны адвернуцца, то апынуцца ў разладзе з праўдай. Дэкаданс пазбавіць іх і слабасці, і сілы, бо Ён — Той,

Які чуе. Такая рэлігія Апошняга паэта! А чыя рэлігія можа быць лепшай? Паэтаў шмат. Апошні паэт — адзін…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы…

«…Калі наіўныя, альбо подлыя людзі скажуць, маўляў, нейкая сіла прымушае слабых паэтаў збочваць з прамога шляху, якім яны павінны крочыць, адкажыце ім: “І ўсход, і захад належыць Дэкадансу. Ён кіруе паэтамі і абірае кожнаму іхні шлях…”».

— Чытайце вершы, чытайце вершы…

«…Калі мы чытаем вершы, мы робімся магутнай супольнасцю. У нас няма «левых», «правых», «першых», «апошніх», «крайніх». Усе мы — залатая сярэдзіна. Пра гэта мы сведчым іншым паэтам, тым, якія служаць чалавецтву, але не заўважаюць чалавека. Наша моц у нашай слабасці, іхняя ж слабасць — падмурак нашай магутнасці. Так сказаў Дэкаданс, калі выбіраў нам наш напрамак. Ён растлумачыў, куды павінна быць павернутае аблічча паэта, і хто меў сэрца, прыняў Словы. Наш напрамак — неба. Той, хто адварочваецца ад нябёсаў, адварочваецца ад маці, бацькі, дзяцей, радзімы. У такіх паэтаў няма будучыні. Яны ведаюць пра гэта і будучыню шукаюць у мінуўшчыне. Марныя пошукі іх. Пакаранне чакае такіх творцаў: яны састарэюць, не паспеўшы нарадзіцца!

Не варта сумнявацца ў словах, якія прамовіў Дэкаданс і Апошні паэт. Няўжо чалавек, які глядзіцца ў люстэрка, сумняваецца: ён гэта ці не ён? Праўда пазнавальная. Таму не варта быць у шэрагу тых, хто сумняваецца. Гэта шэраг неразумных і подлых людзей. Паэт хутка памірае ў такім шэрагу, калі выпадкова апынецца там.

У кожнага ёсць бок, куды ён павернуты тварам. Слабыя паэты імкнуцца глядзець на дабро, імкнуцца апярэдзіць адно аднаго ў добрых справах. Аднак паэзія — не спаборніцтва. Дабро павінна аб’ядноўваць, а не сварыць творцаў. Таму і збярэ аднойчы Дэкаданс разам усіх паэтаў, дзе б яны не былі. Усе дарогі і сцежкі зліюцца ў адзін прамы шлях. Сапраўды, Дэкаданс здольны на ўсё.

Адкуль бы вы не выйшлі, кіруйце позірк у бок Запаведнага Храма, збудаванага Апошнім паэтам. Толькі тады вашымі вачыма будзе пазіраць Чалавек. Толькі тады вы ўбачыце аблічча Бога. Дэкаданс дапаможа вам стацца люстэркам праўды.

Адкуль бы вы не выйшлі, кіруйце позірк у бок Запаветнага Храма. Дзе б вы не апынуліся, паварочвайце вашы твары туды, куды хоча глядзець душа. Падавайце прыклад добрым людзям, дарыце натхненне нават тым, хто не любіць падарункаў. Не бойцеся слабых паэтаў, а бойцеся мяне, Апошняга паэта, які змешвае фарбы літасці і лютасці. Быць можа, вы рушыце ўслед за мной прамым шляхам.

Слабыя паэты любяць уласныя выявы. Гэтыя выявы мёртвыя. Любіць іх — гэта ўсё роўна, што памерці, не нарадзіўшыся. Таму я паслаў паэтам люстэрка, у якім паказваецца жыццё. Я хачу, каб паэты не забываліся, хто яны. Каб яны не забываліся, што на вуснах іх ніколі не было малака Ваўчыцы. Усе мы — браты. У нас адна Маці, адна Радзіма, адзін Бог. У гэтым няма нічога дзіўнага: мудрасць заўсёды простая, а шлях ілжы цяжкі і пакручасты. Лёс ходзіць пакручастымі сцяжынамі. Дэкаданс вызваляе нас з абдымкаў лёсу. Помніце пра гэта. Падзякай за памяць будзе вызваленне. Помніце: бяспамяцтва — самая страшная форма пакарання…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы…

Той, хто верыць мне, не застанецца ў цемры адзіноты. Адзінота — не свабода, а толькі цень нашага выбару. Тое, што мы выбіраем, больш нам не належыць. Нашымі памагатымі могуць быць толькі цярпенне і пакора. Дэкаданс узнагародзіць цярплівых.

Не бойцеся загінуць на шляху да Храма. Смерць ходзіць іншымі дарогамі. Смерцю кіруе лёс, які пазбягае прамога шляху. Магчыма, вам нехта скажа, што бачыў шмат мёртвых паэтаў па дарозе ў Храм. Ён бачыў мёртвыя адбіткі слабых паэтаў. Самі ж паэты жывыя і больш не маюць той слабасці, якая была падараваная ім ад нараджэння. Але вы не можаце пакуль зразумець гэтага. Гэтак, як сляпы чалавек не разумее прыгажосці кветак. Але невідушчы адчувае тонкі водар пялёсткаў і верыць у прыгажосць. Гэтак і вы мусіце верыць у словы мае. Без веры цяжка. Без веры душа робіцца пустой і запаўняецца страхам, зайздрасцю, подласцю, сквапнасцю, нецярплівасцю. Дэкаданс узнагародзіць толькі цярплівых і верных. І яны вернуцца са сваіх цёмных і заблытаных дарог на прамы шлях святла, годнасці і любові.

Мудрасць і Смерць падаюць знакі паэтам. Адна частка паэтаў глядзіць у вочы Мудрасці, другая — у вочы Смерці. Няма сярод вас, творцы, тых, хто б змог адначасова бачыць і Мудрасць, і Смерць. Але такі дар можна атрымаць, пакінуўшы шэрагі слабых паэтаў. Дэкаданс бязмежна магутны. Яго правае вока — Мудрасць, левае вока — Смерць. У вочы Яго зазірнуў я, Апошні паэт. У вачах Яго — праклён цела і блаславенне душы. Але не забывайма, што толькі Яму дадзена права праклінаць і бласлаўляць. Паэтам жа можна толькі моўчкі піць позірк неба. Маўчанне — першы крок да прабачэння. Голас — апошні крок. Хто не паверыць Апошняму паэту, той аслепне. Нават анёлы могуць аслепнуць. Людзі ж не маюць крылаў, таму іхняя слепата не прывядзе нікуды. Іх чакае парог цемры і нянавісці. На гэтым парозе спачывае сама Вечнасць. Яна — сімвал пакуты…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы…

«…За парогам цемры і нянавісці, нябёсаў і зямлі, ночы і дня плывуць караблі нашых пустых дзён. Яны плывуць па моры слёз. Гэта слёзы Твае, о Дэкаданс, слёзы асалоды і шчасця, якія выцякаюць з бяздонных вачэй Тваіх! Яны ажывілі мёртвую зямлю, і на ёй з'явіліся расліны і жывёлы. Вецер надзеі напаўняе ветразі караблёў. І яны плывуць паміж небам і зямлёй, па хвалях вершаў, складзеных Апошнім паэтам.

Вы бачыце караблі, ветразі якіх напаўняе Дэкаданс? Гора вам, сляпыя прарокі! Гора вам, бо вы дзеліце любоў на роўныя часткі! Няма ў свеце роўнасці! Роўнасць пахаваная пад парогам цемры і нянавісці. Роўнасць — найгоршае пакаранне, якое ніхто не атрымае, бо Дэкаданс не дорыць цяжкія пакуты. Ён не любіць крайнасці. Таму Ён магутны і літасцівы.

Слабыя паэты куюць ланцугі і путы. Яны хочуць зняволіць свае вершы. Так абрываецца сувязь паміж творцам і творам. Моцныя паэты адпускаюць вершы на волю. Так абрываецца сувязь паміж творам і творцам. Толькі я, Апошні паэт, ведаю, што творца і твор — гэта як смерць у жыцці і жыццё ў смерці. Толькі я, Апошні паэт, сведчу, што шлях мусіць быць як лязо маланкі. Але ўсе думаюць, што свет — замкнёнае кола. Гэта думкі несвабодных людзей. Яны самі рухаюцца па коле — адно за адным. Замест таго, каб глядзець іншым людзям у вочы, яны глядзяць ім у патыліцу. Тыя, якія крочаць за іншымі, кажуць: «Калі б у нас быў яшчэ адзін шанец, то мы выракліся

б слабасці, гэтак сама, як Слова адраклося ад нас». Але не ведаюць людзі, што гэта яны адракліся ад Слова на карысць цела. Гора ім! Яны ніколі не выйдуць з Агню.

Гэй, людзі! Смакуйце на зямлі тое, што дазволена небам, але не каштуйце залатыя плады самападману. Іх узгадаваў сам Сатана, вораг бачнага і ўяўнага свету. Не трэба крочыць па слядах Сатаны. Яго сляды сатканы з танных усмешак псеўдапрарокаў і срэбралюбцаў. Не верце таннаму бляску! Псеўдапрарокі будуць гучным голасам крычаць: «Ва ўсім трэба сумнявацца! Не верце нават бацькам! Вашы бацькі распавядалі вам пра вялікіх белых птушак, якія прынеслі вас у гэты свет. Але ж вы ведаеце, што чалавек нараджаецца ў блудзе і брудзе! Бацькі хлусілі вам, а значыць, нельга нікому верыць! Асабліва Апошняму паэту! Хто сказаў, што ён апошні? За ім могуць прыйсці легіёны новых паэтаў!»

Тых, што паслухаюць псеўдапрарокаў, можна параўнаць са статкам быдла: калі пастух гоніць быдла і прыкрыквае на яго, статак не чуе нічога, акрамя крыку. Няверныя, глухія, нямыя і сляпыя. Яны нічога не разумеюць. Нават чытанне вершаў ім не дапаможа…

Тыя, што не пойдуць на падманны вокліч, будуць узнагароджаны. Іхнія вершы стануцца жывым люстэркам, у якім адаб’ецца Дэкаданс. А вершы няверных адлюструюць мерцвячыну, кроў, мяса, бруд, мярзоту і ўсё тое, што прынесена ў ахвяру Сатане. Але і такіх паэтаў літасцівы Дэкаданс гатовы прабачыць, калі тыя апомняцца і разаб’юць алтар свайго нявер’я. Ніколі не позна папрасіць прабачэння за позірк у патыліцу. Ніколі не позна вярнуцца на шлях маланкі. Ніколі не позна стацца годным сынам Святой Маці. Ніколі не позна. Кожны мае права на ачышчэнне. Кожны мае права на слова. Кожны мае права напоўніць сэрца жыватворным агнём праўды, а позірк — слязой шчасця. Смерць і Мудрасць не пакінуць паэта. Нават самага слабага. Пакуты чакаюць толькі глухіх, нямых і сляпых спадкаемцаў трывогі. Пакуты чакаюць таго, хто паслухаў срэбралюбцаў і вырашыў, што за здзейсненыя памылкі можна адкупіцца грашыма. Гора вам! Усе грошы свету не вартыя адной слязы пакаяння. Не душы вашы, а целы напоўняцца агнём. І не жывым, а мёртвым, пякельным, вечным, сатанінскім, сінім полымем. Такая праўда.

Не той паэт, хто паварочвае свой твар то на ўсход, то на захад. Сапраўдны паэт верыць у Дэкаданс, у Апошні дзень, у словы прарокаў. Паэт не баіцца запрасіць у свой дом незнаёмых людзей, бедных сваякоў, сіротак і вандроўнікаў. Калі паэт чытае вершы іншых паэтаў, у яго вачах няма ні зайздрасці, ні самазадаволенасці. Сапраўдны паэт не прагне ні вайны, ні міру. Бо ён — паэт. Для паэта няма розніцы, хто чытае яго вершы — вольны чалавек ці раб, цнатлівая дзяўчына ці разбэшчаная кабета, мужны ваяр ці баязлівец. Перад абліччам Паэзіі ўсе аднолькавыя. Нават забойца мае права на літасць. Пакаранне чакае толькі тых, хто ўласнымі рукамі закрывае свае вочы і вушы.

Той, хто любіць Цішыню і Цемру, мусіць цвёрда ўсвядоміць: Дэкаданс міласціва пакіне іх у спакоі, але плата за спакой будзе вялікай. Гэй, уладальнікі розуму! Розум падкажа вам, што на супрацьлеглай частцы Сусвету, куды вы так спяшаецеся, няма нічога такога, дзеля чаго варта жыць і паміраць. Розум падкажа, што супрацьлеглая частка Сусвету не чакае вас. Розум падкажа, што тры стыхіі, якія спяць за небакраем

дабра і зла, красы і пачварнасці, не хочуць, каб вы іх абудзілі. Што гэта за стыхіі? Вось іхнія імёны: РА, АР і КА.

Стыхія РА — першапачатак усяго існага, крыніца святла і матэрыя духу. Яе сімвал — круг. Яе лічба — 0. Яе час — РАнак. Яна шэРАга колеру. Яе спасцігнуць дапамагае толькі веРА, глыбокая, як моРА. РА спачывае на вастрыі пРАменняў сонца, але яе РАдуе цемРА. РА імкнецца зРАбіць так, каб сястРА і бРАт не рабіліся воРАгамі адно аднаму, пеРАадольвалі здРАду і спрРАдвечны стРАх пеРАд бРАмай РАю. УРА — адзіная малітва да РА.

Стыхія АР — жывы адбітак цені РА, заканчэнне ўсіх дАРог, увасабленне мАРнасці, вАР’яцтва і стАРасці. Яе сімвал паўкруг. Яе лічба — Пі. Яе час — вечАР. Яна бАРдовага колеру. Яе спасцігнуць дапамагае пагАРда да жАРсці. АР спачывае на алтАРы з мАРмуру. На яе галаве — кАРона з чАРнюткіх АРхідэй, на шатах — чАРоўны АРнамент. АР прымае любую малітву, кожны трапАР.

Стыхія КА надала форму РА і напоўніла зместам АР. Так нарадзілася першая РАКА. Па яе стРАКАтай паверхні паплылі КАРАваны чаўноў у мёртвую далеч непазбежнага паКАРАння. РАКА знікае пад АРКАй смерці і пеРАтвАРаецца ў АРКАн жыцця. Не трэба маліцца да КА.

Калі ж хтосьці захоча абудзіць спачылыя стыхіі, няхай не забываецца, што віна кладзецца толькі на тых, хто слухае голас розуму. Лепш слухаць голас сэрца. Бо толькі праз сэрца прамаўляе Дэкаданс. Не будзіце дарэмна стыхіі…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы…

«…Праз чытанне вершаў настае ачышчэнне. Так ачышчаліся вашы бацькі і толькі так ачысцяцца вашы дзеці. Чытанне вершаў асветліць шлях, і будзе бачна, прамы ён ці не. Чытаць вершы не трэба насілу, бо гэта тое самае, што падаваць міласціну заможнаму чалавеку. Добрыя справы здзяйсняюцца добраахвотна.

Аднойчы вам была падараваная Белая кніга, дзе Дэкаданс змясціў дакладнае кіраўніцтва для паэтаў, якія вераць у Апошні дзень. Дэкаданс не жадае прыносіць вам цяжкасці. Ён жадае, каб вы давялі да канца вызначаны лік сваіх дзён і ўзвялічылі Яго за тое, што Ён наставіў вас на прамы шлях. Быць можа, вы будзеце ўдзячныя за гэта.

Часам паэты паводзяць сябе так, як быццам бы Паэзія — іх жонка. Яны прагнуць уступіць з ёй у блізкасць, забыўшыся, што Паэзія — іх маці. Такіх паэтаў чакае пакаранне: жанчыны больш не будуць адзеннем для іх, затое яны стануцца адзеннем для блазнаў. Але калі паэты пакаюцца, то Дэкаданс прыме пакаянне і прабачыць іх.

Дэкаданс забараняе паэтам уступаць у блізкасць з іншымі паэтамі, бо так паэты становяцца блазнамі. Ешце і піце, паэты, аж пакуль не зможаце адрозніць белую нітку світання ад чорнай ніткі ночы! Вашы вершы дапіша маладзік на небе, вашы малітвы прачытае пясок, вашымі суддзямі стануць вашы ўласныя крокі. Паэт мусіць быць набожным. Але набожнасць паэта праяўляецца не ў вершах пра Бога, а ў радках, скіраваных да чалавека.

Паэзія — не вайна. Нельга ваяваць нават з тымі, хто ваюе супраць вас. Перамога і так будзе за вамі, калі вы не пераступіце межы дазволенага. Дэкаданс не любіць ваяроў. Ён сам знішчыць няздарных рыфмароў, дзе б яны ні схаваліся. Аднак паэт мае права выганяць подлых блазнаў з Храма Слова. Але не забіваць. Бо нават жаданне забіць значна горшае, чым само забойства…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы…

«…Паэзія — гэта рэлігія. Яна не прымае варажнечы. Шлях да паэзіі — шлях праз самаахвярнасць. Але не забывайма, што самаахвярнасць не тоеснае самазнішчэнню. Паэт не выракае сябе на згубу, бо згуба не нясе дабро. Таму сапраўдны верш сваім нараджэннем нясе паэту асалоду і радасць, а не пакуту. Пакуты Дэкаданс пасылае псеўдапаэтам — прыблудным гандлярам словамі і блазнаватым гульцам-рыфмаплётам.

Верш — гэта ахвяра паэта, складзеная Дэкадансу. Кожны паэт прыносіць у ахвяру тое, што можа, аднак ахвяра мусіць быць народжаная сэрцам. Усё, што народжанае розумам, агіднае Дэкадансу, асабліва словы, прарошчаныя ў подлых і дурных галовах. Калі паэт адчуе, што ахвярны верш гатовы легчы на алтар, ён мае права пагаліць сваю галаву. Гэта знак пакоры розуму перад сэрцам.

Але не варта галіць галаву, пакуль ахвярнае слова не сталася паўнавартасным вершам. Калі ж паэт не можа прынесці ахвяру, ён павінен пасціцца — чытаць вершы іншых паэтаў. Чытанне вершаў станецца вашым паломніцтвам — вандроўкай на вяршыню самай высокай святой гары. Дакраніцеся да яе льдоў і вяртайцеся ў лагчыну свайго «Я». Вандроўка мусіць заняць тры дні. Аднак хто спяшаецца і завяршае абрад за два дні, той не здзяйсняе граху. І хто затрымліваецца, той таксама не здзяйсняе граху. Грашыць той, хто падчас паломніцтва насычае сваю душу пытаннямі. Душа павінна заставацца ў спакоі, як ільды на вяршыні святой гары.

Не трэба забываць, што жыццё выплывае з паэзіі, а не наадварот. Аднак нельга ўзвышаць ні паэзію над жыццём, ні жыццё над паэзіяй.

Той, хто ўзвышае адны рэчы над іншымі, будуе піраміду — вогненны храм Сатаны. Не будуйце бажніцы, дзе моляцца розуму і гандлююць душамі. Такія месцы агідныя Дэкадансу, і Ён з'явіцца аднойчы, укаранаваны аблокамі, разам з анёламі, ды пахавае будаўнікоў пірамід пад абломкамі хлусні. Так слова станецца целам, а нашы справы — доўгім шэрым ценем, які схавае права на прабачэнне.

Жыццё без веры вабіць людзей танным сваім бляскам. Асепленыя, людзі пачынаюць здзекавацца з вернікаў, заклікаюць іх да адзіноты, зайздрасці і здрады. Умейце ж заплюшчыць свае вочы, калі танны бляск штучнай свабоды захоча адабраць ваш зрок. Бо інакш не дзівіцеся з галечы і хваробаў, калі яны раптам абрынуцца на вас. Не дзівіцеся, калі вашы бацькі адвернуцца ад вас, а ўласныя дзеці стануць саромецца вашай прысутнасці. Сіроцтва — усяго толькі сон, які вы самі захацелі прысніць. Беднасць і багацце, хвароба і здароўе — усяго толькі формы свядомасці, а не яе змест. Праўда, адзін Дэкаданс ведае пра гэта. Ён ведае, што вы любіце ваяваць, хоць гэта вам і непрыемна. Магчыма, вам непрыемна і тое, што з'яўляецца выгадай для вас. І, быць можа, вы любіце тое, што з'яўляецца злом для вас. Дэкаданс усё ведае, а вы не ведаеце нічога.

Запытайцеся ў мяне, Апошняга паэта, пра бітву за ідэалы. Я адкажу вам: «Ваяваць — вялікае злачынства. Аднак збіваць іншых са шляху, які акрэсліў Дэкаданс, не верыць у Яго, не пускаць у Запаветны Храм і выганяць адтуль яго насельнікаў — яшчэ большае злачынства перад Паэзіяй. Спакуса горшая, чым забойства. Блазны не перастануць ваяваць з вамі, пакуль не адхіляць вас ад вашай веры, калі толькі змогуць. А калі хто адступіць ад сваёй рэлігіі і памрэ ў бязвер'і, то яго вершы стануцца пу-

стымі і непатрэбнымі як у гэтым часе, так і ў іншыя часы. Яны зробяцца насельнікамі Агню і застануцца там вечна».

Магчыма, вы спытаеце ў мяне пра гульні са словам. Адкажу вам: «Для паэтаў гульня — вялікі грэх, але ёсць у ёй пэўная карысць для людзей, хоць граху ўсё ж больш, чым карысці».

Паэт не павінен выракаць сябе на адзіноту. Сапраўдны паэт не асіроціць уласных дзяцей, не прымусіць іх бадзяцца ў пошуках ежы і жытла. Таму сапраўдныя паэты не жэняцца на язычніцах, пакуль тыя не павераць у Дэкаданс. Язычніцы клічуць вершы да Агню, а Дэкаданс кліча вершы на край нябёсаў. Паэты! Няхай вашы жонкі стануцца раллёй для вас. Прыходзьце ж на вашу раллю, як толькі яна пакліча вас. Рыхтуйце для сябе добрыя ўсходы, бойцеся пустазелля і ведайце, што вы сустрэнецеся аднойчы з Дэкадансам.

Калі ж паэт задумаў пакінуць сваю раллю, няхай потым не наракае на голад. І няхай запомніць, што назад вяртання няма. Зямля не прымае таго, каго адпусціла…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы…

«…Святая Маці ўскарміла слабых паэтаў, зрабіла іх моцнымі з надзеяй, што яны ніколі не асмеляцца пакрыўдзіць жанчыну, такую ж маці. Толькі подлыя блазны, ускормленыя Ваўчыцай, плююць у чыстую крыніцу жыцця і паэзіі. Іх чакае пакаранне — жахлівая смага, якую яны будуць спатольваць Агнём, аж пакуль не захлынуцца ўласнай крывёй.

Ні на аднаго чалавека не ўскладаецца звыш яго магчымасцей. Моцныя паэты ведаюць гэта, таму годна крочаць шляхам маланкі. Слабыя паэты азіраюцца па баках, баяцца надоўга пакідаць сваё жытло, асцерагаюцца смерці. Таму слабым паэтам Дэкаданс аднойчы сказаў: «Памрыце!» Затым Ён ажывіў слабых паэтаў. І тыя сталіся моцнымі. Сапраўды, Дэкаданс міласцівы да творцаў, аднак большасць з іх застаюцца няўдзячнымі, бо не вераць нават уласным вершам.

Ніколі не забывайцеся пра магілы вашых шляхетных бацькоў і святых дзядоў, не дазваляйце полымю сухога лісця праглынуць іхнія сляды. Беспамяцтва не павінна завалодаць душой паэта. Нішто не павінна валодаць душамі паэтаў, акрамя Дэкадансу. І таму сапраўдны паэт ніколі не прызнае над сабой ніякай улады, акрамя ўлады Слова. Ні сіла, ні грошы, ні пагроза страціць радзіму, ні закон, ні беззаконне, і нішто іншае не прымусіць паэта скарыцца. Толькі перад Дэкадансам скараюцца паэты, бо Ён для творцаў адзінае ўвасабленне магутнасці і багацця, адзіная радзіма і адзіны закон. Дэкаданс — мост, які звязвае зямлю і неба, мінулае і будучыню, мудрасць і адвагу, жыццё і сон, Чалавека і Бога.

Можаце не верыць словам Апошняга паэта, але тады не глядзіцеся ў люстэрка, бо сябе там не знойдзеце. Знойдзеце толькі пустыя адбіткі ворагаў і здрайцаў. Дэканданс — заступнік тых, якія паверылі. Ён выводзіць слабых паэтаў з цемры да святла. Зрэшты, і ў недавяркаў ёсць свае заступнікі і памагатыя. Гэта дэманы рацыянальнасці, якія выводзяць моцных паэтаў са святла ў цемру. Разам яны стануцца насельнікамі Агню і будуць там вечна.

Не спрачайцеся з Апошнім паэтам, бо гэта яму Дэкаданс дараваў царства Сваё са словамі: «Мой Паэт, твая паэзія дае жыццё і забівае, гэтак як і Я даю жыццё і забіваю». Не прасіце Апошняга паэта, каб сонца ў яго вершах заходзіла на ўсходзе і ўзы-

ходзіла на захадзе. Паэзія мусіць здзіўляць, але не бянтэжыць. Дэкаданс не вядзе паэтаў дзіўным шляхам, але прамым, як лязо маланкі. Гэты шлях адначасова і доўгі, і кароткі: адлегласць паміж думкай і словам вымяраецца часта адным імгненнем, аднак адлегласць паміж словам і думкай можа вымярацца бясконцымі стагоддзямі.

Дэкаданс надзяліў Апошняга паэта здольнасцю змяняць аблічча свету. Але не прасіце ў яго ажыўляць мёртвых птушак, не прасіце змешваць святло і цемру, не прасіце нічога ў паэтаў… Магчыма, вы чулі прыпавесць пра дзіравую кішэню паэта, з якой на дарогу выпалі зярняты збожжа, а з іх вырасла сем каласоў, а ў кожным коласе — па сто зярняткаў. Дэкаданс і так узнагародзіць, каго трэба, а ў паэтаў нічога не прасіце… І не папракайце ні ў чым паэтаў, не абражайце іх, бо гэта самы вялікі грэх. Мёртвых птушак ажывіць вельмі цяжка. Калі вы ахвяруеце нешта паэту, не забывайцеся, што гэта ён робіць вам міласць, калі прымае ахвяраванні. Паэт — як дождж. Людзі — як голыя скалы, пакрытыя зямлёй. Арошаныя лёгкім дажджом, скалы квітнеюць. Моцны лівень здольны змыць пласт зямлі і зрабіць скалы чорнымі і мёртвымі. Не трэба крыўдзіць паэтаў…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы…

«…Калі ў гаспадара ёсць багаты сад, дзе растуць усякія плады, наўрад ці ён захоча, каб гэты сад згарэў. Але тады чаму свае квітнеючыя душы мы выракаем на агонь?!

Паэзія — багаты сад, якім апякуецца Дэкаданс. У садзе паэзіі растуць розныя дрэвы, з якіх дазволена паэтам зрываць плады, есці іх і частаваць іншых людзей. Але калі нехта з паэтаў, прагны да нажывы, стане прадаваць людзям плады, Дэкаданс пакарае гандляра: сакавітыя плады паэзіі ў брудных руках срэбралюбца ў адно імгненне ператворацца ў смуродныя гнілушкі. Не прадавайце вершы! Частуйцеся паэзіяй і частуйце ўвесь свет, але помніце, што паэзія належыць Дэкадансу. Толькі Дэкадансу. Калі ж парушаны будзе закон, будзеце ўзірацца на неба не вачыма, поўнымі дыяментаў шчаслівых слёз, а пустым водбліскам халоднага срэбра.

Можна зразумець прадажных паэтаў, якія хочуць зарабіць, гандлюючы душой. Сатана пагражае ім беднасцю і загадвае рабіць агідныя рэчы. Але ці можна такіх паэтаў прабачыць? Дэкаданс абяцае ім прабачэнне і літасць. Калі пакаюцца. Дэкаданс справядлівы і мудры.

І не прыніжайце людзей, калі будзеце частаваць іх пладамі з сада паэзіі. Не рабіце так, каб людзі адчувалі сябе жабракамі. Плады паэзіі — не міласціна, а шчыры падарунак вам і ўсім людзям.

І не выдавайце сябе за прарокаў. Весці людзей прамым шляхам — не ваш абавязак, бо гэта Дэкаданс вядзе прамым шляхам тых, каго пажадае…»

— Чытайце вершы, чытайце вершы!

«…У свеце няма нічога лішняга. Усё знаходзіцца на сваіх месцах. Гэтак і ў паэзіі павінна панаваць гармонія. Дэкаданс знішчае тых паэтаў, якія прагнуць усталяваць свой парадак рэчаў. Толькі Дэкаданс мае права змешваць светлыя і цёмныя колеры, ціхія і гучныя мелодыі. Так, смутак і весялосць ходзяць поруч, як і быт з нябытам, аднак яны — быццам два берага ракі. Гэтыя берагі можна злучыць мастамі веры і натхнення. Недавяркі ж прагнуць засыпаць раку, каб перайсці на іншы бераг. Пакаранне чакае іх, а не перамога. Не засыпайце пяском іроніі і камянямі пагарды свет-

лую раку Памяці! Бо калі вы зробіце гэта, то ведайце, што Дэкаданс і я, Апошні паэт, абвесцім вам вайну. І нават калі вы пазней захочаце раскаяцца, то вас усё роўна напаткае смерць. Не Дэкаданс знішчыць вас, бо ён літасцівы. Вы знікнеце ў вірах уласнага бяспамяцтва. Цені вашых чорных думак праглынуць кожнае вашае слова, а крумкачы вар'яцкай свабоды выдзеўбуць вам вочы. Сляпыя і безгалосыя, вы не зможаце крочыць прамым шляхам. Нават рэха не захоча размаўляць з вамі. Шануйце раку Памяці!

Хто шануе Памяць, той чуе яе ціхі голас. Памяць не крычыць. Яна лагодна прамаўляе да паэта, і добры паэт запісвае словы Памяці. Каб іх потым прачыталі людзі. Калі ж паэт не захоча запісваць гэтыя словы альбо замяніць іх на іншыя, яго чакае пакаранне — ён назаўсёды аглухне і не пачуе нават подых уласнай бездапаможнасці.

Гэтак мовіў Дэкаданс. Ён падарыў мне, Апошняму паэту, словы малітвы. Так малілася наша Святая Маці, і так маліцца будзеце вы, мае браты ў духу: "Божа! Не карай нас, калі мы забыліся ці памыліліся! Божа! Не ўскладай на нас цяжар, які Ты ўсклаў на нашых папярэднікаў! Божа! Не ацяжарвай нас тым, што нам не пад сілу! Будзь добрым да нас! Прабач нас і памілуй! Ты — наш Заступнік! Дапамажы ж нам атрымаць перамогу над нявернымі!"»

Апошні паэт расплюшчыў вочы… Ён па-ранейшаму стаяў перад каменным калодзежам і зазіраў унутр, у прахалодны змрок цёмных глыбіняў. Але піць болей не хацелася. А нават калі б смага і не адпусціла са сваіх гарачых абдымкаў, напіцца сцюдзёнай вады ўсё роўна ніяк не выпадала: побач не было жаднага посуду, якім можна было б зачарпнуць жыватворнае пітво. І людзей вакол таксама не было, каб папрасіць кубак альбо гарлачык — на пустых вулках па-ранейшаму панавала багавейлівая цішыня: ні табе хатніх гаспадынь, ні вулічных гандляроў, ні стражнікаў. Нікога. Хоць сонца паднялося ўжо даволі высока, асвяціўшы сваёй шчырай усмешкай дахі старадаўніх камяніц і вузкія лабірынты брукаванак, якія, быццам маршчыны, прарэзалі твар гэтага дзіўнага, прывіднага горада.

нарадзіўся 28 верасня 1977 года ў Гродне. У 1999 годзе скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, пасля — магістратуру (2000) і аспірантуру (2003) пры кафедры польскай філалогіі згаданага ўніверсітэта. Абараніў кандыдацкую дысертацыю па творчасці Адама Міцкевіча (2004), прысвоена вучонае званне дацэнта (2007). Аўтар кніг паэзіі «Дуэль» (1992), «Падаю ў неба» (2006), «Апошні дзень» (2013), літаратуразнаўчай працы «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча» (2008). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Гродне.







# ПРОЗА СТАРОГА ГОРАДА

## ВІКТАР ВАРАНЕЦ

### Давыд і тампліеры

Кожны дзень, пасля ранішняй малітвы, кароль Францыі Філіп IV Прыгожы выходзіў на ранішні праменад па палацавым парку. Кампанію яму заўсёды складаў ахоўнік пячаткі і канцлер каралеўства маркіз Гіём дэ Нагарэ. У час прагулкі маркіз знаёміў караля з апошнімі навінамі, плёткамі і падзеямі ў дзяржаве.

Так было і гэтым разам. Кароль няспешна вандраваў па алеях парка, а дэ Нагарэ, трымаючы ў руках невялічкі нататнік, манатонна бубніў:

— У Ліёне, Ваша Вялікасць, пачаліся галодныя бунты. Насельніцтва разбівае лаўкі, склады, рабуе арыстакратыю.

— Паслаць салдат і пакараць усіх, — спакойна адрэагаваў Філіп і дадаў: — Жорстка пакараць.

— Слухаюся, Ваша Вялікасць! — канцлер тут жа зрабіў пазнаку ў кніжачцы і працягваў:

— У мадам Лорэнс сёння ўсю ноч гарэла святло, чуўся мужчынскі голас.

Кароль рэзка спыніўся і з зацікаўленым выглядам павярнуўся да дарадцы.

— Так, і хто гэта быў?

— Ваша Вялікасць, — канцлер апусціў вочы долу, — па маіх звестках, гэта быў Ваш сын Людовік.

— Ага, — узрадавана ўсклікнуў Філіп, — значыць, хлопчык падрос. Цудоўна! Перадайце мадам Лорэнс, каб з поўнай адказнасцю аднеслася да ганаровых візітаў нашчадка трона і навучыла яго ўсяму, што сама ўмее. А ўмее яна шмат, гэта я дакладна ведаю. І аддайце ёй вось гэты пярсцёнак.

Філіп сцягнуў з пальца пярсцёнак з вялікім, як галубінае яйка, каштоўным каменем і працягнуў дэ Нагарэ.

— Будзе зроблена, мой кароль! — з паважнасцю запэўніў канцлер, узяўшы падарунак.

— Ну, што там яшчэ засталося? — запытаў кароль.

— Вашай аўдыенцыі просіць нейкі чалавек па імені Жан-Клод.

— Хто ён і што яму трэба?

— Ён асуджаны на смерць за забойствы і разбой. Кажа, што валодае звесткамі асаблівай дзяржаўнай важнасці, але сказаць можа толькі асабіста каралю.

— І вы, Нагарэ, лічыце, што гэта варта маёй увагі?

— Так, мой кароль. Я размаўляў з гэтым чалавекам і перакананы, што ён не падманвае. Гэта дзяржаўная справа.

— Што ж, прывядзіце яго да мяне, калі так трэба для маёй дзяржавы. Паглядзім. А сын малайчына! Гэта трэба ж, адразу з Лорэнс пачаў. Ах, паганец!..

Злачынцу прывялі да Філіпа позна ўвечары. Высокі, шыракаплечы, з вялікай блізнай праз левую шчаку, ён выклікаў адчуванне міжвольнага страху, хаця рукі і ногі былі скаваныя ланцугамі. Скураны пас шчыльна ахопліваў шыю, а ад яго цягнулася доўгая вяроўка, канец якой моцна трымаў вартаўнік. Убачыўшы Філіпа, чалавек упаў на калені, крануўшы падлогу лбом.

— Падыміся! — загадаў кароль. — Я слухаю цябе.

Чалавек цяжка ўзняўся, адкінуў з вачэй доўгія валасы і пачаў гаварыць:

— Ваша Вялікасць! Месяц назад мяне пасадзілі ў камеру смяротнікаў, дзе ўжо чакаў прысуду адзін чалавек. Паколькі назаўтра яго збіраліся караць, гэты чалавек папрасіў спавядаць яго.

— Ты святар? — са здзіўленнем запытаў Філіп.

— Дазвольце, Ваша Вялікасць, — умяшаўся ў размову канцлер. — Паводле законаў Францыі, асоба, якая ўчыніла цяжкае злачынства, не дапускаецца да царкоўнага прычасця і святой споведзі. Таму злачынцы слухаюць адзін аднаго.

Філіп задаволена кіўнуў.

— Дык вось, — працягваў злачынца, — гэты чалавек уваходзіў у Ордэн тампліераў і расказаў мне шмат страхаў. Рыцары Ордэна плануюць грандыёзную змову супраць манархій Італіі, Іспаніі і Францыі. Прычым Францыя стаіць у гэтым спісе першай. Ордэн, валодаючы вялікімі фінансавымі магчымасцямі, праз крэдыты, хабар і подкупы сёння кантралюе палову шляхецкіх родаў у еўрапейскіх краінах. Рыцары-храмоўнікі плануюць пасадзіць на трон людзей з Ордэна, такім чынам стварыўшы ў будучым адзіную імперыю Ордэна тампліераў.

— А ці не брэша твой сукамернік? — недаверліва запытаў Філіп.

— Перад смерцю няма сэнсу падманваць, Ваша Высокасць, — адказаў смяротнік. — Вы б паслухалі, што ён расказваў пра свой удзел у гэтых злачынных планах. «Кароль ад Бога, — казаў ён. — Значыць, я выступаю супраць Бога».

— Добра, — прыпыніў яго кароль. — Я ўсё зразумеў. За вернасць каралю і карысную інфармацыю я вызваляю цябе ад турмы і даю кашэль з грашыма.

Адпусціўшы злачынцу, Філіп надоўга задумаўся. Дэ Нагарэ моўчкі стаяў за крэслам, ледзь прыкметна ўсміхаючыся.

— Што вы думаеце, маркіз, з гэтае нагоды? — перапыніў цішыню кароль.

— Ваша Вялікасць, — канцлер стаў перад манархам, — сам Бог паслаў нам гэтую навіну. Тампліеры і сапраўды разбэсціліся. Да мяне ўвесь час даходзіць інфармацыя, што храмоўнікі крадуць дзяўчат і хлопцаў для сваіх плоцкіх оргій, займаюцца варажбой і спірытызмам. Яны зусім забыліся пра пана Бога, якому кляліся служыць.

— Ці пачулі Вы галоўнае, дэ Нагарэ? — раздражнёна перапыніў яго кароль. — Яны пасягаюць на манархічную ўладу! Вось што ёсць сапраўдным злачынствам!

— Я гэта чуў, Ваша Вялікасць. Але Ордэн знаходзіцца пад патранажам Рыма, і нам спатрэбяцца важкія аргументы для папы Клімента V. У дзяржаўны пераварот ён не захоча паверыць. А вось распуцтва, ерась і крадзеж грошай, прызначаных Рыму, — сур’ёзныя аргументы.

— А што, мы таксама пазычалі ў тампліераў? — больш спакойным голасам запытаў Філіп.

— Так, мой кароль, і досыць шмат…

— З Ордэнам трэба канчаць! — вынес канчатковы вердыкт Філіп. Канцлер задаволена прыплюшчыў вочы.

Увечары ў дзверы каралеўскай спальні ціхенька пастукалі. А праз імгненне на парозе з’явілася каханка караля графіня Жаклін дэ Кляўе. Яна была апранута ў кароткую рымскую туніку ярка-чырвонага колеру, якая ўдала падкрэслівала фігуру жанчыны.

— Ці дазволіць мой уладар пажадаць яму добрай ночы? — прамурлыкала яна.

Філіп моўчкі кіўнуў. Жаклін імгненна скінула туніку і няспешна пакрочыла да каралеўскага ложка, нікольні не саромеючыся свайго голага цела. Яна села каля караля, па-ўсходняму падціснуўшы пад сябе ногі, і пачала пяшчотна гладзіць Філіпа па валасах, шыі, грудзях, няўмольна кіруючыся да каралеўскай плоці. Але Філіп ніяк не рэагаваў на гэтыя заляцанні. Ён думаў.

— Мой уладар чымсьці занепакоены? — графіня пацёрлася шчочкай аб калена караля.

— Што Вы скажаце пра рыцараў-храмоўнікаў, мадам? — неспадзявана запытаў Філіп.

— Фі, мужланы, збачэнцы, праўда, вельмі і вельмі заможныя.

— Вы пазычалі ў іх грошы, Жаклін? — кароль уважліва паглядзеў каханцы ў вочы. Яна на хвілінку збянтэжылася, адвяла позірк, але тут жа ўзяла сябе ў рукі.

— Не, мой пане, ніколі. Хаця яны і прагнулі майго кахання.

Філіп ускочыў з ложка і тузануў шнурок, што звісаў з балдахіна. Дзесьці заблямкаў званочак. У спальню ўбеглі два вартаўнікі.

— Яе, — кароль паказаў пальцам на каханку, — у лёхі. Канцлера дэ Нагарэ да мяне.

Калі маркіз увайшоў у спальню караля, Філіп, ужо апрануты, сядзеў за кававым столікам і нецярпліва пастукваў па стольніцы лестачкай.

— Што здарылася, Ваша Вялікасць? — занепакоена запытаў канцлер.

— Дэ Кляўе мне здрадзіла!

— З кім? — не адразу зразумеў маркіз.

— Не з кім, а на карысць каго.

— Даруйце, Ваша Вялікасць, і на карысць каго?

— А пра гэта вы даведайцеся ад яе. Графіня ў лёхах. Але я вам скажу, маркіз, — гэта тампліеры! І яны хацелі забіць мяне рукамі маёй жа каханкі. Я зразумеў гэта сёння. Забойцы! Пішыце тайны загад, маркіз…

Вялікі магістр Ордэна тампліераў сядзеў у вялікай зале замка і задумліва глядзеў на агонь у каміне. Нячутна ўвайшоў найбліжэйшы паплечнік магістра прыёр Нармандыі Жафруа дэ Шарнэ. Ён наблізіўся да месіра і, пачціва схіліўшы галаву, вымавіў:

— Рыцары прыйшлі, Ваша Міласць.

Магістр яшчэ з хвіліну глядзеў на языкі полымя, як бы не ў стане адарваць вачэй ад гэтага відовішча, пасля чаго ціха загадаў:

— Няхай уваходзяць.

Праз хвіліну ў залу ўвайшлі самыя ўплывовыя рыцары Ордэна тампліераў і сталі вакол вялізнага круглага стала.

— Сядайце! — запрасіў магістр.

Калі ўсе ўладкаваліся ў высокіх драўляных крэслах, магістр няспешна пачаў казаць.

— Браты мае! Вось ужо колькі вякоў наш Ордэн рыцараў-храмоўнікаў служыць пану Богу і нясе ў свет пастулаты святой царквы. Мы ахоўваем хрысціянскія каштоўнасці ад нападкаў розных паганцаў і сарацынаў. Але няўдзячнасць заўсёды была ўласціва людзям, і нават манархам. І сёння, браты мае, я са смуткам мушу сказаць, што чорныя хмары зайздрасці і сквапнасці навіслі над Ордэнам. Хцівыя і ненажэрныя вочы некаторых каранаваных асоб разгледзелі багацце нашых скарбніц і гараць ад нецярпення завалодаць ім.

Адзін з рыцараў, камандор дэ Арнэ, ускочыў з крэсла, выхапіў меч і гучна зароў:

— Хто гэта? Толькі назавіце іх прозвішча, майстар, і яны пазбавяцца не толькі хцівых вачэй, але і пустых галоў!

Усе ў знак згоды заківалі, абурана загаманілі. Магістр стомлена ўзняў руку, і гул сціх.

— Сядайце, доблесны рыцар дэ Арнэ. Я ніколькі не сумняюся ў вашай адвазе. Але зараз нам спатрэбіцца хутчэй розум, чым проста сіла. Паводле звестак ад надзейнага чалавека з каралеўскага двара, закляты вораг нашага Ордэна Гіём дэ Нагарэ пераканаў караля Францыі Філіпа знішчыць Ордэн і авалодаць нашымі багаццямі. І гэта пасля ўсяго дабра, зробленага намі каралю. Я тэрмінова збіраюся з візітам да папы Клімента V, і мяркую, што здолею адкрыць яму вочы на інтрыгі караля Францыі. Але мы павінны, браты мае, перасцерагчыся і надзейна схаваць скарбы Ордэна ад прагных лап Філіпа і яго канцлера. Мы мусім заснаваць новыя калоніі на выпадак, калі ў Францыі не будзе месца Ордэну. Пакляніцеся, рыцары, што пачутае вамі за гэтым сталом памрэ разам з вамі.

— Клянёмся, — амаль хорам адказалі храмоўнікі.

— Тады слухайце і запамінайце. Дванаццаць галер са скарбамі Ордэна з дваццаццю рыцарамі і іх слугамі адправяцца ў Новы Свет. Пра нашы срэбраныя руднікі на гэтай зямлі ў Еўропе ніхто не ведае, і мы ператворым некаторыя з іх у цудоўнае сховішча. Шэсць галер перавязуць скарбы і трыццаць рыцараў Ордэна са слугамі на востраў Барнхольм, дзе знаходзіцца наша крэпасць з часоў хрышчэння балцкіх паганцаў. Васямнаццаць караблёў адправяцца ў Літоўскую зямлю са скарбамі, пяцьюдзесяццю рыцарамі і іх слугамі, дзе таксама захаваюць вывезенае багацце. Вы павінны будзеце заснаваць новыя паселішчы для братоў-тампліераў, адкуль і пачне адраджацца Ордэн, калі Францыя адмовіцца ад нас. Тады кожны рыцар-храмоўнік зможа знайсці сабе прытулак у новых мясцінах. А я заўтра выпраўляюся ў Парыж, куды кароль запрасіў мяне на пахаванне сваёй нявесткі тытулярнай імператрыцы Лацінскай імперыі Кацярыны. Адтуль накіруюся ў Рым на сустрэчу з папам Клімента V. І дапаможа нам Бог!

Васямнаццаць галер Ордэна тампліераў без перашкод пераадолелі Балтыйскае мора і на вёслах пачалі падымацца па магутнай і вірлівай рацэ Нёман. Калі наперадзе сталі бачны драўляныя сцены крэпасці Гародня, галоўны камандор храмоўнікаў Жан дэ Вільняк загадаў прышвартавацца караблям да берага. Хутка на шырокай паляне сярод векавых сосен былі расстаўлены шатры, лагер абнеслі частаколам з тонкіх бярвенняў, завостраных на канцах, выстаўлена варта. У шацёр да галоўнага

камандора былі запрошаны на нараду камандоры атрадаў. Калі ўсе сабраліся і селі ў парусінавыя крэслы, дэ Вільняк пачаў гаварыць:

— Браты тампліеры, як і загадаў Вялікі магістр, мы дасягнулі Літоўскай зямлі, і наперадзе бачна адна з іх крэпасцей. Рыцар дэ Жуўры! — звярнуўся камандор да аднаго з прысутных. — Вы былі ў гэтых мясцінах з тэўтонцамі, ведаеце іх мову і звычкі. Таму вазьміце пяць чалавек, коней і падарункі і выпраўляйцеся на перамовы з мясцовым князем. Нашы ўмовы вы ведаеце. Іх умовы мы гатовы абмеркаваць. Чакаць вас будзем суткі. Калі вы не вернецеся, мы адслужым у ваш гонар месу і рушым далей, паколькі наша задача не вайна, а мір з суседзямі. І няхай з вамі будзе Бог!

П’ер дэ Жуўры моўчкі падняўся, кіўнуў і выйшаў з шатра.

У невялічкай святліцы сядзелі за сталом два мужчыны ў доўгіх палатняных кашулях з мокрымі валасамі. Іх чырвоныя спатнелыя твары асвятляў дрыготкі агеньчык запаленай свечкі. Яны толькі што вярнуліся з лазні і зараз прагна наталялі смагу бярозавым квасам. Маладыя, каржакаватыя, з яснымі сінімі вачыма, гэтыя дзецюкі былі вельмі падобныя адзін на аднаго. Першы з іх быў сынам нальшчанскага князя Даўмонта Давыд, за мужнасць і адвагу ў баях і паходах пастаўлены князем Віценем старастам Гародні. Яго паплечніка звалі Барысам, і стаяў ён, нягледзячы на малады ўзрост, ваяводам гарадзенскага войска. Праўда, ад таго войска адна назва і засталася. Людзей няма, грошай няма, пасля апошняй крыжацкай аблогі трацiна горада згарэла, крапасныя сцены напалову знішчаныя. А князь Віцень патрабуе, каб Гародня стала надзейным шчытом Панямоння. І як гэта зрабіць? Такія вось пытанні і абмяркоўвалі ваяры, астываючы пасля лазні.

— Ну добра, горад, крапасныя сцены мы адбудуем, — працягваў разважаць Давыд, паставіўшы пусты кубак на стол. — Лесу ў нас хапае, смердаў таксама. А вось што з дружынай рабіць? Набраць ваяроў, узброіць, пасадзіць на коней — гэта ж колькі грошай трэба. А дзе ўзяць? Віцень і чуць пра грошы не хоча.

— А яшчэ, княжа, — падтрымаў размову Барыс, — трэба навучыць новую дружыну вайсковай справе. У мяне сёння цэлых ды здаровых засталося сорак чалавек. Хіба гэта войска? Ты ж бачыў, як б’юцца крыжакі: усё па камандзе, роўнымі шыхтамі… А іхнія балісты, каменямёты… Чаму ў нас няма такіх?

— Няма, таму што не ўмеем зрабіць, — жорстка адказаў Давыд. Пасля чаго стукнуў кубкам па стале і зычна крыкнуў:

— Чашніка сюды!

Праз імгненне ў дзвярах з’явіўся сівы дзед са збанам у руках.

— Прынясі нам добрай медавухі, дзед.

— А вось трайняку адведай, княжа, — і чашнік пачаў наліваць духмянае пітво ў кубкі.

— Адкуль ты ведаў, што трэба мёд прынесці? — здзіўлена запытаў Барыс.

— Пажывеш, паслужыш з маё, таксама будзеш усё ведаць, ваявода, — усміхнуўся ў вусы дзед, паставіў на стол збан і ціхенька выйшаў з пакоя.

— Цікавы стары, — толькі і сказаў Барыс.

— Так, цікавы, — падтрымаў Давыд, — быў і дружыннікам, і дзясятнікам, ну і зараз, бачыш, служыць князю. А яшчэ добра апавядае пра мінуўшчыну. Як не трымаць такога на службе?

— І то праўда, — згадзіўся ваявода. — Давай, княжа, вып'ем, каб усё ў нас зладзілася, усё атрымалася.

— Давай! — пагадзіўся князь. — З Боскай дапамогай што-небудзь прыдумаем.

Яны спустошылі кубкі, і на хвіліну кожны замаўчаў пра сваё.

Тут рыпнулі дзверы, і ў пакой увайшоў вартаўнік у доўгай кальчузе, шышаку і з дзідай у руцэ.

— Княжа, — загаварыў ён, схіліўшы галаву, — да цябе просяцца нейкія людзі. Кажуць, рыцары з Францыі. Але непадобныя яны на ваяроў: без зброі, без даспехаў. Толькі нажы доўгія вісяць на паясах.

— І шмат іх? — запытаўся Давыд.

— Чалавек пяць.

— Ці ж не пастка гэта якая? — занепакоіўся Барыс.

— А мы паглядзім, — спакойна адказаў князь. — Ты, Барыс, падымай дружыну і непрыкметна акружыце гэтых рыцараў, каб ні адзін у выпадку чаго не знік. А ты, Дарыслаў, прывядзі сюды іх галоўнага і будзь напагатове.

Як толькі ваявода з вартаўнікам выйшлі, у пакоі з'явіўся дзед з вышытай залатымі ніткамі кашуляй у адной руцэ і з тонкай кароткай кальчугай у другой.

— Надзень, княжа, кальчужку, а на яе кашулю. Няма веры паганым рыцарам! — і з паклонам працягнуў Давыду. Той на імгненне задумаўся, затым моўчкі надзеў усе ўборы і зацягнуў на сабе шырокі пояс з кароткім мячом у ножнах.

Вярнуўся Барыс, а неўзабаве і Дарыслаў увёў у пакой двух высачэзных мужчын з вялікім кулём у руках. Убачыўшы князя, яны паклалі на падлогу куль, прыклалі правую руку да сэрца і з годнасцю пакланіліся.

— Хто вы такія і з якой мэтай прыбылі ў Гародню? — запытаў Давыд.

— Мы рыцары Ордэна тампліераў. Прыплылі з Францыі па загадзе Вялікага магістра Жака дэ Мале. І прыйшлі да Вас, князь, з мірам і адкрытым сэрцам.

Госці разгарнулі куль, і прысутныя ўбачылі аздобленую каштоўнымі камянямі зброю, залатыя кубкі, россыпы пярсцёнкаў, дыяментаў, залатых манет.

— Што ж, раз з мірам, будзеце дарагімі гасцямі, — з усмешкай адказаў Давыд і паказаў рукою на лаву. — Сядайце ў нашай хаце. Стольнік, чашнікі!

У імгненне пакой напоўніўся слугамі. Стол накрылі новым абрусам, расставілі кубкі, талеркі, з'явіліся і мёд трайны, і раманея, і прысмакі мясныя.

— Давайце падымем кубкі за Вялікага магістра Ордэна тампліераў. І перадайце яму маю ўдзячнасць за падарункі! — Давыд асушыў чашу да дна.

Усе таксама выпілі, але да ежы ніхто не дакрануўся. Давыд пільна ўглядаўся ў твары рыцараў, чакаючы далейшых дзеянняў. П'ер Жуўры, як бы чытаючы думкі князя, распачаў гаворку.

— Княжа Давыд, я раскажу ўсё не тоячы, а вы ўжо вырашыце, як будзе далей. Наш ордэн яшчэ нядаўна быў самым магутным у Еўропе. Але сёння нам няма месца нават у Францыі. Ворагі настроілі караля Філіпа супраць братоў ордэна. Сёння-заўтра вырашыцца наш лёс. Але разумны гаспадар не чакае патопу, ён рыхтуецца да горшага. І частка братоў храмоўнікаў з'ехала з Францыі, каб і пры найгоршым выніку ордэн жыў. І мы просім дазволу пасяліцца на тваёй зямлі, князь.

— Што ж, рыцар дэ Жуўры, праўда за праўду, — адказаў Давыд. — Вось ужо шмат часу мы ваюем з рыцарамі Тэўтонскага ордэна за сваё жыццё. І нічога, апроч смерці

і рабавання, ад рыцараў наш народ не бачыў. Чаму я павінен верыць рыцарам Ордэна тампліераў? Чым вы адрозніваецеся ад іх? І што будзе мець Гародня ад такога суседства?

— Дзякуй, княжа, за праўду. Я адкажу табе. Храмоўнікі ніколі не ваявалі на вашых землях і ніколі не падтрымлівалі тэўтонцаў. Нас пяцьдзясят чалавек рыцараў і столькі ж слуг. Мы пабудуем сваю крэпасць і будзем абараняць Вашу зямлю ад усіх нападаў, паколькі гэта будзе і наша зямля. Нашы рыцары загартаваныя ў бітвах, маюць вялікі ваенны досвед, і мы можам шчодра ім падзяліцца з тваімі ваярамі, княжа. І па-трэцяе. За права жыць на гэтых землях мы плацім табе, князь Давыд, тры галеры золата і дыяментаў. Што ты на гэта скажаш?

Князь падняўся, прайшоў па пакоі і спыніўся перад рыцарамі.

— Вам зараз дадуць мяса, мёду, хлеба. Выпраўляйцеся ў свой лагер, а раніцай я прыеду да вас пагасцяваць. Там і вырашым канчаткова.

Рыцары падняліся з-за стала, пакланіліся князю і моўчкі выйшлі з пакоя. Давыд сеў насупраць Барыса.

— Што скажаш, браце Барыс?

— Пытанне, — пачухаў той патыліцу. — З аднаго боку, усё, пра што толькі марылі: пяцьдзясят сур’ёзных ваяроў, яны навучаць і нашу моладзь ваяваць, яны ж і нас навучаць рабіць розныя балісты. А на золата збяром і ўзброім неблагое войска.

— А з другога боку? — пацікавіўся князь.

— А з другога боку, іх пяцьдзясят загартаваных у баях рыцараў. Ды слуг пяцьдзясят. Таксама, магчыма, ваяры. І таго, сотня ворагаў у нашым тыле. Калі ўдараць нечакана, толькі капытцы ад нас застануцца. Хаця, княжа, я гатовы даць ім веры. Непадобныя яны на тэўтонцаў. Можа, і праўда, няма куды дзецца людзям.

— Добра, — адказаў Давыд, — пайшлі спаць.

Але заснуць гэтай ноччу ён так і не змог. Што гэта сёння было: Боскі падарунак ці хітрыкі ненавісных тэўтонцаў? Як распазнаць праўду і не зрабіць памылковых крокаў? Але Бог быў ласкавы гэтым разам да Давыда, і адказ прыйшоў зусім нечакана на раніцу.

Яшчэ не спявалі першыя пеўні, як у апачывальню князя ўварваўся Барыс.

— Княжа! — гучна клікаў той. — Прачніся!

— Чаго равеш, — спакойна адказаў Давыд, — я не сплю. Што здарылася?

— Княжа, калі ўчора рыцары з’ехалі, я за імі паслаў лазутчыка, паглядзець, паслухаць, што робіцца. Ён з купцоў, і мову іхнюю добра ведае.

— І што? — нецярпліва перапыніў Давыд.

— Ды ён сам і раскажа, — адказаў Барыс. — Эй, купец, дзе ты там?

У пакой увайшоў невялічкага росту мужчына, які тут жа кінуўся перад князем на калені.

— Падыміся, — загадаў князь. — Сядай на лаву і расказвай.

— Светлы княжа, як і было загадана слаўным ваяводам, я прыхапіў крыху living рознага тавару і паехаў у стан рыцараў: дай, думаю, і пагандлюю крыху, і ўбачу што цікавае. Прыехаў, як чую, трубіць іхні рог. І ўсе пакідалі свае справы і пабеглі да цэнтра, дзе ў тампліераў невялічкая плошча паміж шатроў. І выходзіць іхні галоўны і гаворыць:

— Толькі што ганец прывёз ліст ад нашых братоў з Францыі. Слухайце, рыцары!

«Браты мае! 12 кастрычніка Вялікі магістр Ордэна тампліераў Жак дэ Мале нёс гроб нявесткі караля Кацярыны, і нішто не паказвала на няміласць манарха. А ўжо назаўтра і магістр, і ўсе тампліеры былі арыштаваны па агідных і скандальных абвінавачаннях у ерасі, распуцтве і мужалостве. Браты практычна не аказвалі супраціўлення, строіліся і пакорліва ішлі насустрач лёсу. А вялікі магістр Жак дэ Мале, ужо задыхаючыся ў полымі інквізітарскага вогнішча, паспеў пракрычаць свой праклён: «Папа Клімент! Кароль Філіп! Рыцар Гіём дэ Нагарэ! Не пройдзе і года, як я паклічу вас на Суд Боскі! Праклінаю вас! Праклён на ваш род да трынаццатага калена!». Гэта была пятніца 13 кастрычніка 1307 года. Мы асірацелі, браты мае. Але не забывайце Ордэна нашага і вялікага Жака дэ Мале! Рыцар Ордэна тампліераў Патрык дэ Рытдор».

— Пасля гэтых слоў, светлы княжа, я і кінуўся апавясціць цябе аб такой падзеі.

Давыд падняўся, падышоў да купца, абняў яго двума рукамі.

— Дзякуй табе, купец, за вялікую навіну, што ты нам прынёс. Барыс, дай яму пярсцёнак з учарашніх. Ідзі, добры чалавек.

Купец выйшаў, а князь радасна ўсклікнуў:

— Ну што, Барыс, цяпер дакладна можна ехаць да рыцараў. Яны нашы!

Гэтым жа днём гарадзенскі кашталян Давыд і галоўны камандор Ордэна тампліераў Жан дэ Вільняк падпісалі патаемную дамову, паводле якой гарадзенскі стараста дазваляе Ордэну тампліераў, па-першае, пабудаваць сваю крэпасць на супрацьлеглым ад горада месцы, якое прызначыць ён сам; па-другое, наймае рыцараў-храмоўнікаў у свае войска з аплатай адной дзесяцінай ад захопленай маёмасці ворагаў, але без іншых грашовых ці маёмасных выдаткаў; па-трэцяе, дазваляе рыцарам, якія не могуць працягваць вайсковую службу, купляць надзел ворнай зямлі і заводзіць сваю гаспадарку. У сваю чаргу рыцары-храмоўнікі даюць клятву перад панам Богам і князем: захоўваць вернасць кашталяну гарадзенскаму Давыду Даўмонтавічу на ўсе вякі; па-другое, кожны рыцар становіцца дзясятнікам войска Гарадзенскага і абяцае падрыхтаваць сваіх ратнікаў да ваеннай справы; па-трэцяе, перадаць старосту Давыду тры галеры золата і каштоўных камянёў. І на гэтым цалавалі святы крыж.

Для пабудовы замка гарадзенскі кашталян выдзеліў рыцарам кавалак зямлі з лесам на супрацьлеглым ад крэпасці беразе Нёмана, які называўся Румеляй. Калісьці там жылі ўцекачы з Македоніі, захопленай Асманскай імперыяй. Але паступова македонцы перасяляліся ў навакольныя вёскі, разбрыліся па зямлі літоўскай, і неўзабаве ад іх паселішча засталася адна назва.

Месца храмоўнікам надзвычай спадабалася: высокі ўзгорак, акружаны з трох бакоў глыбокім ярам, а з чацвёртага магутным Нёманам. Румельскі лес быў багаты на дзічыну, вавёрак, векавыя дрэвы сталі цудоўным матэрыялам для будаўніцтва.

— Вось адсюль, браты мае, — урачыста абвясціў Жан дэ Вільняк, — і пачнецца адраджэнне Ордэна тампліераў. Перш за ўсё мы павінны пабудаваць сховішча для скарбаў ордэна. Затым пабудуем дамы і ўзвядзём ахоўную вежу. Камянёў тут, бачу, дастаткова. За справу, слаўныя сыны Ордэна!

Неўзабаве на высокім беразе ракі ўзняліся дамы рыцараў і невялічкія хаткі іх слуг, гаспадарчыя пабудовы, хлявы і свірны. Рыцары запрашалі будаўнікоў з усяго наваколля і добра плацілі за працу. Назапашваліся камяні і для будаўніцтва вежы. А па

начах ішла яшчэ адна будоўля. Дэ Вільнякам былі адабраны 15 самых моцных слуг, якія прыехалі з рыцарамі з Францыі і зусім не ведалі мясцовай мовы. Яны начамі капалі сховішча для скарбаў, а днём адсыпаліся, адпачывалі ў спецыяльна зробленай для іх хаце. Гэтым будаўнікам не шкадавалі ні ежы, ні пітва, але і выходзілі са свайго будана яны толькі ўначы і пад вартай каго-небудзь з рыцараў. Праца ішла ладна, і ўжо праз два месяцы камандору даклалі, што падзямелле зроблена. Гэта была досыць вузкая, але доўгая, метраў з 20, галерэя. Сцены, столь і падлога выслания камянямі. Калі туды былі перанесены ўсе прывезеныя скарбы, уваход у галерэю запячаталі асабістай пячаткай дэ Вільняка і акуратна заклалі пластамі дзёрну. Ніхто ніколі не здагадаецца, што ў двух кроках ад старога, але яшчэ моцнага дуба знаходзіцца нейкі схоў. Гэтай жа ноччу былі атручаны віном і пахаваны ўсе будаўнікі галерэі. Толькі на шляхетных рыцараў і іх вернае слова мог спадзявацца дэ Вільняк. Больш нікому нельга было даваць веры.

Тым часам войска Давыда расло як на дражджах. Новыя рэкруты ішлі з розных зямель, даведаўшыся пра добрую аплату і ўмовы для гарадзенскіх дружыннікаў. Але і служба была нялёгкай. Кожны дзень з раніцы да вечара рыцары ордэна тампліераў вучылі ваяроў пешаму строю, валоданню мячом, дзідай, лукам.

А неўзабаве надаўся выпадак і праверыць ваеннае майстэрства новай дружыны. Князь Віцень загадаў Давыду дапамагчы Навагрудку, які аблажылі тэўтонцы.

Раніцай у сваіх пакоях Давыд зладзіў ваенны савет. На ім прысутнічалі ваявода Барыс, новы галоўны камандор П’ер дэ Жуўры і сам Давыд. Камандор ордэна дэ Вільняк да гэтага часу ўжо адышоў у лепшы свет.

Барыс перадаў прысутным інфармацыю ад лазутчыкаў. Караблі, на якіх прыбылі тэўтонцы, з малой аховай стаяць на Нёмане. Там жа знаходзіцца і асноўны правіянт ворага. Рыцары плануюць штурм праз тры-чатыры дні, паколькі яшчэ не падцягнулі балісты і каменямёты.

Давыд уважліва выслухаў ваяводу і рашуча загаварыў:

— Наш план будзе наступным. Ты, камандор, бярэш тры дзясяткі навабранцаў і атакуеш караблі. Правіянт забраць, галеры спаліць. Так мы адрэжам рыцарам шлях да адступлення. Ты, Барыс, са старой праверанай дружынай непрыкметна прабіраешся ўначы ў лагер тэўтонцаў і перабіваеш варту. Пасля чаго я з асноўнай часткай войска атакую крыжакоў. Раптоўнасць — наш асноўны шанц на перамогу.

— Гэта план, годны выдатнага стратэга, — з годнасцю заўважыў дэ Жуўры.

— Што ж,— сказаў Давыд, — тады з Богам!

Калі паплечнікі выйшлі з пакоя, Давыд сеў на лаву і задумаўся: «Так, дружына гарадзенская зараз немалая, і падрыхтавана, здаецца, няблага. Але як павядуць сябе ў першым баі маладыя ратнікі? Ці не спалохаюцца жалезных даспехаў крыжакоў, ці не пабягуць назад? Што ж, бой пакажа! Ёсць жа ў мяне і храмоўнікі — вопытныя ваяры, ды і Барыс са сваімі ратнікамі заўсёды падтрымае, не дрогне. Божа, паклапаціся аб нашай перамозе!» Давыд падышоў да абразоў і пачаў істава маліцца.

Счакаўшы, пакуль лагер тэўтонцаў канчаткова засне, ваявода Барыс загадаў дружыне скласці ў яры шчыты, дзіды і лукі, пакінуўшы пры сабе толькі кароткія мячы і нажы. Двума струменьчыкамі, нячутна, бы прывіды, гарадзенцы рушылі да лагера,

ахопліваючы яго з бакоў. Апошніх метраў трыццаць яны ўжо паўзлі, шчыльна прыціскаючыся да зямлі. Вось і паказаліся крыжацкія белыя шатры. Каля іх няспешна праходжваўся вартаўнік, насвістваючы нейкую мелодыю. Як рысь, кінуўся яму на плечы Барыс, заціснуўшы леваю рукою рот рыцара, а нажом у правай секануў таго па горле. І тут жа асцярожна апусціў абмяклае цела. Азірнуўся па баках. Ягоныя паплечнікі таксама ўдала заканчвалі крывавую справу. Тады Барыс склаў вакол рота далоні колам і тройчы пракрычаў жаўной.

Давыд пільна ўглядаўся ў ноч, куды звечара пайшлі дружыннікі з ваяводам. Ніколі, здавалася, час не цягнуўся так марудна. За спінай кашталяна пераміналіся з нагі на нагу пешыя ваяры, стрымлівалі гарачых коней вершнікі. І тут Давыд пачуў, як тройчы пракрычала жаўна. Так, ніякіх сумненняў, гэта Барыс. Давыд павярнуўся да войска і гучна пракрычаў:

— Браты мае, вось і наш час прыйшоў! Пакажам паганым тэўтонцам, што гэта мы гаспадары ў сваім доме! За мной!

Ён злёгку тузануў каня абцасамі ботаў, і той, стаўшы адным цэлым з гаспадаром, панёсся ў стан ворага. А за імі лавінай пацякла ўся гарадзенская раць. Пачуўшы стук капыт, з шатроў пачалі выскокваць крыжакі. Разгубленыя і збянтэжаныя, яны мітусіліся, кідаліся ў розныя бакі і тут жа падалі пад мячамі Барысавых ваяроў. Смерчам праз лагер тэўтонцаў прайшло войска Давыда, не пакідаючы ніводнага шанца ворагам на выратаванне. Толькі невялічкая група рыцараў паспела ўскочыць на коней і кінуцца да прышвартаваных караблёў. Але і там яны знайшлі толькі смерць ад мячоў камандоравых ваяроў. Такой жахлівай паразы крыжакі даўно не мелі. А Давыд Гарадзенскі, падняўшыся на пагорак, глядзеў на спрыт свайго новага войска, і сэрца яго поўнілася радасцю і спакоем. Так пачыналася неўміручая слава гарадзенскага кашталяна.

## Помнік

— ...Гэта была ўжо трэцяя пошта, абрабаваная за апошні месяц. І зноў абсалютна цэлыя замкі, неразбітыя вокны і аніякіх слядоў узлому. Быццам нячысцік які пагаспадарыў. Тым не менш праца ёсць праца. Эксперты пачалі здымаць адбіткі пальцаў з дзвярных ручак, сейфа, шуфлядак. Калегі разышліся па пакоях апытваць работнікаў пошты, а я па новай пайшоў блукаць па памяшканні. Ад уваходных дзвярэй праз калідор у адзін пакойчык, потым у другі, трэці і да сейфа. Адтуль назад да дзвярэй. І так кругоў пяць зрабіў. Версій нуль. Як раптам каля самага ўваходу ў цёмным вузкім калідорчыку (нават лямпачкі ў ім няма) у сцяне заўважаю нейкую амаль непрыкметную дзірачку. Дастаю з кішэні ліхтарык і пачынаю свяціць. Так і ёсць — нізенькія, ледзь да пояса, дзверы. Клічу начальніцу пошты. Аказваецца, гэта камора для інвентару прыбіральшчыцы, але ёй ніхто не карыстаецца з часоў, як у будынку зрабілі прыбіральню для супрацоўнікаў. Прашу адчыніць. Пусты квадрат прыкладна пяцьдзясят на пяцьдзясят сантыметраў. Павуцінне, пыл, а вось на падлозе ў гэтым пыле выразна бачны два дзіцячыя сляды. Менавіта з іх мы і раскруцілі ўсю справу. У горадзе быў такі дамушнік Коля Малы — саракагадовы мужчына, рост якога ледзь дасягаў метра дзесяці сантыметраў. Ну і камплекцыя адпаведная. Дык вось, яго прыносілі на пошту

ў вялізнай сумцы, адзін злачынца ішоў у залу, другі каравуліў ля ўваходных дзвярэй. А Коля хуценька адкрываў каморку, дзе і заставаўся да ночы. Потым рабаваў пошту і праз фортку перадаваў грошы, каштоўнасці з бандэроляў, а пасля і сам вылазіў. Так што пільнасць і прыдзірлівая ўвага проста неабходны для міліцыянера…

Іван Пятровіч Конан скончыў пад апладысменты залы свой выступ і хутчэй для захавання фармальнасцей, чым з цікавасці, запытаў:

— Можа, ёсць пытанні?

На дзіва, у другім радзе імгненна ўзнялася рука, і хударлявая дзяўчына ў вялікіх акулярах бойка выкрыкнула:

— У мяне ёсць!

Дырэктарка ліцэя Зоя Паўлаўна незадаволена паглядзела на малую.

— Гэта, Іван Пятровіч, наша актывістка, стараста другога курса Каця Ляпешка. Ну што за пытанне, Кацярына?

— Іван Пятровіч, дзякуй Вам за цікавае паведамленне пра працу нашай міліцыі. Вось Вы казалі, што адслужылі ў крымінальным вышуку больш за 30 гадоў, багата налавілі злачынцаў за гэты час, прыклады прыводзілі. Цікава, а ці была ў Вашай практыцы хоць адна нераскрытая справа, якая, тым не менш, помніцца і зараз?

Конан усміхнуўся.

— Дзякуй і табе, Кацярына, за пытанне. Я зразумеў, пра што ідзе гаворка. Так, не заўсёды, на жаль, мы імгненна раскрываем злачынствы, а вінаватых вядзем за краты. Але ніколі не гавары «ніколі». Бывае, што колішняя нераскрытая справа праз дзесяць, пятнаццаць, нават дваццаць гадоў нечакана ўсплывае на паверхню. І мы зноў пачынаем яе раскручваць з самага пачатку. Ну а вынік… Дарэчы, калі вы не стаміліся, я раскажу пра адну такую справу, якая, як і прасіла Кацярына, мне вельмі запомнілася.

Было гэта ў канцы шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. Толькі год прайшоў, як я скончыў юрыдычны факультэт і пачаў працаваць у Гродзенскім раённым аддзеле ўнутраных спраў. І вось неяк выклікае мяне начальнік аддзела Сымон Іванавіч Галуза.

— Іван,— кажа, — тут з’явіўся ў нас ананімны ліст. Хутчэй за ўсё гэта поўнае глупства, але праверыць даведзеную інфармацыю мы абавязаны. Закон ёсць закон. Вось ты і зоймешся гэтым. Даю тры дні, а ў пятніцу з дакладам да мяне.

І працягнуў ліст. Я вярнуўся ў свой кабінет, заварыў кубачак гарбаты і пачаў чытаць.

«Добры дзень, грамадзяне следчыя. Доўга не адважваўся напісаць гэты ліст, бо, з аднаго боку, даруйце, не вельмі люблю вас, а з другога — пабойваўся за сябе. Ніжэй вы зразумееце, чаму. Але днямі дактары сказалі, што жыць мне засталося тыдзень-два… Анкалогія! Дык чаго цяпер баяцца?.. Так склалася, што ў час вайны я служыў камандзірам паліцэйскай роты ў Гродне. Што прывяло да такога выбару, расказваць не буду — гэта іншая і досыць сумная гісторыя. Дык вось, у сакавіку 1943 года нам паступіў загад: сумесна з чацвёртай карнай ротай дывізіі СС «Рэйх» ліквідаваць яўрэйскае гета, што мясцілася ў горадзе. Як вынік — былі знішчаны больш за чатырыста яўрэяў, дзве з паловай тысячы адпраўлены ў лагер смерці Трэблінка. Потым мы пачалі абыход іх кватэр у пошуках каштоўнасцей, золата. Зондэркаманда, якая падаспела на дапамогу, вырывала ў нябожчыкаў залатыя зубы, перашрасала адзенне, збірала

каштоўныя рэчы. Але прыбытак быў не такі вялікі, як чакалася. І мы вырашылі, што асноўнае багацце яўрэі схавалі ў сваіх дамах. Таму пайшлі на паўторны вобыск, ужо больш шчыльны. І што вы думаеце? Мае хлопцы адшукалі ў доме старога Хейфіца замураваны ўваход у піўніцу, дзе былі роўна складзены брускі золата з кляймом Імператарскага Банка Расіі. Як яны туды трапілі, невядома, але хутчэй за ўсё падчас рэвалюцыйнага пературсу тысяча дзевяцьсот сямнаццатага года, калі рабавалі ўсе і ўсё і хлеб каштаваў даражэй за дыяменты. Золата мы адвезлі ў камендатуру і здалі Гродзенскаму павятоваму камісару, палкоўніку фон Плетцу. За такую знаходку Плетц выдаў кожнаму з нас грашовую ўзнагароду і нават паабяцаў, што мы будзем суправаджаць каштоўны груз у Берлін. А гэта два тыдні шыкоўнага і спакойнага ад вайны жыцця. Час ішоў, але ніхто нікуды нас не адпраўляў. У чэрвені 1944 года Саветы пачалі аперацыю «Багацыён». Мая рота была тэрмінова перакінута ў Кёнігсберг, дзе я неўзабаве сустрэў Міколу Харытончыка, які служыў перакладчыкам у фон Плетца і адначасова выконваў абавязкі сакратара. Мы пасядзелі ў нейкім бары, добра падпілі, і тут я ўспомніў пра золата. Што з ім сталася? Харытончык загадкава ўсміхнуўся:

— Памятаеш, чым захапляўся палкоўнік у вольную часіну?

— А як жа, ён займаўся кавальскай справай. Мы яшчэ смяяліся, што цягае за сабой невялікую кузню, як любімую кабету.

— Дык вось, — працягваў Мікіта, — апошнія дзве ночы перад эвакуацыяй Плетц не выходзіў са сваёй кузні і нікога не пускаў туды.

— І што з гэтага?

— Ён плавіў знойдзенае і канфіскаванае золата.

— І што, вывез у Германію пры адступленні?

— Не, я ўцякаў разам з ім у бронетранспарцёры. Апроч двух чамаданаў, вельмі лёгкіх па вазе, ён нічога з сабой не вёз.

— А ў самім бронетранспарцёры не мог схаваць?

— Таксама не, — адказаў Мікіта. — У Варшаве мы пераселі ў цягнік, пакінуўшы машыну ў гарнізоне. Хто ж кіне столькі золата?

— Тады дзе ж яно? — збянтэжана запытаў я.

— Думаю, што палкоўнік пераплавіў яго ў нешта і схаваў дзесьці ў памяшканні камендатуры.

Прыкладна праз гадзіну мы развіталіся з Мікітам, і больш я яго ніколі не бачыў. У тым жа Кёнінгсбергу абзавёўся дакументамі прымусова высланага на працу беларускага вяскоўца, дачакаўся прыходу Саветаў і вярнуўся ў Саюз. А далей дваццаць гадоў штодзённага страху быць адкрытым, пазнаным… Перад смерцю я хацеў бы хоць крыху аблегчыць сваю грэшную душу. Таму і напісаў вам пра золата…»

Такі вось ліст. Праверку ўсёй гэтай інфармацыі я вырашыў пачаць з наведвання будынка былой камендатуры. Цяпер у двухпавярховым цагляным доме знаходзіўся аддзел жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Перш за ўсё мяне цікавіў падвал. У суправаджэнні слесара Мацвея Іванавіча Дорахава, які працаваў тут з першага дня арганізацыі службы, мы пачалі падарожжа па неабсяжнай па памерах падвальнай тэрыторыі. Мацвей Іванавіч аказаўся вельмі гаваркім чалавекам з нядрэннай памяццю для сваіх гадоў. Пакуль спускаліся па лесвіцы ўніз, стары не даваў мне сумаваць.

— Калі ў сорак чацвёртым Саветы вызвалілі Гродна, мяне прызвалі ў армію. Якраз васямнаццаць гадоў стукнула. Ну, зразумела, спачатку СМЕРШаўцы праверылі, што

рабіў у акупацыі, папалохалі трохі, але не моцна. Ну і даверылі біць фашысцкую гадзіну. На прызыўным пункце далі абмундзіраванне, сухі паёк на два дні і павялі разам з іншымі навабранцамі на вакзал. І тут адзін з нашых хлопцаў заўважыў каля разбітага бомбай дома сваю знаёмую. Імгненна скочыў да яе са строю і — наступіў на міну. Выбух! У вачах агонь, а потым — суцэльная цемра. Прыйшоў да сябе ўжо ў шпіталі. Усё як бы нічога, а кісць левай рукі як лязом зрэзала. Але, як сказалі дактары, яшчэ пашчасціла: трох з калоны адразу забіла, чацвярых параніла. Вось і ўся мая служба. Камісавалі па поўнай. Пасля выпіскі прыйшоў сюды працаваць. Спачатку без адной рукі цяжкавата было, але неяк патрохі прызвычаіўся. Далі нам вось гэты будынак. Добры, прасторны, а тут яшчэ ў падвале кузню знайшлі. Кажуць, нямецкі камендант забаўляўся. І добрая такая кузня. Мы яшчэ гады тры яе выкарыстоўвалі: ці падкову якую зрабіць, ці вечка, засаўку. Дзе тады купіш? А жалеза навокал хапала. Так і выжывалі. Ну а потым разабралі кузню і выкінулі.

Мы агледзелі ўважліва адзін пакойчык, другі. Я нават прастукаў некаторыя прасценкі. Мацвей Іванавіч з цікавасцю назіраў за мной, пакуль нарэшце не вытрымаў:

— А што ты шукаеш?

— Ды ёсць інфармацыя, што тут дзесьці можа быць схованка.

Тады стары дастаў са свайго слясарскага чамаданчыка, што трымаў у руцэ, малаток, падышоў да адной са сцен і моцна па ёй стукнуў. Адна з цаглінаў тут жа правалілася ўнутр. За ёй другая, трэцяя.

— Вось твая схованка, — крыху здзекліва сказаў Мацвей Іванавіч.

У мяне ад здзіўлення ледзь мову не адняло.

— Адкуль Вы, Мацвей Іванавіч, ведалі пра схованку?

— Ну, дык я яе ўчора сам заляпіў. Бачыш, яшчэ і не прыхапіла як след.

Я ажно сеў на падлогу.

— А нашто заляпілі?

— Ну дык учора прыходзілі два вашыя супрацоўнікі, папрасілі дапамагчы разабраць сцяну. Затым дасталі адтуль дзве скрыні і пагрузілі ў машыну. Добрыя людзі. Нават на бутэльку далі.

У маёй галаве замітусіліся думкі. «Значыць, у лісце напісана праўда. А золата з’ехала з нейкімі фашысцкімі недабіткамі».

Стары сеў каля мяне.

— А што ты так знерваваўся?

— Дык гэта ж былі не нашы, а немцы. А ў скрынях ляжала нарабаванае золата.

Мацвей Іванавіч са спачуваннем паглядзеў на мяне і нават правёў шурпатай рукой па галаве.

— Маладзенькі ты яшчэ, вось і любіш розныя казкі выдумляць. Якія ж гэта немцы, калі Пятроўна аднаго з іх ведае з малога?

Я недаверліва паглядзеў на дзеда.

— З чаго Вы ўзялі?

— А яна якраз прыбірала ў калідоры, калі гэтыя міліцыянты са скрынямі ішлі. Яны, зразумела, ніякай увагі на яе не звярнулі, а Пятроўна, баба цікаўная, добра іх разгледзела. Потым і пытаецца ў мяне: «А што тут Андросік робіць?»

— Андросік — гэта імя ці прозвішча?

— А Бог яго ведае. Я не перапытваў.

Ужо праз гадзіну я ведаў адрас Пятроўны і стаяў каля дзвярэй яе старога драўлянага дома. Адчыніла мне сталага ўзросту жанчына неверагодных памераў. Здаецца, шырыня яе цела перавышала вышыню.

— Вам каго? — строга запытала кабета.

— Васілісу Пятроўну Кавальчык. Я з міліцыі.

Васіліса Пятроўна аказалася жанчынай адзінокай і таму надта гаваркой. Пра што і каго я толькі не пачуў за дзве гадзіны нашай размовы! Але асноўная інфармацыя была атрымана. Андрон Сямёнавіч Хоўтан, злодзей, п'яніца, двойчы сядзеў у турме, жыў праз два дамы ад Кавальчык. Тыдні тры як аб'явіўся ў горадзе пасля чарговай адсідкі. Больш Васіліса Пятроўна па справе нічога дадаць не магла.

Падзякаваўшы за дапамогу міліцыі і гарбату з абаранкамі, пакрочыў я да дома Хоўтана. Яшчэ больш старая, чым у Кавальчык, крыху пахіленая ўбок будыніна цудоўна характарызавала яе гаспадара. Плот вакол дома адсутнічаў поўнасцю, двор зарос пустазеллем, затое былі прыадчынены ўваходныя дзверы (а, можа, яны і не зачыняліся…) Я ціхенька прасунуўся ў дзвярны праём і аказаўся адразу на кухні, калі так можна назваць пакойчык, у якім апроч печы, стала і аднаго крэсла, больш нічога не было. Затое на падлозе адразу кідалася ў вочы паднятая крышка люка. Я асцярожна зазірнуў уніз. Нейкія неразборлівыя галасы, цені на сценках, шорганне. Дастаў пісталет, ліхтарык і асцярожна пачаў спускацца па лесвіцы. Падвал быў досыць вялікі па сваіх памерах. Можа, і пад усім домам… У дальнім куце стаялі два мужчыны і нешта перабіралі, схіліўшыся над ледзь асветленымі газаўкай скрынямі. Я ўзняў пісталет і гучна крыкнуў:

— Рукі ўгору!

Адзін з мужчын спалохана азірнуўся і тут жа ўзняў рукі. А вось другі раптоўна кінуўся на зямлю, перакаціўся да нейкіх бочак і стрэліў. Балюча апякло плячо. Чыста механічна націскаю раз за разам спускавы кручок пісталета. У адказ чую кароткі енк. Не апускаючы зброі, падыходжу да ляжачага. Куля трапіла яму якраз у пераноссе. Імгненная смерць. Паварочваюся да другога бандыта. Той адразу пачынае верашчаць на дзіва тонкім галаском:

— Не страляйце! Прашу, пашкадуйце! Я больш не буду!

І, абхапіўшы галаву рукамі, упаў на калені.

На допыце Андросік, а гэта быў менавіта ён, расказаў, як два тыдні назад да яго завітаў незнаёмец, прынёс гарэлкі, закускі і, назваўшы прозвішча агульнага знаёмага, прапанаваў выпіць. Андросік, зразумела, згадзіўся. А падчас застолля Іван, так прадставіўся госць, выклаў план захопу дзвюх скрынь у памяшканні ЖКГ, паабяцаўшы нядрэнныя грошы. Што ў тых скрынях, Андросіку не сказаў. Аперацыя прайшла гладка: пасведчанні міліцыянераў, якія прынёс Іван, адыгралі сваю ролю. Скрыні вырашылі схаваць у доме Андросіка. Днямі Іван дзесьці адсутнічаў, а па вечарах шчыльна праглядаў усе паперы, раскладаючы па розных мяхах. Андросіка ж папярэдзіў, каб маўчаў, інакш пасадзіць на пяро. Грошы абяцаў прынесці праз пару дзён.

Паперы аказаліся нямецкім архівам яшчэ з ваенных часоў. З гэтага ж архіву стала вядома, што Іван — Іван Іванавіч Зубаў, камандзір роты зондэркаманды вядомага забойцы, пакаранага Нюрнбергскім судом, капітана Золенгера.

Я адляжаў два тыдні ў бальніцы і вярнуўся на службу. Атрымаў павышэнне ў званні і грашовую прэмію. У мітусні штодзённых спраў пра золата неяк і забыўся. А ў 1995 годзе неяк у кнігарні на вочы трапілі мемуары былога нямецкага афіцэра палкоўніка фон Плетца. Мне падалося гэта прозвішча вельмі знаёмым, пакуль не ўспомніў, што так звалі каменданта Гродна, у якім пачыналася мая службовая кар'ера. Купіўшы кнігу, засеў за чытанне. У адной з частак Плетц падрабязна апісаў і знаёмыя мне падзеі: як паліцэйскай ротай было дастаўлена золата ў камендатуру, як імклівае наступленне Савецкай Арміі не дало магчымасці яго вывезці з Гродна. І тады палкоўнік прыдумаў выйсце. У хляве за камендатурай валяўся помнік Іосіфу Сталіну, які немцы знялі з пастамента ў Гродне, калі акупавалі горад. Помнік быў з чыстай бронзы, таму яго не разбілі, як іншыя, а па загадзе каменданта перанеслі ў хлеў для кавальскіх забаў. І вось помнік спатрэбіўся. Плетц выліў з канфіскаванага золата руку Сталіну, па-майстэрску схаваўшы каштоўны метал пад слоем бронзы і «састарыўшы» яго. Палкоўнік слушна разважаў: Саветы, вярнуўшыся ў Гродна, абавязкова паставяць Сталіна на пастамент. Дзе той і дачакаецца вяртання нямецкіх войскаў, у чым палкоўнік не сумняваўся. Але гісторыя распарадзілася інакш…

Як вы разумееце, ужо назаўтра я быў у Гродне. Ішоў па вулках старажытнага горада, і пачуццё настальгіі па мінулым ўсё больш мяне ахоплівала. А вось і знаёмы будынак, у якім, на дзіва, па-ранейшаму размяшчалася ЖКГ. Старшыня аддзела спярша вельмі здзівіўся маёй цікавасці да Сталіна, але потым патлумачыў, што помнік Сталіну быў дэмантаваны яшчэ ў 1956 годзе і прыкапаны на тэрыторыі ўпраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Успомнілі пра яго ў 1992 годзе, калі вельмі спатрэбіліся грошы на гаспадарчыя патрэбы. Помнік з іншым каляровым металаломам адправілі на металургічны завод у Жлобін на пераплаўку. Што было далей, старшыня не ведаў, паколькі ў той час тут не працаваў. Вось так і скончылася залатая гісторыя.



нарадзіўся 18 красавіка 1962 года ў Гродне. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1985). Працуе ў Гродзенскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце. Аўтар 14 вучэбных і вучэбна-метадычных дапаможнікаў, шэрагу артыкулаў па пытаннях беларускай медыцынскай тэрміналогіі. Выдаў «Русско-белорусский медицинский словарь» (2005), «Руска-беларускі тлумачальны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў» (2012), «Дыялектны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў Беларусі». Піша вершы і прозу. Неаднаразова быў лаўрэатам літаратурных конкурсаў газеты «Звязда». Кіраўнік універсітэцкага літаб'яднання «Катарсіс», рэдактар трох літаратурных зборнікаў сяброў клуба. Аўтар кнігі паэзіі і прозы «Рамізнік». Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.



АРКАДЗЬ ЛІЦЬВІН

## Дыплом на царства
*(Фрагменты з другой часткі рамана)**

### Ад аўтара

*Адна з прычын напісання рамана — хваравітая схільнасць, амаль традыцыя, беларусаў дапамагаць у абкраданні ўласнай гісторыі, а з тым і славы. Дагэтуль не пераводзіцца своеасаблівы гатунак гісторыкаў-мазахістаў, якія ўслужліва стараюцца інтэрпрэтаваць дзеі ўласнай нацыі на карысць «вучоным з Усходу і Захаду».*

*Адзін з ганебных інструментаў такой тэндэнцыі — адмаўленне беларусамі ўласнай шляхты. Здаўна адкідаліся не толькі яе здзяйсненні, але і сам факт існавання. Сялянская, бач, нацыя! Усе апроч працоўных нізоў — чужынцы, прыгнятальнікі і найчасцей палякі. Ясна, што ва ўсе часы цемру на абшарах Беларусі маглі асвятліць і асвянціць толькі «інтэлектуалы» з баярскай, царскай і бальшавіцкай Масквы.*

*Нават тады, калі Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, маючы неаспрэчныя атрыбуты дзяржаўнасці (сімволіку, Статут-канстытуцыю, грошы, войска, самакіраванне тэрыторый), мела сваю палітычную нацыю. А хрыбтом гэтай поліэтнічнай нацыі была шляхта, значнейшую частку якой складалі беларусы-ліцьвіны.*

*Гэта было не расійскае «служылае саслоўе», душой і целам залежнае ад волі часам малахольнага цара, а вольныя грамадзяне. Вайсковы абавязак выконвалі па закліку выбарнага караля, якому самі давалі дазвол на вайну. Кароль не распараджаўся іх маёмасцю, воляй, а то і жыццём, як самадзержац ва ўсходніх суседзяў. Згледзьце і адчуйце розніцу!*

*Вось каб і дагэтуль не ўсе адчувалі гэтую розніцу, спрабуюць па-ранейшаму адмаўляць беларусы шляхту, а з тым вайсковую гісторыю і палітычную ролю ў падзеях далёкіх і блізкіх часоў. Глядзіш — і надалей будуць паслухмяна служыць чужым мэтам. Сваіх жа нібыта ніколі не мелі!*

*Адабранае заўсёды некім прысабечваецца. Часам мацнейшым, часам хітрэйшым. З гэтай мэтай «вучоныя з Усходу» (Масковія, Расійская імперыя, Масква-СССР) старанна трындзелі пра войны цароў з палякамі. Нібы не чулі пра нейкую Рэч Паспалітую, таму нікому і не тлумачылі. Не дзіва, што палякі былі не супраць такога падарунку ад Масковіі. Тут жа стварылі патрыятычныя эпапеі, дзе менавіта за Польшчу змагаліся рыцары з нязвыклымі для палякаў прозвішчамі. Што ж дабру прападаць! А ў Расіі прыдуманы Сусанін дагэтуль водзіць па лесе невядо-*

---

* Цалкам раман «Дыплом на царства» можна набыць у электронным выглядзе ў краме kniharnia.by

*ма каго. Бо і палякам лес не ў навіну, а беларусы хутчэй самі дапамаглі б небараку выбрацца з нетраў, чым даліся б звесці.*

*Але ж неяк трэба было беларусаў з украінцамі пераканаць, што іх ад тых палякаў «вызвалялі». Ну, а пры вызваленнях, што зробіш, «шчэпкі ляцяць». А што са «шчэпкамі» палова «вызваленага» насельніцтва некуды адлятае, то гэта плата за вызваленне. Так і ў XV стагоддзі і пазней, а ва Украіне і ў XXI-м. Затое ўвесь час пазбягалі мажлівасці пасварыць братнія народы і захоўвалі дружбу. Не даваў і не даю веры! Адабраць у брата яго славу і гонар цаной ягонай жа крыві — гэта што, як не разбой?*

*Таму і спрабую вярнуць беларусам часціну іх вайсковай гісторыі. Бо ў часы маскоўскай Смуты паходамі на Масковію кіравалі знакамітыя гетманы ВКЛ. Складаныя дачыненні федэратыўнай Рэчы Паспалітай з Масковіяй збройным чынам вырашаліся збольшага на тэрыторыі Беларусі. Вось і ў час Смуты вайна перакацілася на Масковію і прывяла да абрання на маскоўскі прастол каралевіча Уладыслава Вазы** (пазнейшага караля і вялікага князя Уладыслава IV), пра што, як і пра іншае, запрашае прачытаць аўтар.*

**На адзін год шмат прыгод**

> *Найбольшым няшчасцем ёсць, калі правяць чужаземцы: адсюль родзіцца прыгнёт і вялікая небяспека для вольнасці.*
>
> *Біскуп мерсэбургскі Тытмар, нямецкі летапісец (975–1018)*

Невысокі, абрывісты бераг Дняпра чэзлай травою нагадваў выган. За паўсотні крокаў акаймляўся хмызнякамі.

— Вось і дабраліся, Ціт? Вунь і кол наш тырчыць.

— У ціхаводдзе, то і лёдам не знесла, пане ротмістр! — весела адгукнуўся падначалены з носу доўбанкі.

Ягоны старэйшы векам таварыш, дзе вяслуючы, дзе падпіхваючыся вяслом, паўз саменькі бераг падганяў човен бліжэй да заўважанага кала.

Зямлянка, укапаная ў схіл невялікага ярка, так абрасла кустамі, што не кідалася ў вочы нават з блізкай адлегласці. Рыбакі, звычайна даплываючы чаўнамі, не вытапталі сцежкі да свайго часовага жытла. Апошнімі гадамі было не да рыбы, і зямлянка пуставала, пакуль вось не спатрэбілася двум непрытульным.

Ціт спраўна выскачыў на пясок, кінуў чалку на кол, для пэўнасці ўсцягнуў нос чаўна на прыплёсак.

— Хто б ні зладзіў гэту норку, нам была самраз, — паляпаў па вушаку дзвярэй. — Аж шкода выбірацца. Тут і вайну маглі б перасядзець.

Адзін за другім зніклі ў зямлянцы. Старэйшы агледзеў схованку, спыніў погляд на зброі, раскладзенай у куце, нічога не знайшоў для папроку. Маладзейшы пачаў згортваць кажушок, разасланы на невысокіх нарах.

— Бачу, сабраўся, — задаволена прамовіў старэйшы. — Няшмат маем часу. Тыя падлюкі, мажліва, і нару нашу высачылі.

---

* Знакам зорачкі (*) пазначаны асобы гістарычныя. Усе іншыя — літаратурныя персанажы.

— А што за яны? Можа, здалося?

— Не здалося, — крэкнуў старэйшы. — Калі я іх пазнаў, то і яны не забыліся, як выглядае ротмістр Жарскі. Разам церліся ля Зарудскага, хай яму пекла будзе цёплым.

— І куды мы зараз?

— Адбяжымся — падумаем.

Падхапіў лук і калчан і панёс да чаўна. Ціт шчыльней увязваў небагатае майно.

— Усё-ткі яна не ў Сапегаў, — прамовіў сам сабе Жарскі і спахапіўся, зірнуўшы ў напрамку зямлянкі. Навошта затлума прасцяку Ціту. Будзем спадзявацца, ажына наш скарб абараніла. Хто ні сунецца — наколецца. Спраўдзім, ці хто пад ёю не пакорпаўся, тады і збяром надзейную грамадку. Але ці захаваліся яшчэ тыя кусты?

— Пачакаем лепшых часоў. Даўжэй чакалі! — гукнуў да Ціта. — Вайна ненадоўга, можаш мне верыць.

— Лук ягоны! Гэта ён! — нечы гучны вокліч заглушыў словы Жарскага, і адразу ляснуў стрэл. Ціт вылецеў з зямлянкі і заўважыў, як Жарскі, упаўшы на калені, чапляецца за нос доўбанкі. Лук і стрэлы рассыпаліся на пяску. Ціт схапіў лук і першую пад рукою стралу. На ўсё пайшло імгненне, пакуль адзін з тых двух у аблачынцы парахавога дыму акурат біў другому ў вуха.

— Дурань! Гэта ж не той! Што мы даведаемся зараз…

Страла пранізала шыю пад самым падбароддзем, і чалавек кулём скаціўся пад абрыў. Другі, з пісталетам у руцэ, знік у хмызах, перш чым Ціт ускараскаўся вышэй. Не зірнуўшы на забітага, лісовец кінуўся да свайго каменданта. Беражліва падхапіў цела.

— Гэта той Бражына! — крыкнуў у роспачы.

Жарскі слаба варухнуў неслухмянымі вуснамі.

— Не… Не пан Бражына… Бражына… на такое не папусціцца…

Ротмістр захрыпеў і цяжка абвіс на руках Ціта. Лісовец падхапіў Жарскага пад калені і перанёс у зямлянку. Замітусіўся дапамагчы, але Жарскі зноў адкрыў вочы і загаварыў.

— Не кранай мяне, хлопча, нічым не дапаможаш. Адыду ў спакоі. Не баліць — і тое добра. Такога і прасіў у Бога, калі бачыў, як іншыя каналі ў пакутах.

Ціт, апусціўшыся на калені, дрыжачай рукою зганяў кроплі поту са лба каменданта. Сабачым позіркам упрошваў не пакідаць яго ў гэтым непрытульным свеце. Жарскі паварушыў слабой рукою, але дацягнуцца да неадлучнага сябра не змог.

— Вось і адбегаўся, — прамовіў ціхім шэптам. — Гэта ж колькі год, браце, мы за фартунай гонімся. Можа, хоць табе пашанцуе. Толькі не спяшайся абы-каму даверыцца.

Закрыў вочы і змоўк. Слабое дыханне і белы твар сведчылі, што развітанне блізка.

Апошнім высілкам утрымліваў згасалую прытомнасць. Думкі і вобразы наплывалі адны на адны, блыталіся і не выстройваліся ў лагічны ланцуг.

— Гэта не Бражына… Ён служыць Сапегам, а яны… Яны, калі не ведаюць, то здагадваюцца… Як і я… Але Ціт… Адданы Ціт…

Жарскі паспрабаваў усміхнуцца. Звычка падтрымліваць дух падначаленых паклікала рэшткі сілаў.

— Апошні загад камендanta, — прашаптаў ледзь чутна. — Адпомсціў за мяне верны лісовец, то пахавай… па-жаўнерску, не кідай груганам. А пасля… сплывай да сваіх, каб маскавіты не заспелі. Як толькі кароль памрэ, …адразу палезуць…

Калі зноў расплюшчыў вочы, Ціту здалося, позіркам хоча сказаць тое, на што голасу не стае. Сабраў сілы і варухнуў далонню.

— Шапку маю вазьмі, — выдыхнуў з цяжкасцю. — Няхай… табе паслужыць, калі нам… дваім не змагла. Беражы… — ён паспрабаваў перахапіць паветра, але грудзі ледзь узняліся. — Беражы…, бо не ў Сапегаў… у ёй… — і сканаў, не скончыўшы сказ.

Агаломшаны Ціт камячыў у руках сваю шапку і думаў, што ж рабіць. Акінуў бездапаможным поглядам жабрацкі прытулак. Бадай упершыню не меў над сабою нічыёй волі і не ведаў, з чаго пачаць. Раптам спахапіўся. Асцярожна сцягнуў шапку з галавы камендanta, падумаў, нацягнуў яму сваю. Камендантава пасавала Ціту самраз. Апошні загад і словы «Сплывай!» падказалі дзеянне. Не марудзячы перанёс у човен цела камендanta, зброю і немудрашчае майно. Пастаяў, нібы адчуваў, што не ўсё зроблена. Падышоў да забітага. Мужны лісовец бачыў занадта шмат смерцяў, каб зніякавець перад чарговым мерцвяком. Але раптоўны ўспамін апошняга воклічу гэтага злыдня раз’юшыў Ціта. Значыць, яго намерваліся прыстрэліць, як нічога не вартага, а пана Жарскага дапытваць! Не выйшла па-іхняму! Паспешліва агледзеў цела, але апроч кашаля нічога вартага не знайшоў. Без цэрэгеліі сцягнуў забітага да ракі і пусціў з плынню. Зацёр крывавую пляму на пяску, прыгледзеўся і дзеля таемнасці выліў на яе некалькі кацялкоў вады. Так будзе лепей, хто б ні заявіўся, нічога не згледзіць. Гэта думка падагнала. Чорт ведае, ці не прывядзе той другі сваіх прыяцеляў? Адпіхнуўся ад берагу і аддаўся плыні, толькі злёгку падпраўляючы рух судзенца. Крыху ачомаўшыся, веславаў і веславаў. Раз-пораз міжвольна кідаў позірк на супакоены твар камендanta, і тады слёзы самі ліліся і сплывалі па шчоках на канцы вусоў. Не спрабаваў сябе суцешыць, не плакаў ад часоў смерці бацькоў падчас мору ў ваколіцы, толькі час ад часу зганяў сірочыя слёзы шапкай камендanta. Павінны ж трапіцца блізу ракі якія могілкі…

**Паміраць збіраешся, а жыта сей**

Кароль Жыгімонт ІІІ заслабеў у Опачы, куды выбраўся выпрабаваць, ці хопіць сілы праводзіць да Кракава цела жонкі, якое дагэтуль спачывала ў Варшаве. Ачуняўшы, 21 красавіка 1632 года скаштаваў сардэчных кропель і прамовіў да прысутных:

— Contra vim mortis non est medicina in hortis, супраць смерці няма лякарства.

Праз два дні на караля абрынулася апаплексія. Агонія, дзякаваць Богу, без вялікіх цярпенняў доўжылася тыдзень. Частковы паралюш амаль адняў мову, але не пазбавіў ад настырных наведнікаў. Вялікі каронны канцлер задаваў пытанні наконт наданняў і прызначэнняў.

«Так… Даю…» — ледзь чутным шэптам і слабымі рухамі далоні пацвярджаў кароль. Незаменная Уршуля Генгер пераказвала яго апошнюю волю сабраным вакол ложа і павучала быць удзячнымі за дабрадзействы.

Каралевіч Уладыслаў спешна вярнуўся ў Варшаву 27 красавіка, і праз два дні ў прысутнасці ўсіх наяўных пры двары шведаў падставіў галаву пад бацькоўскае блаславенне і шведскую карону, ускладзеную слабеючай рукою караля. Карону

польскую і вялікакняскую шапку кароль перадаць не мог. Назаўтра вялікія канцлеры Кароны Якуб Задзік* і Вялікага Княства Альбрэхт Радзівіл*, з'явіўшыся на чале ўсяго двара дзеля апошняга цалавання рукі, засталі ля ложа цэлую гурму езуітаў, што заклікалі ў абодва вухі багабойнейшага з каралёў каяцца ў грахах. Нездарма ж першым аб'явы смяротэльнай слабасці на каралеўскім твары згледзеў папскі нунцый. Патэтыка, бязлітаснасць і нахабства, неадменныя рысы контррэфармацыі, не абыйшлі яе адданага вызнаўцы нават на ложку смерці. На світанні 30 красавіка кароль Жыгімонт памёр. Дзяржаву чакала бескаралеўе і элекцыя. Жыгімонт III мог пераканаць сябе, што ягонай манаршай волі супрацiўляюцца адзінкі, а ўвесь народ яго любіць. Не змог, а мо' і не стараўся стварыць акрэсленае нейкімі рамкамі дворскае згуртаванне. Але такое згуртаванне маладых адукаваных людзей паўставала само сабою. Менавіта яно маўклівa, але згодна стала за каралевічам Уладыславам і старанна выхваляла перад шляхтай старога караля. Рахунак за ўлаштаванне на трон выставяць пазней у новых пакта-канвентах, а можа і асабіста. За маладымі стаялі і старэйшыя, часам у пасадах вялікай вагі. Не зычылі сабе іншага прэтэндэнта, хоць ведалі, што неўзабаве такія аб'явяцца. Размовы пра блізкую смерць Жыгімонта ішлі даўно, акурат на грамнічных сойміках, ад лютага, пачалі кружляць друкі за подпісам шведскага пасла Русэля*, каб шляхта выбрала на ўладара Густава Адольфа. Але ні Кароне, ні Вялікаму Княству не манілася патрапляць новым уплывам. Няхай ужо Вазы… здаецца, прыжыліся… можа, сын забудзецца на шведскі пасад…

* * *

Леў Сапега, сёмы год вялікі гетман Княства, атрымаўшы вестку пра смерць караля, пакінуў рэзідэнцыю ў Берасці, каб 5 траўня падпісаць у Варшаве адпаведны маніфест прымаса Вэнжыка*. Яму як інтэррэксу ад часу смерці Жыгімонта прыпадаў клопат пра парадак у дзяржаве і абранне караля. Льву Сапегу на скліканай прымасам нарадзе сенатараў даверылі бяспеку межаў Вялікага Княства і найхутчэйшае падмацаванне гарнізонаў замкаў у напрамку Масковіі.

— Укладай, вашмосць, паведамленне маскоўскаму патрыярху, — загадаў гетман сакратару. — Наш абавязак паведаміць усходняму суседу пра смерць караля. Адзнач, што па-ранейшаму датрымліваем перамір'я ад 3 студзеня 1619 года і гатовы да мірных перамоваў. І шведскаму губернатару Інфлянтаў падобны ліст.

Можа і не галоўная, але цаглінка ў спробу замацаваць трактатамі вяртанне шведскага трона польскім Вазам у выпадку беспатомнай смерці Густава Адольфа. Каралевіч Уладыслаў, напэўна, перажыве шведа.

Гетман павярнуўся да Паўла Стэфана Сапегі.

— Як бы прыдаўся нам антышведскі хаўрус з Габсбургамі…

— З адначаснымі перамовамі са Швецыяй, — з усмешкай падхапіў думку гетмана падканцлер. — Трывалы мір з Густавам Адольфам звёў бы на нішто шведска-маскоўскае збліжэнне. Вельмі яно для нас небяспечнае.

Родзіч вялікага гетмана не з аповедаў ведаў моц Масковіі. Яшчэ ў 1609 годзе страціў руку пад Смаленскам. Падчас бескаралеўя ўсё важнае, усё неадкладнае і цяжка вызначыць першачарговае. Усё ж ад Масковіі пагроза найбольшая.

Вялікі гетман Леў Сапега пазваніў, даў знак служку.

— Заходзь смялей, вашмосць, — гукнуў да ледзь прачыненых дзвярэй.

Пан Ігнат Бражына пакланіўся, не вызначыўшы, як вітаць гетмана, па вайсковаму ці па звычцы, як некалі вялікага канцлера.

— Да вайны, пане-браце, адзін крок, — прамовіў вялікі гетман да свайго колішняга кур'ера, калі той пакарыстаўся дазволам сесці. — Пэўна, і сам адчуваеш? Ці даўно сам супраць большасці сенатараў не верыў, што Масковія наважыцца сарваць Дэвулінскі трактат, хоць ім і карцела ад дня падпісання, — прызнаўся з усмешкай. — А зараз, пакуль шляхта пасварыцца на сойміках, пакуль нашыя канвакацыі ды элекцыі, ім самчас кінуцца.

У справах далікатных і патрабуючых таемнасці Леў Сапега часта карыстаўся людзьмі, спраўджанымі яшчэ падчас свайго канцлерства.

— Што ж, пане-браце, паслужыш мне па-старому? Можа, гэта будзе апошняе маё даручэнне.

Бражына са шкадаваннем адзначыў, як старэчая немач усё выразней праглядаецца ў абліччы магутнага палітыка. Дух яго не мог змірыцца і збіраў апошнія сілы дзеля славы Айчыны, свайго роду і яго далёкіх нашчадкаў.

— Добра чыніш, не суцяшаючы, — маркотная ўсмешка сведчыла, што гетман угадвае думкі свайго ганца. — Няўмольны зуб часу грызе нас няспынна, хоць не адразу відаць яго згубны ўплыў. Але зоймемся справай.

— З ахвотай, яснавяльможны пане, — пахіліў галаву Бражына. — Рады чуць высокую ацэнку.

— Цалкам заслужаную! — падкрэсліў Сапега. — Паедзеш, вашмосць, у пашчу цмока. Да Філарэта, патрыярха іхняга. Бачу, што не спужаўся, і рады гэтаму.

Вялікі гетман узняў пальцамі нітку ружанца:

— Гэта знак майго даверу і паўнамоцтва задаваць пытанні і чуць адказы. Пералічы пацеркі, табе назавуць іх колькасць. Запамятай вось гэту. Дамовіліся, як выпраўляў яго дадому, і вось спатрэбілася.

— Разумею, яснепане, — кіўнуў Бражына, беражліва прымаючы нізку бурштынавых зярнят.

Вялікі гетман пачакаў, пакуль Бражына занатуе ў памяці дамоўленую лічбу.

— Калі запатрабуюць, можаш прыкласці яго да лістоў, — працягнуў тлумачэнні. — Манастыр на адлюддзі, і патрыярх не абавязкова будзе ў ім. Калі давядзецца чакаць, гасціны іхняй не прымай. Сам ведаеш, лёхі ў манастырах глыбокія, трапіш — не выкараскаешся.

— Па-дурному рызыкаваць не буду, — запэўніў Бражына.

— З самім патрыярхам сустрэцца не старайся, — папярэдзіў гетман. — Дастаткова размовы праз давераных. Назаве пароль, то і размаўляй.

Бражыну задавальняў дазвол вольнай рукі. Павінен берагчыся кожную хвіліну, каб не трапіць у закладнікі, а то і ў палон, калі заспее вайна.

— Нам важна даведацца, — перайшоў гетман да тлумачэнняў, — як яны ставяцца да таго, што каралём стане той, каму яны крыж цалавалі. Маскавіты несумненна памятаюць, што Дыплом на царства захоўвае сваю моц. Урэшце, вакол іхняга гасудара тыя, хто Дыплом зладзіў. Як толькі каралевіч Уладыслаў зойме пасад Рэчы Паспалітай, нібы сама сабою ўсталёўваецца унія Рэчы Паспалітай з Масковіяй.

Сапега ўсміхнуўся, прыпамінаючы свае старанні трыццацігадовай даўніны. Менавіта тады, у 1600 годзе, сваёй славутай дамовай ледзь не давёў Рэч Паспалітую да цеснага, а можа, і да уніі з Масковіяй… Дабром бы яна стала для ўсіх, ці прынесла б клопаты адным і другім? І сёння не меў на тое яснага адказу.

Ужо на пачатку шаснаццатага стагоддзя войны, найперш з Масковіяй, моцна падразалі крылы Рэчы Паспалітай. А шмат што варажыла ёй велічны ўзлёт. Чалавечныя прававыя нормы, дэмакратызм і наяўнасць даволі шырокага прадстаўніцтва грамадства ва ўладзе, самакіраванне тэрыторый і гарадоў. Але на абароне гэтага застарэлая форма ваеннай арганізацыі амаль без сталага войска. Асабліва цяжкія выпрабаванні ў войнах выпадалі на долю Вялікага Княства. Абмежаваныя людскія, а яшчэ больш фінансавыя магчымасці нібы на смех патрабавалі для развіцця лепшых рыс дзяржавы сумленных у дамовах і мірных у суіснаванні і гандлю суседзяў. Але надыход такіх абставін не праглядаўся нават у смелых марах мысляроў. Кароль Швецыі натхняў сваіх падданых, маючы з ласкі Бога жалеза, усё патрэбнае атрымаць з дапамогай сталі. З Усходу Масковія спрабавала стаць новым Рымам і ашчаслівіць навакольныя краіны самадзяржаўем. А ўласнае духавенства адной часткай цягнула да праваслаўя, другой пад Рымскі Прастол.

— Перакажы Філарэту маю думку, — працягваў вялікі гетман, — што Дэвулінскае пагадненне забяспечвае спакойнае цараванне ягонага сына. Калі не парушаць дамоваў, кароль Уладыслаў за іх пасадам не азавецца. Не пашкодзіць нагадаць, што вялікі гетман Княства мае ў гэтым немалую вагу, але не адны Сапегі гэта абяцаюць. Філарэт зразумее, чаму ўсё перадаецца з вуснаў у вушы: кароль такога ліста сваім подпісам замацаваць не можа і не павінен.

— Ды ўжо ж, — дазволіў сабе ўсмешку Бражына. — Меў прыгоды з гэтай нагоды.

Вялікі гетман адказаў лёгкай усмешкай.

— Шчасліва абышлося, але будзь, вашмосьць, пільны і зброю май напагатове. Калі ўжо зусім непярэліўкі, усё кідай і ўцякай, — дазволіў гетман.

— Спадзяюся, да гэтага не дойдзе, — запэўніў Бражына. — Можа, і ад часоў пана Андрэя які след трапіцца.

— Дай то Бог! Бо гады ж немалыя, — уздыхнуў гетман. — Але да пана аршанскага старасты ліст возьмеш. Пан Аляксандр Сапега мае жылку, як і пан Андрэй. Дапамогу на мяжы несумненна забяспечыць. Ну і прытулак, калі трэба будзе. Яму і лісты да маіх аканомаў пакінеш. Ведаючы свайго надзейнага кур'ера, — змякчыў гетман усмешкай наказ пасляшацца, — не падганяю, але…

Бражына ўзняўся, разумеючы, што ўсё абгаворана.

— Пастараюся, яснавяльможны пане, не пазней Канвакацый даставіць адказ.

— Дай Бог, і беражы цябе Царыца Нябесная, — прамовіў Леў Сапега на развітанне.

«Дыплом! — падумаў ён. — Неацэнены здабытак пана Жулкеўскага грэбліва адкінуты каралём Жыгімонтам! Ці паслужыць у новых абставінах? Даў бы Бог!»

**Бог ведае, хто як абедае**

Але раней за спрытнага шляхціца Бражыны патрыярху Філарэту аб'явіўся ў сне Святы Мікалай, дабрадзей і апякун Масковіі. Святы заступнік няблага кеміў у палі-

тыцы і ўклаў у галаву патрыятычнага старца думку простую і неадчэпную: пакуль у Рэчы Паспалітай гасудара не выбралі — ударце па ёй і забярыце жаданае. Збегам абставінаў тое ж самае каторы год раіў Маскве француз, каму купец, а каму барон Луі Дэзай дэ Кутэрмен*, пасланец архікаталіцкага кардынала Рышэлье*. Сутычка «адвечных ворагаў», караля Рэчы Паспалітай і вялікага князя Масковіі, забяспечвала моцны тыл трэцяму выканаўцу інтрыгі кардынала, ваяўнічаму шведскаму каралю Густаву Адольфу.

Па задуме Рышэлье, «паўночны леў» павінен уварвацца ў наследныя землі магутнага Габсбургскага дому, пакуль Францыя падрыхтуецца да вайны з ім. Пасланец кардынала ў Варшаве барон Эркуль Жэрар дэ Шарнасэ* таксама атрымаў дакладныя інструкцыі. Перамір'е Рэчы Паспалітай са Швецыяй у Альтмарку, на якое мы паклалі шмат стараннеяў, на жаль, згасае. Шэсць год, — кардынал Рышэлье меланхалічна перакінуў некалькі пацерак ружанца, — не прапалі марна, але… Місіяй пана будзе адарваць ад цэсара Брандэнбург, увесці Густава Адольфа на германскі тэатр Трыццацігадовай вайны. Францыя няспынна варагуе з Венай і Мадрыдам ад 1521 года, бо ў абодвух сталіцах пануюць Габсбургі. Дачыненні дому Валуа з Габсбургамі вызначылі пратэстанцкая Рэфармацыя, якая разваліла адзінства хрысціянскага свету, і Нідэрландскае паўстанне супраць гішпанскага прыгнёту, цесна звязанае з кальвінізмам як супрацьвагай каталіцтву. Але за ўсім гэтым прага тэрыторый і прыбыткаў.

— Я думаю, — асцярожна зазначыў дэ Шарнасэ, — Рэч Паспалітая падпіша мір са Швецыяй, каб не мець ворагаў з двух канцоў.

Кардынал узважыў аргументы дыпламата.

— Калі пан здолее пераканаць іх, што маскавіты нападуць бліжэйшым часам, — падкрэсліў Рышэлье. — Апроч усяго памянутага, гэты мір павінен забяспечыць нашы гандлёвыя інтарэсы на Балтыцы.

— Пагроза вайны з Масковіяй, небяспека магчымага шведска-маскоўскага хаўрусу займае шляхту больш, чым будучая элекцыя, — адзначыў пасол. — Толькі пратэстанты, асабліва радзівілаўскія, хвалююцца. — Абрыдла ім пагаджацца, што ўсе правы маюць толькі з ласкі «сапраўдных той зямлі паноў», каталікоў. Цяжка было вызначыць абодвум, каталікі яны больш ці палітыкі, але памяталі, што на пачатку праўлення Жыгімонта III у сенаце Рэчы Паспалітай засядала амаль трыццаць дысідэнтаў, а напрыканцы менш дзясятка. Гэта з улікам, што іх правадыры, Крыштап Радзівіл і Рафал Ляшчынскі, у вялікай прыязні з каралевічам і маюць значную падтрымку каталіцкіх прыхільнікаў талеранцыі.

— Уплывовыя асобы лічаць, што шведскі кароль не імкнецца заняць трон Рэчы Паспалітай, а толькі баламуціць сітуацыю, — паспяшаўся супакоіць Шарнасэ. — Шляхта, нават з пратэстантаў, абуралася нікчэмнымі лістамі шведскага пасла і перасылала іх на каралеўскі двор, але непакой перад будучым бескаралеўем узмацняўся. Таму чуткі пра намер Густава Адольфа выйсці на элекцыю яшчэ не згаслі.

Кардынал слухаў уважліва, уперыўшы погляд некуды далёка, дзе адбываліся гульні крыху дзіўнаватай шляхецкай рэспублікі. Нібы шчырыя каталікі, а разам з тым… пакуль выберуць сабе манарха…

— У выпадку абрання каралевіча Уладыслава сітуацыя можа змяніцца на карысць пратэстантаў, — працягваў пасол. — Каралевіч, у адрозненне ад бацькі, з маладосці

ў добрых адносінах з іншаверцамі. Не любіў езуітаў і нават сакраментаў ад іх прымаць не хацеў, ішоў да дамініканаў.

— Такая, бач, асаблівасць шляхецкіх звычаяў, — тонкая ўсмешка блукала на вуснах кардынала.

— Звычаі асаблівыя, — пагадзіўся Шарнасэ. — Вось і каралевіч ад дня бацькоўскага блаславення, апроч як вялікім князем маскоўскім, пачаў тытулавацца каралём свеяў, готаў і вандалаў, як вядома, амаль спрэс пратэстантаў! Хто каму саступіць?

— А як нам да гэтага паставіцца? — іранічны тон кардынала падказваў паслу, што атрымае дакладныя і самыя адпаведныя інструкцыі.

Усё ж галоўная ўвага Вене. Кардынал пільна сачыў, каб Цэсару не менела клопатаў. На абшарах ягонай імперыі ўладарылі тры дзясяткі свецкіх князёў, каля паўсотні духоўных асоб, спадчынныя князі, вольныя гарады і мноства дробных уладанняў! Па аўгсбургскаму міру 1555 года між цэсарам Карлам V* і Corporis Evangelicorum, карпарацыяй электараў пратэстанцкіх княстваў Германіі, веравызнанне ў іх прызначалася па прынцыпу «cujus regio, ejus religio», чыя ўлада, таго і вера. І кардынал спрытна карыстаўся як каталіцкай, так і пратэстанцкай плынямі ў барацьбе з Фердынандам II у Вене і Філіпам IV у Мадрыдзе. Настаўляў свайго пасла ў Германіі:

«Людовік XIII, перапоўнены шчырага жадання вызваліць Італію і Германію ад прыгнёту, пад якім яны апынуліся праз яўную жорсткасці і славалюбства Аўстрыйскага дому».

Ці адпавядае гэта рэчаіснасці, не дбаў ні пасол, ні сам кардынал Рышэльe. Хто паспрабуе аспрэчваць думкі архікаталіцкага французскага караля? Ані ў якім разе не Варшава, якой часам так цяжка выбраць між Венай і Версалем.

**Ad praesens ova crus pullis meliora***

Леў Сапега пераклаў на стале паперы, каб нечым заняць рукі, і ўзняў вочы на суразмоўнікаў.

— Не сядзіцца Трэцяму Рыму! Ці даўно ездзілі да хана па ярлыкі на княжэнне, а сёння, дзе прагным вокам згледзелі Праваслаўе, там усё іхняе. Баюся, не дадуць нам маскавіты спакойна правесці Канвакацыі, не кажучы пра элекцыю.

Канвакацыйны Сойм быў адной з найважнейшых працэдур бескаралеўя. Але яму папярэднічалі перадканвакацыйныя соймікі ваяводстваў, паветаў і зямель Рэчы Паспалітай. На ўсё гэта патрэбен час.

— Змрочныя навіны? — запытаў вялікі пісар літоўскі Казімір Леў, наймалодшы сын гетмана і самы малады з прысутных Сапегаў.

— Варушацца, і менавіта ў нашым напрамку, — адказаў Леў Сапега. — А войска нашага там вобмаль. Таму сабраў па тры сотні кавалерыі і пяхоты дзеля ўнутранай бяспекі Княства. Ну і прыпаведніх лістоў выдаў на тысячу і чатыры сотні пяхоты ды гусараў паўтары сотні. Узмоцнім замкі ад Дынабурга па Старадуб. Можа, і малавата, але не заспеюць знянацку.

---

* Лепш яйка сёння, чым кураня заўтра.

— Але ж, на вашу думку, на пачатак дзеянняў патрэбны як найменш дваццаць тысяч з неабходных сарака? — настойваў маладзён. — Памятаеце, пры абмеркаванні канстытуцыі Сойму «Аб Маскве»?

— Як не памятаць. Але ж існуюць межы магчымага. Ды і разумення іншым не стае. Вось і швагер мой, — усміхнуўся гетман, — яснепан польны гетман утварыў.

Прысутныя ведалі, як балюча ўспрыняў вялікі гетман скліканне Крыштапам Радзівілам з’езда ў Вільні ў першай палове траўня. Падаткі ўхвалілі і паўнамоцтвы на найманне войска выдалі. А на думку вялікага гетмана, з’езд падчас бескаралеўя нішто іншае, як парушэнне уніі. Дабра ў гэтым няма. Але, выглядала, спыняцца на гэтым вялікі гетман не хацеў.

— Што да Сойму, маю намер адразу ж прапанаваць трохтыднёвы тэрмін, а элекцыю недзе на восень.

Літоўскі крайчы Крыштап Сапега задаволена пляснуў сябе па калене.

— Па маёй думцы! Менш пустамалоту — больш сэнсу! — усклікнуў гучна. — Падтрымаю не толькі з абавязку, але і дзеля прыемнасці.

— Бог аддзячыць, — усміхнуўся вялікі гетман. — Але трэба забяспечыць больш шырокую падтрымку, а не толькі сваімі.

— Ну, пан падканцлер на Ашмянах не зблышыць! — упэўнена прамовіў пан падчашы. — Ды пан Павел Ян ад Кіева паслуе, маем сілу.

Вялікі гетман кіўнуў на згоду. За кожным Сапегам свая кліентура. Ашмянскі перадканвакацыйны соймік, напэўна, пройдзе пад дырэктарствам дасведчанага і надзейнага Паўла Стэфана Сапегі. Можна не сумнявацца, што справы бяспекі Княства там будуць не на апошнім месцы. Як і захаванне залатой вольнасці. Абавязкова засцерагуць у сваіх пастулатах, каб на канвакацыях не прымалі ўхвал, датычных рэформы элекцыі. А послух на Соймах ашмянцы маюць належны і заслужаны.

— Мне таксама трэба рыхтавацца старанна, — усміхнуўся Леў. — Накінуцца груганы з усіх бакоў, асабліва калі маскавіты рушаць. У кожным выпадку павінен скласці рэляцыю са зробленага ад часу смерці караля.

— Дыскусіі ва ўсякім разе не пазбегнуць, — зазначыў Казімір Леў. — Але ў гэтым няма страху, калі б не тая маскоўская пагроза, — ён кінуў позірк на бацьку, каб той пацвердзіў.

Вялікі гетман паківаў галавою і прамовіў:

— Дарэчы, будзе нагода выказацца каму разумнаму і паважнаму за абмежаваннем каралеўскага права на наступальныя войны без згоды Сойму. Шляхта павінна падтрымаць. Менавіта праз неразважнасць Жыгімонта ў гэтай матэрыі мы страцілі Інфлянты. А каралевіч таксама ласа пазірае на Стакгольм і можа наважыцца на паўтор спакуслівага глупства. У выпадку згоднага нападу шведаў з маскоўцамі Княства чакае бяда.

Усе Сапегі былі ў поўнай згодзе, што да абмежавання каралеўскіх памкненняў у напрамку Швецыі: працуй на Рэч Паспалітую, калі ёю абраны!

— Але ж гэтага не выпадае пастулаваць вялікаму гетману, — засцярог пан крайчы.

— Пагамонім пра гэта асобна, — паабяцаў вялікі гетман. — Не перавяліся між Сапегаў ваяры, якім ніхто не насмеліцца закінуць баязлівасць.

— Выглядае на тое, што маем адзінага электа, каралевіча? Гешэфт з Густавам Адольфам не складаецца? Канчаткова?

Пытанне кіравалася вялікаму гетману. Менавіта яго ганцы лёталі між Рыгай і Вільняй альбо іншымі рэзідэнцыямі Льва Сапегі.

— Так! — кіўнуў вялікі гетман. — Пан Корф даў адпаведную рэляцыю. Я так і думаў, што нічога добрага з гэтага не будзе. Наша шляхта пайшла б ваяваць за французскія справы дзе-небудзь у Гішпаніі, толькі і здабыткаў.

— Калі гэта можна палічыць здабыткамі, — хмыкнуў Крыштап. — А што ж нашы кальвіны?

Вялікі гетман кінуў на суродзіча крыху здзіўлены позірк.

— Сам разумееш, мне размаўляць у гэтай матэрыі з Радзівілам — толькі дражніць, — адказаў Леў. — Але, здаецца, нашых удалося пераканаць, устрымаюцца. Каронныя пратэстанты таксама не ўсе заадно. Размаўляў з Рафалам Ляшчынскім. Хіба пан Фірлей высунецца з прапановай. Як мне данеслі, Густаў Адольф разлічваў карыстацца тутэйшымі пратэстантамі, з яго ўласных словаў, «ствараючы стронніцтвы і кідаючы іх адно на аднаго». Не таямніца, што ніхто іншы, як польны гетман Радзівіл, падахвочваў шведскага караля. Пераконваў яго, што будзе абраны, калі аддасць Княству Інфлянты, а Кароне верне Прусы ды Шлёнск па Одру.

Старэйшыя пакруцілі галовамі: неблагую цану выставіў пан гетман за карону і вялікакняскую шапку Рэчы Паспалітай.

— І што на тое швед, калі нешта вядома? — зацікавіўся пан Крыштап.

Вялікі гетман не стрымаўся ад усмешкі.

— Нібыта паслухаўся Радзівіла. Выклаў сваім паслам ясную думку «спрабаваць наколькі дасца, а калі не ўдасца, то ўсё ж не зашкодзіць паспрабаваць».

— Саламон! — зарагатаў Крыштап, вясёлым поглядам запрашаючы ацаніць каралеўскі досціп. — Але як жа, калі б далося, выглядаць меў хаўрус з царом?

Леў нібы ўспомніў нешта, вартае ўвагі суразмоўнікаў.

— Дарэчы, — насцярожыў вялікі гетман, — прымас, напэўна, запрапануе перамовы са Швецыяй і Масковіяй. Не думаю, што гэта варта рабіць менавіта зараз і такім парадкам.

— Чаму? — не зразумеў Казімір Леў. — Нібы так паводле сенату?

— Не зусім, — зазначыў Леў. — Тым самым мы прызнаем наяўнасць іхняга хаўрусу як небяспечнай сілы, — патлумачыў вялікі гетман. — Як бы мацуем яго.

Сапегі памаўчалі, усведамляючы настаўленне. Нарэшце старэйшы з падначаленых парушыў маўчанне.

— А хто ж узначаліць наша войска?

— А вашмосць як думае? — прыжмурыўся вялікі гетман. — Aetas senilis mala merx est? Старасць — дрэнны тавар?

Разумеў прыхаваны сэнс пытання.

— Ды рознае баюць, — ухіліўся ад дакладнасці Крыштап. — Адны лічаць найпрыдатнейшым каралевіча, іншыя пра смаленскага ваяводу пана Гасеўскага кажуць.

— А гетманы што ж? Польны і… вялікі? — гетман не крыўся з усмешкай.

Пан падчашы сумеўся. Паспрабаваў выскрабці адказ з патыліцы.

— Але ж…

— Век мой маеш на думцы? — здагадаўся Леў. — Не саромся. Як казаў Сенека, старасць хвароба невылечная. Дадам ад сябе, што ад чалавека не залежыць.

— Але ж цяжкавата будзе пану гетману ў полі, — запярэчыў мякка і з пашанай.

— Цяжкавата, — пагадзіўся Сапега. — Але не цяжэй, чым несці абавязак роду Сапегаў. А саступі я, не агледзішся, як Радзівіл, а за ім і Радзівіляты пойдуць нам навыперадкі.

— Так, гэта пагроза, — падтрымаў падчашы. — Але ж змаганне з Масквою — рэч найгалоўнейшая. Яны ж не ўцерпяць. І выведнікі тое ж даносяць.

Вялікі гетман уздыхнуў. Углядаўся ў стол, нібы там спадзяваўся прачытаць падказку.

— Безумоўна! І трэба добра думаць, як і ў гэтай патрэбе не страціць, а знайсці. Не забываймася, што мноства, калі не большасць нашых абшараў ляжыць на Беларусі. Іх трэба бараніць і ад свайго войска і ад захопнікаў. Смаленскі ваявода таксама мае там інтэрас і можа быць нам у сукурс.

— А што ж з польным гетманам? — пан падчашы вярнуў размову да Радзівілаў.

Леў ізноў не стрымаўся ад уздыху.

— Неяк трэба радзіць, хоць ведаю, той будзе чыніць, што здолее, насуперак.

Пан крайчы не сумняваўся, што і вялікі гетман не папусціць апаненту. Хоць бы ў справе прыпаведніх лістоў пакарыстаецца несумненнай перавагай. Хіба што каралевіч ды прымас паўплываюць.

— А зараз пра pacta conventa. Вашмосьці, напэўна, абодва трапіце на ўкладанне і прыціранне, — запэўніў вялікі гетман. — Магчыма, Павел Ян, яшчэ хто з нашых. Ты ад Слоніма паслуеш, — звярнуўся да Казіміра. — Пэўна, і там ёсць нейкія пастулаты і пажаданні? Падхапі. Людзі ахвотней падтрымаюць на Сойме.

— Так, кінеш за сабою, знойдзеш перад сабою, — кіўнуў Крыштап. — І пасля рэляцыйных соймікаў варта будзе ўдакладніць.

— Абавязкова, — пахваліў гетман.

Як сярэдні векам, Крыштап пачуваўся вальней за маладога Казіміра. Але хто ж роўны вялікаму гетману!

— Калі вы караля адразу не забрытаеце, — папярэдзіў Леў. — пазней не здолееце, якія б абяцанкі ён не даваў. Як кажуць, ad praesens ova crus pullis meliora, лепш сёння яйка, чым заўтра кураня. А пра наша Княства хто яшчэ, апроч нас, задбае?

Сын разумеў, што з вышыні свайго досведу і веку бацька думае пра іх, маладых. Яму, дай Бог здароўя, як ні глянь, пры новым каралі доўга не жыць.

— У мяне тое-сёе занатавана, — Казімір Леў разгладзіў на стале ладны аркуш.

— Паслухаем! — імпэтна абвясціў Крыштап, месцячыся зручней. — Слухаць не складаць, — патлумачыў прычыну задавальнення.

— Першае з занатаванага — абавязак каралю не дапускаць чужаземцаў да сваёй цяснейшай рады і на афіцэрскія пасады ў каралеўскай гвардыі.

Казімір Леў павёў поглядам па тварах суродзічаў.

— Разумна, — пахваліў Крыштап, зірнуўшы на вялікага гетмана. — А то напрэ нам шведаў, як цар свайму войску.

— Ну і тое, пра што казаў пан вялікі гетман, — працягваў Казімір Леў. — Ні пад якім прэтэкстам не распачынаць вайны без дазволу Сойму.

— Гэта калі не самае істотнае, то адно з найважнейшых, — прамовіў вялікі гетман. — Як і пастулат, абавязуючы караля ўладзіць мірам дачыненні са Швецыяй і Масковіяй. А да нас, гетманаў, прызначыць камісараў, каб сачылі і схілялі да міру. Гэта не як гетман, а як учарашні канцлер прапаную, — усміхнуўся Леў.

Пан крайчы скарыстаўся хвіляй маўчання.

— А што вы наконт раздайніцтва? — захваляваўся Крыштап. — Каб не зацягваў новы кароль з надаваннем пасад, як тое меў у звычаі кароль Жыгімонт.

— Так, шляхта гэтым была вельмі незадаволена, — прызнаў Казімір Леў. — Варта нагадаць пра гэта каралевічу. Я занатую.

— Добра, вашмосці! — падвёў рысу вялікі гетман. — Займіцеся дамоўленым, а ў мяне адмысловая сустрэча. Берасцейцы чакаюць. Напачатку чэрвеня ў іх соймік.

* * *

З надзеяй і непакоем чакаў каралевіч вынікаў Канвакацый, прызначаных на 22 чэрвеня ў Варшаве. Яшчэ падчас сакавіцкага надзвычайнага Сойму 1632 года Леў Сапега падтрымаў прапанову кароннага канцлера Якуба Задзіка выключыць з будучай элекцыі чужаземцаў і выказаў надзею, што каралём стане адзін з сыноў Жыгімонта III. Звычаёвы парадак маршалкавання: Вялікапольска, Малапольска, Вялікае Княства, гэтым разам патрабаваў выбару ліцьвіна. Пад радасны гоман іншаверцаў маршалкам абралі кальвіна, польнага гетмана Крыштапа Радзівіла. Не так лёгка было несці пачэсны цяжар. Ужо на першым паседжанні паслы ўзнялі лямант.

— Няма караля — не маем перад кім стаяць! — гарлалі зацятыя абаронцы шляхоцкіх прывілееў. — Давай лавы!

Добрых чатыры гадзіны не змаўкаў вэрхал. Звычайна адкрыццё Сойму паслы праводзілі стоячы. Хочаш — не хочаш Радзівіл паслаў служак па лавы. Але ж каб на тым канец! Павел Стэфан Сапега, падканцлер Вялікага Княства, падтрымаў пастулат аб трохтыднёвым тэрміне Сойму і накінуўся на віленскі з’езд, дамагаючыся роспуску войска, згуртаванага Крыштапам Радзівілам. На такія закіды падскарбі літоўскі Стэфан Пац абвінаваціў Сапегу, што ён выступае супраць думкі ўсяго Княства. Спрэчка перайшла ў сенат і толькі Альбрыхт Радзівіл памірыў дыспутантаў. І простыя паны паслы гаманілі, спрачаліся і сварыліся, не надта дбаючы пра павагу да маршалка. Тут табе і маскавіты пагражаюць, і шведы над галавою вісяць, і на ўсё грошы патрэбны, і з выбарам аніяк не ўсведаміць найлепшага выйсця.

— Чаму ж то, паны-браты, гэткі вэрхал? — сярдзіта выгуквае пан маршалак і разводзіць рукамі ў разгубленасці. — І маршалак перад вамі і гетман! І ніякай пашаноты да гэтых пасад!

Адно з жаўнерствам і зусім іншае з вольнымі іхмосцямі. У іншага на пасесіі і кату на шпацыр цесна, але ж сам сабе ваявода! Гетман-кальвін пры ўсёй значнасці не быў сенатарам, на Сойме быў толькі шляхетна «ўраджоны» і не мог патрабаваць выключнага шанавання.

— Ат! Не прымай да сэрца, вашмосць, — гучна суцяшае бліжэйшы пасол. — Як з іншымі сябе паводзілі, так і з вашмосцем!

— Шчаслівае прызначэнне для правадыра апазіцыі, — засмяяўся другі пасол. — Паставілі ваўка пастухом.

Усе тры тыдні разгараліся спрэчкі каталікоў з іншаверцамі. Умацаванае Жыгімонтам III контррэфармацыйнае згуртаванне хціва пазірала на рэшткі рэлігійнай вольнасці. Самы час кінуць пратэстантаў ды праваслаўных у абдымкі Вуніі! На шчасце, каралевіч не даваў уцягнуць сябе ў гэтыя інтрыгі. А дасведчаны маршалак бліснуў элаквенцыяй і чарговы раз давёў, ці не адзіны з ганарыстага роду імкнецца ўрасці ў Рэч Паспалітую.

— Дзеці Найяснейшага пана, хай спачне ў спакоі, гэта дзеці Рэчы Паспалітай! — пераконваў паслоў Крыштап Радзівіл. — Яна апекавалася імі, і яны не зменяць сваёй прыхільнасці.

Канвакацыі закончыліся без асаблівых ухвалаў, але шчасліва для Уладыслава. Элекцыйны з’езд прызначылі на 27 верасня, а гетманы маглі з чыстым сумленнем вяртацца да войска.

Сойм даручыў гетманам наймаць чатыры з паловай тысячы жаўнераў. Польны гетман Радзівіл адразу ж запытаўся наконт лістоў на дзве тысячы жаўнераў. Хоць канцлер Вялікага Княства Альбрыхт Радзівіл на пачатку Сойму памірыў пасвараных гетманаў, пачаліся новыя несуладдзі. Вялікі гетман, спаслаўшыся на нястачу грошай у скарбе, выдаў лісты на сотню кавалерыі і дзве пяхоты! Затое сам прыняў на службу дзве з паловай тысячы.

**Кожнаму можнаму свая інтрыга**

Павятовы маршалак і значны пасесьянат Авянір Грот, напэўна, не часта ўзгадваў бы пра вайну, каб не суседства ротмістра Міхала Чуліцкага, ды не падчарка на выданні.

Пан Авянір нядбалым рухам захінуўся ў аксамітны шлафрок і апусціўся ў шырокае крэсла, месцячыся між пуховых падушак.

— Мушу прасіць вас, шаноўная пані, сур’ёзна заняцца дачкою.

Пані маршалкова, жанчына вабнай паставы і немалой сваім часам пекнаты, адчула сябе як муха пад кацінай лапай. Час ад часу хвастаты паляўнічы паслабіць ціск, зазірне, а ледзь затрапечацца здабыча, каб выслізнуць, ізноў прыцісне.

Не дачакаўшыся водгуку, пан маршалак прыступіў да тлумачэнняў. Ніколі не бачыў розніцы між сямейнымі і, скажам, соймікавымі размовамі. І там і тут дапякала недарэчная баязлівасць і неабсяжная тупаватасць апанентаў.

— Пані Праксэда дала мне на прагляд некалькі лістоў, атрыманых Марыляй, — пан Авянір старанна разглядаў пантофель.

Але, як і спадзяваўся, пані Хрысціна самахоць ні да чаго не прызнавалася.

— Што ж, не робіць гонару маці, калі яна не цікавіцца ліставаннем дачкі з маладзёнамі, — з падкрэсленай скрухай прамовіў пан маршалак размерана, як для пратаколу.

— Але ж можа гэта і не вельмі прыстойна, — рашылася заўважыць пані маршалкова. — Марыся можа пакрыўдзіцца.

Пан Авянір ведаў, што жонка не толькі лічыць такое падгляданне непрыстойным, а стасоўна дачкі нават абразлівым, але ёсць меркаванні ягоныя і розных іншых.

— Ага, пакрыўдзіцца! — ужо сам тон пана маршалка запавядаў, што ён прамовіць. — А вось я, шаноўная пані, на гэтыя крыўды дзявочыя не зважаю. Caveant

consules, няхай консулы будуць пільнымі! Для мяне гонар сям'і, добрае імя стаіць вышэй усіх канвенансаў. Суцяшаюся, што і вы прылучыцеся да маёй думкі, прагледзеўшы адказ на доччын ліст, якога, на жаль, не меў магчымасці прачытаць. Periculum in mora, зацяжка пагражае небяспекай.

Не разумее жанчына, што наперадзе Элекцыя, прысяга на pacta conventa, а там і каранацыйны Сойм. Новаабраны манарх заўжды пачынае з даравізнаў, з прызначэнняў на пасады. Трэба толькі апынуцца ў належным месцы ў адпаведны час. І не мець прыкрых ускладненняў на карысць непрыяцелям, якія плодзяцца як мышы адпаведна ўзвышэнню.

Пані Хрысціна жахнулася.

— Але ж гэта зусім супраць прыстойнасці! Што Марыля пра нас падумае, даведаўшыся?

— Для мяне, паўтаруся, важней тое, пра што я змог даведацца! — падкрэсліў пан маршалак. — І лічу неабходным азнаёміць пані з гэтым сумным зместам. Натуральна, si fabula vera, калі аповесць праўдзівая, — дадаў на слабое суцяшэнне.

Пані Хрысціна глыбока ўздыхнула і прамовіла голасам пакутніцы, гатовай на ўкрыжаванне, але не здраду веры.

— Воля ваша, пане, але я чужых лістоў чытаць не буду. Нават доччыных. І пераказаў слухаць таксама не хачу.

Пан Авянір прыгледзеўся да жонкі, нібы стараўся ўгадаць, у сваім яна розуме ці толькі часова занядужала. Успомніў, што і раней здараліся выпадкі яе неадольнай упартасці і зняважліва махнуў рукою.

— Калі б дачка магла прыслухацца да якой іншай жанчыны, не турбаваў бы вашу міласць. Не прасіць жа мне пані Праксэду аб тым, чаго яна выканаць не ў стане. Даволі таго, што паспрыяла з тымі лістамі.

Памянутая пані Праксэда мела шчаслівы для сябе і гаротны для атачэння траф дапякаць кожнаму, маючы нейкую карысць ці хоць бы задавальненне за прынесеную таму ж шкоду. А што чалавек тую шкоду напачатку за дабрадзейства прыме, пані Праксэда вінаватаю сябе прызнаць не здольная, таму і не каялася. Падобнымі паслугамі сплочвала далёкаму родзічу пану Авяніру сваё ціхае бытаванне пад ягоным дахам. Пані Хрысціна шчырым сэрцам зычыла старой пройдзе ўсіх пакут апраметнай на тым свеце, бо на гэтым пан Авянір бараніў яе ад магчымых прыкрасцяў.

— Пра што ж я магла б гаварыць з Марылькай? Дзяўчына дарослая, і мы размаўляем як дарослыя, без дакучлівых павучэнняў.

Пан Авянір ухваліў паблажлівым позіркам запозненую паслухмянасць жонкі і патлумачыў пасля хвіліны ўдумлівага маўчання. Менавіта так, як рабіў гэта з недалужнымі супаратамі на сойміках.

— Цешу сябе надзеяй, пані разумее, што Міхал Чуліцкі не пара дачцэ Авяніра Грота. Сваім часам ясна давёў гэта да ведама ягоных сватоў і не зычу сабе неабходнасці мяняць сваё стаўленне ў гэтай матэрыі. Як то казалася некалі: спачатку шаблі — пасля шлюб! — закончыў пыхліва.

— Але чаму ж? — вырвалася ў пані маршалковай, не так патрабавальнай у выбары магчымага зяця. — Усім жа выйшаў чалавек. І гаспадарны, і гожы. І ў войнах заслужоны... Сам гетман...

Пан Авянір расцаніў вокліч як непрыстойнасць, бо наконт шабляў, то гэты ротмістр… Але рашучае пастанаўленне давесці гаворку да станоўчага выніку змусіла пана маршалка працягваць тлумачэнні.

— Зрабіце ласку, пані, прыняць пачутае як неабвержнае і нязменнае, — папрасіў пан Авянір тонам пагрозы. — А вось вам вытычныя для размовы: усякае ліставанне павінна быць спынена неадкладна, пакуль не стала спажывай пляткарак. Utinam sim falsus vates, каб жа быў я фальшывым прарокам, але не цешу сябе лішкам веры ў стрыманасць пані Праксэды. Таму аніякіх пераглядаў-усмешак у касцёле. Пры першай спробе таго нахабы зладзіць спатканне, яго напаткае куля альбо шабля. Ахвочыя знойдуцца.

Пані Хрысціна здрыганулася. На яе думку, малады, паглядны і, што не менш важыць, заможны Міхась Чуліцкі быў выдатным выбарам з усёй чарады прэтэндэнтаў на руку і сэрца дачкі. А калі абое маюць афект, але паводзяць сябе годна, то якіх плётак варта баяцца? Чаго яшчэ жадаць бацькам? А тыя лісцікі, што сабе дасылаюць, то гэта ж дзеля пекнаты пачуцця, дзеля ўсяго таго, чаго яе саму, прыгожую, гарэзлівую Хрысцінку, лёс пазбавіў жорстка і незаслужана. Не пашкадавалі яе, не зліталіся, двойчы не зліталіся, а вось зараз і дачцэ падобнае варожаць. А ў яе ані сілы, ані мажлівасці дапамагчы.

— …калі не што горшае, — даляцеў да яе голас мужа. — Ганьбіць імя Грота нікому не дазволена!

«У чым жа тая ганьба ад Чуліцкіх? — не рашылася запытацца пані Хрысціна. — Род не горшы і не ніжэйшы за Гротаў. А вайсковаю славай то не ў прыклад багацейшы. Хіба ж роўня яму пустагон Фелікс? Хіба ж віна ці ганьба хлопца, што ўпадабаў нашу дачушку і яна яго?»

— Войнам жа, здаецца, канец, — рашылася пані Хрысціна. — Асядзе паблізу на сваіх маёнтках. У каго ў павеце лепшыя, пры такіх гадах!

Пан Авянір мог бы сам закончыць: і прыгажосці ды кемлівасці. Але не заканчваў за неразважлівую жанчыну і не лічыў пакуль патрэбным паведамляць, што ў яго на прыкмеце прэтэндэнт не роўня ротмістру, які з бліжэйшай вайны можа і не вярнуцца. Важыць той, лепшы і ў тытулах, і з маёмаснага боку, і ў мажлівасці паспрыяць цесцю і швагру, пакуль гады яму дазволяць. Ужо адно абяцанне выстарацца Феліксу пасаду пры падскарбію, а пакуль прыставіць на збор падаткаў, варта сустрэчнага кроку. Маладому заўсёды грош патрэбен, хэ-хэ! А цесцю хоць невялікі крок у напрамку Сенату!

Што да веку прэтэндэнта, то, калі падумаць, заможная ўдава — не такі ўжо незайздросны лёс. Другі шлюб можа быць яшчэ больш карысны. Пан Авянір цвяроза ўзважыў усе бакі справы, даведаўшыся пра сур'ёзнасць намераў новага знаёмца. І ваяр Чуліцкі са сваімі лісцікамі зусім не на месцы супраць асобы такой значнасці. А ўсё кніжкі гэтыя, французства распуснае! Гэта ж калі Праксэда раззвоніць (а негадзіўцы абы здалося, што яе пакрыўдзілі!) — і ўсяму канец. Пойдзе пагалоска, за пагалоскай размовы. Наперадзе два соймікі! Праксэда і там не палянуецца разбалбатаць, як бараніла цноту абранніцы, ды не здолела. І што тады? De caelo in caenum, з неба ў гразь!

— Таксама рашуча забараняю наведваць панства Павалаў, — як вырак прамовіў пан Авянір. — Там могуць адбывацца непажаданыя і нібыта выпадковыя спатканні.

— Але ж пані Бажэна выключна гжэчная асоба, і швагерка яе — сама пара нашай Марыльцы. Змалку сябруюць.

Пані Хрысціна спрабавала бараніць, што дасца, бо не ўяўляла, як зможа пераказаць дачцэ словы айчыма. Не прыме і не зразумее, а горш таго, не даруе. Пан Авянір не палічыў патрэбным працягваць дыскусію. Меў важкія падставы быць не ў гуморы і мусіў разважыць наступствы пэўных падзей. Калі на пачатку чэрвеня вялікі гетман правёў у Берасці перадканвакацыйны соймік пад сваім дырэктарствам, каб адразу ж вырушыць да Варшавы, пан маршалак Авянір Грот правёў соймік у сваім павеце. Не ведаў, у якім настроі скіраваўся на Канвакацыі яснепан Сапега, але сам вынікамі сойміка быў незадаволены. І падзяліць яго незадаволенасць мог толькі пан Ільяш Юдыцкі, бо ніводзін з іх, насупраць гарачым памкненням, не трапіў на Канвакацыі. Пан маршалак Грот і пан павятовы падкаморы Юдыцкі былі людзьмі старога гарту. Абодва лічылі ганьбай адчуваць нястачу ў нечым, што можна перахапіць у каго іншага, і, здавалася, ад калыскі супернічалі да сенатарства. Тое, што павятовыя тытулы не варажылі лёгкага і тым больш хуткага здабыцця ўпрагнёнай вышыні, рабіла яе яшчэ больш прыцягальнай. А пакуль што першай перашкодай да сенатарскага крэсла бачылі адзін аднаго, бо двум ад павета туды не прабіцца. Абодвум здавалася, што справа зрушыцца ў жаданым накірунку, абы адолець гэту бліжэйшую заваду, таму ўпарта змагаліся за першынства ў межах павета, настойліва шукалі намараных пратэкцый віленскіх ды варшаўскіх урадоўцаў.

Пан маршалак дырэктараваў ледзь не на кожным сойміку. Не мінаў аніводнага Сойму калі не паслом, то госцем. Пану падкамораму Юдыцкаму шматлікія межавыя спрэчкі і суды вакол маёнткаў давалі надзею звесці перавагі пана маршалка да незаўважнасці, калі не ў бліжэйшы час, то ў бліжэйшыя гады. Меў пан падкаморы вельмі важкі козыр, пра што гаварылася шэптам і неахвотна. Праўда, сродак той не мог ужывацца наўпрост да пана маршалка. Узаемна, на людзях, лічыліся амаль прыяцелямі, як працавітыя пчолы, рыхтавалі грунт пад будучыя ганоры: мацавалі ўплывы, збіралі грошы, набывалі маёнткі, галоўны капітал тых блаславёных часоў. Ну і выглядалі якога шчаслівага выпадку. Так і сплывалі гады. Але ж зоркі тым і прыцягальныя, што недасяжныя і свецяць вечна! Даволі часта канкурэнты дзеялі згодна. Нястомна падавалі адзін аднаго знаёмцам і суседзям як носьбіта мудрасці, мужнасці, стрыманасці і прыстойнасці, усіх чатырох дабрачыннасцяў па Платону. Старыя пагаворвалі, што магчымыя сенатары былі моцна звязаны нечым няўхвальным яшчэ ў маладосці. Але тае пары і тых стасункаў абодва стараліся не ўзгадваць. Хапала ім змагання з гурмай шляхецкай драбнаты, якая часта руйнавала карысныя для абодвух пачынанні. Яшчэ больш непакою будучым сенатарам нёс зладжаны гурт заможных і да таго ж маладых яшчэ шляхціцаў. Не было таго сойміку, каб не вылезлі са сваімі пастулатамі, каб не ўплішчылі свайго на Сойм, а то і не абраліся камісарамі па якой-небудзь справе, належнай сталейшым і мажнейшым людзям. І ўсё гэта au nom du salut publik, у імя грамадскага дабра! Кожны раз, калі грэчкасеі апантана аддавалі свае рыскі за гэтых прыстойных нахабаў, сэрцы нядошлых сенатараў сціскаліся ў разуменні не-

папраўнага. Бо як на ўкаранаванне злога і пан Міхал Чуліцкі, і ягоны сябрук Лукаш Павала, і Кіпрыян Батарэвіч, хоць і аднарукі і старэйшы векам, вось уся тройца гэта, як маляваныя што паставаю, што тварам ды вусам! І ў простым кунтушы са звычайнай карабэляй! Як пачнуць прамаўляць, то палітычнасцю не аднаго віленскага ў казіны рог загоняць. Пазмагайся з гэткімі! Замест паславаць на Канвакацыях, а можа трапіць да якой камісіі, мусілі задаволіцца аповедамі пана Павалы на рэляцыйным сойміку. Што ж дзіўнага, дастаткова ўспомніць той соймік…

— Добра, паны-браты, мець пана Лукаша да сваёй дыспазіцыі! Дзе ты лепшага знойдзеш?

— Ды ўжо ж, лепшага і не трэба. Пераводзяцца старыя, і меншае разумных…

— І не кажы, вашмосць! Вось прыкладам, каго пашлеш на генерала?

— А чаму дзівіцца, васпане? Кароль Жыгімонт праз вайну на сталец уссаджаны. А там і пайшло-пакацілася: з татарвой праклятай, з Масковіяй, са шведамі. Ды рокаш, ды хваробы! Так шляхта і прарэдзілася. А найперш, хто здатнейшы ды старэйшы. Так што пан Лукаш, хоць і маладаваты, але нам апора!

* * *

Тым часам двое гэтых зухаватых і зацятых зусім блізка, па-суседску абмяркоўвалі свае клопаты…

Пан Лукаш Павала, павятовы харужы, расклаўшы перад сабою цэлыя жмуты рознакаляровых вузенькіх раменьчыкаў, плёў адмысловыя тарокі, якіх не зрабіў бы ні адзін рымар. Так, прынамсі, лічыў сам аматар. Пан Міхал Чуліцкі прыглядаўся да сяброўскага вырабу і прыкідваў, як дагадзіць майстру: толькі пахваліць ці папрасіць гэткія самыя.

Пан Лукаш адклаў свой нескладаны занятак і насмешліва зірнуў на сябра. Той не пакрыўдзіўся. Ведаў, што ўсмешка не яго тычыцца, а прыяцель нават важныя рэчы звык абмяркоўваць з адценнем паблажлівасці да жыццёвых бур і няскладзіц. Усё мінае, усё перамелецца, толькі дапамагай Божым жорнам.

— Кажаш, не ўхваліў твайго намеру?

— Якія там ухвалы! Ледзь не ззелянеў ад злосці, пачуўшы, што грошы мне патрэбны на гвалт, — прамовіў пан Міхал. — Стрымаўся, праўда, але дзіцё распазнала б, што яго халера пачынае браць. А даўно ж не сплаціў ні шэлега. Грэбліва так пытае: «Што, ацан, прайграўся?» Ну, я яму проста: «Шлюб збіраюся ўзяць. І да войска неўзабаве».

Пан Лукаш ажывіўся.

— І што ж гэты пацук? — не цешыў павnajannем пана Ільяша Юдыцкага. — Напэўна ж ведае, каго маеш за абранку?

— Уяві, не запытаўся нават, — пакрывіўся Міхал. — Толькі гэтак нядбала: «Няўжо жонку шукаць патрэбны вялікія грошы? Мо, на князёўну ў Масковіі вока паклаў?»

Пан Лукаш пакруціў галавою.

— Значыць, хацеў паказаць, што не цікавіцца, пра каго мова, — упэўнена прамовіў ён. — Не мог бы ганіць, але не хацеў благаславіць. Затое змікіціў пра магчымы канец інтратнай арэнды.

Міхал пацінуў плячыма і спахмурнеў.

— Мабыць, так. Бо пачаў успамінаць пра кошты маёй выправы да войска. Нібы я патрабаваў ад яго падвышэння арэнднай платы.

— От, павук! Можна падумаць, выправа ягонымі грашыма сплочвалася, — абурыўся пан Лукаш.

Прытаптаў нагою канец рэменя, сярдзіта тармаснуў, парваў. Нібы спаганяючы злосць, адкінуў кавалкі. Міхал упэўнена сцвердзіў:

— Адно з размовы вынес: дабром ён мне маёнткаў не аддасць, а як яго выгнаць?

— Так. Шмат шляхты супраць яго не збярэш, — з уздыхам пагадзіўся Лукаш. — Але ж арэнду яму прадоўжваць не мусіш. Я тут вось што надумаў... Пакуль тая новая вайна, на такое нахабства можна адказаць неблагой інтрыгай...

Пан Лукаш сярдзіта заскроб патыліцу і сваім звычаем усміхнуўся, нібы зубамі хацеў пахваліцца.

— Ты да апошняга дня маўчы і на вочы Юдыцкаму не трапляй. А напярэдадні тэрміну аддай арэнду пану Лешку, — пан Лукаш зірнуў на сябра, каб заўважыць, што той не цалкам злавіў грунт інтрыгі. — Ён у сплатах сумленны, не дзіва, калі і наперад за гады выкладзе. Грошы будзеш мець, і пану Ільяшу адлуп!

Пан Міхал ажывіўся. Безнадзейнае становішча раптам атрымала выйсце.

— Мабыць, неблагая, як ты кажаш, інтрыга. Толькі баюся, ці пан Лешка пагодзіцца, — занепакоіўся ён.

— Пагодзіцца, — упэўнена прамовіў пан Лукаш. — З Юдыцкім зацятыя ворагі, а з бацькам тваім былі прыяцелі-таварышы. Калі да войска, тастамент на жончына імя пакінеш і таго ж пана Лешку выканаўцам тваёй волі прызначыш. Можаш і мяне дапісаць.

— Яшчэ жонку трэба займець, — засмяяўся Міхал і пахваліў сябра: — Хітра ты ўсё камбінуеш. Я б гэтак не змог, хоць, здаецца, на паверхні ляжала.

Маўчанне сведчыла, што пан Лукаш не збіраецца аспрэчваць відавочнае.

— Не кожнаму ўсё ўмець, — патлумачыў міласціва. — І са шлюбам зацягваць не варта. Марыля не гротавых крывей і не мусіць вымольваць бласлаўлення ў гэтага сатрапа. Крывасмоку яе пасаг і пекната спакою не даюць. Які ўжо год марыць дзяўчыну на торг выставіць. Таму кажу табе: асведчыўся, маеш яе згоду, то і не вагайся.

— Бач, крыху вагаюся, — прызнаўся Міхал. — Бо куды яе павяду? Усё ў павука ў кіпцях.

Лукаш міжволі засмяяўся.

— Калі дождж пойдзе — верабей страху знойдзе. Дарэчы, у павука, пане ротмістр, мабыць, няма кіпцюроў, бо як бы па сценах бегаў. Але пра гэта пры нагодзе, — засцярогся ён. — Як я разумею, да войска табе не спешна?

— Чвэрць мая выйшла, жолду не атрымаў, але абшыт поўны не браў. Раны нібы загаіліся, хіба па надвор'і смыляць, — прызнаўся Міхал.

— Значыць, не загаіліся і вяртацца не можаш, — рашуча абсек Лукаш. — Так што бярэш шлюб і святкуем хоць бы ў мяне. Марыля — дзяўчына разумная і раскошаў не запатрабуе. А пакуль Масква на нас кінецца, ачуняеш.

Міхал з сумненнем пакруціў галавою.

— Я думаю, наша войска ўзмоцняць дзеля шведаў, а да Канецпольскага каронныя харугвы ды казакі пойдуць. Калі з Масковіяй пачнецца, тыя нехрысці не ўцерпяць, каб не скарыстаць нагоду.

— А я непакоюся, што новы кароль, а ім напэўна стане Уладыслаў, сам спакусіцца на вайну. Тэрмін перамір'я са шведамі сплывае.

Міхал прамовіў у роздуме:

— На мой розум, калі маскавіты палезуць, то найперш на Смаленск. Яго мы адстаім. А каб вярнуць захопленае Густавам, трэба мець войска, як у Густава…

— Дасць Бог, Сойм не пагодзіцца, — уздыхнуў Павала. — Не даспадобы мне ўся гэта валтузня з шведскай каронай. Мала Вазам нашых? Што за наканаванне ліцьвінам увесь час за чужыя троны біцца!

— Цяжка, мабыць, знайсці, каму гэта даспадобы, — пагадзіўся Міхал . — Кароль Жыгімонт толькі і дыхаў ёю недасяжнай. А новым крыжакам заманулася пры нагодзе каталіцкую веру несці і на Маскву, і да Стакгольма. Іншым разам, здаецца, Вазы і нашу шляхту, і польскую былі б рады куды дзець, Рэч Паспалітую аднымі езуітамі засяліць, тады і былі б шчаслівыя.

Пан Лукаш згодна заківаў галавою.

— І не кажы. Стакгольм, Масква, Вена, толькі яны Вазам цікавыя. Рэччу Паспалітай некалі займацца. Уладыслаў крыху іншы, але не пазбавіўся бацькавай хваробы, па чутках, спіць і трызніць Швецыяй. А каму ён там патрэбны?

Міхал усміхнуўся, прыгадаўшы забаўнае.

— Не ведаю, ці пераказалі палонныя шведы Найяснейшаму пану словы іхняга канцлера Оксэнштэрны: «Шведы пагадзіліся б лепш хлопа на каралеўскім стальцы пасадзіць, чым Уладыслава». Бач, не шануюць крыві Вазаў!..

— А што дзіўнага? — паціснуў плячыма пан Лукаш. — Калі паслухаць тых фанатыкаў, што вакол караля завіхаюцца, то чалавеку ў гэтым жыцці ані ежа з пітвом, ані дах над галавою і сям'я побач не патрэбны. Навошта ж гэты свет, калі ў ім спрэс адзін грэх? Адно касцёл, каб маліцца аб збавенні? А ў пратэстантаў не так. Ды і, на мой погляд, Бог стварыў свет і чалавека ў ім, каб жыццю дараванаму радаваўся, а не толькі пакутаваў. Ну і па сабе нешта прыдатнае нашчадкам пакінуў.

Нібы ў адпаведнасці з думкай, вярнуўся да свайго занятку.

— У войску мяркуюць, што Уладыслаў пачне цалкам талеранцыйна, — у роздуме прамовіў Міхал. — Добра, калі будзе трымацца наезджанай каляіны. Але ж яму мовяць і супраць арыянаў, і кальвіны нібыта свет засцяць. Няўжо не зразумее, што такая пастава не наблізіць яго да шведскай кароны. І прыхільнікаў у пратэстанцкіх краінах не пабольшае.

Пан Лукаш памаўчаў, падумаў і запытаўся:

— А табе не здаецца, што пры ўсіх яго лепшых намерах, каралевічу не хапае разумення рэлігійных спраў, не адчувае, якая бездань дзеліць гэтыя вызнанні, хоць яны і з аднаго кораня?

— Мабыць, так, — кіўнуў Міхал. — Таму і не ўхваляю патрэбы паміраць дзеля навяртання шведаў да Святога прастолу коштам нашае крыві.

— Моляцца неяк — і хай ім будзе добра, — усміхнуўся пан Лукаш. — А кранем ды раззлуем — ізноў вайна. Шведскі жаўнер — то не маскоўскі! Ды яшчэ з туркамі завесціся… Разгуляемся як кот на жорнах!

Пан Лукаш сярдзіта пакруціў галавою.

— Хто-ніхто спадзяецца разжыцца на шведах. Хоць бы Радзівілы, — заўважыў Міхал.

— Адно скажу, — прамовіў пан Лукаш, — я прысягаў не шведскім Вазам і кароль прысягаў не шведскаму народу, а Рэчы Паспалітай. Калі нехта скажа: Карона ці наша Княства, выберу Княства, бо адсюль родам, тут жыву і пахаваным быць жадаю. Навошта ж мне чужыя кароны на галаве майго вялікага князя? Так што падтрымаю і Радзівілаў, калі пойдуць на замірэнне са шведамі, не зважаючы на Карону і Міласцівага пана.

— Ну, такое ўжо здаралася, — пагадзіўся Міхал.

* * *

Магчымы шлюб пана Міхала Чуліцкага і васпанны Марылі Гротавай, раўнапраўны і асвечаны ўзаемным афектам маладых, гнаў сон з павек павятовых правадыроў. Пан Юдыцкі шпурнуў пад ногі кароткі, але змястоўны ліст, прывезены хлапчуком на здохлай кабыляціне.

— Шлюб! Узяў шлюб! Не параіўшыся, не паведаміўшы!

Пана Ільяша паліла злосць і жах, бо апроч навіны пра шлюб паведамлялася пра звязаны з гэтым намер перадаць маёнткі ў арэнду іншаму чалавеку, паколькі тэрмін ранейшай дамовы сплыў.

Пані Юстыну, падкаморыху, палілі не злосць і не жах — яе з’ядала цікаўнасць. А гэты сундэла, гэты соймікавы балбатун, выкрыквае нібы звар’яцелы ксёндз з амбону ў пустым касцёле, а не кажа проста, хто з кім узяў шлюб і чаму гэта яго так раз’юшыла. І чаму ў гэтага разявакі нехта павінен пытацца дазволу?

— Дык што за шлюб?! — у адчаі выгукнула яна, заўважыўшы, як муж азіраецца за сваім шыкоўным кійком. З’едзе да вечара, а беднай жанчыне млей у невядомасці!

— Міхал наш звязаўся шлюбам, нягоднік! — крыкнуў пан Юдыцкі ўжо з сяней.

— З кім? О, Божа, з якім ты мяне звёў недарэкам!— узмалілася пані Юстына. — З кім жа звязаўся, няўдаліца ты палітычная?!

Падхапіўшы падол, подбегам кінулася ўслед і дапяла такі свайго.

— З Марыляй Гротавай, увозам, патаемна! — даляцела да яе ад брычкі, што кацілася да брамы.

Пан Ільяш, хоць і ў апошні момант, усвядоміў, што, вярнуўшыся, атрымае рашучую рэпрымэнду і кароткі выклад прыстойнага стаўлення да жонкі, належнага будучаму сенатару.

— О Божачкі! — у захапленні выгукнула пані Юстына, ледзь не сеўшы на ганку.

Ухапіла сябе за ўраз пачырванелыя шчокі і закруцілася ваўчком.

— Матрунка! Дзе тая дзеўка носіцца? Патап! Дзе той Патап? Маю каламажку! Хутчэй, абібокі! Варушыцеся, сундэлы!

Увозам! Божачка! Можа яшчэ конна, у адным сядле! Яны ж абодва такія прыгожыя, вядома ж конна, пад чорнай палярынай! У змроку! Па лясной сцяжыне! Хіба

ж мой сундэла мог да такога дадумацца! А некалі ж у ваярах аціраўся! Але ад калыскі ў сенатары рупіла! На лавах засядаць, а не на карым стаенніку пад турэцкім чапраком!

Пагарда да ўсіх сенатараў была сувымерная з захапленнем гэткім рыцарствам. Каляска імчала да бліжэйшых сябровак, нібы саму пані Юстыну схапілі ўвозам і толькі пражытыя вёсны не далі ўскінуць яе на луку сядла пад чорную палярыну.

Для пана Юдыцкага чарнейшым было разуменне, што ветрагон звозіць з-пад самага носа прыбытковае карыстанне ягонымі арандаванымі дварамі. І пан Грот страціць, хоць нікому не прызнаецца што. Калі ўвесь павет чуў, то пан Ільяш ведаў, што пан маршалак крыва пазірае на мажлівага канкурэнта да рукі панны Марылі і шлюб можа адбыцца толькі насуперак волі пана Авяніра. А ён, гэты праклятны шлюб, зваліўся на абодвух raptus puellae, выкраданнем дзяўчыны…

нарадзіўся 12 лютага 1937 года ў вёсцы Пагост Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Ленінградскі караблебудаўнічы інстытут (1961). Удзельнік грамадска-палітычнага і культурнага руху ў Беларусі (1987–1997). Дэлегат Устаноўчага (1989) і двух наступных з’ездаў БНФ «Адраджэнне». Тэматыка творчасці — гісторыя Рэчы Паспалітай і ВКЛ XVII ст. Аўтар аповесці «Галс» (2012), рамана з трох частак «Прастрэлены талер» (Частка 1, 2013), астатнія часткі — у рукапісах, рамана «Дыплом на царства» (2010), раманаў (у рукапісе) «Цемірхан-Шура» (1995) і «Алабама» (2015). Жыве ў Гродне.







# Паэзія

## Святлана Абдулаева

### Іграй, скрыпач

На вуліцы — не май,
А лісце залатое…
Іграй, скрыпач, іграй —
Расказвай пра былое.

На лёс не наракай,
Што ён не літасцівы.
Іграй, скрыпач, іграй
Аб тым, як быў шчаслівым.

Як сустракаў вясну
І як каханне страціў —
За кожную вярсту
Ў жыцці мы нечым плацім.

І хай збягае час,
Нібы пясок, скрозь пальцы.
Агонь душы не згас
І кружыць ў рытме вальса.



Стракочуць конікі ў траве…
А можа, так гаворыць лета?
Ды мы не ведаем пра гэта,
І кожны з нас сам па сабе.

Канонам радасна пяюць
Ад ранку дружна птушкі ў садзе —
А мо жыццё нам свята ладзіць,
Ды мы не хочам гэта чуць?

## Старога горада агні

Ах, як бягуць імкліва дні —
Яны шляхоў не выбіраюць.
Старога ж горада агні
Як і раней, мяне вітаюць.

Фасады звыклыя дамоў,
Дзе вербы ў чаканні гнуцца.
О, колькі ж я прысніла сноў,
Каб на вакзал свой зноў вярнуцца!

Зязюля шэрая гады
Не раз лічыла мне ў лесе,
А я ў думках... зноў сюды
Ляцела птушкай з паднябесся.

Старога горада агні
З падгучкай чыстаю гітары...
Я вас шукала ў кожным дні,
Як і нясла заўсёды ў мары.



Я ў задуменні асцярожна крокі
Па вузенькай сцяжыначцы раблю.
Квітнее лён навокал адзінокі,
Нібыта неба ўпала на зямлю.

І я баюся патрывожыць гэту
І цішыню, і гэту прыгажосць.
І адчуваю моцна повязь з вечным —
Хаця я на планеце — проста госць.

Уверсе — колер неба сіні-сіні...
Унізе — мора хлынула да ног.
І гэтай фарбы з паралельных ліній
Маім вачам пазычыў шчыра Бог.

## Мужчынская рэўнасць

З дажджом ты грала ва ўнісон
Знаёмы вальс «Асенні сон».
І не глядзела на мяне,

Была як быццам бы ўва сне.
На шыбы падала імгла,
А ты іграла, як магла,
Падняўшы вочы да нябёс,
Нібы цябе анёл сам нёс.
І раўнаваў сур’ёзна я
Да ўсіх дажджоў цябе штодня.
Хоць твой чароўны саксафон
І навяваў лірычны тон,
Яму я даравацьне мог,
Што для цябе ён быў, як бог.
З дажджом ты грала ва ўнісон
Прыгожы вальс «Асенні сон»…
Збягалі слёзы па акне —
Дажджам іграла ты, не мне.

## Вецер

Стукае вецер ціха ў акно —
Адсочвае кожны мой след.
А госць той, якога чакаю даўно,
Яшчэ набывае білет.
Стукае вецер ціха ў акно —
Просіцца быццам за стол.
І я наліваю ў свой келіх віно
І… незнарок — на падол.
Стукае вецер ціха ў акно…
Ды зараз ён мне, як дакор —
Чаму разліла так няспрытна віно?
Чаму не мяняю убор?



Верабей шчабеча
Пад старым застрэшкам…
Непрыкметна збегчы
Вабіць мяне сцежка.
Ў поле, дзе калісьці
Весяліўся табар
І вітаўся лісцем
З кожным стройны явар.
Адгучала скрыпка

З песнямі і смехам…
Толькі явар скрыпне
Хіба што пад снегам.
Я стаю на ганку
І — ні кроку болей,
А душа-цыганка
Просіцца на волю…



Не хачу табе ілгаць —
крывіць душой.
Не твая я, не твая…
І ты — не мой.
Нам у розныя бакі
з табой ісці…
Адпусці мяне на волю…
адпусці…
Лістапад затрусіць
лёгкі след.
Не крыўдуй і не крычы
мне ўслед,
Наўздагон у роспачы:
«Пастой!»
Не твая я, не твая…
І ты — не мой.






нарадзілася 23 снежня 1964 года ў вёсцы Ашмянцы Шчучынскага раёна. Скончыла Гродзенскае музычнае вучылішча. Друкавалася ў «Полымі», «ЛіМе», «Маладосці», «Настаўніцкай газеце», «Гаспадыні», «Книжном колейдаскопе», калектыўным зборніку «Созвездие» і інш. Выдала зборнікі паэзіі «Музыка дажджу», «Тайна времени», «В преддверии любви». Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Навагрудку.

## УЛАДЗІМІР БАРМУТА

### Так жыву

Жыву сярод бярозаў і рабін.
Тут бусел будзе восенню кружыць,
лунаць у небе жураўліны клін,
і па сябрах тут некалі тужыць.

Яны далёка ўсе па гарадах,
жыццёвая іх круціць карусель.
А вестку пра мяне знаёмы птах
ім па дарозе ў вырай занясе:

капае бульбу і здае грыбы,
не слухае прагнозаў і навін,
сніць па начах балотны мох рабы
у пацерках ружовых журавін.

Зімы чакае, будзе вольны час,
пазамятае сцежкі па платы.
Тады і сам успомніць ён пра вас,
пісаць вам будзе вершы і лісты.

### Праз церні ад зорак

Настане час — твой дух мяцежны
пакіне гэты грэшны свет
і адляціць у той, бязмежны,
да зор далёкіх і планет.

І за нябачнай вокам гранню
пазнае ён дабро і зло,
за што расплаціцца маўчаннем,
забудзе ўсё, што з ім было.

Але на той нямой арэне
праз год ці, можа, праз мільён
знаёмы воблік ён сустрэне,
успомніць май, зялёны клён,

і каруселі, і эстраду,
і дом знаёмы, і камін,

і мары светлыя, і здраду —
і апячэ яго ўспамін.

Спакой забудзе дух мяцежны
на трасах зорак і планет
і зноў захоча ў гэты грэшны,
пакут і шчасця поўны свет.

## Першацвет

Зімы распадуцца аковы
пад срэбраны звон ледзяша.
На позірк вачэй васільковы
твая адгукнецца душа.

Распусціцца промнямі ранне,
па-іншаму ўбачыцца свет.
І ў сэрцы успыхне каханне,
як ранняй вясной першацвет.

## У дзень народзінаў

Сад заліты сонечным блакітам,
кропелькі-іскрынкі на траве.
Слухаю, і чуецца, нібыта
ціхім шэптам хтось мяне заве.

Гэта клён знаёмы нада мною
золатам асеннім прашумеў,
што прамчала шчасце стараною
і яго злавіць я не сумеў.

Хай не ўсё з маіх задум збылося
ці не так збылося, як хацеў, —
ад душы цябе вітаю, восень,
з радасцю твой слухаю напеў!

Не тужу зусім і не журуся,
хоць і аблятае лісце з дрэў.
І са шчасцем я не размінуся —
нездарма на год я памудрэў.

## Залатая восень

Ты ў мае пастукалася дзверы
ў залатым уборы ўся, як ёсць,
і мяне прымусіла паверыць,
што ўратуе свет наш прыгажосць.

Хораша так стала і прыбрана —
не налюбавацца проста ўсім!
І маёй душы былая рана
подыхам загоена тваім.

Залатая, залатая, зала!..
Анямеў ад шчасця і маўчу:
ты, нарэшце, тое мне сказала,
што я так даўно хацеў пачуць.

## Плата за каханне

Ты нарадзіўся, каб жыццё любіць,
з усіх кілішкаў радасць піць адразу!
Кахаць ты хочаш і каханым быць,
не прызнаеш кахання без адказу.

Але законы лёс нам выдае
насуперак жаданням тым нявінным,
у якіх развагі не стае,
што мы за ўсё ў жыцці плаціць павінны.

Няхай сабе каханне — Боскі дар,
але і ён жа не бясплатны, мусіць,
бо і пчала, збіраючы нектар,
заўжды насіць даніну людзям мусіць.

Так і на дне тых чашаў асалод,
з якіх за так адведаць хтось імкнецца,
адрынутых пачуццяў горкі мёд
як плата за каханне застаецца.

## Па песню і залатое руно

Не будзе нам сну, ні спачыну,
ні добрай пагудкі, калі
знайсці не зможам пуцявіну

да той незнаёмай зямлі,
дзе сонца па-іншаму свеціць
і зоркі смяюцца ў траве,
дзе самая лепшая ў свеце
вясёлая песня жыве.
Рыхтуйся, мой друг, да паходу,
а я ўжо гатовы даўно
любую адолець нягоду,
шукаць залатое руно.
І песню — найлепшую ў свеце,
якая, мы знаем, жыве,
дзе сонца па-іншаму свеціць
і зоркі смяюцца ў траве.
Мы трапім туды напрадвесні
(а ў марах ужо там даўно),
і знойдзем вясёлую песню,
і з ёй залатое руно.
Адбудзецца гэта не хутка,
гадок праляціць не адзін,
ды будзе нам слава-пагудка
і добры на лаўрах спачын.

## Унуку

Ты любіш маляваць, унучак мой.
Трашчыць мароз, учэпісты і злосны,
але ў тваім альбоме і зімой
цвітуць вясёлкай маладыя вёсны.

Малюеш, хлопчык, ясны далягляд —
і ажывае ў красках шэры будзень,
і сонейкам іскрыцца твой пагляд.
Няхай і тваё заўтра светлым будзе!

## Пяе зямля

У блакіт ракой цячэ дарога.
Па сцяжыне збоку не спяшу.
Хочацца кагосьці дарагога
сёння мне ў сваю пусціць душу.

Хай са мною разам ён пачуе
пошуку і жар, і халадок,

як у сэрцы з думак і пачуццяў
залаты сплятаецца радок.

Як зямля пяе, цвіце, красуе
і ляціць на крылах адкрыцця.
Як імкліва б’ецца і пульсуе
хваля неспакойнага жыцця.

## Дыялектыка

Залатая ружа, залатая,
ты чаму калючая такая?

Залатая пчолка, залатая,
ты чаму маленькая такая?

Залатая зорка, залатая,
ты чаму далёкая такая?..

На якую толькі рэч ні гляну —
адшукаю нейкую загану.

Вось і Сонца — светач яркі самы,
але і на ім знаходзяць плямы.

Да высновы так прыйшоў памалу,
што няма на свеце ідэалу.

І засумняваўся: ці не рана?
Сутнасць рэчаў унутры схавана.






нарадзіўся 18 жніўня 1940 года на хутары Астравок Пружанскага раёна Берасцейскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Берасцейскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна (1968). Настаўнічаў у Вялікарыцкай СШ Маларыцкага раёна. З 1972 года жыве ў Навагрудку. Працаваў у рэдакцыі раённай газеты «Новае жыццё», у партыйных органах, выкладаў беларускую мову і літаратуру ў СШ № 6. Піша вершы і прозу. Друкаваўся ў розных перыядычных выданнях, у тым ліку ў часопісах «Бярозка», «Вожык», «Маладосць», «Полымя», штотыднёвіку «ЛіМ», у наваградскім літаратурным альманаху «Стольны град».

ІВАН БУДНІК

## Ступені Скарыны

### І. У дарозе

З слаўнага Полацка сын гандляра
Роду Скарынаў няўрымсны Францішак
Рушыў у свет к Ягелонскім мурам,
Кінуўшы звыклы бацькоўскі зацішак.

Кажуць, там кожны набыць можа шмат
Кніг друкаваных, каштоўнейшых ведаў.
Будзе здаволены бацька і рад:
Справу прадоўжыць і пойдзе па следу.

Крочыў Францішак за возам купца
Пыльным і гразкім Альгердавым шляхам.
След не застаўся на ім ад хлапца,
Што развітаўся ўжо з бацькавым дахам.

Кніжная мудрасць яго павяла
У край далёкі, нязнаны, нячутны,
Там на скрыжалі яго ўзняла,
Узнагародзіўшы лёсам магутным.

Як там сустрэнуць яго, чужака?
Думаў у страху, сумнівах, трывозе.
Думкі сушылі душу юнака,
Спаць не давалі ў бясконцай дарозе.

Можа ў вучэльні адмовяць яму,
Мо давядзецца вярнуцца дадому?
Ды пакліканню ён верыў свайму,
Што абудзілі Сафіі харомы.

Кракаў не можа яму адказаць,
Горад чужы, ды славянскі і блізкі:
Полацак шлях яму змог указаць
Да еўрапейскай вучэльні-калыскі.

### ІІ. Кракаў

З кожнай вярстою бліжэй
Кракаў як даўняя мара.

Вежы, званіцы — вышэй
І вырастаюць да хмараў.

Вузкія вулкі, масты,
Вавель над Белай Вадою,
Храмаў убор залаты
Ўзгадвалі град над Дзвіною.

Полацка воблік, як дым,
Знік, але ў сэрцы застаўся.
І ўжо не стаўшы чужым,
Кракаў Францыску скараўся.

У Ягелонскіх мурах
З ранку да ночы Скарына
Дзеіў у кніжных вірах
Дзеля карысці айчыны.

Як, перасохшы, зямля
Прагна ваду паглынае
І расквітнее пасля
Яркімі праскамі мая, —

Так і Францыск убіраў
Мудрасць вякоў у вучэльні
Шлях у жыцці выбіраў,
Бачыў сваё прызначэнне.

Птушкаю, поўнаю сіл,
З Кракава ўзняўся Скарына.
Захад адкрыў небасхіл
Перад нястомным ліцвінам.

**III. Падуя**

І пройдзены Альпы з снягамі, з вятрамі…
Хай рукі ў кавярні сагрэе віно…
— Дзень добры, Італія! Будзем сябрамі!
Душой да цябе я цягнуўся даўно.

Дзівілі Скарыну і танцы, і кветкі.
Скарылі цяпло і гасціннасць людзей,
Калі за душой не было ні манеткі.
А ў Падуі важных чакаў ён падзей.

Дабраўся ён з Дацкай далёкай сталіцы,
На суд еўрапейскіх вучоных мужоў

Прынёс свае веды лячыць і лячыцца,
Што ў кніжніцах слаўных вучэльняў знайшоў.

Трывожная думка ў палоне трымала:
Як стрэнуць, што скажуць яму дактары,
Што ў храме калегія падрыхтавала,
Якія ліцвіну апусцяць шары?

Іспыты ў аўторак апошнія сталі,
Экзамены строга вялі дактары.
За бляск яго ведаў яго падтрымалі
Ўсе дваццаць чатыры рукі угары.

Храм Урбана бачыў вучоных нямала,
Хто працай і мудрасцю ўславіў свой край.
У Падуі зорка Скарыны паўстала
І ў Чэхію рушыла, за небакрай.

**IV. Прага**

Злата Прага ў вяках — нібы родная маці.
Колькі розных ліцвінаў ў сябе прыняла
І давала ўсім цёплы прытулак у хаце!
А мяне толькі раз пагасціць узяла.

Дух свабоды, пасеяны Гусам у чэхаў,
І ліцвінам прыманлівай зоркаю стаў.
За вякі, калі ў край хто прыйшоў ці прыехаў,
Не адзін з іх прытулак, занятак прыдбаў.

Развітаўшыся з Падуяй, мудрай, гасціннай,
Рашыў лекар Скарына не цела лячыць,
А душу абуджаць словам боскім няспынна
І яе з цемнаты вызваляць і вучыць.

Столькі дум перадумана, рухнула планаў
З той пары, як узнік непад'ёмны праект —
Падарунак даць віленцам і палачанам,
Друкаванаю кнігай адкрыць ім сусвет.

Для сваіх рызыкоўных задумак і планаў
Дабрачынцаў у Полацку, Вільні спаткаў
І падаўся да чэхаў, дзе доўга, старанна
Аднадумцаў умелых у краі шукаў.

Злата Прага вітала задумы ліцвіна,
Адшукала ў сябе бескарысных майстроў

І ў падмогу дала Паўлюка Севярына —
Найшаноўнага сябра сям'і друкароў.

Стара Месца і Малая Страна на годы
Для Францыска жытлом і майстэрняй былі.
Друкары сябравалі, і кнігі, й народы
І за поспехі піва па куфлю пілі.

Мітуслівыя дні і трывожныя ночы,
Што Скарыну гнялі да апошніх хвілін,
Адляцелі ў нябыт, як настала аднойчы
Трыумфальная дата, пярліна з пярлін.

Дзень суботні, як шосты ў тварэнні Сусвету,
Для Францыска — хвалюючы, памятны дзень,
Бо «Псалтыр» стаў чаканаю здзейсненай мэтай,
Паспалітаму люду нёс сонца прамень.

Хваляванне і радасць напоўнілі сэрца
І да ратушы з кнігай яго прывялі.
Там святочным гадзінніка звон падаецца,
Там пражане яго ў майстры ўзвялі.

З таго дня ён дарыў паспалітаму люду
Найсвяцейшыя кнігі на мове яго,
Каб ён змог з Усявышнім самотна, прылюдна
Размаўляць і прымаць бласлаўленне Яго.

**V. Post Scriptum**

Паўтысячы год у нябыт адышлі
З часоў, як успыхнула зорка Скарыны.
І сёння не гасне на роднай зямлі
Імя яе слаўнага рупнага сына.

Ён годнасць ліцвіна высока узнёс,
Хаця паслужыў каралю або князю.
Айчыне служыў ён і ў дар ёй прынёс
Свяшчэнныя кнігі, што створаны ў Празе.

Яны асвятлялі жыццё землякоў
Малітвамі к Богу на матчынай мове
І невуцтва гналі з застылых куткоў,
Былі адраджэнню жывою асновай.

І сеяў Скарына разумна і вечна,
І ўсходзіла зерне на месцы пачэсным.

нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Лікоўка Гродзенскага раёна. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гродзенскага педінстытута імя Янкі Купалы. Працаваў у школах і аддзеле адукацыі Гродзенскага раёна. Выдаў кнігу вершаў «Знойдзенае ў дарозе» (2014), навукова-папулярныя кнігі «Да падзеяў 1863–1864 гг. на Гарадзеншчыне» і «Ад берагоў Свіслачы да Кузніцы». Жыве ў Гродна.





## РЫЧАРД БЯЛЯЧЫЦ

### На радзіме

Дзень да дня ішлі патрошку.
Пад акном, дзе шмат цяпла,
Камсамольская бярозка
Да партыйнай дарасла.

Ні засечыны старэчай,
Вецце — ласкай на плячы.
Я прыехаў на сустрэчу,
Не пазнаю ні па чым.

Вецер, сябра твой тутэйшы,
Да марозу і слаты
Для цябе складае вершы,
Падбірае свой матыў.

Мы сябе ўспамінам лечым
І дарогаю наўпрост.
Калі выпала сустрэча,
Ні пры чым гады, узрост.

Хата пойдзе Шляхам Млечным,
Дзень утопіцца ў акне.
Ты ж карэннямі навечна
Ў маладосці
І ўва мне.

Дык чаму ж тады раптоўна,
Бы ў калодзежы, на дне,
Зажурыўся сон у кроне
Пра цябе
І пра мяне?

### Ты і верш

Мне падабаецца, што верыш:
На гэтым свеце мы адны.
Па слову роднаму,
Па вершу
Збірала ў сонечныя дні.
Пяшчотна рукі падбіралі

І вочы, колькі поўдзень плыў,
У пацеркі,
Вянкі,
Каралі,
Каб пад вясёлкавы матыў.

З шуфляды і з-пад пакрывала
Праз ноч вымала,
Хоць на міг.
Нібы па тварах,
Пазнавала
Па рыфмах,
Вобразах ты іх.

Ты бачыш вернасць,
Чуеш згоду,
Плячо сяброўскае яго.
Бо верш прыходзіць назаўсёды,
Ён з дома болей ні нагой.

Ён твой і мой —
Мы помніць будзем.
Не абібок ён, не гультай.
А на дарогу добрым людзям
Не пашкадуй,
Перачытай.

## Мне Вас шкада

Быў верасень на словы не такім
Багатым
І на сонца дужа рэдкім.
Мне Вас шкада,
Таму што скразнякі
Са свежым урываюцца паветрам.

Лягчэлі кроны,
Думалі яны
За журавамі паляцець над полем.
Мне Вас шкада,
Таму што будуць дні
На твары незнаёмыя ўсё болей.

І застаюся паміж зор адзін
На ростанях зямных,

Але на волі.
Мне Вас шкада,
Бо жураўліны клін,
Як міг,
Не паўтараецца ніколі.

Не трэба мне паўсвету аднаму,
А Вам бы — журавінныя каралі.
Мне Вас шкада,
Напэўна, і таму,
Што Вы былое сёння шкадавалі.

## Напярэдадні

*Алене Пасюце*

Беларускія думкі мае
Вы ў букет падбіралі жывымі.
А дзе красак крыху не стае,
Аздаблялі прыгожа сваімі.

Не цвіла кампазіцыя дзе,
Дзе прыязную ўсмешку ні стрэне,
У крынічнай чысцюткай вадзе
Беларускасць
Пускала карэнне.

Там пялёсткі да рук, да вачэй,
Прыпадаючы, быццам пара ім,
Станавіліся толькі ярчэй
Па бялюткім прыснежаным краі.

Напярэдадні светлых Каляд
Пад марозным блакітным парывам
Чуць імя ракатлівае рад
Побач з Вашым
Здаўна лёгкакрылым.

Будзе словаў няшмат.
Іх найперш
Бог пасыпаў
Бацькоўскаю жменяй.
Як бясконцы Сусвет,
Стане верш

Мой і Ваш
У імя прадаўжэння.

## У чаканні

Прымусіла зіма пахвалявацца
Пра снег, што выпаў ноччу,
Тугі.
Са сходкаў стагадовага палаца
Змятаю доўга панскія снягі.

Задумлівы і небывала строгі,
Натросшыся ў карэце дапазна,
Нібыта князь вяртаецца з дарогі,
А з ім княгіня,
Юная княжна.

Насвежа ўзыдзе,
Па прыступках пойдзе,
Ледзь кане за пагоркамі зіма,
Марыя…
Ува мне і праз стагоддзі
Славянскае высокае імя.

Ці ж я магу на іх прыезд забыцца
Ў любую белатварую зіму?
Грымела так жа ў полі калясніца
І дзеду,
І прапрадзеду майму.

Лакействам не прывучаны займацца,
А гэты мне занятак дарагі:
Са сходкаў стагадовага палаца
Змятаю долу панскія снягі.

## Малая радзіма

І будзе маліцца зямля
На ноч
І марозным світаннем.
Малая радзіма мая
З каленяў ніколі не ўстане.

Пад хмарамі не пазнаю
І край,
І дзяржаву,
І крэсы.
Цяпер жа радзіму маю
Ніхто і нішто не ўваскрэсіць.

Хоць потым нямала падкоў
Пазбілі ад «аз», «букі», «ведзі»,
Усе мы з былых пастушкоў,
Хто сноў на зары не дагледзеў.

Бацькі не забралі з сабой,
Сама ж бараніцца не ўмела.
Вялікі завоблачны боль
Радзімы маёй утравелай.

Зацьменне.
Крычы не крычы,
Пішы не пішы.
Не паможа.
І думай не думай аб чым…
Парай мне
І злітуйся, Божа.

## Тут

Тут атуліўся нябесны абшар
Па-над святою Гародняй:
Вершы свае прамаўляе святар
Па-беларуску сягоння.

Голас у цемру свячэннем урос
І спавядаецца роўна.
Слухае класік
І вечны Хрыстос,
Што прызямліўся ля Нёмна.

Чуюць анёлы,
І слухае люд
Годны,
Цярплівы,
Суровы.
Перад Сусветам нязведаным тут
Добра мне з роднаю мовай.

Упершыню я паэта такім
Чуў,
Бы па краі ён крочыў.
Словы матуліны
Беглі ў радкі,
Стаўшы малітвай аднойчы.

## Жанчына ў чорным

Сябры высакародныя мае,
Трывае скрозь нябеснае павека,
А Ігара Жука нам не стае —
Прафесара, руплівца, Чалавека.

Вялікі Нёман стаў тады хмурней,
І горад запаволіў крокі злёгку,
Калі згубіўшы ўсмешку,
Пабяднеў,
Бы неба
На няўрымслівую зорку.

Між намі сталі толькі дзве зімы.
Па Млечным Шляху,
Нібыта па пляцы,
Пайшоў адсюль паломнікам,
А мы
Вярнуліся, яго каб дачакацца.

Навошта неразумная зіма
Прыходзіць на яго прыступкі мела.
Не бачыў аніколі, а пазнаў
Жанчыну ў чорным
У Сусвеце белым.

Ні ўчора і ні сёння не прыйшоў.
Не запрашаю, не віню, не дакараю..
Лягла касынка чорная лясоў
На лоб зіме самой
І небакраю.



Неба на ранку шырэй і глыбей,
Спаць не збіраецца вечар.
Чым жа пакрыўдзіў учора цябе,
Не здагадаўся аб нечым?

Мне спавіваць,
Як дзіця, дапазна
Верш для цябе адмысловы.
І на сябе не падобна вясна
Позіркам, крокам
І словам.

Горад не родны.
І вецер чужы
Хмараў не можа напіцца,
Зносіць з вачэй у пясок капяжы,
Што нараджалі крыніцу.

Але рыхтуе ўваходзіны шпак,
Зайцаў касцёр на паляне.
Будзе назаўтра ў ваколіцы так,
Як
Пры сустрэчы ты глянеш.

Вернецца потым пад сонца здалёк
Напаўзабытая вера.
Кроны захмеліць бярозавы сок,
Вуснаў
Спахопіцца
Бераг.

## Прадчуванне

Мне нажурчэла крыніца,
Жаўранак цвердзіў пра гэта:
Штосьці павінна адбыцца
Ў сіняй бясконцасці свету.

Зоркі, аднак, не знікаюць
Болей няхай з-пад нябёсаў.
Здымкі жаўцеюць на памяць,
Дзе я шчаслівы і босы.

Пахнуць дарогай святліцы,
На падаконніку — краскі.
Не перастануць іскрыцца
Згадкаю вочы
І ласкай.

Штосьці адбыцца такое
Ў свеце бясконцым павінна.
Бог дакранецца шчакою
Да сінявокай краіны.

## Перапынак

Прайшло маіх гэтулькі зім,
Як след ад парога пачаўся.
Бяру перапынак ва ўсім:
У словах, дарогах, у часе.

Мяне не чакайце цяпер,
Ні вочы,
Ні гусі,
Ні зоры.
Я дзікі на вольніцы звер,
У пушчы прыжыўся каторы.

А людзі спаткаюць ля рэк
Сляды, што здадуцца сваімі.
Я снежны цяпер чалавек
Без хаты, прапіскі, без імя.

Малюся агню і вярбе,
Забуду і славу, і крыўду.
І толькі насустрач табе,
Успомніўшы светлае, выйду.

Ва ўсім перапынак,
Але,
Калі загрукочуць ільдзіны,
Там будзе ўзыходзіць
На шкле
Дыханне
Маё
І Радзімы.

## Прызнанне

Чамусьці жадаю прызнацца
Прышчучынскае старане:
Дануту Бічэль у палацы
Чытаць сімвалічна ўдвайне.

Ляцяць журавы беспрыстанку —
Відацца з вялікіх акон.
На ганку Марыся і Янка,
Яна маладая
І — ён.

Два крокі да светлай радзімы,
Да Нёмна не болей, чым тры.
Каб бачыць, дзе ногі вадзілі,
То хмары з нябёсаў сатры.

Зайздросціць высокай сталіцы,
Любові, каханню…
О, не.
Хутчэй побач з ёй падзівіцца
Бясконцай вясне будзе мне.

Пад вокладку роднае хаты
Тут не зазірнуць я не мог,
Каб ведаць,
Што гэта пачатак
І песні,
І дня,
І дарог.

## Якушоўка*

За возерам сумным,
За стомленым лісцем
Відацца на захадзе мне:
Кавалачкі сонца яшчэ засталіся
На трэцім паверсе ў акне.

Не спіць Якушоўка ў радках паэтэсы,
Павінен надарыцца госць.

* Якушоўка — радзіма паўстанца Кастуся Каліноўскага.

Гучыць па-над краем трагічная меса,
І вёска чакае кагось.

Не можа той госць не вярнуцца дадому,
Не быў ён здаўна чужаком.
Радзіма там песні складала малому,
Паіла сваім малаком.

Цяпер яна восені ўскінула сачак*
На плечы — змарозіла ўсё ж.
Чаму ж паэтэса няўцешна так плача,
І дзень мой баліць больш і больш.

Ну, хопіць рыторыкі нуднай
І столькі,
Аж зубр нецярпліва зароў.
Я сам неспакоем жыву Якушоўкі,
Брыду між балот і муроў.

І згодзен, што хмараю чорнаю
пойдзе
Надуманы менталітэт.
Хоць вершаў маіх не чытае народзе,
Вядзе ў Якушоўку мой след.






нарадзіўся 16 верасня 1953 года ў вёсцы Стаўбуры на Астравеччыне. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага. Быў настаўнікам, дырэктарам школы, супрацоўнікам рэдакцыі. Аўтар дзясятка паэтычных зборнікаў, сярод якіх «Сакавіцкае крыло» (1988), «Міг выратавання» (2001), «Вочы малітвы» (2005), «Святлом і ценем» (2009), «На радзіме Котры» (2009), «Помню, што жыву» (2013), дзвюх кніг прозы: тапанімічнага аповеда «Котранскі нераст» (2013) і лірычных замалёвак «Са мной мой дзень» (2017), «Пах зоркі» (2019). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Шчучыне.

* Сачак — жаночая апранаха. Так мама казала.

## Прысвячэнне

Пра што пісаць?
Якой асобе
свой верш чарговы
прысвяціць?
Каго ў слове
увасобіць,
каго на подзвігі
натхніць?
Стаю. Наўкола
пазіраю:
чым сэрца зноў
узварушыць?
Табе мой край,
мой родны краю,
і мой радок,
і ўсплёск душы.

*2011*

## На ўзгорку маладосці

...А вось той бераг,
тыя Пышкі —
лясны прыгродзенскі масіў.
Гляджу адсюль, як быццам з вышкі,
на далягляд рачны і сінь.

Тут мы студэнтамі гулялі.
Як голас наш тады звінеў!
Як моцна сэрцы трапяталі!
Якім быў смех!
Якім быў спеў!

Дзе вы цяпер,
мае сяброўкі?
Дзе вы, найлепшыя сябры?
Стаю. А поруч вецер гонкі
і ўздых загадкавы ў бары.

*2011*

## Прага

Гартаю кнігі, бы стагоддзі.
Люблю неўтаймаваны верш.
Мо, вывучаць жыццё ўжо годзе?
Мо, ведаць меней крыху лепш?
Ды не — дарэмная задумка.
І горш за ўсё ў кутку марнець.
Мне кніга даражэй, чым булка,
чым каўбаса і селядзец.
Перад сабою стаўлю мэту —
не абібочыць, не драмаць,
а ўсе (ці ўдасца) кнігі свету
перагарнуць і прачытаць.

*2018*

## Шаблон

Прагну свежай думкі,
як паветра,
як мігцення
зорак маладых,
бы ў спякотны дзень
парываў ветру,
бы ў пустыні
паўглытка вады.
Аглушыла траскатня
пустая.
Кволы сэнс увяз
у глеі слоў.
Шмат вякоў
шаблон не адпускае
са сваіх акоў
усіх аслоў.

*2018*

## З натуры

Бяроза з двайнымі ствaламі —
дзяўчына ўгору нагамі.
А гнёзды сухія гракоў,
як шапкі старыя бацькоў.

Кара ўся ў маршчынах на дубе.
Вярба, нібы хоча прыкленчыць.
Асіна, п’яная ў дупель,
пра нешта абы-што ляпеча.

*2018*



Праходзяць шпарка дні, а творы
марудна спеюць ў галаве.
Дзе нашы Керны, Айседоры?
Хто ўскалыхне так душу мне?
Я ўжо ў роспачы, ужо я
не знаю як, пра што пісаць,
а ўсё, хоць добрае, чужое
абрыдла кожны дзень чытаць.
Мо жураўлём злятаць за мора,
набрацца яркага святла?
Мо ўраз наспее колас твора
ад афрыканскага цяпла?

*2018*

## Пад напеў салавейкі

Завялі пралескі ў вачах,
усмешка пакутлівай стала.
Я часта не спаў па начах:
ой, як ты мяне хвалявала!
Нявопытным сэрцам сваім
цябе пакахаў я бязмерна.
Калі ты стаяла з другім,
мне так станавілася дрэнна.
Мы лёсы звязаць не змаглі
пад лёгкі напеў салавейкі.
Дарогі і нас развялі,
як многіх такіх маладзенькіх.
Паўвека мінула з тых дзён —
і зноўку звяла нас дарога,
ды я ўжо не той маладзён,
і ты пастарэла намнога.
Завялі пралескі ў вачах,
усмешка пакутлівай стала.

Я часта не спаў па начах:
ой, як ты мяне хвалявала.

*2018*

## За борам, за гаем

Наіўныя хлопцы, Нёман наіўны.
Наіўна цвітуць маладыя маліны.
Наіўная сцежка, наіўныя чайкі.
Наіўныя лозы, наіўныя чаплі.
Наіўнае сонца, наіўныя хмаркі.
Наіўная вёска, наіўныя брамкі.
Наіўная цётка наіўна пытае:
— А што вам, сыночкі, ў грудзях далягае?
— Мы чулі, што дзесьці за борам, за гаем
жыве наша мова, святая, жывая.
Туды вось і крочым ад самага ранку,
ўчынілі сабе марш-кідок, пагулянку.
— А хіба ў горадзе з мовай няўвязка?
Няўжо ваяваць за яе гэтак цяжка?
— Не проста, бабуля, часы не такія,
сказаць вам па-шчыраму, нават ліхія.
— А што там за борам, за лугам, за гаем,
дзе родная мова такая жывая?
— Там хутар пры лесе стаіць адзінокі,
стракочуць зімою і летам сарокі.
Там хатка старая, мохам накрыта,
і студня са зруба, пры студні карыта.
Жывуць там дзядуля з бабуляй удовай,
яны карыстаюцца роднаю мовай.
— Чаму ж вы такія наіўныя, хлопцы,
у белых кашулях зухі-малойцы?
Адважнымі будзьце, як бусел на клёне,
адчуйце сябе змагарамі хоць сёння.
Пастаўце пры хаце з кіямі ахову,
каб там хоць не ўкралі родную мову.

*2017*

## Мой сябар

Уганяю ў вершы энергію,
Няхай там вякамі жыве.
Паеду да сябра ў Венгрыю,
Паходзім па мяккай траве.
І ён да паэзіі здатны.
Так любіць над словам пацець!
Выдатны паэт, ой, выдатны!
І піша, бы кошык пляце.
Ён сам беларус. На заробкі
Паехаў вясною туды.
Не ставіць у вершах ні кропкі,
Ні коскі, ні іншай брыды.
А шчыры, бы майская квецень!
Усмешку відаць за вярсту.
Заўсёды так цёпла прывеціць,
Хоць з ім на Венеру стартуй.
Ніводнай адмоўнае рыскі!
І трэба ж ўрадзіцца такім.
А прозвішча простае — Пырскі.
А вёска яго? — Ды Ваўчкі.

*2018*

## Мастак

Малюю на небе карціны
Не пэндзлем, а ўяўленнем.
Пасля гляджу са здзіўленнем
На гэтыя дрэвы, хаціны,
На белыя горы-аблокі,
Рагатых ласёў і аленяў,
Павольных маржоў і цюленяў,
Кудлатых катоў жаўтавокіх.
Занятак займальны і лёгкі,
Як быццам гульня для дзіцяці.
Вунь, бачу, на воблачнай ваце
Дзяўбуць памідоры сарокі.
А што мне рабіць тут, на лаўцы,
У гэтым закінутым парку?
Смярдзючую нюхаць цыгарку,
Якая дыміць у бляшанцы?
А вось замалюю паўнеба —

Тады і пакрочу дахаты.
— Сядзець і драмаць — не ганебна?
— Ганебна! — сказалі салдаты.

*27.V.2018*

## Беліберда

Што я магу зрабіць для чалавецтва?
Амаль нічога, бо ў правах слабак.
Не ўмею люд пазбавіць ад калецтва,
паўсюдна знішчыць наркатычны мак.
Не дацягнуцца да ўсяго рукамі,
не даляцець стрымглаў, не дапаўзці.
Нас аглушылі ўжо баевікамі
і мала добрых пробліскаў у жыцці.
То там, то тут заварваецца каша.
Глядзі: бураны ўжо дамы зняслі.
Такая ад народзін доля наша?
Ці з космасу хто правіць на Зямлі?
Не я адзін слабы, бездапаможны,
такіх мільёны — што ні гавары.
Давайце мо папросім у заможных,
каб да людзей спусціліся з гары.
Наладзіць лёс для чалавецтва — цяжка,
а свой зручней — у гэтым і бяда.
А мы ўсё п’ём і курым у зацяжку,
І лезе ў галаву беліберда…



Вось-вось за лесам сонца зойдзе,
падпальваць неба паспяшыць.
Заціша нейкая ў прыродзе,
і так прыемна на душы.
Крыху прарэзаўся ўжо месяц,
дымяць балотныя карчы,
а камары паветра месяць,
балэбкаў хочуць напячы.

## Мой род

Ад Вялікага Княства Літоўскага
праваслаўны мой цягнецца род.
Не баяўся ён націску жорсткага,
бараніў свой і захад і ўсход.
Гедыміны, Альгерды і Вітаўты
крыжакоў уганялі ў страх,
заставаліся з ворагам квітымі,
беларускі ўздымаючы сцяг.
Пазнаю я ў далёкіх суродзічах
твары прашчураў мужных маіх...
Думка смелая й простая просіцца:
як жылося б нам сёння без іх?..

## Голас з будучыні

Нашчадкі з будучых вякоў
спытаюць: «Што вы тут рабілі?
Адно: хлябталі малако?
Ну і яшчэ сабак кармілі?..
А дух у спальні з імі спаў
ці з павадком хадзіў разявай?
Хто з вас хоць вершык напісаў,
які для нас лічыўся б з’явай?
Што, ў вашым стане не было
ні Гедымінаў, ні Чайкоўскіх?
Няўжо мазгі набок звяло,
як паласатыя прычоскі?
Чмурэлі ў танненькім кіно?
Смакталі прагна цыгарэты
ды пазіралі ў акно,
ці не ляцяць у двор ракеты?..
Занадта мала — есці, піць.
На гэта здольна й карова.
Патрэбна нешта і стварыць,
Але не ўводзьце новы бровар...
Прыцягваў санкцый брудны ўлоў?
Камплексаваліся на Крыме?
Як той спектакль пра Скрыпалёў, —
такіх мы прашчураў не прымем!»



нарадзіўся 2 студзеня 1937 года ў вёсцы Ліпічанка Шчучынскага раёна. Скончыў Гродзенскі педінстытут імя Янкі Купалы. Працаваў у рэдакцыях Шчучынскай (1959–1960), Дзятлаўскай (1967–1972) і Лідскай (1972–2000) раённых газет. Друкуецца ў рэспубліканскім, абласным і раённым друку. Выдаў кнігі «Прасветленасць» (1981), «На схілах берагоў» (1997), «Кругаварот жыцця» (2011), «Лясная рапсодыя» (2013), «Зігзагі лёсу» (2017), «Энергія душы» (2018). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2007 года. Жыве ў Лідзе.



## ЮРКА ГОЛУБ

### З гары

Ніжэй травы, цішэй вады
Намацваў вечар ночы вечка.
А таямніцу гарады
Схавалі ў лёх Сярэднявечча.

Дзе ўзнёсся з бездані касцёл,
Раку пускаў удалеч бераг,
Калісь з ахвярамі кацёл
Кіпеў пякельна — не абмерыш.

У пекла жорсткія правы,
У раю процьма абяцанак.
Жывеш да сівай галавы
Не з ласкі шчодрае цыганак.

Збылася праўда да канца.
У багне топяцца праклёны.
Шукаюць розуму купца,
А хціўцам мроіцца пра клоны.

Эпохі ярасны скрыпач —
Няздара прагна гвалціць ноты.
Дзярэ падобна глотку драч:
Кацюты плешчуць абармотаў.

Нічога! Ты пакуль жывы
У летах, нечым адмысловых,
Дзе сена дух — як пах травы —
Так кружыць — молада! — галовы.

### Балада грушы

Жанчыны звычку не парушаць:
На лаве месціцца гурма.
— А ці была тут, дзеўкі, груша?
— Глядзіце: й заваду няма.

Яна ж цвіла ды ў грудзе-звоне!
Пускала песцікі пад мёд.

Сама знутры, найболей звонку
Была падобна на намёт.

На скрыжаванні неба й долі
Грымоты ў збруі бліскавіц
Прымала скрутна ў нашым доле
З аглобляў цесных калясніц.

З намерам выгукнуць: Палундра!
Зашыцца з руляй за камель
Мясцовы час шукаў Бярмуды,
А скочыў — бацюхны! — на мель.

А груша — ключніца маёнтка —
Паднесла прышлым спелы кош!
Ён меў у Шчорсах і ў Мінойтах
Нічым не вызначаны кошт.

Па тронкі поўны фанабэрый
Крамсаў кару раскосы нож.
Пад назіркам вірлатых берый
Стаяла груша басанож.

Пад час галоднай партызанкі
Яна глядзела смерці ў твар.
Зямлянкі, студжаныя зранку,
Глыталі грушавы адвар.

Калі прастуджаным прадвеснем
З паркана поўз дзіравы лёд,
Надзею страціла ля весніц,
А пчолы страцілі — на мёд.

...Жанчыны звычку не парушаць:
На лаве месціцца гурма:
— А ці жыла тут, бабкі, груша?
— Няма...

## Дыханне трыснягу

Навошта спешчаным зіма...
А трыснягу зіма — як мара.
Заводзіць ён завею ў зман,
Хоць сам становіцца ахвярай.

Тубылец прыазёрных месц,
Дзе здань пад снегам акалела.
Ды прыказка мяняе змест:
Снягі — не мора — па калена.

Ён шоргат замяніў на шэпт
І залагодзіў завіруху.
Балесны вымерзне нашчэнт..
Ды не з такіх закладнік духу.

Загрузла выспа. А трыснёг
Гаротны лёс — ані — не ганіць.
Не збіць яго вятругам з ног,
Тым болей — запыніць дыханне.

## З вечара

Святла ў святліцы не стае.
Вуголле гасяць далягляды.
А гай дарэмна аддае
Штогод даніну лістападу.

На скроні Шведскае гары
Зноў павуцінка з Ваўкавыска
Куляе травы дагары
Ці то з выпадку, ці наўмысна.

Дзе загадзя намацаць роў
Калюгі з лета не паспелі,
Каб папсаваць кіроўцам кроў,
Залеглі у глейныя пасцелі.

Дзе верас выпятраў датла
І месяц звіс, як збан гліняны,
Там вокліч з цемры далятаў,
Пагрозай птушкам шпігаваны.

А потым з Шалямі ўпрытык
І поўнач з рэштай меркавала:
Як ноч падоўжыць — і пры тым,
Чаму тае заўжды замала…

## Рыбніца

Мароз разбежысты з Раства
Скрышыць ільдоў завалы здолеў.
Або не так трашчыць жарства
Пад чаравікамі будоўлі.

А люты — вось дык Архімед —
Каб цалкам светам завалодаць,
Пяшнёй арудуе як след
І парай пыхкае над лёдам.

Шугае жоўтай блешні медзь:
Луской адорыць торбу плёну.
Храпе вятруга, бы мядзведзь,
На лапе ўласнага палону

Змаглася зенкі вырачаць:
Гатовы вылупіцца вонкі!
О міласэрны! Выручай!
Не лезе рыбіна з палонкі!

Шанцуе! Будзем, далібог,
Нібы пачостку, нюхаць корак.
Нямаш традыцыі слабой:
Яна шануе глыбкі корань!

Свярбіць над юшкай прагны нос.
Загнет злучыў і лёд, і промні.
Калі зіма спаўзе на знос,
Дык будзе, мабыць, што прыпомніць.

## Жорны

Разбітыя жорны ў музеі
Не здолее лёс раскруціць.
Ды скласці нанова карціць
Разбітыя жорны ў музеі.
Ці вецер зярняты развеяў,
Каб шлях для сябе скараціць?
Разбітыя жорны ў музеі
Не здолее лёс раскруціць.

## Рэтра

Павуцінне. Альбом.
Варта вочы працерці:
І адразу — аблом:
Наступае бяссмерце.






нарадзіўся 20 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1970). Працаваў на Гродзенскай студыі тэлебачання і ў абласной газеце «Гродзенская праўда». Паэт, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова. Аўтар больш 10 кніг паэзіі, сярод якіх «Гром на зялёнае голле» (1969), «Дрэва навальніцы» (1973), «Векапомнае поле» (1976), «Помню пра цябе» (1983), «У бары грыбы бяры» (1986), «Сын небасхілу» (1989), «Поруч з дажджом» (2001), «Зажураны камень. Трыялеты» (2002), «Брама зімы» (2004), «Багра» (2006), «Краявід» (2017). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1971 г. Жыве ў Гродне.

МІКОЛА КАНАНОВІЧ

## Адпачыць

«Ён памёр пасля цяжкой хваробы...» —
Тут і там гучыць, нібы прысуд,
А чалавек жыццё пражыў да змогі
І адышоў у свой чырвоны кут
Адпачыць навечна, а не трохі,
Ад работ, турботаў і пакут.

*01.07.2019*

## Крыжы

Руйнуюць крыжы ў Курапатах,
У вёсках закопваюць хаты,
У месцах расстрэльных і стратных
Балююць сучасныя каты.
Мянты сцерагуць лялькаводаў,
Хто баль на касцях дазваляе,
Пакуль іх галоўны з народа
Апошнюю світку здымае.
Жанчыны мужчын ненавідзяць,
А тыя — хто ў пляшку, хто з дому.
Дзеці помстай смяротнаю трызняць
Ўсяму свету такому дурному
І прыступаюць да справы:
Рэжуць, калечаць і гінуць,
А хто выжыў — са школьнае лавы
За краты надоўга закінуць.
За мяжу на вучобу і працу
Таксама бягуць маладыя
Без перспектывы вяртацца
Ў кароўнікі нашы худыя,
Дзе камедыя сталася драмай,
І той, каго зваць беларусам,
З душою, Радзіме адданай,
Звыкся канаць пад прымусам.

## Вецер у Востраве

Скуголіць, пішчыць, завывае
У лузе, у полі, у гаі,
У тым, дзе магілы з крыжамі,
Вецер ані не сціхае.

Ён нават на небе хмары
Рассунуў за дзень стаjранна,
І неба святлом над крыжамі
Дню махае растайна.

Такое святло без сонца.
У ім калышацца дрэваў голле.
Мо мароз ноччу ўцісне нямоцна
І цішыня будзе ў наваколлі?..

Але слаба слабее вецер,
Мо нарве зноў дажджу ці снегу.
Ён згубіўся тут у сусвеце
Нашым вечным вясковым рэхам.

*17.03.2019, Вострава*

## Вясновае ў Востраве

Мые Вострава дождж вясновы.
Вецер грыміць дзвярыма.
Я чарговы свой год нанова
Адзначаю тут без экстрыму.
Проста п'ю за сябе гарэлку.
Проста п'ю ды зноў наліваю,
Так жыцця свайго вострую стрэмку
Улагоджваю, аздабляю.
На радзіме са мной — толькі мама,
А дакладней — я сёння з ёю, —
Буду мыць яе ў ночвах старанна
Нашай востраўскаю вадою.
Тут памыцца для маці — шчасце,
Агарод — сэнс жыцця і радасць.
І маё тут усё багацце,
Якое можна араць і гакаць…
Я памыю вечарам маму,
Налью сабе зноў гарэлкі,

Пад дажджом на надворку стану
Вясны нашай чарговым сведкам.

*16.03.2019, Вострава*

## Закляцце

Мех неба святлее на ўсходзе —
дзень.
Восень пануе ў прыродзе —
прымер
ты на сябе яе апранахі —
вер:
паспеюць сарваныя грушы
страт,
абрынуцца чорныя душы
лістамі
ў сад.

## Лісты на асфальце

Па асфальце шоргаюць лісты,
Быццам прамаўляюць нешта,
І кожны раз наструньваешся ты —
Пачуць імкнешся.

## Не знайсці

Лета на мяжы сонцастаяння,
Заўтра на зіму паверне час.
Ад сустрэчаў нашых да расстання
Не знайсці шчаслівейшых за нас.

*24.06.2019*

## На смерць рэдактара

*Памяці рэдактара «Газеты Слонімскай»*
*Віктара Валадашчука*

Яшчэ адзін свабодаўскай кагорты
Нястомны рыцар адляцеў ад нас.
У вырай можа, можа ў рай лагодны

Пісаць там вечны летапісны час
Без фарбы, без друкарні, без газеты,
Без сайта, без кантэнту… На зямлі
Пакінуў нам ён гэтыя прадметы,
Каб тут кантэнт палепшыць мы маглі
Да ўзроўню справядлівасці, свабоды
Цяпер і тут, і сёння, і тады…
А хвалі Шчары плешчуцца нагрэтай,
І так шкада, што іх не бачыш ты.

*26.06.2019, Слонім*

## Ты не габрэй

Ты не габрэй, не армянін,
Не турак ты і не кітаец.
Ты беларус. Як гэты тын
Ў зямлю урос і зарастаеш
Кустоўем, дзікіх траў нашэсцем,
Каб знікнуць на Зямлі урэшце?
Так не хацелася б,
Аднак…
Жывеш ты так.






нарадзіўся 13 сакавіка 1965 года ў вёсцы Вострава на Слонімшчыне. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Як паэт, празаік і журналіст у перыядычным друку выступае з пачатку 1990-х гадоў. Аўтар паэтычнага зборніка «І доўжыцца ноч…» (2003) і ўсіх выпускаў альманаха «Новы замак». Працуе намеснікам галоўнага рэдактара «Газеты Слонімскай». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускай асацыяцыі журналістаў. Жыве ў вёсцы Пятралевічы на Слонімшчыне.

МЕЧЫСЛАЎ КУРЫЛОВІЧ

## Сустрэча з ночкай

Для ночкі час прыдбаў сустрэчу —
Паслухай ціш і не грашы.
Люблю да слёз і гэта Веча,
падвод гук роднае душы.

Абдымкі ціхай цёплай мары…
Згрызоты долу знікнуць ніца…
А для душы, спазнаўшы чары,
рай у чарговы раз прысніцца.

Душа і цела зноўку разам
у падсвядомасці, але
ёсць прадчуванне, што пад прасам
мае ўсе думкі аб Табе.

## Банальная справа

Імпэт — дзедзіч шалу —
шампанскім рве корак…
А стукнула ўчора
разы два па сорак.

Ў людскім разуменні —
банальная справа:
кансэнсус для шалу
згарэў дасканала.

Сон выпетры ў мроі
на гранні адхлання.
Над рэчкай за полем
зноў скардзіцца каня.

## След

След у след —
толькі сцежкі.
Там знаёмы, тут сусед,
пасля рэшткі.

Свой шукаю, каб калі
знікну з балю,
засталіся на зямлі
сляды жалю.

*ЧАТЫРОХРАДКОЎІ*



Ад здрады бяссільна прырода,
як шасне знянацку пад дых.
А вернасць — любові нагода.
На жаль, не хапае на ўсіх.



Свінню падсунуў яблык пекна
Адаму з Евай — д’ябла шанс.
Ніхто не хоча з раю ў пекла,
дык хто ж там будзе, апроч нас?

## Пра нацыянальную ідэю

Подых вандроўны трымціць надзеяй,
на ўзнёслай хвалі, пакуль жыцця…
Я ў Беларусі жыву ідэяй,
каб не згубіць яе хаця.

## Сакрэты ўлады

Пра сакрэты ўлады
адно толькі знаю —
гэта найсапраўдны
твар яе ў Краю.



Разлічыцца спаўна
бязмен людской удачы
з тым, хто начлежнік дна
і даць не можа здачы.



Законы права і маралі
(хто пры ўладзе, той грабе)
крывёй жукоў жукам пісалі
і, не дай Божа, для сябе.






нарадзіўся 17 лютага 1939 года ў Гродне. Скончыў Гродзенскі медыцынскі інстытут. Працаваў участковым урачом у прынёманскіх вёсках, пасля анколагам і хірургам у Гродне, хірургам у рыбалавецкім флоце Мурманска. Аўтар кніг паэзіі: «Тутэйшы» (2006), «Прыдарожная вярба» (2008), «Вчерашние святыни» (2008), прозы і лірыкі «Ліцвінка» (2015), кнігі роздумаў «Матыў прынёманскіх вятроў» (2016), зборніка «Споведзь эскулапа» (2018). Жыве ў Гродне.

ГАЛІНА САМОЙЛА

## Белая замець

Белая замець на вуліцы зноў,
Сонца — даўно толькі згадка.
Позна на многа пражытых гадоў
Ладзіць жыццё мне спачатку.
Позна на раннеюначую смерць
Знікнуць з зямлі мне шчаслівай.
Белую замець цярпець і цярпець,
Гледзячы ў вокны тужліва.
Белая замець з зямлі панясе,
А да нябёсаў не ўздыме.
Белай зраблюся я ўся пакрысе —
Целам, душою ды імем.
Мне даравання няма і няма,
Белая замець — аблога.
Выйду я ў белую замець сама...
Мабыць, патрэбна так Богу.



Чароўны міг навечна знік,
А быў такі жывы, прыгожы...
Адзіны раз пачуўся крык,
Але ўстрывожыў.

Упала знічка ў лес зімой,
На снезе ззяла.
Два цуды спланаваны мной —
І два няўдала.

Прарос палын праз мой парог,
Каб мне журыцца.
На скрыжаванні трох дарог
Застыў мой рыцар.

Дуб нахіліўся над ракой —
Рацэ няёмка.
Між чатырох зямных бакоў
Блудзіць так лёгка.

Іду да жыта расказаць
Аб набалелым.
На пражытых бедаў пяць
Я пастарэла.



Лёд гарачы, счарнелы снег —
Выпадкова не будзе такога:
Мой Анёл не жыве ля мяне.
А чаму — не тлумачыць нічога.
Боль. Варожасць і крык. Пустата.
Дабрата як вада. Зло як горы.
Крыж нясу не туды, не так.
Шлях чужы, і душа мая — гора.
Вочы ўніз. Забірае пясок
Пот змагання і слёзы бяссілля.
Цяжкі крыж пакладу на парог,
За якім мой сусвет стане пылам.






нарадзілася 26 верасня 1960 года ў вёсцы Бандары Гродзенскага раёна. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1981). Выдала зборнікі вершаў: «Сола трох галасоў» (2001), «Между светом и тьмой» (2004), «Зоркі над маўклівай адзінотай» (2011), «Чароўны ліхтарык» (2014), «Паляцелі птушкі ў вырай» (2019). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.



# Проза

## МІХАСЬ ЗІЗЮК

## Дзе сэрца ў кабанчыка

Бабуля Алена ішла сама не свая. От жа нядоля, от жа трэба было нарабіцца. От, мабыць, насніла сёння. Прыснілa ўначы, што некалькі пачварных пацукоў круцяцца каля хаты. Круцяцца, пысамі сваімі вусатымі вынюхваюць нешта. А яна гоніць іх са двара, гоніць. Ды пацукі не ідуць. Вось і насніла. Гэта ж заўчора дамовілася з Сашам Саволікавым, што заколе кабанчыка. Той адказаў, як заўсёды, калі перакуліць сто грамаў:

— Гут, Алена Іванаўна, зробім як мае быць! У суботуранічкай чакай.

Яна ўжо і сыну ў Мазыр патэлефанавала, і дачцэ ў Гомель. Прыедуць у нядзельку, забяруць і сальца, і мяска, і паляндвічкі. Ды і кілбаскі паспее зрабіць. Ат, хай унукі паласуюцца. Бо што яны ў тым горадзе?.. Ядуць гэну хімію. А ў яе ўсё сваё, кабанчыка карміла толькі мукой з бульбачкай, ды малачка падмешвала. Добры кабанчык, спраўны, хлёбаў, аж вушы целяпаліся, папраўляўся хутка.

Ну во, дамовілася з Сашам. Сёння зайшла, а яго няма.

— Ох, бабуля Алена, бяда. Забрала Сашу ноччу «Хуткая». Дрэнна яму зрабілася ўначы, скруціла яго. Я вызвала «Хуткую». Прыехалі, забралі. Кажуць, што на апендыцыт падобна. Мо і рэзаць будуць, — са слязьмі ў голасе паведаміла яго жонка Таня.

От жа нядоля, што рабіць? Пайшла да Вані Пракопчыкавага. А той заняты. Сёння дзвюх свінак, казаў, б’е: у Волі Апанасавай ды Ніны Хуцыкавай. Яно і зразумела. Снежань. Усе ўзяліся да Каляд калоць свіней. Бульбы няшмат, на маладых парасят каб хаця хапіла. Да таго ж вёска не вельмі такая ўжо і вялікая. Такіх спраўных байцоў во толькі двое: Саша ды Ваня. А так — у каго гаспадара няма, а дзе адно трутні, што гарэлку жлукцяць, а свінча не разбяруць. Нехта на працы…

Вось што цяпер рабіць? Гэта, каб не патэлефанавала Марыйцы ды Паўліку, то, мо, і нічога. А то тыя ўжо ехаць сабраліся. Ды і кабанчыка звечара амаль не карміла. Як выходзіла, вярнуў зранку лычом дзверы. Вось і йшла бабуля Алена сама не свая. Ішла па рыпучым снезе, глядзела пад ногі, разважала сама з сабою. І ледзьве не сутыкнулася нос у нос з Пецем Гаўрылкіным. Пеця, худы і нядошлы, з рабаціннем на твары, год каля сарака, вядомы ў вёсцы сабутэльнік і хаўруснік, працаваў толькі тады, калі ўздумаецца, ад учарашняга яшчэ нічога не паспеў выпіць. Унутры ўсё круціла, нос свярбеў, вочы касавурыліся.

— О, Алена Іванаўна! Што гэта з вамі? Перад сабой нічога не бачыце. Ці да мужчын сталі заляцацца? То я не стары яшчэ. Магём, — нязграбна паспрабабаваў пажартаваць Пеця.

— Эх, Пецечка, мне не да жартаў. Якія мужчыны ў мае гады… Жыў бы мой Ваня, ці ж быў бы ў мяне такі клопат, — паскардзілася бабуля Алена.

— А што здарылася, Іванаўна?

— Дык во, бяда, Пецечка. Гэта ж дамовілася з Сашам Саволікавым, каб кабанчыка забіць. А яго «Хуткая» забрала ўначы. Таня кажа, што апендыцыт. І Ваня занятыя. Я ўжо і дзеткам паведаміла, што кабанчыка закалю, заўтра прыедуць. І што мне рабіць? — развяла рукамі бабуля Алена.

— Хм, то не бяда, Іванаўна. Я тых кабанчыкаў заваліў — ого-го. Швагер мой, Калян, не раз дапамагаў. Так што вы толькі загадайце!

— Праўда, Пецечка? — узрадавана пляснула рукамі бабуля. — Ты не хлусіш?

— Што вы, Іванаўна. Калян пацвердзіць. Во, пару тыдняў назад маёй цётцы Сцепанідзе свінню забілі. Вы ж яе ведаеце, у Выселках жыве. Так што мы да абеду справімся, — як бы запэўніваючы яе, Пеця так ляпнуў далонню ў свае худыя, кашчавыя грудзі, што аж закашляўся, — кхе-кхе, у мяне дома і швайка ёсць, і лямпа. Дык што, зваць Каляна?

— Заві, Пецечка, заві, даражэнькі. Я тады пабягу рыхтаваць усё, што патрэбна, — шчаслівая бабуля Алёна памчала дахаты.

Па праўдзе кажучы, Пеця сам не закалоў яшчэ ніводнага кабанчыка. Дапамагаў не раз, даводзілася, а калоць не калоў. Ды выпіць надта хацелася. Зробяць, што там кабанчыка заваліць… А разабраць швагер дапаможа. З такімі думкамі Пеця паспяшаў да Каляна.

Праз паўгадзіны ў двор бабулі Алены зайшлі Пеця і Калян. Калян, заўсёды нягалены, чырванатвары мужчына, у адрозненне ад Пеці, нідзе не працаваў. Але заліць за каўнер умудраўся, нейкім дзіўным чынам, штодзень. І пажадана яшчэ з раніцы. Таму, толькі ўвайшоўшы на падворак, ён заявіў:

— Яно б і па сто грам не пашкодзіла. А то што ж калоць на сухую, не тое сальца будзе!

— Так, так, — заківаў Пеця, — вы ж разумееце, Іванаўна.

Іванаўна разумела. Таму яна не пярэчыла, а вынесла з хаты запыленую пляшку вясковай самагонкі, два кілішкі, дзве лусты хлеба, некалькі скрыдлікаў леташняга сала ды міску храбусткіх салёных агуркоў.

— То будзь здарова, Іванаўна, — Пеця з Каляном кульнулі па кілішку.

— Добра пайшла, халера, ага, — раззадорыўся Калян, — давай яшчэ па адной.

Бабуля Алена нядобра пакасілася, але змаўчала. Байцы кульнулі яшчэ па разу.

— Надвор'е някепскае, эх, — хакнуў Пеця, — марозік слабенькі, снегу падкінула. Харашо…

— Ага, сама кабанчыка калоць, — пагадзіўся Калян, — ну, давай яшчэ па адной.

— Што ж вы, хлопчыкі, — ужо зазлавала бабуля Алена, — працаваць прыйшлі ці гарэлку піць?

— Іванаўна, бог троіцу любіць, — умольна загаварыў Калян, — мы па кропельцы, і ўсё.

Яны кульнулі яшчэ па «кропельцы». У пляшцы засталося меней за палову. Бабуля Алена выхапіла недапітую пляшку з рук і панесла ў хату. Пеця і Калян са шкадаваннем паглядзелі ўслед.

— Добра, дзе кабанчык? — рушыў наперад Калян, трымаючы ў руках вяроўку. — На колькі кіль пацягне, Іванаўна?

— Ды невялічкі, Колечка, невялічкі. Мо кіль сто пяцьдзясят будзе. Спакойны такі, рахманы, — затупала наперадзе старая.

Кабанчык не чакаў гасцей, а гаспадыню з вядром. Таму ён скасавурыўся на Пецю і Каляна, сярдзіта тыцнуў лычом у загарадку і гучна рохнуў.

— Ого! — працягнуў Калян і прысвіснуў. — Дык тут жа нашмат болей, як дзвесце кіль… А вы казалі… Уга, завалі гэтага дыназаўра…

— Нічога, — бадзёра гукнуў Пеця, якому хмель ужо добра цюкнуў у галаву. — Справімся. Ты толькі добра трымай вяроўку. Я яго торкну — ён і пікнуць не паспее.

Кабанчык не хацеў здавацца. Ён нібы зразумеў, што жыццё пад пагрозай, і замітусіўся па хлевушку, прадчуваючы нядобрыя намеры мужыкоў.

— Дзюдзька, дзюдзька, — склаў пальцы Калян, падзываючы кабанчыка, — не бойся, ідзі.

Але той баяўся. Ён не даваўся Каляну. Пеця палез дапамагаць, але і ён не змог злавіць кабанчыка. Адно толькі паваліўся і выпэцкаўся ў гной. Байцы аж узапрэлі, ганяючы бедалагу, пакуль бабуля Алена не прынесла свінчаку гасцінец. Яна падсунула парсюку вядро, і той задаволена зацмокаў. А Калян у той момант паспеў прасунуць пятлю пад заднюю нагу. Сілком кабанчыка выштурхалі на вуліцу. Ён сярдзіта рохкаў, круціў лычом ды павіскваў. Пеця піхаў яго ў азадак.

Усё, давай, — загадаў Пеця і схапіў ахвяру за пярэднюю нагу.

Калян падсёк кабанчыка і пацягнуў вяроўку. Вяроўка напялася. Парсюк зваліўся на спіну і заверашчаў на паўвёскі. Дружна, як па камандзе, забрахалі сабакі. Парсюк затурзаўся з усіх сіл, стараючыся вызваліцца. Пеця выхапіў швайку правай рукой, левай трымаючы кабанчыка за нагу. Заліхвацкі асядлаў яго і раптам разгублена павярнуўся да Каляна:

— Слухай, а дзе ў яго сэрца? З якога боку, га?

— У ср…цы! — рыкнуў Калян. Яго твар пачырванеў ад натугі. — Бі хутчэй, бо доўга я не ўтрымаю гэтага быка.

Пеця, не доўга думаючы, усадзіў швайку пад правую лапатку. Кабанчык заверашчаў так, што Пеця з Калянам, здавалася, аглухлі. Ён тузануўся яшчэ мацней, падскочыў і вырваўся з-пад Каляна. Калян спрабаваў схапіць вяроўку, ды дзе там… Кабанчык замітусіўся па надворку, разварочваючы ўсё на сваім шляху. Вось загрымелі вёдры з вадой, тазы, за імі паляцеў на зямлю ўслон з мешанкаю для каровы, мех з мукою ля ганку. Хрупнуў кол, што трымаў вяроўку з развешанай бялізнай…

Бабуля Алена паспела схавацца ў хлеў, да каровы. Адзінае, што аказалася прыадчыненым, — веснічкі на вуліцу. У іх і кінуўся парсюк.

Гучна рохкаючы, ён пратараніў брамку, зваліў яе набок і з віскам панёсся па вуліцы. За ім цягнулася вяроўка і ружовы след на снезе. Следам, мацюкаючыся адзін

на другога, спяшаліся Пеця і Калян. А ўжо недзе адзаду войкала і галасіла бабуля Алена. За кабанчыкам закруціліся, ашчэрыўшы зяпы, суседскія сабакі. Уся працэсія панеслася па нешырокай і заснежанай вясковай вуліцы. У вокны сям-там выглядалі здзіўленыя твары. Сёй-той, адзеўшыся, выйшаў на вуліцу. Запалоханы да смерці кабанчык імчаў як алімпійскі чэмпіён. У Каляна і Пеці амаль не было шанцаў дагнаць яго. Але, на бяду парсюка, насустрач яму, з суседняй вуліцы, выехаў трактар з прычэпам сена — і закрыў дарогу. Той ледзь не тыцнуўся носам у страшнае грукатлівае жалеза і павярнуў ад страху назад. Сілы ды імпэт яго аслаблі, бег ён ужо не так хутка. На паўдарозе Пеця з Каляном злаўчыліся схапіць за вяроўку.

— Трымай, хутчэй трымай! — сярдзіта крычаў Калян. — Я сам буду валіць яго!

Пеця залыпаў вачыма і затупаў на месцы, цягнучы вяроўку. Неяк яны ўкоўзалі кабанчыка. Калян выхапіў прыхопленую з сабой швайку і ўсадзіў парсюку пад левую лапатку. Бедалага зноў заверашчаў, растрывожыўшы цяпер ужо ўсіх сабак на вёсцы, затурзаўся і стаў аціхаць. З паўхвіліны кабанчык яшчэ спрабаваў адолець нечаканую навалу, шкроб заднімі нагамі, спрабаваў вішчаць, але дарэмна.

— Ну, кажысь, усё, — выцер змакрэлы лоб Пеця. — От здаровы, халера.

— Ён не такі здаровы, як ты ёлуп! — вылаяўся Калян. — Што, з глузду з’ехаў? Лупіш у правы бок.

— Ды гэта я, нешта, разгубіўся, — спрабаваў апраўдвацца Пеця, — папутаў, дзе правы, дзе левы бок.

— А воечцы, а людцы, што ж гэта робіцца! — загаласіла падаспелая бабуля Алена.

— Ціха, Іванаўна, — абарваў яе Калян, — давай санкі, ды пацягнем кабана на падворак. Нечага тут шпіктаклю разводзіць…

За гэты час ледзьве не паўвёскі высыпала на вуліцу. Бабуля Алена па дарозе паспела паскардзіцца сяму-таму з аднавяскоўцаў пра здарэнне. Любáя навіна хутка разносіцца па вуліцы, а ўжо гэтакая… Даведаўшыся, многія сабраліся пазубаскаліць. Такога на вёсцы не помнілі: каб гэта кабанчык уцёк з пад швайкі ды за ім ганяліся па вёсцы!.. Таму, калі Пеця і Калян цягнулі кабанчыка на санках, іх суправаджалі гучны смех, рогат і кпіны:

— Гэй, як дзік? Мо яшчэ жывы?

— Ага, торкні яму швайкай пад зад, гы-гы-гы.

— Ды не, у яго ж сэрца з правага боку, ха-ха-ха.

Сцяўшы зубы ды згорбіўшы плечы, тыя моўчкі цягнулі санкі пад рогат аднавяскоўцаў. Хмель збольшага паспеў прайсці. І адчуванні былі не самыя прыемныя. Ды назад нічога не вернеш…

З таго часу па вёсцы і пайшла гуляць пагалоска пра сэрца ў кабанчыка. Калі хтонебудзь занадта «зарываўся», паводзіў сябе вельмі самаўпэўнена, не ведаючы добра таго, што трэба рабіць, у яго пыталі:

— Пачакай, браток. А ты хоць ведаеш, дзе сэрца ў кабанчыка?

нарадзіўся 30 чэрвеня 1967 года ў вёсцы Лучыцы Петрыкаўскага раёна. Скончыў Навасібірскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча, Акадэмію МУС Рэспублікі Беларусь. Аўтар кніг прозы «Пропавшая судьба» (2007), «Храм его души» (2011), «Зелянее рунь» (2011), «Оракулы Междуречья» (2013), «Планктон» (2017), дзіцячай кнігі «Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Наваградку.





ПАВЕЛ КАСПЯРОВІЧ

## Дуня

Жонка неяк сказала яму, што наступнае дзіця яны назавуць Дуняй, і Андрэй адразу пагадзіўся, бо была ў яе голасе такая рашучасць і ўпэўненасць, а ён сваю Алёну добра ведаў — горы зверне, а свайго даб’ецца. Рана выправілася Алёнка ў дарослае жыццё, шмат праз што прайшла і была загартаваная, як сталь: танклявая, але моцная. Пазнаёміліся яны як у той песні «Спліноў» — у экскурсійным аўтобусе, і праз тры месяцы ажаніліся. Першым дзіцяткам чакалі Машу. Вынікамі УЗІ не цікавіліся, каб усё было па-сапраўднаму, а нарадзіўся Дзімка. Таму Андрэй дзеля прынцыпу іранічна запытаўся:

— А калі будзе хлопчык? — і падагульніў: — Еўдакія Андрэеўна, значыць.

Праз нейкі час тэсты паказалі дзве палоскі. І пачаліся першыя месяцы цяжарнасці са светлаю радасцю чакання і таксікозам.

— Глядзі, вунь Дунька маленькая, — лагодна казала Алёна, паказваючы чорна-белую раздрукоўку з паліклінікі.

— Дзе, нічога ж не відаць? — узіраўся Андрэй.

— Там яна… проста маленькая яшчэ, — запэўнівала жонка.

Жыццё віравала, і штодзённую нагрузку ніхто не адмяняў. Пяць дзяцей яны нарадзілі. З самай раніцы пачынаўся клопат. Каго разбудзіць, накарміць, выправіць у школу ці дзіцячы садок, потым прыбрацца, зрабіць абед, а там хтосьці ўжо вяртаўся дамоў… І так да змяркання. Толькі пасля апоўначы валілася знясіленая Алёнка ў ложак, каб заснуць кароткім трывожным сном.

Астатнім дзецям пра з’яўленне Дуні, пакуль гэта не стане відавочным, яны вырашылі не гаварыць. Бо разнясуць гэтую таямніцу ўсім знаёмым.

Але неўзабаве Алёна стала адчуваць спачатку млявасць, а пасля пастаянны боль у нізе жывата. Часу запісацца на прыём да гінеколага не было, а калі раптам на раніцу ўбачыла кроў, сэрца скаланулася.

…Пару гадоў таму яна, цяжарная, пасля літургіі пераходзіла вуліцу з маленькім сынам на руках, як нечакана здаровы чорны сабака выскачыў аднекуль і ўчапіўся двухгадоваму Васільку зубамі ў ножку. І як яна ні крычала і ні біла сабаку нагой, той доўга не адпускаў. Праз тыдзень з’явіліся падобныя сімптомы, і яна страціла плод.

З таго часу Алена ціха ненавідзела ўсіх сабак, сабакаводаў і абаронцаў правоў бяздомных жывёл. А Андрэй яшчэ раз упэўніўся ў слушнасці слоў бацькі-нябожчыка, што ўсякі бяздомны сабака — гэта драпежны звер. Прычым разважанні свае бацька абгрунтоўваў аповедамі з дзяцінства, калі кінутыя пры адступленні фашыстамі аўчаркі з канцлагераў злучыліся з ваўкамі, і атрымаліся жахлівыя істоты, якія людзей не баяліся і сілай валодалі незвычайнай. Аднойчы, калі дзеці з бацькавай вёскі гулялі за хатамі, зграя такіх пачвар разарвала немаўля, якое не магло залезці на дрэва, як астатнія.

І ў гэтым чорным сабаку было штосьці дэманічнае, як у тых ваўках-аўчарках.

Адвёз Андрэй тады Алёну ў бальніцу і праводзіў сумным позіркам да аперацыйнай. Вярнулі яе потым ледзь прытомную ў палату, і доўга плакала яна пад коўдрай ад болю і жалю, амаль выла. Вычысцілі ёй яе Софушку.

Але праз год Софушка ўсё-такі нарадзілася… Сястрычка яе. А потым яшчэ і Мішка…

Вярнулася Алёна ад гінеколага змрочная — не білася сэрца яе Дуні.

Аперацыю прызначылі на панядзелак.

Хадзілі яны па кватэры як чужыя. І ні слова адно да аднаго вымавіць не маглі.

У нядзелю ўвечары павезла Алёна Васілька на футбол, далёка, на другі канец горада. І як не адгаворваў Андрэй ехаць, не паслухалася. Характар такі.

Андрэй месца не знаходзіў, навошта не адгаварыў, сам не паехаў. Хадзіў з кута ў кут з аднагадовым Мішкам на руках.

Прыехала Алена збялелая, захісталася ля дзвярэй і прамовіла: «Кроў пацякла, ледзьве дайшла, думала, звалюся па дарозе ці ў тралейбусе».

Камбінезон набрыняў ад крыві.

Яна пачала пераапранацца і збіраць рэчы ў бальніцу.

— Я паеду з табой, — сказаў Андрэй.

— А з дзецьмі хто застанецца? — запыталася яна.

— Я Тані пазваню, папрашу яе падбегчы, калі не занятая, — прапанаваў ён.

— Ну, давай, — пагадзілася яна, — і «Хуткую дапамогу» выклікай.

Таццяна, іх прыяцелька, была дзяўчынай бядовай, адна гадавала дваіх хлопцаў ад розных мужоў, сямейны клопат разумела, таму прыбегла праз пару хвілін.

— Што здарылася? — запыталася яна.

Андрэй сумеўся і адвёў вочы.

Дзеці палахліва назіралі за мамай, якую забіраюць дактары, і абяцалі слухацца цётку Таню. Мішка махаў ручкай на развітанне.

Дзверы машыны зачыніліся, і аўтамабіль затросся на дарожных ямінах.

Андрэй пaглядзеў на Алёну. Яна сядзела на лаўцы гаротная, знясіленая, і ніякавата глядзела ў шыбу.

«Бедная Алёнка, — падумаў ён, — зноў едзе на сваю жаночую Галгофу».

Эх, Дунька, Дунька, бывай мая любімая дзяўчынка, не атрымалася ўбачыцца. Не пагушкаю цябе на руках, а я ўжо і песню прыдумаў для цябе: Дунька — шпунька, Дунька — пунька, Дунечка, Дуняшка, пачастуйся кашкай. Які ў цябе тварык? Да каго ён больш падобны, да мяне ці да Аленкі? Ці зноў носік мой, а вочкі матчыны? Эх, Дунька, Дунька, а мы цябе так чакалі. Была б у нас Дунька-прыгажунька… Божа, Божа… навошта забіраеш нашую дачушку? Ну што ж, Дунька, бывай. Убачымся на тым свеце, паглядзім там, якая ты. Чакай нас там з Софушкай, сястрычкай сваёй, толькі не так хутка, трэба ж брацікаў тваіх жывых і сястрычку гадаваць… Бывай…»

У прыёмным пакоі было як заўсёды: шматлюдна і тлумна. Чакалі прыёму некалькі жанчын, мабыць, такіх жа няшчасных матуль, і некалькі акрываўленых алкаголікаў. Дзякуй Богу, доктарам на дзяжурстве быў Андрэеў сябар дзяцінства — Васіль. Алёнку хутка агледзелі, аформілі і павялі ў аддзяленне.

Не пабачыла Дунька свету Божага, адразу адышла ў вечнасць, будзе там анёлкам…

Пасля першага выкідышу Андрэй доўга цікавіўся на розных сайтах пра лёс ненароджаных немаўлят, але так і не знайшоў нічога ўцямнага, бо хто ж быў на тым свеце? Таму і вырашыў для сябе, што раз была душа жывая, то куды яна падзенецца, калі вечная. Значыць, і Сафійка ненароджаная, і Дуня існуюць дзесьці на нябёсах у Госпада, і яны абавязкова сустрэнуцца, і ўбачыць ён сваіх дачурак.

Дома чакалі дзеці, хтосьці ўжо спаў, прыяцелька Таццяна пакінула іх на старэйшага Дзімку і сышла.

Тады, калі адбыўся выпадак з сабакам, Алёна гаравала даўжэй. А цяпер часу на жалобу не было. У такой сям'і моцна не пабядуеш. Мішка падрос, бегаў па кватэры, як быццам паставілі ў яго маленькі «перпетуум мобіле», і шкоднічаў. Астатнія дзеці таксама былі як на падбор, гарэзлівыя і неўтаймаваныя. Параскідаюць цацкі з лялькамі па ўсіх пакоях, а прыбіраць не хочуць.

Уселася аднойчы Софушка маляваць, а правільней сказаць — паперу пераводзіць. Язычок высунула, сапла, сапла і прыбягае:

— Мама, глядзі, гэта ты.

На аркушы былі намаляваныя сонейка, аблокі і «мама» з зялёнымі валасамі і тулавам-трохкутнікам з жоўтай плямкай пасярэдзіне.

— А гэта што? — запыталася Алёна пра плямку.

— Мая сястрычка ў цябе ў жывоціку, — і засмяялася.

Пацалавала Алёнка Софушку, адвярнулася і заплакала

Увечары, калі ўсе ўжо спалі, Алёнка рашуча абняла Андрэя і загадкава прамовіла:

— Збірайся, пайшлі!

— Куды? — здзіўлена запытаўся ён.

— Куды, куды, па Дуню! — адказала Алёна і накіравалася ў спальню.

І хутка новая душа пасялілася пад матчыным сэрцам, чыстая, як кропелька ад дажджу і неўміручая. А Алёна, як дрэва ўвесну, набрыняла сокам, напоўнілася сілай, гатовая выгадаваць гэтую пупышку ў маленькае немаўлятка, каб нарадзілася яно і ўбачыла сусвет, ці пераўтварылася ў маленькую птушачку і адляцела ў вырай, каб лунаць там сярод анёлаў і шанаваць Госпада, Які толькі ведае, каму стаць чалавекам, а каму нябесным верабейчыкам.

## Майстар спорту

1

На дровах эканомілі, таму сцены вагона хутка астывалі, і здавалася, што ад холаду няма ратунку — ён прабіраўся пад коўдру і вопратку да самых костак. Да гэтага дабаўлялася несупыннае пачуццё голаду і цяга да тытуню. Васіль заўсёды намагаўся прачнуцца да агульнай пабудкі і пабыць у думках сярод храпу паўсотні мужчынаў. У такія хвіліны ён узгадваў «Архіпелаг ГУЛАГ» з аповедамі пра сталыпінскія вагонзакі.

«Чаму так усё сталася? Гэтае нішчымнае жыццё… Дзеля чаго, навошта?..»

І гэты ранак нічым не адрозніваўся ад папярэдніх.

Пад столлю слаба мігцела 25-ватная лямпачка Ільіча.

Ад смуроду сцінала дыханне.

Васіль са стогнам апусціў ногі, намацаў у паўзмроку «кірзачы» і вузкім праходам між двух'ярусных ложкаў выйшаў у тамбур, дзе над забітай дошкамі дзіркай ад клазета вісела ракавіна з рукамыйнікам, а над імі надпіс: «Браты, хто будзе мачыцца ў ракавіну, той будзе злоўлены і з ганьбай выгнаны з манастыра».

Але адчувалася, што нехта парушыў правілы брацкага пражывання.

Васіль адчыніў дзверы і выйшаў на вуліцу.

Было яшчэ цёмна.

Нягледзячы на канец сакавіка, лужыны скавала лёдам і над небам навіслі цяжкія свінцовыя хмары. Дзень абяцаў быць пранізліва халодным. На Беларусі вясна часта нагадвае восень.

«Чым не рэзервацыя?» — падумаў ён і агледзеўся.

У дальнім кутку манастырскай тэрыторыі за ангарамі з тэхнікай літарай «П» стаялі тры плацкартныя вагоны, абгароджаныя сеткай-рабіцай з шыльдай на варотах «Без благаслаўлення не ўваходзіць» і з драўлянай прыбіральняй на заднім плане.

Гадзіннік паказваў за пятую гадзіну.

Праз некалькі хвілін у вагонах дзяжурны паслушнік зазвініць званочкам і запяе: «Брація, падымайцеся на малітву!», а потым, як запраўскі «вертухай», агледзіць вагоны, каб ніхто не схаваўся, і зачыніць вароты.

І натоўп людзей рознага паходжання, але аднолькавага сацыяльнага статусу — труднікаў — пасунецца ў манастырскі храм на палунашніцу, дзе размесціцца ўздоўж сценаў і пачне вычытваць, а то і проста перагортваць пад няўцямнае мармытанне сшыткі з імёнамі.

Потым будзе снеданне з ліпкай бульбяной масы і цяжкая праца да палудня, на якім будзе чарговая міска капуснай баланды, і зноў праца да вячэрняй службы, пасля якой выдадуць чарпак грэчкі з кубкам гарбаты.

Кожную восень з першымі прымаразкамі бедалагі рознага кшталту з усіх канцоў Беларусі збіраліся ў манастыр. Спачатку бралі амаль што ўсіх, хто прыязджаў. Гэта авечцы цяжка апрануць звярынае аблічча, а мацёраму ваўку прыкінуцца авечкай працей простага. Труднікі ўводзілі паміж сабой турэмныя стасункі, перыядычна напіваліся, дэбашырылі і хадзілі сярод паломніцкіх экскурсій скрываўленыя, што прыносіла шмат клопату мясцоваму ўчастковаму міліцыянеру. Ён і ўвёў новыя ўмовы для пражывання: наяўнасць пашпарта, не больш за дзве судзімасці і без артыкулаў за разбой з бандытызмам.

Пашпарт Васіль згубіў яшчэ ў Амерыцы і быў дэпартаваны без дакументаў. Бацькі памерлі, не дачакаўшыся сына, сястра іх кватэру прадала, жыла ў іншай вобласці і брата бачыць не хацела.

Адзіны дакумент, які ў яго ацалеў — гэта пасведчанне майстра спорту Савецкага Саюза па боксе, якое ён заўсёды насіў на грудзях, загорнутае ў цэлафан. Бліжэй да цела быў толькі крыж.

2

Спачатку бацька адвёў маленькага Васілька на секцыю класічнай барацьбы, але нешта не пайшло, і праз два гады Васілёк перайшоў на бокс. Там ён хутка стаў паказваць добрыя вынікі і паступова атрымаў усе разрады, пакуль у 18 гадоў не вый-

граў першынство СССР у вагавай катэгорыі да 79 кілаграмаў. Стаў трэніравацца «на Еўропу», паступіў на гістарычны факультэт, але на зборы так і не паехаў.

Ты ідзеш па вуліцах роднага горада, малады і здаровы, адзіны 18-гадовы майстар спорту па боксе на ўсю вобласць, на кожным рагу піўны ларок — цябе ведаюць і запрашаюць выпіць.

Толькі баксёрам пад страхам смерці забаронены алкаголь, бо адзін удар, і чалавек — труп.

Як той хлопец прычапіўся да яго, Васіль не помніць. Бойка доўжылася некалькі секундаў. У выніку хлопец ледзьве выжыў у рэанімацыі.

Пасля следства вялікі спорт прыйшлося кінуць, з інстытута выключылі.

Нейкі час папрацаваў грузчыкам у мэблевай краме, ды спіна не жалезная. Прыйшла перабудова. Барцы і баксёры масава сыходзілі ў крымінал. Рабіцца бандытам не хацелася.

Па турыстычнай візе ён з’ехаў у Злучаныя Штаты і не вярнуўся.

Працы не цураўся ніякай: мыў аўтамабілі, прыбіраў памяшканні. Змяніў некалькі штатаў. Калі ўжо было зусім нішчымна, выходзіў на рынг. Шчыра кажучы, ён і ехаў за мяжу з разлікам на свае кулакі. Рускі баксёр у амерыканскай глыбінцы выклікаў зацікаўленасць (бо хто ведаў на Вялікіх Раўнінах пра Беларусь). Плацілі па пяць сотняў за паражэнне і тысячу за перамогу. Пасля аднаго з паядынкаў у Паўднёвай Дакоце пазнаёміўся з дзяўчынай.

Спачатку гэта было каханнем. «Боні і Клайд» яны прагледзелі мноства разоў. Ён выходзіў на бой, яна чакала яго пад рынгам. Потым разам гулялі на ганарар.

Паблізу быў сумна вядомы Пэйн Рыдж — рэзервацыя плямёнаў сіў. Як пісалі ў газетах — філіял сацыяльнага пекла на зямлі, абсалютную большасць якога складалі хранічныя алкаголікі.

Там Васіль канчаткова і спіўся. З боксам прыйшлося завязаць. Адзінае, на што ён стаў здольным, — гэта бадзяцца са сваёй сяброўкай па розных прытулках і крышыць зубы абарыгенам.

У рэдкія перыяды прасвятлення прыходзілі думкі, ці варта было з’язджаць на край света, каб спіцца ў рэзервацыі. На Радзіме гэта можна было здзейсніць з тым жа поспехам.

Вінна-гарэлачныя крамы знаходзіліся за межамі індзейскай тэрыторыі. Найбліжэйшая ў штаце Небраска. Там Васіля і арыштавалі пасля крадзяжу. Дакументаў ніякіх не было, акрамя пасведчання майстра спорту.

Паліцыянты пакруцілі пасведчанне ў руках:

— What is it?

Ён патлумачыў.

Афіцэры ўсміхнуліся:

— O, o, o, Russian Mike Tyson! — але біць і здзекавацца не сталі.

У Пэйн Рыдж Васіль больш не вярнуўся і каханкі сваёй ніколі не бачыў.

На Радзіму прыляцеў у кайданках.

Родны горад сустрэў яго холадна — каму патрэбны алкаголік пасля 20 гадоў эміграцыі. Першыя месяцы Васіль жыў у знаёмых, потым стаў начаваць у пад’ездах і падвалах. Як не хацелася, стараўся не піць: разумеў, што калі ў юнацтве ён пазбег турмы, дык цяпер адразу сядзе.

Надыходзіла восень. На ўскрайку горада праходзіла цеплатраса, дзе ў калодзежах развязкі ўладкавалі прытулак бамжы. Днём яны выходзілі на промысел, а ноччу збіраліся на начлег. Там Васіль і даведаўся пра манастыр.

3

Сёння быў апошні дзень яго знаходжання ў манастыры.

Учора ігумен сустрэў Васіля і, хаваючы вочы, папярэдзіў, што пасля літургіі трэба сабраць рэчы і выйсці за вароты. І мітусліва сунуў яму некалькі дробных купюр на дарогу.

Труднікі зайшлі ў храм і расселіся на лаўках.

Пасля палунашніцы пачалася літургія. «Благаславі, душа мая, Госпада, і не забывай усіх дабрадзействаў Яго», — спяваў хор.

У кутку за «галгофай» адбывалася споведзь. Людзі падыходзілі да святара, нешта расказвалі, той слухаў, потым накрываў галаву спаведніка епітрахіллю і чытаў адпускальную малітву.

Васіль дачакаўся сваёй чаргі.

Святар быў знаёмы — айцец Пётр, ужо не малады, гадоў за сорак іераманах, які нёс паслушанне ў бібліятэцы і многа чытаў:

— Добрай раніцы, Васіль, у чым каешся перад Госпадам?

Васіль як ком праглынуў:

— Сорамна за жыццё, прапіў большую палову. Было столькі мар у юнацтве, мог атрымаць адукацыю, стаць чалавекам. Звязаўся з гэтым праклятым боксам, ламаў насы, сківіцы. Навошта? Ледзьве чалавека не забіў. Збег у Амерыку. Жыў у рэзервацыі. Пакахаў там жанчыну, потым спіліся разам. Аборт яна зрабіла, я пагадзіўся… Што з ёй цяпер? Не магу забыць яе. Сёння з'язджаю ад вас. Крыўдую на Бога, на бацькоў, на сябе. Прападу я на волі. Ні працы, ні жылля. Каму я там патрэбны? Зноў бамжаваць, красці, пабірацца ў прывакзальных кафэ. Кулакі мае свінцовыя, адсекчы мне іх, ці што?

Айцец Пётр зніякавеў, бо людзей з сапраўдным болем заўсёды цяжка спавядаць:

— Васіль, хлусіць не буду, не ведаю, як цябе падтрымаць. Мы жывём у манастыры як у Бога за плячыма. Я не быў у тваёй скуры. Помніш індзейскую прымаўку, што не вучы чалавека, пакуль не пройдзеш некалькі міляў у яго макасінах. Вяртайся ў свой горад. Не забывай, што Гасподзь заўсёды паблізу і назірае за табой. Колькі разоў ты мог памерці, але жывеш, значыць, ёсць нейкія планы ў Госпада на цябе. Галоўнае, не пі і не распускай кулакі без сур'ёзнай прычыны.

Святар прачытаў малітву і дабраславіў Васіля крыжам.

Праз некалькі гадзін Васіль ужо трэсся ў прыгарадным аўтобусе. За ляснымі ўзгоркамі знікалі купалы святой абіцелі.

4

Лета завяршалася, але ночы былі яшчэ цёплымі.

Васіль ляжаў на лаўцы гарадскога парка і глядзеў у неба. Зоркі зіхацелі дыяментамі. Ціха шапацелі векавыя таполі. Рэдкія мінакі таропка прыспешвалі хаду.

40 гадоў таму ў парку існавала танцпляцоўка пад народнай назвай «Клетка», і яны бавілі на ёй свае вечары. Знаёміліся з дзяўчатамі, праводзілі іх дамоў. О, свет-

лая пара юнацтва, час летуценняў і кахання! Пачатак жыццёвага шляху. Калі б толькі была магчымасць выправіць усё гэта і надаць сэнс свайму існаванню…

На суседняй лаўцы сядзелі некалькі хлопцаў і гагаталі, як вар'яты, паблізу на паркоўцы стаяў заведзены аўтамабіль:

— Хлопцы, што мы тут сядзім, паехалі ў «Эпалет», там якіх «цёлак» знойдзем, — прапанаваў адзін з іх, здаравяк у спартовым касцюме.

— Ды там будуць адныя малпы, — запярэчыў другі, худы і цыбаты, па інтанацыі галоўны завадатар.

— Кастыль, а табе прыгажуню падавай, не ўсё роўна, у якую шчыліну шчыміцца? — зарагатаў здаравяк.

— Не, не ўсё роўна. Давайце пачакаем, можа, якая лярва будзе ісці.

— Ды мы тут нікога не сустрэнем, мо бамжа вунь таго возьмем? — прапанаваў трэці, па фігуры відаць — «шасцёрка».

— І што ты будзеш з ім рабіць, га-га-га… — засмяяўся яшчэ адзін.

Але тут пачуўся стук абцасаў, праз парк ішла дзяўчына.

Кампанія прыціхла.

— Пацаны, цішэй… не спужайце, — і цыбаты, растапырыўшы рукі, кацінай паходкай пайшоў ёй насустрач. — Дзяўчынка, пастой, не спяшайцеся, мы з сябрамі якраз цябе і чакаем.

— Проста нябёсы Вас паслалі, га-га-га… — зарагатаў Юрка.

Дзяўчынка пабегла, і хлопцы кінуліся за ёй.

— Кастыль, даганяй, трымай яе! — закрычаў здаравяк.

Цыбаты схапіў дзяўчыну за руку і жорстка пацягнуў у аўтамабіль. Дзяўчына закрычала немым голасам:

— Памажыце!!!

Васіль падхапіўся з лаўкі і падбег:

— Вырадак, адпусці дзяўчыну!

— Што-о-о-о, бамжара паганы, ідзі спаць пад лаўку! — зашыпеў цыбаты і замахнуўся.

Васіль прыгнуўся і паслаў крос — сківіца хруснула, хлопец паваліўся. Васіль развярнуўся, выкінуў джэб у пераносіцу другому, падскочыў і паслаў аперкот у падбародак трэцяму. «Шасцёрка» прысеў, закрыў галаву рукамі і заскавытаў:

— Не бі!

Дзяўчына трэслася ад плачу. Васіль прыціснуў яе да сябе, пагладзіў даланёй па галаве, як быццам дачку, якую калісьці пабаяўся нарадзіць:

— Ну ўсё, супакойся. Пайшлі, правяду цябе дамоў.

Далёка яны не дайшлі. Нехта бачыў бойку і выклікаў міліцыю. У канцы парка іх дагнаў патруль. Васіля скруцілі і начапілі кайданкі. На месцы бойкі стаяла машына «Хуткай дапамогі», цыбатага са здаравяком у непрытомным стане паклалі на насілкі. Васіля, дзяўчыну і астатніх гвалтаўнікоў загрузілі ў патрульны УАЗік.

У аддзяленні міліцыі хлопцаў прычапілі кайданкамі за краты. Дзяўчыну пасадзілі ў крэсла і ахінулі плечы кіцелем, але яна працягвала плакаць. Васіля груба штурханулі на падлогу і пачалі абшукваць.

— Лейтэнант, паглядзі, што гэта, — сказаў адзін з міліцыянераў і падаў цэлафанавы скрутак.

Лейтэнант гідліва разгарнуў, дастаў маленькую кніжачку і прачытаў:

— Майстар спорту Савецкага Саюза па боксе…

Дзяўчына здзіўлена падняла заплаканыя вочы, хлопцы спалохана азірнуліся.

— Ну што, вырадкі, не пашанцавала вам сёння, на ўсё жыццё запомніце, як дзяўчат гвалціць, — прамовіў лейтэнант. — А ты, баксёр, малайчына, толькі, на жаль, гадоў шэсць з цяжкімі цялеснымі і перавышэннем самаабароны ты зарабіў. Падымайся, майстар спорту, — і падаў яму руку.

Васіль стаяў пасярод аддзялення — брудны і неахайны, але горды і непераможаны. І некалькі дзясяткаў вачэй глядзелі на яго і бачылі не бяздомнага валацугу, а героя, які толькі што здзейсніў самы высокі ўчынак у сваім жыцці і мусіць пайсці за гэта ў турму.

5

Пад бяздонным небам Вялікіх Раўнін, на ўзбочыне пыльнай шашы, самотна стаяла жанчына-індзеянка. Фары рэдкіх машын на некалькі імгненняў выхоплівалі з цемры яе спіты маршчыністы твар, і яна зноў знікала ў цемры. Калісьці ў яе быў сябрук, шмат гадоў яны пражылі разам, але аднойчы ён паехаў па віскі і не вярнуўся. Ніхто не ведаў, што здарылася з ім.

Даўным даўно прыплылі з-за Салёнага Возера белыя людзі і прынеслі многа зла індзейскім плямёнам. Нічога, акрамя нянавісці, не адчувала яна да гэтых людзей, але дзявочаму сэрцу не загадаеш, і яна пакахала аднаго з іх. Цяпер яго няма — праклятая «вогненная вада» атруціла іх каханне. Доўга чакала яна яго і страціла надзею. А сёння раптам адчула ў сэрцы, што ён жывы. І гэта прымусіла яе выйсці пасярод ночы на дарогу і прамаўляць у зорнае неба словы даўняй малітвы індзейскіх жанчын за зніклых воінаў:

— О, Вялікі Маніту, дух зямлі і нябёс, будзь з ім на гэтым ці на тым свеце…

нарадзіўся 27 кастрычніка 1975 года ў г. Смела Чаркаскай вобласці (Украіна). У 1975 годзе сям'я пераехала ў Гродна. Скончыў Гродзенскі хіміка-тэхналагічны тэхнікум, Гродзенскі філіал Маскоўскага дзяржаўнага адкрытага ўніверсітэта, Мінскую духоўную семінарыю (2011). Праваслаўны святар, клірык Свята-Пакроўскага сабора г. Гродна, кіраўнік сацыяльнага аддзела Гродзенскай епархіі. Аўтар зборніка паэзіі «На земле, где погиб каждый пятый» (1999). Арганізатар вечароў паэзіі ў межах Міжнароднага фестывалю праваслаўных песнапенняў «Каложскі благавест» і літаратурных сустрэч пры Свята-Пакроўскім саборы, рэдактар зборніка паэзіі «Каложскі Благовест» (2017). Песні на словы айца Паўла выконвае гарадзенскі гурт «Иго». Жыве ў Гродне.





АЛЬЖБЕТА КЕДА

## Хмарка

— Хмарка мая захмураная, — быццам чуе яна голас мамы. Здалёку, з дзяцінства ранняга. А твару мамінага не бачыць. У тумане густым ён хаваецца. Здымка ні аднаго не засталося. Пяць гадочкаў усяго мела, як не стала іх, мамы і таты. Бацькі яе, настаўнікі шчонаўскія, загінулі нечакана, недарэчна. У 1925 годзе. Ужо і не было ў лясох наднямонскіх бандытаў. Здавалася, сцішэла ўсё пасля войнаў, жыццё спакойнае стала. Грошы ў школе неблагія атрымоўвалі. Паехалі настаўнікі з гаспадаром хаты Змітраком Канцавым, у якой пакой здымалі, у Наваградак. На базар, у крамы. І не вярнуліся. Знайшлі іх толькі праз тыдзень у лесе каля Сянежычаў. У гушчары целы былі прыхаваныя. На грошы зладзеі паквапіліся. Абутак, адзенне верхняе таксама забралі…

Схамянулася Гелена, да сябе прыйшла. Што ж гэта ёй прымроілася? Даўно бацькоў не згадвала. А тут быццам побач былі яны, пры ёй стаялі. Пры ложку, з якога ўжо тры дні амаль не ўставала. За ўсё доўгае жыццё ніколі так доўга не вылежвалася. Лёгкая, спрытная, усё бягом і бягом. Так і прабегала ўвесь немалы час, ёй адведзены. Дзевяноста хутка. І не баліць нічагусенькі. Бегла, бегла па сваіх сцежках-дарожках, ды ўпала раптам. Як абрэзаў, перагарадзіў хто яе дарожку. Добра што хоць крыху рухаецца, рады сабе дае. Хатніх сваіх, сына Васілька з нявесткай, супакойвала, што ўсё добра з ёю, што лёгка ёй. Каб не клапаціліся, каб на працу спакойныя ішлі. Бо ўсё яшчэ працуюць, хоць і на пенсіі даўно. Дзецям, унукам дапамагчы трэба. Здароўе, дзякаваць Богу, дазваляе. То чаго дома сядзець?.. Толькі папрасіла ложак да акна прысунуць, каб на неба глядзець, на хмаркі…

— Што ж ты захмурылася?

— Бо Хмарка…

А гэта з мужам сваім, Васілём, перамовілася. Часам так пытаўся. А яна і адказвала — Хмарка… Валасы мела прыгожыя, густыя, хвалістыя. Чорныя. Хмаркаю цёмнаю вакол тварыка завітыя. Над завіткамі каронаю ўкладвала касу. Броўкі чорненькія, радочкамі роўненькімі, бы намаляваныя. А вочы вялікія, блакітныя. Прыгожая была Гелена, на ўсё Шчонава. І не было ў тыя часы, як з мужам яны жылі, чаго захмурвацца. Так толькі, сонейка-шчасцейка заходзіла калі-небудзь, каб адпачыць. Як з дзетак хто захварэе. Іншых бедаў і не было ў іх шчаслівай сямейцы. Нават у вайну. Абыходзіла тая страшная навала Шчонава. Немцы і не з’яўляліся. Прайшлі нат не праз вёску, а праз двор былы панскі і пайшлі далей. Паліцаі наляталі часам. Гора было толькі ўдаве Барэйчысе з дзецьмі, бо старэйшы сын Алёша ў партызаны пайшоў, то і давялося кабеце з дзецьмі малодшымі адпакутаваць, хавацца…

І ён, Васіль яе, недзе тут, пры ёй. Раз прыходзяць яны, то, відаць, пара ўжо збірацца. Даўно ўбор яе ў шафе ляжыць, чакае. «Месца не пралежыць», — нявестцы сказала, калі тая запратэставала была: «Нашто, мама, сабралі, няўжо мы, як трэба будзе, Вам не купім?» Купіць то купілі б. Мо і не горшае. Але і так дзецям клопатаў будзе. А тое сама сшыла. Ніхто ёй лепш не дагадзіў бы.

Пара. І дзецям пара расказаць. Ужо можна. Ды і час цяпер смелы стаў. Адкладваць няма куды. Сёння вечарам раскажа.

Глядзела на хмаркі і сама з імі адплывала. У мінулае, у далёкае. Так і засталася яна пасля наглае смерці бацькоў у хаце Канцавых. Добрая ўдава Настуля Змітручыха стала ёй другою мамаю. Сваіх двойко дзетак мела, выгадавала і сірату. Марыла Гэля толькі пра адно, пра сваю сямейку. Каб многа дзетак было. Нічога не хацела: ні з'ехаць куды, ні вучыцца. Ды і якая навука: хто б яе выправіў, аплаціў? Шыць навучылася ад мамы Настулі. Тады, за польскім часам, тая знакамітаю краўчыхаю была. Паненкі з асаднікавых сем'яў у яе сукенкі заказвалі. А Гэля змыслая была, усё на ляту хапала. Прывучылася з маленства шыць. І вышываць, і гафтаваць, карункі, мярэжку рабіць. З нічога, з якое старэнькае абноскі, пераніцаваўшы, магла такую прыгажосць стварыць, што вачэй не адвесці. Маладзенькая, толькі васямнаццаць мінула, замуж за Васіля пайшла. Не выскачыла, пайшла, верачы, што добрым мужам будзе, добрым бацькам іхнім дзеткам. Ды і не пайшла нікуды. У той самай хаце засталася. З тым, з кім гадавалася разам і каго пакахала. З свякроўкаю пашанцавала Гэлі: заўсёды любіла Настуля яе як дачку родную. Донечкай і называла…

Гартала альбом стары. Даўно яго ў рукі не брала. Бо звычайна, як час мела, новыя, дзе ўнукі-праўнукі, блізкія і далёкія, разглядвала. Любавалася, шчасцем поўнілася за парасткі свае маладыя. Асабліва любіла малодшую ўнучку, Гэлю Васілёву. У яе гонар дзяўчынку назвалі. Навучыла яе шыць, усё, што ўмела, перадала. І стала тая не абы-якою краўчыхаю, мадэльеркаю. Ажно ў Віцебску вучылася. А цяпер у Мінску. Сваю фірму мае. Не наглядзецца на яе сукенкі, касцюмы…

Першыя здымкі ў старым альбоме з сярэдзіны трыццатых, з-за польскіх часоў. З фэсту, што на Спаса ў Райцы штогоду ладзіўся. Там і яны сям'ёй фатаграфаваліся. Спачатку з маці Настуляй і трое дзетак, пасля яны дваіх з мужам. Апошні — са сваімі двума дзеткамі старэйшымі. Затрымаўся зрок на вялікім калектыўным здымку. Паваенны час. Усё яе Шчонава. Як цяпер, памятае яна той дзень. Зажынкі ў калгасе ладзілі. Старшыня Алёша Барэйкаў наняў фатографа. Не абы-якою падзеяй тое фатаграфаванне было. Першы і апошні раз усё Шчонава на адным здымку сабралася. Каля гумна калгаснага. У цэнтры Алёша трымае сноп, кветкамі прыбраны. І шчонаўцы таксама прыбраліся. Хто як мог. Бяда толькі, што не было ў што прыбірацца. Раней неяк не зважала, а сёння прыгледзелася: як жа бедна апрануты яе шчонаўцы! Асабліва дзеткі, што наперадзе на траве сядзяць. У нейкіх старых абносках, куфайках, шапках з пераломанымі брылямі, босыя (а чорныя!) ногі не даўмеліся пад сябе схаваць. Тварыкі хмурныя, вочкі перапалоханыя, спадылба глядзяць. Хоць бы ўсміхнуўся хто. А не! Уладак Пэкар, падлетак, што з краю стаіць, ухмыляецца. Во жэўжык!..

Асабліва балюча глядзець на цэнтральны шэраг. Кабеты спрэс у цёмных строях, у каптанох, кашулях, што неяк нязграбна сядзяць на іх. Недапасаваныя, не падагнаныя да постацяў. І толькі хусцінкі на галовах ва ўсіх белыя — свята ж! У каго як павязаныя: пад кепель, пад бараду на вузел, з лёсткаю, лоб адкрыўшы (гэтак смялейшыя), ці схаваўшы яго. Самыя старыя яны на здымку. Па колькі ж гэта ім было? Найстарэйшая з усіх Волька Барэйчыха, свякроўчына равесніца. То ёй тут толькі пяцьдзясят!.. Сёння ў семдзесят лепей выглядаюць. Твары чорныя, загарэлыя, маршчыністыя. Чаму ж яны так марна выглядаюць? Не, яна не пытаецца, бо ведае, чаму. Самыя няшчас-

ныя гэтыя кабеты ў Шчонаве, бо ўдовы, бо цяжкая праца на іхніх плячох, бо дзяцей падняць трэба было без якое дапамогі. А з краю стаіць харашуха. Без хусткі, валасы хвалістыя, каса каронаю ўкладзена. І сукенка, відаць, харошая, на грудзях ляжыць, бы ўлітая. Каўнерык беленькі, карункавы. Што ж гэта за настаўніца? Не настаўніца, дачка настаўнікаў. І дачка найлепшае краўчыхі. І сама краўчыха файная. Яна, Гэля Васілёва. Тады, так хораша выстраіўшыся, нялоўка між сваіх суседак пачувалася. Нават і паглядалі некаторыя скоса, абгаворвалі пасля. Ды ніхто-ніхто, ні адна жывая душа не ўведала, для каго яна так убралася. Адзіную сукенку сваю, што засталася з даўніх убораў, апранула. Астатняе даўно для дачушак старэйшых перашыта было. З свякроўкай дваіх сукенку тую шылі, дапасоўвалі. Яшчэ тады, да вайны. З цёмна-сіняе шэрсці. Каўнерык сама выштукавала. Самая ўлюбёная, самая дарагая яе сукенка. А нікольні постаць Гэліна не змянілася за тыя пятнаццаць гадоў. Такая ж спраўная, дзявочыя формы захавала, пра тое і не дбаючы…

Уверсе на здымку, на лавах харашухі стаяць, дзяўчаты шчонаўскія. Хай бы іх тут паставілі, дзе ўдовы. То не так самотна здымак глядзеўся б. Бо харошыя, маладыя, валасы хораша прыбраныя, без хустак. Бо сукеначкі, хай просценькія, паркалёвенькія, але файна сшытыя, зграбна ляжаць. Станікі дзяўчаты насілі, не крамныя, сшытыя, не тое, што ўдовы, якія забыўшыся былі на гэты споднi апранатак. Мо адна яна, Гэля, і насіла. Усё жыццё. Любіла, каб хораша грудзі выглядалі… Вось жа, у самым цэнтры дзявочага гурту трое маладых мужчынаў: Коля Чайкаў, Лёнік Паўлючышын і сусед іхні, Уладак Захараў. Толькі з войска вярнуліся. Трое нежанатых хлопцаў на ўсю вёску. А дзяўчат не адзін дзясятак. Як стараліся тыя каля хлопцаў стаць! Асабліва каля Уладка ўвіхаліся. Памятае Гэля, як узненавідзела яе Вера Аўдоліна. Кахала Уладка. І не адна яна па ім сохла. А той за Гэляю, удавою з пяццю дзецьмі, старэйшаю на восем гадоў, ценем хадзіў. Не магла яна прыняць хлопца ў хату. Бо і не кахала. І ведала, што ворагаў поўную вёску нажыве. Мо пазней калі і пагадзілася б на той шлюб няроўны, бо вельмі цяжка адной было, але пасля таго дня, даведаўшыся пра тое, пра што нікому расказаць не магла, строга наказала, нічога не патлумачыўшы, каб і блізка не падыходзіў да яе. З'ехаў пазней Уладак у Мурманскую вобласць. Нікому са шчонаўскіх дзяўчат не дастаўся. Якраз і пляткарылі пра яе тады, што дзеля Уладка выстраілася…

Пяцёра дзетак свайму Васілю Гэля нарадзіць паспела. Ледзь не штогоду радасць у хаце. Апошняга, Васілька, Васіль ужо не ўгледзеў. Забралі яго на вайну ў сорак чацвёртым. А сыночак праз пяць месяцаў нарадзіўся. Старэйшай Аленцы восем гадочкаў было. У сорак пятым пахаронку атрымала: загінуў смерцю храбрых, пад Кёнігсбергам, магіла №… Думала, не вытрымае. Быццам абарвалася нешта ў ёй. Захмурылася Хмарка так, як яшчэ ніколі не хмурылася. Счарнела. Свету белага не бачыла. Але ў свеце гэтым пяцёра Сонейкаў маленькіх было. Сонейкамі дзетак сваіх называла. Саграваді, рукі апускаць не давалі. Столькі працы трэба было гэтым рукам парабіць! Яшчэ адно гора ў хату прыйшло: памерла свякроўка. Не адышла ад страты сыночка любага.

Як вытрывала, як рады дала, і сама дзівілася. Выжыла, бо дзеці трымалі. Падмогу мела як удава героя, што на фронце загінуў. Грошы, хай невялікія, атрымоўвала.

Адзенне, абутак для дзяцей часам давалі. Хай сабе паношанае, але добрае, павыгадоўваліся ў ім дзеткі. Перашывала, падшывала…

Вось і дайшла ва ўспамінах да таго дня. Звычайны быў дзень. Сямнаццатага лістапада тысяча дзевяцьсот пяцідзясятага года. Пятніца. Ды стаў незвычайным. На ўсё жыццё запомніла. Пад вечар наказаў брыгадзір у сельсавет тэрмінова ісці. Нікому нічога не казаць. Прыйшла. Старшыня за сваім сталом сядзеў. Павіталася з ім ветліва, добрага вечара пажадала. Нядрэнны іхні Шарбак быў. Каля сцяны, збоку, нейкі чалавек стаяў. Нат і не згледзела яго адразу. Непрыкметны, нявідны. Не тое, што старшыня іхні сельсавецкі, камандзір партызанскі. Прысесці запрасілі, хоць па звычцы вясковай, жаночай, паспрабавала аднеквацца, думала, каб хутчэй адсюль збегчы. Але — справа важная, сядай!

Дзіўна ёй было пачуць пытанні: як дзеці гадуюцца, ці грошы спраўна атрымоўвае. А тады: ці пазнала б почырк свайго мужа? Як жа ж не пазнала? Пэўна, што пазнала б…

Старшыня падышоў, сеў побач, разгарнуў паперу. Ягоны, Васілёў почырк! Ягоны ліст!

Чытай, — сказаў, а паперу з рук не выпусціў, трымаў.

Плылі перад вачыма радкі, скакалі літары. А ў сэрцы пачуцці віравалі: радасць, шчасце і… страх. Сама не магла зразумець, чаму страх. Гэта ж яе Васіль жывы, гэта ж ён піша да яе: «Любая мая Гэля, дзеці мае, матуля…» Што выжыў цудам пасля цяжкага бою, што ў палон трапіў, што далёка апынуўся, ажно ў Амерыцы, дзе толькі пра іх, сямейку сваю, думае. Што рабіць, пытаецца. Ці вяртацца, ці мо яны да яго выехаць маглі б. Бо жыццё без іх для яго не жыццё…

Толькі адзін раз і далі той ліст прачытаць. Згарнуў старшыня, перадаў таму, шэраму. Як і не было жывое вестачкі ад мужа яе.

Не магла да сябе дайсці. Столькі ўсяго ў душы перавярнулася. Не магла адразу ўцяміць, што ёй старшыня гаворыць. Сурова гаворыць, строга. Што дзяржава пра яе і дзяцей клапоціцца, а муж яе здраднік. Таму яна мусіць ад яго адрачыся… Ажно скамянела Гелена, такое пачуўшы.

— Як адрачыся? Ад мужа, ад бацькі маіх дзяцей? А за што ж гэта? Што ж ён такое зрабіў? Не адракуся!..

Сама не ведае, як выскачылі тады гэтыя словы, як асмелілася сельсавецкаму начальству запярэчыць. А Шарбак і праўда не быў нелюдзем. Падалося ёй, зніякавеў нават, змоўк. І тады падскочыў да яе той, другі. А страшным якім зрабіўся! Аскаліўся, бы воўк, вочы крывёю наліліся. Як жа ён крычаў на яе! Пазней, праўда, згадваючы ўсё гэта, перадумваючы, даўмелася, што і не крычаў ён, а шыпеў, хрыпеў. Каб за дзвярыма хто стаяў, то і не пачуў бы. Што ён толькі ні казаў, у чым толькі ні абвінавачваў… Быццам Васіль яе ворагам прадаўся, за акіян уцёк, бо вінаваты перад савецкаю ўладаю, што расстраляць яго мала. А яна таксама сваё атрымае, бо карміла яе ўлада, столькі на яе выдаткавала, дзяцей яе гадуе. У турме яе згнояць, а дзяцей — у дзіцячыя дамы параскідаюць, прозвішчы новыя дадуць. І ведаць яны не будуць, хто бацькі іхнія, ворагі… Таму толькі адно ёй застаецца — адрачыся. Інакш пашкадуе, ды позна будзе…

Скамянела, аслупянела бедная. І ачомацца не даў. Паперу падсунуў. На машынцы надрукаваную, пра тое яе адрачэнне… Не сваімі рукамі падпісвала. Падпісвала! Столькі разоў думала: а каб не падпісала? Няўжо і зрабілі б так, як страшылі?.. І тая папера адразу знікла. А перад ёю яшчэ адна на стале ляжыць. Афіцыйная, на бланку сельсавецкім. Адказ на ліст Васілёў. Пра тое, што ў гады вайны сям'я ягоная (усе пералічаныя: маці, жонка, дзеткі) загінула ад рук фашыстаў.

— А гэта мы яму пашлем. Ніколі ён не даведаецца, што жывыя вы тут.

Напаследак яшчэ папярэдзіў, гразіўся:

— Ніхто пра нашу размову ведаць не павінен. Нікому ніколі не маеш права расказваць. Ніякага ліста ты не бачыла. Няма твайго мужа…

Нікому ніколі пра гэта не расказала. Са страхам, з болем невыносным жыла. А дзянёчка ні аднаго не мінала, каб Васіля свайго каханага не згадала, не падумала, як жывецца яму там. Ці супакоіўся, ці забыўся пра іх? Мо сям'ю другую завёў? Мо дзеткі нарадзіліся? Каб хоць што даведацца…

Якраз незадоўга перад тым фатаграфаваннем прыйшоў у Шчонава ліст ад Насты, дачкі Мікалая Абэлгі, якая пасля вайны прапала была. Ведалі шчонаўцы, што мусіла яна з сям'ёю ўцякаць, як Саветы наступалі. Бо служыў яе мужык у паліцыі ў Карэлічах. Хоць і служыць пайшоў не па сваёй волі, хоць і году не праслужыў і нікому зла не зрабіў, а заставацца пабаяліся. Нічога ў лісце пра яго Настуля не пісала. Толькі вестачку атрымалі Абэлгавы, што жывыя ўсе і ў Амерыцы жывуць. Нарадавацца не маглі, бо столькі гадоў нічога пра дачку не ведалі. Хадзіла і Гэля да іх, ліст той чытала. Надзея ў яе сэрцы нарадзілася. Гэта ж так мала іх там, шчонаўцаў, у Амерыцы. Усяго два чалавекі: яе Васіль і Наста. Мо дзе яны разам, ці мо сустрэнуцца, ці як адзін з адным знойдуцца. Прыдумала, як будуць Абэлгавы пазней калі лісты слаць, каб ад яе паклон Насце перадалі. Яна ж ёй не аднойчы сукенкі шыла. А тая мо Васілю скажа… Таму і выстраілася на здымак. Бо ж і яго павінны ў Амерыку паслаць. Во яны тут стаяць, сёстры Настуліны: Ліда, Клава, Таццяна… І паслалі, і ліставаліся з Амерыкаю Абэлгавы. І пасылкі пачала Наста слаць, сёстрам і іх дзецям адзенне багатае. Усё думала Гэля, як запытаць, як пра Васіля што даведацца. Кожны ліст з Амерыкі чытала. Паклоны ад яе туды слаліся. Даўмелася папрасіць, каб спыталі, ці мо хто са Шчонава да Амерыкі таксама дабраўся. Здзівілася такой просьбе Клава, якая адпісвала лісты, бо ж хто туды мог трапіць? Пра ўсіх шчонаўцаў, хто дзе выехаў, ці хто дзе загінуў, ведалі. Але паабяцала спытаць. Як чакала Гэля наступнага ліста з Амерыкі! Як цуду. Ды цуд не адбыўся. Бо напісала Наста: каб ведаць, хто там можа быць, то можна паспрабаваць знайсці. Па прозвішчы, імені. Абвестку даць у газету. Бо і беларускія газеты там ёсць. Яны іх купляюць, чытаюць. Не магла ж Гэля сказаць, што Васіль там. Кола зноў замкнулася. …

Як Сталін памёр, пры Хрушчове ўжо, колькі разоў у сельсавет збіралася, да Шарбака. Падыходзіла і… далей ішла. Не асмельвалася тыя дзверы адчыніць. А калі выпадкова яго дзе сустракала, падавалася ёй, вочы адводзіў. Мо ўрэшце калі і дайшла б да яго, спытала б. Ды памёр старшыня раптоўна, з сэрцам у яго непарадкі былі. А пасля Шарбака такога нелюдзя ў сельсавет прыслалі, што людзей за людзей не меў. Ужо і ісці не было да каго…

Калі па радыё што пра Амерыку чула ці пазней, як тэлевізары ў вёсцы з'явіліся, усё ўслухоўвалася, углядалася, мо што пра той край далёкі пакажуць, бо гэта ж там муж яе жыве…

А ўжо, мусіць, і не жыве. Раз сёння ля ложка яе з'явіўся, то, пэўна, там яе чакае. Там і сустрэне Хмарку сваю.






нарадзілася 27 лютага 1960 года ў вёсцы Шчонава Карэліцкага раёна. Паэтка, празаік, літаратуразнаўца, кандыдат філалогіі. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1981), аспірантуру Інстытута літаратуры НАН (1992). Працавала на пасадзе дацэнта кафедры беларускай літаратуры ГрДУ імя Я. Купалы (1992–2015). Аўтар каля 300 літаратуразнаўчых артыкулаў і 12 кніг, сярод якіх «Іду па слядах: літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ» (1997), паэтычнага зборніка «Пярсцёнак» (1997), «Літаратурная Гарадзеншчына ў постацях і лёсах» (2010), «Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі» (2013), «Пра тое, што люблю: кніга прозы»(2016), «Шчонаўскія абразкі: кніга прозы» (2017), «"Белавежа": Постаці, творы, героі» (2018). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.

АЛА НІКІФОРСКАЯ

## «Се ѿставлѧется вамъ домъ...»

Дом наведала дзевятнаццатага. Першы раз пасля ад’езду.

Усё кінулі-рынулі ў спешцы, у марозе, у роспачы — быццам перад мангола-татарскім нашэсцем.

Пятага снежня прыехалі ў Гродна Манюня (цётка — маміна сястра), мама і я… У маю мінімальную прастору, разлічаную савецкімі этыкай, эстэтыкай і законам на аднаго чалавека…

Спачатку народ (народ — гэта мама і Манюня, такі вось незвычайна малаколькасны, у складзе двух чалавек, народ) хацеў заставацца дома на ўсе сорак дзён пасля пахавання бацькі…

Чамусьці Неба гэтую задуму не падтрымала: пачаліся моцныя маразы (25–27 градусаў), забраць іх мне не было на чым, і мама, даведзеная холадам да адчаю, прасіла ў трубку: «Давай паедзем без ложка, мы паляжам на падлозе, абы толькі было цяпло…»

Ложак хацелі прывезці прыцэпчыкам (да машыны), але ў дзядзькі зусім развалілася машына… (Каб не пералічваць тыя дэталі і часткі, у якіх я нічога не разумею, я напісала агулам: зусім развалілася. Бо з яго — дзядзькавага — аповеду блізка таго і выходзіла).

Нас прывёз мой траюрадны брат Міша Галавач. Яшчэ аднаго такога блізкага і дарагога чалавека ў сусвеце, на жаль, я не маю: мне гэта больш ніхто не зрабіў бы…

Выйшаўшы з аўтобуса Гродна—Навагрудак не на прыпынку, а як заўсёды — каля дома, і, убачыўшы роўную заснежаную прастору, не кранутую ніякімі слядамі, я, ступіўшы некалькі крокаў ад дарогі, адразу загаласіла — наколькі мне дазвалялі мае сілы і аб’ём лёгкіх…

Я галасіла… А прастора маўчала…

Можа, яна мяне і не чула. Такая белая і нежывая…

І вёска не чула. Бо вёска (не хаты, а менавіта людзі) пачыналася крыху далей…

Мы жылі адасоблена: хаты вакол былі або пакінутымі, або знесенымі…

Але я галасіла не для прасторы і не для вёскі. І не для каго. Можа, гэта была нейкая абарончая рэакцыя, нечаканая нават для мяне самой, каб не памерці…

Мяне ўпершыню ніхто не сустракаў. На дарозе мяне ўжо даўно не сустракалі, толькі — дома…

Той час, калі пры Манінай бярозе стаяла мама, а з ёю Шарык і Фанарык, незваротна адышоў у мінулае…

Але дом яшчэ да нядаўняй пары жыў…. Свяціў вокнамі… Размаўляў галасамі… Дыхаў… Спрачаўся… Сварыўся… Наколькі гэта было магчыма — радаваўся…

У апошні мой прыезд (а ён быў ранні — у палове восьмай) бацька сядзеў каля круглага стала ў зале (у нас кажуць «на хаце») і выглядаў у акно, каб адчыніць мне дзверы. Я яшчэ не паспела падысці да дзвярэй, як ён адамкнуў…

Гэта было трынаццатага лістапада, у суботу, а васямнаццатага бацькі не стала…

І гэта ўжо гісторыя: мінулае — жывое — балючае…

Жыццё падзелена — распалавінена — разрэзана — на «да» і «пасля»…

Каля Маніных варот сядзеў Шарык. Я прыпынілася, паклікала яго два разы: «Шарык! Шарык!..» Ён глядзеў разгублена: хіба спалохаўся майго енку… Нават не зварухнуўся. Хіба што і выбег сюды, пачуўшы мой енк… І толькі на трэці зварот ён замітусіўся, падбег, заскакаў каля мяне…

У двор мы ўжо ўвайшлі разам: я — галосячы, Шарык — моўчкі.

Высокі, пухлы, нават нейкі ўрачысты снег…

Так падыходзіць піраговае цеста… Вельмі любіла спрабаваць яго на смак, калі мама расчыняла пірагі… У нейкім далёкім — іншым — увогуле ці маім? — жыцці…

На гэтай урачыстай снежнай паверхні былі злёгку абазначаны толькі Шарыкавы сляды…

Замок не адразу адмыкнуўся — ад плачу, ад непаслухмянасці рук…

Я і па хаце хадзіла галосячы…

Халодныя, няўтульныя, з параскіданымі рэчамі, найбольш адзеннем, пакоі…

Я і далей галасіла б… Але Шарык быў галодны…

Шарык і Фанарык патрапілі ў гэтую жыццёвую чалавечую драму ў розны перыяд свайго жыцця: Шарык — у канцы, кот Фанарык — напачатку… Іх ніхто не захацеў узяць — ні за грошы, ні за так: кожны меў сабаку і ката, або аднаго з іх, а хто не меў, той і не хацеў мець.

Добра гледжаныя і пакінутыя (нават узяць ката не было магчымасці ні па маёй прасторы, ні па маіх абавязках: цётка — ляжачая, крыху сядзячая, на першай групе; маме — восемдзесят чатыры, вельмі мала чым адрозніваецца ад Манюні), яны штодзённа прысутнічалі ў нашым суме, у нашым маўчанні, і, вядома, — у слязах… Манюня так і плакала: «А мой ты Шарычак, а дзе ж ты цяпер?..» Да ўсяго Фанарык быў вельмі вольным у сваіх паходах — і па адлегласці і па часе, у замкнёнай гарадской мікрапрасторы ён не змог бы жыць… Мама сядзела на канапе і гаварыла: «Я бачу сваю хату, Шарыка і Фанарыка…» Я ёй забараняла вымаўляць гэтае бачанне… Яно адгукалася болем. А болю і так хапала: усё ж галоўнай прычынай быў адыход чалавека…

Пра Шарыка і Фанарыка я таксама помніла і шкадавала іх. Але ў вачах часцей за ўсё стаяў дом… Ён нібы ператварыўся ў жывую істоту: яму было холадна, яму балела ад суцэльнай цішыні і ад пераважна доўгай зімовай цемры… Ад адсутнасці галасоў і крокаў, ад дотыку рук і вачэй, ад усіх прыкмет жыцця…

Неяк з мамай, яшчэ дома, мы пагадзіліся на тым, што страшна, калі памірае чалавек. Але страшней, калі памірае дом…

Дом меў непрацяглую і — так не хочацца пісаць гэтае слова, таму што я яго ніколі не любіла і не ўжывала — нешчаслівую гісторыю. Фактычна яго жыццё супала з жыццём аднаго чалавека — бацькі… (Першае адзначэнне я патлумачыла, а другое — свядома не буду…) Дом закончылі будаваць ў 1958 годзе, перабраліся ў новы дом па сведчанні мамы і Мані ўвосень. Больш дакладна сказаць — назваць хаця б месяц — не могуць ні адна, ні другая. Праўда, Манюня сцвярджае, што было яшчэ цяпло: яна мыла падлогу на верандзе, а да яе па нейкіх справах прыехаў на матацыкле Канюшкевіч, старшыня калгаса… На студні яшчэ і цяпер ёсць выбіты надпіс: 30 чэрвеня 1958 г.

Я нарадзілася ў старой маленькай хатцы, збудаванай адразу пасля вайны, а дакладней — пасля вызвалення вёскі ад немцаў, але зруб новай хаты на час майго нараджэння быў ужо пастаўлены…

Я заўсёды з нейкім халодным страхам чытала гэтыя словы «Се ѿставлѧетсѧ вамъ домъ вашъ пустъ», якімі завяршаецца трынаццатая глава Евангелля ад Лукі…

Я быццам прымярала іх да сябе — да свайго жыцця, да свайго дома…

Я разумела, што некалі надыдзе час, калі дом будзе пустым…

І некалі надыдзе час, калі я застануся адна ў гэтым доме…

І яшчэ адно некалі: надыдзе час, калі і мяне не будзе ў гэтым доме… Сама я чамусьці не стварыла дома… Не ўмела? Не хацела? Не было так задумана Госпадам? А дакладней — не прадоўжыла дома…

Цяпер я болей, чым у маладосці, не ведаю: стварэнне — прадаўжэнне — роду — дома, кажучы евангельскімі словамі, — гэта «съ небесе» или «от человѣкъ»…

Але…

У Шарыка гэта ўжо была другая пакінутасць… Ён прыбіўся да Манюні з крыху дальняй вёскі даўно. Манюня, добрая душа, заўсёды давала прытулак чужым пакінутым і выкінутым пасярод дарогі сабакам і катам… Пасля яе інсульту, якому ўжо тры з паловай гады, Шарык разам з ёю — гаспадыняй, перасяліўся да нас. Хаты стаялі побач, таму для Шарыка перасяленне было вельмі ўмоўным.

Каля хаты, яшчэ не адмыкнуўшы дзвярэй, я, як звычайна, клікала і Фанарыка… Але ён не прыйшоў. І так было зразумела, што кот замерз, не вынес марозу. Ён быў вельмі дамашні і ручны. Ручны — хутчэй гэта маміна прыналежнасць: Фанарык найболей любіў сядзець у мамы на каленях, лапкі часта клаў на грудзі — як дзіця… Часам ляжаў, скруціўшыся клубочкам. Мама цярпела. Толькі зрэдку праганяла: «Фу, Фанарык, смярдзіш рыбай…» Або — селядцом… Гэта было тады, калі ў яго рацыён патрапляла рыба… Сядзеў у яе на каленях падчас яды, мог палажыць на стол лапкі… Калі такое бачыў бацька, звычайна казаў: «Яны ўжо ядуць з адной талеркі».

Кот быў разумны: ведаў усе хады і выхады ў хаце — з двух бакоў, сам адчыняў дзверы, не ўмеў іх толькі зачыняць. І то, напэўна, толькі з той прычыны, што не даставаў да клямкі, таму што ў туга зачыненыя дзверы ён упіраўся сваім маленькім целам, і дзверы абавязкова яму паддаваліся — адчыняліся насцеж. Яшчэ большае здзіўленне выклікала тое, што з адваротнага боку Фанарык адчыняў іх адной лапай. Дзе ён браў толькі сілу! Ноччу будзіў мяне сваім мяўканнем і ішоў да дзвярэй, каб я яго выпусціла на вуліцу па нейкай патрэбе… Калі доўга не ўставала, спрабаваў адчыніць сам…

Поўсць у яго чорная, бліскучая… У дадатак — да розуму. І я часта казала, што наш Фанарык — арыстакрат. Або — інтэлігент… Але гэтыя дзве назовы ніколі не былі мянушкамі, хутчэй — як каставая прыналежнасць… Праўда, ён заслужыў у мамы і зусім супрацьлеглую прыналежнасць. Неяк ранкам, выйшаўшы на двор, яна яго клікала, а ён не рэагаваў, і за гэта катова непаслушэнства атрымаў ад мамы злоснае: «Фанарка! Дураша!» Я, стоячы каля газавай пліты на вясновай ці летняй (ужо не помню) верандзе, засмяялася… Але «дураша» засталося як найменне, хоць амаль і не выкарыстоўвалася ніколі…

Адклікаўся ён на «Фанарык» заўсёды. Асабліва, калі клікала яго я. Хутчэй — па прычыне яды. Трубіла на ўсю акругу, як у рог: «Фанарык! Фанарык!» — разоў коль-

кі… І праз хвіліны дзве-тры, а то калі і болей, у залежнасці ад таго, дзе ён знаходзіўся, Фанарка з’яўляўся… Ці то з агародаў, ці то з боку чужых двароў, ці ад дарогі…

Імя сваё Фанарык атрымаў ад мяне: наша кошка Мурка прынесла яго да парога ў зубах. Нешта чорненькае, маленькае, падобнае вельмі на цацку — коцік у боціку. Калісьці былі такія. Гэты коцік у боціку (без боціка) забіўся пад падрубу і свяцілі адтуль толькі два сінія агеньчыкі, як маячкі, — вочкі… Але святло было такой моцнай сілы, што я ў сваім здзіўленні адразу і выпаліла: Фанарык… Не таму, што я не ведала перакладу гэтага слова на беларускую мову, проста ў нас у абыходзе так і называлі гэты прадмет… Так прадметна-рэчыўная назова стала назаўсёды імем. Праўда, потым вочы кардынальна змянілі сваю афарбоўку і сталі звычайнымі катовымі зялёнымі вачыма…

Паколькі ката не было, карміць мне прыйшлося толькі Шарыка. Паўкілаграма лівернай каўбасы Шарык праглынуў у адно імгненне. Я не паспявала рэзаць… Гэта была жудасная галодная карціна. Я толькі яго папярэдзіла, як чалавека: «Шарык, глядзі, каб табе не было дрэнна ад такой колькасці ежы».

Потым я хадзіла да Анюты, да цёткі Валі — забраць пенсіі, да Франца Міхайлавіча, каб даведацца, у колькі ён будзе ехаць на Гродна…

Пасля дома збірала нейкія дробныя рэчы, якія патрэбна было ўзяць з сабой, а з нядробных — паўмяшка цукру.

На стале запаліла свечачку перад іконай свяціцеля Мікалая… Дзевятнаццатага снежня — менавіта яго дзень. Менавіта яму я даручыла дом і папрасіла ўсё зберагчы — перад нашым ад’ездам… Менавіта ён — свяціцель Мікалай — традыцыйна, гадоў некалькі запар, у свае дні, дарыў мне цікавыя падарожжы ў Беласток і Брэст… І толькі ў гэты год ён даў мне гэтае падарожжа — усё з болю і журбы: я быццам перажыла ў другі раз пахаванне бацькі…

Прымаю і гэта, ойча Мікалай…

Перад ад’ездам я выйшла, каб пакласці ў хляве яду, якую я прывезла для Шарыка: хлеб, пячэнне, крывяную каўбасу… (Шарыка Манюня прывучыла есці цукеркі і пячэнне, ён іх вельмі любіў.) На двары гэта пакінуць было нельга: з’елі б чужыя сабакі… А так запас ежы быў зроблены на некалькі дзён. У дзвярах хлява была шчыліна, у якую пралазіў Шарык, ён там жа і начаваў.

І — о Божа мой! — якое было здзіўленне, калі з плота, з Манінага боку, выйшаў… Фанарык… Значыць, тое «мяў», якое я ўспрыняла як слыхавую галюцынацыю, мне не падалося. Ён вельмі мала быў падобны на арыстакрата ці інтэлігента, але гэта быў усё роўна Фанарык… Поўсць не блішчала, не была шоўкавай, а ўскудлачанай. Ён быў худы і малы ў параўнанні з ранейшым Фанарыкам. Да ўсяго ён… смярдзеў: два тыдні бамжавання не прайшлі бясследна. Але ён быў жывы. Ён крычаў сваім асіплым, прастуджаным, бездапаможным і вельмі моцным голасам сваё «мяў»… Ён рваўся ў дом, як прарываюцца з блакады ў жыццё… Ён драпаў лапкай дзверы і не разумеў, чаму яны не адчыняюцца. А дзверы былі туга зачыненыя на клямку. Потым, калі я адчыніла, ён з такім жа адчаем прасіўся — крычаў у другія дзверы, за якімі была кухня…

Напэўна, Фанарык прыходзіў дадому кожны дзень і крычаў, крычаў…

І прасіў, і патрабаваў дапусціць яго ў дом — па закону яго — катовай прыналежнасці… І не разумеў, чаму і, галоўнае, за што так жорстка і нечакана адлучылі яго

ад цяпла, ад гаспадыніных каленяў, ад яго такога наладжанага і ўтульнага катовага жыцця…

У апошні час ён рэдка выходзіў з хаты: ляжаў то на канапе, то на адным, то на другім ложку, не сходзіў з маміных каленяў… І мы з мамай казалі, што гэта перад канцом. Што ён адчувае разрыў жыцця па-жывому…

І нават у такім выглядзе Фанарык заставаўся на вышыні: ён не дакрануўся да ежы… Ён быў філосаф, і болей таго — ахвярнік: што яму тая ежа, калі зачынены дом! Кавалкі крывяной каўбасы валяліся на падлозе і на снезе каля парога… Мы з ім у сваіх галашэннях былі ў нечым падобнымі…

Я зняла са сцяны ў сенях стары пінжак (калісьці быў мой, цяпер — нікому не патрэбны), захутала ў яго Фанарыка, прытуліла яго да сябе і панесла яго па хаце. Несла і расказвала, і паказвала: тут цяпер холадна, тут ужо не можна сагрэцца, тут болей не жывуць людзі… Ён нічога не зразумеў. Ці, можа, адмаўляўся разумець. Я вынесла яго на вуліцу, ён прадаўжаў няшчадна енчыць і драць лапкай дзверы. Ён забіваўся ў сенях пад сходкі і не хацеў выходзіць. Я была ў адчаі. Ад яго крыку. Ад таго, што ён нічога не з’еў… А Шарык яшчэ адганяў яго ад кускоў заснежанай каўбасы…

Я так і паехала ў адчаі. Душа доўга не мела спакою. Пайшоў адзін чалавек — і парушылася жыццё астатніх. І нават гэтых істот.

У панядзелак вечарам я паказвала (у камп’ютары) учарашнія здымкі: заснежаны дом з фасада і з вуліцы, на першым з іх на парозе — сабака; кот — на другім парозе, у сенях… Мой народ плакаў… Хацела сфатаграфаваць Шарыка аднаго… Як толькі паднясу фотаапарат да твару і набліжуся да сабакі — уцякаў, колькі меў сілы… Баяўся чамусьці. Я рашыла яго не палохаць. Дастаткова здымка — дом, а на парозе Шарык… Ён чакае людзей… Можа, ён лепш ведае, што яны сюды вернуцца… Яны таксама спадзяюцца на гэта. Хоць надзея вельмі слабенькая, да ўсяго яшчэ — пад моцнай зімовай тоўшчай снегу…

*P. S.* Роўна праз тыдзень у тэлефоннай размове з цёткай Валяй я даведалася, што Фанарыка ўзяў да сябе Іван Любін… Я ўздыхнула: хоць адна радасная навіна…

— Скажыце, што я прынясу яму бутэльку, як прыеду, і дам што-небудзь з бацькавага адзення…

Фанарык там не з’есць сыра ці каўбасы, але жыць будзе…

А на Шарыка ўпала яшчэ адно «няшчасце»… Ён бегаў да сваіх знаёмых сабак — Джэка Анюцінага і маленькага Мухтара цёткі Валі. Там калі-нікалі нечым жывіўся… Джэка заўсёды праганяў са свайго двара (а на нашым двары і для Джэка было што з’есці!), цяпер прыйшла яго чарга хадзіць да Джэка… Мухтар — яшчэ шчанюк, але рос вельмі хутка. Якраз для сяброўства ён болей падыходзіў Шарыку… Маленькім гуляў з Шарыкам: абапрэцца лапамі на спіну або карак і ездзіць так па двары… Цяпер быў прыгожы бежава-мышастай поўсці каладачык… Выбег на дарогу — задушыла машына…

Цётка Валя расказвала: Шарык прыходзіць, ідзе ў сені, у хату, бяжыць пад хлеў — шукае Мухтара… Уставіцца ў яе вочы, нібы пытае, дзе ты яго падзела?..

Мы ўсе шкадавалі Мухтара… Быццам нам мала было сваіх шкадаванняў, дадалося і яшчэ адно…

*P. P. S.* У другую паездку — 16 студзеня — дом выглядаў яшчэ больш пакінутым… Шарыкавы сляды на снезе былі даўнімі і ледзь абазначанымі… Цётка Валя сказала (пасля, калі я да яе пайшла), што Шар сядзіць у яе на надворку, а начуе ў хляве… «Вельмі не люблю, што ён бяжыць за мною, калі куды іду. Дык ужо накрычу, тады не ідзе: сядзе і сядзіць…» — расказвала цётка Валя. У кожнага свой стыль жыцця: за Манюняй Шар заўсёды і ўсюды бегаў неадступна, са мной таксама любіў усюды хадзіць… Неабавязкова было клікаць — Шарык! — Шар! — Шаруня! — Шарка!.. Ён ішоў сам. Асабліва на аўтобусны прыпынак, калі я ад’язджала на Гродна… Гэта стала ўжо яго сабачай традыцыяй…

І ўсё ж на мой розгалас па ўсёй акрузе: Шарык! Шарык! Шар! — ён праз некалькі хвілін з’явіўся… Я паспела падумаць, што Шар ужо не прыйдзе… Я памылілася… Ён прыбег… Ліверную каўбасу ён еў ужо не з такім голадам, як у мінулы раз… Астатнюю ежу я аднесла да цёткі Валі: яна будзе яму выдзяляць пакрыху… Шар хадзіў за мною ўсюды; калі я ад’язджала, выбег з двара і сеў каля Манінай бярозы: на супрацьлеглым баку дарогі я чакала машыну… Начаваць застаўся дома, а назаўтра прыйшоў да цёткі Валі.

Шкада! Я не ўбачыла Фанарыка. Міхайлавіча не было дома. Хадзіла два разы — з бутэлькай і бацькавым плашчом… Выпадкова ён быў у цёткі Валі, калі я ёй званіла… Калі ён прынёс Фанарыка дадому ў першы раз, каты пагрызліся… А іх у яго — пяцёра. Фанарык сышоў ізноў у чужыя хлявы. Пасля Міхайлавіч злавіў яго ў другі раз… Усё-такі хацелася б, каб Фанарык у гэтым катовым калектыве неяк прыжыўся…

Ці плакала я?.. Плакала. Толькі болей ціха і стрымана. І — у зачыненай і выстуджанай прасторы дома…

*22.01.2011 г. (субота, вечар; мой народ ужо спіць)*





# Ала Нікіфорская (Нікіпорчык)

нарадзілася 11 чэрвеня 1957 года ў вёсцы Капці Дзятлаўскага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1979). Працавала настаўніцай у школах Мастоўскага і Дзятлаўскага раёнаў, галоўным захавальнікам фондаў музея Максіма Багдановіча ў Гродне, у абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага і інш. Друкавалася ў шматлікіх калектыўных зборніках і кнігах. Аўтар кніг паэзіі «Сляза і малітва» (2006), «Пад бахаўскую такату дажджу» (2007), «На грани — счастья» (2010), «Звуком единственным» (2012). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.

ВІКТАР САЗОНАЎ

## Сумная гісторыя
*Урывак з аповесці*

У белым, як паўночны полюс, пакоі дзесяць на дванаццаць метраў маўкліва і стомлена стаяла такое ж белае, нібы паўднёвы полюс, інваліднае крэсла. Яно было абцягнутае пяшчотнай, тонкай, мяккай, далікатнай і добра апрацаванай скурай, таксама белай, і нахабна, як вульгарная жанчына ў кампаніі падвыпітых і ўзбуджаных мужчын, размяшчалася пасярэдзіне пакоя, нібыта падкрэслівала тым сваю значнасць і запатрабаванасць у гэтай абмежаванай белымі сценамі прасторы.

Інваліднае крэсла сваёй аснашчанасцю, дасканаласцю і прадуманасцю разнастайных электрамеханічных прылад адразу з першага ж позірку выдавала кошт самага шыкоўнага і дарагога лімузіна, на якім могуць сабе дазволіць ездзіць толькі кіраўнікі краін, уладальнікі буйнога бізнесу, мільярдэры, дыктатары, босы мафіёзных структур і іншыя фартовыя бандыты. Ну, а ўзроўнем камфорту і ўтулкам тое крэсла, здавалася, перавышала свежыя дзіцячыя памперсы, якія толькі што купленыя ў бліжэйшым супермаркеце і яшчэ не распакаваныя. Хоць па настроі, калі настрой бывае ў крэслаў, яно нагадвала старую, ужываную, паламаную і выкінутую на вайсковы склад для ўтылізацыі салдацкую табурэтку. Зрэшты, падобны кантраст знешняга выгляду і настрою быў не толькі ў інваліднага крэсла.

Сам пакой быў настолькі белы, светлы і чысты, што сваёй дагледжанасцю выклікаў нейкую навіслую над душой таямнічасць і трывогу, якія ў сваю чаргу абуджалі ўнутраныя страхі, нібыта тут знаходзіцца добра прыбранае месца жудаснага злачынства. І нават спакойныя твары навукоўцаў мінулага, якія ў выглядзе партрэтаў віселі на сценах у белых рамках, ні на ёту не змяншалі тых трывожных пачуццяў.

Акрамя партрэтаў бездакорную роўнасць адной са сцен парушаў светлы кандыцыянер. Больш белы пакой, акрамя пералічаных, не засмечвалі аніякія неадушаўлёныя прадметы. Нават пылу не было. Усё стэрыльна, як у аднаразовым шпрыцы да пачатку яго выкарыстання.

Вось у гэтым крэсле, якое яўна было зробленае ўручную нейкім таленавітым майстрам, задуменна і хмурна сядзеў у самоце стомлены і сумны розум. Прынамсі так, і толькі так ён сам сябе характарызаваў, той розум.

А што яму, ён жа тут галоўны! Розум, усё ж, а не дрэнь з пад плоту! Як хоча, так і характарызуе сябе. Гэта ён тут усё зрабіў згодна са сваім светапоглядам. І пакой, і ўсё ў пакоі, і ўсё вакол пакоя ў радыусе трыццаціпяціхвіліннага ходу яго крэсла на электрычнай цязе. І як загадаў, так і будзе! Гэта ён, той розум, сам вырашыў, што ён чысты, глабальны і касмічны… І голы, што бізун на дажджы…

Насамрэч гэты канкрэтны розум быў не такі ўжо і голы, як той змоклы бізун. Зусім не быў падобны на бізун. А ў дадатак гэты розум меў сваю ўласную чарапную каробку. Чалавечую. І ў ёй ён і размяшчаўся шчыльна і ўтульна, як яму і належыць ад прыроды, у матэрыяльным увасабленні, у выглядзе самых звычайных мазгоў з тымі

двума паўшар'ямі, карой, падкоркай і ўсялякімі іншымі рэчамі, пра якія звычайныя людзі і не здагадваюцца. Хоць мазгі, ці, прынамсі, іх падабенства, ёсць у кожнага.

Ну чалавек як чалавек, мужчына, худы, на выгляд гадоў пад пяцьдзясят, з невялічкім хвосцікам у якімсьці з бакоў ад гэтай лічбы, з гладка паголенымі ўпалымі і тонкімі шчокамі, апрануты ў светлы, але не зусім белы гарнітур і снежна белую кашулю, каўнер якой далікатна абдымаў і пасля плаўна спаўзаў паверх камізэлькі пад акуратна зашпілены пінжак.

Вось толькі самы звычайны на першы погляд чалавек не пагаджаўся з такой прымітыўнай трактоўкай яго вялікай персоны як самага звычайнага чалавека! Ён сам сябе лічыў у першую чаргу розумам! У другую чаргу таксама розумам! Гэтак жа, як і ў трэцюю, чацвёртую і пятую…

Прычым розумам геніяльным. Адным з самых геніяльных, а можа, і самым-самым…

Злева ад інваліднага крэсла і свайго гаспадара ў тым крэсле маўкліва ляжаў пародзісты сабака, аргенцінскі дог, белы, з пастрыжанымі вушамі і з белым нашыйнікам. Нашыйнік упрыгожвалі заклёпкі і шыпы з бліскучага металу. Хутчэй за ўсё срэбраныя. А што?! Гэта ж дарагі сабака, пародзісты! Такога і срэбрам упрыгожыць не шкода.

— Толькі дасканалы мозг і працаздольнасць, адданасць сваёй ідэі і самаахвярнасць могуць прывесці да патрэбнага выніку, — прабубніў уладальнік белага крэсла, белага кабінета, белага сабакі і сабачага нашыйніка з срэбнымі заклёпкамі і шыпамі. — Ёсць толькі мозг. Усё астатняе — гэта дадаткі да яго, задача якіх карміць і перамяшчаць свайго ўладара ў прасторы туды, куды яму трэба, а таксама выконваць усе яго загады і капрызы…

Пасярэдзіне пакоя нясмела прыслухоўваўся да яго слоў падпёрты бакавінамі інваліднага крэсла шырокі стол, які сваім снежным колерам не псаваў агульнай гармоніі белага. Злева ад камп'ютарнага экрана ў беспарадку нахабна і вульгарна раскінуліся некалькі аркушаў паперы з надрукаваным тэкстам. Сярэдзіну стала займаў ужо акуратна складзены невялічкі стос паперы, на верхнім аркушы якога ляжала чарнільная ручка «Паркер» з залатым пяром. Адзіны чорны прадмет у пакоі, калі не лічыць тэксту на самой паперы.

А там, на верхнім аркушы, няроўным як курыца награбала, але дастаткова разборлівым і чытэльным почыркам знайшлі сабе месца пакуль што толькі два кароткія радкі:

«Каханая Наташа!

Я паміраю…»

Радкі яўна ні эстэтычна, ні паэтычна не падабаліся іх аўтару, таму далейшае стварэнне тэксту было часова спыненае на асэнсоўванне гэтых двух радкоў і на іх рэдактарскае паляпшэнне.

— Ніколі не думаў, што гэта будзе так цяжка, — прашаптаў мужчына ў прастору і цішу белага пакоя.

Прашаптаў ён гэтыя словы па-ангельску, хоць незакончаны тэкст на аркушы быў беларускамоўным.

Чалавек адкінуўся на крэсле і паглядзеў у столь. Белы колер столі быў маўклівы і халодны і не збіраўся дапамагаць чалавеку з тэкстам. Чалавек перавёў позірк на

сабаку, але зразумеўшы, што ў гэтай справе і сабака не памочнік, глянуў на сцены. Сонечнае святло ранняй восені нахабна залівала іх залацістымі хвалямі праз шклянное акно, на якім не было ні жалюзі, ні занавесак. Нічога не было.

— Гэта ўсё казкі пра душу, пра несмяротнасць, і ўвогуле пра ўсё! Ёсць толькі мозг, — зноў парушыла безэмацыйную цішыню белага пакоя істота, якая называла сябе розумам. І дадала: — Вось толькі ён, мозг, і можа забяспечыць чалавеку несмяротнасць! Толькі ён! Ён…

Другая жывая ў гэтым пакоі істота ад чалавечага голасу крыху расплюшчыла вочы і ледзьве бачна павяла правым белым вухам у бок інваліднага крэсла. Але праз імгненне, пераканаўшыся, што трывога была надуманай, і вочы і вуха вярнула ў ранейшы стан.

Задуменны чалавек у інвалідным крэсле левай рукой неахайна націснуў на адзін са шматлікіх гузікаў на электроннай панелі свайго сядалішча, і адна з белых сцен паслухмяна расчыніла такога ж белага колеру дзверы, якія да гэтага моманту нават заўважыць было цяжка. Дакладней, рассунула іх. А ў праёме застукала па светлай падлозе тонкімі абцасамі маладая жанчына ў белым медыцынскім халаце.

— Слухаю вас, прафесар, — сказала яна роўным, вы́разным і прыемным голасам. Хоць прамаўляла з прыкметным акцэнтам, не зусім правільна выгаворваючы некаторыя ангельскія словы.

Візуальна маладая жанчына гадоў дваццаці нічым не саступала хараству свайго голасу. Нават сабака паглядаў на яе неяк не так, як на іншых наведнікаў. Яе цёмныя, густыя, доўгія і бліскучыя валасы, лёгкая смугласць скуры, густоўна крануты чырвонай памадай невялічкія пухлыя вусны ды іншыя далікатныя жаночыя рысы ледзьве не сіметрычнага аблічча, гэтак жа, як і акцэнт, выдавалі ў ёй нараджэнку адной з краін Лацінскай Амерыкі. Статная, хоць і не высокая фігура з усімі належнымі выпукласцямі толькі дапаўняла прыгажосць яе твару. Спакойная, цвёрдая і ўпэўненая паходка сведчыла пра прывілеяванасць яе ў гэтым пакоі.

Жанчына паслухмяна выпрасталася перад чалавекам у крэсле і цярпліва чакала ад яго загадаў.

— Марыя, ты была калі-небудзь закаханая ў мужчыну? — спытаў чалавек, які велічаў сябе розумам.

— О, прафесар, што значыць — ці была?! Я і цяпер закаханая, — спакойна адказала жанчына.

— І хто гэты шчаслівец?

— Гэта мой жаніх з Венесуэлы. Праўда, мы даўно не бачыліся, але стэлефаноўваемся кожны дзень. Ён пакуль што не можа атрымаць легальнай магчымасці эміграваць у Злучаныя Штаты да мяне. Бо ма́е не самае лепшае мінулае ў сябе на радзіме. Цэлых дзве судзімасці. Але гэтую праблему мы ўсё ж некалі вырашым, і тады нас чакае законны шлюб і шчаслівая будучыня.

Пасля гэтай кароткай справаздачы мілагучнасць яе голасу ў сценах белага пакоя замяніла трывожная ціша. Марыя цярпліва чакала, аніводным рухам або гукам не парушала глыбокай задумлівасці прафесара.

— А ці змагла б ты здрадзіць свайму каханню? — зноў затлела іскарка жыцця ў шэрых вачах прафесара.

— Гэта як? — не зразумела Марыя.

— Проста. Ці магла б ты адрачыся ад свайго кахання дзеля чаго-небудзь іншага. Дзеля чаго-небудзь больш важнага, чым каханне?

— Не, — цвёрда адказала жанчына. — Няма нічога больш важнага, чым каханне.

— Ну так, ну так… А ў мяне было гэтае больш важнае, чым каханне… У мяне яно было… І цяпер ёсць… Я кінуў сваё каханне ў сябе на радзіме, у Беларусі, калі з’язджаў у ЗША. Кінуў, як кепскі гаспадар кідае свайго вернага сабаку, які перастаў быць патрэбным, — патлумачыў ён.

І зноў задумаўся. Цяпер ужо над сказаным. Так яно ўсё і было, як ён распавёў. Ён кінуў сваю дзяўчыну там, на радзіме, як кідаюць цяжкі груз перад тым, як пераплыць імклівую, шырокую і глыбокую рэчку. Кінуў, каб самому пераехаць праз жалезную заслону Савецкага Саюза сюды, у Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе яго далёкія сваякі маглі ў такім разе пакінуць яму невялічкую прыватную медыцынскую клініку…

Медыцынская клініка! Прыватная!!! Гэта была мара яшчэ да ягонага нараджэння. З ёй ён адбываў свой дзевяцімесячны тэрмін ва ўлонні маці! І нарадзіўся ён з ёй, з той адзінай марай, і можа толькі дзеля яе і нарадзіўся! І дзеля яе, дзеля гэтай белахалатнай мары, ён мусіў кінуць і каханне, і сяброўства, і знаёмых…

І меў на тое поўнае права! Так ён думаў. І ў тым быў больш перакананы, чым у стэрыльнасці чыстага медыцынскага спірту. Бо ён геній!

Ён не сумняваўся ў тым. Ён геній! І толькі так ён мог раскрыцца ў сваёй геніяльнасці, як раскрываецца лотас ад промняў ранішняга сонца. Ён геній! А геніям дазволена ўсё, у тым ліку і грэблівае стаўленне да звычайных смяротных! Нават калі яны яго сябры, і нават калі сярод іх ёсць каханая…

Яго тагачасны асяродак, уключаючы і сяброў, і каханую, быў цяжкім грузам… А мэта апраўдвае сродкі… Так яго вучылі з дзяцінства… Яшчэ ў савецкай школе так вучылі… І ў сям’і так вучылі…

Ды і сам быў такім вучоным ад нараджэння!

— Ну так, ну так, — задуменна паўтарыў прафесар. — Я хачу параіцца з табой як з жанчынай. Бо нічога не разумею ў жанчынах. Яшчэ ў маладосці я кінуў сваю адзіную, і больш не меў з вашым полам аніякіх стасункаў. Акрамя працоўных, вядома ж. Таму слаба разумею вашу псіхіку. Не да вас мне было. У мяне была важнейшая задача! Я займаўся навукай.

— Калі я змагу вам нечым дапамагчы, то буду вельмі ўсцешаная з таго, — ветліва адказала жанчына.

Яна ведала, што шэф увесь свой час марнаваў выключна на нейкія медыцынскія псеўдадаследаванні. Яшчэ ведала і тое, што гэты медыцынскі геній, прафесар Міхаіл Шымановіч, таксама, як і яна, эмігрант. А ягоныя даследаванні яна, як шчырая каталічка, лічыла праявай грахоўнай ганарлівасці начальніка. Бо замахваліся тыя даследаванні на самую сутнасць чалавечага стварэння…

Але, нягледзячы на такія глабальныя разыходжанні ў поглядах на навуку і рэлігію, яна яшчэ юнай медсястрой засталася працаваць на яго з дзвюх прычын. Па-першае, яе ніхто нікуды не запрашаў. І хоць першай прычыны было цалкам дастаткова, каб застацца працаваць на звар’яцелага генія, сваю непрынцыповасць у важных для каталічкі пытаннях этыкі і маралі яна апраўдвала яшчэ і другой прычынай: у прафесара

з яго даследаванняў нічога ўсё адно не атрымаецца. Таму і не грэх яму патакаць, ды й жыць за нешта ж трэба…

Таму лепш дапамагаць. Бо ў яе вялікая сям’я ў Венесуэле, якой таксама трэба дапамагаць грашыма і якой колькі не прысылай тых грошай, іх усё адно не хапае з прычыны пастаяннага павелічэння той сям’і. І адбываецца яно паралельна з павелічэннем Марыіных заробкаў і з такой дакладнасцю, што Марыя ўгледзела ў гэтым нейкую сувязь, якой, праўда, яшчэ не паспела вытлумачыць.

Там жа, у Венесуэле, бадзяецца з аднаго месца ў другое ў пошуках сродкаў на пражыццё яе каханы з дзвюма судзімасцямі. І тыя судзімасці — не самае горшае ў яго бурнай біяграфіі. І вось гэтага каханага трэба неяк нелегальным шляхам легальна перацягнуць у Штаты. А на ўсё патрэбныя грошы.

Эх, грошы! Не на панель жа ісці дзеля іх! Ды на панелі, па праўдзе, яшчэ нікому не ўдалося разбагацець, нават з такімі дасканалымі знешнімі дадзенымі, як у яе…

— Як ты думаеш, ці правільна я раблю, што пішу ліст сваёй былой жанчыне па старынцы ад рукі, а не пасылаю яго, як гэта цяпер прынята, электроннай поштай? — задаў пытанне прафесар Шымановіч.

— Я пакуль што не лаўлю сутнасці праблемы, таму і не бачу розніцы, — шчыра прызналася Марыя.

— А сутнасць такая… Я многа гадоў таму з’ехаў з Беларусі па-англійску, нават не развітаўшыся са сваёй дзяўчынай і не паведаміўшы ёй, што больш мы ніколі не сустрэнемся. А ў беларусаў такія паводзіны лічацца, мякка кажучы, хамствам. Наўрад ці знойдзецца хоць адзін беларус, які возьмецца іх апраўдаць. Можа, толькі за грошы, і то за вочы. Таму я ўпэўнены, што мая былая дзяўчына затаіла на мяне вялікую крыўду. Тым больш, што ў той дзень мы дамаўляліся сустрэцца, і яна хацела мяне парадаваць нейкай прыемнай навіной. Дык вось, з вялікай крыўды яна можа проста выдаліць маё электроннае паведамленне. А папяровы ліст проста адкіне ўбок, а пасля ўсё ж прачытае яго, як астыне ад эмоцый. Як мяркуеш?

— Думаю, вы правільна ўлавілі псіхалагічны момант і ўсё ж такі добра разумееце нас, жанчын. Хоць прыкідваецеся, што не, — незадаволена адказала Марыя, яўна расхваляваная такім цынічным падыходам свайго шэфа хай сабе да былога, але ўсё ж каханага ў мінулым чалавека.

— Не, я добра разбіраюся ў псіхалогіі людзей. Але ў жаночай разбіраюся менш. Катлеты, якія жанчына смажыць свайму мужу, і то больш разбіраюцца ў жаночай псіхіцы, чым я. Хутчэй малпу зразумею, чым жанчыну. Ды і розніцы вялікай паміж імі не бачу…

Шымановіч зноў схаваўся ад рэальнасці сам у сябе. Марыя цярпліва чакала ягонага чарговага абуджэння. Яно неўзабаве надышло…

— Зрэшты, я цябе паклікаў не на гэтую тэму паразважаць.

— Слухаю ўважліва.

— Падкажы, а ўжываць у маім лісце да той жанчыны з мінулага слова «каханая» — не будзе пераборам?

— Не пішыце ёй гэтага слова, — ледзьве не прастагнала Марыя. — Гэта будзе не проста перабор, гэта будзе здзек.

— Ну так, ну так, — задуменна прашаптаў чалавек у крэсле. — Хоць мне цяпер і не да сантыментаў. Я паміраю. Смерць даўно мне глядзіць у вочы і ўвесь час на-

гадвае, што мае дні лічаныя. Дні заканчваюцца, а справы сваёй я да лагічнага канца не давёў. Таму трэба тэрмінова і рашуча ўдарыць па абодвух кірунках, прыспешыць завяршэнне справы як найхутчэй і працягнуць мае дні як надаўжэй. А Наташа — гэта той чалавек, які можа паспрабаваць мяне ўратаваць. Калі захоча, вядома ж. Таму вельмі важна правільна скласці тэкст ліста. Каб яна захацела мне дапамагчы…

Электроннае табло інваліднага крэсла нервова заміргала аранжавай лямпачкай. У такт ёй затросся нейкі прыбор у кішэні Марыінага халата. Сабака і вухам не павёў, паказаўшы сваімі паводзінамі, што даўно звыкся з такімі гукамі. А вось жанчына ведала, што ёй трэба рабіць. Яе абцасы дробна, але без прыкмет хоць якой панікі, зацокалі па белай падлозе да выхаду, а калі з'явілася ля інваліднага крэсла зноў, у руках Марыі быў шпрыц з медычным прэпаратам. Яна ўвяла яго прафесару праз катэтар на левай руцэ. Той ветліва падзякаваў.

— Ну вось, — усміхнуўся ён. — Цяпер я дараблю запланаванае на сёння. І так кожны дзень. І калі ўсё будзе ісці па плане, то мае вынаходніцтвы і я сам маем нейкі шанц калі не на несмяротнасць, то на прадаўжэнне жыцця. А ты верыш у несмяротнасць, Марыя?

— Я веру ў несмяротнасць душы, — праўдзіва адказала жанчына.

Крывая ўсмешка прабегла па схуднелым і бледным твары Шымановіча. Ён адкінуўся на крэсле і зноў на нейкі час заплюшчыў вочы.

Праклятая хвароба забрала шмат сілаў і часу ды не дала завяршыць яго тэарэтычныя даследаванні практычнымі вынікамі на жывёлах. Каб яна сама захварэла, тая хвароба, і здохла ад таго! Трэба спяшацца. Ён ведае, як працягнуць жыццё… на нейкі час…

Марыя цярпліва чакала вяртання прафесара ў рэчаіснасць. І, калі ён расплюшчыў вочы, сказала, што чарговая ін'екцыя (невядомага ёй прэпарата, які Шымановіч назначыў сам сабе) будзе праз тры з паловай гадзіны. Зрэшты, электронныя датчыкі на панелі крэсла і ў яе кішэні не дадуць пра тое забыцца.

— Скажы мне яшчэ… — уздыхнуў прафесар. — Як завуць твайго абранніка?

— Антоніо Кастра, — ганарова адказала жанчына.

— Кастра, — усміхнуўся Міхаіл Шымановіч. — Як лідара кубінскай рэвалюцыі Фідэля Кастра. Мы, выхадцы з СССР, гэтае прозвішча, Кастра, можам спалучаць толькі з імем Фідэль. А тут Антоніо!

— А чаму вы смяяцеся?

— Марыя Кастра… гучыць неяк непрывычна, — упершыню за сённяшнюю размову паказаў свае зубы прафесар. — Але ты не крыўдуй… Я не проста так цябе распытваю. Бачыш, злева ад камп'ютарнага экрана ляжаць паперкі. Гэта варыянты майго пасмяротнага завяшчання. Тваё прозвішча ў тым тастаменце таксама будзе фігураваць.

— Дзякуй, прафесар!

— Няма за што. Ты слухай да канца. Хутка ты станеш такой багатай дамай, што, думаю, зможаш забяспечыць свайго Кастра значна лепш, чым той другі Кастра, каторы Фідэль, забяспечыў сваю Кубу. І ў Штаты зможаш яго перацягнуць. Ты будзеш такая багатая, што і Фідэля ў Штаты зможаш перацягнуць, калі захочаш, канечне ж. Хоць з магілы дастанеш. Адзіная ўмова: ты мусіш яшчэ год папрацаваць у маёй клініцы, не-

залежна ад таго, буду я юрыдычна існаваць у такім выглядзе, як цяпер, ці маё цела крэміруюць, а клініка будзе дэ-юрэ належаць іншаму чалавеку ці нават гэтаму вось аргенцінскаму догу.

— З гэтым няма праблем, — здзіўлена адказала жанчына. — Толькі…

— Ніякіх толькі, — перабіў яе прафесар. — Ідзі падрыхтуй маю сустрэчу з гэтым дэбілам Казлоўскім. Як толькі ён з'явіцца, далажы мне.

Высокія абцасы зноў паслухмяна зацокалі да выхада. Дзве пары вачэй, прафесара і сабакі, праводзілі іх. Сабака, праўда, выяўляў цікавасць да ўсёй постаці. Чалавек сачыў выключна за рытмікай туфелек. Але перад самымі дзвярыма іх уладальніца нечакана рэзка развярнулася і рашучым голасам спытала:

— Прафесар, а вы ніколі ў жыцці не пашкадавалі, што некалі здрадзілі свайму каханню?

— Не, ніколі, — спакойна праглынуў гэтую дзёрзкасць прафесар.

І дадаў:

— І ніколі не пашкадую.

Белыя дзверы павольна зачыніліся. Прафесар схіліўся над сталом, нервова скамячыў верхні аркуш паперы, на якім спрабаваў нешта напісаць Наташы, і злосна кінуў яго ў сметніцу. Пасля акуратна расклаў перад сабой другі аркуш, задуменна паўглядаўся ў яго белізну, нібыта чакаў, што тэкст сам праявіцца на паперы, і ўзяў «Паркер» з залатым пяром.

«Дарагая Наташа! Хутка мяне не стане на гэтым свеце…»

Але аўтару і пачатак другой спробы свайго літаратурнага тварэння падаўся банальным. Ён рашуча скамячыў і гэты аркуш ды шпурнуў яго на падлогу.

— Ну хто б мог падумаць, што самая важная для чалавецтва справа тармозіцца з-за таго, што адрасат гэтага ліста некалі быў маёй каханай дзяўчынай, — злосна прастагнаў ён сабе пад нос. — Ідыятызм! Дэбілізм, ды й толькі! Вар'яцтва! Калі тое каханне было?! Ужо ўсё быллём парасло! А працягвае псаваць жыццё…

Прафесар зноў адкінуўся на крэсле і заплюшчыў шэрыя вочы. Ён так яўна ўбачыў малюнак з мінулага, што мог пабажыцца: гэта адбываецца цяпер. Вобразы былога паплылі перад вачыма, і невядома, дзе была рэчаіснасць, а дзе ўспамін…

І пачуў словы, сказаныя каля трыццаці няпоўных гадоў таму…

— Міша! Мішка! Шымановіч! Хутчэй сюды! Ідзі хутчэй сюды… — крычаў яго лепшы сябра і аднакурснік Валерка Зязюля і тупаў нагамі. — Першакурсніцы прыехалі!

— Ты што раскрычаўся? — адказаў тады яшчэ юны і здаровы Міхаіл Шымановіч, студэнт апошняга курса Гарадзенскага медыцынскага інстытута. Самы звычайны савецкі студэнт, хоць і выдатнік…

Ён усе пяць гадоў прасядзеў за падручнікамі і свету Божага не бачыў. І вось ён які, той свет, аказваецца… Незвычайны… Бо на гэтым свеце стаяла *яна* ў светлай сукенцы ў зялёны гарошак і трымала ў руках адламаны абцас. Стаяла на адной назе, і гэтая нага сваім другім неадламаным абцасам балюча наступіла яму… на сэрца.

— Наташа, — нясмела агучыла сваё імя дзяўчына…

«Наташа! Пішу табе Міхаіл Шымановіч. Упэўнены, ты яшчэ не забыла. Напачатку ма́ю толькі адну просьбу: дачытай гэты ліст да канца. Я хутка памру, таму можаш

маю просьбу лічыць апошнім перадсмяротным жаданнем. Пішу я табе з ЗША, дзе ў мяне вялікі медыцынскі бізнес... Памятаеш, Наташа, як мы марылі з табой пра гэта на ложку ў тваім інтэрнаце?! Дык вось, дзеля здзяйснення гэтых мараў я і выехаў некалі ў Амерыку. На жаль, тады я не змог забраць цябе з сабой. А пасля таго, як Беларусь вырвалася з лапаў СССР і выехаць адтуль стала нарэшце мажлівым, ты была ўжо замужам за гэтым паскудным піжонам Валеркам Зязюлем...

Я зрабіў у медыцыне шмат. Гэта прарыў. Я апярэдзіў час на доўгія гады. І нават тое, што я пакуль жывы, дамогся таксама я. Бо я існую зараз выключна на створаных мной прэпаратах. Яны яшчэ не прайшлі належнай праверкі, каб іх аддаць у вытворчасць, але ў мяне няма часу на гэтыя нікчэмныя праверкі. Ты сама, як медык, ведаеш, колькі трэба часу, каб афіцыйна зарэгістраваць новы прэпарат. Таму, хутчэй за ўсё, гэта давядзецца дарабіць табе.

Але і гэта не галоўнае. Галоўнае, што табе прыйдзецца зрабіць мне аперацыю, якая можа ўратаваць маё жыццё на нейкі кароткі час. Можа і не, але рызыкнуць варта. Гэта для мяне адзіны і апошні шанец. Таксама, як і для маіх медыцынскіх даследаванняў і вынаходніцтваў. Бо гэты кароткі час мне патрэбны, каб дарабіць тое, пра што мы марылі стварыць у медыцыне.

Памятаеш, Наташа, пра што мы марылі ў Горадні? Гэта можа ажыццявіцца. Падрабязнасці не апішаш. Таму ўсё зноў жа пры асабістай сустрэчы. У Амерыцы ёсць добрыя спецыялісты, якія маглі б тэхнічна выканаць такую аперацыю, але ніхто з іх не возьмецца за яе — з страху згубіць дазвол займацца медыцынай.

Квіток на самалёт і візу, а таксама ўсе грашовыя выдаткі на сябе возьмуць мае людзі. Яны хутка з табой звяжуцца.

І вось яшчэ што. Я ведаю, што твой раўнівы муж Валерка Зязюля будзе супраць твайго прыезду да мяне. І нават будзе перашкаджаць гэтаму. Таму паведамі гэтаму прыдурку, што ён пазней таксама прыедзе. Ён будзе тваім галоўным асістэнтам на аперацыі. Але прасачы, каб ён мяне наўмысна не зарэзаў на той аперацыі. І яшчэ паведамі, што незалежна ад таго, як пройдзе аперацыя, вам дастануцца мільёны маіх амерыканскіх даляраў. Бо ўсе, хто будзе ўдзельнічаць у гэтым працэсе, у тым ліку і ты, стануць мільянерамі. Незалежна ад таго, чым усё закончыцца.

Да хуткай сустрэчы, Наташа!

Твой Мішка Шымановіч».






нарадзіўся 18 кастрычніка 1963 года ў мястэчку Гальшаны Ашмянскага раёна. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1990). Як журналіст і літаратар друкаваўся ў розных беларускіх і замежных выданнях («Літаратура і Мастацтва», «Ніва», «Новы час», «Дзеяслоў» і інш.). Аўтар кніг «Занатоўкі кантрабандыста» (2009), «Сандалі мітрапалітыка» (2012), «Паэзія прозы» (2013), «Суседскія былі» (2015). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.

## ЯНКА ТРАЦЯК

# «А ну-ка, выхадзі-ка!…»

*У аснову апавядання пакладзена праўдзівая гісторыя з жыцця савецкіх грамадзян часоў БССР*

1

Другі сакратар раённага камітэту камуністычнай партыі таварыш Раман Пятровіч Тыцкун* адказваў за ідэалогію і курыраваў адзіна правільную лінію як у вытворчых працэсах, так і ў адукацыі, культуры і гандлі. Што канкрэтна ён там рабіў — цяжка было сказаць, бо адказваць і курыраваць — гэта нешта адно, а працаваць — гэта нешта зусім іншае. Таму і не дзіўна, што настольнай кнігай таварыша Тыцкуна была брашурка «Политинформатор и агитатор». Праўда, заглядваў у яе другі сакратар вельмі рэдка, ну, хіба што, калі трэба было падрыхтаваць даклад да справаздачна-выбарчага партыйнага сходу, ці да свята дня вельмі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, ці да ўгодкаў арганізатара той рэвалюцыі Леніна, ці калі што з'еў не тое ці выпіў і трэба было перачакаць лішнюю хвіліну ў адным пікантным і вельмі патрэбным не толькі для кожнага сакратара таго ці іншага камітэта кампартыі, але і для кожнага homo sapiens'а, месцы.

Дарэчы, у гэтым месцы, дзе любіў бываць другі сакратар раённага камітэту камуністычнай партыі (размяшчалася на вуліцы Савецкай — цэнтральнай вуліцы кожнага горада), на паліцах ляжалі некаторыя нумары часопіса «Коммунист Белоруссии» і яшчэ адна нейкая вельмі тоўстая і пацёртая гадамі кніга, разгорнутая на чацвёртай старонцы. Уся старонка была скрэслена, быццам нейкі чарнавік; амаль супраць кожнага радка стаялі пытальнікі, а дзе-нідзе былі надпісы «ха-ха!» і толькі супраць аднаго радка стаялі тры клічнікі, а словы «Пладзіцеся і размнажайцеся…», надрукаваныя, як і ўся кніга, царкоўнаславянскімі азі букамі, з гэтага абзацу былі абведзены чырвоным тлустым шрыфтам. Далей ішоў чысты тэкст, без аніякіх каментароў, пытальнікаў і клічнікаў, — відаць, чытач страціў усякі сэнс чытаць далей.

Адным з найбольш папулярных метадаў адказнасці і куратарства галоўнага ідэолага раёна таварыша Тыцкуна былі працоўныя паездкі, альбо, як ён іх іншым разам кваліфікаваў, — палявыя экспедыцыі, і праводзіў ён іх непасрэдна ў настаўніцкіх, медыцынскіх і культурна-асветніцкіх установах і калектывах — вось там ён і гнуў сваю ідэалагічную адказную лінію, наколькі яна там гнулася. Першы сакратар райкама партыі таварыш Уладзімір Аляксандравіч Патупаў характарызаваў яго палявыя экспедыцыі як паляванні на нейкіх самак; пры тым строга папярэджваў, што рана ці позна палявод гэты даэкспедыцыруецца.

---

* Назвы, імя, імя па бацьку і прозвішчы зменены.

Справа ў тым (хадзілі такія чуткі), што ў таварыша Р. П. Тыцкуна — гэтага другога чалавека ў раёне — амаль у кожнай вёсцы было па адной, ці нават па дзве жанчыны, якія нечым яму былі абавязаныя. Нехта пагаворваў, што яны пры сваяцтве, фамільярдкі нейкія; іншыя даводзілі, што гэтыя жанчыны — ніхто іншыя, як яго каханкі, і толькі каханкі.

Зразумела, што ніхто не будзе ўдакладняць, хто, каму і як прыходзіцца: фамільярдкамі ці каханкамі, але ва ўсякім разе гэта Р. П. Тыцкуну не мяшала праводзіць правільна ідэалагічную лінію партыі.

А, можа, чуткі тыя распускалі злыя языкі ад зайздрасці і не больш, бо, і сапраўды, тут было каму і за што зайздросціць: другі сакратар, паважаны чалавек, высокі, шыракаплечы брунет з пухнатымі густымі кудламі і правільнымі рысамі твару, культурны, выхаваны, вясёлы, гаваркі і, галоўнае — не скупы, заўсёды з кветкамі, падарункамі і грашыма…

Што болей трэба?..

Яшчэ гаварылі, што не столькі ён так кідаецца на слабы **пол**, колькі гэты **пол** кідаецца на яго.

…Таксама, можа, гаварылі ад зайздрасці.

Але як бы там не было, толькі калі дзе і з'яўляўся яго службовы членавоз — машына кшталту УАЗіка, па-народнаму — «козлік» (менавіта на ім любіў ездзіць другі сакратар у адрозненне ад сваіх высокапастаўленых калег і аднапартыйцаў, якія каталіся на «Волгах» і «Нівах»), дык вось там, дзе з'яўляўся «козлік» з праверкай, там альбо дырэктарка школы зачынялася ў сваім кабінеце з правяраючым, кантралюючым і напраўляючым высокім раённым органам, альбо на дзвярах ФАПу (фельчарска-акушэрскі пункт) вывешвалася таблічка «Прыём лекаў», ці на дзвярах бібліятэкі — таблічка «Інвентарызацыя кніг», ці на дзвярах якой-небудзь крамы — «Переучёт», ці на будынку «Дом быту» — «Прыём заказаў» або «Работа з кліентамі».

Рэч зразумелая — ва ўсіх гэтых праверачных пунктах працавалі вельмі прыгожыя асобы жаночага полу.

І хто там на каго кідаўся — хто яго ведае, толькі пакуль стаяў той «козлік», таблічкі віселі.

Але ў бягучым годзе зачасціў нешта другі сакратар у Арлынскі сельскі савет мясцовых дэпутатаў і працоўных.

Праўда, працоўныя там бывалі хіба што тады, калі патрэбна была нейкая даведка ад органаў мясцовай савецкай улады, а дэпутаты бывалі яшчэ радзей і толькі калінекалі прыходзілі на паседжанні, як казаў старшыня, «дэпутацкага корпусу».

А вось старшыні сельсавету такія візіты другога сакратара райкама партыі заўсёды выходзілі бокам: толькі лішнія клопаты і растраты, і трэба сустрэць начальства з хлебам і соллю, з чаркай і скваркай; а пасля паказаць паперы, дакументацыю, справаздачы, накладныя, расказаць, растлумачыць, давесці, пазнаёміць і гэтак далей… І назаўтра яшчэ будзе доўга балець галава ад такой гасціннасці.

Дык вось, усё ў Арлынскім сельсавеце распачалося з таго, што прыехаў другі сакратар райкама партыі таварыш Р. П. Тыцкун з праверкай (які ўжо раз): сельсавет праверыў, школу праверыў, бібліятэку, ФАП, Дом быту — праверыў і нічога такога не знайшоў, за што можна было б зачапіцца…

…І таварыш застаўся вельмі незадаволеным.

І закарцела таварышу яшчэ праверыць працу мясцовай крамы сельпо, балазе і яна была ў цэнтры.

— Раман Пятровіч, што вам да гэтай крамы, — пытаўся адгаварыць яго старшыня сельсавета таварыш Міхаіл Кузьміч Смутлаў, — Там з ідэалогіяй усё нармальна… Працуе там адна самотная жанчына… Графікі вісяць… Ды і народу там заўсёды шмат…

Вось тут мясцовы старшыня прагаварыўся наконт самотнай жанчыны, а калі зразумеў, было ўжо позна.

— Так, — рашуча заявіў Раман Пятровіч. — Кажаш, самотная… Графікі вісяць… Ідзём у краму!

Дарэчы, гэта ж быў такі час, калі ўсе праверкі заканчваліся крамай. Праўда, для тых, каго правяралі, яны пачыналіся з крамы. А неяк адзін дырэктар школы заявіў, што ён не абавязаны сустракаць і праводзіць праверкі экстравагантнымі таварамі з крамы… І не паднёс кантралюючым строгім органам падарункаў, не ўважыў добрым банкетам… І пазнаходзілі яны столькі недахопаў у выхаванні моладзі і педагагічным працэсе школы, што дырэктара самога ледзь-ледзь не адправілі на перавыхаванне ў ЛТП (лячэбна-працоўны прафілакторый), а школу закрылі. І дырэктар школы, які шмат гадоў працаваў над кнігай пад назовам: «Новая педагагічная паэма», пасля гэтага вельмі моцна расчараваўся і ў Макаранку, і ў Сухамлінскім, і ў савецкай педагогіцы ўвогуле, і не захацеў болей быць нават звычайным настаўнікам.

У краме, куды важна зайшлі таварышы старшыня сельсавета і другі сакратар, было ўсяго толькі тры чалавекі народу: адна жанчына купляла чатыры пляшкі таннага пладова-выгаднага віна «Вілія» і два мужчыны пад добрым хмяльком бралі па пляшцы «Рускай» гарэлкі і па пляшцы піва «Жыгулёўскае». Старшыня сельсавета таварыш Смутлаў не вытрымаў такой адкрытай дэманстрацыі маральнага падзення савецкага народа ў davераным яму партыяй сельсавеце і тут жа вырашыў правесці агітацыю:

— Граждане пакупацелі, што вы купляеце?!. Кіньце ўсё гэта… Бросьце свої пагубные прывычкі… Паглядзіце, усё ж есць: батоны, пранікі, напітак «Ліманад», салянкі, кансервы і другія праннасці…

Але народ трапіўся нейкі несвядомы маральна, не захацеў слухаць парады свайго старшыні і панура браў тое, дзеля чаго і прыйшоў у краму.

Не пачуў старшыню сельсавета і другі партыйны сакратар, хаця і быў трохі лепш свядомым за астатніх. Ён, як толькі ўвайшоў у краму, прабегся ўсюды пранікаючым, як радыяцыя, партыйным позіркам па паліцах і прылаўках і раптам знерухомеў так, як укапаны слуп каля будынка райкама партыі, ці, лепш сказаць, як помнік свайму партыйнаму правадыру на галоўным пляцы горада: за прылаўкам, на фоне розных наклеек, пакункаў, кулькоў і рознакаляровых упаковак стаяла прыгожая, зграбная жанчына з глыбокім разрэзам сукенкі на грудзях і з ледзь прыкметным сумам у вачах. І разрэз, і сум гэты адразу прафесійным позіркам улавіў другі сакратар — на тое ён і пастаўлены партыяй другім сакратаром, каб быць пільным на варце ўсялякіх разрэзаў (асабліва глыбокіх) і ўсялякага суму ў вачах савецкіх грамадзян.

Калі народ «затарыўся» і няспешна стаў выходзіць з крамы, старшыня сельсавета таварыш Смутлаў звярнуўся да жанчыны з ледзь прыкметным сумам у вачах:

— Наташа… Васільеўна, тут вось таварыш Раман Пятровіч з раёна — другі сакратар райкама партыі… Да цябе па вельмі сур'ёзных справах… — адрэкамендаваў старшыня сельсавета і, відаць, для большай перакананасці ўдакладніў: — Па справах ідэалогіі і прэйскуранту…

— Што канкрэтна трэба таварышу другому сакратару па прэйскуранту? — з нейкай жаночай абыякавасцю, лёгкасцю, загадкавасцю і нейкімі патэнцыйнымі шматабяцальнымі жаночымі магчымасцямі звярнулася Наташа Васільеўна да сакратара і дэманстратыўна павярнулася да яго сваім разрэзам, і павяла брывамі, і пырсканула на яго сваёй вішнёвай, магічнай і каламутнай мешанінай вачэй, бы нейкім зеллем…

Усё гэта, зрэшты, прыцягвае мужчынаў прыкладна так, як папуляцыя самак навакольнага жывёльнага свету прыцягвае самцоў, калі яны раптам пачынаюць адчуваць вострую патрэбу ў выкананні аднаго з найвялікшых біблейскіх наказаў пладзіцца і размнажацца.

І тут райкамаўскі «слуп», ці лепш сказаць помнік, раптам стаў ажываць:

— Мяне больш цікавяць выхаваўчыя працэсы… мараль… сямейнае становішча… — зацягнуў было другі сакратар, але калі ўбачыў, як ад яго слоў у вішнёвых вачах стала прападаць усякая цікавасць, тут жа на хаду паправіўся:

— Ну, а калі гутарка пайшла пра прэйскурант, тады давайце дзве пляшкі добрага каньяку, палку каўбасы і каробку цукерак, — смела заявіў, як усё роўна запатрабаваў па напісаным (відаць, па звычцы), добра пастаўленым голасам другі сакратар.

Магчыма, з асабістага досведу ведаў ён, што ўсякія выхаваўчыя, а тым больш ідэалагічныя працэсы праводзіць без такога набору па прэйскуранту вельмі складана, да таго ж — яны з'яўляюцца малаэфектыўнымі.

І, пры тым, гаварыў ён пра гэта ўсё, не адводзячы прагных вачэй ад Наташы.

Наташа з вялікім шматзначным пытальнікам у вачах глянула на таварыша старшыню сельсавета. Той шматзначна кіўнуў галавой.

— Хвіліначку! — тады прамовіла Наташа і спрытна палезла пад прылавак, адкуль і сапраўды спачатку паказалася добрая палка вэнджанай каўбасы, пасля з'явіліся адна за адной пляшкі добрага армянскага каньяку і прыгожая ўпакоўка цукерак фабрыкі «Камунарка».

Разлічваўся старшыня сельсавета, бо другому сакратару было не да гэтага — ён не зводзіў сваіх пранікнёных, ідэалагічных і спакуслівых вачэй з Наташы. І толькі рукамі, як сляпы, ён намацаў на прылаўку «Камунарку» і працягнуў цукеркі Наташы са словамі:

— Мерсі, гэта ад мяне асабіста найпрыгажэйшай у свеце мадам за прылаўкам савецкага магазіна раённай сельскай кааперацыі замест праверкі па ідэалогіі…

— Ой-ё-ёй, якія мы шчодрыя! — какетліва па-жаночаму праспявала мадам за прылаўкам і ў яе вачах зноў засвяцілася цікавасць:

— Правярайце — у мяне з ідэалогіяй усё ў парадку, — спакойна, нават з нейкім выклікам заявіла Наташа і тут жа смела і па-камсамольску раптам паабяцала:

— Я магу ўсё паказаць!..

І прамовіла яна ўсё гэта, распускаючы свае флюіды так, што нават у старшыні сельсавета таварыша М. К. Смутлава пацяклі слінкі і ён неяк нервова стаў падміргваць Наташцы і гаварыць:

— Наташа, палічы яшчэ адну шакаладу і вазьмі яе сабе ад мяне, толькі жонцы не гавары…

Пасля гэтых слоў старшыня сельсавета палахліва азірнуўся вакол сябе і няўпэўнена звярнуўся да другога сакратара райкама партыі:

— Ну, што, Раман Пятровіч… Будзем правяраць?.. Ці як… Можа, ужо пойдзем?..

— Пойдзем, — гэтак жа няўпэўнена адказаў і другі сакратар, заваражаны смелымі Наташынымі абяцаннямі паказаць усё.

І яны накіраваліся да выхаду.

— А праннасці будзеце браць на закусь? — спыталася Наташа наўздагон.

Правяраючыя «праннасці» не бралі — навошта ім «праннасці»? Яны толькі пазапіхвалі тавар у кішэні, каб не было відаць вясковаму пільнаму воку, што выносіць з крамы мясцовае і раённае партыйнае начальства, і пайшлі далей правярацца ў кабінет старшыні сельскага савета народных дэпутатаў і працоўных.

2

Прадавачка Наташа, альбо як тут часцей гаварылі — лавачніца, жыла адна, хаця і была замужам. Так атрымалася, што муж Наташы — Веня Ламавік — сядзеў у турме. Гэта і было прычынай яе ледзь прыкметнага суму ў вачах. Прыраўнаваў быў Веня Наташу да мясцовага ўчастковага і збіў Наташу так, што тая трапіла ў бальніцу, а пасля гэтак жа моцна Веня пашкодзіў абліцовачны партрэт участковаму — старшаму лейтэнанту міліцыі, і той сказаў: «Я не Фелікс і я не мент, калі не пасаджу!» Наташа тады пашкадавала свайго мужа і даравала, а ўчастковы быў сапраўдным Феліксам, і быў сапраўдным мянтом, і яшчэ хацеў быць сапраўдным маёрам… І далі Веню тры з паловай гады вельмі абмежаванай зоны без права на адпачынак, але з правам на працу, са строгай дыетай і рэжымам з ненармальнымі ўмовамі для развіцця.

Ці было што ў Наташы з участковым Феліксам, ці не было — невядома. Увогуле, гэты старшы лейтэнант Міністэрства ўнутраных спраў быў вельмі мутнай асобай. Прыходзіў ён неяк да Наташы, калі Веню адправілі на зону з ненармальнымі ўмовамі, прапаноўваў свае паслугі, маўляў, калі што дзе якое, дык ён заўсёды гатовы «крышаваць» магазін і яе асабіста, і можа нават падставіць ёй сваё мужчынскае надзейнае плячо як адзінокай жанчыне і руку працягнуць, каб нешта такое ўзяць, калі яна, Наташа, раптам захоча нешта каму такое даць…

Наташа па-свойму зразумела, што такое «крышаваць» (тады гэта слова было яшчэ не ў модзе) і, гаварылі, надсмяялася над ім, маўляў, шмат хто прапануе плячо з пустой рукой і пабыць «крышай» зверху, каб нешта такое ўзяць, калі няма чаго прапанаваць больш вартага… А яшчэ нехта ж бачыў, што ўчастковы той вельмі часта заходзіў з нейкімі кулькамі ў магазін, а выходзіў без кулькоў… Звычайна ж бывае наадварот. Але, тут жа, ведама — магазін, гандлёва-рыначныя адносіны. І як там было на самай справе — хто ведае.

3

Роўна праз тыдзень зноў каля Арлынскага сельсавета засвяціўся службовы членавоз (па народнаму — «козлік») таварыша другога сакратара райкама партыі. Але на гэты раз у сельсавет таварыш сакратар не пайшоў. Яно дык і сапраўды, а што рабіць

другому сакратару ў сельсавеце? Таварыш Р. П. Тыцкун, з тоўстым, відаць, праверачным партфелем, адразу накіраваўся ў краму. У краме ў гэты час было нашмат больш народу — прывезлі хлеб, батоны і іншыя «праннасці», і людзі стаялі ў чарзе.

А людзі — гэта абсалютна непатрэбны кантынгент не толькі для другога сакратара, але і для кожнага сакратара партыі…

І таварыш Р. П. Тыцкун не стаў займаць чаргу, як гэта звычайна робяць нармальныя людзі, а строгім і пастаўленым голасам абвясціў пра неабходнасць правесці рэвізію на дадзеным аб'екце і вызваліць памяшканне ад пабочных, выпадковых і вольных грамадзян савецкай дзяржавы.

Грамадзяне паглядзелі адно на аднаго з пытаннем, хто тут які і чаговарты, а пасля дружна перавялі хто спачувальны, а хто і зайздросны погляд на Наташу і, вельмі незадаволеныя, сталі пакідаць памяшканне.

Калі ўсе выйшлі, таварыш другі сакратар з тоўстага аўтарытэтнага райкамаўскага партфеля з кракадзілавай скуры дастаў вялікі букет чырвоных ружаў і ўрачыста перадаў іх у рукі Наташы. У той адразу прапаў самотны сум у вачах, і яны загарэліся нейкім загадкавым бляскам (бляск гэты адразу ўлавіў другі сакратар — на тое ён і сакратар партыі, каб лавіць у вачах савецкіх грамадзян усякі бляск, які можа загарэцца). А пасля гэтага Наташа раптам апусціла свае вочкі так сарамліва, як дзяўчынка на першай сваёй сустрэчы ў жыцці з вельмі дасведчаным у палавых справах мужчынам ці маладым гінеколагам, і сказала:

— Што вы… Што вы…

І сказала такім жаночым галаском і тонам, ад якога ў кожнага нармальнага мужчыны кроў імпульсіўна перацякае ад мозга ў іншае месца, і мозг траціць усякі кантроль над ідэалогіяй развітога сацыялізму і далейшымі наступствамі…

А пасля на дзвярах сельскай крамы з'явілася нечаканая абвестка «Паехала на базу», і пакуль «козлік» другога сакратара райкама партыі стаяў, Наташа была на базе…

А пасля ўсё часцей і часцей стала Наташа ездзіць на тую базу. І калі «козлік» стаяў, і калі яго не было каля крамы і нават на «козліку» разам з высокім раённым напраўляючым і кіруючым органам ездзіла Наташа на нейкую базу.

Вось толькі дарэмна вольныя грамадзяне сельскага савету спадзяваліся на тое, што нешта такое рэдкае, дэфіцытнае і кожнаму патрэбнае прывязе Наташа з той базы. Каўбасы, да прыкладу, хаця бы «Доктарскай».

Але Наташа ўвогуле нічога не прывозіла: ні «Доктарскай», ні «Санітарскай», ні «Кандыдацкай».

І толькі заўсёды казала адно і тое:

— Тавар яшчэ на базу не паступіў. Вось хіба што калі пасту-у-упіць…

— А калі пасту-у-упіць? — пытаўся народ.

— А калі пасту-у-упіць — гэтага ўжо ніхто не ведае! — упэўнена адказвала Наташа.

— Што, нават і другі сакратар райкама партыі гэтага не ведае? — удакладнялі добрыя людзі дзеля ліку без надзеі.

— Адкуль?.. — строга адказвала Наташа. — Таварыш другі сакратар райкама партыі тавары і прадукты не вырабляе… Рома Тыцкун у іншым спец…

І людзі з разуменнемківалі галовамі: так-так — спец, і куплялі віно, гарэлку, запалкі, мыла, кансервы і іншыя «праннасці» і ішлі дахаты.

А пасля папаўзлі розныя чуткі: адны казалі, што пераводзяць Наташу ў раён загадваць ЦУМам (цэнтральны ўніверсальны магазін), другія — загадваць базай раённай кааперацыі, трэція, маўляў, будзе Наташа ў Белым Доме (так у народзе называлі будынак раённага кіраўніцтва) засядаць і кіраваць усім раённым гандлем…

На пытанні дапытлівага народу наконт універмага, базы і Белага Дома, Наташа толькі загадкава паводзіла вачыма і ўсміхалася.

Але пераехаць ва ўнівермаг, ці на тую базу, ці ў той Дом Наташа не паспела…

4

Неяк у адзін пахмурны дзень, па поўдні, спыніўся каля хаты Наташы сінякрылы МАЗ з кідкім надпісам на баках «Цэнтравываз». Дзверкі МАЗа адчыніліся, і вырваўся спачатку на волю голас папулярнага магнітафоннага на той час спевака Аляксандра Новікава: «Вези меня, извозчик, по гулкой мостовой, / А если я усну — шмонать меня не надо…», а пасля з машыны, пад гучны акампанемент песні вылез радасны і шчаслівы, з невялічкім «дэмбельскім» чамаданчыкам Веня Ламавік.

— Трымайся! — крыкнуў кіроўца Веню, ляснуў дзверкамі, і сінякрылы МАЗ, уздымаючы клубы пылу, пакаціў гравейкай нешта вывозіць у цэнтр далей.

А Веня Ламавік, падскокваючы, як хлопчык дарогай з дзіцячага садка дахаты, накіраваўся на падворак мураванага з белай цэглы дома. Так карцела яму прайсціся па сваёй падлозе, сесці ў крэсла за стол, паваляцца на канапе, урэшце, паглядзець на сцены сваёй хаты — усё гэта некалі сваімі рукамі стругаў, збіраў і рабіў Веня для сямейнага шчасця і дабрабыту. Але хата яго сустрэла нейкім панурым маўчаннем, і як без'языкі сабачка, на дзвярах хаты вісеў вялікі чорны замок, які далей ганку Веню, як нейкага чужога, не пускаў. Не знайшоў Веня і ключ ад замка ў дамоўленым раней з Наташай месцы. Але гэта Веню ніколькі не збянтэжыла — усё ж такі амаль тры гады прайшло пасля таго недарэчнага развітання, і за гэты час Веня шмат што асэнсаваў і зразумеў у жыцці. А як было не зразумець, калі ў тым вельмі абмежаваным месцы прыходзілася чуць жаночы голас толькі па радыё, а бачыць жанчыну толькі па тэлевізіі, і тую ў вопратках. Строгая дыета была ва ўсім. А пасля ўсяго гэтага рукі і ногі гатовы быў цалаваць зараз Веня сваёй жоначцы і на каленях прасіць у яе прабачэння… Цяпер ён будзе рабіць усё такое так, што ў Наташкі нават і думкі не ўзнікне пра нейкага там участковага ці каго-небудзь іншага. А як узрадуецца Наташа, калі даведаецца, што яе муж — Веніямін Ламавік — адкінуўся па УДВ (умоўна датэрміновае вызваленне) на шэсць месяцаў раней за прыкладныя і прыстойныя паводзіны, ды яшчэ выйшаў з рознымі пахвальнымі граматамі.

У суседнім двары дзеці гулялі ў хованкі. Відаць, прыехалі на лета да бабулі з горада, бо столькі шмат дзетвары Веня тут раней ніколі не бачыў. Дзеці замаўкалі на некалькі хвілін, калі хаваліся, а пасля раптам падымалі дзіцячы гвалт у спрэчках, дзе, хто і каго знайшоў.

З другога боку з-за плота ў гэты час з цікавасцю выглянула суседка Рэня, якая працавала нейкім эканамістам ў сельсавеце, і Веня, пакуль яшчэ шчаслівы, тут жа, з нахлынуўшай радасцю звярнуўся да яе:

— О, Рэня-Рэнечка! Вітаю, суседка! Як тваё здароўечка?..

— Нармальна! — коратка адказала Рэня-Рэнечка і пацікавілася: — А ты надоўга ці як?

— Я назаўсёды, Рэня! — упэўнена і ўрачыста заявіў Веня.

— А ты не ўцёк?.. — засумнявалася ў нечым Рэня.

— Рэня, як ты магла такое пра мяне падумаць! — ажно пакрыўдзіўся Веня. — Чалавек можа памыляцца, як гаварыў Цыцэрон, але галоўнае — зразумець свае памылкі…

— А ты, што з Цыцэронам сядзеў? — зноў пацікавілася Рэня.

— Эх, Рэня, Рэня, давай не будзем пра гэта, — і Веня ў сваю чаргу запытаўся:

— Якая тут культурная, палітычная і эканамічная сітуацыя ў вашай зоне?

— Гэта ў цябе — зона! — рэзка адказала Рэня. — А з сітуацыяй у мяне ўсё ў парадку, а вось Наташка твая зноў паехала на ба-а-зу, — тут Рэня гэтае «на ба-а-зу» не проста сказала, а шматзначна праспявала па складах.

— Зноў жа ў кароткай спадніцы паехала, бо «козлік» стаіць каля магазіна, — далажыла Рэня як тайны агент ЦРУ і з пачуццём выкананага абавязку дадала:

— Вось так… Думай…

А пасля раптам рассмяялася:

— Ха-ха-ха, Цыцэрон! — і з гэтым ненармальным і не зразумелым для Вені рогатам Рэня рэзка развярнулася і ўцякла ў свае сельскія хароміны.

Веня думаў. Але перш-наперш ён падумаў пра тое, як хутка мяняюцца людзі — была ж Рэня раней талковай жанчынай і вельмі часта мудра мірыла яго з Наташай, а тут — і не прывіталася па-людску, і гаварыць не захацела прыстойна, і нейкі нездаровы рогат… Што робіцца з людзьмі…

Але разам з тым падкралася і нейкае пачуццё няўпэўненасці і трывогі, якія так незразумела і недарэчна пасеяла Рэня. Веня дастаў пачку «Беламорканала», закурыў і задумаўся: «Пра якую такую базу яна гаварыла?.. І чаму Наташа зноў паехала на базу?.. І чаму ў кароткай спадніцы?.. І пра якога такога «козліка» гаварыла з нейкай іроніяй?.. Ці гэта яму так здалося? Пры чым тут «козлік»?.. І гэта здзеклівае «ха-ха-ха!»…

— Палачка-стукалачка… Светка, выхадзі — я цябе знайшоў! — закрычаў хлопчык у суседнім двары на дзяўчынку, якая была схавалася за кустом парэчак. — А ну-ка, выходзь! Выхадзі-ка! — крычаў хлопчык, але дзяўчынка ўпарта працягвала хавацца за кустом.

Веня пастаяў яшчэ хвілінку, паназіраў за дзецьмі, дакурыў папяросу і накіраваўся да стрыечнай сястры і свайго лепшага сябрука і швагра Міці. Жылі яны ўсяго праз чатыры хаты. Планаваў Веня яшчэ адведаць бацькоў, але бацькі жылі трохі далей, у старой вёсцы. І Веня падумаў, што да бацькоў яны лепш пойдуць разам з Наташай.

Міці ў хаце не было — быў на працы. Яго жонка Галіна — сястра Вені — усадзіла Веню за стол, наліла яму міску наварыстай капусты з мясам, напякла яек з скваркамі і паставіла пляшку «Маскоўскай» на стол. Веня наліў сабе поўную гранёную стаграмоўку. Галіна ад гарэлкі адмовілася.

— Ну, сястра, — Веня ўстаў, падняў чарку і ўрачыста прамовіў. — Як гаворыцца, за хлеб і воду, і за свабоду… Будзь здаровай, сястра! — і адным махам перакуліў стаграмовік.

А пасля сеў і моўчкі накінуўся на капусту а пасля на скваркі прыкладна так, як сабака тры дні не еўшы кідаецца на косці.

Галіна ў гэты час расказвала ўсякую жыццёвую ерунду: пра працу, якой вельмі шмат і ўсю не пераробіш, пра гаспадарку, якая адымае ўвесь вольны час, і пра калгас, які за працу плаціць мізер і ў якім няма парадку…

Веня моўчкі слухаў, еў і думаў пра тое, што нічога за час яго адсутнасці ў гэтым свеце не памянялася.

І толькі пасля неяк далікатна Галіна намякнула Веню:

— Веня, не ведаю, як сказаць… Тут нейкі адзін высокі начальнік з райцэнтра зачасціў да нас у цэнтр з праверкамі…

— Са шмонам, кажаш… Ну і што?..

— Дык нічога… Толькі, кажуць людзі, што ён быццам бы кінуў вока на тваю Наташу…

— Што, што ён кінуў? — ускочыў Веня і захваляваўся. — Якое такое вока?..

— Я больш нічога такога не ведаю, — сказала Галіна. — Ты, Веня, еш, еш і разбірайся ў гэтым сам…

Веню гэтая навіна вельмі і вельмі засмуціла. Ён тут жа страціў усякі інтарэс да сквара́к з яйкамі, моўчкі наліў сабе яшчэ сто грам, адным махам выпіў і, не закусваючы, пайшоў у цэнтр разбірацца.

У цэнтры не было шматлюдна, бо, ведама, лета — гарачая пара. Ужо на самым падыходзе да крамы Веню абагнаў, абдаючы пылам з ног да галавы, трактар «Беларус» з прычэпам і тут жа рэзка загамуліў. З трактара выскачыў Мікола Копцеў — стары сябра Вені. Пасля гучных абдымкаў і роспытаў дамовіліся сустрэцца ў Вені пад вечар старой кампаніяй, маўляў, Мікола збярэ усіх, каб весела адзначыць яго, Венін, шчаслівы дзень вызвалення.

І калі Мікола з гучным рокатам ад’ехаў, Веня падышоў бліжэй да сельскай крамы. І першае, што кінулася ў вочы, дык гэта безнадзейная таблічка на дзвярах з надпісам паспешлівай рукою «Паехала на базу»; і гэта база стала Веню адразу абрыдлай і ненавіснай. Веня зноў запаліў «беламорыну», запыхкаў смярдзючым дымам і задумаўся над тым, калі Наташа можа вярнуцца з той абрыдлай базы, бо вечарам намячаецца шумны дзень вызвалення. Так, пыхкаючы ў задуменні, ён раптам заўважыў, што дзверы крамы зачыненыя знутры, а не звонку. Яшчэ больш захваляваўся Веня тады, калі ўбачыў за вуглом крамы «козліка» і ўспомніў, што нешта такое пра «козліка» спрабавала яму сказаць суседка Рэня. Веня дакурыў «беламорыну», сплюнуў недапалак і, цвыркнуўшы слінай праз зубы, рашуча накіраваўся да «козліка».

На пярэднім сядзенні «членавоза», разваліўшыся, спакойна драмаў чалавек, відаць, кіроўца, і ні пра што такое, што хвалявала ў гэты час Веню, не думаў.

Веня даволі гучна забарабаніў далонню па капоце і закрычаў:

— Дзе твой бугор, казёл?

Шафёр ускочыў, адкрыў дзверцы «козліка» і стаў абурана разбірацца:

— Гэта хто — казёл?! Гэта я — казёл?.. Гэта ты — казёл!..

— Дзе бугор твой? — зароў нейкім страшным голасам Веня.

Але, як паказвала практыка, усе райкамаўскія кіроўцы былі не з баязлівых хлопцаў, і гэты кіроўца спакойна і шматабяцальна прагаварыў:

— Ты, фраер, мяне на храпок не пантуй. Табе што, зубы ціснуць?

— Не пылі!.. Бугор твой дзе? — пагрозліва запатрабаваў Веня і, натапырыўшы галаву як бык, пасунуўся ў бок кіроўцы.

І тут у вочы кіроўцу кінуліся нейкія незразумелыя і сімвалічныя наколкі на руках гэтага фраера — такіх у райкамаўскім гаражы не рабілі, і ён зразумеў, што тут не проста чалавек хоча нешта даведацца, тут нешта іншае і, здаецца, пачаў здагадвацца, у чым тут можа быць справа.

— Дзе, дзе… Сам ведаеш, як адказваюць на гэтае пытанне, — бліснуўшы весела вачыма, прагаварыў кіроўца.

— Ты мне, у натуры, вату не катай…

— Ну калі так, тады я магу сказаць і ў рыфму, — і кіроўца вельмі яхідна засмяяўся і кіўнуў галавой на краму. — Там… Правярае нешта такое з бабай… А за «казла» ты яшчэ паплацішся…

У Вені пацямнела ў вачах ад нахлынуўшай падазронасці, а пасля маланкай бліснула страшная карціна здрады: яго Наташа, аголеная, у абдымках правяраючага бугра з раённага цэнтралу…

Веня завыў, як вые страшна галодны воўк у адзіноце ў цёмным лясным гушчары:

— У-у-у-у! Век волі не відаць! — і ўдарыў кулаком па капоце «козліка» так, што капота пстрыкнула і аўтаматычна адляцела ўверх.

— Ты што, страх страціў?! — крыкнуў кіроўца і выскачыў з машыны з завадной рукаяткай ад «козліка», — усё, кранты табе, чувак…

Але чувак не стаў чакаць «крантоў». Ён рэзка развярнуўся і з тымі ж словамі: «Век волі не відаць!» шпарка пакрочыў у кірунку сваёй хаты. Кіроўца некалькі крокаў прайшоўся за ім і вярнуўся да машыны.

Веня каля хаты завярнуў у свой недабудаваны гараж, дзверы якога не замыкаліся і дзе ён складваў некалі свой няхітры такі-сякі інструмент: лапата, сякера, малаток і іншае. У гаражы ён знайшоў лом — ён ляжаў там, дзе Веня яго кінуў амаль што тры гады таму.

У суседнім двары дзеці працягвалі гуляць у хованкі.

— Раз, два, тры, чатыры, пяць, я іду ўжо шукаць! — голасна лічыў хлопчык.

Але Веня ўжо хлопчыка не чуў. Не заўважыў Веня і Рэні, якая праз драўляныя дошкі плоту з цікавасцю адсочвала кожны яго рух. Веня, узброіўшыся ломам, гэтак жа шпарка зноў рушыў да цэнтру.

Кіроўца здалёку ўбачыў Веню і выскачыў радасны з рукаяткай насустрач, але калі разгледзеў у яго руках лом, тут жа развярнуўся як па камандзе «Кругом!», адрокся і рукояткі і драпануў, як пацук, за бліжэйшы рог сельсавета.

Веня не падышоў — падляцеў да дзвярэй крамы, на хвілінку спыніўся і прагаварыў з нейкай лютай злосцю:

— Ну, палачка-стукалачка!.. Будзе раз і будзе пяць — я іду ўжо шукаць! — і стаў іх біць ломам.

Дзверы былі з савецкага жалеза, каваныя, і лом ад іх адскокваў прыкладна так, як баскетбольны мяч ад ігравога шчыта.

— А ну-ка, выходзі-ка! — крычаў Веня і біў у дзверы сваёй «палачкай-стукалачкай», і слёзы капалі з яго вачэй. Капалі ад крыўды, болю, адчаю і бяссілля…

Дзверы не паддаваліся.

І тады Веня накінуўся на шырокія і высокія (амаль два з паловай метры) вокны. Вокны — гэта зусім іншая справа. Нішто так не суцяшае і так не забаўляе абуранага жыццёвымі нягодамі чалавека, як дзынканне шкла, асабліва шкла з вокнаў крамы сельпо, за якімі творыцца нешта нядобрае.

— А ну-ка, выходзі-ка! — закрычаў Веня больш упэўнена і з надзеяй…

І вялікае шкло з характэрным звонам рухнула зверху да нізу, раскінуўшы абапал дробныя аскепкі. Вельмі хутка Веня, увесь скрываўлены драпінамі ад шкла, апынуўся ў сярэдзіне крамы, і лом з тым жа патрабавальным крыкам добрасумленна прайшоўся па прылаўках, маразільных устаноўках, паліцах і нават не спынілі яго заманлівыя наклейкі з надпісамі «Жыгулёўскае», «Агдам», «Вілія», «Руская», «Маскоўская», не спынілі і другія «праннасці»…

Спыніўся Веня толькі на адзін момант, калі ўбачыў, як правяраючы хахаль з раёна смешна скакаў на адной назе, не трапляючы ад страху ў штаніну. І ў гэты ж момант Наташа, адцягваючы кароткую спадніцу ўніз, кінулася да Вені з адчайным крыкам:

— Веня, Венечка! Ты ўсё не так зразумеў…

І ў Венечкі зноў пацямнела ў вачах, і закруцілася галава. Ён адчуў, як з яго чэрапа з апошнімі кроплямі спіртнога выцякаюць мазгі…

— Веня, гэта ж была прымерка…

«Якая такая прымерка?!» — хацеў было крыкнуць Веня, а пасля ўчыніць разборку, маўляў, а ты што тут такое прымярала і г. д. Але турэмнае жыццё яго навучыла, калі адважыўся на сур'ёзную справу, трэба даводзіць яе да канца без слоў, без лішняга «базару». І не пра такую доўгімі бяссоннымі начамі на нарах ён марыў іх сустрэчу, не пра такую…

І ён моўчкі і рашуча падняў свой цяжкі жалезны лом над Наташынай галавой.

Пасля маланкай перад яго вачамі мільганула постаць Наташы з кароткай спадніцай, яе твар з шырока расплюшчанымі ад страху вачыма і постаць, асляпіўшы Веню непрыкрытымі белымі поўнымі ягадзіцамі, быццам фарамі дальняга святла аўтамабіля, знікла разам з незнаёмай, адкормленай і палахлівай (на гэты раз) мордай раённага хахаля за дзвярыма запаснога выхаду.

— А ну-ка, выходзі-ка! — апомніўся Веня і з яшчэ большай лютасцю закрычаў, і драўляныя дзверы ад запаснога выхаду разляцеліся ўшчэнт ад аднаго толькі ўдару. І бачыў Веня, як патрывожаная парачка спачатку шмыганула за вугал крамы, і ў гэты ж момант Веня быў ужо каля таго вугла, але парачка ў гэты ж час была ўжо каля другога вугла. І так яны некалькі разоў, быццам у даганялкі, кружылі вакол крамы. Пры гэтым Веня не забываўся ўсякі раз ударыць ломам у чарговы вугал і пракрычаць: «А ну-ка, выходзі-ка!». Відавочным было і тое, што дыстанцыя між імі ад вугла да вугла рабілася ўсё меншай і меншай. За чарговым вуглом патрывожаная парачка раптам кінулася да «членавоза» у надзеі на шафёра, бо толькі хуткасць машыны ў дадзенай сітуацыі магла іх уратаваць ад караючай Венінай «палачкі-стукалачкі». Але шафёр у

гэты час з цікавасцю назіраў усю гэтую сцэну з-за бліжняга вугла будынку сельскага савета і нічым свайму босу дапамагчы не мог. Адзінае, як пасля аказалася, што было добра зробленае ім, дык гэта незамкнёная машына, якую ён кінуў у той момант. калі ўбачыў страшнага Веню з ломам. Патрывожаная і напалоханая парачка тут жа схавалася ў «членавозе», быццам у крэпасці ці ў мураваных сценах райкама партыі. За некалькі ўдалых скачкоў Веня апынуўся каля «козліка» і з тым жа запрашальным крыкам: «А ну-ка, выхадзі-ка!» яго лом, як караючы меч Феміды, узляцеў над «козлікам» і рэзка з тупым бухам апусціўся… Пасля яшчэ раз, пасля яшчэ… З трэскам правалілася лабавое шкло, пасля сталі адвальвацца бакавыя дзверцы…

— А ну-ка, выхадзі-ка! — крычаў Веня і ўсё бухаў і бухаў ломам.

За гэты час, як на спектакль па трагедыях Уільяма Шэкспіра, сабралася недзе каля двух дзясяткаў добразычлівых гледачоў. Добразычлівых таму, што яны толькі падбадзёрвалі Веню добрымі крыкамі:

— Давай, Веня, давай!

І Веня даваў…

Павязалі Веню ў той момант, калі ён чарговы раз замахнуўся караючым ломам Феміды, каб апусціць яго на акуратна падстрыжаныя кудлы з тоўстай самазадаволенай мордай, якая старалася схавацца пад Наташынай спадніцай, але спадніца была кароткай…

Уся «аперацыя па захопу злоснага рэцыдывіста» — менавіта так было запісана пасля ў міліцэйскім пратаколе — працягвалася не больш за пяць хвілін. Участковы Фелікс ззаду перахапіў рукі Вені, старшыня сельсавета абхапіў яго за пояс, а кіроўца пашкоджанага «членавоза» са словамі: «Гэта табе за “казла”!» рукаяткай стукнуў па галаве. У вачах зноў нешта бліснула і пацямнела, падкасіліся ногі, і гэтага было дастаткова, каб Веню збіць з ног. На яго навалiліся зверху, і старлей Фелікс спрытна накінуў жалезныя «бранзалеткі» на рукі і, для надзейнасці, на ногі — на тое ён і Фелікс.

— Ваўкі пазорныя! — крычаў пакрыўджаны на ўвесь белы свет акрываўлены Веня, але яго ўжо ніхто не слухаў і ніхто яго ўжо не баяўся.

Ужо ў наступную хвіліну патрывожаная парачка асцярожна выпаўзала з разбітага членавоза, вакол якога бегаў і ахаў кіроўца, узмахваючы рукамі; Фелікс і старшыня сельсавета запыхкалі дымком, пільна наглядаючы пры гэтым за Венем, які сядзеў звязаны тут жа пад старой ліпай. І толькі незадаволены шум прайшоўся ў добразычлівым натоўпе, маўляў, за што пабілі чалавека. Пад гэты шумок Мікола Копцеў, дамагаючыся справядлівасці, счапіўся быў з кіроўцам на кулакі, але старлей Фелікс злосным крыкам: «Усіх перасаджу!» тут жа супакоіў і разагнаў натоўп.

А неўзабаве, па выкліку Фелікса, прыехаў з раёна міліцэйскі УАЗік (па народнаму — «бобік»), і адправіў Фелікс чарговы раз Веню Ламавіка туды, куды звычайна ў такіх выпадках адпраўляюць тых, хто злосна парушае маральны кодэкс будаўніка камунізму, мір і супакой савецкіх грамадзян.

Веню тады так і не ўдалося паглядзець на свае сцены, пасядзець у сваім крэсле, адзначыць свой дзень вызвалення, паваляцца на сваёй канапе і, галоўнае, расцалаваць рукі і ногі сваёй Наташцы, — а так хацелася…

Наташа ад перажытага страху і шоку пасля гэтага злягла ў бальніцу, а краму сельпо зачынілі на капітальны рамонт.

5

Судзілі Веню як рэцыдывіста-крымінальніка. Іск быў чамусьці аформлены ад імя Наталлі Ламавік — так, відаць, некаму трэба было. Сведкамі выступалі старшыня сельсавета таварыш М. К. Смутлов, участковы старшы лейтэнант Фелікс і кіроўца службовай машыны другога сакратара райкама партыі. Сам жа другі сакратар таварыш Р. П. Тыцкун на судзе не прысутнічаў з прычыны важнай занятасці ў вырашэнні праблемных пытанняў развітога сацыялізму, агучаных на апошнім пленуме ЦК КПБ (Цэнтральны камітэт камуністычнай партыі Беларусі).

Пракурор у абвінаваўчым акце зачытаў неперспектыўныя заслугі падсуднага Веніяміна Іванавіча Ламавіка, «які, пасля злоўжывання моцнымі алкагольнымі напоямі, учыніў разбой і спробу забойства двух і больш чалавек, а менавіта: грамадзянкі БССР Наталлі Васільеўны Ламавік, з якой ад 1978 года зарэгістраваны Арлынскім сельскім саветам народных дэпутатаў законным шлюбам (даведка прыкладаецца) і грамадзяніна БССР Рамана Пятровіча Тыцкуна, які, выконваючы непасрэдныя службовыя абавязкі ў адпаведнасці са сваёй прафесійнай дзейнасцю, знаходзіўся ў памяшканні магазіна сельскай патрэбкааперацыі в. Арлына, Арлынскага сельскага савета. Спроба забойства чэсных грамадзян БССР Н. В. Ламавік і Р. П. Тыцкуна, — працягваў пракурор, — суправаджалася пагромам і псаваннем дзяржаўнай маёмасці (далей ішоў пералік усяго, да чаго дакрануўся незаконна караючы лом Феміды — заўвага аўтара) на вельмі вялікую суму — каля 70 тысяч савецкіх рублёў…

Дзяржаўны адвакат нешта спрабаваў гаварыць пра стан афекту, але так і не прывёў пераканаўчых довадаў. А пасля папрасіў Высокі Суд, каб ён улічыў, што ў такім не зусім адэкватным стане алкагольнага ап’янення ў дзеях адказчыка не магло быць кантралюемага злога намеру.

Сведкі сведчылі тое, што бачылі, а бачылі яны пагром дзяржаўнай маёмасці і нецвярозага Веню Ламавіка, які невядома з якой такой нагоды насіўся з ломам за сваёй жонкай Наташай і за таварышам Тыцкуном з раёна.

Між іншым, суддзя — вельмі строгая жанчына ў акулярах — задала Веню толькі адно пытанне:

— Растлумачце, падсудны, з якой такой мэтай вы з жалезным ломам дамагаліся Наталлі Ламавік і правяраючага таварыша з раёна?

— Я хацеў правяраючаму таварышу з раёна лом падарыць жалезны, бо пластмасавых у нас не робяць, — вельмі сур’ёзна і сумна адказаў Веня. — А яны ўсё не так зразумелі…

— Не разумею, навошта члену партыі, работніку партыйнага апарата жалезны лом? — паціснула плячамі строгая жанчына ў акулярах і стукнула сваім драўляным малаточкам па стале. На гэтым увесь працэс завяршыўся.

Дарэчы, настукала яна тым малаточкам Веніяміну Ламавіку ажно восем гадоў яшчэ з больш ненармальнымі ўмовамі для развіцця, чым папярэдні рэжым.

На пытанні цікаўных да гэтай гісторыі людзей, за што Веню далі столькі строгага рэжыму, колькі савецкі суд звычайна дае за забойства чалавека, больш дасведчаныя адказвалі: «…Далі за тое, што з ломам папёр на другога сакратара райкама партыі. Думаў, што супраць лому няма прыёму… За гэта маглі б і болей даць, — гаварылі дасведчаныя. — Маглі б і палітыку “прышыць”».

6

Гісторыя гэта мела яшчэ адзін цікавы паварот.

Другі сакратар раённага камітэта партыі таварыш Раман Тыцкун і сапраўды даэкспедыцыраваўся. Справа ў тым, што недзе праз паўтары гады пасля згаданых падзеяў у Арлынскім сельсавеце, на імя першага сакратара райкама партыі таварыша У. А. Патупы прыйшоў ліст ад нейкай грамадзянкі Наталлі Ламавік, у якім яна пісала, што зараз нідзе не працуе і адна выхоўвае гадавалае дзіцятка — дачушку Кацю, бацькам якой з'яўляецца другі сакратар раённага камітэта партыі таварыш Раман Пятровіч Тыцкун, і які адмовіўся прызнаць сваё бацькоўства, матэрыяльна ёй дапамогі не аказвае і больш за тое, пагражае ёй расправай, калі яна будзе і далей дабівацца справядлівасці.

Наталля Ламавік у лісце прасіла першага сакратара райкама партыі таварыша У. А. Патупу паспрыяць ёй як пацярпелай і застаўшыся адной без мужа-кармільца ў атрыманні штомесячнай матэрыяльнай дапамогі на ўтрыманне «райкамаўскага» немаўляткі і паўплываць партыйна і маральна на сумленне і камуністычную свядомасць таварыша Р. П. Тыцкуна, інакш яна вымушана будзе звярнуцца ў справядлівы савецкі народны суд з патрабаваннем выплаты ёй ад таварыша Р. П. Тыцкуна належнай сумы фінансаў у якасці аліментаў на ўтрыманне іх сумеснай з таварышам Р. П. Тыцкуном дачушкі Каці. Ліст грамадзянкі Н. В. Ламавік завяршаўся словамі: «Паважаны Уладзімір Аляксандравіч, таварыш першы сакратар раённага камітэта партыі, не загубіце маю ісцінную веру ў справядлівую лінію Камуністычнай партыі».

7

*P. S.*

Мясцовы краязнаўца ў час аднаго гарадскога ўрачыстага мерапрыемства сустрэўся з былым першым сакратаром райкама партыі таварышам Уладзімірам Аляксандравічам Патупам. Было гэта тады, калі ўжо не было аніякіх партыйных сакратароў і не было ўжо адзінай кіруючай і напраўляючай партыі. Выйшлі неяк выпадкова папыхкаць дымком і разгаварыліся. Між іншым, згадалі пра Тыцкуна.

— Дык ён жа размнажацца стаў у маім раёне! — усклікнуў абураны былы функцыянер партыі, як толькі пачуў яго прозвішча. — У яго ж, кабяліны, быў спіс жанчын, і паводле гэтага спісу ён і праводзіў свае экспедыцыі! Я спрабаваў з ім пагаварыць па-добраму, кажу, што не да твару партыйнаму работніку, члену бюро абкама партыі раскідвацца такім членствам направа і налева… А ён, ведаеце, што мне сказаў?..

— Што?

— Штампую кадры савецкай краіне, назло буржуазнай Еўропе!..

— Моцна сказана, — адзначыў краязнаўца.

— Дык жа для гэтага, — кажу яму, — жонка ёсць, штампоўшчык ты ср… на чужых станках! — працягваў абурацца былы партыец. — Даштампуешся, — кажу, — ты, Тыцкун, рана ці позна, датыцкаешся!.. І што?.. І датыцкаўся…

Тут Уладзімір Аляксандравіч дастаў цыгарэту, запальнічку, пстрыкнуў і зацягнуўся дымком. Тое ж самае зрабіў і краязнаўца.

— Праўда, на раённым узроўні мы яго адмазалі, — прадоўжыў тэму былы сакратар партыі. — У яго ж і жонка была, і талковая, і прыгожая, дзеці — пашкадавалі,

узялі на парукі… А прадаўшчыца тая ў абкам партыі напісала і ў абласны суд падала. Абяцала Машэраву напісаць… Для Тыцкуна такія лісты матывавалі вельмі шмат непрыемнасцей. Былі разборкі ў райкаме і на пасяджэннях бюро абкама партыі, на якіх спецыяльна прысутнічаў прадстаўнік ад ЦК КПБ, разглядалі персанальную справу Тыцкуна. Вось уяві сабе: падымае мяне першы сакратар абкама партыі і патрабуе, каб я далажыў абстаноўку на ідэалагічным фронце раёна. А што мне гаварыць?! Кажу, што да ідэалагічнай працы таварыша Тыцкуна ў мяне прэтэнзій няма. Там няма завалаў… У таварыша Тыцкуна ёсць толькі залёты… А пасля пайшлі выступы членаў бюро, абмеркаванні. Адзін кажа, што гэта добра, маўляў, у чалавека правільная арыентацыя, не тое, што на дзікім Захадзе, такіх трэба падтрымліваць… Я тады не ўтрымаўся ад рэплікі, кажу, што тады мне трэба аб'явіць падзяку… Былі выступы і такога кшталту, што, маўляў, «нельга так безапеляцыйна раскідвацца семянным фондам — не па-бальшавіцку гэта…». Увогуле, даходзіла да яго прафесійнай неадпаведнасці пасадзе другога сакратара… Ставілася пытанне аб мэтазгоднасці яго членства ў партыі — так і заяўлялі некаторыя члены: «Ты ж апазорыў усю партыю! Які ты, нахер, член!»… А пасля яшчэ адна з'явілася такая ж пакрыўджаная Тыцкуном — таксама пісаць умела… І пайшло… І паехала… Цягалі яго за гэтыя геніталіі недзе каля двух гадоў… Не ведалі, што рабіць…

— І чым гэта ўсё скончылася? — не цярпелася даведацца краязнаўцу.

— Чым?.. Тэлефануе мне Кляцкоў, першы сакратар абкама партыі, і кажа: «Што ты за бардэль развёў у сваім раёне?! Аб'яўляю табе строгую вымову з занясеннем у асабістую справу!..» Я яму так і так, кажу, забярыце ад мяне гэтага асемяняльніка… «Добра, — кажа ён, трохі падумаўшы — забяром, перавядзём у другі раён, але вымова застаецца…» І што ты думаеш — не захацеў Тыцкун пераводзіцца ў іншы раён. Кажа мне: «У мяне тут база… Я яе гадамі ствараў…» І я тады на яго: «Ах ты партыйны б…*.

— …Вон, кажу, з кабінета, вон з раёна! — працягваў далей таварыш Патупа. — А тут не так усё проста… Раптам — тэлефон з ЦК: я такі і такі інструктар партыі, хацелася б неяк уладкаваць палюбоўна справу з таварышам Р. П. Тыцкуном, ну аступіўся таварыш, з кім не бывае, але гэта наш таварыш, правераны, маўляў, за намі не заржавее і г. д… Аказалася — нейкі сваяк Тыцкуна!..

— Вось яно што! — усклікнуў краязнаўца.

— Дык, і гэта ж яшчэ не ўсё… Лавачніца тая дабілася суда наконт аліментаў, і на суд ужо хочаш не хочаш, а колькі ўжо можна было пакрываць, вымушаны быў прыйсці і Тыцкун у якасці адказчыка… І вось ужо ў працэсе з залы падымаецца нейкая жанчына з сямігадовым хлопчыкам, а хлопчык — выліты Тыцкун, усе крывінкі пабраў… І жанчына, дэманструючы хлопчыка, заяўляе, што ён таксама плод ідэалагічнай працы таварыша Тыцкуна… У чым ужо ніхто не сумняваўся…

Тут таварыш Патупа зрабіў глыбокую зацяжку:

---

* Тут былы таварыш першы сакратар райкама партыі сказаў слова на літару «б…». Мусім расчараваць чытача, бо — гэта не «бугор» і нават не «бос», а слова гэтае нецэнзурнага паходжання і ў рамках прыстойнасці мы не можам яго надрукаваць тут цалкам. — *Заўв. рэд.*

— Хіба гэта тытунь?.. Трава. Вось раней былі нашы «Прыма» ці «Гродна» — на ўвесь Саюз славіліся…

Краязнаўца пагадзіўся наконт тытуню, хаця менш за ўсё яго ў гэты момант цікавіла якасць цыгарэт:

— Ну, а далей што? — не цярпелася краязнаўцу.

— …Ну, а што далей… і ўсё, — вярнуўся да тэмы таварыш Патупа. — Тут перабудова… Гарбачоў гэты… Плюралізм, дэмакратыя… Саюз рухнуў… Партыю развалілі… А Тыцкун у царкву кінуўся… Нехта казаў мне, што пасля ўсяго гэтага бачыў Тыцкуна — той коз пасвіў уздоўж дарогі, відаць, у бізнес пайшоў… Зноў жа, з казла — якія аліменты…

Пасля той гутаркі з таварышам Патупам, надумаў краязнаўца спаткацца з самім Тыцкуном — усё ж такі цікавая асоба, але доўга не выпадала такой магчымасці. А час ішоў. Мяняліся часы, сістэмы, улады… І новай уладзе спатрэбіліся дасведчаныя спецыялісты ў арганізацыі тых жа выхаваўчых працэсаў і дзяржаўнай ідэалогіі. І неяк раз, праходзячы калідорамі раённай выканаўчай улады (мясцілася ў былым памяшканні райкама партыі), краязнаўца заўважыў на дзвярах таблічку з кідкім надпісам: «Заг. аддзела Р. П. Тыцкун» і здзівіўся, а ці не той гэта Тыцкун?..

Тыцкун аказаўся тым. Сімпатычная сакратарка сказала, што да Рамана Пятровіча можна трапіць толькі праз запіс на прыём на наступны месяц. Але запісвацца да яго на прыём краязнаўца не стаў. Ён колькі хвілін глядзеў на таблічку, а пасля нядоўгіх ваганняў стукнуў кулаком у тыя дзверы і, на здзіўленне сакратаркі, гучна выкрыкнуў: «А ну-ка, выходзі-ка!..» І спакойна, з чыстым сумленнем пайшоў у канец доўгага калідора ўлады. А ў канцы калідора з нейкай бакавушкі нечакана, з прафесійнай цікавасцю, выскачыў яму насустрач патаўсцеўшы сапраўдны маёр Фелікс і перагарадзіў дарогу…



нарадзіўся 17 сакавіка 1956 года ў вёсцы Труханава Смаргонскага раёна. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1985) і аспірантуру (1997), кандыдат культуралогіі, дацэнт. Аўтар 3 навучальных дапаможнікаў і манаграфій «Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі» (2013), «Беларускае каталіцкае духавенства ў сацыякультурным працэсе першай паловы XX ст. Ч. 1» (2019), кніг «Партрэты ў інтэр’еры Гародні: пародыі, эпіграмы» (2013), «Саветы» (2015). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Гродне.



## УЛАДЗІМІР ХІЛЬМАНОВІЧ

### Канапа

Канапа — гэта адно з найвялікшых дасягненняў чалавецтва. На офіснай канапе развязваюцца найважнейшыя бізнесовыя пытанні, на хатняй — разыгрываюцца сямейныя жарсці, зачынаюцца новыя людзі. Бывае і наадварот. А бывае і тое і іншае і там і там. Ды няма нічога больш прыемнага, чым ляжаць на канапе і чытаць кніжку ці ўлюбёную газету. Для нармальнага чалавека канапа — гэта блакітная мара ўсяго жыцця паміж віхураў мітусні і тлуму: як прыемна на яе класціся ўвечары пасля цяжкога дня, як соладка на ёй спаць, як прыемна з раніцы пацягвацца і лавіць асалоду выходнага дня. Канапа — родная сястра ложка, але куды больш шляхетная і вышталцоная прадстаўніца сямейства мэблевых. Канапа — гэта паказчык заможнасці, аснова дабрабыту і камфорту, гэта альфа і амега ўтульнасці.

Юрка Балюк не меў сваёй канапы. Не меў ён і кватэры, хоць і быў выкладчыкам тэхнікума. Пятнаццаць гадоў халасцяцкага жыцця ў інтэрнаце зрабілі яго бурчлівым і раздражнёным, калі справа датычыла супрацьлеглага (дзіўнае слова, бо яго прадстаўніцы якраз зусім не супраць!) полу. Ён не заляцаўся да маладзенькіх юрлівых студэнтак, якія адмыслова апраналі на яго заняткі спакушальныя кароценькія спаднічкі ды іншыя аксесуары адзення, якое ў летні час толькі з умоўнасцю можна было назваць верхнім. І не таму, што яны яму не падабаліся і не будзілі адвечнага мужчынскага памкнення. Распе095азацца і разгуляцца яму не дазваляла працоўная прафесійная этыка. А на пошукі знаёмстваў у кнайпах і барах папросту не ставала грошай. Таму Юрка меў адну сталую каханку, на жаль, далёка, ажно ў Менску, да якой наведваўся перыядычна, на выходныя ці адпачынак.

Дарога да сталіцы яго заўжды раздражняла і злавала — трэсціся ўсю ноч смуродным цягніком было сапраўды стамляльна, а аўтобусам, хоць і было ў два разы хутчэй, але выходзіла дарагавата. На гэты раз ён выехаў у пятніцу начным цягніком. Яму яшчэ пашанцавала — касавокая касірка, ні то падміргнуўшы, ні то нешта глынуўшы, падкрэсліла ягоную ўдачу:

— Апошняе месца, малады чалавек!

— Апошняя ў папа жонка, — адразу буркнуў Юрка, але схамянуўся і ўслед адказаў рэверансам — ні то лагодным позіркам, ні то зычлівай усмешкай. Ажно касавокая дама бальзакаўскага веку заірдзелася. Якраз як тая чэхаўская гераіня, адзначыў у галаве Юрка: «Ёй упершыню ў жыцці пацалавалі руку, і яна не вытрымала, закружыла»...

Уладкаваўшыся на верхняй паліцы перапоўненага плацкартнага вагона, Балюк адразу паспрабаваў заснуць, але марна. Знізу двое «пралетарыяў» расклалі на газету селядзец, і абмяжоўвацца гэтым відавочна не збіраліся. У канцы вагона грала музыка з транзістара. Насупраць кабета закалыхвала дзіця, якое маўклівасцю таксама не вылучалася, а ў тамбуры жаласліва скуголіў сабачка. «Пракляты цягнік!» — пяшчотна падумаў Юрка, адкуль тут узяўся гэты сабака? На іх жа ніколі не прадавалі квіткі.

— Пасцель браць будзеце? — бесцырымонна абарвала роздум тоўстая праўдніца з носам Джаконды. Самадастатковыя «пралетарыі» адмоўна і рашуча захіталі галовамі, Юрка палез у кішэнь портак і, выцягнуўшы некалькі патрэбных паперак, разлічыўся за звыклы камплект бялізны.

— Не забудзьцеся з раніцы сабраць і здаць! — замест «Добрай ночы!» прабубніла Джаконда.

Балюк заслаў адну прасціну, утрамбаваў у маленькую навалку куды большую падушку і зрабіў другую спробу заснуць. А пасля накрыўся прасцінай з галавой і, змучаны цяжкім днём, урэшце заглыбіўся ў сон…

…Выйшаўшы на перон, дзе гуляў пранізлівы сівер, традыцыйны для беларускай сталіцы, якая «ўпэўнена глядзіць у будучыню», Юрка падняў каўнер і падаўся на прыпынак у кірунку Інстытута культуры. Яго пасія жыла ў тым мікрараёне ва ўласнай кватэры. Па дарозе ён адзначыў для сябе твары атлусцелых міліцыянтаў — у Менску яны чамусьці розніліся ад правінцыйных большай жлобскасцю, сваёй трыбухатасцю і нейкай азызласцю.

Праз дваццаць хвілін, знайшоўшы патрэбны пад’езд, ён не паспеў нават націснуць на патрэбную кнопку — дзверы расчыніліся, і ягоная Галя кінулася яму на шыю:

— Юрка, здароў, як ты ў час! А я думала, што будзеш толькі пасля абеду, а я якраз канапу купіла, учора заплаціла, а зараз павінны прывезці, вось выйшла пашукаць каго, каб дапамог разгрузіць і занесці ў кватэру.

Такі пачатак не вельмі ўзрадаваў Юрку: Галя жыла на восьмым паверсе, і перспектыва пачаць дзень з таго, што цягнуць гэтую халерную канапу ўгару, душыцца і прэць, настрою не дадавала. Але куды тут дзенешся… Нічога — супакойваў ён сам сябе, зацягну, прыму душ, а там ужо адарвуся напоўніцу.

Машыну з мэбляй давялося чакаць гадзіны паўтары, ад чаго Юркаў настрой не прыўзняўся. Кіроўца фургончыка, на якім вялікімі сінімі літарамі было напісана «Грузоперевозки — уют в каждый дом», апынуўся балбатлівым мужыком гадоў пяцідзесяці, які не змаўкаў. Удвох з Юркам яны пацягнулі шырокую канапу да месца прызначэння. Канапа была цяжкая, так што даводзілася спыняцца на кожным паверсе. Урэшце яе давалаклі, балбатун атрымаў сваю дваццатку і на развітанне праспяваў у бок Галі:

С милым дома, с милым в бане,
На тахте и на диване…

— Жадаю, гаспадынька, каб канапа служыла доўга і не рыпела! — і, падміргнуўшы Юрку, напяваючы сабе пад нос ужо нешта іншае, знік за дзвярыма.

У Юркі нібы камень з грудзей ссунуўся. Настрой у яго адразу прыўзняўся. За пару хвілінаў ён абадраў цырату з канапы і відавочна застаўся задаволеным сабой.

— Ну добра, давай хуценька ў лазенку, а я зараз нешта на стол падрыхтую, — яшчэ болей прыбадзёрыла яго Галя.

Праз хвілін пятнаццаць Юрка, асвежаны прахалоднай вадой, ужо сядзеў на новай канапе і раскаркоўваў пляшку купленага яшчэ ў Гародні чырвонага віна. Ён узняў свой келіх і ўрачыста прамовіў:

— Ну, за тое, каб канапа не рыпела! — але не паспеў нават чокнуцца са сваёй пасіяй. У дзверы настойліва пазванілі.

На парозе з’явіўся здаравенны бамбіза, які, як стала зразумела з яго ласкавага позірку, таксама не чакаў тут Юркавай прысутнасці.

— Знаёмся, Юрка, гэта Віця, — не разгубілася Галя і дастала з серванту яшчэ адзін келіх.

— Я табе пра яго расказвала, — бамбіза ашчэрыўся і выціснуў з сябе нешта кшталту ўсмешкі.

Юркава далонь патанула ў яго агромністай руцэ.

«Такі адзін раз уваліць — і будзе дастаткова, — адзначыў для сябе Юрка, — чортава баба, нічога яна мне ні пра якога Віцю не расказвала. Курва, завяла сабе яшчэ аднаго хахаля!»

Разумееш, Віцька, я якраз сёння канапу купіла новую, вось вырашылі замачыць пакупку, — залагоджвала далей Галя сітуацыю.

— Канапа — справа добрая, — адгукнуўся бамбіза і вывалак з поліэтыленавай торбы літровую пляшку «Сталічнай».

— Дай, Галя, шклянкі большыя, а то з гэтых мензурак мы будзем суткі піць. Галя пайшла на кухню шукаць адпаведныя шклянкі, а Віцька нахіліўся да Юркі і сцвердзіў:

— Во файная баба, праўда?!

Юрка нават не знайшоўся, што адказаць на такую ні то нейтральна кампліментарную, ні то канфрантацыйную тыраду, ды ўжо з’явілася Галя з вялікімі шклянкамі і талеркай пакроенага сала.

Бугай адным рухам скруціў бутэльцы галаву і наліў гарэлку ў шклянкі.

— Ну, то давайце шахнем за тое, каб гэтая канапа не рыпела!

Але выпіць зноў не ўдалося. У дзверы чарговы раз пазванілі. Галя падхапілася, і праз колькі секунд на парозе з’явіўся яшчэ адзін госць — хударлявы хлопец у старамодным турэцкім швэдары гадоў дваццаці пяці.

— Знаёмся, Генка — гэта Віктар і Юра, я тут сёння канапу сабе купіла, то вось сядзім з хлопцамі, адзначаем.

Юрка з Бугаём толькі пераглянуліся, а Галя пайшла яшчэ па адну шклянку. Сітуацыя набывала ўжо зусім гратэскавы гогалеўскі сюжэт. Не чакаючы тоста, Юрка схапіў шклянку і нагбом перакуліў змесціва. Запіў віном з першага келіху і стаў закусваць. Пабачыўшы гэта, агромністы Віцька імкліва зрабіў тое самае.

З’явілася Галя.

— А, вы ўжо выпілі без мяне? Налівай, Віцька, па новай!

Бамбіза паслухмяна напоўніў шклянкі. Павісла маўчанне, якое нясмела перапыніў Генка:

— Ну што, хіба давайце вып’ем за тое, каб гэтая канапа доўга служыла і не трашчала!

Цяпер ужо Юрка не вытрымаў і адчайна ды агрэсіўна выскаліўся, нібы той сабака ў пастцы:

— Так, хлопцы, я прыехаў сюды здалёк, цягаў гэтую канапу і нікуды сёння адсюль не пайду! Бо ісці мне ў вашым горадзе больш няма куды, — і рэзка нагбом кульнуў налітае, маўляў, адна казе смерць.

Галя зачырванелася, але маўчала. Бамбіза Віцька замест таго, каб прыкончыць Юрку адным ударам свайго магутнага кулака, нечакана разгублена стаў апраўдвацца:

— Ну, ты прабач, мы ж не ведалі, слухай, ты не супраць, калі мы пасядзім яшчэ, даб'ем гэтую бутэльку?

— Дап'ем, канечне, не звяры ж, — прыкметна палагоднеў Юрка, адчуваючы, што ініцыятыва канчаткова пераходзіць у яго рукі.

Яшчэ праз паўгадзіны, прыкончыўшы пляшку і закусіўшы, абодва хлопцы развіталіся і пайшлі. Бамбіза перад адыходам паспеў яшчэ шапнуць Юрку:

— Ты ўжо правер сёння гэтую канапу як след.

Пасля такога наказу і адыходу канкурэнтаў Юрку чамусьці агарнула абыякавасць і нейкая інфантыльнасць. Пакуль Галя мыла посуд, ён дапіў проста з бутэлькі віно, не скідаючы адзення, разваліўся на новай канапе і праваліўся ў іншае вымярэнне. Сніліся яму плацкартны вагон з вялікім надпісам «Грузоперевозки — уют в каждый дом» і Віцька-бамбіза ў форменным кіцелі і фуражцы чыгуначніка. На адной з верхніх паліц сядзела Галя і цалавалася з тоўстай правадніцай-Джакондай. А ў тамбуры жаласна скуголіў сабачка…

## Раніца дырэктара

Дзень пачынаўся як звычайна. Лявонцій Сцяпанавіч увайшоў у свой кабінет, звыклым рухам адкаціў мяккае крэсла, бухнуўся ў яго і пад'ехаў бліжэй да стала. З лянівасцю задаволенага сабой і навакольным светам чалавека ён пачаў раскладаць свежую пошту: некалькі запрашэнняў, стос газет, сярод якіх вылучаліся пяць асобнікаў «Советской Белоруссии» і яшчэ ліст, спрэс заклееены маркамі, — ажно з далёкай Кубы. Лявонцій Сцяпанавіч Крывашапка быў дырэктарам местачковай школы, якая лічылася ўзорнай у раёне. За выдатныя дасягненні колькі гадоў таму ён у ліку іншых актывістаў «Белай Русі» быў узнагароджаны паездкай за акіян — ажно на «востраў Свабоды». Пасля гэтага візіту на адрас школы з Кубы рэгулярна прыходзіў канверт з часопісам «Хувентуд» на гішпанскай мове, асобныя нумары якога Лявонцій Сцяпанавіч нават не распячатваў. На гэты раз ён, аднак, разадраў канверт і выцягнуў нікому не патрэбны асобнік на незразумелай мове. На вокладцы быў змешчаны партрэт гераічнага камандантэ з дзяўчынкай на руках. Лявонцій Сцяпанавіч не стаў нават гартаць часопіс і пляснуў на стол.

Дырэктару было крыху за сорак гадоў, але выглядаў ён на старэйшага. Характэрная лысіна, пузаты жывот і вечна пакамечаны гарнітур выдавалі ў ім тыповага кіраўніка адказнай структуры, ячэйкі выхавання беларускага грамадства. Гонарам дырэктара быў тэлефон, які злучаўся голаснай сувяззю з кабінетам сакратаркі. Яго два гады таму прэзентаваў школе спонсар — раённы завод электраапаратуры. Дзякуючы гэтаму тэлефону Лявонцій Сцяпанавіч урэшце адчуваў сябе высокім начальнікам. У маладыя гады кар'ера яго развівалася па ўзыходнай. Крывашапка быў камсамольскім актывістам і марыў пра сур'ёзнае кіроўнае месца. Але тут ляснуўся Савецкі Саюз, і замест ідэалагічнай працы ён быў змушаны ісці працаваць простым настаўнікам гісторыі ў аддаленай вёсцы раёна. Там ён прападаў некалькі гадоў, але

пасля першых прэзідэнцкіх выбараў спакваля пачаў выбірацца наверх. Яго заўважылі і неўзабаве ацанілі. Урэшце дабраўся і да пасады дырэктара школы. А там, глядзіш, і ў раённы цэнтр запросяць…

— Лявонцій Сцяпанавіч, да вас наведнік, — перапыніў яго салодкі роздум голас сакратаркі Зіначкі ў гучніку тэлефона. — Пускаць?

— Пускайце! — крыху незадаволеным голасам чалавека, якога адарвалі ад важных дзяржаўных спраў, прамовіў дырэктар. Калі праз дзясятак секунд у кабінет увайшоў чалавек, ён нават не адарваў вачэй ад стала. Гэта была яго звыклая манера абыходжання з ніжэйшымі па рангу. Пра прыезд вышэйшага начальства Лявонцій Сцяпанавіч заўсёды ведаў загадзя ад сваёй швагеркі Пятроўны, якая працавала ў раённай структуры адукацыі. Таму да такіх візітаў ён быў заўжды падрыхтаваны, а школа — вылізана і вычышчана да таго самага ўзорнага выгляду.

— Лявонцій Сцяпанавіч? — пачуў ён роўны жаночы голас. Тое, што «наведнік» аказаўся жанчынай, яго не здзівіла: у адукацыйных установах яшчэ з бэсэсэраўскага часу павялося так, што асоба не мела плоці — жанчына ўсё роўна называлася «дырэктар», «касір», «бухгалтар», «наведнік» і гэтак далей.

— Крывашапка?! — голас відавочна дабавіў металічных нотак і прагучаў ужо амаль над вухам, так што дырэктар здрыгануўся і амаль што не падскочыў. Ён нарэшце ўзняў маленькія вочкі і… ледзь не аслупянеў. Пасярод ягонага кабінету стаяла высокая сімпатычная брунетка. Наведніца была амаль голая — на ёй былі толькі доўгія скураныя боты, ружовыя трусікі, якія ледзь прыкрывалі самае патаемнае, і класічныя строгія акуляры. Чорныя валасы былі дасканала сабраныя і замацаваныя ззаду нейкімі мудрагелістымі зашчэпкамі. Лявонцій Сцяпанавіч ледзь не аслеп ад яе падцягнутага жывата і белі стромых грудзей. Сонца з шырокага вакна адбівала промні ад зграбнай жаночай фігуры яму проста ў твар.

— Дык, значаць, вы і ёсць дырэктар гэтай школы, — тонам, не пакідаючы сумневу ў сваёй перавазе, працягвала таямнічая і дзіўная наведніца.

— Так, Лявонцій Сцяпанавіч Крывашапка! — адрапартаваў збянтэжаны дырэктар. Ён памкнуўся прыўзняцца, але ножка крэсла паехала, і ён нязграбна зваліўся назад. — Прабачце, сядайце, калі ласка! — дырэктар з другой спробы ўрэшце ўскочыў і паслужліва падсунуў суседняе крэсла незнаёмцы.

— Гэта вы тут суткамі сядзіце, праціраеце порткі, мне няма калі рассядацца! — сказала як адрэзала тая і прайшлася па дырэктарскім кабінеце да акна. Дзяржаўныя інтарэсы трэба пільнаваць!!!

Дырэктар абліваўся халодным потам, думкі ў яго галаве мільгалі, як касяк маленькіх рыбак: «Няйначай з аблана прыслалі, каб з раяна, то Пятроўна папярэдзіла б. А можа, і з самой адміністрацыі… Апошняе слова «…прэзідэнта», — цюкнула яму ў скронь, нібы куля.

— Прабачце, а як вы сюды прыйшлі? — дырэктар хацеў сказаць «голай» і ледзь не вымавіў гэта, але ў час схамянуўся і няўклюдна закончыў. — Пешшу?

— Не, я на машыне прыехала. А плашч пакінула ў вітальні вашай сакратарцы, каб яна пачысціла, дарогі тут у вас чорт ведае якія, раз толькі вылезла з машыны — і забрудзіла крысо.

«Значыць, здалёк», — дапяў Лявонцій Сцяпанавіч і ледзь не здранцвеў ад сваёй страшнай здагадкі.

— Буду ў вас куратарам, — канкрэтызавала брунетка. — Мяне завуць Маргарыта Артураўна.

— Вельмі прыемна, — выгнуўся ў паклоне дырэктар. — А скажыце, калі ласка, што вы будзеце курыраваць: выяўленчае мастацтва, эстэтыку ці, можа, увесь культурны працэс? — лісліва, стараючыся зрабіць ускосны камплімент грознай незнаёмцы, далікатна запытаўся Лявонцій Сцяпанавіч.

— Я буду курыраваць ПВП — пачатковую вайсковую падрыхтоўку, — расшыфравала Маргарыта Артураўна. — І пачынаць, відаць па ўсім, будзем з настаўнікаў і адміністрацыі школы. Вось вы, прыкладам, колькі разоў можаце адціснуцца ад падлогі? Напэўна, разоў пяць, не больш? Прадэманструйце!

Дырэктар зусім збянтэжыўся, але голас Маргарыты Артураўны не пакідаў выбару. Ён паслухмяна прыняў адпаведную пазіцыю і, ледзь адціснуўшыся тры разы, знясілена ўпаў на дыван.

— Я так і ведала… — з’едліва прамовіла суровая куратарка. — Уставайце ўжо, гэта вам не пузам аб Зіначкін жывоцік ляпаць!

Дырэктар ускочыў як уджалены. Адкуль яна ведае? Няўжо Зінка здала? Як яна магла — прыгрэў змяю, падвысіў ёй заробак. Не, не магла, не ў яе інтарэсах. А можа, гэта ўвогуле які шантаж, і гэтая дамачка зусім не з аблана і не з адміністрацыі?.. Таму яна і голая. Здымуць зараз праз акно на відэа, а потым даказвай, што гэта не ты яе распрануў. Страшная версія зусім падкасіла яго — дырэктар плюхнуўся ў крэсла і ледзь не страціў прытомнасць.

Але брунетка і не думала развіваць сексуальную тэму.

— Вам што, кепска? — голас Маргарыты Артураўны крыху палагоднеў. Яна падышла да стала і, націснуўшы адпаведную кнопку, загадала:

— Зіначка, шклянку вады, і прыспешцеся!

Праз паўхвіліны перапалоханая сакратарка прынесла шклянку вады, а заадно і пачышчаны плашч сталёвага колеру. Куратарка ўзяла вопратку, накінула плашч на сябе і нарэшце села насупраць праз стол — нібы следчы на допыце.

— У вас колькі ў школе сяброў БРСМ у старэйшых класах?

— Семдзесят адсоткаў, згодна з даведзенай дырэктывай аблана, — адрапартаваў, глынуўшы вады і крыху акрыяўшы, Лявонцій Сцяпанавіч.

— Я не пытаюся вас пра працэнты, скажыце ў лічбавым эквіваленце!

Дырэктар палез у верхнюю шуфляду і выцягнуў паперы — сто семдзесят… не, ужо сто восемдзесят чалавек.

— Добра, а колькі з іх выбягае стаметроўку з 13 секунд?

— Я не… не ведаю, — збянтэжыўся зноў дырэктар. Але на сэрцы яму крыху адлягло. Калі яна задае такія пытанні, значыць, гэта не сексуальны шантаж. Сапраўды, нейкая новая праверка, новы куратар. Але хто яе прыслаў? Дырэктар упершыню асмеліўся зазірнуць у вочы куратарцы, але тут жа перавёў іх ніжэй і, не вытрымаўшы відовішча голых грудзей высокапастаўленай асобы, зусім апусціў долу.

— Я бачу, справа фізічнага выхавання ў вас тут зусім запушчана, — працягвала сваё Маргарыта Артураўна. — А як з веданнем ангельскай мовы? Чаму ў вас да гэта-

га часу на школе па-ранейшаму вісіць «Добро пожаловать!»? Расейшчына больш не актуальная, як мага хутчэй перарабіце па-ангельску!

— Прабачце, мы не паспелі… — пачаў апраўдвацца зусім заблытаны Лявонцій Сцяпанавіч.

— У іншым месцы будзеце расказваць, — перапыніла яго куратарка. Тут яе позірк упаў на кубінскі часопіс.

— Вы што — кастрат? Я хацела сказаць: прыхільнік Кастра?

Дырэктар, збіты з панталыку такім пытаннем, нічога не змог адказаць, а толькі стаў адмоўна хітаць галавою.

— Праўдападобна, вы зусім не чытаеце ўрадавых газет!? Вы не ведаеце, што ў нас кардынальная змена арыентацыі! Праз тры месяцы запланаваныя поўнамаштабныя вучэнні з НАТАм.

Агаломшаны, счырванелы, як бурак, Лявонцій Сцяпанавіч маўчаў — ён сапраўды не чытаў апошнія месяцы ніякіх газет, не лічачы гараскопаў і прагнозу надвор’я.

— Мабілізуйце ўвесь адміністрацыйны рэсурс! Сітуацыя сур’ёзная. Не спіце тут! І памятайце: галоўнае — гэта фізічная падрыхтоўка! Тыдні праз два пастараюся зноў да вас прыехаць. — Маргарыта Артураўна рэзка ўзнялася з-за стала, яшчэ раз бліснула сваім дасканалым целам праз разрэз плашча ды імкліва выйшла, ляпнуўшы дзвярыма.

Некалькі хвілін дырэктар сядзеў як укапаны, потым памаленьку выбраўся са свайго крэсла і, сагнуўшыся, каб яго не ўбачылі з вуліцы, падабраўся да акна. Ён асцярожна зірнуў на двор і ўбачыў хвост машыны, што выязджала са школьнага двара. Гэта быў «Мерседэс» сталёвага колеру, такога ж, як і плашч Маргарыты Артураўны.

Лявонцій Сцяпанавіч вярнуўся да стала, выцягнуў з ніжняй шуфляды стос кубінскіх часопісаў і стаў драць іх на як мага драбнейшыя шматкі. Пакончыўшы з праклятым «Хувентудам», ён скінуў пінжак, апусціўся на дыван і, цяжка сапучы, стаў адціскацца ад падлогі…

нарадзіўся 6 красавіка 1967 года ў мястэчку Каменка Шчучынскага раёна. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1991). Краязнавец, публіцыст, пісьменнік. Друкаваўся ў газетах «Пагоня», «Ніва», калектыўных зборніках. Аўтар каляндарных даведнікаў і літаратурна-краязнаўчых нарысаў «Беларускае золата» (2014). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Гродне.





ЛЕАНАРДА ЮРГІЛЕВІЧ

## У вагоне

Пасажырскі цягнік Гродна–Мінск спыніўся на невялікай станцыі. Быў душны жнівеньскі вечар, і ці з гэтай прычыны, ці з якой іншай, людзей у плацкартным вагоне не дабавілася. Ля расчыненага акна сядзеў Ён і ўглядаўся ў цемру. Неўзабаве на вольнае месца, а яны тут былі ўсе вольныя, усунулася Яна з дзвюма вялікімі сумкамі ў руках і адной маленькай цераз плячо. Суседка была высокая і мажная.

«Як доменная печ, — падумаў Ён, — ад такога суседства будзе яшчэ гарачэй».

Устаў з месца і хацеў зачыніць акно. Вецер рвануў на лысіне маскіровачную пасму сівых валасоў, і яна заматлялася, нібы сцяг капітуляцыі. Пачаў лэпаць па галаве, ловячы і ўладкоўваючы на месца непаслухмяную пасму. Акно засталося адчыненым, і скрозь яго сапацела гарачае паветра. Ён не зважаў, у Яго быў толькі адзін клопат: прыдаць галаве джэнтльменскі выгляд.

«Дурань, забыўся папырскаць пасму жончыным лакам. Заўсёды так раблю, а гэта забыўся...» — падумаў разгублена.

Яна ўладкавала сумкі ля ног і тайком назірала за Яго марнымі клопатамі, затаіўшы ўсмешку ў кутках поўных губ.

— У вас лак ёсць? — спытаў з выглядам чалавека, якога засталі за непрыстойным заняткам.

— Прычоску будзеце рабіць? То ці варта, бо ўжо ж позна...

Ён адкінуўся на спінку сядзення і ўтаропіўся на суседку. Вочы ў яе былі чорныя, як памытыя расой вішні, з доўгімі, ледзь не да броваў, вейкамі. Шчокі круглыя, румяныя.

«Колькі ж Ёй гадоў? Ну, недзе да пяцідзесяці, пэўна, на дзесяць менш, чым мне. Каб не гэты канфуз з пасмаю, то можна было б пазнаёміцца, а так і слова мовіць сорамна... А які прыгожы на Ёй спартыўны касцюм! Пэўна, імпартны, хаця і ў нас ужо навучыліся рабіць. Бывае, не адрозніш...»

І раптам, калі яна нагнулася, каб нешта дастаць з сумкі, Ён са здзіўленнем убачыў, што спартыўныя штаны распораты па шву. Акурат на сцягне.

«О-о-о, будзеш цяпер насміхацца з маёй пасмы... Я таксама маю з чаго пасмяяцца...»

Распорка невялікая, сантыметраў на пяць, але ж вельмі прыкметная. Ён міжволі зажмурыўся. Калі адкрыў вочы, яна сядзела за столікам насупраць, і, дастаўшы з сумкі прадукты, наважылася вячэраць. Ноздры прыемна казытаў пах вяндліны, свежага гурка. Усё накладзена на вялікую лусту хлеба.

«Не дзіва, што ў Яе такія пышныя формы! Есць, нібыта які касец. Скупердзяйка! Магла б і мне прапанаваць што-небудзь, а так адна меле. А я дома забыўся ссабойку. Жонка сабрала, паклала на стол, а я забыўся. Заўтра з самай раніцы да начальства, а яно невядома калі адпусціць, так што, можа, толькі павячэраць і давядзецца... Раз такая сквапная, то няхай сядзіць з распоратым швом, не скажу. А мог бы, няхай зашыла б, а то як будзе ісці па калідоры, то і іншыя ўбачаць».

Яна ўплятала прысмакі за абедзве шчакі і час ад часу пазірала на Яго:

«Вочы нейкія галодныя, як усё адно два дні не еў. Можа, пакарміць? Але з якой рацыі? Гэта мужчына павінен частаваць. Не, каб ужо надта спадабаўся, то можна было б, а так… Худы, са шчаціннем на твары, ды яшчэ гэта пасма, што павінна была замаскіраваць лысіну…. І што за дурацкая мода? Усім жа відаць, што лысы, то падстрыжыся ты акуратна, зусім іншы выгляд будзеш мець. Усё маладзяцца гэтыя мужчыны, усё прыхарошваюцца. Бедныя… Мы хоць парык на галаву нацягнем, а ім толькі і застаецца, што пасмы ляпіць…»

Да Мінска заставалася якая гадзіна язды, і спаць пасажыры не збіраліся.

Нечакана зайшоў высокі элегантны мужчына ў белай сарочцы з кароткімі рукавамі і белых штанах.

— Пайшлі ў рэстаран пасядзім, — прапанаваў Ёй. — Там, можа, не так душна?

Гэта, з усяго відаць, быў знаёмы спадарожніцы.

— Пайшлі, — згадзілася.

«Як жа яна пойдзе з распоратым швом?! — Ён ужо пашкадаваў, што не сказаў пра гэта раней. — А цяпер як скажаш?.. Ат, няхай, за гэта не аштрафуюць. Каб столькі і клопату… Не трэба было смяяцца з маёй пасмы…»

Яна вярнулася, калі цягнік набліжаўся да сталіцы. Была адна. Ён павесіў на плячо дарожную сумку і накіраваўся да выхаду.

— А ў вас спартыўныя штаны па шву распораты, — шапнуў на самае вуха.

— Дзе?! — яе твар заліла чырвань.

— Там, — кіўнуў галавой.

— Вы ведалі і маўчалі?! — агледзела сябе і ўбачыла тое шво.

— А што? Я вам не муж, каб гаварыць пра такія рэчы. Распораты ды распораты.

— І я так хадзіла ў рэстаран?! Які жах!

— Дык не прагналі ж…

— Хам!

— Ну. Я з пасмай, што боўтаецца абы-як, а вы з падзёртымі штанамі. Мы квіты. Трэба было не насміхацца цішком. Я ж бачыў…

Канец душнай ночы ён праседзеў на вакзале, а калі гадзіннік паказаў восем, паехаў да рэспубліканскага начальства, якое пачынала работу ў дзевяць. Праз прыёмную з бялявай маладой сакратаркай зайшоў у начальніцкі кабінет і ледзь не папярхнуўся паветрам: за сталом сядзела Яна! Хораша прыбраная, з умелым макіяжам. Спачатку здзівілася не менш, чым Ён, а потым прыгожыя губы скláліся ў саркастычную ўсмешку…

## Прымак

Худая, як рыбін хвост, Маня Кашулька не хадзіла, а лётала па сваіх Забэцьках: нарэшце яе дачка Ядзя сабралася замуж. Яна то ўжо даўно была гатовай, бо пераваліла за трыццаць, але жаніхі хату абміналі, каб яны долі не пазналі. І вось нарэшце Манін брат Сымон выпараў з халасцяцкай бярлогі Віцьку Шкіпідара з суседніх Ягнатцаў:

— Ледзь уламаў! — хваліўся сястры. — Кажу: колькі ўжо будзеш боўтацца, як трэска ў палонцы? Пара сям'ю заводзіць. Як у прымы пойдзеш, то станеш бабамі камандаваць, нібы які генерал… Так што ў суботу павяду ў сваты, рыхтуйцеся.

Не паспела Ядзя прыйсці з работы з калгаснай канторы, як маці з запечку радаснай весткай аглушыла:

— У суботу сваты будуць! Віцька Шкіпідар згадзіўся ўзяць цябе замуж. Ведаеш такога?

— Што?! Ведаю Віцьку і замуж за яго не пайду нават пад пісталетам! Брыдкі надта. Тоўсты, як камбайн, рыжы і рабацілісты, увесь твар нібы грэчкай абсыпаны.

— Авохці! А ты, канечне, прыгажуня, што там казаць. Худая, нібы аглобля, твар пляскаты, нос шырокі, а на галаве валасоў усё адно як хто сеяў ды кінуў, недасеяўшы. Для мяне ты, вядома, прыгожая, але ж у людзей свае вочы ёсць.

— Не пайду я жыць у Ягнятцы, бо гэна вёска задрыпаная! Адтуль людзі нават парасят не купляюць.

— Дома будзеш жыць, Віцька прымаком стане.

— Ну калі так, то добра, на прымака я згодна. Толькі каб вяселле было як належыць: з вэлюмам, з машынамі, з лялькамі на капотах.

Маці ўмовы прыняла, і было ўсё: і вэлюм, і машыны, і лялькі. Жаніх быў у новым касцюме, які Маня купіла ў райцэнтры, бо свайго ён не меў, амаль да сарака гадоў дажыўшы.

— Яно, канечне, шкада грошы на пустадомка аддаваць, — казала Ядзі, — але нічога: як будзе тут жыць, то адробіць у дзесяць столак.

Кабета ні на кроплю не сумнявалася, што зяць, прыйшоўшы ў прымы, стане ёй падпарадкоўвацца, бо, так бы мовіць, жыцьме на чужой тэрыторыі, есці хлеб з чужога стала.

Ды падманулася. У панядзелак пасля вяселля Ядзя пайшла на работу, а Віцька ўсё хроп, ажно шыбы ў вокнах звінелі. Ледзь успарола, каб паснедаў ды падаўся ў калгасную майстэрню слясарыць.

Адслясарыўшы, вярнуўся, паеў і зноў плюхнуўся на ложак. Узяў пульт ад тэлевізара і, нібы пісталет, нацэліў яго на экран.

— Чаго, зяцёк, разваліўся? Атаву на аселіцы трэба касіць, ужо ўсе людзі даўно пакасіўшы, у куратніку страха цячэ, варотцы ў агарод паламаліся, а ты вылежваешся? Не, галубок, так не будзе!

— Што ты скрыпіш, старая? Я ў тваёй хаце і абагрэцца не паспеў, а ты ўжо ў работу ўпрагаеш. Дай прывыкнуць!

— І доўга будзеш прывыкаць?

— Мо тыдзень, мо два…

Маня бразнула дзвярыма, узяла ў пуні касу і сама пайшла касіць атаву. Яна і не бачыла, як вярнулася з работы дачка, паела і таксама ўзвалілася на ложак. Убачыла толькі вечарам.

— Уселіся на мой карак і будзеце катацца?!

— Мама, не ўмешвайся ў наша сямейнае жыццё! Мы лепш за цябе ведаем, што трэба рабіць!

Маня ноччу не змружыла вачэй, а раніцай зноў накінулася на зяця, папракала гультайствам.

— А чаго ты, цешча, уласна кажучы, ад мяне хочаш? Гэта атава, варотцы, страха і ўсё астатняе — яно маё? Не маё. То чаму я павінен клапаціцца?

Маня зноў усю ноч круцілася на мулкай пасцелі, яе галаву разрывалі думкі: «А і праўда, можа, трэба перапісаць на Віцю гаспадарку, тады яму ахватней будзе даглядаць усё і берагчы».

Праз тры дні яны з зяцем накіраваліся ў райцэнтр да натарыуса і зрабілі патрэбныя паперы. Дадому ён вярнуўся сапраўдным гаспадаром усяго рухомага і нерухомага дабра.

«Ну вось, няхай гаспадарыць, няхай кіруе, я хоць адпачну», — думала Маня з палёгкай.

Але дарэмна радавалася. Назаўтра, прыйшоўшы з работы, Віцька зноў заняў назіральны пункт на ложку, па-ранейшаму ўзброіўшыся пультам. Цешча вачам сваім не паверыла. Яна ж думала, што зяць паесць ды возьмецца зграбаць і насіць з аселіцы сена, якое яна высушыла. Вечар жа вялікі, то потым можна і варотцы ў агарод паправіць, і страху ў куратніку залатаць.

На гэты раз не сварылася і не папракала, думала, што зяць яшчэ не ўвайшоў у ролю гаспадара, яшчэ не ўсвядоміў, якая на ім ляжыць адказнасць за ўсё-ўсякае.

Так мінуў тыдзень. Маня маўчала, толькі злосна зыркала спадылба, калола Віцьку поглядам, як кінжалам. Але на яго гэта не дзейнічала, як і на Ядзю. Яны былі задаволеныя жыццём і не абцяжарвалі сябе ні турботамі, ні работай.

Нарэшце старая не вытрымала:

— Гультаіна, заваліна! — накінулася на зяця. — Ляжыш, каб ты каменем лёг, а ў гаспадарцы столькі работы, куды ні кінь — усюды клін! І ў хляве, і ў агародзе, і склеп трэба рамантаваць. Адна не паспяваю…

— А яно тваё? — абыякава мовіў Віцька. — Чаго ты так турбуешся пра чужое дабро? Твайго, цёшчачка, тут ужо нічога няма, так што сядзі ціхенька, як мыш пад венікам…



нарадзілася 4 верасня 1948 года ў вёсцы Рагалёўшчына Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла Свіслацкую школу-інтэрнат. Вучылася завочна на факультэце журналістыкі БДУ. Працавала ў Дзятлаўскай раённай газеце «Перамога». Шматразовы лаўрэат прэміі часопіса «Вожык», удзельніца Усебеларускага фестывалю сатыры і гумару «Аўцюкі-2000», дзе атрымала дыплом «За развіццё традыцый беларускага гумару». Аўтар кніг «Грэшная душа» (2000), «Восеньскае танга» (2003), «Доўгі калідор» (2017), «На лясной дарозе» (2019). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.





# Драматургія

СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

## Зайкаў скарб

*П’еска-казка для дзяцей у адной дзеі*

**Дзейныя асобы**

З а й к а
В а в ё р к а
Б а б к а  Ё ж к а
Ц ё т к а  Л і с к а
Д з я д з е ч к а  П а л я ў н і ч ы

**Дзея першая**

Па лесе ідзе З а й к а і нясе за плячыма вялікі мяшок. Мяшок завязаны і апячатаны сургучовай пячаткай. З аднаго боку мяшка вялікімі літарамі напісана слова «Скарб», але гледачы гэтага слова не бачаць. Зайка ідзе задуменны, усхваляваны, але шчаслівы. Глядзіць навокал, каб яго не ўбачылі воўк альбо ліса, альбо іншы драпежны звер. Ступае Зайка асцярожна і не выпускае з рук мяшка. Ідзе і лёгка спявае песеньку.

З а й к а *(спявае).*

Ціха крочу я па лесе
І мяшок адзін нясу.
Са сваёй любімай песняй
Не баюся я лісу.

*Прыпеў:*

Песня, песня, песенька,
У глушы лясной.
Мне з табою весела,
А табе — са мной.
Не баюся я ваўкоў
Шэрых і сярдзітых.
У мяне тут шмат сяброў
Шчырых, працавітых.

Песня, песня, песенька,
У глушы лясной.
Мне з табою весела,
А табе — са мной.

*(Раптам убачыў у зале гледачоў.)* Ой, а я адразу вас і не заўважыў. Прабачце, дзеткі і дарослыя.

Дзеткі і дарослыя маўчаць.

*(Пытаецца.)* А ці даруеце вы мне, што я з вамі не павітаўся адразу? А?..

З залы крычаць: «Даруем!»

Ну, вось і супакоілі мяне. Тады я з вамі шчыра павітаюся: «Добры дзень, дзеткі! Добры дзень, дарослыя!»

Зала адказвае: «Добры дзень!»

А чаму вы ў мяне не пытаецеся, што я нясу ў мяшку?

З залы сталі пытацца: «А што ты нясеш у мяшку?»

Гэта вялікая тайна. Я вам не магу зараз адразу сказаць. Таму што гэту тайну нельга даставаць з мяшка. Я толькі магу вам даць прачытаць, што на мяшку напісана. Даць прачытаць?..

Дзеці зала крычаць: «Дай пачытаць!». Зайка паднімае высока мяшок і паварочвае яго тым бокам, дзе напісана слова «Скарб». Усе пачынаюць у зале чытаць: «Скарб!»

Прачыталі? Ну і добра! Гэта слова называецца СКАРБ. А ці ведаеце вы, дзеткі, што такое скарб?

Дзеці пачынаюць казаць, крычаць, спрачацца. А Зайка іх супакойвае і тлумачыць.

Скарб, дзеткі, гэта нешта самае дарагое і каштоўнае ў жыцці. Гэта самая вялікая каштоўнасць, якая схавана ў патаемным месцы. Вось тут, у маім мяшку, і ляжыць вельмі каштоўны скарб.

З залы дзеткі зноў сталі пытацца, што гэта за скарб, яны просяць паказаць.

Паказаць я не магу. Таму што я выконваю самае адказнае заданне. Калі я яго не выканаю і не прынясу гэты скарб у зайкаву школу, то там будуць плакаць зайкі-настаўнікі, зайкі-мамы, зайкі-таты і зайчаняты. Таму я абавязкова гэты скарб *(паказвае мех)* павінен своечасова даставіць на месца. Я прайшоў ужо шмат кіламетраў. Я ўжо зусім змарыўся, мне хочацца адпачыць, падрамаць, паесці капусты, морквы. Але я не магу выпусціць з рук гэты скарб. Бо ён для мяне вельмі важны і дарагі. Таму што лёс усіх зайцаў залежыць ад майго скарбу. Прабачце, калі ласка, сябры, што не магу вам паказаць гэты скарб. Але трохі пазней я абавязкова пазнаёмлю вас з ім.

Зайка пачынае рухацца з мяшком далей. Насустрач яму В а в ё р к а, якая выскачыла з-за дрэва, пачуўшы гутарку Зайкі з гледачамі.

В а в ё р к а. Прывітанне, Зайка!

З а й к а. Вітаю, Вавёрачка!

В а в ё р к а. Я чула, што ты ў мяшку нясеш нейкі важны скарб і нікому не хочаш яго паказваць. Можа, мне пакажаш, сваёй самай любімай сяброўцы?

З а й к а. На жаль, Вавёрачка, і табе не пакажу.

В а в ё р к а. А чаму?..

З а й к а. Таму што мне нельга паказваць нікому, разумееш? Гэта ж — скарб. А скарбы не заўсёды ўсім паказваюць.

В а в ё р к а. А я думала, што ты мой самы лепшы і надзейны сябра. А ты і мне не хочаш паказаць, што ў цябе ляжыць у мяшку. А мне так хочацца даведацца, што там знаходзіцца… *(Ледзь не плача, разглядае мяшок.)*

З а й к а. Ты не хвалюйся, Вавёрачка. Я табе абавязкова пакажу, самай першай пакажу гэты скарб. Але цяпер мех адвязваць нельга. А раптам прыбяжыць воўк ці ліса і забяруць гэты скарб. Што тады будзе?

В а в ё р к а *(здзіўлена).* А што, і ім патрэбны гэты скарб?

З а й к а. Гм… Гэты скарб патрэбны ўсім жывым істотам на нашай зямлі: і людзям, і звярам, і нават птушкам.

В а в ё р к а (*вельмі здзіўлена*). Усім? І нават птушкам?.. І што там такі за скарб? А?..

З а й к а. Потым даведаешся, Вавёрачка. Цяпер галоўнае, каб яго зберагчы, не згубіць, не страціць, а данесці мне да сваіх родных і блізкіх зайчанят. *(Закідае мяшок за спіну, і пачынае рухацца далей. Мех цяжкі, тады ён пачынае яго цягнуць…)*

В а в ё р к а. Зайка, а давай я табе дапамагу. Давай разам панясем гэты скарб.

З а й к а. Давай.

Вавёрка разам з Зайкам цягнуць мяшок. Замучыліся. Прыселі на пянёк на палянцы каля ёлачкі. Прыслухаліся.

В а в ё р к а. Ён таму цяжкі, таму што гэта сапраўдны скарб. А сапраўдныя скарбы, мусіць, самыя цяжкія. Так, Зайка?!

З а й к а. Так! Сапраўдныя скарбы маюць вагу!

В а в ё р к а. Таму іх трэба берагчы…

З а й к а. Паслухай, Вавёрачка. Я так стаміўся. І вельмі хачу хоць ледзь-ледзь паспаць, хоць на хвілінайку заснуць, адпачыць. Давай я трохі пасплю, а ты папільнуй, павартуй гэты мех са скарбам. Толькі не ўздумай яго адкрываць. Добра?.. А калі што здарыцца, дык хутка будзі мяне…

В а в ё р к а. Добра, добра. Адпачні, Зайка. Ты ж столькі дзён нясеш гэты мех. Адпачні, не хвалюйся, а я яго павартую.

Зайка лёг пад елачку і адразу хутка заснуў. А Вавёрачка побач вартуе мех, чытае на ім слова «Скарб» і глядзіць па баках. Раптам пачуўся свіст, і з глыбіні лесу выскачыла на мятле Б а б к а Ё ж к а. Пакруцілася, пакруцілася і спынілася каля Вавёрачкі з Зайкам і мяшком.

Б а б к а Ё ж к а. Прывітанне, прыгажуня! А чаму ты не сядзіш у сваім дупле? А тут прыціхла на пні? А?..

В а в ё р к а. Таму і не сяджу! Бо не хачу!..

Б а б к а  Ё ж к а. Нейкая ты смелая стала.

В а в ё р к а. Я і была смелая!

Б а б к а  Ё ж к а *(смяецца, рагоча).* Ты была смелая?! Ой, насмяшыла ты мяне, старую Ёжку! Ой, не магу!.. (*Смяецца, і падчас смеху ўбачыла мех.)* А гэта што ў цябе, што ты тут ахоўваеш? А?..

В а в ё р к а. Скарб ахоўваю, вось што… Не твая справа…

Б а б к а  Ё ж к а. Што ахоўваеш?.. Мацней кажы, бо я глухаватая…

В а в ё р к а. Шмат будзеш ведаць, старой станеш…

Б а б к а  Ё ж к а *(смяецца).* Я і так старая Ёжка… Дык што ты тут ахоўваеш?.. А?.. Кажы мне канкрэтна… і хутчэй.

В а в ё р к а *(са злосцю).* Я ўжо сказала. А калі ты не пачула з першага разу, то гэта твая праблема. Ідзі да доктара і лячы свае вушы.

Б а б к а  Ё ж к а. Ты тут мне фанабэрыі не строй. А ну кажы, што ў мяшку?

В а в ё р к а. Я сказала што. На, вось чытай! *(Паказвае на мяшку слова «Скарб».)*

Б а б к а  Ё ж к а. Што чытаць?

В а в ё р к а. Што напісана, тое і чытай.

Б а б к а  Ё ж к а. Я не ўмею чытаць…

В а в ё р к а *(здзіўлена).*Ты не ўмееш чытаць? Ты што, у школе не вучылася?

Б а б к а  Ё ж к а. Не памятаю, ці вучылася я, ці не вучылася… Можа, вучылася, можа, не вучылася… А што такое школа?

В а в ё р к а. Дык ты нават не ведаеш, што такое школа?! Значыць, не вучылася. Такая старая, глухая і ў школе не вучылася… Хм… Дзіўная бабуля… Неадукаваная, старая, глухая…

Б а б к а  Ё ж к а. Якая я табе неадукаваная, якая я табе дзіўная, аддавай мне сюды мяшок і свой нейкі там скарб… Хуценька… *(Раззлавалася.*)

В а в ё р к а *(пачынае будзіць Зайку).* Зайка, прачынайся, тут Бабка Ёжка хоча скарб забраць… Прачынайся хуценька!..

Вавёрка трасе Зайку, будзіць, але ён спіць як пшаніцу прадаўшы, нічога не чуе.

Б а б к а  Ё ж к а *(падыходзіць да мяшка і пачынае яго забіраць).* Аддай мяшок, я табе сказала…

Вавёрка не аддае. Пачынаюць цягнуць мяшок, кожная сабе.

В а в ё р к а. Не аддам. Гэта не твой мяшок, не аддам… *(Крычыць.)* Зайка! Зайка, прачынайся!

Зайка спіць, не чуе.

Б а б к а  Ё ж к а. Ну, добра, калі так, тады я патэлефаную сваёй сяброўцы. Разам мы забярэм у цябе гэты мех! *(Дастае з кішэні мабільны тэлефон і тэлефануе. Ідзе гудок).* Алё! Цётка Ліска, гэта я — Бабка Ёжка. Хутчэй бяжы да мяне. Я тут на паляне знайшла мяшок. Дапамажы мне яго забраць.

Пакуль Бабка Ёжка тэлефанавала, Вавёрка будзіла Зайку, але ён спіць і не прачынаецца.

Твой Зайка не прачнецца, я яго зачаравала, каб спаў доўга.

В а в ё р к а. Я мяшок табе не аддам.

Б а б к а Ё ж к а. Аддасі зараз, хутка сюды прыбяжыць цётка Ліска, разам мы ў цябе забяром гэты мех і паглядзім, што там ляжыць.

У гэты час на паляне з'яўляецца Ц ё т к а Л і с к а. Хітра паглядзела вакол. Падбегла да бабкі Ёжкі.

Ц ё т к а Л і с к а. Вітаю бабка! І дзе той загадкавы мех?..

Б а б к а Ё ж к а. Вунь, Вавёрка трымае.

Ц ё т к а Л і с к а. А ну давай сюды мех!..

В а в ё р к а. Не дам! Гэта не ваш мяшок, а Зайкі.

Ц ё т к а Л і с к а. Ага, тут яшчэ і заяц ёсць. Мне сёння пашанцавала. І мяшок ёсць, і заяц, і вавёрка рыжая... Сёння я галоднай не буду...

В а в ё р к а. Ты сама рыжая!..

Бабка Ёжка і Цётка Ліска нападаюць на Вавёрку і забіраюць у яе мяшок. Адыходзяць убок і пачынаюць разглядаць мех. Вавёрка плача. У гэты час прачынаецца Зайка.

З а й к а *(здзіўлена, сонны).* Што здарылася, Вавёрачка?

В а в ё р к а. Ты чаму так моцна спаў? Я будзіла цябе сто разоў і не магла разбудзіць. Бабка Ёжка і Цётка Ліска забралі ў мяне мяшок са скарбам. І што цяпер будзем рабіць? *(Плача.)*

З а й к а *(убачыў Бабку Ёжку і Цётку Ліску).* Хто вам дазволіў забіраць у Вавёрачкі мой мяшок? Хуценька вярніце скарб!..

Ц ё т к а Л і с к а. Ого, і чый гэта я галасок пачула?! Сам заяц прыйшоў у мае лапкі. Вось гэта скарб!.. Сапраўдны, жывы, смачны!..

З а й к а. Я не скарб, я -- Зайка, а скарб у мяшку ляжыць. Мне яго трэба занесці ў зайкаву школу, там мяне чакаюць настаўнікі-зайкі, бацькі-зайкі і вучні-зайчаняты.

Ц ё т к а Л і с к а. А я буду дырэктарам тваёй зайкавай школы. А Бабка Ёжка намеснікам дырэктара. Ты пагаджаешся, шэранькі? А?..

З а й к а. Не выдумляй, рыжая. Аддавай мой мех!..

В а в ё р к а. Вярніце наш мех, калі ласка! Так нельга паступаць, як вы!

З а й к а *(звяртаецца да гледачоў).* Давайце, дзеткі, папросім, каб Бабка Ёжка і Цётка Ліска нам вярнулі мяшок са скарбам!..

Гледачы просяць.

Б а б к а Ё ж к а. Не, мы мяшок нікому вяртаць не будзем. Гэта ўжо наш мяшок!

Ц ё т к а Л і с к а. Усё наша: і мяшок, і тое, што ў мяшку. Зразумелі?!

Б а б к а Ё ж к а. Зараз мы паглядзім, што там ляжыць. Дастанем, а потым туды запхаем зайца з вавёркай і пойдзем да мяне ў лясную хатку. Там мы з імі разбяромся.

В а в ё р к а. Мы з вамі нікуды не збіраемся ісці. Аддайце нам наш мяшок і ўсё.

Цётка Ліска і Бабка Ёжка пачынаюць зрываць пячатку і адвязваць мяшок. Зайка і Вавёрка спалохана глядзяць, што яны робяць. Мяшок адвязалі. Цётка Ліска трымае мяшок, а бабка Ёжка лезе з галавой у мяшок і паціху дастае адтуль скарб — вялікую тоўстую кнігу, на якой напісана «Роднае слова».

Б а б к а Ё ж к а *(пытаецца).* Што гэта?

З а й к а. Гэта духоўны скарб…

В а в ё р к а. Падручнік для дзетак «Роднае слова».

Ц ё т к а Л і с к а. А што такое скарб, што такое падручнік?..

З а й к а. Гэта духоўны скарб, па ім усе дзеткі ў школах вывучаюць родную мову, вучацца чытаць, пісаць, расказваць вершы…

Ц ё т к а Л і с к а і Б а б к а Ё ж к а *(разам).* Не, мы ў такія школы не хадзілі, не вучыліся. Ды і нам гэта не трэба… Затое мы самыя дужыя і хітрыя.

З а й к а. Тады аддайце нам «Роднае слова». Мы яго панясем у зайкаву школу.

Б а б к а Ё ж к а. Хм… Чаго захацеў… Мы яшчэ паглядзім, што гэта за дзіва — роднае слова.

Ц ё т к а Л і с к а. А можа яго можна будзе прадаць на лясным кірмашы ці абмяняць на мяса і каўбасу. Не, мы вам ваш скарб не аддадзім. Ніколі…

В а в ё р к а. Ён для вас не падыходзіць, гэта кніжка толькі для зайкавай школы, а для лісінай школы павінна быць іншая кніжка.

Б а б к а Ё ж к а. А тады якая павінна быць кніжка для бабкаёжкавай школы? А?..

З а й к а. Такой школы няма…

Б а б к а Ё ж к а. Як гэта няма?.. Для ўсіх ёсць, а для мяне няма?

В а в ё р к а. І ніколі ў гэтым лесе не будзе бабкаёжкавай школы. Зразумела?.. Аддайце нам «Роднае слова»!.. *(Хоча забраць.)*

Зайка дапамагае. Не ўдаецца. Бабка Ёжка трымае кнігу, а Цётка Ліска ад шчасця спявае і танцуе, трымаючы ў руках мяшок, як партнёра, і наступае на Зайку і Вавёрку.

Ц ё т к а Л і с к а (*спявае*).

А навошта мне вучыцца,
А навошта мне чытаць,
Хачу з Ёжкай весяліцца,
І, як шэранькі, скакаць.

*Прыпеў:*

Скок, скок — у мяшок,
Не хавайся за дубок,
За бярозку не хавайся,
А ў мяшок пусты збірайся.

А навошта ваша школа,
Я ўрокаў не хачу.
З Ёжкай я жыву вясёла,
І скачу, скачу, скачу!

*Прыпеў:*

Скок, скок — у мяшок,
Не хавайся за дубок,

За бярозку не хавайся,
А ў мяшок пусты збірайся.

З а й к а. Нікуды я збірацца не буду.

В а в ё р к а. Мы ў мяшок не палезем. Аддайце нам мяшок і зайкаў скарб!

Б а б к а Ё ж к а. Мы ў лесе ўсім раскажам, што ў нас ёсць скарб. Ніхто не мае такога скарбу, толькі я і Цётка Ліска. Мы самыя багатыя, мы можам гэты скарб прадаць не толькі ў нашым лесе, але і ў іншых пушчах і барах. А там нам больш дадуць за яго мяса і каўбас. Бо ніхто не бачыў такога скарбу!..

З а й к а. Гэта толькі вы не бачылі, а ўсе лясныя звяры ведаюць пра такі скарб і вучаць сваіх дзетак чытаць і пісаць.

В а в ё р к а. Вярніце нам «Роднае слова»! Зараз жа…

Ц ё т к а Л і с к а. Што ты сказала, рыжая-малая?! А ну збірайся ў мяшок, хуценька!..

Б а б к а Ё ж к а. Зараз я ёй гэтай кнігай, як дам па галаве, дык сама адразу заскочыць у мяшок! *(Даганяе Вавёрку.)*

Вавёрка ўцякае. Ліса даганяе Зайку. Бегаюць адзін за адным. Крычаць. Злавілі Зайку і хочуць яго запіхнуць у мяшок.

В а в ё р к а *(крычыць)*. Адпусціце Зайку, што вы робіце?!

З а й к а *(крычыць).* Ратуйце! Ратуйце!..

Раптам недалёка ў лесе раздаецца стрэл. Усе спалохаліся і ўпалі на зямлю. Цётка Ліска і Бабка Ёжка ляжаць побач. Адна трымае «Роднае слова», другая — мяшок. Зайка падбег да Вавёркі. Раптам пачуўся яшчэ адзін стрэл.

Б а б к а Ё ж к а *(крычыць).* Ой, што гэта, я баюся!..

Ц ё т к а Л і с к а. Нас могуць застрэліць! Трэба адсюль уцякаць!.. Але ж як уцячы?..

На лясную паляну выходзіць Д з я д з е ч к а П а л я ў н і ч ы са стрэльбай, глядзіць вакол, прыглядаецца і бачыць Зайку і Вавёрку. Бабкі Ёжкі і цёткі Ліскі не заўважае.

Д з я д з е ч к а П а л я ў н і ч ы. Прывітанне, Зайка, прывітанне, Вавёрачка! Што здарылася? Што тут у вас былі за крыкі?..

З а й к а і В а в ё р к а *(разам).* Прывітанне, Дзядзечка Паляўнічы!

В а в ё р к а. Дзядзечка Паляўнічы, Зайка ў мяшку нёс скарб у зайкаву школу, я яму дапамагала. Але тут з’явіліся бабка Ёжка і Цётка Ліска і забралі ў нас мяшок са скарбам.

Д з я д з е ч к а П а л я ў н і ч ы. А што там у мяшку за скарб такі быў?

З а й к а. Духоўны скарб — падручнік «Роднае слова» для зайчанят.

Д з я д з е ч к а П а л я ў н і ч ы. Гэта вельмі важны, дарагі і каштоўны скарб, яго абавязкова трэба прынесці ў зайкаву школу. І дзе ён?

В а в ё р к а. У Бабкі Ёжкі і Цёткі Ліскі. Яны тут схаваліся.

З а й к а. Трэба ў іх забраць і вярнуць наш скарб.

Д з я д з е ч к а П а л я ў н і ч ы. Дзе гэтыя рабаўнікі? А ну, паказвайцеся, інакш я ў вас са стрэльбы бабахну!… *(Шукае іх. Страляе ўверх.)*

З зямлі з-за кустоў паднімаюцца Бабка Ёжка і Цётка Ліска. Бабка Ёжка трымае ў руках «Роднае слова», а Цётка Ліска — мех.

А ну вярніце Зайку і Вавёрачцы тое, што вы ў іх забралі! Хуценька, інакш — трах-бабах!.. *(Страляе ўверх.)*

Бабка Ёжка і Цётка Ліска злыя аддаюць кнігу Зайку, а мяшок Вавёрцы. Тыя бяруць і кладуць у мяшок кнігу. Завязваюць.

*(Да бабкі Ёжкі і Цёткі Лiскі).* А цяпер паднімайце рукі ўверх!

Паднімаюць.

І каб мы вас тут ніколі не бачылі! Бягом адсюль…

Бабка Ёжка і Цётка Ліска бокам, бокам знікаюць з лясной паляны.

А цяпер, дарагія Зайка і Вавёрачка, нясіце зайкаў скарб у зайкаву школу. Там вас усе вельмі чакаюць.

В а в ё р к а. Я, мусіць, застануся, я Зайку выпадкова сустрэла, ён адзін нёс духоўны скарб…

З а й к а. Ды не, Вавёрачка, пойдзем разам, мне весялей будзе. І вы з намі, Дзядзечка Паляўнічы, таксама. А раптам нас сустрэнуць зноў Бабка Ёжка і Цётка Ліска.

В а в ё р к а. Мы баімся іх…

Д з я д з е ч к а П а л я ў н і ч ы. Не бойцеся. Я вас правяду да самай зайкавай школы.

Дзядзечка Паляўнічы закідае стрэльбу за плечы, Зайка мяшок — на плечы, Вавёрка іх бярэ пад рукі і ўсе разам пачынаюць спяваць фінальную песню. Гучыць песня.

У с е р а з а м (*спяваюць*).

Скарб духоўны мы нясем,
Каб вучыліся ўсе
Кніжкі родныя чытаць
І сяброў не забываць.

*Прыпеў:*

На заняткі, на заняткі
Трэба крочыць нам шпарчэй.
Нас чакаюць зайчаняткі,
Дык хутчэй, хутчэй, хутчэй!

Каб вучыліся пісаць,
Свет цудоўны адкрываць,
Бо без роднай мовы мы,
Як без лета і зімы.

*Прыпеў:*

На заняткі, на заняткі
Трэба крочыць нам шпарчэй.
Нас чакаюць зайчаняткі,
Дык хутчэй, хутчэй, хутчэй!

Заслона.






нарадзіўся 24 верасня 1958 года ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1985). З'яўляецца аўтарам зборнікаў паэзіі «Шчырая Шчара» (1993), «Горад без цябе» (1999), «Лірыка» (2007), «Камень Міндоўга» (2009); шматлікіх літаратуразнаўчых артыкулаў і гісторыка-краязнаўчых кніг: «Янка Купала і Слонімшчына» (1993), «Родам са Слонімшчыны» (2003), «Пакліканыя на родны парог» (2005), «Чамяры і чамяроўцы» (2006), «У пошуках слонімскіх скарбаў» (2007), «Тэатр у Слоніме» (2008), «Альбярцін» (2011), «Па слядах Купалы і Коласа» (2012), «Такі іх лёс» (2012), «Слонімскія падмуркі» (2012), «Сярод сваіх людзей» (2012), «Іншых шляхоў не было» (2013), «Легенды і паданні Слонімшчыны» (2013), Літаратурная Слонімшчына (2019), «Слонімшчына. Гістарычныя нататкі» (2019), «Гістарычная мазаіка Слонімшчыны» (2019) і іншыя. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Слоніме.



# У гасцёўні «Новага замка»

## Паэтычны салон «Краскі Прынямоння: Шчучыншчына»

Другі год у Шчучынскім палацы творчасці працуе Паэтычны салон. Каля дзясятка шчучынцаў прыносяць свае творы на абмеркаванне. За гэты час з дапамогай звычайнай студыі фота і рэкламы былі аддрукаваны два зборнічкі вершаў на правах брашуркі. Мастацкае афармленне, рэдагаванне прыносяць плён, кніжыцы трапілі на паліцы бібліятэк, карыстаюцца попытам у школах пры правядзенні ўрокаў па сучаснай літаратуры і выхаваўчых мерапрыемстваў.

*Рычард Бялячыц, кіраўнік Паэтычнага салона*

## Марына Арлова

### З марай побач

Вольнаю птушкай, расправіўшы крылы,
Мне б паляцець над імклівай крыніцай,
Лёгка лунаць над старонкаю мілай
І краявідам яе наталіцца.

Доўга кружыць над лугамі, лясамі,
Па-над дарогай, садамі, калоссем.
З мараю побач
Да поўначы самай,
Каб жа аднойчы ляцець давялося.

Хочацца потым маленькай дачушкай
Чуць калыханку ад маці-зямелькі
І, захінуўшыся нёманскай стужкай,
Стаць у Сусвеце травінкай маленькай.

На дыване залацістых аблокаў
Не разлучацца з гуллівaю хмарай.
Так і застацца высока-высока,
Каб не пакінула
Светлая мара.

## ГАЛІНА БЯЛЯЎСКАЯ



Праглыну сваю крыўду слязою няпрошанай:
Зноў мяне не заўважыў, пабачыць не змог.
Зноў шкадую цябе, мой каханы, харошы мой,
І шапчу, як малітву: «Даруй яму, Бог».

Зноў у думках сваіх уяўлю цябе мужным я,
Буду словам ласкавым цябе сустракаць…
Крыўду ты не адвёў
ні паглядам,
ні ружамі.
Што ж…
Напэўна, па-свойму ты ўмееш кахаць.

МАРЫНА РАДЗІВОН

## Маме

Дарагое слова «мама» —
Гукаў не знайсці радней.
Ад калыскі да расстання
На душы мне з ім цяплей.

Аглядаюся часінай,
Калі хмарна па жыцці.
Ці бярозкай, ці асінкай
Мне б да любай падысці.

А няма цябе ля дома,
Дзе хадзіла, дзе жыла,
Рук да кропелькі знаёмых,
Іх руплівага цяпла.

Сэрца сціснута тугою,
Ком у горле не прагнаць.
Думкі кружаць гулкім роем,
Шмат чаго хачу сказаць.

Што каханне напаткала,
Што дачушкі падраслі.
Прамінуць няпроста стала
Крыгі лёсу на зямлі.

Не вярнуць — я тое знаю —
Час далёкі, нібы сны.
Мама крыллем ахінае
Мой нялёгкі шлях зямны.

## У Дзень пісьменства

З былой даўніны
шлях вядзе чалавецтва
ды мову вякамі з трывогай нясе.
І крочыць па горадзе
мой Дзень пісьменства
высокі, прывабны, у летняй красе.

За намі, прад намі прасторы і далі.
Ляціць, аблятае настурцыі цвет.
У келлях манахі нанова пісалі
Стары, як Сусвет,
Як Зямля, Запавет.

Пісьменства паўсюль
каласком прарастала,
Скарына з крыніцы жывой паліваў.
І словаў-зярнятак трымае нямала
душа неўміручая
і галава.

І песня жаўронка гучала нанова,
і вочы твае заблудзіліся дзе.
Як радасна мне за святыя высновы
на мове маёй,
што ад продка ідзе.

## ВОЛЬГА РУСІЛКА



Мой верш не з гартаванай сталі,
З каменняў іскры не сячэ.
Паэтамі адзінкі сталі,
А сотні — у чарзе яшчэ.

Як напісаць, каб вас пачулі,
Усхваляваць, узняць, здзівіць?
Спяваю моваю матулі,
А голас ціхі — не звініць.

Ды раптам возьме нотку тую,
Што чулую кране душу.
Я на народ не прэтэндую,
Я для адзінак і пішу.

## ЛЮБОЎ РУСІЛКА

### Ад сэрца



Пацямнела ад хмары ўваччу,
А трава ад дажджу пасвятлела.
Я іду басанож — і тапчу,
Што ў душы набалела.



Яно яркае, шчодрае,
Нібы сонца вясновае.
Яно мужнае, гордае,
Як цяпло вераснёвае —
Сэрца жаночае.

## НАТАЛЛЯ ЦВІРКО

### Сэрцам да сэрца

Так, як заўсёды, і так, як ніколі —
Сэрцам да сэрца насуперак болю.
Зноў не дазволю табе я згубіцца.
Зноў паспрабую мацней прытуліцца.

Хай цеплыня на душы не астыне,
Хай мы ніколі не станем чужымі!
Так, як заўсёды, і так, як ніколі —
Сэрцам да сэрца насуперак болю.



Ад маёй да тваёй вясны —
Васільковыя дні надзеі.
Акунаюся ў нашы сны,
І на сэрцы ізноў цяплее.

Ад майго да твайго крыла —
Россып зорак у небе ясным.
Не хапае твайго святла.
Недзе золак далёкі гасне.

Ад маёй да тваёй душы —
Толькі дотык такі нясмелы.
Ад нягодаў мяне беражы,
Беражы мяне, хоць няўмела.

*Уступнае слова, падборка вершаў Рычарда Бялячыца*



# Дакументальная проза

## Валянцін Дубатоўка

### Замоўчаная праўда горш хлусні

Атрымалася так, што я пачаў працаваць над гэтым артыкулам напярэдадні Вялікодных святаў якраз тады, калі распачалася вандэя са зносам крыжоў у Курапатах. Вялікі пост, пэўна, найлепшы час, каб паразважаць над тым, што гэта было: самадурства чыноўнікаў, бязволле міліцэйскіх кіраўнікоў ці звычайнае хамства прагматычных прышыбеевых, для якіх слова «Айчына» — гэта толькі назва банка, у якім яны трымаюць бессаромна нарабаваныя ў людзей грошы. Але дасканала прааналізаваўшы ўвесь антураж, звязаны з вышэй узгаданым злачынствам, я прыйшоў да высновы, што ў дадзеных дзеяннях чыноўнікаў праглядаецца іншы кантэкст, чым здавалася на першы погляд. У прадзяржаўных перыядычных выданнях і на некаторых прарасійскіх сайтах у апошнія часы ўзмацніўся ціск на тых гісторыкаў, краязнаўцаў ды літаратараў, што ў сваіх працах раскрываюць злачынныя дзеянні ў час апошняй вайны не толькі фашысцкіх акупантаў і сапраўдных калабарацыяністаў на тэрыторыі Беларусі, але і розных прадстаўнікоў савецкай улады. Шчодра праплочаныя з дзяржаўнай кішэні, ідэолагі-прапагандысты не сталі абмяжоўваць сябе мастацкімі выразамі і літаратурнымі гіпербаламі, называючы літаратараў і навукоўцаў пярэваратнямі, а здаралася, што і ўвогуле паслядоўнікамі фашыстоўскай ідэалогіі. Хаця ўзгаданыя імі даследчыкі ніколі не выступалі ў абарону нямецка-фашысцкіх акупантаў і іх сапраўдных памагатых. А проста навукова падыходзілі да вывучэння вядомых і невядомых фактаў і архіўных дакументаў. Справа ў тым, што на баку апанентаў незалежных навукоўцаў стаіць непарушнай сцяной магутная дзяржаўная машына суседняй краіны. З яе кішэннымі судамі і заангажаванымі пракурорамі, несумленнымі журналістамі з НТВ, РТВ і г. д., агрэсіўнымі ідэолагамі, як у федэральных органах улады, так і ў нашых выканкамах.

І ўсё ж: чаму такі моцны ціск на даследчыкаў распачаўся менавіта цяпер?

А таму, што ў гэтым, на першы погляд простым пытанні, сэнс схаваны значна глыбей, чым здаецца. Сённяшняе знішчэнне крыжоў у Курапатах і ўздым хвалі нападаў на незалежных даследчыкаў — гэта звёны аднаго ланцужка. Заданне прапагандыстаў ад Расейскай і нашай уладаў зрабіць так, каб людзі ніколі не даведаліся праўды пра крывадушнасць і вераломствы Савецкай сістэмы. Маўляў, вы брашыце пра што хочаце, але не чапайце святое. Бо мы ёсць прамымі нашчадкамі Савецкага Саюза і яго паслядоўнікамі. А ў сувязі з тым, што ў чарговы раз з трэскам правальваецца чарговы эксперымент над нашымі людзьмі (саюзная дзяржава), трэба тэрмінова

зноў запускаць састарэлую прапагандысцкую машыну пра подзвіг савецкага народа і «крывадушных ворагаў», якія бессаромна замінаюць нам рухацца да светлай будучыні. Ці не гэта з'яўляецца галоўнай прычынай такой неаб'ектыўнай прапагандысцкай палітыкі ды ідэалагічнага ціску?..

Для кожнага народа і, у прыватнасці, для кожнага сумленнага чалавека няма нічога больш важнага ў жыцці, як праўда — якой бы яна не была жаданай (не жаданай), горкай, страшнай, трагічнай, але толькі праўда…

Несказаная поўнасцю праўда намнога горш, чым відавочная хлусня.

Менавіта ў пошуках такой праўды мы звярнуліся да людзей, якія добра памятаюць дэпартацыі і жудасныя рэпрэсіі 1939–1953-х гадоў беларускага насельніцтва з тэрыторыі Заходняй Беларусі. Памятаюць забойствы нявінных, спаленыя дамы і едка-салодкі пах згарэлага чалавечага мяса… Як за брата паліцая «партызаны» выбівалі ўсю сям'ю да апошняга, не шкадавалі ні дзяцей, ні старых, ні жанчын… Як рабавалі безабаронных вяскоўцаў, а потым нарабаванае валаклі па сваіх хатах ці на кірмашы… Як вынішчалі вёскі разам з людзьмі…

І іх сведчанні падмацоўваюцца багатымі архіўнымі матэрыяламі.

Так, гаворым з жыхаркай вёскі Стары Лес Навагрудскага раёна Яўгеніяй Дзям'янаўнай Радзюк.

Аўтар: — Яўгенія Дзям'янаўна, скажыце, калі ласка, я чуў, што савецкія партызаны ў час вайны пабілі тут шмат людзей.

Радзюк Я. Д.: — Гэта былі габрэйскія партызаны. Яны пасля таго, як паўцякалі з Навагрудскага гета, спачатку хаваліся дзесьці ў лесе, ну а потым сталі тут па нашых вёсках хадзіць. Аднаго разу прыйшлі да нас ды забілі хлопца вось тут па суседству. Ён быў маім аднагодкам.

Аўтар: — Малым, значыць, быў?

Радзюк Я. Д.: — Малы-ым… Яго ад маці забралі. Бацькоў пасадзілі ў падпол, накацілі на верх бочку, каб не вылезлі. А гэтага хлопца завялі туды, дзе стаялі свінні, завязалі за спінай рукі і забілі…

Аўтар: — Яўгенія Дзям'янаўна, а можа, ён быў у самаахове ці служыў у паліцыі?

Радзюк Я. Д.: — У якой паліцыі?.. Яму ўсяго пятнаццаць годзікаў было. Дзіця зусім.

Аўтар: — Дык за што?

Радзюк Я. Д.: — А ні за што… Вось так было: зацягнулі ў хлеў, завязалі рукі назад і сякераю засеклі. Бацькі пасля неяк вылезлі, адкацілі тую бочку і выпаўзлі на падворак… А тыя партызаны ўсё з хаты ды з хлява пазабіралі. Суседзі тыя добра жылі: мелі свіней, некалькі кароў, двое коней. Але хто тады пра тое дабро думаў… Яны кінуліся сына шукаць. Маці да нас прыбегла і кажа плачучы: «Майго Нюся забралі — знайсці не можам…» Мой бацька з суседам пайшлі шукаць хлопца. А ён, аказваецца, з рассечанай галавой у свінарчыку ляжаў…

Аўтар: — Нюсь… нейкае імя дзіўнае было ў хлопца.

Радзюк Я. Д.: — Суседзі гэтыя былі каталіцкай веры.

Аўтар: — Яўгенія Дзям'янаўна, я чуў, што партызаны недзе тут паблізу за Старым Лесам хутар спалілі ды людзей тамтэйшых пабілі.

Радзюк Я. Д.: — Пасля таго, як яны забілі гэтага хлапчука ды абрабавалі суседскую хату, партызаны накіраваліся на хутар: ён быў за нашай вёскаю і называўся Добрае

Поле. Ад нашай вёскі да першай хаты было не больш кіламетра. Там людзі таксама добра жылі. У іх скаціны шмат мелася, сям'я вялікая была…

Аўтар: — А не памятаеце, як прозвішча тых, што жылі ў Добрым Полі?

Радзюк Я. Д.: — Прозвішча іх было Белавус. Так, Белавусы яны былі. Дык тыя партызаны хутар той акружылі сходу і давай людзей страляць.

Аўтар: — І шмат пастралялі ў тую ноч?

Радзюк Я. Д.: — Я ўжо не памятаю, колькі… Ведаю, што дзяцей пабілі, старых, жанчын… Ды ўсё ж адзін хлопец уцёк. Партызаны гналіся за ім, можа, кіламетры з два, але не дагналі. І засталіся жывыя толькі тыя, каго не было дома. А астатніх, хто быў у тую ноч на хутары — усіх пастралялі. Усіх: і старых, і малых. Пасля забралі дабро і падпалілі будынкі. То ўсё там пагарэла дарэшты, дамы, хлявы, гумны…

Аўтар: — Яўгенія Дзям'янаўна, а за што іх спалілі? Можа, хто з іх у паліцыі служыў?

Радзюк Я. Д.: — Ды не-е. У паліцыі з Добрага Поля ніхто не служыў. Людзі старэйшыя казалі, нібыта гаспадар хутара немцам харчы даваў. Але як ты тут не дасі. Дык тады немцы маглі б застрэліць. Але, усё роўна, хай бы тады стары і адказваў. А дзяцей, жанчын за што пабілі?!.

Аўтар: — Яўгенія Дзям'янаўна, а пасля гэты хутар не адбудоўваўся больш?

Радзюк Я. Д.: — Дык хто ж адбудоўваць будзе… Калі партызаны ўсіх пабілі на тым хутары. Няма больш Добрага Поля, як і не было, толькі вунь камяні ад падмуркаў у лагчынах валяюцца…

Праз нейкі час удалося мне адшукаць і сустрэцца з унучкай гаспадара спаленага хутара Добрае Поле Грынько Анфісай Фёдараўнай, у дзявоцтве — Белавус.

Аўтар: — Анфіса Фёдараўна, раскажыце, калі ласка, пра тое, як на хутар, дзе жыла ваша мама, прыходзілі партызаны.

Грынько А. Ф.: — Мама распавядала, што аднаго разу да іх на хутар прыбег чалавек з вёскі Стары Лес і папярэдзіў, каб матчын бацька, мой дзед, уцякаў, бо па яго ідуць партызаны. Але ён сказаў, што нікуды не пойдзе, бо ў яго тут сям'я, і хай ужо будзе, што будзе. І праз нядоўгі час прыйшлі на хутар узброеныя людзі. І, нічога не гаворачы, адразу пачалі паліць хутар. Забілі дзіця малое, Сцепанідаю яе звалі, старэйшых дзяцей пабілі. І толькі Косця ўцёк. Ён выскачыў праз вакно і схаваўся недзе ў кустах, то выжыў. А ўсіх астатніх, хто быў на хутары, забілі…

Аўтар: — А колькі тады дакладна пабілі людзей, не ведаеце?

Грынько А. Ф.: — Мама не вельмі хацела пра тыя часы ўзгадваць, а я асабліва не настойвала.

Аўтар: — А чаму гаварылі, чуў я, што спаліў хутар Добрае Поле менавіта атрад братоў Бельскіх?

Грынько А. Ф.: — А партызаны тыя між сабою на сваёй мове размаўлялі, не панашаму.

Аўтар: — Анфіса Фёдараўна, а за што яны іх пабілі? Можа, хто з вашых сваякоў у паліцыі служыў ці ў самаахове?

Грынько А. Ф.: — Не, ніхто з іх у паліцыі не служыў…

Сведчанні Я. Д. Радзюк і А. Ф. Грынько дакументальна падмацоўваюцца Метрычнымі кнігамі Навагрудскага праваслаўнага сабора за 1943 г. (Гродзенскі гістарычны архіў. Ф. 892)

| *Фіксацыя смерці* | *Прозвішча, імя, імя па бацьку ахвяры* | *Дата забойства* | *Узрост* | *Месца забойства* | *Сведка* | *Хто забіў* |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Справа № 65 ад 22 красавіка 1943 г., г. Навагрудак | Ілья Фёдаравіч Белавус | 20 красавіка 1943 г. | 45 гадоў | в. Добрае Поле | Протаіерэй Мікалай Гарбацэвіч | забіты |
| Справа № 66 ад 22 красавіка 1943 г., г. Навагрудак | Вольга Грыгор'еўна Белавус | 20 красавіка 1943 г. | 42 гады | в. Добрае Поле | Протаіерэй Мікалай Гарбацэвіч | забітая |
| Справа№ 67 ад 22 красавіка 1943 г., г. Навагрудак | Антон Ільыч Белавус | 20 красавіка 1943 г. | 15 гадоў | в. Добрае Поле | Протаіерэй Мікалай Гарбацэвіч | забіты |
| Справа № 68 ад .22 красавіка 1943 г., г. Навагрудак | Віктар Ільыч Белавус | 20 красавіка 1943 г. | 13 гадоў | в. Добрае Поле | Протаіерэй Мікалай Гарбацэвіч | забіты |
| Справа № 69 ад 22 красавіка 1943 г., г. Навагрудак | Сцепаніда Ільінічна Белавус | 20 красавіка 1943 г. | 10 гадоў | в. Добрае Поле | Протаіерэй Мікалай Гарбацэвіч | забіты |
| Справа № 70 ад 22 красавіка 1943 г., г. Навагрудак. | Уладзімір Адамавіч Белавус | 20 красавіка 1943 г. | 50 гадоў | в. Добрае Поле | Протаіерэй Мікалай Гарбацэвіч | забіты |
| Справа № 71 ад 22 красавіка 1943 г., г. Навагрудак | Аляксандр Уладзіміравіч Белавус | 20 красавіка 1943 г. | 19 гадоў | в. Добрае Поле | Протаіерэй Мікалай Гарбацэвіч | забіты |
| Справа № 72 ад 22 красавіка 1943 г., г. Навагрудак | Антон Уладзіміравіч Белавус | 20 красавіка 1943 г. | 15 гадоў | в. Добрае Поле | Протаіерэй Мікалай Гарбацэвіч | забіты |

Гаворым з жыхаркай вёскі Макрэц Навагрудскага раёна Шайпук Марыяй Міхайлаўнай.

Аўтар: — Марыя Міхайлаўна, я чуў ад людзей, што тут у вашай вёсцы ў час вайны хтосьці знішчыў вялікую сям'ю.

Шайпук М. М.: — Так, такое было…

Аўтар: — А хто іх пабіў?

Шайпук М. М.: — У тую ноч партызаны выбілі ў нашай вёсцы дзве сям'і. Адну на хатуры, там, за вёскаю, а другую тут, непадалёку ад маёй хаты. А пабілі іх за тое, што ў іх нехта з сям'і служыў у паліцыі.

Аўтар: — Марыя Міхайлаўна, скажыце, партызаны толькі паліцаяў забівалі ў тую ноч?

Шайпук М. М.: — Але-е, у гэтых хатах усіх пабілі, і дзетак, і старых. А ведаеце, якія тады сем'і былі ў вёсках, па восем, дзесяць чалавек.

Аўтар: — Ну, то хай бы стралялі паліцаяў, а дзяцей малых за што пабілі?

Шайпук М. М.: — Ну то гэтак. Дзеці не пры чым, але яны іх пабілі. Памятаю, як распавядаў пра той расстрэл мой муж. У гэтага гаспадара, што жыў тут у вёсцы, быў сын Платон, то мой мужык з ім сябраваў. А гэтага хлапчука разам з сёстрамі забілі ў тую страшную ноч. Мой мужык быў з дваццаць восьмага года. Уяўляеце, пятнаццаць гадзікаў хлапчуку было, у чым ён можа быць віноўным. Яшчэ памятаю, што гаспадара хутара звалі Іван, а як імёны астатніх пастраляных — ужо забылася. А вось прозвішча сям'і з хутара памятаю — Дзяшук. Але бачыце, якая ўжо дрэнная памяць, астатнія імёны забылася.

Аўтар: — Добрая яшчэ ў вас памяць, Марыя Міхайлаўна, калі яшчэ такія акалічнасці памятаеце.

Шайпук М. М.: — Мой муж часта расказваў пра тое страшнае забойства, што здарылася ў тую ноч. На раніцу ў вёску да брата таго Дзешука Івана прыбег сабака з хутара. Забег на падворак і стаў моцна выць. Людзі пачалі, зразумела, яго ганяць з падворка, а ён усё не сціхае. Але раптам сабака развярнуўся і назад на хутар пабег. Нібыта людзей за сабой клікаў. Усе, хто былі на падворку, за ім. Залятаюць у хату, а там усе пабітыя: і дзеці, і жанчыны. Паўсюль мёртвыя. Муж казаў, што крыві так шмат у той хаце было, што яна аж цераз парог сцякала.

Аўтар: — А не ведаеце, колькі ў тых пабітых партызанамі людзей было дзетак?

Шайпук М. М.: — Ведала, але ўжо забылася. Людзі гаварылі, што быццам адна маладзіца толькі і ацалела з той сям'і. Яна была цяжарная і якраз напярэдадні адышла ў Навасёлкі. Вёска тут ад нас непадалёку. А ўсіх астатніх партызаны пабілі.

Аўтар: — Марыя Міхайлаўна, вось тых, што пабілі, на хутары было прозвішча Дзяшук, а прозвішча той сям'і, што тут у вёсцы партызаны пабілі, вы не памятаеце?

Шайпук М. М.: — Тых, каго пабілі ў Макрэцы, называлі нібыта Курачы ці Курач. Але дакладна не скажу. Памятаю, што ў гэтых Курачаў была прыгожая дзеўка. Каса ў яе такая доўгая была, і сама высокая, сімпатычная. А колькі ўсіх іх было, я ўжо забылася.

Аўтар: — Марыя Міхайлаўна, а як звалі вашага мужа?

Шайпук М. М.: — Шайпук Аляксандр Васільевіч.

Аўтар: — Скажыце, Марыя Міхайлаўна, а, можа, у тых, каго пабілі партызаны, засталіся сваякі ці родныя?

Шайпук М. М: — Не, у Макрэцы ў іх нікога не засталося. Я толькі ведаю, што ў Наваградку, на вуліцы Першага Мая жыве дачка брата Івана Дзешука. Дарэчы, яна з трыццаць сёмага года. Таму яна павінна больш ведаць пра сваю сям'ю.

Аўтар: — А як яе цяперашняе прозвішча па мужу?

Шайпук М. М.: — Булыга.

Аўтар: — Марыя Міхайлаўна, я вось хачу пад'ехаць на тое месца, дзе быў Дзешукоў хутар. Не падкажаце дарогу?

Шайпук М. М.: — Праедзеце праз вёску туды на Крываногава, убачыце на пагорку малады бярэзнік, вось у гэтым ляску і быў у вайну Дзешукоў хутар. Хата ў іх добрая была. Пасля вайны Саветы заставілі нашых людзей падлогу вымыць, сцены пабяліць, а яшчэ праз нейкі час яны там школу зрабілі, дарэчы, мая старэйшая дачка ў яе хадзіла…

Далей працягваем тэму гутаркі (з дадаткам цікавай інфармацыі) з Алёнай Міхайлаўнай Казлоўскай, жыхаркай вёскі Макрэц Навагрудскага раёна.

Аўтар: — Скажыце, калі ласка, Алёна Міхайлаўна, людзі распавядаюць, што ў вашай вёсцы партызаны знішчылі дзве сям'і.

Казлоўская Е. М.: — Так, адну сям'ю яны пабілі на хутары. Ён знаходзіўся там за вёскаю за некалькі метраў ад лесу. Я ўжо нават прозвішчы тых загінуўшых забылася. Але ведаю, што ў іх было шмат дзяцей, то партызаны іх усіх пабілі. Тады ж забілі і гаспадароў дому, і іх старых…

Аўтар: — Алёна Міхайлаўна, а вы не памятаеце, колькі ў тых забітых было дзяцей?

Казлоўская Е. М.: — Я ў вайну яшчэ малая была, але мама мне гаварыла, што ў той расстралянай на хутары сям'і было чацвёра дзяцей. Дык іх усіх і пабілі…

Аўтар: — А за што забілі партызаны дзяцей, вы не ведаеце?

Казлоўская Е. М.: — Нібыта за тое, што нехта з іхняй сям'і служыў у паліцыі.

Аўтар: — А пра гэтых, каго пабілі тут у Макрэцы, вы нічога не памятаеце?

Казлоўская Е. М.: — Ведаю, што выбілі ўсю сям'ю ў вёсцы, але як іх прозвішча, я ўжо не памятаю.

Аўтар: — Алёна Міхайлаўна, а ў гэтых людзей, якіх пабілі ў вёсцы, былі дзеці?

Казлоўская Е. М.: — Былі, а як жа… У тую ноч і дзетак іхніх пабілі, і гаспадароў дома. Усіх пад чыстую.

Аўтар: — А хаты ў гэтых забітых партызаны не палілі?

Казлоўская Е. М.: — Не, хатаў партызаны тады не палілі. Вось у той хаце, што стаяла на хутары, Саветы пасля вайны зрабілі школу. Я яшчэ сама ў тую школу хадзіла. А той беразняк, што там расце, пасадзілі пазней. І дарэчы, гэтую хату, што стаяла тут у вёсцы, таксама тады не спалілі. Людзей пазабівалі, але хату не спалілі. Тут, ведаеце, як было: вось, напрыклад, мой дзядзька таксама служыў у паліцыі, але меў сувязь з партызанамі. Зброю ім цягаў ды інфармацыю розную збіраў. А гэтыя, пэўна, супрацоўнічаць з партызанамі не захацелі. За гэта іх і пабілі.

Аўтар: — А ваш дзядзька выжыў?

Казлоўская Е. М.: — Яго нехта здаў немцам. Але дзядзька спачатку ўцёк. Яму не хапіла некалькі кіламетраў да партызанаў — перад самым лесам яго дагналі сабакі.

А пасля яго і яшчэ некалькі чалавек загналі ў нейкі хлеў і там спалілі. Але гэта ўжо палілі немцы.

Аўтар: — А якія партызаны забівалі вашых суседзяў?

Казлоўская Е. М.: — Кажуць, што браты Бельскія нашых пабілі. Але я дакладна не ведаю. Ды й ці важна цяпер гэта… Галоўнае, што бязвінных людзей пабілі. А дзетак за што?..

**Паводле Метрычных кніг Навагрудскага сабора за 1943 г.**
**(Гродзенскі гістарычны архіў. Ф. 892)**

| *Фіксацыя смерці* | *Прозвішча, імя, імя па бацьку ахвяры* | *Калі забіты* | *Узрост* | *Месца забойства* | *Хто засведчыў* | *Хто забіў* |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Вопіс 1. Справа № 2. Навагрудак, 16 сакавіка 1943 г. | Аляксандр Паўлавіч Курач | 11.сакавіка 1943 г. | 19 гадоў | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забітая |
| Вопіс 1. Справа № 3. Навагрудак, 16 сакавіка 1943 г. | Нальля Паўлаўна Курач | 11 сакавіка 1943 г. | 17 гадоў | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забітая |
| Вопіс 1. Справа № 2. Навагрудак. 16 сакавіка 1943 г. | Платон Паўлавіч Курач | 11 сакавіка 1943 г. | 15 гадоў | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забіты |
| Вопіс 1. Справа № 3. Навагрудак. 16 сакавіка 1943 г. | Ганна Аляксандраўна Курач | 11 сакавіка 1943 г. | 40 гадоў | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забітая |
| Вопіс 1. Справа № 2. Навагрудак. 16 сакавіка 1943 г. | Васілій Фёдаравіч Курач | 11 сакавіка 1943 г. | 80 гадоў | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забіты |
| Вопіс 1.Справа № 3. Навагрудак. 16 сакавіка 1943 г. | Юліян Васільевіч Курач | 11 сакавіка 1943 г. | 40 гадоў | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забіты |
| Вопіс 1. Справа № 3. Навагрудак. 16 сакавіка 1943 г. | Аляксандра Грыгор’еўна Курач | 11 сакавіка 1943 г. | 45 гадоў | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забітая |
| Вопіс 1.Справа № 3. Навагрудак. 16 сакавіка 1943 г. | Марыя Паўлаўна Курач | 11 сакавіка 1943 г. | 11 гадоў | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забітая |

| *Фіксацыя смерці* | *Прозвішча, імя, імя па бацьку ахвяры* | *Калі забіты* | *Узрост* | *Месца забойства* | *Хто засведчыў* | *Хто забіў* |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Вопіс 1. Справа № 3. Навагрудак. 16 сакавіка 1943 г. | Мікалай Паўлавіч Курач | 11 сакавіка 1943 г. | 30 гадоў | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забіты |
| Вопіс 1. Справа № 3. Навагрудак. 16 сакавіка 1943 г. | Ганна Курач | 11 сакавіка 1943 г. | 80 гадоў | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забітая |
| Вопіс 1. Справа № 3. Навагрудак. 16 сакавіка 1943 г. | Іван Сцяпанавіч Дзешук | 11 сакавіка 1943 г. | 48 гадоў | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забіты |
| Вопіс 1. Справа № 3. Навагрудак. 16 сакавіка 1943 г. | Таццяна Дзешук | 11 сакавіка 1943 г. | 43 гады | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забітая |
| Вопіс 1. Справа № 3. Навагрудак. 16 сакавіка 1943 г. | Мікалай Іванавіч Дзешук | 11 сакавіка 1943 г. | 13 гадоў | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забіты |
| Вопіс 1. Справа № 3. Навагрудак. 16 сакавіка 1943 г. | Уладзімір Іванавіч Дзешук | 11 сакавіка 1943 г. | 23 гады | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забіты |
| Вопіс 1. Справа № 3. Навагрудак. 16 сакавіка 1943 г. | Сцяпан Іванавіч Дзешук | 11 сакавіка 1943 г. | 15 гадоў | в. Макрэц | Протаіерэй Я. Карніловіч | забіты |

…Кожны раз пасля такіх сустрэч са сведкамі тых трагічных падзей я задаю сабе адно і тое ж пытанне: як жа не сорамна сённяшнім прапагандыстам спісваць нечалавечую жорсткасць, звярыную бязлітаснасць некаторых «народных мсціўцаў» на барацьбу з акупантамі. І ці справядліва, калі забойцаў мірных людзей сёння, на пачатку XXI стагоддзя, «Великая Россия» ці інакш «Чэсная дзяржава» залічвае ў героі. А апошнія бессаромна карыстаюцца незаслужанай славаю, маючы пры гэтым ад той самай дзяржавы неблагі гешэфт. Нехта скажа: «Мёртвым не баліць». Святое Пісанне сцвярджае, што душа чалавека несмяротная. І калі так, дык душы без віны забітых абавязкова патрапяць у рай. А для тых, хто іх забіваў, будзе асобны суд. Акрамя зямнога суда ёсць яшчэ і Суд Божы. І на ім не схавацца за псеўдапераможныя рэляцыі ды ідэалагічныя догмы. Не кепска было б, каб пра тое памяталі і тыя пісакі, якія выступаюць іх адвакатамі — як адвакатамі д'яблаў…






нарадзіўся 20 ліпеня 1963 года ў вёсцы Александрыя Зэльвенскага раёна. Як мецэнат фундаваў кнігі: факсімільнае выданне Ларысы Геніюш «Ад родных ніў», Міхася Скоблы «Розгі ў розніцу», Юркі Голуба «Багра» ды інш. Друкаваўся ў «Гродзенскай праўдзе», «Дзелавой газеце», у часопісах «Роднае Слова», «Дзеяслоў». Выдаў кнігу даследаванняў і вершаў «Архіпелаг Сапегаў», кнігі прозы «Чорная Воля» (2013), «Чужы» (2017), «Сімвал веры» (2018), «Пажарка — прытулак для самотнага музыкі» (2019). Старшыня Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.

ЛЕАНІД ЛАЎРЭШ

## Лябёдка Іваноўскіх

*Дакументальная аповесць (пачатак)*

### Ад аўтара

*Гэтая аповесць пра маёнтак Лябёдка Іваноўскіх, месца, дзе ў адной сям'і выраслі і сфармаваліся выбітныя дзеячы трох суседніх народаў: беларускага, польскага і летувіскага. Беларуса Вацлава Іваноўскага, які быў цэнтральнай фігурай у справе адраджэння нашай радзімы, выгадавала Лідская зямля і яго родная Лябёдка.*

*Пра Вацлава Іваноўскага грунтоўна напісаў Юры Туронак. Пра братоў Вацлава — Ежы і Тадаса — шмат пісалі польскія і летувіскія аўтары. Галоўнай асобай маёй аповесці будзе сястра Вацлава — Алена Скіндар з Іваноўскіх (1886–1973), сястра чатырох братоў, асоба, якая пакінула свой вялікі след у беларускай гісторыі, але знаходзілася ў цені сваіх братоў*.*

*Прафесар Гданьскага ўніверсітэта Казімір Іваноўскі** пісаў пра сваю сям'ю: «Сям'я наша была цікавай. Мой бацька Станіслаў меў трох братоў розных нацыянальнасцей. Самы старшы Ежы, інжынер, шмат разоў займаў міністэрскія пасады, быў сенатарам ІІ-й Рэчы Паспалітай і лічыў сябе палякам. Другі — Вацлаў, хімік, прафесар Варшаўскай Палітэхнікі, быў беларусам. Трэці — Тадэвуш, заолаг, прафесар Ковенскага ўніверсітэта, быў летувісам. Такія сямейныя падзелы не былі рэдкасцю на тэрыторыі былога ВКЛ, і асаблівай адзнакай сям'і Іваноўскіх было не гэта, а тое, што мой дзядзька Тадэвуш меў у сваяках прыёмнага радавітага кітайца, — такога больш ні ў каго не было.*

*Усе браты былі яркімі постацямі, і пра кожнага з іх можна напісаць кнігу***.*

*Мае дзядзькі мелі адно хобі — часта мянялі жонак. Кожны з іх быў жанаты па тры разы, і таму мы мелі шмат цётак****. У 1920-х гг. мая маці падчас нейкага раўту ў Вільні была прадстаўлена Пілсудскаму. Той запытаў — якога з Іваноўскіх яна жонка?*

*— Таго, які мае толькі адну жанчыну, — адказала мая маці.*

---

* Аповесць грунтуецца на мемуарах Тадаса Іванаўскаса і яго сына Ежы Іваноўскага, Ганны Карнецкай з Іваноўскіх (дачкі Вацлава Іваноўскага) і Казіміра Іваноўскага (сына малодшага брата Станіслава Іваноўскага).

** Сын малодшага брата Вацлава Іваноўскага, адваката Станіслава і ўнук Леанарда Іваноўскіх з маёнтка Лябёдка Лідскага павета.

*** Пра Вацлава Іваноўскага гл: Туронак Ю. Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі. Мінск, 2006.

**** Ежы Іваноўскі меў трох жонак: Казіміру Зямецкаю (1880–1967), Мілабедзка-Гарчынскую (1878–?), Зоф'ю Газдзенскую (1913–1979); Вацлаў Іваноўскі быў двойчы жанаты: з Сабінай Яцыноўскай (1877–1954) і Лігіяй Федаровіч (1890?–?); Тадас Іванаўскас меў трох жонак: Марыю Вольскую (1884–?), Ганарату Паскаўскайце (1891–1949) і Марыю Наткевіч (1905–1996).

*— А, значыць, Станіслава, — заўважыў маршал, які добра арыентаваўся ў справах Іваноўскіх».*

*Пра свайго старшага дзядзьку Ежы (ці Юрыя) Іваноўскага (1876–1965) пляменнік Казімір коратка паведамляў галоўнае: шматразовы міністр адноўленай Польшчы, асабісты сябар Пілсудскага і ў 1930-я гг. сенатар Польшчы.*

*Вацлаў Іваноўскі (1880–1943), прафесар-хімік і адзін з заснавальнікаў Беларускага руху, — чалавек, які свае мары пра Беларусь перавёў на практычныя рэйкі і аддаў Беларусі сваё жыццё. Пра яго напісаны кнігі, і я ўпэўнены, што да гэтай постаці яшчэ шмат разоў будуць звяртацца нашыя лепшыя гісторыкі і пісьменнікі.*

*Тадэвуш Іваноўскі (1882–1970) — прафесар заалогіі і потым член-карэспандэнт Літоўскай акадэміі. Большую частку жыцця ён быў вядомы як Тадас Іванаўскас, бо сам сабе выбраў нацыянальнасць летувіс.*

*Апошні, самы малодшы брат, Станіслаў (1887–1970) прымаў удзел у польскай «Самаахове» Лідчыны і Гарадзеншчыны, а потым быў шараговым і далёка не самым лепшым віленскім адвакатам. Пра яго я таксама трошкі раскажу…*

**Род Іваноўскіх**

Захаваўся дакумент, які ўказвае на тое, што з другой паловы XVII ст. адзін з Іваноўскіх — Мікалай Іваноўскі, быў мінскім старастам і на ўласныя сродкі аднавіў і рэстаўраваў касцёл Вітаўта Вялікага ў Коўні*, разбураны рускімі войскамі падчас вайны. Адбудова касцёла закончылася 30 верасня 1669 г. Захаваўся дакумент, з якога бачна, што ў 1747 г. Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Аўгуст III Сас прызначыў ковенскага чашніка Мікалая Іваноўскага падкаморым (шамбелянам) каралеўскага двара. Гэта была высокая пасада, і брэсцкі канцлер Марцін Матушэвіч у сваіх успамінах каля сотні старонак прысвяціў роду Іваноўскіх, два пакаленні якіх былі старастамі.

З афіцыйнага дакумента № 3896 ад 9 сакавіка 1848 г., выдадзенага Канцылярыяй Бюро шляхецкай дэпутацыі Віленскай губерні, бачна, што Кшыштаф Іваноўскі валодаў дваром Забалаць у Лідскім павеце і ў 1720 г. перадаў яго сыну Міхалу. Міхал у 1750 г. гэты двор з усёй маёмасцю падараваў свайму сыну Дамініку Іваноўскаму, які ў 1776 г. на падставе дароўнага акта перадаў двор з прыгоннымі сялянамі сваім двум сынам Юзафу Вінцэнту Ферар'ю Іваноўскаму і Людвіку Іваноўскаму, якія ў 1790 г. прадалі двор князю Радзівілу. Сынам Юзафа Вінцэнта Ферарыя Іваноўскага быў Тамаш Іваноўскі, прадзед нашых Вацлава і Алены Іваноўскіх. У Слонімскім павеце ён купіў двор Яворская Руда. Хадзілі чуткі, што зрабіў гэта таму, што там быў закапаны скарб, пра які больш ніхто не ведаў.

Сын Тамаша Іваноўскага Станіслаў (1816–1900), дзед Вацлава і Алены, ажаніўся з Антанінай Рыла-Быкоўскай, якая была адзінай дачкой свайго бацькі і таму ўспадкавала пасля яго двор Лябёдка. Шлюб адбыўся 2 ліпеня 1844 г. у касцёле Старых Васілішак. У Лябёдцы нарадзіўся Леанард Іваноўскі, а потым усе дзеці Леанарда.

Тадас Іванаўскас цытуе дакументы, з якіх бачна, што «прывілеем караля польскага Жыгімонта I ад 7 лістапада 1510 г. фальварак Дварэц нададзены Яго Каралеўскай

* Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, самы стары касцёл у Коўні.

Мосцю двараніну Івашку Рыла-Быкоўскаму і яго нашчадкам», і пасля гэтага ён чатыры стагоддзі заставаўся маёмасцю фаміліі, пераходзіў ад бацькі да сына, і апошнім у чарадзе ўладальнікаў стаў Юрый Андрэевіч Быкоўскі. Апошні меў адну дачку Антаніну ў замужстве з Станіславам Іваноўскім і пакінуў ёй сваю маёмасць. Пасля смерці Антаніны маёнтак перайшоў у рукі яе адзінага сына, інжынера Леанарда Іваноўскага.

У прывілеі караля Жыгімонта I гэта маёмасць называецца Дварэц з вёскай Пацкі. У дакуменце ад 12 ліпеня 1568 г. маёнтак ужо мае назву Лябёдка, нагодай змены назвы быў перанос двара на тое месца, дзе ён стаіць і цяпер — у вусце рэчкі Лябёдка. Сяляне вёскі Пацкі перасяліліся ў Ваейкаўцы і Верх-Лябёдку. Там, дзе быў двор Дварэц і вёска Пацкі, у XIX ст. заставалася толькі ўрочышча з гэткімі назвамі, якое належала фальварку Лябёдка. Прозвішчы сялян усе гэтыя гады засталіся нязменнымі.

**Прадзед Тамаш Іваноўскі**

У сям'і памяталі гісторыю, якая сведчыць пра зухаваты і свавольны характар прадзеда. Неяк ён з-за нейкай дробязі пасправачаўся з пробашчам з Васілішак і, доўга не чакаючы, загадаў сваім служкам у цэнтры мястэчка распрануць і высекчы ксяндза розгамі. Справа была вельмі сур'ёзная і пагражала яму смерцю, але прадзед з цяжкасцю і за вялікія грошы ўратаваўся.

Дзеці Тамаша Іваноўскага — Станіслаў і яго брат Вінцэнт — мелі такі ж нястрыманы характар, казалі праўду ў вочы і нярэдка ўблытваліся ў скандальныя гісторыі. Вінцэнт закончыў жыццё трагічна. Закахаўся ў прыгожую, але жанатую кабету, якая адказала яму ўзаемнасцю. Калі сітуацыя дайшла на скандалу, жонка атруціла свайго мужа. Ёй пагражала суровая кара, і падчас суду Вінцэнт Іваноўскі ўзяў яе віну на сябе. Прыгожую даму апраўдалі, а Вінцэнта арыштавалі і засудзілі на катаргу. Па дарозе ў Сібір ён дачакаўся адпаведнага моманту і напаў на вартаўніка, але раззброіць жаўнера і ўцячы не змог — і быў забіты.

**Дзед Станіслаў Іваноўскі**

У сям'і Іваноўскіх захавалася школьнае пасведчанне Станіслава, з якога бачна, што ён нарадзіўся ў 1816 г. у Рудзе Яварскай Слонімскага павета. Закончыў трохкласную павятовую вучэльню ў Слоніме і ў 1833 г. быў прыняты ў гімназію. Служыў у канцылярыі Гродзенскага дваранскага дэпутацкага сходу і Гродзенскай палаце дзяржаўнай маёмасці.

Дзед дажыў да старэчага веку і памёр, калі ўнукі былі ўжо падшпаркамі. Станіслаў шмат часу бавіў з імі, і таму яго ўнук Тадас добра памятаў свайго дзеда.

Станіслаў Іваноўскі толькі ў сівым узросце перастаў займацца маёнткам. Але і ў старым узросце, летам ён трохі назіраў за гаспадаркай, размаўляў з працаўнікамі, а потым паліў люльку і раскладаў пасьянсы. Меў час расказваць гісторыі з свайго жыцця ці шматкроць паўтараць адны і тыя ж жарты. Любіў паразмаўляць з вяскоўцамі, пачаставаць іх тытунём ці прапанаваць кілішак гарэлкі. Тадас памятаў: неяк да іх прыйшоў вясковы стараста, дзед пасадзіў яго за чысты стол і пачаў частаваць гарбатай з печывам і сухім сырам. Стараста пачаставаўся, а недаедзены сыр схаваў у сваю скураную торбу і забраў з сабой. У сям'і з гэтага моцна смяяліся.

Згодна з старым звычаем, сяляне цалавалі пану руку (асабліва старому пану). Гэтак было і ў Лябёдцы, але дзед Станіслаў звычайна рабіў пры гэтым адзін і той жа фінт. Калі чалавек хапаў яго за руку, ён прыкідваўся напалоханым, крычаў «Што, што?» і ўздымаў рукі ўверх. Тыя, хто ведалі гэты жарт, усё ж цалавалі яму руку, а чужыя пужаліся ці нават абражаліся.

Але час ад часу праяўляўся і гарачы характар Станіслава Іваноўскага. Неяк касцы суседа перайшлі мяжу і выкасілі кавалак лугу Іваноўскіх (на балоце Кятуркі, там дзе луг Лябёдкі межаваў з лугам Макрэцкіх). Якраз у той момант на сенакос прыехаў сам стары. Пабачыўшы, што робіцца, ён атакаваў суседа, які там таксама знаходзіўся. Слова за слова — пачалася спрэчка, якая закончылася тым, што Станіслаў апрацаваў суседа кіем. Аднак доўга не гневаўся, хутка супакоіўся і не толькі выбачаўся, але і запрасіў Макрэцкага на сняданак. Той жа ад такога «гонару» адмовіўся.

Аднак сяляне ведалі, што Станіслаў Іваноўскі меў добрае сэрца і быў зычлівы да ўсіх, яшчэ падчас прыгону ён адносіўся да сваіх сялян як да людзей. Пра гэта можа сведчыць такі факт. Паўстанцам 1863 г. стары Іваноўскі аддаў свайго вельмі добрага каня. Пасля падаўлення паўстання рускія, каб даведацца, хто быў гаспадаром каня, вадзілі яго па ваколіцах і пыталіся ў сялян, каму ён належыць. І хоць усе ведалі, чый гэта конь, ніхто дзеда не выдаў*.

Станіслаў Іваноўскі меў вясёлы і прыязны нораў, любіў забаўныя гісторыі і часта шуткаваў. Расказваючы гісторыі з былога жыцця, стары не надта выбіраў словы, і таму слухачы (асабліва маладыя жанчыны) часам чырванелі ці ад сораму апускалі вочы. Але маладзёны трымаліся інакш. Ведаючы звычкі дзеда, яны стараліся справакаваць яго і ўзбудзіць перапалох сярод паннаў і паненак. Аповяды Іваноўскага не былі надта ўжо цікавымі і, тым не менш, мелі свайго слухача.

Вось адна з гэтых гісторый. Неяк стары ехаў з Вільні. Недалёка ад горада, у Папішках затрымаўся каля карчмы. Там на плоце ці сцяне знайшоў надпіс «У панны Вінцэсі ёсць на што сесці»**, а ніжэй, іншым почыркам, нехта дапісаў: «Ёдкаўны». Маладыя кавалеры заўсёды прасілі дзеда, каб расказаў, што ж было напісана на карчме ў Папішках, а ён зноў і зноў сур'ёзна згаджаўся выканаць іх просьбу і зноў і зноў засмучаў паннаў і паненак.

Але Станіслаў Іваноўскі любіў шуткаваць і з маладымі кабетамі. Неяк, калі па справе ён знаходзіўся ў Гродна, пачалася бура з залевай. Потым дождж спыніўся, распагодзілася, але па вуліцах яшчэ цяклі ручаі бруднай вады. Іваноўскі падпільнаваў маладую даму, якая стаяла, падняўшы спадніцу, і не ведала, як перайсці на другі бок вуліцы. Дзед незаўважна падкраўся да яе, ухапіў на рукі і перанёс на другі бок. У першую хвіліну дама аслупянела, але потым апрытомнела і пачала гучна папракаць неспадзяванага кавалера. Станіслаў гжэчна перапрасіў і прапанаваў перанесці яе назад, але дама не згадзілася.

---

* Праўнук Станіслава Казімір Іваноўскі так падаў гэту гісторыю: «Пасярод лесу быў крыж, каля якога маліліся за паўстанцаў 1863 г. Тут казакі наскочылі на лагер інсургентаў, у лагеры меліся вазы з маёнтка Лябёдка з рэчамі для паўстанцаў. Следства так не ўстанавіла, чые былі тыя вазы і коні — ніхто з суседзяў не выдаў Іваноўскіх (за дапамогу паўстанцам клады канфіскоўвалі маёнткі)».

** Па-польску: «U panny Wincenty tyłek wypięty».

Часам ён любіў удаваць сябе за нейкага непрыстойнага старога, але непрыстойнасць не была характэрнай рысай яго жартаў. Такія паводзіны з'яўляліся звычайнымі для тагачаснай шляхты і знайшлі сваё адлюстраванне ў літаратуры. Але калі-некалі яго жарты стаялі блізка да той мяжы, пасля якой пачынаецца дрэннае выхаванне. Да таго ж з сялянкамі ён размаўляў яшчэ вальней, тым больш што і яны таксама любілі пагаманіць. Калі чуў нейкую навіну ці проста нешта яго ўражвала, звычайна ўскрыкваў: «А каб ты ўсікаўся!»* Гэтую лаянку ведалі ўсе суседзі і лічылі звыклым элементам стылю размовы старога пана. Унук Тадас распавёў адну звязаную з гэтым гісторыю. Ён тады вучыўся ў другім класе Варшаўскай гімназіі і прыехаў у Лябёдку на калядныя вакацыі. Дзед узяў яго з сабой на паляванне. Яны абышлі вялікі абшар і пры канцы, вырашыўшы вярнуцца дадому, выйшлі на дарогу. Дзед добра стаміўся, унук таксама змучыўся, і таму, пабачыўшы кабету, якая ехала санямі, папрасілі яе падвезці іх. Кабета адмовілася, патлумачыўшы гэта тым, што конь стаміўся, а ёй яшчэ трэба прывесці хрусту з лесу.

«Каб ты ўсікалася!» — адрэзаў дзед сваёй любімай фразай. І раптоўна твар кабеты праясніўся: «А, дык гэта пан Іваноўскі! А я пана не пазнала, прашу сядаць, падвязу…»**

Неяк Станіслаў Іваноўскі невядома адкуль прывёз некалькі трусоў і даручыў ахмістрыні Лябёдкі апекавацца імі. Потым ён часта пытаў яе пра гэтых звяркоў, і праз некалькі дзён сам прыйшоў да гаспадыні ў пакой, які знаходзіўся на другім канцы дома, і ўбачыў, што адзін трус ужо здох. Узяў яго і паклаў гаспадыні ў ложак паміж матрацам і металёвай рамай. Праз нейкі час зноў спытаў пра трусоў і атрымаў адказ: «Жывыя, здаровыя і добра ядуць». Мана выявілася, калі трус засмярдзеў.

Без злой волі, але сурова адносіўся стары да маладых кавалераў, якія заляцаліся да дзяўчат. У Лябёдцы часта гасцявала моладзь, і таму заляцанак не бракавала. У прыбыўшых з візітам маладзёнаў, у якіх ужо пачыналі расці першыя вусікі, стары заўсёды пытаў: «Ці ж бацька дазволіў табе гадаваць вусы?»

Неяк дайшло да здарэння, якое назаўсёды сапсавала адносіны Іваноўскіх з адным з сваіх сваякоў. Калі ў Лябёдцы сабраліся госці, з-за Нёмана на кані прыехаў пляменнік старога Палікарп Лункевіч, які толькі што атрымаў афіцэрскі чын. Калі з'явіўся стары Іваноўскі, ён якраз з поспехам заляцаўся да прыгожай панны. Дзед прывітаўся з Палікарпам і пахваліў яго, сказаўшы, што той добра выглядае ў ваенным мундзіры, а потым дадаў: «А памятаеш, Палікарпка, як ты прыехаўшы неяк, не мог рашыць практыкаванне па геаметрыі і я загадаў на гэтым каменю даць табе дзесяць бічоў?». Палікарп пачырванеў як рак, пайшоў на стайню, асядлаў каня і з'ехаў. Больш у Іваноўскіх ён не паказваўся.

Часам у Лябёдку на паляванне запрашаліся госці. Звычайна такія паляванні арганізоўваліся падчас сямейных урачыстасцяў. Паляўнічыя збіраліся з вечара, і калі дазваляла надвор'е, спалі на сене на падворку. Ім выдаваліся коўдры з падушкамі, і ўдзельнікі палявання клаліся ў радок адзін каля аднаго. Устаць належала да ўсхо-

---

* Праўнук Станіслава Казімір Іваноўскі піша, што любімым прыслоўем Станіслава Іваноўскага было: «А каб ты абаср…!», і ў яго тэксце гэта лаянка запісана па-беларуску.

** Казімір Іваноўскі падаваў гэту гісторыю трохі інакш…

ду сонца. Неяк дзед, абудзіўшыся першым, выйшаў на падворак і ўбачыў, што ўсе паляўнічыя яшчэ моцна спяць. Пастаяў хвілінку, потым загадаў свайму «стральцу», старому Вінцуку Крывашэю, трымаць доўгі кій і стаяць каля спячых, а сам узяў у рукі стрэльбу. Раптоўна паляўнічыя пачулі стрэл і адчулі ўдары па спінам і нагам. Усе імгнення паўскоквалі. Для ўсіх такі пачатак палявання быў у навіну!

Стары меў вялікі запас паляўнічых апавяданняў і ахвотна іх расказваў. Звычайна пры гэтым дадаваў да расказаў розную небывальшчыну. Дзясяткі разоў расказваў пра спрытнага зайца, якога гналі сабакі, а ён расплыўся ў паветры, і сабакі страцілі яго след. Потым даведаліся, што заяц заскочыў на высокі пень, таму ганчакі яго не заўважылі і прабеглі міма. Аднак пра адно паляўнічае здарэнне дзед не любіў узгадваць. Было гэта так. Ён паляваў на зайца і пачуў, што сабакі гоняць звярка ў яго бок. Заяц ужо павінен быў выскачыць на дарогу, і стары падрыхтаваўся яго сустрэць, як раптоўна пачуў: «Хай будзе пахвалёны», — па дарозе ішла вясковая кабета. Дзед замест «На векі вечныя» закрычаў: «Пацалуй сабаку пад хвост!» І як раз у гэты момант заяц збочыў і ўцёк.

Запомніўся ўнукам яшчэ адзін забаўны эпізод з бясконцых паляўнічых гісторый дзеда. Падчас адпачынку пасля палявання, адзін з гасцей, нахіліўшыся, нешта прашаптаў старому на вуха. Станіслаў Іваноўскі меў кепскі слых і, недачуўшы, гучна адказаў: «Што такое… а… добрае месца? Пачакай трохі, зараз закончу расказваць пра справы з тым зайцам… Зараз пакажу». І няспешна закончыў свой аповед, не звяртаючы ўвагі на тое, што госць не мог ужо дачакацца фіналу. У канцы ён зноў пачаў шаптаць нешта дзеду на вуха. Тады абодва выйшлі на падворак, і дзед выцягнуўшы перад сабой руку, павярнуўся вакол сябе на адной назе і сказаў: «Дзе толькі хочаш, ажно да самага гарызонту»*.

Да сваякоў дзед адносіўся па-рознаму. З нявесткай быў вельмі лагодны і падчас размовы з ёй не дазваляў сабе розных дрэнных словаў. З сваёй апошняй жонкай, бабуляй Стасяй, размаўляў трошкі свабадней. З сваімі ўнукамі размаўляў вольна, час ад часу ўстаўляў пікантнае слоўца. Аднак часта бываў сентыментальным, і тады называў унукаў «душачкамі». Перад і пасля абеду хрысціўся. Падчас абеду патрабаваў цішыні і казаў: «Падчас абеду — як у касцёле». Крошкі са стала трэба было сабраць і спаліць, каб не трапілі на сметнік ці іншае бруднае месца. Такім жа чынам дзед шанаваў і жыта. Дажынкавы вянок заўсёды вісеў у яго каля святых абразоў.

Гэта быў сапраўдны чалавек XIX ст., і ў тым стагоддзі ён і застаўся. Але, у той жа час, быў ён прадстаўніком амбітнага і свавольнага класа, які ўжо дажываў свой век.

Першая жонка Станіслава Іваноўскага — Антаніна з дома Рыла-Быкоўскіх, маці Леанарда, памерла ў 1852 г. у досыць маладым веку. Станіслаў застаўся ўдаўцом. Было яму самотна, і ён адчуваў патрэбу ў другім шлюбе. Паўторна Станіслаў ажаніўся з Макрэцкай, але і яна, пакінуўшы дзве дачкі, рана памерла.

Калі яго сын Леанард узяў шлюб, Станіслаў Іваноўскі жаніўся ў трэці раз з дачкой свайго суседа Губарэвіча — Стасяй (1843–1917), якой здаўна аказваў сімпатыі. Гэтак

* Камічнасць сітуацыі ў тым, што госць запытаў пра прыбіральню — «wychodek», а Іваноўскі напачатку падумаў, што справа ідзе пра «добрае месца» для палявання.

у сям'і з'явілася бабуля Стася, якая любіла ўсіх унукаў Станіслава, і яе таксама ўсе любілі як родную.

Пра Губарэвічаў Тадасу Іванаўскасу расказваў стары ляснік Іваноўскіх Вінцук Крывашэй. Стары Губарэвіч, уладальнік двара Галавічполе, быў прадстаўніком збяднелай шляхты, якая ў той час ужо пачала знікаць. Часткова ў гэтым была вінаватая і сама шляхта, бо пасля адмены прыгону не прыстасавалася да новай эканамічнай сітуацыі. Пасля паўстання 1863 г. шмат двароў знаходзілася ў цяжкім стане, эканамічны стан пагаршала яшчэ наложаная на шляхту так званая кантрыбуцыя — грашовая кара за паўстанне.

Маёмасць Губарэвічаў Галавічполе лічылася занядбаным дваром. Ляснік Вінцук казаў, што Губарэвіч нават быў не ў стане абслугоўваць свой статак быдла і здаваў яго ў арэнду яўрэю (таму меў толькі частку малака ад статку). З-за гэтага нават самім панам Губарэвічам не хапала смятаны. Яны бралі малочныя прадукты ў яўрэя ў крэдыт і давяралі ягоным бухгалтарскім запісам. Такая сітуацыя трымалася шмат гадоў, і калі яўрэй пачаў патрабаваць грошы, каб заплаціць, сям'і трэба было прадаць кавалак зямлі.

Аднак Губарэвіч не страціў добрага настрою і ўсё жыццё самааддана паляваў. Трымаў статак сабак, якіх потым перадушылі ваўкі. Стары Вінцук апавядаў, што неяк сабакі схапілі ваўка, а Губарэвіч, які знаходзіўся з тылу, саскочыў з каня і голымі рукамі ўхапіў ваўка за заднюю лапу, пасля чаго паламаў яе на сваім калене.

Губарэвічы часам наведвалі двор у Ішчалне, дзе жылі іх сваякі Важынскія. Бабуля Стася расказвала пра адну непрыемную прыгоду, якая здарылася з ёй падчас такога візіту. Яна ўзяла з сабой любімага коціка і неяк разам з ім пайшла на шпацыр. Кот ішоў каля гаспадыні, калі яго раптоўна атакавалі ішчалнянскія паляўнічыя сабакі. Ратуючыся, кот кінуўся да гаспадыні — ганчакі за ім. Бабуля таксама пабегла, але хутка заблыталася ў крыналінах і ўпала. Тады кот, як у адчыненую браму, убег ёй пад спадніцы і схаваўся. За катом палезлі і сабакі… Пачалася мітусня, енкі, крыкі і ўсё гэта закончылася валяр'янавымі кроплямі.

**Бацька Леанард Іваноўскі**

У памяці дзяцей ён застаўся нешматмоўным і строгім. Любіў і песціў толькі сваю дачку Алену, да сыноў жа ставіўся сурова, і яны яго нават баяліся.

З дакументаў бачна, што Леанард Іваноўскі нарадзіўся 2 лістапада 1845 г. (па старым стылі) у Лябёдцы. Меў двух сёстраў, якія памерлі ў дзяцінстве. Яго маці таксама памерла ў адносна маладым веку, і Леанард рос самастойна, бо бацька Станіслаў меў невялікі ўплыў на свайго нашчадка.

Пасля паўстання 1863 г., з-за матэрыяльных цяжкасцяў, большасць шляхты не магла паслаць сваіх дзяцей вучыцца, і таму трэба з павагай узгадаць старога Станіслава Іваноўскага: ён зрабіў усе, што мог, каб даць сыну сапраўдную адукацыю.

Напачатку Леанард Іваноўскі з добрымі адзнакамі закончыў гімназію № 1 у Вільні (знаходзілася на рагу вуліцы Вялікай* і Святога Яна** — цяпер гмах універсітэта). Пра

---

* Цяпер — Didžioji gatvė.

** Цяпер — Šventojo Jono gatvė.

яго жыццё ў Вільні вядома не шмат. Здымаў пакой недзе па вуліцы Святога Яна, і потым, калі сын Тадас ужо сам быў студэнтам, паказаў яму вакно сваёй кватэры. Неяк праз тое вакно да яго заляцеў стрыж, Леанард злапаў птушку і зрабіў з яе экспанат, які папоўніў калекцыю ў Лябёдцы.

У гімназіі Іваноўскі цікавіўся прыродазнаўчымі навукамі і добра ведаў флору і фаўну Віленшчыны. З гімназічных часоў і да першага прыходу бальшавікоў у Лябёдцы захоўваўся яго вялікі гербарый. Падчас паляванняў у ваколіцах Вільні ён вывучаў раслінны і жывёльны свет. Але пасля паўстання 1863 г. у гімназіста канфіскавалі паляўнічую зброю, і Леанард страціў магчымасць паляваць.

Улетку Іваноўскі прыязджаў да бацькі ў Лябёдку і там аддаваўся сваім захапленням — збіраў гербарый, паляваў, прэпараваў казурак і птушак. Цікаўнасць да біялогіі засталася на ўсё жыццё, але ён выбраў сабе іншую і, верагодна, больш перспектыўную прафесію. Пасля гімназіі малады Іваноўскі працягнуў вучобу ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце.

Пасля заканчэння вучобы, з дыпломам інжынера-тэхнолага, ён паехаў у Сібір, якая прыцягвала сваімі бясконцымі магчымасцямі, тым больш, што там меліся сваякі. Адным з іх быў Юзаф Козел-Паклеўскі, ссыльны ўдзельнік паўстання, які потым стаў у Сібіры багатым чалавекам, ён меў вялікі маёнтак, капальні золата, заводы і шмат лесу. Каля самай мяжы з Кітаем, у Маймачыне, стаяла яго дыстылярня спірту. Хімік Леанард Іваноўскі атрымаў тут сваю першую пасаду, але доўга на ёй не затрымаўся, а дэталёва разабраўшыся з тэхналогіяй дыстылярні, выехаў у Францыю і прадоўжыў там адукацыю. У Францыі працаваў і вывучаў новыя прамысловыя тэхналогіі вырабу спірту і пераканаўся пры гэтым, што ў Расіі справа вырабу спірту знаходзіцца на вельмі нізкім узроўні. Потым, праз укараненне еўрапейскіх тэхналогій, малады інжынер змог значна знізіць сабекошт вырабу спірту ў Расіі і зрабіць сабе на гэтым кар'еру.

Пасля вяртання дахаты Іваноўскі прымяніў веды на вялікім спіртзаводзе ў Варонежскай губерні. Вынікі былі выдатнымі, яму далі вялікі заробак і запрасілі ў склад кіраўніцтва завода. Аднак і тут Леанард Іваноўскі доўга не працаваў, бо яго інжынерныя здольнасці ўжо атрымалі агульнае прызнанне, і яму прапанавалі дзяржаўную пасаду — на пачатку ў Варшаве, а потым і ў Пецярбургу. Працуючы ў Варшаве, па просьбе Міністэрства фінансаў, Іваноўскі напісаў працу па спецыяльнасці («Устройство винокуренных заводов»). Быў вялікім і паважаным аўтарытэтам у сваёй сферы.

Неўзабаве Іваноўскі быў пераведзены ў Міністэрства фінансаў у Пецярбург. Здаецца, інжынер быў задаволены сваёй пасадай, бо дзякуючы ёй не быў прывязаны да аднаго месца. Шмат часу праводзіў у розных дэлегацыях, часам у самых аддаленых кутках Расіі: у Сібіры ці на Урале, дзе кіраваў пабудовай вялікіх хімічных прадпрыемстваў. Быў чалавекам шырокай кваліфікацыі, і неяк яму нават даручылі рэарганізаваць чаканку манет у Пецярбургу, працу выканаў добра і быў узнагароджаны.

У 1874 г. Леанард Іваноўскі і яго сябар Вацлаў Карафа-Корбут (яны пасябравалі падчас перабудовы вінакурні ў Рокішаках) — пабраліся з сёстрамі Ядвігай і Хэленай Райхель з ваколіц Пятркова. Сёстры былі выхаванкамі курсаў прафесара Баранэцкага ў Кракаве і, як на тыя часы, мелі добрую адукацыю. Леанард атрымаў за жонку ў пасаг частку маёнтка Райхеляў над ракой Вальборкай каля Вальбромя. Але чужая старонка яго не вабіла. Прадаў гэтую зямлю і за вырučаныя грошы павялічыў гас-

падарку ў Лябёдцы. Унук Леанарда Іваноўскага Казімір пісаў: «Дзед Леанард, жадаючы выхаваць маладую жонку, цалкам ізаляваў яе ад сваякоў, перасяліўшы на 600 км у Лябёдку, дзе яна мела толькі яго аднаго».

З роду Райхеляў нам вядомы цесць Леанарда Іваноўскага (дзед Алены і Вацлава Іваноўскіх) — барон Амон фон Райхель. Ён паходзіў з Эльзасу і служыў у прускім войску ротмістрам гусарскага палка. Гэты полк стаяў каля Гданьска, Райхель нейкім чынам пакінуў ваенную службу і, ажаніўшыся з паннай Хжаноўскай, асеў у Польскім каралеўстве.

Ядвіга Іваноўская з Райхеляў мела сястру Хэлену і двух братоў — Уладзя і Браніслава. Уладзь меў слабасць да кабет і моцных напояў, і яшчэ яму заўсёды не шанцавала ў карты. Канец свайго жыцця ён дажываў каля сястры ў Лябёдцы. Брат Ядвігі Браніслаў меў сына Мечыслава, які ў ваколіцы Лябёдкі пазнаёміўся з багатай паннай Марыяй (усе звалі яе Мануля) Кандраценка. Пасля паўстання 1863 г. рыма-каталікам нельга было набываць маёнткі, і канфіскаваны маёнтак Шайбакполе (раней належаў паўстанцам Александровічам і Плятэрам) за заслугі быў прададзены казацкаму генералу Кандраценку (памёр у 1880 г.). Калі пляменнік Ядвігі Іваноўскай Мечыслаў ажаніўся з Марыяй (дачкой Кандраценка), гэты стары маёнтак перайшоў у рукі Райхеляў.

Як ужо адзначалася, Леанард Іваноўскі вельмі любіў падарожжы, ён часта атрымліваў даручэнні за мяжой: прымаў удзел у міжнародных выставах і стаў спецыялістам у гэтай справе. Праца на выставах вымагала шмат часу праводзіць у Парыжы, Турыне, Вене ці Берліне. Паўсюдна ён меў знаёмых і нідзе не пачуваўся чужым. З падарожжаў Іваноўскі заўсёды вяртаўся задаволены і поўны энергіі зноў прыступіць да сваёй звычайнай, штодзённай працы. Жыў у Пецярбургу і, здаецца, любіў гэты горад, бо прывязаўся да яго з часоў свайго студэнцтва. Жыў сціпла, але бываў на прыёмах і наведваў абавязковыя, афіцыйныя банкеты. Меў некалькі старых знаёмых, з якімі сябраваў яшчэ з часоў віленскай гімназіі і Тэхналагічнага інстытута. Яго старымі сябрамі былі Ялавецкі, Златніцкі, Навіцкі і іншыя. Сыны Леанарда падчас свайго студэнцтва жылі разам з бацькам у Пецярбургу.

Падчас жыцця ў Пецярбургу Леанард Іваноўскі супрацоўнічаў з хімікам Дзмітрыем Мендзялеевым і перакладаў на ангельскую мову яго лекцыі ў Лонданскім каралеўскім таварыстве аматараў прыроды. У 1898–1905 гг. займаў пасаду прэзідэнта Варшаўскага садоўніцкага таварыства і прымаў актыўны ўдзел у яго працы. Як адзін з заснавальнікаў і фундатараў лідскай гімназіі быў удастоены звання ганаровага грамадзяніна Ліды.

Паводле ўспамінаў, Леанард быў чалавекам працавітым, любіў парадак і акрэслены рытм жыцця: уставаў рана, заўсёды ў адзін час. Напачатку трошкі працаваў у сваім кабінеце, а потым, хоць Міністэрства фінансаў у Пецярбургу было досыць далёка, заўсёды пешшу ішоў на працу. Вяртаўся з працы таксама пешшу. Жыў далёка ад бацькаўшчыны, але сэрцам быў заўсёды з ёй. Шляхі ўсіх ягоных паездак праходзілі праз Лябёдку. Відавочна, калі вяртаўся з Заходняй Еўропы, адведаць Лябёдку было проста. Але калі нават ён ехаў з усходу, заўсёды выкройваў дзень ці два, якія абавязкова праводзіў дома. Пры гэтым аглядваў сваю гаспадарку і кантраляваў

працы, асабліва ў садзе. Калі яго дзеці жылі ў Лябёдцы, яны павінны былі аглядаць гаспадарку разам з ім і слухаць яго заўвагі.

Восенню, звычайна ў верасні, Іваноўскі меў месяц адпачынку. Свядома выбіраў сабе гэты час, каб у маёнтку асабіста займацца ўборкай ураджаю і асабліва ў яго любімым садзе. Сад быў галоўным захапленнем інжынера. Кожную восень часткова выконваўся план Леанарда Іваноўскага: садзіўся новы кавалак саду, новая алея, новая школка маладых дрэўцаў. У апошнія часы перад Першай сусветнай вайной сад займаў ужо каля 20 гектараў. Падчас адпачынку гаспадар рана ўставаў і сам кантраляваў працу. Бываў паўсюдна, усё бачыў, і не дзіва, што мучыў сваіх рабочых, служак і ўсю сям'ю. Калі ён ад'язджаў, усе, нават жонка, уздыхалі свабадней.

Дзеці шанавалі бацьку за яго справядлівасць, працавітасць і мудрасць. Ім нават не прыходзіла ў галаву казаць пра яго дрэнна, бо быў для іх вялікім аўтарытэтам. Аднак сын Тадас заўважыў, што яго бацька меў і недахоп: ён быў кепскім псіхолагам і не бачыў таго, што робіцца ў душы не толькі жонкі, але і дзяцей. Яго адносіны да дзяцей былі суровыя і бескампрамісныя, з-за гэтага даходзіла да балючых канфліктаў, у якія, баронячы дзяцей, заўсёды ўступала маці. Дзеці вельмі баяліся гэтай рысы характару бацькі, і паступова паміж імі з'явілася мяжа, праз якую ўжо немагчыма было перакрочыць. На жаль, гэтая мяжа не дазваляла мець больш блізкія, сардэчныя адносіны. Толькі для адной сваёй дачкі Алёны Іваноўскі быў іншым, больш лагодным і разважлівым, а яна, дзякуючы сваёй жаночай інтуіцыі, гэта рана зразумела і старалася залагодзіць жорсткасць бацькі.

Здаецца, Леанард Іваноўскі значна больш вольным быў з чужымі людзьмі, чым з сваімі дзецьмі. Калі прыязджаў у Лябёдку, да яго па справах прыходзілі самыя розныя людзі: суседняя шляхта, сяляне ці яўрэі з бліжніх мястэчак. І яму прасцей было знайсці агульную мову з сялянамі, асабліва калі размова вялася пра сельскую гаспадарку. Дзеці памяталі свайго бацьку, які падчас размовы з групай сялян у доўгіх авечых кажухах быў апрануты ў кароткі гаспадарскі кажушок. Вось яны разам аглядаюць палі, сельскагаспадарчыя машыны ці быдла, і інжынер вельмі доўга не развітваецца з сялянамі. Уладальнік маёнтка часта дарыў сялянам ці ёркшырскіх парасят, ці новыя гатункі бульбы, ці маладыя прывітыя дрэўцы. Каб прыахвоціць вяскоўцаў да паляпшэння гаспадаркі, Іваноўскі прыдумаў праводзіць выставы прадукцыі. У Міністэрстве сельскай гаспадаркі ён дабіўся падтрымкі і невялікай субсідыі, афіцыйных пахвальных лістоў і г. д. Выставы адбываліся ў вялікай лябёдскай стадоле, мелі гучны поспех і добра ўплывалі на мясцовых гаспадароў. Леанард Іваноўскі вельмі радаваўся, бо бачыў, з якім шацункам удзельнікі выставы атрымоўвалі грашовыя ўзнагароды ці пахвальныя лісты.

У вялікім артыкуле «Уражанні ад выставы ў Лябёдцы» віленская газета «Кур'ер Літоўскі» ўвосень 1910 г. пісала пра адну з гэтакіх сельскагаспадарчых выстаў у Лябёдцы Іваноўскага. «На ўсе бакі ад прыгожага, вельмі рацыянальна і па-сучаснаму пабудаванага двара ў Лябёдцы цягнуцца ўзорныя сады, гароды, купкі пладовых і дэкаратыўных дрэваў. Далей пачынаюцца добра апрацаваныя палі бульбы і збожжа… Гаспадарчыя пабудовы лёгкія і танныя… У адной з такіх, высокай і добра пабудаванай шопе, усталяваны простыя, але спрытныя машыны для вырабу дахоўкі, цэглы і пустых знутры вялікіх блокаў… У стайнях, аборах, хлявах, курніках шмат жывёлы

розных сартоў, падабраных для нашых умоў. Агароды і купкі пладовых дрэў дэманструюць шматгадовую працу былога прэзідэнта Таварыства Садаводаў. Сады з-за вялікай колькасці сартоў дагледжаных тут дрэваў маюць музейную вартасць… Колькі смачнай і карыснай гародніны стала вядома дзякуючы толькі таму, што сп. Леанард Іваноўскі купляў яе паўсюдна, а потым папулярызаваў сярод мясцовых гаспадароў. Сп. Іваноўскі ёсць найвялікшы знаўца сваёй справы ў Літве… На выставе дэманстраваліся цікавыя вырабы з садавіны і гародніны, выраблены пад кіраўніцтвам гаспадыні сп. Ядвігі Іваноўскай. Адборныя віны, кансерваваныя ягады і грыбы ў шкляных і бляшаных банках розных відаў: гародніна па-кіеўску, гародніна сушаная ў адмысловых сушарнях, старасвецкія канфіцюры і сокі, — усё надта смачнае і дасканала выробленае. Бляшаныя банкі, распрацаваныя Вацлавам Іваноўскім, — простыя, танныя і адначасова дасканалыя і герметычныя, абавязкова будуць выкарыстоўвацца ў прамысловасці… Выстава ў Лябёдцы была арганізаваная для суседніх гмін, і ў ёй прымалі ўдзел вырабы суседніх маёнткаў… Але вырабы з Лябёдкі былі па-за канкурэнцыяй. …Лябёдка 400 гадоў знаходзіцца ў руках Іваноўскіх…»*. А ў верасні 1913 г. Леанард Іваноўскі ў сваім маёнтку Лябёдка правеў выставу жывёлы.

У тагачаснай Беларусі не хапала добрых рамеснікаў, і інжынер здаўна хацеў арганізаваць у Лябёдцы школу садаводства, і таму здабыў у адпаведным міністэрстве дазвол на яе адкрыццё. Школа пачала працаваць перад Першай сусветнай вайной, і разам з садаводствам ў Лябёдцы неафіцыйна выкладалася і польская мова. Гэтым займаліся жонка Леанарда Ядвіга і яе сястра Хэлена. З таго часу ў сям'і памяталі амаль што анекдот, як падчас вывучэння назваў раслін беларускія дзеці на слых успрынялі фразу: «Дуб ёсць дрэва, а ляшчына куст» як «Дуб ёсць дрэва, але сцыць на куст». Маладых сялян прымалі ў маёнтку для практыкі ў галіне садоўніцтва, пчалярства, жывёла- і раслінаводства. У 1913 г. меркавалася адкрыць курсы малочнай вытворчасці. Для будучай школы выбралі месца ў блізкім суседстве з Лябёдкай, у вёсцы Банюкі. Будаўнічы матэрыял даў дзяржаўны лес, але ў 1914 г. пачалася Сусветная вайна, і будынак школы не быў пабудаваны.

У апошнія гады перад Сусветнай вайной Лябёдка перажывала свой «залаты век». У гаспадарцы ўсталяваўся добры парадак, палепшылася агратэхніка, з'явіўся дрэнаж, усталявалі сучасныя машыны, купілі статкі пародзістага быдла, вырас добры сад. Гэта быў момант найвышэйшага ўздыму маёнтка. Але выбухнула вайна, край агарнула гарачка мабілізацыі. Як і звычайна, увосень 1914 г. Іваноўскі меў чарговы адпачынак. Пасля заканчэння адпачынку ён вярнуўся ў Пецярбург і адразу пайшоў у адстаўку. Пра адстаўку марыў даўно і бачыў сваё жыццё на пенсіі ў рамантычным свеце: будзе жыць у Лябёдцы, займацца гаспадаркай, меліярацыяй ці іншымі добрымі рэчамі. Думаў, што яго высокі ранг сапраўднага дзяржаўнага дарадцы гарантуе аўтарытэт і павагу, акрамя таго перад пенсіяй спадзяваўся атрымаць ранг тайнага дарадцы. Усё змянілася: знікла старая ўлада, яго чыны страцілі значэнне, знік капітал, які захоўваўся ў пецярбургскіх банках. А ў 1915 г. раскватараваныя ў маёнтку рускія войскі знішчылі сады і школку маладых дрэў.

---

* Трэба заўважыць, што і насамрэч 400 гадоў, але «па кудзелі».

Хутка прыйшлі немцы. Начальнікам павета (kreisu) быў прызначаны нейкі Фікель, і ў Лябёдцы пасялілася група гвардзейскіх афіцэраў. Адстаўны інжынер перастаў панаваць у сваім доме, і яго нават на нейкі час пасадзілі пад варту ва ўласнай піўніцы за спробу аказваць супраціў. Некаторыя суседзі, якія раней не прапускалі ніводнага дня нараджэння ці імянін сапраўднага дзяржаўнага дарадцы, каб не выказаць сваю павагу, цалкам перасталі звяртаць на яго ўвагу.

Пад канец Першай сусветнай вайны здароўе Іваноўскага пахіснулася. Новыя акалічнасці жыцця паламалі яго, і гэта быў ужо не той генерал (як любілі яго называць суседзі), а звычайны ўладальнік спустошанага маёнтка. Памёр Леанард Іваноўскі ў 1919 г.

Яго жонка, Ядвіга Іваноўская, расказвала дзецям, як у яго апошнія дні яна выклікала для споведзі з Васілішак ксяндза Сакалоўскага, але бацька катэгарычна адмовіўся ад яго паслуг. Тады маці пачала прасіць Іваноўскага хоць проста паразмаўляць з госцем — спадзявалася, што размова натуральным чынам перарасце ў споведзь. Размова першапачаткова ішла ціха, але хутка інжынер пачаў нешта гучна казаць. Жонка зразумела, што ён востра распякае ксяндза, і паспяшалася закончыць візіт.

Леанард Іваноўскі быў пахаваны ў Лябёдцы. Яшчэ за некалькі гадоў да смерці ён атрымаў дазвол на адкрыццё могілак для сваёй сям'і ў межах свайго маёнтка. Месца было выбрана ў кіламетры ад дома і мела назву Буянаўшчына — сухі пагорак ў сасновым лесе, абсаджаны дубамі. Да могілак правялі дарогу.

Унук Леанарда Казімір Іваноўскі ўспамінаў: «Бабулю Ядвігу памятаю па Лябёдцы і па Вільні, куды яна прыязджала штогод пагасцяваць у наш дом. Памятаю, як яна прыходзіла ў наш пакой, каб пажадаць добрай ночы і прачытаць апавяданне Джэка Лондана. Памерла восенню 1933 г. ва ўзросце 80 гадоў. Калі яна ўжо цяжка хварэла, з Варшавы ў Вільню прыехаў Стэфан Іваноўскі (сын Вацлава Іваноўскага. — *Л. Л.*) і прывёз у Лябёдку доктара Умястоўскага. Гэты чалавек быў старым сябрам сям'і і пажыццёвым доктарам бабулі…

Добра памятаю пахаванне бабулі. Сабралася ўся сям'я і ваколічны народ. Жалобную імшу правёў пробашч касцёла. …Памятаю кароткую жалобную прадмову сябра сям'і Абрама Гардона, яўрэя з Васілішак. Сваю прамову Абрам закончыў гэтак:

— Ці пані Іваноўская заслужыла неба?

— Так, — выдыхнулі ўсе людзі.

— Голас народа — голас Бога, — закончыў Абрам. Быў ён ужо добра падпіты, бо пасля гэтага народнага рэферэндуму па прызначэнні неба для нашай бабулі, дадаў:

— Хай жыве пані Іваноўская! …у сэнсе… у нашай памяці.

Якой вялікай павагай карысталася бабуля сярод суседзяў, гэта бачна з таго, што было вырашана ўзяць труну з катафалка і ўсю дарогу да могілак, даўжынёй больш за кіламетр, несці на руках. Была пахавана ў вялікім сямейным склепе, разам з дзедам Леанардам. Калі ў 1939 г. прыйшла Савецкая ўлада, удзячны народ павыцягваў труны, павыкідваў парэшткі і гуляў чарапамі як мячыкамі. Калі прыйшлі немцы, мы пазбіралі косткі і там жа ў склепе проста закапалі іх глыбока ў зямлю».

**Маёнтак Лябёдка**

Лябёдка разам з фальваркамі мела 500 га зямлі. Знаходзілася яна 40 км ад Ліды і 120 ад Вільні. Валасным (потым гмінным) мястэчкам з'яўляліся Васілішкі, да якіх было 6 км. Каля паловы жыхароў Васілішак складалі яўрэі. З Лябёдкі туды ездзілі па пошту, на закупы, на кірмашы, там жа быў і пастарунак паліцыі. Закупы рабілі ў краме спадарыні Фэйгус, якая гандлявала «і мылам і шылам». Там можна было купіць усё, ад шмаравідла для воза і газы да селядца з галантарэяй. У мястэчку меўся яшчэ аптэчны склад Каўфмана, які славіўся рэцэптурай мазі для росту валасоў.

З гэтай маззю адбылася такая справа. Падчас Першай сусветнай вайны мясцовы нямецкі камендант мястэчка паслаў свайго ардынарца да Каўфмана па гуталін. Сапраўднага гуталіну ў продажы не знайшлося, і Каўфман прадаў немцу саматужны выраб. Пасля чысткі ботаў гэтым саматужным гуталінам прыгожы раней абутак каменданта стаў мець выгляд варты жалю. Каб пакараць гандляра, камендант загадаў вымазаць Каўфману галаву яго саматужным гуталінам. І ў раней лысага, як калена, гандляра выраслі валасы! Пасля гэтага Каўфман больш не гандляваў гуталінам, а прадаваў толькі свой цудоўны эліксір для валасоў.

Мястэчка Васілішкі мела барочны касцёл, у якім шмат гадоў працаваў ксёндз-дэкан Цыраскі. Ксёндз быў вельмі энергічным чалавекам і кожнаму казаў толькі праўду. Расказвалі пра яго такую байку. У яўрэйскім аўтобусе, які ішоў у Вільню, ехаў знаны ў акрузе дзялок, пан Віславух. Каля яго сядзеў сціплы ксёндз у старой сутане. Свецкі чалавек Віславух пачаў расказваць вясковаму пробашчу пра цуды матарызацыі. Ксёндз падтакваў. Каб яшчэ больш узвысіцца над прастаком, Віславух сказаў:

— Калі будзеце ў Вільні, дык запытайце, дзе вуліца Віленская. Там пад нумарам 4 ёсць кнігарня Руцкога. Прашу туды зайсці і спытаць кнігу «Маё жыццё і справы» Генры Форда. Гэта такі спадар, які першым пачаў вырабляць добрыя аўтамабілі, ксёндз, пэўна, пра яго не чуў. У той кніжцы Форд гэтак проста ўсё патлумачыў пра аўтамабілі, што нават і ксёндз зразумее.

На што святар адказаў:

— А калі вы будзеце ў Вільні, дык прашу зайсці ў тую ж кнігарню і папрасіць тую ж кнігу, адгарнуць яе на тытульнай старонцы і ўбачыць тое, што напісана пад загалоўкам: «Пераклаў з англійскай мовы А. Цыраскі». Дарэчы, Цыраскі — гэта я*.

Аднак парафіяльным касцёлам Іваноўскіх быў касцёл пад вызнаннем св. Пятра і Паўла ў Старых Васілішках — 2 км ад мястэчка Васілішкі ў бок рэчкі Лябёдка. Гэты неагатычны касцёл быў пабудаваны амаль што ў адзін час з лябёдскім домам, г. зн. каля 1904 г. Леанард Іваноўскі з'яўляўся адным з яго фундатараў, і таму па правы бок ад алтара стаяла лава калятараў Іваноўскіх (перад ёй мелася меншая лава сям'і Райхеляў). А вітраж з гербамі Райхеляў і Іваноўскіх на адным з вокнаў касцёла быў фундаваны бабуляй Ядвігай Іваноўскай. Гэты вітраж зрабілі ў кракаўскай майстэрні. Касцёл меў багаты роспіс на сценах і столі, па легендзе, мастак, які гэта намаляваў, не меў рук і працаваў нагамі. Потым адукаваныя парафіяне казалі, што калі ацэньваць мастацкі ўзровень роспісаў, дык у гэта можна і паверыць…

---

* У другой версіі гэтай байкі ксёндз ехаў у Варшаву.

Тадас Іванаўскас успамінаў, што самымі набожнымі з яго родных быў дзед Станіслаў і яго жонка бабуля Стася. «А самым вялікім тэолагам з'яўляўся сталяр Казюк Пятачок. Пятачок — гэта не прозвішча, а мянушка. Пятачок меў славу самага вядомага тэолага ў Лябёдцы, бо прызвычаіўся каментаваць тэксты касцельных малітваў. Напрыклад, ён быў глыбока перакананы, што Хрыстос меў вялікія сантыменты да палякаў і таму выбраў час і месца сваёй смерці «за польскім Пілатам». На слых сталяр у касцёле ўспрымаў слова «понскім» як «польскім».

Іванаўскас пісаў, што яго бацька жыў сапраўдным вальнадумцам, якім чалавека магло зрабіць толькі XIX стагоддзе. Маці была веруючай, але вельмі талерантнай, і ніколі не прымушала сваіх дзяцей да рэлігійных практык. Пра веру ў Бога яна казала, толькі калі хварэлі дзеці.

Ад пачатку двор у Лябёдцы складаўся з самой Лябёдкі і фальварка Тэрэспаль, які Леанард Іваноўскі купіў у сваёй мачыхі, нейкім чынам абмінуўшы пры гэтым закон, які забараняў продаж зямлі рыма-католікам. У Тэрэспалі не было ніякіх будынкаў, і таму фальварак проста далучылі да Лябёдкі. Тут раслі толькі дзве вельмі старыя пірамідальныя таполі і мелася старая студня, якая патроху западала, покуль цалкам не знікла. Каля 1900 г. тополяў ужо не было, не было ўжо і назвы Тэрэспаль — месца пачало называцца Зязюлька. Потым да Лябёдкі далучылі яшчэ адзін фальварак — частку Галавічполя, які Леанард Іваноўскі таксама купіў у бабулі Стасі, а яшчэ пазней — калі былі зняты абмежаванні для католікаў — у Франскевічаў купіў двор Рагачоўшчына (некалькі кіламетраў на поўдзень ад Лябёдкі).

У канцы XIX ст. у Лябёдцы стаялі старыя, драўляныя гаспадарскія будынкі. Леанард Іваноўскі па чарзе іх бурыў і замяняў новымі, з якіх частка была цалкам мураванымі, а частка — толькі на палову з цэглы. Самымі галоўнымі будынкамі лічыліся: дом для службы — афіцына, дом дзеда Станіслава ў садзе (у сям'і яго звалі дамок), вялікая стадола, дзве стайні, абора, два хлявы, млын з рухавіком і кузня каля яго, старая кузня каля лесу, чатыры шопы, тры хаты для парабкаў (у кожнай хаце па некалькі кватэр), птушнік, шэсць малых стадол, свіран, тры будынкі пад садавіну, некалькі піўніц пад гародніну ды іншыя малыя будынкі.

Акрамя гэтага фальваркі Галавічполе і Рагачоўшчына мелі ўласныя гаспадарскія будынкі. Леанард Іваноўскі вельмі любіў свой маёнтак, увесь час прыдумляў нешта новае, развіваў і паляпшаў старое. Іваноўскія мелі шмат лугоў, і ён, выкапаўшы асушальныя равы, паправіў усе свае лугі. Звазіў камяні з палёў і выкарыстоўваў іх для будаўніцтва. Асушаў палі, выцінаў хмызняк і малавартасныя дрэвы і на іх месцы пасадзіў ладны кавалак лесу. Іваноўскі клапаціўся пра сад і школку маладых дрэваў. Новы сад у Лябёдцы быў пасаджаны каля 1867 г., а школка маладых дрэў з'явілася каля 1885 г. Школка і сад забяспечвалі мясцовы рынак, але хутка для збыту маладых дрэўцаў і садавіны інжынер знайшоў новыя рынкі: такія вялікія гарады, як Пецярбург, Масква і Варшава патрабавалі шмат садавіны. Хутка садавіна з Лябёдкі атрымала добрую рэпутацыю ў гандляроў і пакупнікоў, да таго ж яна неаднаразова ўзнагароджвалася рознымі медалямі на выставах. Восенню маштабы працы ў лябёдскім садзе ўражвалі: нанятыя працаўнікі пад наглядам усіх мабілізаваных членаў сям'і збіралі садавіну і звозілі яе ў склады, тут ураджай перабіраўся, пакаваўся, пераліч-

ваўся і потым грузіўся на вазы, пасля чаго яго везлі да бліжэйшай чыгункі. Раней гэта была Ліда (45 км), а з 1907 г., калі пабудавалі новую чыгуначную лінію, — станцыя Скрыбаўцы (каля 20 км ад Лябёдкі). Пасля гэтага пачыналі назапашваць садавіну на зіму ў вялікай піўніцы пад домам. Шмат пладоў вывозілася для ўласнага ўжытку ў Варшаву ці Пецярбург, бо ўсе Іваноўскія былі аматарамі садавіны — за час, калі дзеці вучыліся ў гімназіях, а потым набывалі вышэйшую адукацыю, яны самі і іх шматлікія сябры з'елі неверагодную колькасць лябёдскай садавіны.

У школцы маладых дрэў таксама было шмат працы, і працаваў там не толькі садоўнік з 4–5 памочнікамі, але яшчэ і практыканты, шмат нанятых працаўнікоў і члены сям'і — часцей сыны Вацлаў і Тадас. Бацька даверыў ім лекаванне дрэўцаў, іх сарціроўку, прышчапленне і г. д. Дзеці мелі шмат працы, і таму больш старшы і хітры Вацлаў стараўся перакласці яе на Тадаса, а той як мог імкнуўся цалкам пазбегнуць працы. Але дзеці мелі строгага бацьку, і таму ў іх нічога не атрымлівалася.

Гаспадарка ў Лябёдцы адрознівалася ад суседніх. Яна патрабавала шмат служачых і яшчэ больш рабочых рук. Лябёдка насамрэч больш нагадвала прамысловае, а не аграрнае прадпрыемства, тым больш, што ўвесь час будаваліся новыя спецыялізаваныя будынкі, закупаліся машыны, бурыліся артэзіянскія свідравіны і г. д.

У Лябёдцы з былых часоў стаяў вялікі, тыповы для старых двароў драўляны дом, крыты гонтай, з дужым ашклёным ганкам з боку падворка, з шырокім балконам і мансардай уверсе. З боку сада знаходзілася вялікая веранда з дошак. Яе дах апіраўся на белыя, драўляныя слупы, а сходы з веранды вялі ў парк. З другога боку дома быў «чорны» ўваход у пякарню і кухню. У доме меліся наступныя памяшканні: слынны ў сям'і «дамскі пакой», «пакой дзядулі», сталовая, дзіцячы пакой, спальня, «птушыны пакой», найбольшым быў гасцінны пакой, альбо па-іншаму «салон», два кабінеты, далей, каля пякарні, меўся пакой ахмістрыні, потым «цёмная ізба», кухня, вялікая камора — «спіжарня» і нарэшце, наверсе, малая зала, у якой толькі ўлетку жыла цётка — малая зала не мела печкі.

Гэты дом, з якім звязаныя найлепшыя ўспаміны ўсіх дзяцей Леанарда Іваноўскага, быў пабураны ў 1901 г., і на яго месцы пабудаваны вялікі, мураваны, двухпавярховы з чырвонай цэглы сапраўдны палац у стылі мадэрн з элементамі неаготыкі. У плане ён нагадваў літару «L» (Lebiodka) і меў вялікую колькасць пакояў.

Ад старога дома захавалася толькі частка з верандай. Трохі перапробленая, яна была перанесена ў сад. Потым, пасля Першай сусветнай вайны, Алена Іваноўская перанесла гэты дом у вёску Капцюхі, дзе ён згарэў падчас пажару.

Трэба сказаць яшчэ некалькі слоў пра гэты стары дом, які, каб адрозніць яго ад «палаца», усе звалі «дамком». Казімір Іваноўскі ўспамінаў, што дамок быў вельмі мілай, драўлянай, аднапавярховай халупкай памерам 22 на 15 м. Уваходзілі ў яго праз зашклёны ганак. Летам там прыемна было пасядзець на лавах, а зімой ганак з'яўляўся добрай заслонай ад халоднага ветру, снегу і марозу. Менавіта тут у свой час зладзілі алтар і хрысцілі малога Казіміра.

З ганку ўваходзілі ў вялікі передпакой, адтуль двое дзвярэй вялі ўнутр дома. За левымі дзвярыма была вялікая сталовая, адначасова яна з'яўлялася і салонам. За правымі дзвярыма мелася вялікая кухня з вялікай хлебнай печчу. Каля печы стаяла вялікая кухонная пліта на чатыры фаеркі. У ёй заўсёды гарэў агонь. Тут гатавалася

ежа для сям'і малодшага з братоў — Станіслава Іваноўскага, а ў вялізным чыгунным сагане варылася бульба для парсюкоў. Часта, прагаладаўшыся, дзеці кралі тую вараную бульбачку. На ўскрайку пліты заўсёды стаялі вялікія чорныя гладышы — гліняныя збаны з сквашаным малаком, якое адстойвалася на тварог. За печчу меўся ўмураваны ў яе 100-літровы кацёл, у ім грэлася вада для мыцця і прання бялізны. Кухня была цёплай, утульнай, пахла малаком і свежым хлебам. Не шкодзіла ёй нават вялікая колькасць мух улетку. За кухняй меўся яшчэ адзін жылы і адзін службовы пакой, у якім у 1930-я гг. жыла ахмістрыня Мяланья. Мяланья кіравала хатняй гаспадаркай — кухняй, хатняй птушкай і свінкамі. Страціла сваю сям'ю і ў Іваноўскіх знайшла другую.

Усе пакоі, за выняткам кухні, былі высланы карычневым лінолеумам, што дазваляла, нават маючы дзяцей і сабак, утрымліваць чысціню.

Дамок стаяў у 30 метрах ад палацу і аддзяляўся ад яго парканам. Вокны дамка мелі невялікі памер і ўлетку заўсёды адчыняліся, што вечарам значна палягчала хлопцам вяртанне дахаты. Узімку мароз маляваў прыгожыя ўзоры на двайным шкле, з-за чаго не патрэбны былі фіранкі. А ўлетку, калі глядзець вонкі, заўсёды быў бачны дзікі вінаград, які аплятаў увесь дамок.

Калі будаваўся Лябёдскі палац разам з рознымі прысядзібнымі гаспадарчымі пабудовамі, Леанард Іваноўскі, як інжынер, задзейнічаў на будаўніцтве шмат розных машын, якія на месцы выраблялі бетон, цэглу, дахоўку, трубы і іншыя будаўнічыя матэрыялы. Дзеля ўсяго гэтага выкарыстоўваўся жвір і пясок з ямаў недалёка ад будоўлі. Потым жвір здабываўся для будаўніцтва дарог у ваколіцы і ў выніку недалёка ад палаца паўсталі жвіровыя ямы ў 6 метраў глыбіні і каля 20 даўжыні. Заслоненыя ад ветру, ямы мелі свой мікраклімат і ўвесь год мелі на сваім дне ваду. Але адмысловую цэглу для будаўніцтва старавасілішкаўскага касцёла і лябёдскага палаца прывозілі з польскага Влацлавека.

Як выглядаў Лябёдскі палац у 1930-я гг.? Увайсці ў палац можна было праз вялікія зашклёныя дзверы. Адразу ад увахода меўся невялікі зашклёны перадпакой, а за ім другі, больш вялікі. Па левым баку тут стаяла вешалка для вопраткі, а далей вялікі стэлаж з поручамі, на якім спачывалі прыгожыя конскія прылады Алены Іваноўскай: лёгкія англійскія сёдлы з светлай скуры, далікатныя аброці з кольцамі, спражкі і цуглі, упрыгожаныя слановай косткай. Насупраць стаяла вялікая зашклёная вітрына на ножках з выразанымі на ёй птушкамі. У гэтай вітрыне захоўваліся рэчы, якія нагадвалі пра захапленне паляваннем як мінімум чатырох пакаленняў Іваноўскіх.

Дзесьці з другой паловы 1930-х гг. сям'я малодшага брата Вацлава і Алены — Станіслава Іваноўскага — атрымала ў палацы тры пакоі на першым паверсе, гэтую частку дома раней займаў Леанард Іваноўскі, а на сценах пакоя, у які пасяліліся дзеці Станіслава — Лех і Казімір, да канца 1930-х гг. тут віселі дыпломы дзеда Леанарда, гэты пакой раней быў яго кабінетам. На найбольшым, каляровым, у салідная дубовай раме дыпломе, быў намаляваны чалавек, які трымаў у руцэ італьянскі сцяг, а каля сцяга меўся надпіс: «Esposizione Internazionale dell'Undustria e del Lavoro. DIPLOMA DI BENEMERENZA. Signore Leonardo Iwanowski. Torino 1911». Гэта была ўзнагарода за прадстаўленае дзедам Леанардам абсталяванне для вінакурні, у гэтай справе дзед быў выбітным адмыслоўцам. Каля першага вісеў другі, менш прыгожы дыплом з

нейкай выставы ў Вене, арганізаванай аўстрыйскай манаполіяй алкаголю і тытуню. Апошні дыплом на французскай мове быў дадзены за выгадаваную ў Лябёдцы гародніну. У гэтым жа пакоі стаяў жалезны ўмывальнік з тазам — зімняя лазня для дзяцей. Улетку ролю лазні выконвалі малыя сенцы каля былога кабінета Леанарда, яны вялі на задні, малы ганак. У сенцах мелася ладная кафляная падлога з фірмовым надпісам пасярэдзіне: «Дзявульскі і Ланге, Апочна». Каб не паслізнуцца, на гладкай паверхні кафлі меліся аб’ёмныя малюнкі кветак. Уся падлога была аблямавана бронзава-жоўтым плінтусам.

На другім паверсе палаца некалькі пакояў займала жонка Леанарда Іваноўскага, бабуля Ядвіга, той жа Казімір помніў, што «У бабуліных пакоях заўсёды цёпла і ўтульна, на сценах вісяць фотаздымкі яе пецярых дзяцей і ўнукаў. Дзядзька Ежы трымае на каленях сваю малую дачушку Ванду, каля яго — фотаздымкі Стэфана, Вацака, Юркі, Ганкі (фотаздымкі ўнукаў, — *Л. Л.*), таксама і маёй сям’і. Каля свайго вялікага ложка бабця мае ліхтар, у якім заўсёды гарыць свечка. Пад свечкай стаіць талерка, у якую сцякае парафін. У бабулі мы нядоўга, дамаўляемся пра сустрэчу на заўтра і ляцім аглядзець гаспадарку. Па дарозе сустракаем цёцю Алену, як заўсёды, яна мае для нас шырокую ўсмешку, пахне коньмі і хартамі».

<…>

**Навакольныя яўрэі**

Спецыфічным грамадскім элементам у тыя часы былі яўрэі, у значнай ступені ад іх залежалі ўладальнікі двароў.

Тадас Іванаўскас адзначаў, што які б землеўладальнік не быў — заможны ці бедны — без яўрэя ён абысціся не мог. Усё, што неабходна было з маёнтка прадаць — лес, збожжа, быдла, воўну, лён, садавіну і гародніну, усё гэта куплялі яўрэі і звычайна за нізкі кошт, бо канкурэнцыі не было. Яны былі выдатна арганізаваныя, галоўным у яўрэяў з’яўляўся мястэчковы равін. Усіх ваколічных паноў равін дзяліў паміж сваімі яўрэямі — кожнаму прыходзіўся адзін ці некалькі землеўладальнікаў. Такім чынам, кожны пан меў свайго яўрэя, а кожны яўрэй — свайго пана. Яўрэі былі вельмі салідарныя паміж сабой і працавалі толькі са сваімі панамі, пры гэтым ніколі не пераходзілі дарогу супляменнікам. Таму не існавала ніякай канкурэнцыі, і ўладальнікі двароў цалкам залежалі толькі ад «сваіх» яўрэяў. «Свой» яўрэй мог быць і карысным для землеўладальніка. Нярэдка можна было пачуць ад таго ці іншага пана, што ўсе яўрэі — гэта банда крывасмокаў, але «мой яўрэй» — чалавек добры і незаменны. «Свой» яўрэй, незалежна ад таго, ці меў нейкую справу, рэгулярна наведваў двор «свайго» пана. Звычайна з’яўляўся на цэлы дзень і размаўляў з пані, з бабуляй, з іншымі членамі сям’і і эканомам, калі той быў. Абходзіў увесь маёнтак, паўсюдна, дзе трэба і дзе не трэба, утыкаў свой нос. Таму дакладна ведаў усю гаспадарку «свайго» пана і разумеў, што можна будзе купіць ці прадаць. <…>

Часам, і нават вельмі часта, яўрэі фінансавалі паноў, пазычаючы ім грошы. Было б гэта не дрэнна, каб не вялікія адсоткі і каб гаспадары двароў інвеставалі сродкі ў развіццё сваіх гаспадарак. Але найчасцей грошы выдаваліся на розныя прыемнасці, напрыклад, на паездку за мяжу, на карнавальны выезд у Варшаву, падчас якога пані і паненкі мелі магчымасць міла праводзіць час і знайсці для паненкі мужа. Для гэтых

жа мэтаў браліся пазыкі ў земскіх банках, і большасць суседніх двароў танула ў даўгах. Усё гэта добра апісана ў раманах Э. Ажэшкі.

Пазычаючы грошы панам, яўрэі маглі калі-некалі і ашукаць. Напрыклад, сусед Іваноўскіх Валейка на вэксаль атрымаў у пазыку ад аднаго з мясцовых яўрэяў немалую суму грошай. Калі надышоў час плаціць, яўрэй прадставіў дакумент, і Валейка заплаціў. Тады яўрэй прынёс яшчэ адзін вэксаль на гэткую ж суму. Сусед адмовіўся плаціць і атрымаў судовы працэс. У судзе стала вядома, што вэксаль і подпіс Валейкі сапраўдныя. Аказалася, што падробленым вэксалем быў першы, але Валейка гэтага не ўбачыў і заплаціў па ім. Судовыя архівы поўняцца падобнымі гісторыямі.

Бывала і адваротнае. Іванаўскас узгадвае гісторыю, калі «католік падмануў яўрэя». Рэктар былога Віленскага ўніверсітэта на добры працэнт пазычыў яўрэям каля 300 рублёў, пры гэтым у заставу атрымаў срэбныя рэчы, як быццам, адпаведнай вартасці. Праз нейкі час рэктар зразумеў, што насамрэч рэчы не срэбныя, а пасрэбраныя. Трэба было неяк ратавацца, і рэктар пачаў расказваць, што застаўныя рэчы ў яго скрадзены і ён аказаўся ў цяжкай сітуацыі. Пачуўшы гэта, яўрэі прыйшлі да яго як быццам вярнуць грошы і забраць свае рэчы, бо меркавалі, што рэктар будзе не ў стане аддаць «срэбныя» рэчы і таму не будзе патрабаваць назад сваю пазыку. Той аднак з вялікай радасцю ўхапіў свае грошы і вярнуў «срэбра».

Тадас Іванаўскас лічыў, што ў часы яго маладосці мелася вялікая розніца паміж яўрэямі ў Польшчы і ў Беларусі. Польскія яўрэі былі салідарныя з палякамі і самі сябе называлі палякамі іудзейскага веравызнання, а нашы, наадварот, маглі толькі дэманстраваць салідарнасць, а насамрэч стараліся быць бліжэй да рускіх. Хто ў гэтым павінен — пытаўся Іванаўскас? І сам адказваў на гэта пытанне: «Думаю, вялікая частка віны ляжыць на нас. Не памятаю, хто сказаў, што кожны край мае такіх яўрэяў, якіх заслугоўвае».

Каталікі не мелі права набываць зямлю, і таму кошты на яе былі нізкія. Гэта выкарыстоўвалі ўсе некаталікі, у тым ліку асобы пратэстанцкіх канфесій. Яўрэі ахвотна куплялі б зямлю, але таксама не мелі такога права. Але яны мелі грошы і куплялі зямлю праз рускіх (беларусаў), запісаўшы яе на чужое імя ці ўзяўшы ў арэнду. Гэткія камбінацыі сустракаліся нярэдка, і ў купленых маёнтках адразу пачынаў высякацца лес на продаж, а зямля распрадавацца па частках*. Часта рускі абшарнік, на якога быў запісаны маёнтак, атрымліваў цэнтральную частку маёнтка з дваром, а ўсё астатняе распрадавалася. Такія новыя ўладальнікі двароў усімі спосабамі жадалі зблізіцца з суседзямі, але гэта не заўсёды ў іх атрымлівалася. Большасць сапраўдных гаспадароў маёнткаў глядзелі на іх зверху ўніз. Прыбышы, аднак, мелі заступнікаў сярод чыноўнікаў адміністрацыі родам з цэнтральных губерняў. Сярод чыноўнікаў трапляліся таксама балтыйскія немцы, якія былі большымі русіфікатарамі, чым самі расейцы.

---

* Пра аднаго з такіх арандатараў у ваколіцах Лябёдкі Іваноўскіх пісала газета «Кур'ер Віленскі» ў студзені 1913 г.: «Каля маёнтка Ваверка забілі арандатара маёнтка яўрэя Ляса, які ехаў з фальварка Лябёдка ў Багданаўшчыну. Цела арандатара пасеклі на кавалкі… Ляс быў вядомы сваім нялюдскім стаўленнем да ваколічных сялян, і таму яго будынкі перад гэтым неаднаразова падпальваліся». — Гл.: Kurjer Litewski № 12, 15(28) stycznia 1913.

**Татары**

У гістарычнай Літве жыло нямала татараў. Адны з іх мелі малыя двары, іншыя валодалі толькі кавалкам зямлі і не адрозніваліся ад сялян. Татары самі пра сябе расказвалі, што іх продкі — уцекачы, а можа і добраахвотнікі, якіх князь Вітаўт перасяліў з Крыма ў Літву. Сярод іх найчасцей сустракаліся прозвішчы Шчансновіч, Гасеневіч, Туган-Бараноўскі, Чайзбіевіч і іншыя. У асноўным гэта былі прыстойныя і працавітыя людзі, якія захоўвалі свае традыцыі і веру. Яны не елі свініну, і ў Іваноўскіх расказвалі, як адзін з іх, калі быў у гасцях у Лябёдцы, выбраў з тушанай бульбы ўсе кавалкі смажанай свініны на край талеркі.

Прытрымліваючыся сваіх традыцый, татары імкнуліся да вайсковай службы: стараліся, каб хоць адно дзіцё з сям'і трапіла ў кадэцкі корпус ці хоць бы ў жандары. Улада лічыла татараў «надзейным элементам», бо яны не былі каталікамі ды імкнуліся служыць.

Большасцю ж насельніцтва былі беларускія сяляне — адвечная народная стыхія. Нацыянальнае самаўсведамленне ў нашых сялян толькі пачынала з'яўляцца, — і менавіта для свайго, кроўнага народа, працавалі Вацлаў і Алена Іваноўскія…






нарадзіўся 1 сакавіка 1963 года ў Лідзе. Скончыў электратэхнічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1985). Па адукацыі інжынер. Стваральнік гістарычна-краязнаўчага сайта pawet.net. Сталы аўтар газеты «Наша слова», часопіса «Лідскі летапісец», «Маладосць», «Гістарычнага альманаха» і розных навуковых зборнікаў. Аўтар больш за 200 артыкулаў і 10 кніг, у тым ліку «Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне (2012), «Паўстанчы дух. 1812, 1831, 1863 гады на Лідчыне» (2016), «Маламажэйкаўская царква: гістарычны нарыс» (2017), «Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы» (2017), «Генерал, які дайшоў да Беларусі. Жыццяпіс Кіпрыяна Кандратовіча» (2018) і інш. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Лідзе.

## АЛА ПЕТРУШКЕВІЧ

### Шахіня

*(З кнігі «Антанёва»)*

— Шахіня вышэй за каралеву! — яна гаворыць гэта з такім захапленнем, гонарам, з веданнем справы, быццам усё жыццё пражыла між імі. Каралямі, каралевамі, шахамі, шахінямі. Яна з 1933 года. Уяўляеце яе: старэнькая, зморшчаная, спрацаваная вясковая бабуля. Апранутая адпаведна ў якісьці ношаны-пераношаны каптанік, такую ж спадніцу, галоўка павязаная выцвілаю хусткай… Уяўляеце? І памыляецеся! Гладкі, румяны, прыгожы твар, ледзьве крануты лёгкімі зморшчынкамі, прыгожа ўкладзеныя, быццам толькі з цырульні, ярка-каштанавыя кароткія валасы. І ўся ў белым. Акуратны белы гарнітур. Без асаблівага суму паведамляе, што не можа пакуль хадзіць: пашкодзіла нагу. Але нічога, хутка загоіцца. І яна зноў будзе ганяць на сваім скутары! Цуд! Ці ж не праўда?

Гэта — Шахіня, Людміла Аляксандраўна Балабановіч. У дзявоцтве Лёдзя Кучура. Шмат разоў яшчэ ў дзяцінстве чула яна пра гэтую асобу ад мамы. Яны разам вучыліся ў Наваградскім педвучылішчы, працавалі ў адным раёне, часта перасякаліся па розных настаўніцкіх справах. А вось сустрэцца з Шахіняю ўпершыню давялося ёй толькі зараз.

Людміла Аляксандраўна паказвае даўнія здымкі. Муж яе быў вельмі прыгожым. Як артыст. Высокі, цёмна-русыя хвалістыя валасы. Пражылі амаль пяцьдзясят гадоў…

Пра тую трагедыю, калі былі забітыя шасцёра маладых антанёўцаў у 1942 годзе, яна ведала даўно. Бо між іх быў Іван Бандарык, дзядзька яе мамы. Пачалася блакада. На Антанёва, лясную вёску ў Налібоцкай пушчы, прытулак партызанаў, насоўвалася цэлая армада немцаў. Партызаны першымі ўцяклі ў глыбіню пушчы, у балоты. Людзі следам, бо ведалі, што ім паратунку не будзе. І толькі васьмёра самых адчайных вырашылі застацца. І дзяўчына між іх. Дзядзька Іван сказаў брату: «Я гэты лес ведаю. Кожнае дрэўца, кожны кусцік. Няўжо яны мяне не схаваюць?» Пэўна, і астатнія так думалі. Вырашылі схавацца на дрэвах, на густых елках.

І чаго трэба было той дзяўчыне заставацца? Не жаночая гэта справа — выпрабоўваць свой лёс, рызыкаваць. Калі немцы насоўваліся да іх схову, спалохалася так, што стрываць не змагла, зайшлася ў немым крыку. Загадалі злазіць. Паспелі толькі дзяўчына і адзін хлопец. Астатніх так і пастралялі, на дрэвах…

Спачатку гналі іх перад сабою. Паставілі, наставілі зброю. А дзяўчына ў ногі кідацца стала, адчайна прасіць-маліць: «А паночкі мае! Не страляйце! Завязіце ў Германію, я на вас да самае смерці працаваць буду!» Хлопец стаяў як укапаны. Ні слова не вымавіў. Тры разы ставілі дзяўчыну поруч з ім, расстрэльваць збіраліся. А яна ўсё кідалася да ног, усё маліла. Тады адзін ціха прамовіў: «Бяжыце». Стрэлілі высока над галовамі…

Ахвяраў тае блакады між антанёўцаў было нямала. Напісана пра гэта багата. Згадаем толькі маму і сыночка, прашытых адною куляю. Калі блакада была знята,

вярнуліся антанёўцы ў вёску. А яе няма — пажарышча. Самае першае, што мусілі рабіць, — хаваць забітых. Ні дошак, каб зрабіць дамавіны, ні адзення, каб апрануць у апошні шлях. Нічога не было. Закручвалі целы ў якую тканіну і так клалі. Магілу той маці з сыночкам капаў іх старэйшы сын. Другі яшчэ малы быў. А бацька як не ў сабе быў у тыя дні, калі жонку з сынам знайшоў. Доўга яшчэ адысці не мог. І такая роспач, такая безнадзейнасць ахапілі хлопца, што не вытрымаў ён. Выкапаў яму, дастаў пісталет і да скроні прыставіў. Выстраліў — асечка, другі раз — асечка… Не лёс быў яму загінуць. Другі раз у тыя жахлівыя дні. Так, гэта быў той, якога не расстралялі дзякуючы просьбам дзяўчыны. Гэта быў Лёня Балабановіч, будучы муж Лёдзі…

У партызанах Лёня быў падрыўніком. Але калі прымушалі немцаў расстрэльваць, ні разу не пагадзіўся. Расстрэльваў лядкаўскі, гугнівы. Былі такія, што самі прасілі: «Давайце я расстраляю!»… Гаварыў пасля жонцы: «Мо я выжыў, што нікога не расстрэльваў. Не мог я ў людзей страляць». На фронт пасля вызвалення ўзялі. Вярнуўся. Пасля вайны жыў у Стоўбцах, кіраваў аднаўленнем чыгункі. А працавалі там немцы. Ніколі іх не крыўдзіў, ніколі не здзекаваўся.

«Лёнічак, мой Лёнічак!» — так пяшчотна называе мужа Людміла Аляксандраўна. І паўтарае: «Кахаў мяне мой Лёня. На руках насіў, пылінкі з мяне здзьмухваў. Я такая шчаслівая!» Васемнаццаць гадоў як няма яго…

Пакажацца слязінка на яе вачох, змахне рукою, і зноў усмешка на вуснах, радасць на твары. Што жыве, што людзі добрыя побач, што дзеці, унукі не забываюць. Паважаюць яе, Шахіню. А чаму Шахіня? З гумарам апавядае, як такую шыкоўную мянушку займела:

— Даўно гэта было. У газеце ўгледзела здымак шаха з шахіняю. Ды такія яны маладыя, прыгожыя. А апранутыя як! Лячу да суседкі і крычу: «Хіба мы жывем?! Не жывем мы! Во шах з шахіняю жывуць!» То і падхапілі ў вёсцы, і панеслася…

Той, што слухала, любавалася Шахіняю, згадалася раптам даўняе-даўняе. Адпачывала яна тым апошнім школьным летам у бабулі ў Антанёве. На Нёман хадзіла. Часцей адна. Плавала, чытала. Пераплыла аднойчы нешырокі ў тым месцы Нёман і сустрэла цікавую асобу, якая таксама адна адпачывала. Разгаварыліся. Памятае нават, праз столькі гадоў, пра што…

— Людміла Аляксандраўна, а на Нёман Вы хадзілі, плавалі?

— Усё жыццё на Нёмане! Усё жыццё плаваю!

Не першы раз яна з Шахіняю сустрэлася. Шчаслівая, што сустрэлася…

## Успаміны эСБээМаўкі

*Алена Паўлаўна Новік, дзявочае прозвішча Грыцкевіч, з вёскі Воўца, што недалёка ад майго Шчонава. Жыве ў Любчы, куды пераехала з сям'ёю ў 1963 годзе. Сямнаццаць гадоў адпрацавала медсястрою ў Райцаўскім шпіталі. То і Шчонава маё і шчонаўцаў таксама ведала, памятае.*

*З гэтай незвычайнай асобай пазнаёмілася, калі яна ўжо мела дзевяноста чатыры гады. Светлая, жыццярадасная, разумная, памяць захавала незвычайную. Многія едуць да яе, каб паслухаць. Яе ўспаміны запісаныя для вуснай гісторыі. Вось жа, падаю тут некаторыя згадкі дарагой мне эсбээмаўкі.*

**Усё жыццё вучылася!**

Калі ўпершыню пачула Алену Паўлаўну, была здзіўлена прыгожаю, літаратурнаю беларускаю гаворкаю. Расказала яна, дзе вучылася, адкуль яе дасканалая мова.

Пры Польшчы Алена Грыцкевічава, адзіная дачка ў бацькоў, паспела скончыць шэсць класаў. У 39-м, пры Саветах, назад у пяты адсадзілі. Дайшла да сёмага — ізноў пераварот, вайна. А тут у Наваградку адчыняецца семінарыя, прагімназія і шасцімесячныя настаўніцкія курсы. У 1942 годзе пайшлі дзяўчаты, што вучыцца хацелі, у семінарыю. Каля тысячы чалавек навучэнцаў было ў Наваградку. На першы курс сем групаў набралі, на другі многа, на трэці меней, чалавек дзесяць. Іна Рытар выкладала нямецкую мову. Спазнілася аднойчы дзяўчына на занятк, паставіла яе настаўніца ля дзвярэй, увесь урок прастаяць мусіла. Праўда, пазней добра ставілася, ацаніла веды, бо дзяўчына яшчэ з польскае школы выдатна нямецкую мову ведала. Усё навучанне было па-беларуску. З тых часоў памятае беларускія вершы, песні.

Усе яны былі сябрамі СБМ. Вось ужо дзе патрыятычнае ўзгадаванне атрымалі! Усе марылі пра Беларусь. Марылі, каб хоць калі пажыць у вольнай Беларусі!

Спаліла свой дыплом за семінарыю, бо каб знайшлі, то не ўратавалася б ад турмы. Многія адседзелі. У 1944 годзе ў медыцынскае вучылішча паступіла. Быццам і не заканчвала семінарыі. Падводзіць вынік:

— То я ўсё жыццё вучылася!

Калі сустракала каго з тых навучэнцаў, каго ў Наваградку ў вайну бачыла, ціха пыталася:

— Вучыліся?

— Вучыліся…

Гэта было як пароль. Вучыліся — значыць, нашы, у СБМ былі. Цудам трымаюцца тут, на волі, даносу хапіла б, каб у турму трапіць…

А яшчэ вялікую навуку працоўную прайшла. Жаночыя справы — зразумела. Гэта ўсе рабілі. А наша медсястра ўмее касіць, стагі класці, каня запрагаць, араць, баранаваць, спрынжынаваць, цэпам малаціць, дрэвы ў лесе спускаць…

**Ганаруся!**

Не разумею тых, ад каго чую:

— А чаго туды ехаць? Нічога там для мяне цікавага.

Так пра родныя мясціны. Зрэшты, і яны ж мяне не разумеюць: чаго еду, што шукаю… А вось Алена Паўлаўна і ў гэтым мне блізкая. Яшчэ ў першую сустрэчу зімою дамовіліся, што паедзем у яе Воўцу. З такою любоўю расказвала яна пра сваю вёску! Ніхто пра тое, што было там раней, не ведае. А хто зараз трапіць, то і ўявіць не зможа, якая багатая, прыгожая была калісь Воўца.

Заможныя гаспадары жылі тут. На той бок Нёўды, што працякае ўздоўж сённяшняе вуліцы, быў млын. Гаспадарыў Рафаіл Нохім-Гордзін. А ў пачатку вёскі была крама, якую трымаў Іцка Брук. Але самая вялікая гаспадарка была ў колішнім маёнтку пана Гнаінскага, які перакупіў бурмістр Шчорс, калі вярнуўся з вялікімі грашыма з Амерыкі. Трыццаць кароў, дзесяць коней, вялізны свінарнік — не жартачкі! Жняярку сваю мелі. А птаства! Нат паўліны былі…

Усё прахам пайшло, усё партызаны спалілі. Ні знаку не засталося ад заможных сядзібаў ля рэчкі.

Расказвае пра гэта Алена Паўлаўна, паказвае, дзе тыя сядзібы былі. Быццам учора ўсё было. Усё памяць яе захавала. Узнёсла, з гонарам гаворыць:

— Во якая мая вёска была! Ганаруся ёю!

**Мастачка**

Калі сустракаю згадкі пра Алену Кіш, думаю: і ў нашых краёх мусіла быць свая мастачка. Бо памятаюцца мне на сценах у даўнейшых хатах маляваныя старыя дываны. Нехта ж іх маляваў. Усё марыла на след тае мастачкі натрапіць. Што гэта жанчына, не сумнявалася. Толькі жаночая рука, жаночае сэрца маглі стварыць тыя кветкавыя матывы, вобразы, што так міла аздаблялі збяднелыя пасля вайны вясковыя хаціны.

І яна была! Мастачка з вёскі Воўца, якую памятае Алена Паўлаўна. Мурзіч Вольга Аляксееўна, у дзявоцтве Гоцка. След яе згубіўся, бо яшчэ за Польшчаю з’ехала з мужам і дзецьмі ў Парагвай. І ніколі на Радзіму не вярталася. І добра, што паехала, бо багата жылі, муж у гміне працаваў. Выслалі б Саветы.

А дываны віселі амаль ва ўсіх хатах. Звычайна чорная аснова, кветкавая акаймоўка, пасярэдзіне возера, над ім дрэвы апусцілі галіны. На возеры лодка. А ў ёй дзяўчына і хлопец. Смутныя-смутныя. «Перад развітаннем», — прыдумвае назву тая, што слухае.

— Што папросяць, тое і малявала. Але кветкі заўсёды былі. Вельмі ж прыгожыя, яркія, чырвоныя, ружовыя…

**Сустракалі, віталі…**

17 верасня 1939 года, калі прыйшлі Саветы, людзі радасна віталі іх. Верылі: новае жыццё настане. Браму зрабілі, упрыгожылі. Настаўніца Алена Гоцка, што працавала ў Воўцы яшчэ з царскіх часоў, так хараша выступала. Столькі радасці было! Але чым тая радасць вылілася! Слязьмі, нястачаю, страхам. А як вывозіць людзей пачалі…

Спачатку ўсё прападаць стала. Як карова языком злізала. Бо крамы ж у яўрэяў былі. Што раскупілі, а што схавалі, а браць больш і не было дзе.

У бурмістра Шчорса ўсё забралі. Раскулачылі, сям’ю вывезлі. Дваццатага чэрвеня 1941 года вывезлі, а дваццаць другога вайна пачалася…

**Адступленне**

Адступаюць Саветы ў 1941-м.

Шмат людзей ішло па нашых дарогах з-пад Беластока. Зняможаныя, здарожаныя, галодныя. У Воўцу трапіла некалькі сем’яў вайскоўцаў. Да Грыцкевічаў прыстала сям’я шафёра. Кабета, трое дзяцей, ды яшчэ чацвёртае чакала. Месяцаў восем жылі. Запомнілася Алене Паўлаўне тое, што здзівіла яе тады, і чаму да сёння надзівіцца не можа. Расказвае, хвалюючыся, са смуткам у голасе:

«З іншых хатаў ужо назаўтра кабеты па вёсках пайшлі.

— Нам тут есці даюць. А што на ўсходзе будзе?

Ведалі, што там, дзе калгасы былі, голад, людзям самім есці не было чаго. А не тое, каб іх карміць.

Наша села і плача.

— Чаго ж ты плачаш? — пытаецца гаспадыня.

— Яны жабраваць пайшлі, назбіраюць хлеба, сухароў насушаць, а што мае дзеці есці будуць?

— Ціхо, не плач…

Мы таксама на выбаз падрыхтаваныя былі. Бо ў нас жа і хата харошая, і ўсё ў гаспадарцы было. Таму і жылі ў страху, чакалі… Мяшок чорных сухароў, мяшок белых на печы ляжалі. Пашылі ім торбы. Мама зняла з печы мяшкі і кажа, каб насыпалі. Узялі, колькі паднесці маглі…

Прыходзіць аднойчы да іх хаты жонка аднаго капітана. З ёю дзяўчынка гадоў пяці. Прыселі на лаўцы. Малая просіць піць. Мама да мяне:

— Пайдзі, налі ёй малака.

Узяла тую маленькую за ручку і вяду ў хату. А тут схватваецца цяжарная, бяжыць у сені следам, накідваецца на нас, крычыць:

— Не давай ёй малака: яе бацька капітан, яны прадалі Савецкі Саюз!

Падумайце, якое выхаванне! У чым жа малая гэта вінавата? І яе ж муж шафёр, і той капітан невядома дзе, а яна да гэтае малое кідаецца.

Уся армія адступала, хто ж іх карміў, у хаты пускаў? Сем'і іхнія. Мы! Чаму яны нас пасля вайны другім гатункам лічылі? А мо і трэцім? Мы ж ім дапамагалі, ад голаду ратавалі…»

**Не сустракалі!**

А вось як немцы прыйшлі, ніхто іх не сустракаў. Прыляцелі на матацыклах, тады пешыя прайшлі. Адразу сямнаццаць коней з пяцідзесяці хатаў забралі. А гэта ж самы час працоўны, бяда без коней.

Едзе бацька з поля, з хутара, а суседка крычыць яму:

— Грыцкевіч, куды ж ты едзеш, коней забяруць!

Ды не дапамагло яе папярэджанне. Схаваў ён коней у хлеў, а яны заржалі. Пачулі немцы і адразу забралі кармільцаў.

А ў Грыцкевічаў у хаце акружэнец быў. Сядзіць за сталом, а на галаве шапка. І відаць, што зорачка была. А тут немцы заходзяць. Гаспадыня вельмі дрэнна адчувала сябе, на ложку ляжала, саслабела зусім.

— Матка, кранк?

— Я, я, паночку.

— Дас іст зон?

Ведала яна нямецкую мову яшчэ з мінулае вайны. Ведала, што нельга абманваць, што не даруюць. То і кажа:

— Ніхт фэрштэйн.

Не дык не. Пакінулі ў спакоі і пайшлі з хаты. Алена Паўлаўна абураецца:

— І нашто ён, у хаце, за сталом седзячы, тую шапку на галаве трымаў?! Але што хацець — культура. Добра, што абышлося.

**Герой!**

Барыс Рагуля. Пра яго расказвае з вялікай павагаю.

Шмат пра яго ведала, чула, бачыла ў Наваградку неаднойчы. Згадвае такі выпадак. Фарсістыя хлопцы з семінарыі адпусцілі доўгія валасы. Загадалі настаўнікі пастрыгчыся. Узбунтаваліся неслухі, да гебітскамісара ісці сабраліся. Выклікаў іх спадар Барыс. Патлумачыў, што беларусы ўсе свае справы самі, між сабою вырашаць павінны, ніколі да чужынцаў ісці нельга. І такую фразу сказаў, што перадавалі яе як запавет:

— Як адзін не брат, другі не прыяцель!

Пра фашыстаў і камуністаў гаварыў. Аднолькавых да беларусаў «братоў-прыяцеляў».

Сорамна тады маладзёнам стала. Добры ўрок атрымалі. Пастрыглі свае чупрыны, супакоіліся.

Калі ў 1944 годзе немцы адступалі, Барыс Рагуля выратаваў у Любчы шмат людзей ад смерці. Бязладдзе, то партызаны прыляцяць, то казакі. Людзі ў царкву схаваліся, цэлую ноч маліліся, пра ратунак Бога малілі. А ранкам казакі з’явіліся, акружылі царкву, вывелі людзей і пачалі: дзеці асобна, жанчыны асобна, мужчыны асобна. Людзі ўжо з жыццём развітвацца сталі. А тут якраз на машыне едзе Рагуля са сваёю цёткаю, якая тут жыла. Прыпыніўся, падышоў да атамана, нешта гаварыў. Той да сваіх:

— Адыходзім. Ідзіце пажар тушыць.

Партызаны падпалілі вёску з другога канца. Паляцелі казакі туды…

— Бог паслаў яго, каб людзей ўратаваў, але ж ніхто пра гэта напісаць не хоча. І чаго баяцца? За адно гэта ён герой!

Пагодзімся з Аленай Паўлаўнай — герой.

**У cd служылі?..**

У 1944 годзе, перад самым вызваленнем, пайшла Алена Паўлаўна з сяброўкай у Наваградак, каб забраць свае рэчы. Вярталіся, трапілі ў рукі партызанаў. Допыт наладзілі: куды, адкуль, навошта? Рэчы ўсе ператрэслі. Да канспектаў дайшлі. Гартаюць. Геамерыя. Скрозь ***cd***. Крамолу знайшлі-такі! Накінуліся на дзяўчат:

— То вы ў немцаў, у ***cd*** служылі!

Адбіваліся бедныя як маглі. Тлумачылі, што тое ***cd*** у канспектах азначае. Датлумачылі, адпусцілі іх. Але страху набраліся.

— Яны ж там усе непісьменныя былі. Не тое, што ў геаметрыі, а нат і ў арыфметыцы не разбіраліся, — робіць выснову выпускніца настаўніцкай семінарыі.

**Блакаднікі**

Адзін час у Райцы ў шпіталі працавала доктар Жоландзь, якая перажыла блакаду ў Ленінградзе. Сястра яе Ганна Мікалаеўна была моцна хворая. На заводзе ў час блакады працавала. Ледзьве выжыла. Туберкулёз хрыбта мела. Не падымалася больш за год. Ляжала на цвёрдых дошках.

У шпіталі, у той час перапоўненым, былі і з венерычнымі хваробамі. Прыехаў з праверкаю доктар Левін з Баранавічаў з абласнога скурвендыспансера. Таксама з блакаднікаў. Ды не з тых…

Прывяла яго доктар да сястры, бо ж зямляк, каб пагаварылі, родны горад паўспаміналі. Не так часта можна было ў Райцы чалавека з Ленінграда сустрэць.

Згадвае Алена Паўлаўна:

«Прыходжу на змену, а мая Ганна Мікалаеўна ажно падскоквае на ложку. Знерваваная страшэнна.

— Што з Вамі? — пытаюся. А яна супакоіцца, да сябе прыйсці не можа.

— Каб я хадзіла, я б яму вочы выдрала! Расказваю, як мы галадалі, як мае ўсе памерлі з голаду, двое дзетак, мама з бацькам. А ён ды кажа:

— А мы не галадалі, у нас рыс мяшкамі стаяў.

— Як жа так магло быць! Каб людзі з голаду паміралі, а ў іх рыс мяшкамі стаяў!»

Розныя былі блакаднікі…

нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава Карэліцкага раёна. Закончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт, працавала ў вясковых школах. Закончыла аспірантуру Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАН Беларусі. Кандыдат філалагічных навук. Працуе дацэнтам на кафедры беларускай літаратуры ГрДУ. Сябар СБП. Напісала кнігу «Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі».







# Успаміны

## Аляксей Пяткевіч

## Гродна, студэнцкая аўдыторыя, калегі і інш.

### Частка І

З даўніх часоў далёкі і незнаёмы горад Гродна быў для мяне хоць і таямнічым, але чымсьці блізкім. Можа таму, што стаяў на Нёмане, як і маё мястэчка Новы Свержань. У школе, вывучаючы біяграфію дзівоснага Максіма Багдановіча, давялося зачапіцца за Гродна, і з той пары гэты загадкавы заходні горад стаў ужо крышку сваім. Але ніколі не думаў, што лёс звяжа з ім назаўсёды. Сталася гэта крыху нечакана.

У 1957 годзе я заканчваў аспірантуру ў БДУ, і Дзяржаўная камісія па размеркаванні выпускнікоў прапанавала мне месца ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук. Я ж, доўга не думаючы, адмовіўся, чым здзівіў салідных людзей, што сядзелі насупраць. Яны зрабілі вялікія вочы і моўчкі глядзелі на мяне. У гэтым позірку чыталася: «Якога, хлопча, ражна табе трэба? Гэта ж сталіца і надзейная навуковая кар’ера». Мне ж чамусьці хацелася чытаць лекцыі студэнтам, і я папрасіўся ў які-небудзь пединстытут. Але такіх вакансій не было. Узнікла прыкрая паўза. І тут я ўспомніў: выпускнік аспірантуры Мінскага пединстытута Васіль Жураўлёў ужо прайшоў размеркаванне і быў накіраваны ў Гродзенскі пединстытут, чаму не надта цешыўся. Вось каб з ім памяняцца. Камісія ўхвальна загула, а адзін з яе складу — намеснік міністра асветы — рэзюмаваў: «Прыходзьце заўтра абодва да мяне». Назаўтра мы памянялі накіраванні і выйшлі з будынка Міністэрства, адчуваючы сябе, як на сёмым небе. Неўзабаве сустрэлі на вуліцы аднакурсніка па аспірантуры Сашку Шарупіча. Нашмат старэйшы за нас, удзельнік вайны, былы чарнаморскі матрос, ён быў заўсёды жыццярадасным, гаваркім, лёгкім на пад’ём, гатовым далучыцца да ўсякай добрай кампаніі. Мы ўтраіх зайшлі ў парку Горкага ў нейкую выпадковую кафэшку і добра такі адзначылі наша шчаслівае з Васілём размеркаванне. Так я стаў гродзенцам.

Прыехаў у пединстытут афармляцца ў канцы жніўня. Сакратарка рэктара сказала, што ён будзе толькі заўтра. Значыць, трэба заначаваць. Пакуль прайшоўся па горадзе. І мне тут усё спадабалася — чысценькія нешматлюдныя вуліцы, засаджаныя каштанамі, густы цяністы парк з вялікімі купамі бэзу і чаромхі, старажытныя будынкі гістарычнага цэнтра, велічныя касцёлы, замкі. Усё стварала ўражанне спакойнага, нейкага па-хатняму ўтульнага ладу жыцця. Пад вечар зайшоў у гасцініцу «Беласток», і тут высветлілася, што няма ў мяне пашпарта. Забыўся ўзяць. Ёсць толькі камандзі-

ровачнае пасведчанне. Але гэты дакумент рэгістратарка рашуча адхіліла, і ніякія мае довады не дапамаглі. Што ж рабіць? Вырашыў ісці ў міліцыю. Балазе, яна знаходзілася непадалёк, на вул. Карбышава. У кабінеце дзяжурнага сядзелі дваіх — старэйшы гадамі і хлапчук, як я. Яны ўважліва мяне выслухалі, паглядзелі пасведчанне, пра нешта яшчэ папыталіся. І старэйшы бацькоўскім тонам, як мне падалося, завяршыў: «Ну што ж, падтрымаем вас, будучага гродзенца». І стаў дыктаваць маладзейшаму тэкст звароту да адміністрацыі, у якім дазвалялася мяне пасяліць. Атрымаў у «Беластоку» нават асобны нумар. Прылёг адпачыць, дастаўшы з сумкі кніжку В. Булгакава «Л. Н. Толстой в последний год его жизни», якую нядаўна купіў у Мінску. Перад тым, як чытаць, зноў падумаў пра гродзенскую ўтульнасць жыцця. Чытаў кніжку доўга.

Рэктар Дзмітры Спірыдонавіч Маркоўскі прыняў мяне прыхільна. Распытаў пра сям’ю, пра мае навуковыя здабыткі. Загад аб залічэнні мяне ў штат падпісаў не той датай, калі я прыйшоў афармляцца, а на некалькі дзён ранейшай, падтрымаўшы мяне такім чынам матэрыяльна. І гэта нельга было не ацаніць. Як кіраўнік калектыву ён ставіўся да ўсіх роўна. Ніколі не павышаў голасу. Мог стрымана пахваліць. Працаваў ён рэктарам амаль 20 гадоў, і за гэты час у маёй працоўнай кніжцы з’явілася мноства падзяк. Галоўным чынам — за навуковую работу з студэнтамі. Яшчэ — красамоўны штрых. Калі была надрукавана аповесць В. Быкава «Мёртвым не баліць», я змясціў у «Гродненской правде» рэцэнзію, дзе даў аповесці высокую ацэнку. Неўзабаве «Правда» на сваіх старонках учыніла гэтаму твору ідэалагічны разнос. Пісьменніка пачалі арганізавана шальмаваць у друку і на сходах. Тады ж прыйшоў у наш інстытут з прапагандысцкай лекцыяй для выкладчыкаў і студэнтаў першы сакратар абкама партыі (здаецца, Міцкевіч). Зайшоўшы папярэдне да рэктара, ён паведаміў, што будзе рэзка крытыкаваць выкладчыка Пяткевіча за непрадуманае выступленне ў абласной газеце. І тут Д. С. Маркоўскі рашуча заступіўся за мяне і пераканаў высокага партыйнага чыноўніка, што нельга падрываць педагагічны аўтарытэт маладога выкладчыка, праявіўшы тут, трэба сказаць, сапраўдную мужнасць. Ён лічыў мяне добрым спецыялістам, на якога заўсёды можна абаперціся. Аднойчы прыбыла ў Гродна прадстаўнічая дэлегацыя з Арменіі, якую складала навуковая і творчая інтэлігенцыя. Д. Маркоўскаму даручылі падабраць выкладчыка, які мог бы сказаць уступнае слова на гарадской урачыстасці. Рэктар выбраў мяне. Зусім не было часу, каб падрыхтавацца. Але ўсё прайшло вельмі добра. Вечарам я быў з імі на фуршэце. А на заўтра адкрываў сустрэчу і вёў яе ўжо ў нашым інстытуце. Госці былі вельмі задаволены. І нават беларуская мова, як казалі, была ім зразумелая. Пазней вазіў я з інстытуцкім партаргам у Мінск вялікую групу польскіх педагогаў. Яшчэ нямала чаго даводзілася рабіць па даручэнні рэктара. Што да заняткаў, то я ўсё больш упэўнена трымаўся ў аўдыторыі і адчуваў — у мяне атрымліваецца. Неяк была ў інстытуце дама з Міністэрства асветы. Між спраў папрасіла ў рэктараце даць ёй магчымасць паслухаць добрую лекцыю. Прарэктар С. А. Габрусевіч прывёў да мяне. Я чытаў тады беларускую літаратуру савецкага часу. Матэрыял быў няўдзячны — заканчваў З. Бядулю і пачынаў К. Чорнага. Але, калі празвінеў званок і мы выйшлі за дзверы, стала яна так мяне хваліць, аж было няёмка. Што ж, што было, тое было.

Але першыя крокі ў інстытуце даваліся цяжка. Бянтэжыла, што некаторыя студэнты старэйшыя за мяне. Матэрыял я, хоць і знаў, але не ўмеў выкласці яго сістэмна.

Даводзілася пісаць канспект, часам — аж 10 старонак на адну лекцыю. Студэнты не надта слухалі. Я нерваваўся. На кафедры мне, маладому, падсоўвалі рабіць тое, чаго не хацелі іншыя — выкладаць на вячэрнім аддзяленні, чытаць старажытную літаратуру, фальклор, кіраваць педагагічнай практыкай. Я адразу ж «стукнуўся» аб беларускі фальклор. Праблема крылася ў тым, што не было тады па гэтым прадмеце ніякай дапаможнай літаратуры. На пачатку мяне нават ахапіў адчай. Тое, што чытаў нам у БДУ М. Я. Грынблат, прызабылася. Канспект жа першакурсніка быў нікудышным. Што рабіць? Але выйсце знайшлося. Я папрасіўся на некалькі дзён у камандзіроўку ў Мінск і засеў у Ленінцы. Як жа было прыемна апынуцца зноў у Мінску, дзе прабеглі твае восем студэнцкіх і аспіранцкіх гадоў. Тут усё засталося сваім і ўсё табе спрыяла. Нават пра начлег не трэба было думаць. У сваім інтэрнаце на Свярдлова вахцёрка сустракала цябе мілай усмешкай: маўляў, нешта доўга цябе не было відаць. У аспіранцкіх пакоях, дзе цябе таксама добра зналі, заўсёды знаходзілася вольнае месца: які гэта аспірант не з'ездзіць надоўга дадому? І цябе заўсёды гатовы пачаставаць на вячэру нязменнай доктарскай каўбасой і гарбатай, а часам і яшчэ нечым у дадатак.

У беларускім аддзеле Ленінкі я адразу пачаў штудзіраваць Я. Карскага, фальклорны том яго «Беларусаў». З якім задавальненнем занатоўваўся грунтоўны аналіз замоваў, абрадавай творчасці, казак і інш. Дадому я вёз салідны багаж — аснову курса беларускага фальклору, які пайшоў у мяне як найлепш. І гэтым спачатку курсам здолеў захапіць студэнтаў. Усё больш я адмаўляўся ад канспектаў і ўрэшце стаў прыходзіць у аўдыторыю без усякіх запісаў. Хутка зразумеў, што такі спосаб выкладання найлепшы для студэнтаў і выклікае іх давер. Навучыўся выдзяляць галоўнае, адрозніваць творчыя індывідуальнасці пісьменнікаў, канцэнтравацца на стылі. Апошняе перадавалася ад Алеся Адамовіча, яго кніг і артыкулаў, гутарак з ім падчас прыездаў у Акадэмію навук, дзе працаваў і мой навуковы кіраўнік Юльян Сяргеевіч Пшыркоў, што вучыў мяне яшчэ студэнтам.

Жылося тады з задавальненнем. Мусіць таму, што быў маладым, і паміж намі, выкладчыкамі, трымаліся нейкія асабліва цёплыя, амаль хатнія стасункі. Тым больш, што нас было не шмат. Ездзілі цеплаходам за горад на маёўкі, ладзілі разам у інстытуце розныя застоллі. Помніцца 60-годдзе ў рэстаране «Беласток» мовазнаўца-дацэнта Тацяны Піліпаўны Сцяшковіч. Сабраліся не толькі філолагі, а і гісторыкі, матэматыкі. Я гаварыў тост у стылі народнай замовы. За сталом была сардэчная атмасфера.

Да пачатку 1960-х гадоў інстытут размяшчаўся ў будынку былой жаночай гімназіі і складаўся з двух факультэтаў: гістарычна-філалагічнага і фізічна-матэматычнага. Заходзілі ў корпус праз галоўны ўваход, што з вуліцы, адчыніўшы нізенькую металічную калітку. За дзвярыма корпуса — гардэроб, мінуўшы які, траплялі ў калідор. Злева ў канцы калідора быў буфет, дзе прадавалі і віно. Справа па калідоры — бібліятэка, што месцілася ў памяшканнях ад вуліцы. Прайшоўшы каля бібліятэкі, траплялі на лесвіцу, якая вяла на 2 паверх. Злева ад лесвіцы быў яшчэ калідорчык-закутак, у якім знаходзіліся: справа дэканат і бухгалтэрыя, злева — прыёмная. У прыёмнай стаяў стол сакратаркі Тоні, маладой, чарнявай, з тоўстай касой за плячыма. Яе, Тоню, усе ведалі, бо яна спраўлялася з усякімі адміністрацыйнымі пытаннямі, што маглі ўзнікаць у выкладчыкаў. З прыёмнай адны дзверы вялі да рэктара, другія — да прарэ-

ктара. У маленькім кабінеце рэктара стаяў стол, два крэслы і шафа. Іншай мэблі не было. Янка Брыль, які ўпершыню трапіў на сустрэчу з нашымі стадэнтамі, сказаў: «Цесненька жывеце, але ўтульна». Мы тады пазнаёміліся, і ён стаў зваць мяне Зямляча.

На другім паверсе размяшчаліся ўжо навучальныя памяшканні. Самае маленькае мела на дзвярах таблічку з надпісам: «Прафесарская». Прафесараў у нас тады яшчэ не было, а дацэнтаў можна было пералічыць па пальцах. Але такая таблічка, пэўна, надавала саліднасці нашаму выкладчыцкаму калектыву. Тут у перапынках паміж лекцыямі заўсёды стаяла нягучная гамана. Кожны рады быў сустрэцца з калегамі ды падзяліцца нейкімі нечаканымі назіраннямі.

На калідоры другога паверха ладзіліся, як правіла, выпускныя вечары. Ставілі ўпрытык адзін да аднаго сталы, якія застаўляліся, чым Бог паслаў. У суседняй аўдыторыі танцавалі. Калі ж танцы станавіліся самай важнай часткай вечара, а за сталамі мала хто заставаўся, ціха паяўляўся Барыс. Яго ведалі. Высокі, прысутулены, трохі нелюдзімы, ён жыў з маці-прыбіральшчыцай у двары інстытута, у нейкім мала прыстасаваным памяшканні. Барыс вылічваў той момант, калі яго ўжо не заўважаць, а заўважаць, то махнуць рукою. Ён садзіўся ў канцы за тарцовы стол і няспешна сам сабе наліваў. Пакуль мог. Затым спаўзаў з крэсла на падлогу і засынаў. Тады хлопцы бралі яго за рукі і ногі ды валаклі па лесвіцы ўніз і праз бакавы выхад — да яго хаціны. Прыгода гэтая была і смешнай і сумнай. Але мела паўторы.

На 3 паверсе корпуса самая вялікая аўдыторыя выкарыстоўвалася як зала для канцэртаў, сходаў, урачыстасцяў. З правага боку ад уваходу быў зроблены пры сцяне нізенькі подыум, які абазначаў сцэну. Хто тут толькі ні выступаў. З гэтай сцэны чыталі свае вершы студэнткі-паэткі Аўгіння Сідаровіч (Кавалюк) і Данута Бічэль (Загнетава). Тут выступалі Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Іван Шамякін. Студэнты ставілі тут свае спектаклі. Поспехам карысталася пастаноўка «Паўлінкі». Падрыхтавалі яе з нагоды прысваення Гродзенскаму педінстытуту імя Янкі Купалы. Сталася гэта ў 1957 годзе. Чакалі прыезду Купаліхі. Прыехала Уладзіслава Францаўна ў 1958 годзе. З ёю былі Сяргей Грахоўскі і Васіль Жураўлёў, той самы, з якім мы памяняліся месцамі працы. Госці паглядзелі спектакль, у якім, дарэчы, галоўныя ролі ігралі студэнты Іван Крэнь (пазней прафесар-гісторык Гродзенскага ўніверсітэта) і Алена Лябецкая (пазней настаўніца ў Слоніме). Удава Я. Купалы выступіла. Пахваліла спектакль. Сцісла распавяла пра паэта, пра некаторыя моманты яго жыцця. На студэнцкае пытанне: «Як пачалося ваша каханне?» аднекнулася: маўляў, «старая я ўжо баба». На вечар запрасіла ў рэстаран «Гродна» групу выкладчыкаў, у тым ліку і мяне. Хораша пасядзелі ў баковачцы галоўнай залы. Уладзіслава Францаўна была гаваркой, вясёлай. Праспявала некалькі беларускіх песень, якія любіў Янка Купала. Між іншым, рэстаран «Гродна» быў у тыя часы вельмі цікавым, бо меў інструментальнае трыа (скрыпка, акардэон ці раяль, кларнет), якое іграла вечарамі. Музыканты ўсе старыя, мясцовыя, даваеннай яшчэ школы. Ігралі розныя рэчы, але найбольш любілі рэпертуар Эдзі Рознера. Мне вельмі падабаўся іх «Вішнёвы сад» у стылі джаз. Выконвалі яны і танцавальныя мелодыі. Але людзі ў рэстаране мала танцавалі. Сюды прыходзілі слухаць музыку. Трыа распадалася паволі. Спачатку адзін сышоў, і яго

замяніў малады. Затым — другі. Калі сышоў трэці, ансамбль скончыў сваё жыццё. Яго так любілі гродзенцы.

Мая ж выкладчыцкая праца пачыналася на кафедры літаратуры. Беларускую літаратуру тут вялі, акрамя мяне, Л. І. Храмава, М. В. Пасяўцова і С. У. Кліманскі (прыйшоў на кафедру ў 1965 годзе). Любоў Іванаўна Храмава была загадчыцай кафедры і адзіным тут кандыдатам навук. Строгая, у акулярах, у цёмным касцюме, яна размаўляла правільнымі літаратурнымі фразамі, любіла дысцыпліну і парадак. І не дзіўна: была ўдзельніцай вайны. Зрэшты, была гэта жанчына з чулай і добрай душой. Не дабрала яна, праўда, у той пасляваенны час, калі панавала сацыялагічнае літаратуразнаўства, добрых тэарэтычных ведаў. Марыя Васільеўна Пасяўцова, старанная і акуратная, спраўна выконвала свае абавязкі. Дысертацыі не абараніла і, як відаць было, не збіралася гэта рабіць. Сяргей Уладзіміравіч Кліманскі меў добры настаўніцкі вопыт і адразу ж пачаў чытаць методыку выкладання літаратуры ды кіраваць педпрактыкай.

Павучыцца прафесіі я змог на кафедры ў В. П. Казлова і К. В. Асокінай, старэйшых і ўжо вопытных выкладчыкаў, якія чыталі рускую літаратуру. Васіль Паўлавіч Казлоў, выпускнік БДУ, умеў аналітычна і глыбока разглядаць літаратурныя з'явы. Меў пачуццё гумару, арганічную абаяльнасць, задаткі лідара і ўвесь час займаў нейкія пасады. Кацярына Васільеўна Асокіна скончыла аспірантуру Ленінградскага ўніверсітэта, дысертацыі не напісала, але добра адчувала мастацкае слова, паэтычны вобраз і яе любілі студэнты. Мы з ёю своеасабліва сябравалі. На інстытуцкіх педсаветах, якія сваім сумбурным зместам нагадвалі школьныя педсаветы, мы з ёй садзіліся «на камчатцы» і пачыналі інтэлектуальную гульню-спаборніцтва. Трэба было напісаць прозвішчы вядомых людзей у галіне мастацтва, якія пачынаюцца на нейкую пэўную літару. Перамагаў той, хто напіша болей. Часцей перамагала яна. Тут быў азарт, пошук, мабілізацыя сваёй эрудыцыі. Многія калегі ведалі пра наш занятак падчас Саветаў і ставіліся да гэтага хоць і паблажліва, ды з павагаю. «Паспрабуйце, згадайце столькі выдатных асоб», — казалі мы нейкаму скептыку. Зрэшты, мы гулялі гэтак і на іншых неабавязковых ці нецікавых сходах, перабраўшы, па сутнасці, усе літары алфавіту.

Каларытнай на кафедры была фігура Мікалая Аляксандравіча Нікіціна, які чытаў старажытную рускую літаратуру. Высокі, худы, заўсёды пад гальштукам і ў капелюшы, немалады ўжо, ён меў маладую і гаспадарлівую жонку, якая аберагала яго ад усякіх побытавых клопатаў. Нават на дачу ён ездзіў пад гальштукам. Там займаў месца ў цяньку і разгортваў газету ці кнігу. Праўда, ён не быў «сухаром». Цаніў кампанію, чарку, шахматы.

Замежную літаратуру чытаў немалады Мікалай Рыгоравіч Працэнка. Высокі, дзябёлы, з хіповай бародкай, жуір, хлус, панавата-ленаваты, ён быў упэўнены, што сваю радаслоўную вядзе ад пецярбургскай арыстакратыі. З'явіўся Працэнка ў нас аднекуль здалёк і рэкамендаваў сябе кандыдатам філалагічных навук. Стаў атрымліваць адпаведную зарплату. Але неўзабаве высветлілася, што на гэта няма ніякіх падстаў. Ды неяк яму гэта ўсё сышло. Чытаў лекцыі даволі эфектна — пераказваў сюжэты твораў, акцэнтуючы ўвагу на іх фрывольных момантах. Мы, калегі, падазравалі, што многіх твораў, якія разглядаліся на занятках, ён не чытаў. Але гэта акалічнасць

яго не бянтэжыла. На яго кватэры збіралася сякая-такая мясцовая багема. Дзяцей не меў і, страціўшы па хваробе нагу, дажываў век у доме інвалідаў, дзе выдаваў сябе за прафесара.

Сяброўскія адносіны ў мяне склаліся з Мікалаем Аляксандравічам Мельнікавым, кандыдатам педагагічных навук, які на кафедры займаўся педагагічнай практыкай студэнтаў. Мне ён імпанаваў сур'ёзнасцю стаўлення да жыцця, сталасцю думкі, здольнасцю крытычна ацэньваць многае ў тагачасным грамадстве. У дзяцінстве ён перажыў раскулачванне сям'і, пасяленне ў спецлагеры на Поўначы. У вайну быў у партызанах, затым ваяваў на фронце. Па службовых справах ён часта ездзіў у сельскія школы і браў мяне з сабою. Я хадзіў на любыя ўрокі і так вучыўся настаўніцкай прафесіі. Бо ў інстытуце трэба было кіраваць педпрактыкай студэнтаў. А я ж нічога спачатку ў гэтым не кеміў. І тыя наведванні ўрокаў, што заканчваліся, як правіла, гутаркай з настаўнікам, вельмі многа мне далі. І педпрактыка ў мяне ўжо даволі лёгка пайшла. Я нават стаў друкаваць рэцэнзіі на нешматлікія тады метадычныя дапаможнікі па беларускай літаратуры.

Мы сябравалі сем'ямі, чаму моцна паспрыяла яго жонка Клаўдзія Мікалаеўна, мілая, абаяльная і гасцінная. Мы разам ездзілі паадпачываць у Друскенікі, разам хадзілі ў тэатр, у лес у грыбы. Аднойчы нават з'ездзілі ў Зэльву да Ларысы Геніюш, дзе пераначавалі, хараша нагаварыўшыся, начаставаўшыся. З Мельнікавымі сустракаліся часта — то з нейкай святочнай нагоды, то проста, каб пагаварыць, адпачыць душой. Мікалай Аляксандравіч, праўда, ціснуў на мяне, каб ставіўся да калег з тымі ацэнкамі, што і ён, і адпаведна адносіўся да іх. Я ж заўсёды стараўся жыць з людзьмі па-людску і паважаў іх права на ўласную пазіцыю. Пры гэтым ад сваёй пазіцыі не адступаўся. Калегі ж, вядома, былі рознымі.

Адным з старэйшых выкладчыкаў быў Гурген Амірханавіч Марціросаў, удзельнік вайны, кандыдат філасофскіх навук. Ён шмат гадоў кіраваў інстытуцкай партыйнай арганізацыяй. Вёў розныя тэарэтычна-прапагандысцкія семінары (вось тут мы з К. Асокінай і гулялі ў літары) і быў свайго роду ідэалагічным вартавым інстытута. Мяне ўсё угаворваў уступаць у партыю і шчыра здзіўляўся, чаму не скарыстаюся яго падтрымкаю. Быў флегматычна-марудным у адпаведнасці з сваёй масіўнай камплекцыяй і размаўляў павольна, расцягваючы фразы, але націскі ў маўленні ставіў цвёрдыя, замацоўваючы імі свае строгія довады. Зрэшты, быў ён прыстойным чалавекам і не ўчыніў камусьці зла. Калі прыязджала да нас ужо згаданая армянская дэлегацыя, я пазнаёміў іх на хаду, на калідоры з Марціросавым. Госці вельмі ажывіліся, убачыўшы земляка, абступілі яго і сталі распытваць, як даўно тут жыве і чаму. Марціросаў адказаў прыблізна так: «Галоўнае — жыць у СССР, а дзе, не мае значэння». Армяне адрэагавалі воклічам «Э...!», у якім была і нязгода, і здзіўленне. На гэтым, здаецца, іх гаворка і завяршылася.

Чвэрць стагоддзя адпрацаваў на кафедры беларускай мовы Антон Антонавіч Корзун. Быў ён дасведчаным мовазнаўцам-практыкам, навукай не займаўся. Па натуры добры і непасрэдны, нават прастадушны. Фігураю малы і тоўсты, ён успрымаўся калегамі з цёплай усмешкай. Гэтая добрая ўсмешка нібы гаварыла: «Вось жыве чалавек і нічым асабліва не пераймаецца». На факультэце А. Корзун быў вядомы сваім

застольным «птушыным тостам». На выпускных вечарах не абыходзілася без яго тоста-верша пра птушак («У нашым краі Беларусі ёсць і качкі, буслы, гусі…»). Верш быў доўгі. Слухачы цярпліва чакалі, калі ж скончыцца пералік птушак. І пры чым тут птушкі ў гэтым жанры? Але канцоўка спрацоўвала: «Будзем пець і весяліцца». У слове «пець» дэкламатар мяняў толькі адну літару — «е» на «і». І поспех быў гарантаваны. Тым больш, што гэтая канцоўка добра стасавалася з жыццёвымі прыхільнасцямі самога Антона Антонавіча.

На той жа кафедры працавала ўжо згаданая Тацяна Піліпаўна Сцяшковіч, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, заслужаная настаўніца Беларусі. У вайну яна страціла сям'ю. Круціла баранку шафёра. Працуючы ў педінстытуце, жыла адзінока. Да людзей ставілася сардэчна і вельмі зычліва. Шмат пісала і выдала з дзясятак мовазнаўчых кніг. Не ўсе яны, праўда, былі дасканалымі. Але яе «Слоўнік Гродзенскай вобласці» (1983) безумоўна — здабытак беларускага мовазнаўства. Змяшчае салідны збор (672 старонак) рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны.

У 1966 годзе з'явіўся ў нас першы доктар навук — абараніўся гісторык Барыс Маркавіч Фіх. Гэта была падзея. Здаецца, што і сам ён тады захапляўся сабой з такой нагоды. Было з чаго. Працаваў ён прарэктарам і па навучальнай, і па навуковай рабоце. Маленькі ростам, вельмі рухавы, ён літаральна круціўся на рабоце і ўсюды, здаецца, паспяваў. І кожнаму знаходзіў магчымасць на хаду сказаць нешта патрэбнае. Аптымістычны па духу свайго жыцця, усмешлівы, крыху іранічны, ён умеў падбадзёрыць, падтрымаць. На жаль, лёс не быў да яго літасцівы. Адзіная дачка рана памерла: быў у яе з нараджэння сіндром Даўна. І самому не суджана было доўгага веку: нечаканае анкалагічнае захворванне звяло ў іншы свет. Увогуле, смяротныя страты вакол былі тады частымі. Напэўна, так здавалася, бо маладосць не прымае смерці і абвострана на яе рэагуе. Але адна з такіх страт літаральна аглушыла. Працаваў у нас матэматык — дацэнт Міша Русін. Узростам — з майго пакалення. Спакойны, разважлівы, любіў пагаварыць пра жыццё. Прычым аддаваў перавагу ў гаворцы роднаму, беларускаму слову, якое вельмі шанаваў. Неяк мы з ім працавалі разам старшынямі Дзяржаўнай камісіі ў Гомельскім універсітэце. Часта тады сустракаліся. І вельмі прыемна было знаць, што нашы погляды на жыццё вельмі блізкія. Раптам пранеслася вестка — Міша Русін памёр, засіліўся ва ўласнай кватэры. І як? На спінцы хатняга крэсла. Відаць, беднаму вельмі моцна дапякло, калі знайшоў такі спосаб пайсці з жыцця. Вядома, ніхто гэтага не бачыў. Але ж дазналіся, бо такога не схаваеш. І тут усе падумалі пра жонку. Яна была худая, быстрая, нейкая заўсёды злосная з выгляду. Я вітаўся з ёю як звычайна, але ніколі не заўважаў на яе твары ўсмешкі, быццам быў у чымсьці перад ёю вінаватым. Тады мы зайшлі ў іх кватэру невялікай групай, каб развітацца з Мішам. Яна кальнула нас маленькімі вочкамі і шмыгнула міма ў суседні пакой. Мы доўга стаялі каля труны і думалі кожны пра сваё, але, напэўна, думкі гэтыя зводзіліся да аднаго: якое ж складанае гэтае цяжкае і прыгожае жыццё.

Успамінаючы калег, не магу абыйсці Валодзю Нядзельку, аднакурсніка па БДУ і па аспірантуры. Ён таксама трапіў на размеркаванні аспірантаў у Гродзенскі педінстытут. І сталася так, што мы ў адзін дзень прыехалі сюды працаваць (жонак пакуль з сабой не бралі). Абодва былі радыя, што жыццё нас так звяло, бо за часы аспіран-

туры вельмі зблізіліся. Пасялілі нас тады на паддашку вялікага дома (вул. Савецкая), што выкарыстоўваўся як студэнцкі інтэрнат. Пакойчык быў маленькі і цёмны. Але ўключалася электралямпачка і, галоўнае, пасярод стаяў пячны комін, у якім была дзверка, што выходзіла да нас і моцна выцягвала цыгарэтны дым (мы тады абодва курылі). Валодзя быў спакойным, інтэлігентным, разумным, не надта гаваркім, але з тых, з кім прыемна быць побач і без размоваў. Карэктна, але крытычна ставіўся да тагачаснай сістэмы. Тады нас нечакана выклікалі ў абкам камсамола і прапанавалі працаваць у іх. Абяцалі жыллё і найлепшую партыйную кар’еру, але мы аднадушна адмовіліся. Ідучы назад, пасмейваліся з прапановы: дзівакі, лічаць партыйную работу саліднай прафесіяй. У тыя дні мяне выклікаў прарэктар па гаспадарчай рабоце, падпалкоўнік у адстаўцы І. Мацвееў і павёў паказваць маё жыллё, што з’явіцца неўзабаве. Падышлі да вялізнага нежылога дома (пазней я дазнаўся, што гэта яўрэйская сінагога (на вул. Траецкай). Зайшлі ўнутр, і ўніверсітэцкі гаспадарнік паказаў: вось тут можна адгарадзіць прастору і зрабіць вялікі пакой для жылля. Я быў рады, хаця бянтэжыла гэтая каменная махіна і магчымасці яе ацяплення і каналізацыі. Гаспадарнік пазнаёміў мяне нават з прарабам, які неўзабаве будзе будаваць мне жыллё. Я нават звадзіў яго ў папулярны тады рэстаран «Паплавок», што трымаўся на вадзе ля берага Нёмана паміж Старым і Новым замкамі. Валодзя па-сяброўску парадаваўся маім жыллёвым перспектывам. Але, дзякуй Богу, гэты недарэчны праект нейкі разумны чалавек перакрэсліў. Мы з жонкай досыць хутка знайшлі прыватнае жыллё. Уладкаваліся з кватэрай і Нядзелькі. Мы з Валодзем яшчэ паспелі звадзіць жонак у рэстаран «Гродна», каб паслухалі трыа знакамітых музыкантаў. Гэта быў апошні, бадай, штрых нашых сяброўскіх адносінаў. Сустракаў я ўжо Валодзю рэдка, звычайна на калідоры навучальнага корпуса. Аднойчы ён таямніча паведаміў, што ўступіў у партыю («Знаеш, дзеля службовай устойлівасці»). Неўзабаве перайшоў ён на кафедру гісторыі КПСС. Я зразумеў, што папрацавала тут жонка Тоня. Яе мы з жонкай зналі з студэнцкіх часоў — вучылася на тым жа філфаку, толькі на курс ніжэй за нас. Калі ў іх у Гродне нарадзіўся сын, мы зайшлі павіншаваць, прынеслі падарунак. Нядоўга пасядзелі воддаль ад стала, пагаманілі. Пазней запрасілі іх да сябе на навагодне-калядную ёлку. Больш узаемных спатканняў, здаецца, не здаралася. Прайшлі гады за гадамі. Уладзімір Антонавіч абараніў кандыдацкую, стаў дацэнтам. І вось — як абухам па галаве — памёр Нядзелька. Тое сталася зімою 2015 года. Я дазнаўся праз знаёмых, калі пахаванне. Прыехаў. Ля пад’езда — ні яловых галінак, ні людзей. Падняўся ў кватэру, абняўся з Тоняй, аддаў ёй жалобныя кветкі. На мой запытальны позірк адказала: «Ён у моргу». Кальнула балючая думка: навошта яго трымаць у моргу. Пасядзелі з Тоняй удваіх, перакідваючыся рэдкімі словамі. Калі прыехала рытуальная машына і труну паставілі каля пад’езда, я здзівіўся, што людзей вакол зусім мала. Калег — чалавек пяць. Няўжо не зналі? Сказалі мы свае сумна-развітальныя словы і — на могілкі ў Аульс. Мінулі царкву. На могілках высветлілася, што на магіле будзе стаяць не крыж (часовы), а тумбачка. Я азірнуўся вакол — як вокам кінуць — свежыя пахаванні. Але тумбачак нідзе не ўбачыў. Лагічна завяршылася без усякіх слоў сціслая цырымонія пахавання. Калі прыехалі назад, машына спынілася каля Валодзевага пад’езда. Усе хутка выйшлі, і Тоня, нічога нікому не сказаўшы, скрылася

за дзвярыма. Мы разгублена патапталіся на месцы, баючыся зірнуць адно аднаму ў вочы. У такія хвіліны не можаш не падумаць пра зігзагі чалавечага лёсу.

Валодзю я некалькі разоў запрашаў на сваю тэлеперадачу «Кнігарня», якую вёў на абласной студыі. Запрашаў розных спецыялістаў, якія сваім удзелам перадачу ўзбагачалі. Яна вялася раз у месяц па 30 хвілін, рыхтавалася па маіх сцэнарыях і трымалася на гродзенскім абласным экране з 1973 па 1989 год (у 1974–1976 гг. я перадачу не вёў). Угаварыла мяне выступаць Вольга Іпатава, якая тут працавала. Спачатку спрабаваў сябе ў невялікіх нататках пра культурнае мінулае Гродзеншчыны. Затым пайшла рэгулярныя перадачы пра новыя кнігі. Іх я выбіраў з беларускай літаратуры, мастацтва, гісторыі. Не абмінаў мясцовых аўтараў. Уключаў кніжкі выбітных рускіх паэтаў, выданні з сусветнай мастацкай спадчыны. Так ці інакш, але на кожную амаль перадачу патрэбен быў чытальнік мастацкіх тэкстаў. Хутка высветлілася, што гэта рэдкі дар, і знайсці добрага чытальніка было цяжка. Я перабраў артыстаў Гродзенскага драмтэатра. І толькі Людміла Дзяменцьева, заслужаная артыстка Беларусі, і малады акцёр Віктар Шалкевіч паспяхова спраўляліся са сваёй задачай. Яшчэ выручалі некаторыя студэнты філфака. Доўгі час трымаліся ў «Кнігарні» Святлана Куцько і Валянціна Скіба. З 1977 года пачаў паказваць у канцы перадачы даўнія выданні (каб зацікавіць сапраўдных бібліяфілаў). Беларускія, польскія, рускія, яўрэйскія. Пераважна XIX — пачатку XX ст. Перабраў рарытэты з сваіх хатніх запасаў. Браў у знаёмых, сяброў. Так працягвалася пяць гадоў. Думаю, што культурна-асветніцкая перадача «Кнігарня» была карыснай і мела нямала гледачоў.

А колькі даводзілася выступаць з рознымі лекцыямі і дакладамі перад масавай аўдыторыяй. Часцей — па лініі таварыства «Веды». І пазбавіцца ад гэтай ролі было немагчыма. Добра яшчэ, калі перад табой былі настаўнікі, якія цярпліва сядзелі і слухалі, закончыўшы педсавет. А калі гэта гледачы ў тэатральнай зале якога-небудзь гарадскога пасёлка, а ты стаіш на сцэне перад заслонай і гаворыш, пакуль артысты грыміруюцца. Яшчэ горш — у фае кінатэатра перад пачаткам сеанса. Аднойчы мяне паслалі на прадпрыемства, дзе працавалі глуханямыя. Пра такіх «слухачоў» дазнаўся, толькі прыйшоўшы. Вядома, разгубіўся. Але хутка з'явілася «перакладчыца», якая гаварыла паралельна са мною мовай жэстаў, папярэдне папрасіўшы, каб не ўжываў прозвішчаў і абстрактнай лексікі. Што ж, усё гэта рабілася дзеля «камуністычнага выхавання працоўных». Я ж ставіў зусім іншыя мэты. Таму пазбягаў хлусні і дэмагогіі. Стараўся зацікавіць фактамі і, галоўнае, даваў ім справядлівую ацэнку. Ніколі не баяўся праўды. Нават на курсах партыйных прапагандыстаў, гаворачы пра тагачасную беларускую літаратуру, чытаў такія вершы (напрыклад, «Вялікі атракцыён» А. Вярцінскага ці «Памяці Пабла Няруды» Г. Бураўкіна), што слухачоў ахопліваў жах. Некаторыя, праўда, цішком пыталіся па заканчэнні лекцыі, дзе можна пачытаць такія вершы.

І як на ўсё хапала часу? Яшчэ ж — удзел у пасяджэннях розных грамадскіх саветаў і камісій ад рэспубліканскага і абласнога да гарадскога і інстытуцкага ўзроўняў. Трэба ж было яшчэ і пісаць, друкавацца. Навучыўся сядзець за рабочым сталом да 3–4 гадзін ночы. І ўставаў раніцай бадзёрым і задаволеным, што нешта добрае зрабіў. Я любіў сваю прафесію, любіў сваіх студэнтаў, і яны мне верылі і, здаецца, таксама мяне любілі.

Кватэрных клопатаў у Гродне мы з жонкай Марыяй Міхайлаўнай, па сутнасці, не мелі. Пажыўшы адзін год на прыватнай (на «Новым Свеце» ў вялікім драўляным доме, гаспадары якога ставіліся да нас, нібы да родных), атрымалі ў 1958 годзе ўласнае жыллё. Здаваўся дом (на вул. Э. Ажэшкі), пабудаваны спецыяльна для выкладчыкаў педінстытута, і мы атрымалі вялікую для таго часу аднапакаёвую кватэру. Як былі радыя! Зойдзеш — выйдзеш — усе свае. Нават двор быў сваім. Ля глухой сцяны суседняга дома стаяла доўгая лаўка, на якой у добрае надвор’е заўсёды сядзелі жанчыны. Гэта была іх суверэнная, добра абжытая тэрыторыя. Тым больш, што насупраць недалёка гула дзіцячымі галасамі пляцоўка для гульняў. Абсталяваная, праўда, вельмі сціпла, але ж дзеці ды ўнукі тут былі ўсе з нашых двух пад’ездаў. Гуляла тут і наша дачка Марына. У пад’езд падымаліся па бетонных ступенях шырокага ганка, бакавыя сценкі якога завяршаліся ля ўваходных дзвярэй масіўнымі, крышку пакатымі пляцоўкамі, дзе можна было пасядзець, паставіўшы побач шахматную дошку. Гэтая акалічнасць збірала тут большы ці меншы мужчынскі гурт. І кожны, хто праходзіў у пад’езд, не мог тут не спыніцца. Інтэр’ер дваровай прасторы завяршаўся з працілеглага ад дома боку, бліжэй да Гараднічанкі некалькімі гарызанталямі пасціранай пасцельнай бялізны, якая сушылася тут на высока нацягнутых вяроўках і надавала гэтаму асяродку пэўны сямейна-хатні каларыт. Была і яшчэ адна дэталь — маленькі драўляны, акружаны высокімі кустамі домік, што ляпіўся да шматпавярховіка пры выхадзе на вуліцу. Гаспадар доміка, неяк па-татарску чарнява-чорны, немалады ўжо, часам выходзіў пасядзець на сваёй лавачцы. Ён не кантактаваў з нашымі, але і ён і яго дагледжаная хаціна, ашаляваная і афарбаваная, між іншым, у традыцыйны для беларускіх правінцыйных драўляных домікаў жоўты колер, былі неад’емнай часцінкай мясцовага камернага краявіду. Даўно ўжо, з 1965 года мы не жывём у гэтым доме на вуліцы Ажэшкі. Але заўсёды, калі праходжу міма, мяне цягне зазірнуць у «свой» двор. Аднойчы не вытрымаў і зайшоў. Няма жоўтага доміка, няма доўгай жаночай лаўкі. Нічога няма. Стала чамусьці крыўдна. Усё роўна, ідучы міма, атульваю нейкім асаблівым позіркам гэты будынак, найбольш — два акны на другім паверсе. Я яшчэ тут. Добра помню, як мы тут цешыліся дабротамі тагачаснай цывілізацыі, асабліва тэлефонам і ванным пакоем. Я помню сваіх дарагіх суседзяў. Цераз сценку жыў з сям’ёй малады дабрадушны таўсцяк, па спецыяльнасці фізік Косця Клубовіч. Вывучаў воблакі. І калі я або жонка пыталіся, ці будзе сёння дождж, Косця выходзіў на балкон, глядзеў у неба і казаў: «Будзе, але можа і не быць». Цераз лесвічную пляцоўку насупраць была кватэра матэматыка Аляксея Паўлавіча Сільвановіча. Яго жонка Ганна Мартынаўна, простая і спагадлівая жанчына, добрая гаспадыня, нідзе не працавала, гадавала трое дзяцей. Зарплаты мужа ледзь хапала, каб звесці канцы з канцамі, але неяк выкручвалася. Часта забягала да нас, каб нешта пазычыць. Аляксей Паўлавіч, высокі стройны элегант, любіў пакрасавацца, склікаць гасцей. У такую гасціну не раз траплялі і мы з жонкай. Тут я пазнаёміўся з вельмі цікавым чалавекам — Браніславам Андрэевічам Ржэўскім.

Літаратуразнавец, кандыдат філалагічных навук, былы выкладчык Гродзенскага педінстытута, ён нядаўна вярнуўся са зняволення і настаўнічаў у школе. Мажны, відны сабой, абаяльны, ён умеў трымаццца годна, быў добрым суразмоўцам. Жылі яны з жонкай (дзеці былі ўжо студэнтамі) у старым драўляным доме пад высокай

ялінай на ціхай вуліцы з прыгожай назвай — Цагляная. Пры доме быў вялікі агарод, заўсёды старанна дагледжаны гаспадыняй — настаўніцай біялогіі, што мела, між іншым, званне заслужанай настаўніцы БССР. У самым кутку агарода стаяў будан, густа аплецены вінаградам. Тут Браніслаў Андрэевіч і бавіў час ад вясны да восені: любіў прыроду. Тут я яго даволі часта адведваў, чаму гаспадар быў вельмі рады. З былых сяброў-калег рэдка хто сюды заглядваў. Ведалі: дом пад пільным наглядам адпаведных службаў. У гэтым будане мы з ім, бывала, і частаваліся. Але найбольш ён распавядаў пра сваё жыццё. Ваяваў ён у партызанах. А пасля прызвычаіўся трымацца па-баявому. Не ўтойваў сваіх нацыянальна-патрыятычных і грамадзянскіх поглядаў. А пасля асуджэння культу Сталіна публічна называў яго тыранам, клікаў беларусаў да свабоды (у сваіх вершах), пісаў выкрывальныя лісты на адрас кіраўніцтва БССР. У сакавіку 1957 года яго «забралі» ў памяшканні інстытута. Толькі скончыў лекцыю і выйшаў у калідор, як да яго падышлі двое ў цывільным, і дамоў ужо не змог вярнуцца. Суд прызначылі на дзень яго нараджэння. Далі восем гадоў «за антысавецкую дзейнасць». Праўда, праз чатыры гады справу перагледзелі, і ён вярнуўся ў Гродна. Але дарога ў педінстытут і на старонкі друку была перад ім закрыта. Выпісваў усю беларускую літаратурную прэсу. Шмат чытаў. Аднойчы, распавядаў, напісаў і паслаў у «Полымя» рэцэнзію на раман А. Асіпенкі «Непрыкаяны маладзік». Быў канец 1970-х, можа, надрукуюць: прайшлі ж многія гады. Праз нейкі час паехаў у Мінск і зайшоў у рэдакцыю часопіса. Сустрэў яго Алесь Бачыла і вельмі цёпла з ім пагутарыў пра жыццё. Толькі падчас гутаркі рукапіс Ржэўскага, што ляжаў на стале, далікатна ўсё падсоўваў аўтару. І калі падсунуў да самых рук, гутарка скончылася. Прайшлі гады. Браніслаў Андрэевіч стаў цяжка хварэць, ляжаў у бальніцы. Там і памёр. За памінальным сталом было шмат яго баявых сяброў, якія гаварылі пра яго партызанскія заслугі. Пра галоўную справу яго жыцця ніхто, акрамя мяне, не сказаў. Пазней мне ўдалося надрукаваць пра яго артыкул «Педагог. Вучоны. Вязень ГУЛАГа» («Гродзенская праўда», 28.03.1995). Артыкул прайшоў, бо я быў тады дэпутатам абласнога Савета і падпісаўся гэтым тытулам. Здаецца, гэта адзіная публікацыя пра Браніслава Ржэўскага.

Навучальная праца тады, калі мы пачалі жыць на вул. Ажэшкі, займала вельмі многа часу. Мяне, маладога, нагружалі ўсім, чым толькі можна. А трэба было займацца і навукай. Для мяне — завяршаць дысертацыю. А як, калі? Тым больш, што многае з напісанага мне зараз не падабалася. Трэба было перарабляць. Я вельмі перажываў. І тут на дапамогу прыйшоў В. П. Казлоў, які працаваў тады дэканам. Ён прапанаваў выключыць мяне з раскладу заняткаў аж на тры месяцы, каб я мог сесці і пісаць. Затое пасля папрацую ў студэнцкай аўдыторыі з моцнай перагрузкай. Я з радасцю згадзіўся. Летам мы знайшлі на вёсцы дзяўчынку Кацю (гадоў 15-ці), дамовіліся з яе бацькамі аб аплаце і прывезлі яе ў Гродна, каб даглядала нашу малую дачку Марыну. Я тады буду мець вольны час (жонка ж таксама працавала). І вось на працягу верасня-лістапада 1962 года я кожны дзень ішоў у чытальную залу абласной бібліятэкі. Працавалася вельмі добра. Я прывык за аспіранцкія гады пісаць у прысутнасці іншых, калі вакол цябе за сталамі — схіленыя галовы. У выніку дысертацыя («Псіхалагічны аналіз і праблема характару ў прозе К. Чорнага») была падрыхтавана

цалкам. Абараняўся ў маі 1963 года ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук. Напярэдадні адбыўся прыкры інцыдэнт. Зайшлі мы (я, мой навуковы кіраўнік Ю. С. Пшыркоў і яшчэ хтосьці з Інстытута літаратуры) у акадэмічную друкарню, каб даведацца, як друкуецца мой аўтарэферат. Аказалася, што ніяк не друкуецца. Работнікі аддзела — жанчына і мужчына — сталі нервова апраўдвацца, што яны не паспяваюць, бо завалены заказамі, што мая чарга не дайшла. Я быў у адчаі: зрываецца абарона. Мы выйшлі і паволі пакрочылі міма друкарні. Раптам Ю. Пшыркоў спыніўся і павярнуўся да мяне: «Дайце ім грошай». «Як?» — уразіўся я. «Звычайна. Суньце пад нос і ўсё. Іншага выйсця няма». Пасля немалой паўзы я адважыўся пайсці, хоць ногі былі, як ватныя. У знаёмым пакоі рашуча, як мне падалося, падыйшоў да стала і моўчкі паклаў жанчыне ў кішэню яе службовага халата даволі буйную купюру. Жанчына адрэагавала лёгка і проста: «Заўтра будзе гатова». Калі выйшаў, мне стала нядобра. Калаціліся рукі, гарэў ад сораму твар. Я зразумеў, што больш ніколі такога не зраблю, як і браць у кагосьці такога не змагу.

У 1960-я гады стаў часта ездзіць у Гудзевічы да Алеся Белакоза, які пачаў ствараць тады свой знакаміты музей. Таксама — у Зэльву да Ларысы Геніюш, у 1970-я — у Вільнюс да Зоські Верас.

У 1968 годзе заснавана была ў нашым педінстытуце кафедра беларускай літаратуры, і мяне абралі яе загадчыкам. Сталася гэта зусім нечакана. Спускаюся па лесвіцы новага корпуса, насупраць — дацэнт-матэматык Н. Д. Бяспамятных. Усміхаецца: «Прыміце мае віншаванні, вас абралі на Савеце інстытута загадчыкам кафедры». Ніхто мне чамусьці нічога дагэтуль не казаў. Трохі дзіўна. Але раз так, то няхай будзе. Тут трэба аддаць належнае рэктару Д. С. Маркоўскаму. Гэта яго ініцыятыва. Разумеў, што ў Беларусі, хоць і савецкай, павінны быць у педінстытуце кафедры беларускай мовы і беларускай літаратуры (ліквідаваны, між іншым, у 2017 г.). Хаця ствараліся яны з цяжкасцю. На бюро гаркама партыі, дзе павінны былі мяне зацвярджаць, адразу ўзнікла пярэчанне: я не быў членам партыі. Але пярэчанне лёгка адхілілі: «Яшчэ малады, паступіць». Толькі ўнікла новае. «Ён жа нацыяналіст», — заявіў хтосьці. Гэта ўжо было горш. Нацыяналістам лічыўся патрыёт любой не рускай нацыі, што было сур’ёзнай ідэалагічнай заганаю. Ды давялося зацвярджаць, бо не было выбару. На кафедры нас было ўсяго трое, акрамя лабаранткі — я, М. В. Пасяўцова і С. У. Клімарскі. З усіх толькі я меў тады ступень кандыдата навук. Патрэбен быў яшчэ хаця бы адзін чалавек, каб кафедра адпавядала стандарту і каб выцягнуць усю навучальную нагрузку. Я зноў і зноў насіўся ў Мінск ды ўгаворваў хлопцаў з Акадэміі навук. Абяцаў маладым кватэру. Хісталіся В. Чамярыцкі, М. Тычына, А. Матрунёнак. Апошні нарэшце згадзіўся, але калі аб’явіў пра гэта дырэктару свайго Інстытута, той адразу ж даў яму кватэру. Так ніхто да нас і не паехаў. Давялося ўзяць на працу таленавітую выпускніцу нашага інстытута, якая настаўнічала, Аліну Люцыянаўну Халянкову. Яна стала на кафедры добрым спецыялістам, абаранілася. Але, на жаль, рана пайшла з жыцця.

У тыя часы добра працавалася. Я ішоў у інстытут заўсёды з задавальненнем, бо адчуваў, што ў мяне ўсё атрымліваецца. Найлепшыя адносіны склаліся з гродзенскімі пісьменнікамі, якія ўспрымалі мяне як калегу. У 1971 годзе я быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР. Тады ў Гродне жылі Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Данута Бічэль,

Юрка Голуб, Вольга Іпатава. Паміж намі былі самыя прыязныя стасункі. Трэба сказаць, што статус пісьменніка быў тады вельмі высокім. Аднойчы прыехалі да нас госці. А куды ўладкаваць іх нанач? У гасцініцу? А там няма месцаў. Заходзім у гасцініцу «Нёман» — там таксама няма. Тады я дастаю і паказваю рэгістратарцы пісьменніцкі білет. Адразу знаходзіцца нумар, які трымалі пра запас.

На кафедры я часта арганізоўваў літаратурныя вечары, і яны, здаецца, атрымліваліся. У пачатку 1970-х прайшлі вечары Д. Бічэль, Ю. Голуба. Затым падрыхтавалі ўрачыстасць, прысвечаную студэнтам-паэтам свайго інстытута. Я тады кіраваў студэнцкім ліаратурным аб’яднаннем, і мае падапечныя падказалі такую ідэю. Вяла на сцэне з мікрафонам энергічная Ліля Бандарэвіч, якая пісала неблагія вершы. Я з мікрафонам — у зале паміж радамі. Студэнты выходзілі на сцэну і чыталі. Я стараўся падключыць да паэтычных маналогаў прысутных у зале. Запрошаныя з Мінска Мікола Аўрамчык і Пятрусь Макаль сядзелі ў зале інкогніта, і іх з’яўленні на сцэне, апавешчаныя Ліляй, былі нечаканымі. Рэктар А. В. Бадакоў, які прысутнічаў, быў вельмі задаволены. У канцы выйшаў на сцэну і падзякаваў мне. Зрабілі калектыўны здымак. Прыгадваю гэта ўсё, бо скора нада мной грымнуў гром, і зусім з іншага боку.

У той час таемна хадзіў па руках машынапіс украінскага даследчыка І. Дзюбы «Интернационализм или руссификация», выдадзены за мяжой асобнай кнігай. Аўтар тут паказваў, што русіфікацыя савецкіх рэспублік — гэта агрэсіўная палітыка Крамля, якая нічога агульнага з марксізмам не мае і хітра маскіруецца пад інтэрнацыяналізм (пазней, ва ўмовах незалежнай Украіны І. Дзюба атрымаў званне Героя Украіны). Рукапіс быў у літаратуразнаўца з Акадэміі навук Беларусі Міколы Прашковіча, які даваў гэты тэкст чытаць калегам, што карысталіся яго даверам, у тым ліку і мне. Мы з ім сябравалі. Быў М. Прашковіч моцным беларускі патрыётам і адным з лепшых спецыялістаў у галіне старажытнай беларускай літаратуры. Скончыў аспірантуру ў Ленінградзе, абараніўся. Яго артыкулы не раз выклікалі вострую палеміку ў рэспубліканскім друку. За ім, вядома, пільна сачылі адпаведныя службы, і ён, будучы трохі прастадушным, дзесьці «пракалоўся». У адзін з маіх прыездаў у Мінск ён сказаў мне, што вымушаны быў назваць прозвішчы тых, каму даваў чытаць рэферат І. Дзюбы. Маўляў, нічога страшнага, абыдзецца (яго, відаць, супакоілі). Але не абышлося. Усе, хто быў названы Міколам, сталі выклікацца на допыты ў КДБ, а затым былі звольнены з працы і апынуліся на вуліцы. Усе — кандыдаты навук. Акрамя М. Прашковіча, гэта археолаг Міхась Чарняўскі, тэатразнавец Сцяпан Міско, мовазнавец-беларусіст Алесь Каўрус, навуковы супрацоўнік выдавецтва «Беларуская савецкая энцыклапедыя» Валянцін Рабкевіч. Была вясна 1974 года. Праз нейкі час яны вярнуліся на працу, але ранейшыя пасады страцілі. Што да М. Прашковіча, то ён доўга заставаўся беспрацоўным. Пасля быў карэктарам у часопісе «Родная прырода», яшчэ дзесьці, дзе зарплаты хапала хіба на хлеб і ваду. Усе яго спробы вярнуцца ў Акадэмію навук засталіся безвыніковымі. Ён стаў духоўна чэзнуць і рана памёр. Усё гэта адбылося, між іншым, пры хвалёным сёння П. М. Машэраве.

Мяне, натуральна, таксама выклікалі ў КДБ. Гаворка доўжылася два дні (з перапынкам). Іх найболей цікавіла, каму я даваў чытаць небяпечны машынапіс. Я не назваў нікога. Таксама ім трэба было ўсяляк дыскрэдытаваць М. Прашковіча. Трактавалі яго як «буржуазнага нацыяналіста», значыць — ворага. А твор І. Дзюбы — як пасквіль

на савецкую рэчаіснасць. Мяне не звольнілі з працы. Напэўна, таму, што гэтага не хацеў А. В. Бадакоў. Як рэктар ён трымаўся ў Гродне ўпэўнена і моцна: прыехаў сюды з пасады загадчыка кафедры марксісцкай філасофіі Мінскага педінстытута. З ім не маглі не лічыцца. Бадакоў толькі зняў мяне з пасады загадчыка кафедры — сказаў напісаць заяву, што сыходжу па ўласным жаданні. Застаўся працаваць дацэнтам сваёй кафедры.

Пакаралі нас усіх пяцярых і тым, што забаранілі друкавацца. Ад мяне забралі і перадачу «Кнігарня». Было вельмі цяжка, бо ніхто не ведаў, калі гэта скончыцца, і ці скончыцца ўвогуле. Я напісаў пра ўсё Сакрату Яновічу, з якім мы сябравалі. Ён мяне добра падтрымаў — сказаў: «Пішы ў стол і будзь спакойны». І праўда — забарона доўжылася каля трох гадоў.

Загадваць кафедрай беларускай літаратуры пасля майго сыходу стаў Сяргей Уладзіміравіч Кліманскі, кандыдат філалагічных навук. Дагэтуль у нас былі самыя прыязныя адносіны. Калі ж я нечакана пакінуў гэту пасаду, у Кліманскага вырвалася: «Ну вось, даскакаўся!» Чаму так выказаўся, не знаю. Магчыма, з зайздрасці, хаця чаму тут зайдросціць? Так ці інакш, але адносіны нашы прыкметна пахаладнелі. Калі я часам спрабаваў нешта параіць па рабоце, ён даволі злосна абрываў: «Хто тут загадчык, ты ці я?» Ды жыццё ўнесла тут свае папраўкі. Крыху раней, здаецца, у 1973 годзе, кафедра была адзначана за поспехі ў навуковай рабоце з студэнтамі дзвюма пуцёўкамі на адпачынак (на Поўдзень). Адну я аддаў М. В. Пасяўцовай, другую мы з Кліманскім разыгралі, кінуўшы жэрабя. Выйграў ён. Быў ужо не надта і маладым, але там, на Чорным моры, знайшоў такую ж не надта маладую, але сімпатычную ўкраінку. Неўзабаве яна прыехала ў Гродна, і яны пажаніліся. Вера Арсенцеўна зрабіла ўсё, каб аднавіць нашы з Сяргеем добрыя адносіны. Мы сталі сустракацца сем'ямі. У іх нарадзіўся сын, і зажылі яны, здавалася, зусім шчасліва. Але… Прайшлі гады, і Сяргей пачаў скардзіцца мне, што сын можа вырасці эгаістам, бо жонка не ведае меры ў тым, як яму дагадзіць. І як у ваду глядзеў. Купілі сыну матацыкл, пасля купілі машыну. І пайшло — адбіўся ад дому, звязаўся з кампаніяй. Нарэшце — турма. Затым — другая, трэцяя. І да бацькоў ён ужо не вяртаўся. Вера Арсенцеўна стала часта заглядаць у чарку, а Сяргей цяжка захварэў. Работу давялося пакінуць. Адзінай уцехай засталася дача. Калі я яму тэлефанаваў, ён вельмі радаваўся і казаў, што я яго адзіны сябра. Нечакана памерла жонка. Затым у бальніцы не стала яго. Хавала кафедра.

У 1976 годзе з'явіўся ў Гродне дацэнт-фалькларыст Гомельскага ўніверсітэта, мой сябра Мікалай Архіпавіч Янкоўскі. Прывяло жыццё. Аднойчы ў тым універсітэце разбіралася на парткаме асабістая справа маладой выкладчыцы французскай мовы. Была яна адзінокая і прывабная. І Мікола заступіўся, абараніў яе. Сталі яны сустракацца, ездзіць на начную рыбалку. У выніку давялося абодвум пакінуць Гомельскі ўніверсітэт. Мікола звярнуўся да мяне па дапамогу. Я пагаварыў з рэктарам А. В. Бадаковым, і яны прыехалі да нас працаваць (давялося аддаць М. Янкоўскаму свой любімы фальклор). Мікола развёўся са сваёй жонкай. А з Раісай яны пажаніліся. Атрымалі кватэру. Сталі часта ў нас бываць. Здавалася, што ўсё ў іх будзе добра. Але гэта на першы погляд. Справа ўся ў тым, што былі яны вельмі рознымі асобамі.

Янкоўскі — класічны народнік, гэтакі мужыцкі дэмакрат, што ў мастацтве прымае толькі традыцыйна-рэалістычнае. Яна ж — рафінаваны інтэлігент ці, прынамсі, вельмі хацела такой быць. Усё б нічога: ён быў добрым, зычлівым, таварыскім, меў адкрытую душу. Калегі яго любілі. Але быў вельмі зацята-ўпартым у сваіх прыхільнасцях, густах, і ў адносінах з маладой жонкай яму яўна не хапала талерантнасці. Гэтыя адносіны ўсё больш псаваліся. Дайшло да таго, што сямейныя канфлікты сталі набываць зусім не цывілізаваныя формы. Бедная Раіса Яўлампіеўна урэшце падала на развод. Яны разышліся. Неўзабаве яна знайшла працу ў Ленінградзе і з’ехала туды. Тэлефанавала ці пісала маёй жонцы. Сумавала па Гродне, ёй было цяжка. Цяжка было і М. Янкоўскаму. Ён усё прасіў, каб мая жонка дала адрас Раісы Яўлампіеўны, але тая забараніла гэта рабіць. Ён па-свойму кахаў яе і цяпер. Зрэшты, усе, напэўна, кахаюць па-свойму. І ўсё тут залежыць ад чалавечай індывідуальнасці і выхавання. Паступова Мікола стаў ратавацца ў спіртным. Стаў рабіць гэта часта (знайшліся і адпаведныя партнёры). Пачаў зрываць лекцыі. І ў такім стане раптоўна памёр.

У пачатку 1980-х гадоў прыйшлі на кафедру выпускнікі аспірантуры з Мінска: Н. В. Тарэлкіна, І. В. Жук, П. І. Маляўка. Ігар Васільевіч Жук, таленавіты літаратуразнавец, глыбокай душы чалавек, стаў маім найлепшым сябрам, і я ўдзячны лёсу за тое, што Ігар быў у маім жыцці. Было нешта невытлумачальнае, што моцна зблізіла нас. Ён таксама мяне чамусьці вельмі цаніў. На аўтарэфераце сваёй доктарскай дысертацыі запісаў: «Дарагому Аляксею Міхайлавічу — адчуваючы брак патрэбных слоў, якія змаглі б выказаць усю глыбіню павагі да Вас, захаплення і любавання Вамі. Усім, што ў мяне ёсць станоўчага, я Вам абавязаны найпершым чынам. 10.02.04.» Гэта словы, што вельмі многа значаць. Быў ён душэўна шчодрым і сардэчным чалавекам. Да жонкі Валянціны звяртаўся не інакш, як «Валюшка». Мы з ім, бывала, выбіралі часіны, каб пабыццъ разам, пагаварыць і падумаць. Два дні ездзілі па мясцінах Якуба Коласа. Во дзе я адчуў глыбіню гэтай асобы. Было і так: мы двойчы цішком пакідалі памінкі (гэта, калі памерлі Аляксей Карпюк і Уладзімір Шурпа), прыходзілі да мяне і ўдвух садзіліся за стол, каб сказаць нешта важнае пра жыццё, што наплывае ў душу ў такую часіну. На вялікі жаль, у яго было слабае сэрца, і ён надта рана пакінуў гэты свет.

Што да літаратуразнаўства, то І. В. Жук зрабіў тут арыгінальныя адкрыцці, якія маюць агульнаславянскае і агульнаеўрапейскае значэнне.

Была яшчэ адна буйная асоба, што стала блізкай мне на гродзенскіх сцежках. Гэта гісторык і асветнік, прафесар Міхась Ткачоў. Мы пазнаёміліся недзе ў сярэдзіне 1970-х і адразу перайшлі на «ты» (у мяне гэта проста выключэнне з жыццёвай практыкі). Сустрэліся чамусьці ў парку Жылібера, і прадставіў мне яго вядомы краязнавец Генадзь Каханоўскі, з якім яны прыехалі ў Гродна «на разведку». М. Ткачоў меў намер перабрацца ў Гродна на працу. А калі ўлічыць, што дагэтуль ён служыў у Акадэміі навук БССР, то досыць нечаканым падаўся мне той намер. Але ў гэтым быў увесь Ткачоў — чалавек маштабных планаў, смелых рашэнняў, арыгінальных ідэй. Ён тады сказаў, што Гродна для гісторыка і археолага — Кландайк. Неўзабаве яго ўзялі на працу ў наш універсітэт, на кафедру гісторыі БССР. Ён стаў улюбёнцам студэнтаў. Высокі, мажны, статны, ён і апранаўся элегантна, і гаварыў перад аўдыторыяй упэўнена, з глыбокім веданнем фактаў і падрабязнасцяў. Не цураўся гумару. На яго

кватэры мяне ўразіла мноства кніг. Мы з жонкай атрымалі новую кватэру летам 1980 года. Запрасілі на ўваходзіны Міхася Ткачова і Аляксея Карпюка з жонкамі, быў яшчэ М. А. Мельнікаў. А. Карпюк распавядаў, як ён пачынаў пісаць. М. Ткачоў гаварыў, што вельмі хочацца яму пісаць гістарычныя апавяданні — проста душа просіць. Ды рукі не даходзяць. Я гарэў жаданнем наладзіць у нашым універсітэце дыспут па рамане У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім». Але Ткачоў не раіў: у творы не шмат гістарычных рэалій, і «яны цябе задзяўбуць». Жонка Ткачова Валянціна звярнула ўвагу, што яшчэ не так даўно муж не быў беларускім адраджэнцам. Мяне гэта не здзівіла: час ды абставіны хутка ўплываюць на асобу. На развітанне М. Ткачоў падпісаў нам сваю кнігу «Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі» (1978), пакінуўшы такі тэкст: «Маім дарагім Пяткевічам на добры ўспамін і з самымі добрымі пажаданнямі. Ваш аўтар М. Ткачоў. 11.VIII.80».

У 1986 годзе ён арганізаваў у Гродне культурна-асветніцкі клуб «Паходня». Хацеў стварыць яшчэ некалькі падобных грамадскіх аб’яднанняў. Але і я і, напэўна, іншыя адгаварылі яго: не варта распыльвацца. У «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», у артыкуле пра «Паходню» М. Таранда, які быў тэхнічным сакратаром клуба, піша, што створаны ён быў па ініцыятыве супрацоўнікаў Гродзенскага навукова-даследчага Інстытута біяхіміі (тут М. Таранда тады працаваў). Але гэта не адпавядае фактам. Ініцыятарам быў менавіта М. Ткачоў. Ён адчуў, што прыйшоў час. Ён і сабраў нас на першае арганізацыйнае пасяджэнне. Сказаў: клуб павінен супрацьдзейнічаць тагачаснай сістэме сродкамі асветы, а яна мае вялікую сілу, калі працуе разумна і сістэмна. Клуб павінен выхоўваць беларусаў беларусамі і адкрываць нам нашу спадчыну. Абмеркавалі назву. Прынялі маю прапанову назваць «Паходняй». Я выступіў і на першым, рабочым ужо пасяджэнні з тэмай «Старажытныя рукапісныя кнігі з Гродзеншчыны». Зрабіў першы запіс у кнізе водгукаў, якую завёў як сакратар М. Таранда. Збіраліся тады ў гарадскім Доме культуры. Частаваліся яшчэ на першым пасяджэнні гарбатаю ў маленькіх, скупа дэкараваных кубачках.

Часцей М. Ткачоў запрашаў выступаць на «Паходні» дасведчаных людзей, якім было што сказаць на тэмы нацыянальнай спадчыны. Прыязджалі Мікола Ермаловіч, Валянцін і Анатоль Грыцкевічы, Генадзь Каханоўскі, Уладзімір Конан, Уладзімір Арлоў. Выступаў і сам М. Ткачоў. Часта прасіў мяне, каб выручаў. І я гаварыў пра заходнебеларускіх ксяндзоў-паэтаў, пра пачынальнікаў БНР, пра А. Гаруна, В. Ластоўскага, Я. Драздовіча, Л. Геніюш і інш. Гэта былі не проста лекцыі-маналогі. Падключаліся да гаворкі людзі з залы. Задаваліся пытанні. Узнікалі спрэчкі, бо прысутнічалі людзі вельмі зацікаўленыя, было нямала моладзі.

Праводзіліся розныя грамадскія акцыі ў горадзе. Так, восенню 1988 года, на Дзяды меліся правесці на плошчы Леніна мітынг у гонар загубленых падчас савецкіх рэпрэсій. Гарвыканкам мітынг забараніў. Але, не верачы, што «Паходня» забарону прыме, склікаў (па тэлефоне і праз пасыльных, бо была нядзеля) сотні рабочых розных прадпрыемстваў, якіх сабралі ў двары медвучэльні на Антонава. Гэта непадалёк ад старых праваслаўных могілкаў, уваход на якія яшчэ і заблакавалі міліцэйскімі матацыкламі. Сабраным паабяцалі лішні выхадны дзень і патлумачылі, што мы хочам прыняць пастанову аб адрыве БССР ад СССР, і «працоўныя» не павінны гэтага дапусціць. Мы ж з кветкамі пайшлі па іншых могілках. І ў заключэнне правялі вельмі люд-

ны мітынг у зале ГДК. Будынак быў ачэплены міліцэйскімі «Нівамі», у якіх сядзелі людзі з рацыямі. Унутры таксама хапала людзей у цывільным. Выступілі тады Міхась Ткачоў, Аляксей Карпюк, Уладзімір Кісель, Іван Лепешаў і я. Такім чынам, адносіны «Паходні» з уладамі былі , мякка кажучы, складанымі. І гэта, у першую чаргу, з-за фігуры М. Ткачова, які неаднаразова выказваў сваю грамадзянскую пазіцыю і ў Мінску, і ў Гродне. Было неяк, што адной ноччу ў Гродне ўзарвалі цэлы гістарычны квартал. Для таго, каб на гэтым месцы ўзвесці гмах аблвыканкама. М. Ткачоў адразу ж напісаў А. Касыгіну. Неяк сустракаю Міхася на вуліцы, а ён: «Зараз пакажу табе адну паперу». Збочылі ў нейкі двор і прыселі на лавачцы на дзіцячай пляцоўцы. Ён дастаў з папкі тую паперу, што прыслалі з кабінета старшыні Урада СССР. Тэкст быў сур'ёзным і шмат абяцаў. Але што ўжо можна было зрабіць? Прыехала з Мінска высокая камісія. Пахадзілі, паглядзелі, паахалі. І ўсё ж, М. Ткачоў здзейсніў учынак. У 1989 годзе яго запрасілі працаваць у выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя»: Масква нарэшце дала дазвол на выданне энцыклапедыі гісторыі Беларусі. М. Ткачоў тэрмінова ад'язджаў. Вечарам сабраў нас (чалавек 15) у музеі Максіма Багдановіча. Мы сядзелі на нейкіх нізкіх лавачках, апусціўшы галовы. Яго ж усе любілі. Гаварыў коратка. Яго ад'езд — неабходнасць. Галоўнае — хто ўзначаліць «Паходню». Спытаў, якія на гэты конт ёсць прапановы. Ніхто нікога не змог назваць: вельмі ж адказнай уяўлялася гэтая роля — замяніць Ткачова. І тады ён сказаў, што мае адну-адзіную кандыдатуру і назваў маё прозвішча. Сказаў пра мяне некалькі слоў. І яшчэ дадаў: «Ну, не Жукоўскаму ж кіраваць «Паходняй». І ўсе зарагаталі. Аркадзь Данілавіч Жукоўскі, які сядзеў тут жа, быў інжынерам рачнога порта ў Гродне. Нярэдка ён наведваў «Паходню», сядзеў нерухома, бліскаючы па баках чорнымі вачыма, і, здаецца, ніколі не падаваў голасу. Але, як аказалася пазней, быў вельмі амбітным і нават напісаў некалькі гістарычных раманаў (іншая справа — іх мастацкія якасці). Тады ж усе дружна падтрымалі маю кандыдатуру, і пасля кароткіх развітальных слоў мы разышліся.

Я думаў аб тым, што трэба працягваць на «Паходні» нацыянальна-асветніцкую лінію М. Ткачова і запрашаць цікавых людзей. Запланаваў паклікаць неўзабаве з Мінска Арсеня Ліса, фальклярыста і выдатнага знаўца культуры Заходняй Беларусі. Між тым падышло чарговае пасяджэнне «Паходні». Я зайшоў у невялікую залу палаца «Юнацтва», дзе мы тады збіраліся, і са здзіўленнем убачыў, што работа ўжо ідзе, а за сталом вядоўцы — чацвёра: М. Таранда, А. Жукоўскі, Ю. Мацко і яшчэ нехта (не памятаю). Я прайшоў у канец залы і сеў. У галаве мільганула: «Ну, самазванцы, гэта ж трэба так нахабна!» Супакоіўшыся, падумаў: не буду ўчыняць скандалу, няхай кіруюць, калі вельмі хочацца, можа, і атрымаецца. Я сапраўды зусім не рваўся быць на чале «Паходні», тым больш, што быў вельмі занятым. Пачынала віраваць перабудова, а з ёю — сходкі, мітынгі, шэсці, дыспуты. Трэба было шмат дзе выступаць, друкавацца. А яшчэ — заняткі ва ўніверсітэце. І ў канцы пасяджэння ціха сышоў. Кіраваць «Паходняй» стаў А. Жукоўскі. Так вырашыла, відаць, тая чацвёрка за сталом. Але, думаю, уся справа ў празмернай амбітнасці Жукоўскага і схільнасці да інтрыг Таранды. А астатнія сябры «Паходні»? Напэўна, палічылі, што са мной усё ўзгоднена. А, магчыма, проста махнулі рукой, па беларускай звычцы. У сваіх успамінах (урыўкі друкаваліся ў нейкай мясцовай газеце) М. Таранда пазней напіша прыблізна так: мы, маўляў, не хацелі Пяткевіча, бо ён быў лаяльным да ўладаў. Глядзіце, якія ра-

дыкалы! А ў чым жа іх радыкалізм праявіўся? Можа, дзе смела выступілі і нешта смелае сказалі? Можа, М. Таранда зрабіў хоць спробу весці заняткі па-беларуску, калі перайшоў з Інстытута біяхіміі ў Аграрны ўніверсітэт?

Пры А. Жукоўскім «Паходня» стала занепадаць. Мала прыходзіла людзей. Было не цікава. Я бываў рэдка. А. Жукоўскі ўсё арганізоўваў подпісы пад нейкімі заявамі і праектамі. Далучаліся да нейкіх археалагічных раскопак.

Аднойчы, прыехаўшы ў Мінск, нечакана сустрэў М. Ткачова ў сталовай на Фабрыцы-кухні. Паабедаўшы, разам выйшлі і прыселі на лаўцы ў бліжэйшым скверыку. Стаў ён распытваць пра Гродна. Аб зменах у «Паходні» ўжо ведаў і выказаўся з болем: «Не чакаў я падножкі ад Таранды, такі, здавалася, быў адкрыты і шчыры». З захапленнем гаварыў пра сваю працу над стварэннем Беларускай гістарычнай энцыклапедыі. Апошні раз пабачыліся вясной 1991 года, калі ён у чарговы раз прыехаў у Гродна наведаць сям'ю і зайшоў да мяне. Напярэдадні мы стварылі ва ўніверсітэце суполку Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады (я стаў партыйным) з 6 чалавек. М. Ткачоў гэтаму ўсцешыўся: ён быў адным з стваральнікаў гэтай партыі і яе першым кіраўніком. Нечаканая яго смерць моцна ўзрушыла гродзенцаў. На пахаванне ездзілі аўтобусам. Над магілай на Маскоўскіх могілках «слова» гаварылі Ніл Гілевіч, Зянон Пазняк, Алег Трусаў, Міхась Чарняўскі, Мікола Статкевіч і я. Тады заўважыў сабе, што побач з яго магілай — пахаванні пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў і… савецкай наменклатуры.

На кафедры беларускай літаратуры жыццё цякло ў асноўным па савецкай схеме. У 1985 годзе загадчыкам кафедры пасля С. Кліманскага стаў дацэнт Ксенафонт Іванавіч Лецка. Асаблівых слядоў сваёй дзейнасці ў кафедральным калектыве ён, як мне здаецца, не пакінуў. Унутрана закрыты, ні з кім не сябраваў. Амаль не друкаваўся, калі не лічыць матэрыялы дакладаў на навуковых канферэнцыях па плануемай ім доктарскай. Вельмі балюча рэагаваў на любыя крытычныя заўвагі калег. Мы нават шкадавалі яго з гэтай нагоды. Калі сабраўся абараняць доктарскую дысертацыю, звярнуўся да мяне, каб стаў экспертам на перадабароне. Я папярэдзіў, што маю прынцыповую крытычную заўвагу — не лічу, што біблейская паэтыка з'яўляецца папярэдніцай літаратурнага рамантызму. У выніку адмовіўся ад маіх паслуг. Перадабарона прайшла нервова і цяжка. І гэта, па сутнасці, каштавала яму жыцця. Прынамсі, так выглядае. Не хапала яму ўмення разумецца з людзьмі. Нейкая доля віны перад ім ляжыць і на мне. Заўсёды пра гэта помню. Але помню, што жыў ён ад нас, калег, наводшыбе, і мы ставіліся да яго заўсёды карэктна.

Гэтак жа доўга, як і я, ішла праз універсітэцкае жыццё доктар філалагічных навук, прафесар Святлана Піліпаўна Мусіенка, якая чытала замежную літаратуру. Прыйшла яна на кафедру літаратуры ў 1960-я гады. Хутка расла як спецыяліст. Мы часта сустракаліся — то ў розных экскурсійных паездках, то ў застоллі ў М. Мельнікава, то ў яе. Была яна заўсёды кантактнай, таварыскай, але вельмі патрабавальнай да людзей. У выніку канфліктавала з калегамі. Але канфлікты звычайна не былі працяглымі: перамагала яе прыродная дабрата, зычлівасць, гатоўнасць дапамагчы іншым. Мы з ёю заўсёды былі ў добрых адносінах. І сёння прыемна бачыць пры сустрэчах яе прыязную і шчырую ўсмешку.

На кафедры беларускай літаратуры я працаваў у 1968–1990 гадах. Колькі за гэты час зведана цікавых асоб! І не толькі філолагаў. А колькі студэнтаў прайшло… Не, не міма мяне. Бо яны ж мае. Я іх вучыў на матэрыяле роднай літаратуры. Вучыў прыстойна жыць, шанаваць сваё як самае дарагое. І яны станавіліся часткай мяне. Толькі што я сталеў і старэў, а яны, студэнты, былі заўсёды маладымі. На філфаку, дзе я найчасцей заходзіў у аўдыторыю, маімі навучэнцамі былі пераважна студэнткі, дзяўчаты. Гэта накладала пэўны адбітак на ўсю працу ды і ўвогуле жыццё ў інстытуце (універсітэце з 1978 г.). Перш за ўсё дысцыплінавала. Стараўся быць у найлепшай форме ва ўсім, нават у чытанні лекцый. І яшчэ — вельмі значнае. Свеціць перад табой анёльскі тварык. Глядзіць на цябе, калі вядзеш заняткі. Глядзіць сёння, заўтра, паслязаўтра. Глядзіць год, а то і два ці болей. Нават, калі толькі глядзіць, ты не можаш застацца раўнадушным. А яно, дзяўчо, яшчэ і размаўляе з табой, засмучаецца, радуецца. Бо заняткі па літаратуры — гэта не толькі маналогі выкладчыка. І ты ўжо ў нейкім таямніча-салодкім палоне. Ідзеш на лекцыю і цешышся, што вось зараз убачыш яе. Як гэта назваць — адзін толькі Бог знае. А што датычыць жонкі, то гэта іншае. Нашы з жонкай Марыяй Міхайлаўнай адносіны трымаліся на ўзаемных пачуццях. Нас заўсёды лічылі прыгожай, нават узорнай парай. Да таго ж жонка мела добры густ, карысталася паслугамі прыватнай краўчыхі. І выглядала прывабнай і моднай. Але мілы дзявочы лік, бывала, не адступаўся ад мяне. Істотна, што я адносіўся да ўсіх студэнтаў роўна, нікога стараўся не выдзяляць і, натуральна, хаваў сваю ўвагу да пэўнай асобы. Аднак студэнткі нейкім інтуітыўным чынам заўважалі гэта, і на выпускным вечары абазначалі мне месца за сталом побач з ёю.

Бывала і наадварот — я даведваўся (як правіла, постфактум), што быў аб'ектам сардэчнай прыхільнасці з боку пэўнай студэнткі. На адной з сустрэч з выпускнікамі ў мяне пытаюцца: «А ці помніце вы нашу Алу К.?» «Помню, — кажу. — Яна прыкметна старанілася мяне, і я называў яе пра сябе «дзікаватай», пры размове заўсёды апускала галаву, хавала вочы, была нешматслоўнай, нібы ў нечым правінавацілася». «Во, — кажа былая студэнтка, — гэта і зразумела: яна ж была моцна ў вас закаханая. І мы гэта ў групе ведалі. Нашы з Алай ложкі ў інтэрнацкім пакоі стаялі побач, і я нярэдка прачыналася ад таго, што яна плакала. Плакала глуха, у падушку, толькі плечы ўздрыгвалі. Так яе было шкада. Гавару ёй: «Прызнайся яму, скажы. Можа, табе стане лягчэй». Але яна рашуча адмаўлялася гэта зрабіць».

На іншай сустрэчы з выпускнікамі адна з былых студэнтак нечакана заявіла: «А я кахала Аляксея Міхайлавіча. Цяпер ужо можна сказаць». Нехта за сталом прысвіснуў. Нехта рэзюмаваў: «Горка!» На яго гнеўна цыкнулі. А яна працягвала: «Ніхто пра мае пачуцці не здагадваўся. Хіба можна было пра гэта гаварыць?» Іншая неяк пры сустрэчы сказала: «Я сніла вас два гады. Пасля прайшло». Студэнты часам пісалі пра мяне як выкладчыка. Пісалі ўхвальна, з удзячнасцю. А адна ва ўніверсітэцкай шматтыражцы зазначыла: «А вочы ў яго сумныя-сумныя». Трэба ж такое прыкмеціць-прыдумаць? Міжволі згадваюцца радкі Якуба Коласа: «О добры час дзянькоў прыгожых, // Ты знік у хвалях часоў Божых»…






нарадзіўся 30 сакавіка 1931 года ў мястэчку Новы Свержань Стаўбцоўскага раёна. Літаратуразнавец, культуролаг, краязнавец. Кандыдат філалагічных навук. Прафесар. Скончыў філфак БДУ. З 1957 г. працуе ў Гродзенскім універсітэце (педінстытуце) імя Я. Купалы. Выдаў кнігі: «Наднёманскія былі» (у сааўт., 1968), «Сюжэт. Кампазіцыя. Характар» (1981), «Гісторыя беларускай літаратуры XIX — пачатку XX ст.» (у сааўт., 1981, 2-е выд. 1998), «Літаратурная Гродзеншчына. Мясціны. Людзі. Кнігі» (1996), «Маршруты кніжнага слова: з гісторыі кнігі, друку на Гродзеншчыне» (2002), «Старонкі спадчыны. Культурнае памежжа Гродзеншчыны: працэсы, з'явы, асобы» (2006), «Музычна-тэатральная культура Беларусі» (X–XVIII стст., 2010), «Слова і кніга Прынёмання» (2016), «Аўтографы — разам» (2018) і інш. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў (1971). Жыве ў Гродне.



# In memoria

## Янка Трацяк

### Мікола Архіпавіч Янкоўскі: «…Я хачу толькі аднаго: каб жыла нацыя»

Сёння даведацца што-колечы пра Міколу Архіпавіча Янкоўскага даволі складана. Не трапіла яго імя, чамусьці, у даведнік «Выкладчыкі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы» (Гродна, 1999), не прысвячаліся яму вечарыны памяці на філалагічным факультэце і кафедры беларускай літаратуры, дзе ён працаваў апошнія дваццаць гадоў, і нават па смерці не было грунтоўных артыкулаў пра яго жыццё, дзейнасць, творчасць…

Сціплая біяграфічная інфармацыя пра Міколу Архіпавіча змешчана ў кнізе «Памяць» (гіст.-дакум. хроніка Глускага раёна. Мн., 1999) і, адпаведна, на сайце раёна catalog.library.mogilev.by ›kray› Znak_new› glusk. Гэтую інфармацыю з некаторымі ўдакладненнямі мы і скарысталі ў якасці біяграмы.

Мікола Архіпавіч Янкоўскі нарадзіўся 12 лютага 1934 года ў вёсцы Клетнае Глускага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў Клятнянскую сямігадовую школу (1950), Глускую СШ № 2 (1953), гісторыка-філалагічны факультэт Мінскага педінстытута (1958). Працаваў у школах: настаўнікам Плюскай СШ Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці (1958–1959), дырэктарам Веснаўскай сямігадовай школы (1959–1960) і Слаўкавіцкай СШ (1960–1961) Глускага раёна. У 1961–1964 гг. вучыўся ў аспірантуры, у 1964–1975 гг. працаваў на кафедры беларускай літаратуры Гомельскага педінстытута. Абараніў дысертацыю на ступень кандыдата філалагічных навук у БДУ на тэму: «Паэтыка беларускіх прыказак» (1968). Прысвоена званне дацэнта (1972).

У Гомелі актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці, кіраваў літаратурна-творчым аб’яднаннем «Крыніцы», быў сакратаром рэдкалегіі зборніка «Беларуская літаратура». У 1975–1995 гг. — дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Аўтар шматлікіх прац, у тым ліку кніг «Паэтыка беларускіх прыказак» (1971), «Паэтыка беларускай народнай прозы» (1983). Памёр 4 сакавіка 1995 года. Пахаваны на радзіме ў Клетнае.

Праўда, яшчэ вельмі цёпла і з удзячнасцю згадалі Міколу Архіпавіча яго былыя студэнты, выпускнікі Гомельскага педінстытута.

Так, Святаслаў Крупенька піша: «А яшчэ з выкладчыкаў найбольш запомніўся Мікола Архіпавіч Янкоўскі (дарэчы, пляменнік вядомага беларускага фалькларыста

Фёдара Янкоўскага), наш настаўнік сучаснай беларускай літаратуры, з прыгожымі чорнымі валасамі, якія ён заўсёды зграбным рухам правай рукі адкідаў назад, з незвычайна прывабнымі манерамі паводзін, якія хацелася браць за прыклад… а тое, як ён чытаў вершы беларускіх паэтаў, змушала слухаць нават самых няўважлівых студэнтаў. Запомнілася адна ягоная фраза, якая для нас была «крылатай»: «Што тут можна пра паэзію казаць?.. Паэзію трэба чытаць!»… і чытаў на памяць — апантана, з вялікай любоўю да самаго працэсу… (*Святаслаў Крупенька — vuchoba.org › sh-alma-mater-universitatis-chaslivaj-darogi).*

Ніна Шклярава ў сваёй кнізе «Млён. Вершы, паэмы, балады (1971–2012)» у інтэрв'ю пакінула невялічкі запіс: «…Удзячная лёсу, што былі ў мяне такія выкладчыкі, як Любоў Якаўлена Цэхановіч і Мікалай Архіпавіч Янкоўскі…»

Шчырыя і прыгожыя словы пра Міколу Архіпавіча напісала былая яго студэнтка Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Ала Петрушкевіч: «Мікола Архіпавіч Янкоўскі. Сапраўдны Настаўнік. Добры, шчыры і надзвычай праўдзівы чалавек. Уяўляю яго непаўторны жэст: рэзка ўздымае руку, імгненным рухам папраўляе валасы. І пачынае гаварыць. Заўсёды пераканаўча, эмацыянальна. Ніколі — абыякава. Увогуле, не ведаю, ці быў ён да чаго-небудзь раўнадушным. Здаецца, заўсёды меў адказы на ўсе пытанні. Вельмі лёгка загараўся. Не было для яго аўтарытэту, вышэйшага за праўду. Прыгожа чытаў лекцыі. Надзвычай любіў тое, пра што чытаў — фальклор — у яго Мікола Архіпавіч быў па-сапраўднаму закаханым. Імкнуўся перадаць нам не толькі веды, але і сваё разуменне свету. А свет гэты ўмеў бачыць надзвычай прыгожым, шматколерным, сонечным. Умеў шчыра радавацца ўсялякай добрай справе. Вельмі хораша смяяўся. І прытым быў строгім і патрабавальным. Людзей дзяліў на рамеснікаў і паэтаў. «Паэт — гэта не абавязкова той, хто піша вершы, — так казаў. — Гэта той, хто творыць прыгожае. Кладзе дзядзька стог сена. Як цацку, выштукуе. Заглядзішся. Вось гэта і ёсць паэзія!» Ад самага пачатку вырастала да яго глыбокая павага і крыху боязь. Вельмі ўжо суровым здаваўся. Хоць ведала, што гэта не так…» (Петрушкевіч Ала. Ён быў паэтам. Успамін пра Настаўніка / Ала Петрушкевіч // Пра творы і творцаў: Літаратурна-крытычныя, метадычныя артыкулы. — Горадня, 2002).

Вось, па сутнасці, і ўся памяць пра чалавека, якую ўдалося згадаць на гэты момант. А хацелася б больш падрабязна спыніцца на перыядзе выкладчыцкай працы Міколы Архіпавіча ў ГрДУ імя Янкі Купалы, на які прыпадае і гады студэнцтва аўтара гэтых радкоў і пачатак працы.

Так, з Міколам Архіпавічам Янкоўскім студэнты філалагічнага факультэта ГрДУ імя Янкі Купалы знаёміліся звычайна на першым курсе. У раскладзе насупраць дысцыпліны «Вусная народная творчасць» стаялі словы «дацэнт Янкоўскі», якія ўчарашнім абітурыентам пакуль што нічога не гаварылі.

Але шмат пра дацэнта Янкоўскага гаварылі студэнты-старшакурснікі. Так, Косця Бялецкі — студэнт чацвёртага курсу — папярэджваў нас, першакурснікаў: «Вы ж глядзіце, толькі не ўздумайце звяртацца да яго як да Николая Архиповича»…

А трэба было толькі як да Міколы Архіпавіча.

А як было не звярнуцца: і Мікола, і Архіпавіч — так гучала нязвыкла ў 1980-м годзе. І шмат хто са студэнтаў звяртаўся не так. Але нічога такога Мікола Архіпавіч не

рабіў, апрача суровага позірку, ад якога станавілася страшнавата, і некалькіх слоў натацый пра тое, што «вы студэнты беларуска-рускага аддзялення, але напачатку беларускага, і трэба сябе рыхтаваць у першую чаргу як добрага спецыяліста беларускай мовы і літаратуры, бо такіх спецыялістаў вельмі мала і ўсё менш і менш…»

Папярэдзіў нас Косця і як трэба вітацца з Міколам Архіпавічам — толькі «Добры дзень!»

А калі хто Міколу Архіпавічу гаварыў «здрасьце», ён рабіў выгляд, што не пачуў вітанне. Але мог і спыніцца, глянуць сваім знішчальным позіркам і яхідна працадзіць праз зубы:

— Здрявь-ствуй-те… — і больш нічога не гаворачы рэзка пайсці далей. І гэта «здрявь-ствуй-те» гучала з яго вуснаў як нейкае нядобрае і нецэнзурнае слова.

Заняткі для нашага аддзялення на першым курсе праводзіліся звычайна ў 408 аўдыторыі галоўнага корпуса ўніверсітэта (вул. Э. Ажэшкі, 22). І вось, калі аднойчы ў пачатку навучальнага года, адпаведна раскладу, шпаркім крокам увайшоў у аўдыторыю чалавек невысокага росту, з пухнатымі цёмнымі валасамі, укладзенымі хвалямі назад, і з высакароднай сівізной на скронях, першакурснікі насцярожыліся. Здзівіла і тое, што выкладчык прыйшоў на лекцыю з пустымі рукамі. Да прыкладу, яго калега Мікалай Аляксандравіч Мельнікаў (дацэнт кафедры рускай і замежнай літаратуры) заходзіў у аўдыторыю з тоўстым жоўтым партфелем, з якога даставаў і паказваў кнігі, нейкія паперы, ілюстрацыі, і чытаў, перачытваў…

А тут, быццам нейкая дзіўная птушка заляцела ў вакно…

Перш, чым нешта сказаць, Мікола Архіпавіч кінуў позірк у аўдыторыю… і аўдыторыя быццам вымерла…

Пасля неаднойчы прыходзілася назіраць, як Мікола Архіпавіч тым жа позіркам суцяшаў аўдыторыю да такіх мізэрных дэцыбелаў, што доўга было чуваць дзынканне мухі.

Гаворыцца пра гэта таму, што за пяць гадоў вучобы ва ўніверсітэце сустракаліся розныя выкладчыкі: і такія, якія крычалі і тупалі нагамі, і выганялі студэнтаў з аўдыторыі, і заніжалі ацэнкі… Але вось такіх, як Мікола Архіпавіч, які ніколі нічога такога падобнага не рабіў, не павышаў голасу і бачыў студэнта, як рэнтген, наскрозь, былі адзінкі.

Калі Мікола Архіпавіч бачыў у студэнце перспектыўнасць, ён мог дараваць і неглыбокія веды, і паставіць добрую адзнаку, а калі нічога такога не бачыў, дык таго і веды не ратавалі. У гэтым быў педагагічны і чалавечы дар Міколы Архіпавіча.

Лекцыі чытаў Мікола Архіпавіч павольна і з інтанацыяй. Праўда, тут слова «чытаў» не зусім падыходзіць, бо ён лекцыю расказваў па памяці, як усё роўна чытаў. Часта прыводзіў цікавыя прыклады, цытаваў прымаўкі, вершы, народныя дасціпы і выразы . Так, што можна было запісаць лекцыю амаль што слова ў слова. У час лекцыі ён ніколі не стаяў за кафедрай, ён няспынна хадзіў па аўдыторыі з аднаго канца ў другі, склаўшы рукі за спінай і толькі раз-пораз на хвіліну спыняўся і правай рукой усёй пяцярнёй рэзкім узмахам папраўляў валасы, укладваючы іх назад. Часта акцэнтаваў увагу на важных момантах зместу лекцыі словамі: «Пішам і падкрэсліваем». На што дасціпны студэнт Юры Камягін рэагаваў сваім каламбурам: «Пішам і закрэ-

сліваем». Вельмі часта Мікола Архіпавіч рабіў у лекцыях адступленні. Так, на лекцыі пра паэтыку беларускіх народных песень, ён раптам стаў пасярод аўдыторыі, зрабіў паўзу і ўсе студэнты адарваліся ад канспектаў, пасля ўскінуў указальным пальцам правай рукі ўверх і прагаварыў:

— Быў на канцэрце «Песняроў»... Што можна сказаць... Плача і гіне беларуская народная песня пад ударамі гэтых барабанаў...

Былі і мы, студэнты, на тым жа канцэрце — нам спадабалася. Але нам і блізка ў галаву не магла прыйсці такая кароткая і слушная рэцэнзія.

А яшчэ любіў Мікола Архіпавіч звярнуць увагу на таго ці іншага студэнта і падкрэсліць нешта асаблівае, неардынарнае ў ім. Так, ён часта спыняўся перад сталом Дануты Боландзь, цікавіўся, якую школу яна скончыла, хто яе бацькі і чаму яна абрала беларуска-рускае аддзяленне. Прычына такой зацікаўленасці была ў светлай, тоўстай і доўгай касе, якая звісала ніжэй пояса. І тут трэба пагадзіцца — такая народная прыгажосць у сценах універсітэта бывае вельмі і вельмі рэдка. (Прынамсі, за трыццаць гадоў працы ва ўніверсітэце я такога больш не бачыў).

Ведалі дзяўчаты і тое, што да Міколы Архіпавіча на экзамены не варта было прыходзіць размалёванай living рознымі фарбамі і ў крыклівай моднай вопратцы. Тут ужо з Міколам Архіпавічам быў салідарны і М. А. Мельнікаў, які чытаў на рускім аддзяленні факультэта курс «Устное народное творчество».

Студэнта Віктара Варанца заўважаў Мікола Архіпавіч за яго цікавыя разважанні на практычных занятках і за тое, што той працаваў да паступлення на заводзе карданных валаў.

— Дык гэта ж добра, — казаў Мікола Архіпавіч. — Карданны вал — гэта ж што сэрца машыны...

Неяк у час лекцыі нечакана спыніўся Мікола Архіпавіч перад сталом Косці Карнелюка (Косця ўжо тады заявіў пра сябе як пачынаючы публіцыст — пісаў невялічкія нататкі ў розныя газеты пра франтавікоў, якімі названы вуліцы горада Гродна і ўсякую такую дробязь) і спытаўся:

— Костусь, а ці пішыце вы вершы?

— Не...

— Дык жа і не пішыце, Костусь, не пішыце!..

Гэтым «Костусь, дык жа і не пішыце!» доўга пасля дацінала студэнты беднага Косцю. Праўда, Костусь не паслухаўся добрай парады.

Можна ўявіць, якім быў Мікола Архіпавіч кіраўніком інстытуцкага літаб'яднання «Наднёманскія галасы». Думаецца, што колькасць пачынаючых сяброў музы рэзка скарацілася за кошт расчараваных у сваёй творчасці пачынаючых графаманаў.

Мог Мікола Архіпавіч і жорстка і проста «паставіць на месца» таго ці іншага студэнта, калі той студэнт на занятках будзе паводзіць сябе не сур'ёзна.

Некалькі заўваг атрымаў ад Міколы Архіпавіча і аўтар гэтых радкоў. Так, неяк узяў Міколы Архіпавіча у рукі канспект лекцый. Чаго там толькі не было: самалёцікі, танкі, карыкатуры розныя, домікі нейкія, і Мікола Архіпавіч сказаў:

— Дык жа ў вас тут у канспекце, што ў дурнога на страсе...

Вельмі лёгка можна было ўявіць, што магло бы быць у дурнога на страсе.

Другі раз прыцягнуў увагу Міколы Архіпавіча аўтар тым, што перастаў канспектаваць лекцыю і захапіўся развязваннем нейкага пытання з суседам па стале, і Мікола Архіпавіч, праходзячы па аўдыторыі, спыніўся перад нашым сталом, тыцнуў указальным пальцам у мой канспект і прагаварыў: «Юнаша, з гарачымі вачыма...» І пайшоў у канец аўдыторыі, расказваючы пра народныя казкі і паданні. Пасля такога звароту ў «юнашы» вочы тут жа патухлі і прытаіўся ён як заяц пад кустом. А Мікола Архіпавіч прайшоўся па аўдыторыі і зноў апынуўся перад сталом «юнашы» і зноў тыцнуў пальцам у канспект і дадаў: «З вас можа быць толк...» і пайшоў у канец аўдыторыі са сваімі казкамі. «Ну, відаць, пранесла», — уздыхнуў з палёгкай «юнаша», але Мікола Архіпавіч вярнуўся на зыходную пазіцыю перад сталом і дабіў: «...А можа і не быць!»

«Юнаша» пасля расказваў пра гэты выпадак Міколу Архіпавічу (калі лёс іх звёў на адной кафедры), і ён з гумарам адзначыў, што ва ўсякім разе меў бы рацыю.

... «З вас можа быць толк... А можа і не быць» — як мудра, без аніякіх натацый, маралі і выхаваўчага працэсу... Мудра, каб задумацца над тым, чаму сказана менавіта табе і сказана так і не інакш... І мудра, каб задумацца над сабой...

Па-living рознаму студэнты рэагавалі на заўвагі Міколы Архіпавіча. Так, пасля назірання за адным студэнтам, ён затрымаўся каля яго стала і так спакойна, з клопатам, па-бацькоўскаму, заўважыў:

— Мне здаецца, што вы, мусіць, трошкі дурнаватыя... — і пайшоў па аўдыторыі з тэмай лекцыі.

Неадэкватнай, відаць, была і рэакцыя студэнта, бо неўзабаве Мікола Архіпавіч зноў апынуўся каля яго стала:

— Я думаў, што вы трошкі дурнаватыя... — і зноў пайшоў у канец аўдыторыі, расказваючы нешта пра народныя прымаўкі і народную мудрасць.

Тут цяжка было студэнтам утрымацца ад смеху, але трэба было. Інтуіцыя самазахавання спрацоўвала. Толькі той студэнт і на гэты раз не зрабіў адпаведных высноваў, пачуўся смех без дай прычыны, і Мікола Архіпавіч зноў апынуўся каля яго стала:

— Я думаў, што вы трошкі дурнаватыя, а вы ж і добры дурань! — і пайшоў далей па аўдыторыі, быццам нічога такога і не сказаў.

Дарэчы, лёс гэтага студэнта і сапраўды склаўся неразумна.

Быў яшчэ адзін цікавы выпадак у адной аўдыторыі на практычных занятках. Бывае такое, калі група не падрыхтуецца да заняткаў, дык мала таго, група яшчэ не выдзяляецца і ўзроўнем інтэлекту, і выкладчыку на семінарах няма пра што гаварыць, бо што ў студэнтаў не спытаешся, яны не гавораць, не ведаюць і не праяўляюць цікавасці да ведаў і не хочуць ведаць. Не ўдалося і Міколу Архіпавічу наладзіць інтэлектуальны дыялог з групай, і ён сказаў тое, што студэнты ў дадзеным выпадку і заслугоўвалі:

— Гляджу я на вас і дзіўлюся... Дык вы ж нейкія як нібыта недаразвітыя...

Але ніхто і ніколі ні за «дурня», ні за «недаразвітых» нікому не скардзіўся, бо недзе, магчыма, у падсвядомасці было горкае адчуванне таго, што Мікола Архіпавіч у нечым меў рацыю. І сказанае ім было не са злосці, не дзеля таго, каб абразіць ці прынізіць студэнтаў, а дзеля таго, каб яны хоць трохі задумаліся над тым, чаму так гаворыцца. І магчыма, такі метад быў найбольш даходлівым. Дарэчы тут згадаць

вельмі мудры выраз: «Іншы раз чалавека і варта было б пакрыўдзіць, каб ён зразумеў свае памылкі». І калі ён зразумее — будзе з яго толк.

Міколу Архіпавічу дастаткова было пачуць некалькі сказаў на іспытах ад студэнта, каб зразумець, наколькі ён валодае дадзенай тэмай, і для аб'ектыўнай ацэнкі ведаў яму хапала адказу на адно пытанне. Яго больш цікавілі развагі студэнта вакол тэмы, здольнасць фармуляваць і правільна выказваць думкі, дэманстрацыя не столькі кніжных ведаў, колькі прыроднага розуму і інтэлекту.

Так, Юру Камягіну — аднаму з найбольш талковых студэнтаў — Мікола Архіпавіч на экзамене заявіў:

— Ды жа мне не сорамна будзе вам і «выдатна» паставіць!

І паставіў.

Дарэчы, «выдатна» Мікола Архіпавіч ставіў вельмі рэдка каму.

Неяк мы перавозілі рэчы Міколы Архіпавіча з адной кватэры на другую (былі ў Міколы Архіпавіча нейкія праблемы ў асабістым жыцці, але пра гэта нам, студэнтам, не шмат было дадзена ведаць). Уразіла тады не мэбля — яе было няшмат, уразілі кнігі, перавязаныя шпагатам невялікімі стопкамі — імі быў застаўлены амаль што ўвесь пакой. І неяк у адной стопцы развязаўся шпагат, і разляцеліся кнігі па сходнях. Адна з кніг адкрылася на апошняй старонцы, а там размашыстым почыркам Міколы Архіпавіча было напісана: «Нарэшце аўтар пашкадаваў чытача і скончыў пісаць усякае глупства!».

Ёсць адна вельмі рэдкая праява здольнасці творчага чалавека — гаварыць не проста вобразамі, а гаварыць вобразамі трапна і лаканічна. Сказаць так, што не дапоўніш, не паправіш і лепш не скажаш — гэта вялікі дар. Не за кожным творчым чалавекам, нават не за кожным вядомым пісьменнікам можна заўважыць такі талент. Але застаецца несумненным той факт, што Мікола Архіпавіч валодаў такім талентам па-майстэрску.

Сярод студэнтаў хадзіла такая пагалоска, што Мікола Архіпавіч пісаў ці то нейкую аповесць, ці паэму. Мы, студэнты, нічога пра гэта не ведалі, апрача некалькі выразаў пра «дзяцей асфальту і віннага перагару», якія актыўна бытавалі сярод студэнтаў у гутарковых зваротах. Хто іх пусціў у такі зварот, невядома. Пазней ужо, на маё пытанне пра гэта, Мікола Архіпавіч пацвердзіў факт тварэння, маўляў, рукапіс гатовы і прачытаў мне на памяць раздзел пра «дзяцей асфальту...» Была гэта, хутчэй за ўсё, паэзія ў прозе. Вельмі шкадую, што я тады нічога не запісаў.

Нічога не сказаў канкрэтнага пра творчасць Міколы Архіпавіча і «дзяцей асфальту» Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч, апрача таго, што Мікола Архіпавіч друкаваў ва ўніверсітэцкай газеце цікавыя лірычныя нататкі.

У 1983 годзе выйшла кніга Міколы Архіпавіча «Паэтыка беларускай народнай прозы» (Мінск: Вышэйшая школа, 1983. — 268 с.)... І нехта ж разумны падказаў, што кнігу трэба набыць у краме і на экзамене звярнуцца за аўтографам да аўтара, маўляў, паўплывае на добрую адзнаку. Наколькі гэта ўплывала на адзнаку, цяжка сказаць. Мікола Архіпавіч увогуле не любіў рабіць «завалаў» на іспытах, а тым больш масавых «завалаў». Вельмі і вельмі рэдка хто ў яго атрымліваў «нездавальняюча» — тут ужо трэба было быць і сапраўды «добрым дурнем».

А «Паэтыку...» набыў і я, толькі тады як студэнту не хапала часу, каб яе ўважліва прачытаць. Звярнуўся я да «Паэтыкі...» нашмат пазней і быў уражаны зместам, стылем, логікай і дынамізмам кампазіцыі — чытаў як мастацкі твор.

Недзе на трэцім курсе мы, удзельнікі агітбрыгады факультэта, замахнуліся зрабіць пародыі на сваіх выкладчыкаў. Цікавымі былі пародыі ў выкананні Сашы Фядуты на М. А. Мельнікава, Валодзі Гецмана на М. В. Петрыкевіча, Каці Нічапарук на Д. М. Курносава, а мне выпала пародыя на Міколу Архіпавіча. Тут трэба сказаць, што хто толькі не спрабаваў пераймаць інтанацыю, голас, акцэнты Міколы Архіпавіча, хаця і не ў кожнага атрымлівалася падабізна (падабізна — так сказаў бы Мікола Архіпавіч). У аснову парадыйнага зместу былі пакладзены выразы, звычкі, рухі Міколы Архіпавіча. Наколькі пародыя ўдалася, можна было ўжо меркаваць з таго, што толькі адзін выхад у вобразе Міколы Архіпавіча на сцэну выклікаў такія авацыі, якія доўга не давалі магчымасці перайсці да тэксту. А калі пайшоў тэкст, дык за кожнай рэплікай прыходзілася спыняцца і чакаць пакуль зала супакоіцца... Поспеху пародыі спрыяла не столькі трапнасць і падобнасць вобраза, колькі нейкая легендарная папулярнасць Міколы Архіпавіча сярод студэнтаў не толькі філалагічнага факультэта, але і на іншых факультэтах.

У час пародыі Міколы Архіпавіча не было ў зале — выйшаў на перакур, а калі вярнуўся ў залю, яму далажылі, маўляў, толькі што вас парадыравалі.

— Гм. А я ж гэта сабе куру і думаю, з чаго ж тут такі рогат стаіць... — была рэакцыя Міколы Архіпавіча.

Пасля гэтай пародыі мне сталі спачуваць і даваць добрыя парады, як не сустрэцца з Міколам Архіпавічам. І недзе больш месяца ўдавалася не сутыкацца з ім. А неяк выпадкова лоб у лоб: Мікола Архіпавіч падымаўся на другі паверх галоўнага корпуса ўніверсітэта, а я спускаўся. Я хутка прагаварыў: «Добры дзень!» і хацеў як мага хутчэй прашмыгнуць побач далей па сходнях уніз.

— Добры! — адказаў Мікола Архіпавіч.

Праўда, у гэтым я тут жа моцна засумняваўся, бо Мікола Архіпавіч перагарадзіў дарогу.

— А ці не вы гэта той студэнт, які выступаў з пародыяй на мяне? — спыніў маю руплівасць суровым (як заўсёды) голасам Мікола Архіпавіч.

— Той, Мікола Архіпавіч, той... Але, паверце, я не хацеў, упіраўся... Мяне прымусілі гэта рабіць... — пачаў было апраўдвацца.

— Пачакайце... Дык я ж нічога кепскага не бачу ў тым, калі студэнты робяць пародыі на сваіх выкладчыкаў...

«А што ж тут добрага?» — хацеў было запярэчыць я.

— Гэта азначае, што студэнты паважаюць такіх выкладчыкаў, бо ёсць за што паважаць: індывідуальнасць, арыгінальнасць, а не шэрасць якая, — працягваў Мікола Архіпавіч. — А што ж гэта за выкладчык такі, на якога нават і пародыі не зробіш... Ці так?

— Так, так! — паспешліва падхапіў я, і ў мяне стала адлягаць ад сэрца.

— Дарэчы, быў адзін такі студэнт у Гомельскім універсітэце, дзе я раней працаваў, і ён мяне так парадыраваў, што нават жонка не адчувала розніцы...

Я гэта ўсё слухаў, і ў мяне нараджаўся з падказкі Міколы Архіпавіча новы тэкст пародыі з акцэнтам на жонку, якая не адчувала розніцы…

Была адна нядобрая гісторыя з медвыцвярэзнікам, калі туды трапілі два дацэнты ўніверсітэта: Мікола Архіпавіч і яго калега па кафедры. У студэнцкім асяродку гэта гісторыя абрастала легендамі. Мікола Архіпавіч у прыватнай гутарцы абмовіўся пра яе вельмі скупа:

— Гэтага магло б і не быць, бо ў не такой мы былі кандыцыі, каб нас туды дастаўляць. Справакаваў міліцыянтаў калега. Мы трохі пасядзелі, і ён пайшоў мяне праводзіць. На прыпынку ўзнікла ў нас дыскусія, але тут падышоў тралейбус, і я зайшоў, а ён стаў у дзвярах даводзіць, што Аркадзь Куляшоў добры паэт… Дык я ж і не казаў, што кепскі, я казаў, што мог бы быць і лепшым… Тут ужо кіроўца стаў абурацца праз дынамік: «Овободите двери!», а ён — а ні ў якую… А побач праходзіў міліцэйскі патруль… Яны і выцягнулі з салона яго і павалаклі. Я выйшаў з тралейбуса ратаваць, кажу: «Паслухайце, я дацэнт…» — «Ах, тут яшчэ адзін дацэнт!» — усклікнулі міліцыянеры і, як у кіно, заламалі рукі, спачатку аднаму, а пасля і другому…»

Гісторыя гэта пасля працягвалася разборкамі ва ўніверсітэце на паседжанні Савета факультэта. А на партыйным сходзе ставілася пытанне «о недостойном поведении» Міколы Архіпавіча як выкладчыка і наколькі ён мае права насіць высокае званне камуніста. Мікола Архіпавіч тады з пафасам выступіў у апошнім сваім слове і заявіў, што вельмі даражыць сваім партыйным білетам і апраўдае давер таварышаў па партыі, калі толькі яны яму даруюць. Таварышы, вядома, даравалі.

У перапынках між заняткамі і студэнты і выкладчыкі курылі звычайна ў туалеце. Валіў дым на другім паверсе галоўнага корпуса ўніверсітэта як з «М», так і з «Ж» прама на калідор і перабіваў звыклыя туалетныя пахі. І неяк мы туды заляцелі перакурыць, а там — Мікола Архіпавіч паліць.

— Ну, што, хлопцы, папыхкаць дымком прыйшлі? — пацікавіўся ён.

Як гэта не дзіўна, але мы тады ўпершыню пачулі гэтае слова: «папыхкаць» дымком — прыгожа, вобразна і па-беларуску. І пасля гэтага мы хадзілі не пакурыць і не папаліць, а толькі папыхкаць дымком.

І неяк у час такога пыхкання разгаварыўся Мікола Архіпавіч са студэнтам Юрам Бірылам. Тэмай гутаркі была рыбалка. Мікола Архіпавіч быў заядлым рыбаком. Ведаў толк у рыбалцы і Юра. І тут пайшло… Я як сведка гутаркі тады даведаўся шмат чаго цікавага: і як лепш падсякаць, і на што лепш клюе пстронг, і што ў Чорнай Ганчы водзяцца ракі. Прыемна мне было пачуць пра ракаў, бо вырас я ў наваколлі в. Ракаўцы, дзе гэтых ракаў у дзяцінстве мы цягалі дахаты вёдрамі. А пасля меліярацыі ракі прапалі назаўсёды.

Пасля часта мы сустракалі Міколу Архіпавіча за пыханнем. І калі быў Юра Бірыла, Мікола Архіпавіч цікавіўся:

— Ну, як, Юры, хадзіў на рыбу?

— Хадзіў, Мікола Архіпавіч…

— І як, напейзажыў душу?..

— Напейзажыў, Мікола Архіпавіч, напейзажыў…

Дарэчы, неяк за пыхканнем пацікавіўся Мікола Архіпавіч, чым я займаўся да паступлення ва ўніверсітэт. Я, як на іспытах, адказаў, што працаваў на Мінскім ордэна Леніна і ордэна Кастрычніцкай рэвалюцыі трактарным заводзе вадзіцелем-выпрабавальнікам.

— О! — важна ўсклікнуў Мікола Архіпавіч. — Дык вы ж гегемонам былі!

І пасля, калі дзе ў гутарцы і выплывала трактарна-выпрабавальная тэма, дык як было не казырнуць, што гэта адносіцца да таго перыяду, калі я быў гегемонам пралетарыяту.

Быў Мікола Архіпавіч не толькі заядлым рыбаком, але і заядлым грыбніком. Арыентаваўся ён у лесе так, як рыба ў вадзе. Пераканаўся я ў гэтым сам, калі, будучы на бульбе са студэнтамі, пайшлі мы раз у лес і натрапілі на паляну, на якой было столькі баравікоў, што мы ўпакавалі свае габарытныя таварныя сумкі аднымі шапкамі і прыкладна столькі пакінулі. А дарогай назад Мікола Архіпавіч расказаў адну цікавую гісторыю. Захацелася раз яго калегу, выкладчыку кафедры рускай і зарубежнай літаратуры М. А. Мельнікаву, пайсці ў грыбы. Пахадзілі трохі па лесе, і Мельнікаў кажа:

— Мікола, найдзі мне такую паляну, дзе б я прысеў і нарэзаў бы адразу цэлы кошык, а то надта не люблю хадзіць па лесе…

І завёў яго Мікола Архіпавіч на паляну, на якой быў ладны пянёк, увесь упрыгожаны апенькамі. І нарэзаў тады Мельнікаў цэлы кош на адным месцы. А на наступны год пайшоў Мікола Архіпавіч за апенькамі і не знайшоў таго пянька як не шукаў. Такой бяды, — падумаў: ён і знайшоў апенькі ў іншым месцы. А яшчэ праз пару гадоў запрасіў яго Мельнікаў пахваліцца сваім лецішчам. І так, ходзячы па лецішчу ўбачыў Мікола Архіпавіч пянёк, які вельмі ўжо нагадваў той пянёк з апенькамі і запытаўся:

— А што тут за дрэва такое ў цябе расло?

— Ды нічога тут не расло. Пень гэты той, які быў з апенькамі, помніш… Выкапаў я яго з той паляны, і пасадзіў тут… І паліваў нават рэгулярна, але, зараза, аніводнай апенькі ні разу так і не з’явілася…

Мікола Архіпавіч тады параіў Мельнікаву толькі адно: калі ён хоча збіраць апенькі, хай гэты пень адвязе і пасадзіць там, дзе ён і рос.

У час выпускных экзаменаў (1985 год) неяк выпадкова спыніў мяне Мікола Архіпавіч, пацікавіўся справамі, размеркаваннем і між іншым паведаміў, што ў перспектыве павінна адкрыцца аспірантура пры кафедры і ён быў бы не супраць бачыць мяне ў якасці яго аспіранта. Я быў вельмі прыемна ўражаны яго прапановай (ніхто ж з выкладчыкаў такога і блізка не прапаноўваў, бо не быў я выдатнікам і не падаваў, відаць, ніякіх перспектыў). А тут, выходзіла, што можа быць з мяне яшчэ нейкі толк. Дарэчы, на гэтую ж тэму гаварыў Мікола Архіпавіч і з Сашам Гуцалюком, але Саша быў зоркай філалагічнага факультэта: старшыня студэнцкага камітэта факультэта, сябра Савета факультэта і ўніверсітэта, да таго ж, добра вучыўся і яшчэ пісаў някепскія вершы. Тут не было сумненняў у тым, што і ў навуцы Саша мог бы сябе праявіць гэтак жа актыўна.

Але я тады пра навуку не думаў, ды і перспектыва тая зацягнулася пасля на доўгія гады.

Згадваецца яшчэ адзін характэрны эпізод.

Пасля чацвёртага курса філалагічнага факультэта (ужо ў часы перабудовы) адлічылі з універсітэта Андрэя Пяткевіча, аўтара скандальнай паэмы пра Андрэя Сахарава і вершаў антыкамуністычнай накіраванасці. Адлічылі праз непаспяховасць, маўляў, атрымаў «неуд.» («нездавальняюча») па сучаснай рускай мове (экзаменатар М. А. Корчыц). Праз год Андрэй Пяткевіч аднавіўся на завочнае аддзяленне, але, каб атрымаць дыплом, ён павінен быў здаць розніцу — экзамен па той жа сучаснай рускай мове. Але і на гэты раз экзаменатар Корчыц паставіў Андрэю «неуд.» Сітуацыя з «неуд.» паўтарылася і яшчэ два гады запар — экзаменатар Корчыц стойка і прынцыпова трымаўся свайго. Магчыма, прычынай такой прынцыповасці была спрэчка між ім і Андрэем, які рэзка заявіў, што яму сучасная руская мова ў жыцці ніколі не спатрэбіцца. Між іншым, у Корчыца была пашкоджаная нага, і пры хадзьбе ён падцягваў яе, адкідваючы трохі ўбок, быццам збіраўся ўдарыць па мячыку. І калі чарговы раз Андрэй атрымаў «неуд.» ад экзаменатара Корчыца, Мікола Архіпавіч абурыўся:

— Дык, што ж гэты футбаліст сабе думае?!

Тут трэба дадаць, што за Андрэя тады перажывала амаль што ўсё беларускае аддзяленне факультэта: кволенькі, як хлапчук, слабенькі і хворы на сэрца, заўсёды без грошай, але моцны духам у сваёй літаратурнай творчасці і беларускасці. Данута Бічэль мела рацыю, калі пра яго гаварыла, што ён выклікаў адначасова захапленне і спачуванне. Андрэй так і не атрымаў дыплома аб вышэйшай адукацыі. Быў вартаўніком пры школе, збіраў зёлкі і недзе прадаваў іх… і пісаў вершы. Пражыў ён усяго 28 гадкоў. А сучасная руская мова яму і сапраўды так ніколі і не спатрэбілася.

У красавіку 1991 года ва ўніверсітэце быў створаны новы факультэт: факультэт беларускай філалогіі і культуры (дэкан Ігар Васільевіч Жук). На новы факультэт была пераведзена і кафедра беларускай культуры, на якой тады сталі працаваць: праф. А. М. Пяткевіч (загадчык), С. А. Габрусевіч (праф.), М. А. Янкоўскі (дац.), Т. Р. Маліноўская (выкл.), Г. М. Семянчук (выкл.) і нехта І. І. Трацяк (навук. супрацоўнік).

І накіраваў нас (Міколу Архіпавіча і мяне) новы дэкан на фальклорную практыку.ў Свіслацкі раён.

Тады быў вельмі складаны час, крамы пуставалі і ўсё было па талонах. Зайшлі мы неяк з Міколам Архіпавічам у самой Свіслачы ў сталоўку перакусіць. Доўга і падазрона ўглядаўся Мікола Архіпавіча ў меню, пасля ў нейкую страву і ўрэшце запытаўся ў дзяўчынкі на раздачы:

— Дык, што ж гэта ў вас тут за апошняе дасягненне сучаснай беларускай кулінарнай думкі?

І тая замітусілася, і знікла недзе тое «апошняе дасягненне» і забегалі работнікі на кухні, і, урэшце, прапанавалі нешта такое (я дакладна не помню што, магчыма, гэта былі і дранікі, хаця у савецкіх сталоўках яны былі рэдкасцю), на што Мікола Архіпавіч адрэагаваў словамі:

— Дык гэта ж зусім іншая справа і страва…

А ў восень дэкан І. В. Жук, зноў жа, адправіў нас на бульбу з першым курсам у Астравецкі раён. Праўда, Мікола Архіпавіч прыехаў трохі пазней і захацеў пазнаёміцца са студэнтамі. І ў час такой сустрэчы на полі разгаварыліся: студэнты задавалі пы-

танні, Мікола Архіпавіч адказваў. Адказваў і з гумарам і ўсур'ёз. А аднаму студэнту ён нечакана зрабіў заўвагу, маўляў, вам трэба трошкі быць больш культурным і сачыць за сваёй мовай. А пасля, калі мы адышлі ад групы ўбок, Мікола Архіпавіч сказаў:

— Гэты студэнт да канца не давучыцца.

Я стаў абараняць студэнта, маўляў, малады, навучыцца яшчэ ўсяму…

— Не, не… Не давучыцца, — упэўнена сцвярджаў Мікола Архіпавіч. — Вось успомніш маё слова…

І выгналі таго студэнта з універсітэта недзе на чацвёртым курсе.

Кватаравалі мы на бульбе ў сталай жанчыны. Што тады здзівіла нас, дык гэта тое, што яна вельмі цудоўна размаўляла з намі на беларускай мове, а з сынам — на літоўскай. Ні на польскай, ні на рускай мове жанчына не размаўляла — не ведала, хаця і ўсё разумела.

Мы вельмі шмат гаварылі. Тут праявілася яшчэ адна характэрная рыса Міколы Архіпавіча — ён быў вельмі цудоўным субяседнікам: далікатным слухачом і цікавым апавядальнікам, умеў уважліва слухаць, разумець, аналізаваць і эмацыянальна тонка рэагаваць на пачутае. Пра што мы толькі не гаварылі: беларускае адраджэнне, літаратура, культура, палітыка, эканоміка, універсітэт… Мікола Архіпавіч шмат расказваў пра сваё Клетнае, расказваў прыгожа, цікава, з замілаваннем…

Неяк у час такіх гутарак ён усклікнуў:

— Янка, я хачу толькі аднаго, я хачу, каб жыла нацыя!

Так, у Міколы Архіпавіча была свая філасофія нацыянальнага адраджэння і свая філасофія жыцця. Не ўсё захавалася ў памяці з тых філасофскіх гутарак, але згадваецца адзін эпізод:

— Для чалавека вельмі важна пачуццё, — гаварыў Мікола Архіпавіч. — Пачуццё да зямлі, да працы, да людзей, да ўсяго… Няма пачуццяў — няма эмоцый; няма эмоцый — няма таго жывога homo sapiens… Нават да жанчыны, і хай там нешта і трапечацца ў нагавіцах, а калі няма пачуцця — застаецца толькі жывёльны інстынкт, фізіялагічная патрэба да істоты іншага полу… І чым тады ён адрозніваецца ад жывёліны?.. Нічым!

— Дык homo sapiens яшчэ можа думаць, марыць, урэшце, грошы лічыць… — нагадаў асцярожна я.

— Якія мары?! — абурыўся Мікола Архіпавіч. — А што такое думкі без пачуццяў?.. Прагматызм, меркантыльнасць, рацыянальны разлік — толькі грошы лічыць. Гэта ж не чалавек — гэта нейкі робат… машына… А чалавек павінен быць жывым… І не толькі марыць пра грошы…

Пазней я задумаўся над чалавекам без пачуццяў і прыйшоў да цікавых развагаў. Калі чалавек не працуе над сабой у плане духоўнага ўдасканальвання, калі яго ўсё менш і менш цікавіць духоўная культура (літаратура, музыка, філасофія, тэатр, жывапіс і г. д), і калі яшчэ сюды дадаць атэістычнае светаўспрыманне, тады і можа з'явіцца такі чалавек, альбо робата-чалавек, у якога душа з цягам часу робіцца чэрствай і каменнай — без пачуццяў. Чалавек без пачуццяў — гэта абыякавы да ўсяго чалавек. Калі такі чалавек як нейкі адзіночны выпадак у грамадстве — гэта яшчэ не бяда, а калі такія выпадкі становяцца масавымі?.. І наколькі ў грамадстве будуць існаваць

роўныя суадносіны між эмацыянальным і рацыянальным, духоўным і матэрыяльным, настолькі будзе забяспечаны прагрэс і поспехі такога грамадства. Можна доўга спрачацца, кім сёння з’яўляецца homo sapiens: ці істотай высокаарганізаванай духоўнасці, ці біялагічным відам грамадскай жывёліны?.. Здаецца, што апошняя (матэрыялістычная) дэфініцыя адпавядае значнай большасці homo sapiens, а г. зн., што, калі ў грамадстве нічога не зменіцца да лепшага, біялагічны від грамадскай жывёліны запануе над усім і над усякім…

Неяк Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч на лекцыі цытаваў Дастаеўскага: «…бойцеся абыякавых, бо з іх маўклівай згоды адбываюцца ўсе страшныя злачынствы на зямлі» і праводзіў сваю аргументацыю такой чалавекападобнай істоты…

Два дацэнты, якія трымалі кафедру беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта на высокім навукова-даследчым тэарэтычным і літаратурнагістарычным узроўні, — у нечым такія падобныя і… такія розныя… І гаварылі яны пра адну і тую ж страшную з’яву ў грамадстве трохі па-рознаму.

Ці думаў Мікола Архіпавіч, ці думаў Аляксей Міхайлавіч над тым, што прыйдзе час, і такі від будзе дамінаваць над астатнім чалавецтвам?.. Што сапраўдныя пачуцці стануць калі не заганамі, дык небяспечнымі для чалавека?.. Калі і не думалі, дык, відаць, прадбачылі…

Аднаго разу мы «скаціліся» (на бульбе) да анекдотаў і некалькі дзён «травілі» іх адзін аднаму. Даходзіла да таго, што Мікола Архіпавіч прасіў болей не расказваць, бо ў яго ўжо пачынае балець жывот са смеху, а мяне тады ўсё роўна як прарвала — такое бывае, калі трапляеш на добрага слухача. А калі быў вычарпаны ліміт на анекдоты, сталі расказваць розныя жыццёвыя гісторыі, якія адбываліся з людзьмі знаёмымі, альбо гісторыі, якія прыходзілася пачуць ад іншых. Гісторыі гэтыя былі розныя, можа і не такія ўзвышаныя для эстэтычна-выхаванага тонкага жаночага вуха, але яны не былі выдуманымі. Спадабалася Міколу Архіпавічу гісторыя пра тое, як муж «застукаў» сваю жонку ў сельскай краме з другім сакратаром райкама партыі, і бегаў муж вакол крамы, біў ломам дзверы і вокны з крыкам: «А ну-ка, выхадзі-ка!» Мікола Архіпавіч тады сказаў, што я абавязкова павінен пісаць, і ў першую чаргу распісаць гэтую жыццёвую гісторыю, бо ні адзін пісьменнік такога сам не прыдумае, а тут ёсць усё патрэбнае для добрага літаратурнага мастацкага твора: інтрыгуючы сюжэт з гумарам, цікавыя вобразы, героі, канфліктная сітуацыя, нечаканая развязка…

— Ты ж толькі паабяцай мне, што напішаш, — гаварыў Мікола Архіпавіч, — і назавеш апавяданне: «А ну-ка, выхадзі-ка!»

Я тады паабяцаў. А пасля, калі задумаўся над гэтым, мяне здзівіла іншае: як Мікола Архіпавіч мог патрабаваць ад мяне абяцання пісаць, калі ён не мог ведаць пра мае творчыя магчымасці, бо іх я нідзе і ні ў чым тады не праяўляў. Так, пісаў для сябе і не больш і нікому не паказваў. А пасля ўсякі раз, калі прыходзілася сутыкацца з Міколам Архіпавічам, я адчуваў сваю віну ў тым, што не стрымаў свайго слова наконт апавядання. І вось… амаль што трыццаць гадоў прайшло пасля таго абяцання…

Неяк ужо пасля нашай бульбы сабраліся на кафедры калегі і пацікавіліся, як там было на бульбе. Я стаў імітаваць прыкладна так, як расказваў бы Мікола Архіпавіч…

На вясёлы шум прыбеглі выкладчыкі з іншых кафедраў, і імітатар разышоўся… А тут раптам дзверы адчыняюцца, і на парозе стаіць Мікола Архіпавіч. У мяне адразу перахапіла дых. Усе сціхлі. Паўза. І тут знайшоўся Мікола Нікалаеў (прыязджаў з Пецярбурга чытаць спецкурс):

— А ведаеце, Мікола Архіпавіч, як вас толькі што цудоўна парадыраваў Янка.

Ну, смяяліся, мала чаго маглі смяяцца, а тут гэты Нікалаеў — атрымліваецца, выдаў…

— Ну, гэты — можа… Я ведаю, што ён такія штучкі часта вырабляе, але мне не разу не прыйшлося папрысутнічаць на гэтых штукарствах, — спакойна прагаварыў Мікола Архіпавіч і да мяне:

— Ну, пакажыце, Янка, што вы тут карыкатурылі…

Я, зразумела, пайшоў у адказ, толькі растлумачыў, што гэта не карыкатура і не пародыя была, а проста я гаварыў яго — Міколы Архіпавіча — голасам. І тады Мікола Архіпавіч у сваёй манеры заўважыў:

— Дык жа, абы толькі брыдоцця ўсякага не гаварыў маім голасам, а так можаш гаварыць сабе, калі надта хочацца…

Пасля хвілінкі паўзы шматзначна дадаў:

— Але лепш за ўсё гаварыць сваім голасам…

А яшчэ Мікола Архіпавіч хацеў, каб з яго выхадам на пенсію дысцыпліны «Вусная народная творчасць» і «Славянская міфалогія» працягваў чытаць я, пра што ён не раз нагадваў Аляксею Міхайлавічу. Праўда, Аляксей Міхайлавіч забыўся пра гэта, але тут і сітуацыя складалася іншая. Факультэт беларускай філалогіі і культуры праіснаваў тры гады. Кафедру беларускай культуры «як бацылу нацыяналізму» (паводле выразу рэктара праф. А. В. Бадакова) было вырашана кінуць на толькі што рэарганізаваны гістарычны факультэт у факультэт гісторыі і культуры. Нашмат пазней стала зразумелым, што вытворчай неабходнасці ў гэтым не было — проста тут была замешаная свая палітыка… (А калі больш дакладна — трэба было знішчыць «бацылу», што з вялікім поспехам і было зроблена на працягу наступных гадоў). А Мікола Архіпавіч са сваімі прадметамі вярнуўся на сваю кафедру — кафедру беларускай літаратуры.

Так, Мікола Архіпавіч быў за савецкім часам сябрам адзінай партыі, але заядлай камуністычнай свядомасці ў яго не было. Не шкадаваў ён развалу Савецкага Саюза і партыі, успрымаў гэта як належны і непазбежны ход падзей. Адзінае, што яго раздражняла, дык гэта тое, як некаторыя былыя яго аднапартыйцы сталі вельмі хутка перафарбоўвацца ў антыкамуністаў, сацыял-дэмакратаў, шчырых і свядомых беларусаў. На гэты конт Мікола Архіпавіч гаварыў, што каб змяніць свае погляды, патрэбны дзесяцігоддзі, а не адна падзея, і ў знак свайго пратэсту стаў насіць камсамольскі значок. Было гэта акурат у 1991 г.

Хутчэй за ўсё Мікола Архіпавіч быў кансерватыўным традыцыяналістам, шчырым беларускім патрыётам і нацыяналістам у культурна-творчым разуменні сэнсу нацыяналізму. Дарэчы, ён часта любіў паўтараць на лекцыях: «Выйшли мы все из народа, дети семьи трудовой»… А я з народа не выходзіў, я ў народзе і застаўся!». І ў гэтым была яго сутнасць.

Перад падзеннем савецкай сістэмы выпала магчымасць многім дацэнтам атрымаць званне прафесара (званні такія тады давалі толькі ў Маскве), што многія і зрабілі. А Мікола Архіпавіч казаў, што не хацеў ехаць у Маскву на паклон. Можа, і так, а магчыма, былі і іншыя прычыны.

Не падтрымаў ён і групу ўніверсітэцкіх рэфарматараў у стварэнні нацыянальнага ўніверсітэта, хаця быў не супраць такога ўніверсітэта. Нацыянальны ўніверсітэт быў патрэбным і быў час яго ствараць (1993 год). Былі на гэты конт у Міколы Архіпавіча асабістыя меркаванні і прычыны. Добра разумеў ён і тое, што значыць рэзка павярнуць ад савецкай сістэмы адукацыі да нацыянальнай.

Выступаў неяк Мікола Архіпавіч на адкрытым паседжанні савета ўніверсітэта з палымянай прамовай пра тое, што не варта патураць такім палітычным тэндэнцыям, якія імкнуцца забіць клін між Усходам і Захадам Беларусі. Маўляў, мы гэта ўжо праходзілі, а Рэспубліка Беларусь павінна быць адзінай і непадзельнай. Матывамі для такога выступу паслужыла палеміка на старонках тагачаснага друку.

Пры дасягненні пенсійнага ўзросту хацеў Мікола Архіпавіч пакінуць працу ва ўніверсітэце, бо, як гаварыў, не можа жыць без лесу, без рэчкі, без прыроды. Але рэктар універсітэта праф. А. В. Бадакоў асабіста звярнуўся з просьбай папрацаваць яшчэ хоць пару гадоў. А. В. Бадакоў ведаў цану такім выкладчыкам. А яшчэ Міколу Архіпавічу хацелася чымсьці дапамагчы сыну і ўнучцы, а з пенсіі якая тут дапамога.

Ніколі не скардзіўся Мікола Архіпавіч на здароўе, як бы не было цяжка падтрымліваць яго адзінокаму чалавеку ў сталым узросце. Хоць і стараўся ён трымацца, але з гадамі гэта ўдавалася рабіць усё цяжэй і цяжэй…

Не стала Міколы Архіпавіча Янкоўскага раптоўна…



# Эпісталярый

## Зміцер Цехановіч

### Тры сустрэчы з Самсонам Пярловічам



Маё знаёмства з Самсонам Георгіевічам Пярловічам пачалося з кнігі паэта. Недзе ў канцы 1997 года мне давялося прачытаць у газеце, што выйшла з друку кніга паэзіі і мастацкай прозы былога ўдзельніка Саюза беларускіх патрыётаў, вязня сталінскіх рэпрэсіяў Самсона Пярловіча і яе можна купіць непасрэдна ў аўтара, адправіўшы ў Наваградак паштовы заказ.

Праз пэўны час, атрымаўшы па пошце бандэроль, я ўжо трымаў гэту кнігу ў руках, разглядаў вокладку з вабнай каляровай выяваю асенняга беларускага пейзажа і назваю «Чарадзейны агонь», чытаў і вельмі цёплы даравальны надпіс:

«З глыбокай павагай і шчырай удзячнасцю шаноўнаму Дзмітрыю Георгіевічу, як вернаму патрыёту роднага беларускага краю, а таксама ўсёй сям’і на добры ўспамін. 18 студзеня 1998 года. Наваградак. Самсон Пярловіч».

Адразу пачаў чытаць кнігу і так захапіўся шчырасцю і цеплынёй паэзіі, што простым алоўкам стаў пазначаць найбольш упадабаныя радкі:

Падчас, калі скуюць мне грудзі
Нясцерпны смутак і адчай,
Сунімеш крыўду і астудзіш
Ты, толькі ты, мой родны край…
Ты — Наваградак, Ты — Навагрудак,
Горад мой гарысты, дарагі.
Дзе б ні быў я, па табе ўсюды
Замірае сэрца ад тугі…
Беларускіх палёў васілёчкі,
Я вас сніў у далёкіх краях.
І такія блакітныя вочкі
Зараз мае дачушка мая…
Адно, як сон, як сон чароўны,
Бы птушкі казачнай крыло,



Прыпамінаецца няўлоўна
Усё, што ў нас з табой было…
Я ненавіджу вас, рабы,
За тое, што сябе вы самі
Схіляеце ў палон, каб быць
Заўсёды вернымі рабамі…
І на хрыбце гары бясплоднай
Пустынны корань знойдзе сокі.
Любоў да Бацькаўшчыны роднай
Высокая, як дзень высокі…

Ад прачытанага веяла такой любасцю да роднай Беларусі, такой вераю ў чалавека і яго лепшыя якасці, што браў роздум: вось жа ў паэта такі складаны лёс, але не азлобіўся, захаваў цвёрдасць і яснасць духу, любоў да людзей. Таксама прыемна ўразіў аўтарскі стыль: шчырая пачуццёвасць і, разам з тым, лёгкая, па-свойску жывая шурпатасць радкоў.

Пасля прачытанага захацелася даведацца больш пра аўтара, выказаць яму сваё ўражанне і ўдзячнасць, падзяліцца з іншымі. Праз пэўны час такая магчымасць надарылася.

**Сустрэча першая**

У 1998 годзе мне давялося ехаць у Навагрудак па службовых справах. І вось у абедзенны перапынак, маючы ў руках тагачасны адрас паэта (вуліца Мінская, 29), з дапамогай мінакоў, адшукваю ў глыбіні вуліцы адпаведны дом, нясмела грукаю ў дзверы.

Мне шанцуе. У хаце і Самсон Георгіевіч, і яго жонка. Вакол сціплая абстаноўка. Знаёмімся. Паціху ладзіцца размова, пачынае таяць лёд насцярожанасці (абсалютна зразумелы з улікам лёсу паэта). Між іншым даведваюся, што адзіная дачка Самсона Георгіевіча жыве ў Вільні, цяпер сур’ёзна хворая, і ёй патрабуецца аперацыя, на якую збіраюцца грошы. Адгукаюся, чым магу. Даведваюся, што кніга «Чарадзейны агонь» у паэта — трэцяя. Да гэтага ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў зборнік «Бяссмертнік», у самім Навагрудку была надрукаваная кніга «Заяц на бярозе». Сам сабе цвёрда вырашаю паспрыяць пашырэнню творчасці паэта. Далей з гэтай мэтай наладжваю ліставанне.

26 снежня 1998 года атрымліваю ад Самсона Георгіевіча першы ліст. Вось ён.

Дарагі Зміцер!

Вялікі табе дзякуй за тваю добрую, чулую памяць — за твой ліст, у якім ты так падрабязна змясціў усё падыходнае для маёй паэтычнай творчасці. Пастараюся выкарыстаць гэта ў бліжэйшы час… Хачу прасіць цябе, дарагі наш, калі б давялося табе спаткацца з нашым прадстаўніком Салжаніцынскага фонду ў Гомелі, Клімовічам Рыгорам Сяргеевічам, расказаць яму пра маю бяду з-за дачкі маёй Наташы, каб ён пасадзейнічаў у Маскве пра дапамогу мне (пісьмо пра яе ты чытаў, калі быў у нас). Чытаў і яго пісьмо. Ён дарэмна крыўдаваў на мяне, бо не ведаў такой нашай бяды.

А калі што, то на ўсякі выпадак даю і ягоны адрас: …

Выказаў усё сваё набалелае, бо лічу цябе, дарагі Зміцер, самым сардэчным, слаўным другам. І яшчэ раз выказваю свае найлепшыя пажаданні і табе і ўсім тваім родным.

Няхай Новы 1999 год прынясе ўсё лепшае!

Жыве Беларусь!

*Ваш Самсон Пярловіч.*

Неўзабаве прыйшоў другі невялічкі ліст, укладзены ў бандэрольку з кнігай Самсона Георгіевіча «Заяц на бярозе»: «…прымі, калі ласка, вось гэту кніжку і гумарыстычную, і патрыятычную…»

9 красавіка 1999 года атрымліваю наступны ліст ад паэта:

Дарагі, слаўны Зміцер!

Бязмерна вялікі дзякуй табе за тваю светлую памяць аба мне і маёй сям'і! Прымі і маё віншаванне з Днём 25 Сакавіка — нашага Свята нашай светлай Надзеі. Разам з тым дзякую табе, дарагі мой дружа, за лісткі «Жыць для Беларусі» Васіля Супруна і «Гарт. Саюз Беларускіх Патрыётаў» — Антона Фурса, дзе ўспамінаецца і маё імя.

Што адносіцца да маіх твораў [датычыцца маіх твораў], якія захочаш, дарагі мой Зміцер, кудысьці паслаць, то я дазваляю табе выбіраць усё тое, што падабаецца, што лічыш найбольш вартым. А аб сабе магу коратка ў лаканічнай форме выказацца (жаль, што ў цябе няма майго першага зборніка «Бяссмертнік», дзе Алег Лойка досыць падрабязна апавёў мой жыццяпіс).

Я нарадзіўся 13 жніўня 1923 года ў вёсачцы Католышы, непадалёку ад Наваградка. Пасля Наваградскай сярэдняй школы вучыўся ў Наваградскім педвучылішчы, дзе і застала вайна. У ваенныя гады спярша настаўнічаў у вясковай школе, адкуль 20 жніўня 1943 года быў вывезены на работу немцамі, спярша ў латышскі порт Лібаву, затым, пасля ўцёку [маюцца на ўвазе няўдалыя ўцёкі], аж у аўстрыйскую Вену. Ужо тады пісаў вершы. І, вярнуўшыся ў Наваградак восенню 1945 года, пачаў працаваць у раённай рэдакцыі газеты «Звезда» літаратурным работнікам. Незадоўга быў падвергнуты ціску з боку [МДБ]. Вось тады былы аднакласнік пры сустрэчы аднойчы мне сказаў, што ўсе, хто пабываў пад акупацыяй, раней ці пазней будуць пакараны. Я сам сабе падумаў, што сапраўды так і здзяйсняецца. А гэта быў мужны Патрыёт — Генадзь Казак, які арганізаваў ужо тады «Саюз вызвалення Беларусі». Да той арганізацыі далучыўся і я. А вясной таго 1947 года па даносу падасланага правакатара, які добра разведаў пра ўсіх нас — васямнаццаць сяброў, данёс у [МДБ], і 31 траўня раптоўна нас усіх арыштавалі. А 30–31 жніўня пасля цяжкіх допытаў засудзіў ваенны трыбунал.

Той тысяча дзевяцьсот… год сорак сёмы
На мукі з сябрамі ў турму мяне выдаў.
Пра сталіскія смерцяносныя ёрмы
Верш мною напісан — «Паднімецца крыўда!»
І ноччу, і днём падхалімы скуляць

Пра росквіт жыцця, пра свабоду.
Ад гэтай свабоды аж стогне зямля,
А ў росквіце тым — смерць народу.
Тыран-дэспат Сталін старых і малых,
Запрогшы ў прыгонныя ёрмы,
Нявіннай крывёй суцяшае іклы,
Каму колькі жыць — ставіць нормы.
Людзей, каб прымусіць пакорна маўчаць,
Пад страхам, як вязняў бяспраўных,
Са зграяй сваёй пачаў вынішчаць
Народа сыноў самых слаўных.
А, каб заглушыць і праклёны, і боль,
Кляймом страшным — «Вораг народа»
Кляймяць чалавека, ды ўсё штораз больш
Знішчаюць людзей з кожным годам.
Калі б удалося ўсе косці сабраць
Усюды, дзе палі ахвяры,
З касцей тых, напэўна, паўстала б гара,
Што рвала б вяршыняю хмары.
А слёзы і кроў, што замучаны люд
У горы бязлітасным выліў,
Калі б не праніклі ў матулю-зямлю
І сонца, мабыць, патушылі б.
Ці ж выцерпіць крыўда?! Мільёнам галоў
Яна яшчэ грозна паўстане!
Хіба хто апошнім сумленнем аглох,
Той толькі мо сцерпіць маўчанне!»


Аб сустрэчы крывавай з эмдэбістам Цанавай.

Далей Самсон Георгіевіч Пярловіч напісаў у лісце свой вядомы дакументальны верш «Аб сустрэчы крывавай з эмдэбістам Цанавам» і працягнуў:

«Вось такі балючы твор у мяне нарадзіўся ў выніку тых балючых вострых пакут, перанесеных тады ў маладосці. А пра «Саюз вызвалення» іншы, само-сабой.

Так як ты і сказаў, напішу пазней пасля цябе ў Гомель вельмі памяркоўна, культурна, нават з тымі вытрымкамі ўспамінаў Антона Фурса, дзе ён выказваецца пра мяне.

Прашу прабачэння, што пішу са спазненнем. Усё нездаровіцца. Асабліва ў апошні час.

Ну, а цяпер віншую цябе, дарагі Зміцер, усю тваю сям'ю і сяброў з вялікім Святам — Вялікаднем! Хрыстос Уваскрос!

Яшчэ раз дзякую за ўсё!
Хрыстос Уваскрос!!!
Жыве Беларусь!

Наступная перапіска з Самсонам Георгіевічам была прысвечаная падрыхтоўцы публікацыі і творчай сустрэчы ў Мінску (у ліпені 1999 года пры Таварыстве беларускай мовы мною быў заснаваны кніжны клуб ТБМ, у межах якога такая творчая сустрэча пазней і адбылася).

17 красавіка 1999 года ліст ад Самсона Георгіевіча змяшчаў толькі верш «Бараніце суверэнітэт!»:

«Што ж гэта Беларускі краю
Над табой вытвараюць зноў! —
Запрагаць хітра пачынаюць
Тваіх дачок, тваіх сыноў.
Вось гэтак, як ужо на мову
Накінулі зноў ланцугі,
Мяркуюць, каб нам і падкову
Прыбіць да кожнае нагі.
Калі ж закелзаюць, то будуць
Накідваць грузу так, каб быў
Навалены, быццам вярблюду,
Схаваўшы ўсе яго гарбы.
Абараніліся б часамі
Ад гэтае напасці мо,
Але ж нямала тых, што самі
Ганебна лезуць у ярмо.
Аслепленым, ім не трывожна
Цяпер яшчэ, але пасля
І трапятацца будзе позна,
Калі дыхнуць не дасць пятля.
Апамятайцеся! Як людзі
Будзьце разумнымі і Вы!
Свабодна будуць дыхаць грудзі,
Калі Край будзе наш жывы.
Ён шчодры, дарыць вам паслушна
Цяпер свой скарб дабра свайго.
Дык бараніце мужна, дружна
Вы ўсе Сувернітэт Яго!
Пакуль пятлю яшчэ звіваюць,
Крычыце крычма на ўвесь Свет:
— У Беларусі адбіраюць
Яе Святы Сувернітэт!!!

*Самсон Пярловіч*

5 траўня 1999 года у адказ на просьбу ўзгадніць рабочы варыянт падрыхтаванай мною публікацыі падборкі вершаў паэта быў атрыманы наступны ліст:

Дарагі, слаўны Зміцер!

Я бязмерна ўдзячны Табе за ўсё, што ты чыніш для маёй творчасці… Мой бязлітасны жыццёвы лёс увесь час прыніжае мяне. Толькі такія, як ты, шчырыя патрыёты дапамагаюць майму самаахвярнаму Духу трымацца ў сапраўднай годнасці.

Цяпер хачу шчыра сказаць, што поўнасцю дазваляю табе, давяраю дзейнічаць так, як палічыш у адносінах да маёй творчасці лепшым, бо вельмі глыбока, тонка разумееш і адчуваеш маю душу. Прагледзеўшы зробленае табою, заўваг амаль ніякіх выказаць не магу. Хіба толькі добра было б, калі б удалося зрабіць выразней канцоўку…

Што адносіцца да «Белавежскай пушчы» [экалагічная газета, выдаваная ў той час Валерыем Дранчуком], то мне здаецца — варты ўвагі верш «Зялёныя тунэлі», ну і, безумоўна, усё пра прыроду. Прывітанне Рэдактару выдання!

А «Несмяротная Пагоня» [тут маецца на ўвазе верш паэта] — гэта мае душа і сэрца, так, што прашу — няхай імчыцца Яна ў сэрцы безупынна, ды будзіць на змаганне за светлы лёс нашай роднай шматпакутнай Беларусі!

Прывітанне шаноўнай той жанчыне, якая зацікаўленая маёй творчасцю ды цярністым маім лёсам. Вельмі цікава было б пачуць яе, як мне здаецца, прыемны голас.

Адна з такіх у мяне — Вольга Іпатава, наша слаўная пісьменніца, якая ўжо раней прычыніла мне нямала дабра, як і Алег Лойка ды Янка Брыль. Ёсць яшчэ ў Менску цудоўны чалавек — наш патрыёт — мастак Віктар Пятровіч Сташчанюк, які жыве па вуліцы Ленінградскай…

Мне паведамілі, што цяпер мастацкаму Наваградскаму калектыву прысвоілі званне — народны, і імя яму «Шыпшына» — маёй песні.

Дзейнічай, дарагі Зміцер, як сам палічыш лепшым!

Сардэчна цябе абнімаю.

*Твой Самсон Пярловіч.*

**Сустрэча другая**

Другая сустрэча з Самсонам Георгіевічам Пярловічам адбылася ўлетку 1999 года падчас майго ўдзелу (разам з маёй будучай жонкай Святланай) у вандроўцы па Гарадзеншчыне, у тым ліку — у Наваградак.

Сустрэча была цёплай, ды, на жаль, з улікам абставінаў — вельмі хуткай. Па папярэдняй дамоўленасці Самсон Георгіевіч перадаў паўагульны сшытачак уласных вершаў з умовай адксеракапіраваць і вярнуць па пошце (што далей і было мною зроблена). У хуткім часе ў газеце «Наша слова» была выдрукавана ладная нізка вершаў паэта.

18 кастрычніка 1999 года пошта прынесла мне наступны ліст ад Самсона Пярловіча:

*Наваградак, 15.10.1999 г.*

Дарагі, слаўны дружа Зміцер!

Вітаю цябе самым цёплым словам шчырага сэрца і жадаю табе, дарагі мой, усяго самага найлепшага ў тваім маладым жыцці і спяшаюся паведаміць табе свой новы адрас. Цяпер ён такі:

Наваградак 231400<br>вуліца Ламаносава, 10<br>корпус 2, кватэра 31.

Сюды з Мінскай вуліцы мы перасяліліся з дачушкінага тога дома, дзе ты ўжо некалькі разоў пабываў і пра які чытаў мой палымяны верш. Навін іншых асаблівых у мяне пакуль што няма. З Польшчы, пасля таго, як я ім паведаміў, што я — не Пятровіч, а Самсон Пярловіч, нічога не атрымаў. Даслаў я туды ў «Камунікат» іхны ўсё тое, што ты, дарагі мой, надрукаваў у «Нашым слове».

За усё табе найвялікшы мой Дзякуй!!!

...Шлю свой новы верш:

**Народжаны ў жніўні**

Народжаны ў жніўні гарачым
Я, мабыць, умыты расой,
Праменьчыкі першыя ўбачыў
На жоўтых вусах каласоў.
І, мабыць, тады вось палоску
Матуля дажаць не змагла,
Ў Католышы — родную вёску
Ў прыполе мяне прынясла.
А заўтра зноў з першай зарою,
Плячо казытнуўшы сярпом,
На поле прыбегла са мною,
Ад спёкі прыкрыла снапом.
Пагладзіць казяўку малую
Цягнуўся я на жываце.
Таму, мабыць, сёння я чую,
Як траўка-былінка расце.
Таму на даспеленай ніве
Я рэха напеваў лаўлю,
Таму, мабыць, сонечны жнівень
У годзе найболей люблю.
Матуля пакінула сыну
Плён — вырашчан шчырай душой.
А я Беларусі пакіну
Дар, сэрцам напісаны, свой.
Нялёгкі хоць, вельмі суровы
Быў наканаваны мне лёс,
Пяшчотныя, цёплыя словы
Народу заўсёды я нёс.
Пра Свіцязь і пра Навагрудак
У плыні шчэ будучых дзён
Людзям усплываць творы будуць,
Што выдаў Пярловіч Самсон...
Жыве Беларусь!

*Твой — Самсон Пярловіч.*

Тым часам, шукаючы магчымасці далейшай папулярызацыі творчасці Самсона Пярловіча пры жыцці паэта, я азнаёміў з ягонымі вершамі нашу выдатную паэтку з Гарадзеншчыны Дануту Бічэль, з якой у той час ладзіў дзве творчыя сустрэчы ў Мінску ад імя кніжнага клуба Таварыства беларускай мовы. Прачытаўшы вершы паэта, Данута Янаўна ў сваім лісце ад 2 красавіка 2000 года мне напісала: «Прачытала Пярловіча. Добрыя вершы. Хацелася б болей пачытаць».

У межах работы кніжнага клуба ТБМ на творчую сустрэчу ў Мінску ў пачатку 2000 года быў запрошаны і Самсон Георгіевіч. На жаль, сустрэча з самім Паэтам часова адкладалася, што бачна з наступнага ліста — ад 28 красавіка 2000 года:

Хрыстос Уваскрос!!!

Дарагі, шаноўны, слаўны Зміцер!

Найперш віншую цябе і сям'ю тваю, і сяброў [Кніжнага клуба ТБМ] са светлым Вялікаднем! Жадаю добрага здароўя і шчасця ва ўсім! Дай Божа вам усім усяго найлепшага. І прашу прабачэння, што яшчэ дасюль не змог выканаць тваёй просьбы — прыехаць да вас у сталіцу. Справа ў тым, што здароўе ніяк не дазваляе мне, хоць ахвоту маю вельмі вялікую... Мне вельмі балюча, што я не магу ніяк выканаць свой доўг перад табой, слаўны мой дружа...

Жадаю яшчэ і яшчэ табе і вам усім дабра і шчасця! Дару свой новы верш:

**Святая наша Беларусь**

Люблю цябе, люблю бязмерна
Дзяржава родная мая!
Служыць табе я буду верна,
Каб слава век жыла твая.
Дастойна, слаўна ў век ад веку
Сярод народаў ты ішла.
Не раз навалу гвалту, здзеку
«Пагоняю» перамагла.
Святло ўсім нёс твой крок бадзёры,
І ў час бязлітасных падзей
Твая краса, твае прасторы
Натхнялі велічна людзей.
Жыві надзеяй. Так, як птушкі
Зімой жывуць цяплом вясны.
З табою верныя Дачушкі,
З табою верныя Сыны.
Твой лёс я сцерагу няспынна,
Душу і сэрца падару
Табе, Бацькоўская Краіна, —
Святая наша Беларусь!

**Сустрэча трэцяя**

А цёплая творчая сустрэча з паэтам Самсонам Георгіевічам Пярловічам у Мінску ўсё-ткі адбылася — у сярэдзіне 2000 года — у сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. На сустрэчу Самсон Георгіевіч прыбыў не адзін, разам з сябрам, таксама былым удзельнікам Саюзу беларускіх патрыётаў, былым вязнем сталінскіх лагераў, калі правільна памятаю — Кастусём Рамановічам. Паэт прыехаў не на адзін дзень і прыпыніўся ў мінскай кватэры аднаго з дзяцей свайго сябра.

За цёплай гарбатай і невялічкім салодкім пачастункам Беларускі паэт Самсон Пярловіч чытаў свае вершы, згадваў нялёгкае мінулае. Да прыкладу, згадваюцца словы паэта, што ў ГУЛАГу гінулі найперш самыя высокія і дужыя, бо праца вымагалася знясільная, а лагерная пайка была неадпаведнай.

Самсон Георгіевіч быў у добрым настроі, ахвотна адказваў на пытанні ўдзячных удзельнікаў творчай сустрэчы.

А тым часам у часопісе «Роднае слова» была падрыхтаваная ладная публікацыя, прысвечаная творчасці Самсона Пярловіча. Самае добрае спрыянне ў гэтым аказала тагачасная супрацоўніца часопіса Таццяна Тапцёнак.

За месяц да выхаду публікацыі ад Самсона Георгіевіча мною быў атрыманы наступны ліст:

*Наваградак, 8 жніўня 2000 г.*

Дарагі, слаўны Зміцер!

Прымі, калі ласка, маю шчырую падзяку за ўсё тое, што ты, дарагі дружа, для мяне зрабіў сваёй добразычлівай дзейнасцю там у сталіцы. Палымянае прывітанне сябрам і сяброўкам! Даруй, калі ласка, за неахайнае напісанне, бо пішу на шпітальным ложку, дзе я зараз знаходжуся ў тэрапеўтычным аддзяленні. Трошкі падлечваюць мяне. Будзем мець надзею на паляпшэнне.

Жыву адзінока, у пакойчыку, дзе мой былы завод газавай апаратуры прымае падчас прыезджых, як у гасцёўню. Гэта ўлічылі маю просьбу і просьбу Вольгі Іпатавай ад Саюза пісьменнікаў і далі мне вось такі прытулак. Што, як будзе далей — добра не ведаю. Сказалі, што плаціць давядзецца, як бы за халасцяка.

Напішы, калі ласка, пра свае навіны і задумы.

Мой сучасны адрас вось такі:

г. Наваградак, 231400

вул. Валчэцкага, дом № 44, Самсону Пярловічу

Жыве Беларусь!

У верасні 2000 года выйшла доўгачаканая публікацыя ў часопісе «Роднае слова», прысвечаная паэту. Яна суправаджалася юнацкім фотаздымкам творцы. На ім Самсон Пярловіч — малады, гожы, адкрыты свету, поўны надзей і спадзяванняў. Вядома, гэты нумар часопіса перасылаць у Наваградак мне было асабліва прыемна.

У адказ Самсон Георгіевіч даслаў, як заўжды, ліст са словамі падзякі і мне, і, вядома, руплівай арганізатарцы публікацыі ў «Родным слове» Таццяне Лапцёнак. Надзвычай спадабалася паэту падборка вершаў, што, на яго думку, трапна, удала раскрывала перад чытачом галоўныя напрамкі творчага набытку:

*30 кастрычніка 2000 года*

Шаноўныя, слаўныя, дарагія мае сябры, вельмі добразычлівыя, шчырыя патрыёты роднай Беларусі — Таццяна Лапцёнак і Зміцер Цехановіч!

Спяшаюся сардэчна выказаць вам вялікую сваю шчырую падзяку за цудоўную дапамогу майму паэтычнаму слову.

Вы так бязмерна цудоўна, трапна падабралі мае тыя вершы, якія найбольш выпукла паказваюць змест і прыгажосць маіх думак і глыбіню пачуццяў. Хочацца перад вамі, мае слаўныя сябры, нізка пакланіцца за вашы чулыя такія турботы. І змест змешчаных твораў, і фотаздымак, як мне здаецца, адпавядаюць; ды і лаканічны мой жыццяпіс, дадзены… для азнаямлення чытачоў з маёй паэзіяй і з маёй жыццёвай самаахвярнасцю. Ад усёй шчырай душы жадаю вам усяго тога, чаго вы самі жадаеце сабе! І маё палымянае беларускае прывітанне вашым родным!

Бязмерна вялікі дзякуй Зміцеру за тэлефоннае паведамленне. Я ўжо ўсё тое пабачыў, бо часопіс № 9 «Роднае Слова» чытаў у нашай Наваградзкай бібліятэцы.

Шчырае прывітанне і нізкі паклон мой усяму слаўнаму калектыву дарагога «Роднага Слова».

Ваш — Самсон Пярловіч.

Гэта быў апошні атрыманы мною ліст ад Самсона Георгіевіча Пярловіча. Як я пазней даведаўся з друку, 14 снежня 2000 года палымянае сэрца паэта спынілася.

Самсон Георгіевіч Пярловіч на ўсё жыццё запомніўся мне слаўным чалавекам, простым беларускім патрыётам, якому далёка няпроста было гарэць на алтары Бацькаўшчыны, каб жыла Беларусь, каб была Беларуская Дзяржаўнасць.

Але паэзія Самсона Пярловіча не згарэла ў полымі часу. Яна і сёння хвалюе душы ўдзячных нашчадкаў. Сведчаннем гэтаму ёсць прынамсі дзве вядомыя мне кнігі паэта, выдадзеныя пасля яго смерці. Але галоўны наш пасільны абавязак яшчэ наперадзе: да 100-годдзя з дня нараджэння Паэта, што будзе адзначацца ў 2023 годзе, пастарацца сабраць і выдаць ладны том яго творчай спадчыны.

нарадзіўся ў 1969 годзе ў Мінску. Мае педагагічную і эканамічную адукацыю. Жыве і працуе ў Мінску.





СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

## Зямны акіян перакладчыцы

*Лісты Эдзі Агняцвет*

Яшчэ ў студэнцкія гады спрабаваў перакладаць вершы французскіх паэтаў на беларускую мову. Пераклаў і апублікаваў паэтычныя радкі Луізы Мішэль, Сальвадора Далі, Поля Верлена, Эжэна Пацье. І вядома ж, Гіёма Апалінэра. Апалінэра я люблю. Ды і многія беларускія паэты любяць паэзію французскага класіка, продкі якога — Кастравіцкія па лініі маці — паходзілі з Беларусі. Жылі яны ў маёнтку Дарашковічы пад Наваградкам і сябравалі з сям'ёй Адама Міцкевіча.

Ведаў, што ў 1973 годзе, калі яшчэ быў школьнікам, што ў Мінску выдаваліся вершы Гіёма Апалінэра па-беларуску. Цэлы зборнік выбраных твораў пад назвай «Зямны акіян» пераклала з французскай мовы Эдзі Агняцвет. Летам 1988 года я знайшоў яе хатні адрас і напісаў ліст, у якім паведаміў, што цікаўлюся жыццём і дзейнасцю сваіх землякоў, таму прасіў у паэткі і перакладчыцы, каб выслала мне кнігу Гіёма Апалінэра ў яе перакладзе. Паэтка мне шчыра адказала і даслала Апалінэраўскі зборнік вершаў па-беларуску. А потым у сваіх лістах Эдзі Агняцвет нагадала мне яшчэ пра аднаго майго земляка — слонімскага генерала Яўгена Леашэню, з якім была добра знаёмая і нават яму прысвяціла свой верш. Пра ўсё гэта ды іншае яна пісала ў сваіх пісьмах.

*6 жніўня 1988 года, Мінск*

Добры дзень, Сяргей!

Прашу прабачэння за тое, што адказваю з некаторым спазненнем. Учора прыехала дадому, з прыемнасцю прачытала Ваш ліст. Вельмі добрая ў Вас задума — сабраць поўныя звесткі і напісаць кнігу (а, можа, і не адну!) пра выдатных людзей, чый лёс быў звязаны з дзівосным кутком Беларусі — Слонімшчынай. А стварыць літаратурна-гістарычны музей — гэта трэба відаць ад сэрца.

Перакладаючы Апалінэра, я многае прачытала пра яго на французскай і рускай мовах. Яго кнігі ў арыгінале брала з Нацыянальнай бібліятэкі. Выданне ўнікальнае! Доўга трымала кнігі ў сябе, але ж бібліятэку нельга падводзіць. І яны зноў у запасніках аддзела зарубежнай літаратуры. Дарэчы, кнігі былі неразрэзаныя, да мяне ніхто імі, на жаль, не карыстаўся.

Ёсць у мяне аповесць Юліі Хартвіг «Аполлинер». Шчыра кажучы, шкада з ёю развітвацца… І ўсё ж, думаю падараваць Вам яе. Калі Вы будзеце ў Мінску — патэлефануйце мне, калі ласка, па тэл. 33–44–58. Падпішу Вам і свайго Апалінэра.

Ці вядома Вам імя Яўгена Варфаламеевіча Леашэні — генерала-лейтэнанта артылерыі — выдатнага чалавека, які родам быў са Слонімшчыны? Ён добра ведаў Якуба Коласа, напісаў гісторыю свайго краю. Праўда, ніхто гэтага не друкаваў.

Удзячна Вам за добрае, шчырае слова пра маю работу! А Ваша імя сустракаю ў друку, чытаю і жадаю найлепшых поспехаў!

*Эдзі Агняцвет.*

*15 жніўня 1988 года, г. Мінск*

Дзень добры, Сяргей!

Ваша зацікаўленасць сувязямі слаўнага земляка Я. В. Леашэні мне зразумела. Яўген Варфаламеевіч напісаў успаміны пра Якуба Коласа, якія змешчаны ў кнізе «У сэрцы народным» (Мн., 1967, С. 206–212). Назва артыкула «З незабыўнага».

Асабіста я пазнаёмілася з Яўгенам Варфаламеевічам у сваім юнацтве-маладосці на святкаванні 60-годдзя Якуба Коласа ў Ташкенце. У той час ён, здаецца, некалькі месяцаў знаходзіўся з ваеннай акадэміяй у Сярэдняй Азіі. Пасля, значна пазней, перапісвалася з ім, сустракалася ў Маскве. Ён прысылаў мне не толькі лісты, а і кнігі. Чалавек незвычайнай дабрыні, розуму, эрудыцыі. Пра яго — мой верш «Лісты генерала Леашэні» са зборніка «Закаханым» (Мн., 1986):

Не зрабілі Вас саноўным
Ні пасады, ні чыны.
Бераг помнілі галоўны —
Рэчку Ісу і чаўны.
Там дзяцінства, там краіна
Самых светлых, мілых год.
Там сцяжынкі Альбярціна,
Дзе бярэ пачатак род.
Бачылі Вы прад сабою
Медуніцы ў бляску рос.
Хоць было не да спакою:
На вайне — ваенны лёс.
Хіба ведаюць біклажкі,
Дзе салдат, дзе генерал?
Сорак першы, самы цяжкі,
Ваша сэрца вывяраў.
На дарогах да Берліна —
Вашы смелыя масты...
Свецяць лісцем Альбярціна
Вашы ціхія лісты.
Голас вернага служэння
З даваенных клікаў дзён,
Голас Карбышава*: Жэня! —
Быў, як ласка і закон.
З-пад яго крыла Вы ўсталі
Нездарожаны, жывы.
...Хай бы вечна прыляталі
Вашы ластаўкі з Масквы!
Быў апошні ліст нязвычны
У прадчуванні небяспек.
Быў зварот, як боль крынічны:
—Дарагі мой чалавек! —
Не мяне, а ўсіх дазвання

* Дзмітрый Карбышаў (1880–1945) — вайсковец, Герой Савецкага Саюза.

Вам хацелася сагрэць
На парозе развітання…
Я ж не веру ў Вашу смерць.

У Маскве жыве яго ўдава Антаніна Іванаўна.

Успамінаю, як ён любіў беларускія народныя прыказкі. А першы раздзел з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» чытаў на памяць.

А пакуль да сустрэчы! З прывітаннем,

*Эдзі Агняцвет.*

*3 кастрычніка 1992 года, Мінск*

Паважаны Сяргей!

Выбачайце за трошкі запознены адказ на Ваш ліст, днямі вярнулася з Іслачы.

Вельмі хацелася б дапамагчы Вам у пошуках Тодара Лебяды*. Бо трэба, каб кожнае таленавітае імя засталося ў памяці людской. На жаль, я не ведала ні яго, ні яго жонкі Басі Цыпінай і яе сваякоў. Пэўна, і ён родам са Слонімшчыны? Думаю так таму, што Вы занятыя пачэснай працай — шукаеце сляды сваіх землякоў, пішаце пра іх. Магу толькі пажадаць Вам удалых пошукаў і поспехаў!

І ў мяне да Вас ёсць просьба. Неяк у жніўні месяцы г.г. я паслала сваю новую кніжку «Рэчка, рэчанька мая» (для дзяцей) добрай паэтцы і настаўніцы Алене Руцкай. Хацела зрабіць невялічкі падарунак ёй і вучням. Чамусьці яна маўчыць. Ці здаровая? Калі Вам няцяжка — знайдзіце, калі ласка, Алену Вітальеўну і запытайце аб маім пасланні. Жыве яна таксама на вул. Брэсцкай, 97, кв. 6. Буду ўдзячна. А пакуль усяго Вам найлепшага!

*Эдзі Агняцвет.*

*3 сакавіка 1997 года, Мінск*

Добры дзень, Сяргей!

У першы дзень вясны мяне ўзрадавалі Вашы пранікнёныя радкі ў «Народнай газеце». Віншую, жадаю новых удач!

Як вам працуецца? Ці збіраеце звесткі пра сваіх добрых слонімскіх землякоў? Хацела паслаць, альбо пераслаць Вам некаторыя лісты генерала Леашэні і адну кнігу перакладаў Жукоўскага, з якою мне шкада развітацца (падарунак Яўгена Варфаламеевіча). Калі будзеце ў Мінску — тэлефануйце мне па тэл. 2–33–44–58. А пакуль усяго найлепшага!

*Эдзі Агняцвет.*

*18 верасня 1997 года*

Вітаю Вас, Сяргей!

Думала, што за лета Вы знойдзеце магчымасць пад’ехаць у Мінск і забраць у мяне лісты Вашага слаўнага земляка генерала Леашэні (для Слонімскага музею). Ха-

---

* Тодар Лебяда (Пятро Шырокаў; 1914–1970) — беларускі пісьменнік, двойчы быў рэпрэсаваны.

цела падараваць і кнігу з яго хатняй бібліятэкі, але яна тоўстая — Гамер «Адысея». Для пасылкі не падыходзіць.

Як зрабіць? Можа, пакуль пашлю Вам лісты і адну слонімскую газету? Ці ёсць у Вас здымак Яўгена Леашэні ў генеральскім адзенні?

Пішу па Вашаму хатняму адрасу, але, пэўна, ёсць і адрас музея. А кніжкі Вашай у мяне няма.

Чакаю адказу. З пашанай,

*Эдзі Агняцвет.*

*7 кастрычніка 1997 года, Мінск*

Дарагі Сяргей Мікалаевіч!

Дзякуй Вам за светлыя радкі, узгаданыя на берагах Шчары! Жадаю новых удач, творчага шчасця! Мяне радуе тое, што Вы задумалі напісаць кнігу пра свайго слаўнага земляка генерала Леашэню. Неяк была я ў Маскве, бачыла яго і жонку ў хатніх умовах. Які сціплы чалавек! Гэта не сучасныя паны з іхнімі катэджамі. Прыязджайце, нарэшце ў Мінск. Чым магу — дапамагу. Навошта ляжаць яго лістам і маім успамінам на архіўных паліцах? Здаецца, я давала Вам свой хатні тэлефон? З найлепшымі пажаданнямі,

*Эдзі Агняцвет.*

*P.S.* Пра вашу кніжку больш падрабязна пагутарым пры сустрэчы.



# Нашы юбіляры

## Сяргей Чыгрын

### Чалавек роднай кнігі

*Станіславу Судніку — 65*



Унікальны чалавек жыве ў Лідзе. Гэта пісьменнік і журналіст, культуролаг і грамадскі дзеяч Станіслаў Суднік. Той самы спадар Суднік, які некалі ў Казахстане выдаваў беларускамоўную газету «Рокаш».

Той самы Суднік, які выдаў «Кароткі расійска-беларускі вайсковы слоўнік» і «Расійска-беларускі вайсковы слоўнік» на 8 тысяч слоў разам з Сяргеем Чыславым і «Шыхтавы статут Беларускага войска». Той самы Суднік, які напісаў і надрукаваў шэраг паэтычных зборнікаў. Сярод якіх — «Пагоня за мову», «Мой Грунвальд», «Лідскія скрыжалі», «Літва». Той самы Суднік, які сёння рэдагуе ў Беларусі газету ТБМ «Наша слова» і рэгіянальны часопіс «Лідскі летапісец». Той самы Суднік, які… Спіс гэты можна доўга працягваць.

А яшчэ Станіслаў Суднік — падпалкоўнік, ён узнагароджаны медалём «За баявыя заслугі» і ордэнам «За службу Радзіме». А я яму сёння, калі б гэта было ў маіх сілах, даў бы яшчэ званне Заслужанага работніка культуры Беларусі і ўзнагародзіў бы ордэнам Францыска Скарыны, а таксама Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь за яго грамадскую і літаратурную дзейнасць. Ён даўно гэтага заслугоўвае. Але такіх людзей улада сёння ў Беларусі ўшаноўваць не любіць.

Шчыра кажучы, калі б кожны раён у Беларусі меў па адным Станіславу Судніку — Беларусь была б іншай. Гэта ён штогод на Дзень мовы праводзіць у Лідзе беларускамоўныя дыктоўкі, у якіх прымаюць удзел некалькі тысяч чалавек. У якім раёне Беларусі такое адбываецца? Чаму ў Лідзе ёсць такі арганізатар і там праводзяцца дзясяткі розных сустрэч і прэзентацый, адкрыццяў і ўшанаванняў, а ў многіх райцэнтрах — мёртвая цішыня? Усе спяць літаргічным сном, а хочуць, каб нехта ім на сподачку прыпаднёс тое, чаго яны жадаюць…

Станіслаў Суднік прывык рабіць усё сам. Штотыднёва выдае «Наша слова» на 8 старонках. А вось у многіх райцэнтрах нават не ведаюць, што ёсць такое выданне, не ведаюць ні настаўнікі роднай мовы, ні бібліятэкары. У некаторых райцэнтрах Магілёўскай і Гомельскай абласцей няма ніводнага падпісчыка…

Станіслаў Суднік нарадзіўся ў вёсцы Сейлавічы Нясвіжскага раёна. І родную Нясвіжчыну ён таксама не забывае. Мясцовыя вертыкальшчыкі яго там дужа асцерагаюцца, бо ім прасцей сядзець у Нясвіжы і нічога не рабіць, не думаць, не вырашаць. Прасцей за ўсё нешта добрае забараніць — і ўсё, каб было ціха. Але ціха сядзець ім Станіслаў Суднік і там не дае. Ён іх пастаянна трывожыць сваімі ідэямі і задумкамі, мерапрыемствамі і прапановамі. Ён нават і там пачаў выдаваць літаратурна-мастацкі зборнік «Нясвіжскі ўток»:

Хто здалёку, а хто бліжай,
Як шырокі свет ляжыць,
Мы сабраліся ў Нясвіжы,
Каб тварыць, кахаць і жыць…

Так і жыве на нашай зямлі гэты няўрымслівы, апантаны жыццём і справамі падпалкоўнік Станіслаў Суднік. Ды ён даўно ўжо не падпалкоўнік, бо мы, беларусы, яму прысвоілі ганаровае званне генерала ад… беларусізацыі. Прысвоілі гэтае званне напярэдадні яго 65-годдзя, якое наш шчыры беларус адзначыў 21 верасня 2019 года. Да маіх слоў далучыліся і землякі Станіслава Судніка.

**Леанід Лаўрэш** — гісторык і пісьменнік з Ліды:

— Станіслава Судніка я ведаю з вясны 2000 года, калі ён пасля дэмабілізацыі з войска пасяліўся ў Лідзе. А чытаць пра яго ў беларускай прэсе мне прыходзілася з пачатку 1990-х гадоў: пра беларускую школу ў далёкім казахскім гарнізоне, пра беларускую газету і г. д. Здаецца, першы раз я пра яго прачытаў у газеце «Наша слова», якую ён цяпер рэдагуе. Я лічу Станіслава сваім сябрам і вельмі цаню добрыя адносіны з гэтым чалавекам. Думаю, галоўнай рысай яго характару з’яўляецца неверагодная працаздольнасць. Ён рэдактар трох афіцыйна зарэгістраваных выданняў, але толькі тое, што ён аднаасобна кожны тыдзень выдае газету «Наша слова», многага варта. Бо з першага нумара ў Лідзе, з 1 лістапада 1997 года, Станіслаў не мае адпачынку, не мае водпуску і кожную нядзелю і панядзелак робіць камп’ютарны макет газеты, кожны аўтарак уладжвае справы з друкарняй, а потым займаецца рассылкай газеты падпісчыкам. І так — ужо 22 гады! А колькі яшчэ часу патрабуюць унікальны і, магчыма, адзіны ў Беларусі краязнаўчы часопіс «Лідскі летапісец» і літаратурны альманах «Ад лідскіх муроў» — выданні, без якіх немагчыма ўявіць інтэлектуальнае жыццё нашага рэгіёна. А ў апошні час ён дадаткова ініцыяваў некалькі рэгіянальных выданняў у іншых гарадах Беларусі. Станіслаў — сапраўдны «будзіцель», ёсць такі тэрмін у славянскіх народаў, так называлі нацыянальных інтэлігентаў, якія змагаліся за дзяржаўнасць і культуру сваіх народаў.

Суднік — вельмі адукаваны чалавек, чалавек кнігі, якімі ў яго абкладзена ўся кватэра. Але, ён жартуе, што шмат ведае, бо 22 гады вельмі ўважліва чытае адну газету — «Наша слова». Ён мае вельмі рэдкае сярод маіх знаёмых уменне знайсці агульную мову з рознымі людзьмі. Станіслаў заўсёды шукае і знаходзіць згоду, бо ведае, што дамова нашмат лепей за канфлікт. Пры шматлікіх кантактах гэта рыса характару гарантуе яму павагу і ўзаемаразуменне. Яго беларускасць выклікае цікаўнасць у абыякавых, павагу ў ворагаў і жаданне дапамагчы ў сяброў. Аб гэтым Стані-

слаў пісаў у сваіх мемуарах: «Беларуская мова мне дапамагала, яна мяне ахоўвала, вяла па жыцці, забяспечвала, калі хочаце, месца ў самых розных калектывах і нават кар'ерны рост».

Станіслаў Суднік — аўтар вялікай колькасці краязнаўчых артыкулаў пра Лідчыну, якая стала яго сапраўднай другой радзімай. Ён любіць горад, у якім жыве, і сваёй творчай працай, мерапрыемствамі, якія арганізуе, уносіць унікальны ўнёсак у культурнае жыццё горада і рэгіёна. У той жа час, ён гадзінамі можа расказваць пра свае родныя Сейлавічы, а нядаўна напісаў таленавітую і неверагодна цікавую паэму «Пілігрымка дадому» пра сваю малую радзіму, што пад Нясвіжам. Гэты вершаваны аповед ён стварыў на падставе легендаў сваёй вёскі і вусных успамінаў жыхароў Сейлавіч. Збірае Станіслаў і навуковы матэрыял для кнігі пра сваю малую радзіму.

Я жадаю Станіславу доўгіх гадоў жыцця, напоўненага стваральнай працай на ніве беларускай культуры, жадаю дачакацца праўнукаў і не хварэць!

**Валянцін Дубатоўка** — старшыня Гродзенскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў:



— Ёсць на зямлі такія людзі, ад учынкаў якіх залежыць, па якім шляху пойдзе развіццё краіны, горада, мястэчка альбо нават маленькай грамадскай установы. Вось, менавіта, да гэтай кагорты Богам пазначаных людзей належыць сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы, галоўны рэдактар «Нашага слова» Станіслаў Суднік. Немагчыма цяпер уявіць, як развіваўся б горад Ліда, каб там не жыў спадар Станіслаў Суднік. Не хачу сказаць, што горад знік бы з мапы Беларусі, але адзінае магу сцвярджаць з упэўненасцю: Ліда без Станіслава Судніка была б зусім іншай. Гэта быў бы горад, дзе не віравала б грамадскае жыццё, дзе не выдавалася б газета «Наша слова», дзе пасярод горада не было б доміка вядомага літаратара, грамадскага дзеяча Валянціна Таўлая, дзе не знайшлі б на паліцах шапікаў любімага ўсімі лідчанамі часопіса «Лідскі летапісец».

Але і па-за межамі Ліды адчуваецца магутная постаць нашага сябра. Толькі за апошні год пры непасрэдным удзеле Станіслава Судніка ў Навагрудку выйшаў літаратурна-краязнаўчы штогоднік «Стольны град», у Слоніме — літаратурны альманах «Паланэз», у Нясвіжы — «Нясвіжскі ўток».

Безумоўна, што ў такога актыўнага і неардынарнага чалавека, як Станіслаў Суднік, маюцца і нядобразычліўцы. Але мне, здаецца, што іх скавытанне і лямант у СМІ яшчэ больш загартоўваюць гэтага чалавека.

Станіслаў Суднік заслугоўвае куды большага прызнання і павагі не толькі з боку яго землякоў, але і звычайных грамадзян, а таксама яго калег па грамадскай дзейнасці. І, асабліва, ад яго калегаў па літаратурнаму цэху.

**Валерый Петрыкевіч** — грамадскі актывіст з Дзятлава:

— Пра Станіслава Судніка я ўпершыню пачуў ад слонімца Міхася Варанца ў сярэдзіне 1990-х гадоў. Гэта адзін з прадстаўнікоў Згуртавання беларускіх вайскоўцаў, якія атрымалі адукацыю ў вучэльнях былога СССР, служылі вялікай імперыі, але не паддаліся адурманьванню брэжнеўскай ідэалогіяй, не забыліся, адкуль яны родам, не выракліся роднай культуры і мовы, любяць і шануюць яе, робяць усё магчымае і немагчымае, каб беларуская мова пашыралася ва ўсіх сферах жыцця, каб не трапіла ў шэраг «мёртвых», каб стала адзінай дзяржаўнай мовай у нашай краіне.

Працяглы час Станіслаў Суднік самаахвярна працуе на пасадзе галоўнага рэдактара газеты ТБМ «Наша слова». І тое, што гэтая газета яшчэ выдаецца, нізкі паклон яму і вялікі дзякуй.

З-пад пяра спадара Судніка выходзяць цудоўныя зборнікі вершаў, пераклады з польскай мовы на беларускую. Дзякуючы яму, выдаюцца і беларускія календары, арганізоўваюцца дзясяткі святаў, прысвечаных нашай гісторыі і яе асобам. У апошнія некалькі гадоў Станіслаў Суднік шмат дапамагае і Дзятлаўскай суполцы ТБМ, якую я ўзначальваю. Ад імя ўсіх гарадзенскіх пісьменнікаў шчыра віншуем Станіслава з юбілеем і жадаем яму здароўя і плённай працы на карысць роднай Беларусі!



# Сярод нашых кніг

**Адзін з першых: памяці Зьміцера Кіселя.** — Гародня, 2018. — 103 с.




Кніга памяці аднаго з лідараў беларускага адраджэння ў Гародні З. Кiселя (1962–2005) пабачыла свет намаганнямі В. Сазонава, У. Хільмановіча, Я. Трацяка, Я. Вапы і рэдакцыі тыднёвіка «Ніва», Цэнтру гарадскога жыцця Гародні.

**Бялячыц Рычард. Пах зоркі. Вершы, паэма.** — Гродна: ЮрСаПрынт, 2019.




Кніжка паэзіі Рычарда Бялячыца, складзеная з твораў апошніх трох гадоў, запрашае чытача зазірнуць у мінулае Бацькаўшчыны, па-філасофску падысці да жыццёвых з'яў сучаснасці, запыніцца на лірычнай пачуццёвай ноце. Паэма «Літоўка» натуральна «вырасла» з-пад Навагрудка ў вобраз жанчыны, якая нараджае, засцерагае, ідзе па зямлі з часоў Сярэднявечча ў нашы дні.

**Варанец, В. І., Варанец А. В. Руска-беларускі слоўнік-даведнік лекавых раслін: для студэнтаў лячэбнага, педыятрычнага, медыка-псіхалагічнага, медыка-дыягнастычнага факультэтаў.** — Гродна: ГрДМУ, 2018. — 236 с.




Слоўнік-даведнік уключае ў сябе больш за пяцьсот назваў лекавых раслін, якія выкарыстоўваюцца ў Беларусі, дае іх тлумачэнне і функцыянальнае прызначэнне ў залежнасці ад той ці іншай паталогіі.

**Васько Уладзімір. Энергія душы: вершы, проза.** — Ліда: Лідская друкарня, 2018. — 160 с.




У выданні «Энергія душы» змешчаны вершы і проза аўтара. Кніга апавядае пра вёскі Наднямоння, родную прыроду, адносіны паэта да людзей і часу. Чытач знойдзе тут лірычныя, спавядальныя творы, таксама вершы грамадзянскага гучання, фантастычную аповесць для дзяцей, ёсць месца паэтычнай фантастыцы і прозе.

**Дубатоўка Валянцін. Пажарка — прытулак для самотнага музыкі: проза** / Лірычна-хуліганскія нататкі ў прозе; рэд. С. Чыгрын. — Гродна: БігДрым, 2019. — 133 с.




Аўтабіяграфічныя нататкі пра юначыя гады аўтара.

**Мацулевіч Алесь. Горад-карабель. Вершы** / рэд. С. Суднік. — Ліда: Выдавецкі дом ТБМ, 2019. — 84 с.




У кнігу ўвайшлі творы гістарычнай тэматыкі з далёкай і блізкай гісторыі горада Ліда, а таксама творы, прысвечаныя гістарычным асобам агульнанацыянальнага маштабу, творы на розныя тэмы, якія датычацца сучаснасці Лідчыны.




**Мельнік Міхась. З табою: вершы.** — Ліда: Лідская друкарня, 2019. — 72 с.

Новы зборнік вершаў Міхася Мельніка «З табою» — гэта кніга інтымнай лірыкі, шчырая споведзь перад малой радзімай, прынёманскім краем, Беларуссю. У вершаваных творах аўтар па-мастацку выяўляе духоўны свет сучасніка, яго маральнае аблічча. У кнізе ёсць вершы, поўныя ўзрушанага роздуму аб тым, што ўбачана і перажыта. Яны вызначаюцца непасрэднасцю і задушэўнасцю. *С. Суднік*




**Петрушкевіч, А. М. «Белавежа»: Постаці, творы, героі.** — Беласток: PRYMAT, 2018. — 231 с. — (Бібліятэка Бел. літ. Аб'яднання «Белавежа»).

Аўтарка прысвячае свае артыкулы не толькі знакавым асобам «Белавежы», але разглядае і аналізуе змест першых літаратурных альманахаў «Рунь», якія пачалі выходзіць з 1959 года, а таксама даследуе асноўныя тэмы твораў «белавежцаў». Зразумела, беларускія пісьменнікі Беласточчыны перадусім апявалі сваю малую радзіму... *А. Аркуш*




**Самойла Галіна. Паляцелі птушкі ў вырай. Кніга вершаў.** — Гродна: ЮрСаПрынт, 2019.

Кніга адрасаваная падлеткам, моладзі, а таксама тым дарослым, якія любяць беларускую мову, — спеўную, вобразную і паэтычную, як душа нашага народа. А таксама гэта зварот да тых беларусаў, якія пра сваю мову пачалі забывацца... Кніга выдадзена пры падтрымцы педагогаў і вучняў СШ № 6 г. Гродна, якім аўтарка вельмі ўдзячная.




**Суднік Станіслаў. Пілігрымка дадому.** — Ліда: Выдавецкі дом ТБМ, 2018. — 88 с.

Вершаваны аповед, створаны на падставе легендаў вёскі Сейлавічы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці і вусных успамінаў жыхароў Сейлавіч Яна Некраша, Казіміра Некраша, Гелены Кувалдзін, Ганны Суднік, Юзафа Кірашова, Юрыя Савіцкага.

**Трацяк, І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ў сацыякультурным працэсе першай паловы ХХ ст. Ч. 1: Арганізацыя беларускага душпастырства ва ўмовах канфесійна-нацыянальнай палітыкі 1913–1939 гг.: манагр.** / І. І. Трацяк. — Гродна: ГрДУ, 2019. — 323 с.




У манаграфіі разглядаюцца прававыя асновы, арганізацыя, віды і змест душпастырскай і грамадска-культурнай працы беларускага каталіцкага духавенства ва ўмовах ціску і пераследу канфесійнай і нацыянальнай палітыкі ІІ Рэчы Паспалітай (1921–1939 гг.).

**Чобат Алесь. На неба ўзыходзіць доўга** / рэд. Д. Я. Бічэль. — Гродна: ЮрСаПрынт, 2019. — 172 с.




Чарговая кніга паэзіі і празаічных нататкаў гарадзенскага пісьменніка ўяўляе сабой вобразна-асацыятыўную гісторыю суіснавання народу ў сусвеце, роздум пра зямное і вечнае, сэнс і сутнасць быцця.

**Чыгрын Сяргей. Гістарычная мазаіка Слонімшчыны. У дзвюх кнігах.** — Мінск: Кнігазбор, 2019. — 140, 132 с.




Гэтыя выданні ўяўляюць сабой своеасаблівую гістарычную мазаіку Слонімшчыны, дзе арганічна пераплецены яе мінулае і сучаснае. Кнігі з цікавасцю прачытаюць усе тыя, хто любіць і захапляецца гісторыяй, краязнаўствам і літаратурай сваёй Бацькаўшчыны.




**Чыгрын Сяргей. Слонімшчына. Гістарычныя нататкі.** — Мінск: Беларусь, 2019. — 128 с.

Аўтар адпраўляе чытача ў падарожжа ў часе. Ён знаёміць з мінулым і сучасным Слоніма і яго ваколіцамі. Фотаздымкі і малюнкі дазваляюць праўдзіва паказаць тое, што было ўчора і шмат гадоў таму назад. Тых, хто захоплена ўглядаецца ў сівую мінуўшчыну Слонімшчыны, чакаюць новыя адкрыцці і сустрэчы.




**Чыгрын Сяргей. Літаратурная Слонімшчына.** — Гродна: ЮрСаПрынт, 2019. — 172 с.

Аўтар кнігі згадвае жыццёвыя шляхі і раскрывае творчыя стасункі тых майстроў прыгожага пісьменства, чый лёс быў звязаны са Слонімшчынай. Выданне найперш вызначаецца літаратурна-краязнаўчай накіраванасцю.




**Чыгрын Сяргей. Пісьменнікі слонімскай зямлі. Набор паштовак.** — Баранавічы: Выдавецтва ІП А. Хахол, 2019.

Набор паштовак, прысвечаны пісьменнікам Слонімшчыны. Сярод якіх — Гальяш Леўчык, Кандрат Лейка, Анатоль Іверс, Алег Лойка, Алесь Сучок, Мікола Арочка, Васіль Супрун, Іван Чыгрын, Іван Сяргейчык, Янка Саламевіч, Валянціна Ададурава.




**Паланэз. Слонімскі літаратурны альманах** / укл. С. Адамовіч і С. Чыгрын; рэд. і прадм. С. Чыгрына. — Гродна: ЮрСаПрынт, 2019. — 150 с.

Прапанаванае выданне — першы нумар слонімскага літаратурнага альманаха «Паланэз» — знаёміць чытачоў з творамі пісьменнікаў Слонімшчыны, якія жылі ў XX стагоддзі і якія сёння жывуць у Слоніме і ў іншых гарадах і краінах.




**Шымялевіч Міхал. Збор твораў** / укл. Л. Лаўрэш; рэд. С. Суднік,. — Гродна: ЮрСаПрынт, 2019. — 326 с.

Працы Міхала Шымялевіча (1879–1969) — лепшага знаўцы гісторыі Лідчыны і сябра Таварыства беларускай школы ў 1920-х гг. маюць надзвычайную каштоўнасць і з'яўляюцца падмуркам сучаснага лідскага краязнаўства. Тэксты з 1906 па 1939 г. друкаваліся ў розных перыядычных выданнях. Кніга будзе цікавай усім, хто неабыякавы да беларускай мінуўшчыны.

Гэта першая кніга з серыі «Лідскі кнігазбор». *С. Суднік*




**Юргілевіч Леанарда. На лясной дарозе.** — Гродна: ЮрСаПрынт, 2019. — 136 с.

У зборніку змешчаны малыя апавяданні рознабаковага зместу: гумарыстычныя, элегічныя, драматычныя. У іх паказваецца пераважна вясковa-местачковае жыццё звычайных працаўнікоў. Час дзеяння — апошнія дзесяцігоддзі. Для шырокага кола чытачоў.



# Хроніка

**9 студзеня.** У Гродзенскай гарадской цэнтральнай бібліятэцы імя А. Макаёнка адбылася літаратурная вечарына пісьменніка з Наваградка Міхася Зізюка, у якой бралі ўдзел гарадзенскія пісьменнікі. У гэты ж дзень Міхась Зізюк правёў сустрэчы з маленькімі слухачамі ў дзіцячых садках г. Гродна.

**18 студзеня.** У Дзятлаўскім дзяржаўным гісторыка-краязнаўчым музеі адбылася сустрэча з пісьменніцай з Гародні Алай Петрушкевіч і спявачкай-бардам Таццянай Матафонавай з Мінска.

**14 лютага.** Ва Універсітэце Залатога Веку ў Гародні адбылася літаратурна-музычная сустрэча з Аляксеем Пяткевічам, крытыкам, літаратуразнаўцам, краязнаўцам.

**20 лютага.** У Лідзе ў «доміку Таўлая» (літаратурная філія Лідскага музея) прайшла нацыянальная дыктоўка. Яе пісалі сябры літаратурнага аб'яднання «Суквецце» пры рэдакцыі «Лідскай газеты».

**21 лютага.** У Цэнтры гарадскога жыцця да Дня роднай мовы з удзелам сяброў СБП адбылася нацыянальная дыктоўка.

**28 лютага.** Аматараў культуры запрасіў літаратурна-музычны салон «У пані Элізы». Сустрэча была прысвечана тэме яўрэйства: «Міфы і факты яўрэйскай самабытнасці ў творчасці Элізы Ажэшкі». Пра творы пісьменніцы распавялі Аляксей Пяткевіч і Ала Петрушкевіч.

**6 сакавіка.** У Юнацкім філіяле Абласной бібліятэкі адбылася сустрэча з моладдзю, прысвечаная Дню гучнага чытання, якую правялі Аляксей Пяткевіч і Ала Петрушкевіч.

**20 сакавіка.** Адбылося пасяджэнне круглага стала «Нёман у гістарычным лёсе гарадзенцаў» у адкрытым інтэлектуальным клубе «Паходня ісціны» Гродзенскай гарадской цэнтральнай бібліятэкі імя А. Макаёнка, у якім удзельнічалі Аляксей Пяткевіч («Нёман у жыцці і творчасці Якуба Коласа і ў асабістым лёсе») і Ала Петрушкевіч («Нёман у жыцці і творчасці Дануты Бічэль і ў асабістым лёсе»).

**23 сакавіка.** У Цэнтры гарадскога жыцця адбылася прэзентацыя сёмага нумара альманаха «Новы Замак». Удзел прынялі маладыя і сталыя аўтары альманаха, сябры СБП: С. Абдулаева, М. Зізюк (Наваградак), Р. Бялячыц (Шчучын), М. Кананові, С. Чыгрын (Слонім), С. Суднік, С. Чарняк (Ліда) і інш.

**23 сакавіка.** У Цэнтры гарадскога жыцця дзеткі і іх бацькі сустрэліся з пісьменнікамі Гарадзеншчыны. Шчыра віталі прысутныя паэтаў і празаікаў Міхася Зізюка, Алу Петрушкевіч, Галіну Самойлу, Сяргея Чыгрына.

**Красавік.** У Лідскай друкарні выйшла кніга вершаў лідскага паэта Міхася Мельніка «З табою».

**4 красавіка.** Студэнты УЗВ курса «Літаратурная Гарадзеншчына ў постацях і лёсах» сустрэліся з пісьменнікам з Наваградка Міхасём Зізюком. Удзельнічалі гарадзенцы А. Пяткевіч, В. Дубатоўка, М. Курыловіч, Г. Самойла. Падрыхтавала і вяла імпрэзу А. Петрушкевіч.

**6 красавіка.** Адбылася 6-я абласная канферэнцыя «Край Гарадзенскі», у якой працавалі дзве секцыі «Літаратурная Гарадзеншчына». Кіравалі іх працай А. Пяткевіч і А. Петрушкевіч.

**15 красавіка.** У Гародні на доме па вуліцы Ажэшкі ўрачыста адкрыта памятная шыльда ў гонар Аляксея Карпюка.

**Травень.** У Лідзе выйшла кніга вершаў лідскага паэта Алеся Мацулевіча «Горад-карабель».

**18 траўня.** Адбылася прэзентацыя сёмага нумара альманаха «Новы Замак» у Навагрудскай раённай бібліятэцы. Удзельнічалі В. Дубатоўка, М. Зізюк, Я. Трацяк, С. Чыгрын і інш.

**22 траўня.** На сходзе лідскіх літаратараў у Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы была прадстаўлена першая кніга з серыі «Лідскі кнігазбор», заснаванай Лідскай гарадской арганізацыяй ГА «ТБМ імя Ф. Скарыны» і Гарадзенскім абласным аддзяленнем СБП. Гэта «Збор твораў» лідскага гісторыка Міхала Шымялевіча.

**31 траўня.** У літаратурнай гасцёўні Слонімскай раённай бібліятэкі імя Якуба Коласа слонімцы сустрэліся са сваім земляком — пісьменнікам і краязнаўцам Сяргеем Чыгрыном.

**10 жніўня.** У Зельве ўшанавалі паэтку Ларысу Геніюш. З Гародні і Слоніма прыехалі сябры СБП В. Дубатоўка, А. Петрушкевіч, С. Чыгрын і М. Кананові. Да іх далучылася літаратуразнаўца з Масквы Марыя Лам, якая даследуе творчасць гарадзенскіх пісьменнікаў, у тым ліку і паэзію Ларысы Геніюш.

**17 жніўня.** У вёсцы Зачэпічы на Дзятлаўшчыне адбылося Трэцяе Гарадзенскае абласное свята беларускай паэзіі (арганізатары — Гарадзенская філія СБП і Гарадзенская абласная арганізацыя ТБМ). З песнямі і вершамі выступілі А. Закрэўскі, С. Чарняк, У. Хільмановіч, М. Зізюк, С. Абдулаева, С. Чыгрын, А. Петрушкевіч, В. Дубатоўка, М. Курыловіч, С. Суднік.

**26 жніўня.** Падчас «Аненскага кірмаша» ў Зэльве правялі сустрэчу з чытачамі В. Дубатоўка , Я. Трацяк, С. Чыгрын.

**29 жніўня.** У дзень нараджэння гарадзенскага паэта Едруся Мазько адбылася літаратурная вечарына, сустрэча сяброў творцы. Д. Бічэль, А. Пяткевіч, А. Петрушкевіч і гісторык Г. Васюк разважалі над тэмай паэта і паэзіі ў творчасці Едруся Мазько.

**1 верасня.** У Слоніме ў Дзень беларускага пісьменства адкрыты помнік Льву Сапегу. Сябры Гарадзенскага СБП зладзілі прэзентацыю сваіх кніжак і аўтограф-сесію.

**7 верасня.** У Лідзе ў час фэсту «Lidbeer» адкрыты помнік князю Гедыміну. Сябры Гарадзенскага СБП зладзілі прэзентацыю сваіх кніжак і аўтограф-сесію.

**24 верасня.** У Цэнтры гарадскога жыцця ў дзень 50-ых угодкаў прайшла вечарына памяці паэты Юры Гуменюка. Прайшла прэзентацыя кнігі «Захлынуцца апантанасьцю жыцьця», укладзенай Алесем Аркушам, які вёў мемарыяльную вечарыну.

**24 верасня.** У Менску ў сядзібе ТБМ Станіслаў Суднік і Сяржук Чарняк прадставілі літаратурна-музычную праграму «Беларускім шляхам».

**29 верасня.** У в. Сейлавічы (Нясвіжскі раён) у касцёле Сэрца Езуса прайшла прэзентацыя кнігі С. Судніка «Пілігрымка дадому».

**15 кастрычніка.** У Лідскім замку адбыўся першы раўт літаратурнага салона «Над Лідзейкай». Літаратурна-музычную праграму «Беларускім шляхам» прадставілі Станіслаў Суднік, Сяржук Чарняк і Алег Лазоўскі.

**30 кастрычніка.** У вёсцы Мігова (Гарадзенскі раён) з удзелам сяброў СБП адбылося ўрачыстае адкрыццё помнага каменя з шыльдай у гонар акадэміка Яўхіма Карскага, аднаго з заснавальнікаў навуковага беларусазнаўства.

**7 снежня.** У Шчучыне ў Палацы князёў Друцкіх-Любецкіх адбыўся творчы вечар паэта Рычарда Бялячыца з прэзентацыяй яго новай кнігі «Пах зоркі».

*Падрыхтаваў У. Хільмановіч*

# Змест

## Ад рэдакцыі



## Напачатку было слова...



## Проза старога горада



## Паэзія

# ПРОЗА



# ДРАМАТУРГІЯ

## У ГАСЦЁЎНІ «НОВАГА ЗАМКА»



## ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ ПРОЗА

## Успаміны

Аляксей Пяткевіч



## In memoria

Янка Трацяк



## Эпісталярый

Зміцер Цехановіч



Сяргей Чыгрын

Альманах выходзіць на беларускай мове.

Тэксты дасылаюцца ў праграме Microsoft Word, шрыфт Times New Roman праз адзін інтэрвал. Рэдакцыя тэксты не рэцэнзуе. Аўтары прадастаўляюць свой здымак у пашырэнні JPEG памерам не менш за 1000 Кб (1 Мб) і сціслую біяграфічную даведку.

Матэрыялы можна адправіць на адрас: novyzamak.sbp@gmail.com

12+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**НОВЫ ЗАМАК**

*Літаратурны альманах. Гродна. MMXIX. Выпуск 8*

Адказны за выпуск *В. Герасімчык*
Рэдактары *А. Пашкевіч, Б. Пятровіч*
Вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *В. Трэнас*

Падпісана да друку 28.12.2019. Фармат 70x100 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ул.-выд. арк. 16,51. Ум. друк. арк. 23,33.
Наклад 90 асобнікаў. Зак. 89-2/2020.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Таварыства з абмежаванай адказнасцю «ЮрСаПрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/388 ад 01.07.2014.
Вул. Карла Маркса, 11, 230015, г. Гродна.
+375 152 32 00 01, +375 295 87 84 11
www.usp.by
info@usp.by